БІБЛІЯТЭКА БЕЛАРУСКАЙ ПРОЗЫ

# АЛЕСЬ ЖУК



# ПАЎСТАНАК ВЯРТАННЯ

**Апавяданні, аповесці**



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1981

# АПАВЯДАННІ

## АСЕННІЯ ХАЛАДЫ

У канцы лістапада, пасля зацяжных дажджоў, націснулі маразы: дні стаялі сонечныя, халодныя і прасторныя, і начамі нават зрэдку патрэсквалі калы ў плоце.

Надвячоркам у сераду Віктар Пераход на засланых чыстаю посцілкаю калёсах прывёз з бальніцы сваю Вольку — Волечку, як гаварылі па-вясковаму,— якая нарадзіла блізнят — двух хлопцаў. І вечарам паштальёнка Таня, гарбаценькая, у парыжэлай і выцертай плюшовачцы, прынесла Віктару тэлеграму ад старэйшага сына Паўла, які працаваў у Літве на пракладцы газаправода,— прыязджае на тры дні перад адпраўкаю ў армію.

— Што ж мы, Віцік, рабіць будзем? Трэба ж людзей сабраць, выправіны хлопцу зрабіць, адведкі і радзіны ладзіць... Я ж яшчэ слаба...

— Хто яго ведае. Не прападом. Паеду заўтра цяля дастану. Васіль зарэзаць паможа, а Стэфка з цёткаю Ганнаю згатуюць. Хай заадно і адведкі, і радзіны, і выправіны...

— Трэба было б у цёткі Ганны папытацца, а то мо не так што...

— Папытаюся.

— Каб жа не горш, як у людзей. Ты ж, як наказваць будзеш, да цёткі Антосіхі зайдзі, не забудзься!

— Яна ж нікуды ўжэ не ходзіць. Агата ёй у печы паліць.

— Усядно зайдзі. Ніхто яе ніколі не абмінаў.

У пятніцу пасля абеду старая Антосіха злезла з печы, патупала ў сенцы, адчыніла зялёны, абабіты па-

ржавелым жалезам па вуглах куфар, дастала чорную сацінавую спадніцу, белы фартух з фалдамі знізу, мультановую ў клетачкі сарочку і чорную ў кволую валошку паўз беражкі хустачку — усё самае лепшае яе ўбранне, акрамя, вядома, асобна загорнутага, якое прыгатавана на смерць. Там і новенькія балеткі, і мацера абабіць труну, і палатно, каб было на чым апусціць дамавіну ў дол, і грошы, каб і крупнік было за што зрабіць, і памінкі. Няма чаго Агаце траціцца.

Яна і так штодня ходзіць паліць Антосісе ў печы, варыць страву, прыносіць малако. А забіраць сабе пенсію, якую плоціць старой калгас, не хоча, мо таму, што і ў яе жыццё склалася, як у Антосіхі: Агацін гаспадар прапаў на фронце без вестак, і яна пасля вайны ўсё чакала, спадзявалася, пастарэла і засталася адна.

Рабіла Агата даяркаю, была ўвішная: паспявала і ў калгасе і дома, а вечарамі да яе сыходзіліся старыя — чытаць «святыя кнігі»,— гэта пасля таго як у суседнім мястэчку зачынілі царкву, перарабілі яе пад клуб. Антосіха, пакуль уздужала, таксама хадзіла да Агаты — пасядзець з людзьмі, пагаманіць.

Антосіха пайшла ў мыцельнік, старанна ўмылася, пераапранулася, завязала хустачку, зазірнула ў вялікі кавалак тоўстага, крыху паабдзіранага люстэрка, які ляжаў на стале і быў роўна пакрыты пылам.

Яна ўспомніла, што не прынесла і не ўскінула на печ, каб пагрэўся, кажушок і хустку-канаплянку.

Антосіха зусім не чакала, не думала, што Пераходы запросяць яе на бяседу,— яна была захварэла, не спадзявалася нават, што і ачуняе. Антосіха і не збіралася спачатку ісці да Пераходаў, але пацягнула да людзей, з якімі яна пражыла ўвесь свой век і якія паважалі і шанавалі яе, захацелася паглядзець на Волечку — мо больш і не давядзецца,— якую некалі кахаў яе Пятрок.

Волечка не забывалася пра Антосіху, запрасіла і на тое сваё пасляваеннае вяселле, беднае і пачастункам і весялосцю,— вяселлі тады рабіліся без музыкі, так сабе, бяседа.

Выбралася ісці Антосіха ўжо ў прыцемкі, калі пачалі заманліва цёпла свяціцца вокны, запальвацца далёкія, калючыя зоркі ў небе; і зноў шумеў у голым голлі вязаў і ліп няўмольны асенні вецер, які быў прыціх, калі сама заходзіла сонца, а цяпер шумеў і шумеў, шас-

таў па вуліцы, падмёрзлай і пабялелай, закручваў калючым пылам і зноў падвываў у вершалінах, і больш нічога не было чуваць, было пуста і глуха, і лёгкі Антосішын кій гулка стукаў па падмёрзлай сцяжынцы.

Вокны Пераходаў свяціліся нясцерпна-белым святлом — мабыць, укруцілі на вечар лямпачку-«двухсотку»; яшчэ з вуліцы было чуваць, як шумела застолле,— паспелі ўжо госці разоў па колькі ўзяць чарку, і тая прыцішанасць, якая спачатку пануе за сталамі, прайшла. Цяпер кожны што-небудзь меўся сказаць суседу, гаварылі наперабой, а самыя нецярплівыя падлівалі сабе яшчэ ў шклянкі.

Антосіха пашоргала нагамі, як выцірала, па вялікім пляскатым камені, што ляжаў перад дзвярыма ў сенцы, намацала рукою клямку, прыадчыніла дзверы і, прытрымліваючыся рукою за вушак, цяжка пераступіла цераз парог у сенцы, прысланіла ў куток свой кіёк, агледзелася.

Хатнія дзверы былі прыадчынены. Было відаць, што і на кухні стаяў стол, бадай, вялікая сабралася бяседа. На кухні садзіліся, хто зусім запазніўся, і мужчыны, якія любілі выпіць,— а там, у хаце, жонкі не далі б. На кухні ім разгарненне.

Колькі Антосіха памятае, гэтак на кожнай бяседзе, і выпівакі заўсёды амаль адны і тыя ж. Іх і называюць «мыцельнікамі».

Стэфка, суседка Пераходаў, тоўстая, як печ, баба гадоў пад пяцьдзесят, на дзіва рухавая і гаманкая, выбегла з хаты з парожнімі талеркамі ў руках. Яна як ніхто спраўна можа разнесці па вёсцы любую плётку, але яшчэ спраўней умее прыгатаваць на стол, арганізаваць і павесці бяседу, а таму без яе не абыходзіцца на вёсцы ні адно застолле.

— А мы ўжэ думалі, што вы і не прыйдзеце, бабка! Добры вечар! Заходзьце ж у хату! За стол садзецеся! Волька, а Волька! Ідзі сюды! — паклікала Стэфка і цяжка, але малажава патупала ў каморку.

Волька, якая выйшла на кліч, абняла старую, пацалавала.

— Пайшлі ў хату, маці! Чаго ж вы тут стаіце?

Волечка памагла Антосісе распрануцца, паклала на ложак кажушок. Яна была яшчэ бледная з твару і нейкая ж вельмі тоненькая і слабенькая ў прасторнай,

з гузікамі наскрозь сукенцы, з заплаканымі вачыма, пад якімі было сіне.

— Ты ж яшчэ не абмацавалася, галубка, а столькі клопату. Пачакай жа, пакажы мне спачатку тваіх хлопцаў, а тады і за стол павядзеш,— папрасіла яе Антосіха.

Волька памагла старой узлезці на палок, дзе стаяла, прыкрытая байкаваю коўдраю калясачка. Антосіха дрэнна бачыла ў прыцемку аднолькава кволыя, чырвоныя тварыкі спавітых немаўлят, у якіх самая пільная работа — спаць, смачна і соладка, прычмокваць кволенькімі вуснамі, пацягвацца, каб расці! Антосіха нагнулася, перахрысціла малых:

— Хай іх бог беражэ і добрую долю дае!

Яна паклала малым у ногі невялічкі пакуначак у пажаўцелай газеце.

— Троха паркаліку малым. Ім жа трэба.

У чыстай палавіне хаты, як толькі ўвайшла Антосіха, заціхлі і потым нястройна і дружна загудзелі ў адказ: «Вечар добры!» І з гасцей ніхто не спадзяваўся, што прыйдзе Антосіха, якая, здаецца, і сама не памятала, колькі пражыла і пережыла, справядлівая перад богам і людзьмі, працавітая і зычлівая.

Нехта з маладзейшых аслабаніў ёй месца за сталом.

— А я ўжэ і паміраць была сабралася, ды пачула, што вы ўсе разам сышліся, пра мяне не забыліся, дзякуй вам! І баялася, што не дайду, але пайшла, каб і малых благаславіць, і большанькаму шчасця пажадаць, і ўсю бяседу не крыўдаваць!

Антосіха пакланілася і прысела на ўслон, змахнула слязу — расчулілася, што гэтак яе сустрэлі,— усміхнулася прыветна і вінавата:

— Хай яна спрахне, гэтая старасць! Старое, як малое.

Аглянулася на Волечку, якая села побач і ўсхліпвала.

— А ты, галубка мая, чаго гэтак зажурылася? Ці ты дзеткам маленькім не рада, ці большанькі тым укрыўдаваў, што гэтакі высокі ды харошы вырас?

Антосіха ўстала, падняла дрыжачаю рукою кілішак.

— Не плач, не горніся, галубка! Хай твае дзеткі гадуюцца, як кветкі, і людзям на радасць, і табе на ўце-

ху, каб інжынерамі сталі і бацькоў сваіх не забывалі! І твой большанькі каб шчыра служыў, іх бараніў ды генералам быў! А і я з вамі за гэта вып'ю, мо не ўп'юся і з ног не звалюся, а як уп'юся, то і яшчэ піць і вас пацяшаць застануся!

Усе выпілі і адразу ж загаманілі, бязладна і шумна, і забыліся пра старую і пра тое, што чакалі яе слова. І, можа, толькі назаўтра і на цвярозую галаў пахваляць яго, але ўсё роўна наўрад ці хто здагадаецца, што благаславіла яна ў думках усіх, хто сабраўся за гасцінным сталом, усіх, каму яшчэ дай бог колькі жыць, тупаць па зямлі і ўвесну, і ў халодную восень і бачыць, як пад вокнамі спачатку асмужацца рабінавыя гронкі, а потым зачырванеюцца, і на іх будзе ляжаць пасля першае ночы белы і лёгкі, як уздых, першы снег. Колькі год глядзела на рабіну пад сваім акном! А сёлетні год яна не зацвіла, і цяпер стаіць сухая і мёртвая, з пакінутым старым птушыным гняздом у некалі густой кучаравай вершалінцы.

— Дзякуй вам, мама! Век бы вам з намі жыць, і добра было б,— ціха прагаварыла Волька, якая дагэтуль усё ўцірала слёзы.

— Няма як ужэ, галубка, але да вясны я пачакаю, бо ў мароз намучацца людзі, пакуль прытулак выкапаюць і хату навек збудуюць. Увесну да бога пайду, пры сонейку, нядзелькаю, каб людзям замінку не рабіць.

Антосіха гаварыла і глядзела на Волечку чыстымі вачыма і думала, што была б яна ёй нявесткаю, гадаваліся б унукі, і не было б гэтае адзінокае доўгае старасці, пустэчы і непрыветнасці ў хаце.

А жанкі тым часам, ціха і пяшчотна, як здалёк, зацягнулі такую знаёмую старой з даўніх дзявоцкіх гадоў песню, пад якую так добра і плакалася ў невясёлую хвіліну, і радавалася, а цяпер спакойна і хораша ўспаміналася:

Сягоння тут, а заўтра ўеду,
Будзеш, міла, прыпадаці да маего следу.
— Я й не прыпадала, й прыпадаць не буду,
Я й не гаравала, й гараваць не буду.

...Гаспадар Антосіхі памёр пасля мікалаеўскае вайны — прастудзіўся ў акопах, захварэў, паўтара года пралежаў у Слуцкім шпіталі, з паўгода дома, але так і

не акрыяў. Ад яго ў Антосіхі засталіся два хлопцы, старэйшы Андрэй, а маладзейшы Петрык.

З горам папалам яна пракідалася з дзецьмі, хоць і пухла з голаду і зімою хадзіла ламаць плот на дровы — не было на чым ды і каму прывезці на зіму паліва. Ужо потым, як пачаліся калгасы, яна абмацавалася, зажыла як людзі і зусім уздыхнула, калі стаў трактарыстам яе Андрэй — зайздросны на работу, троха ваўчукаваты, усё роўна як злосны на ўсіх за няшчаснае дзяцінства.

Рабіў ён як мог, і дастатак у хаце быў дай бог кожнаму. А потым узрос і Пятрок, астаўся пасля школы ў брыгадзе. Быў ён тонкі, высокі, кучаравы і вясёлы, спраўна іграў на гармоніку, любіўся з Волечкаю Апанасаваю — і на выправінах яго ў армію Волечка сядзела побач...

А праз нейкі год пачалася вайна. Андрэй так і застаўся пры доме. Убіраў ураджай, а потым дзяліў калгас, хоць Антосіха і сварылася за гэта. Выдзеліў ён сабе каня, карову з цялушкаю, адгадаваў бараду, гнаў і прадаваў у Грэзку самагонку, а потым узяўся быў вазіць лес на новую хату, але так і не навазіў: пачалі чапляцца паліцаі, наязджаць штовечара. Андрэй спачатку паіў іх, а потым схаўрусаваўся, пачаў напівацца і сам.

Адале і з'ехаў з імі разам, праз тыдзень вярнуўся дадому п'яны, са звязанымі ў пасцілку кажухамі і вырабленымі анучынамі. І з таго разу пачаў цягаць дадому і мацёру, і боты, і адзежу — і ўсё хаваў у патайной яме, што выкапаў у каморцы пад падлогаю.

Потым пайшлі чуткі пра партызан: былі наляцелі пад Асаўцом на паліцаяў, зрабілі ля Буды засаду і забілі раённага каменданта. Хадзіла пагалоска, што і ў іхнюю вёску яны разоў колькі заязджалі, хоць і была яна далёка ад лесу, у полі.

Перад вялікаднем нехта ноччу ціхенька пастукаў у акно. Антосіха падумала, што гэта Андрэй,— і ён, як пайшла гаворка пра партызан, пачаў дадому наведвацца ўпотайкі. Яна адамкнула сенцы і скоранька шмыгнула ў хату, запаліла газоўку і ўбачыла кульгавага на правую нагу, у чорнай бравэрцы і шапцы-аблавушцы мужчыну.

І толькі як павярнуў ён да святла свой худы зарослы твар з насцярожанымі вачыма, пазнала яна свайго Петрыка, захліпнулася ад плачу і ўпала на калені, прытулілася тварам да сынавых ног...

Пасля Пятрок пачаў прыязджаць дадому часцей, пакідаў каня на агародах у алешніку. Здаралася, з'язджаліся з Андрэем, сядзелі за сталом, елі — адзін з міскі, другі проста з чыгунка — і сварыліся. Адзін зваў у паліцыю, другі — у партызаны, а Антосіха тупала па двары — каб не наехалі немцы ці партызаны,— то бегла ў хату: баялася, што перастраляюцца. Потым хадзіла кругом гумна, куды яны ішлі спаць,— адзін у адным кутку, другі — у другім. І ў гумне яны сварыліся, а яна хадзіла наўкруга будыніны, упрошвала не сварыцца — барані божа хто пачуе!

У пачатку зімы Пятрок прыехаў у санях, забраў усё нацяганае Андрэем дабро і завёз у лес, сваім.

А недзе праз месяц, пасля лютаўскае ночы са снегам і цяжкімі падвывамі ветру, Грышкава Ганька, якая хадзіла ў Грэзак да сястры, з аглядкаю закіравала ў Антосішын двор.

— Пятрок жа твой, Антосіха, на Бранавіцкіх у кусціках ляжыць замецены! І конь наўкруга ходзіць, мордаю штурхае!..

У Антосіхі абвяла сэрца: вечарам Андрэй прыехаў з хаўруснікам сваім, Міхневічам, маленькім рыжанькім чалавечкам, у якога вечна былі чырвонымі і слязіліся вочы. Міхневіч да вайны рабіў з Андрэем у МТС, ездзіў на няўдаленькім, маленькім трактары з вялікімі коламі, на якіх былі вострыя жалезныя шпоры. У яго была вялікая сям'я і гарбаценькая сварлівая жонка, Міхневіч першы пайшоў у паліцыю і, казалі, сам страляў начамі людзей...

У сварку братоў ён не ўмешваўся, піў самагонку і толькі нядобра зыркаў вачыма на Петрыка,— была і яго доля ў тых анучах, што хаваў Андрэй.

...Прыцемкамі Антосіха выйшла за хлеў, доўга тупала паўз сцяну, пакуль абмацала рыдлёўкаю пад снегам саначкі, адкапала іх, схадзіла ў хату, апранула кажушок і цярэспаля пакіравала да Бранавіцкіх. Яшчэ да калгаса там быў хутар, а цяпер толькі ляжалі тры вялікія камені-валуны і разрасліся кусты крушыны, барбарысу і каліны.

Яна здалёк убачыла каня, які таптаўся, асядланы, на адным месцы.

Пятрок сядзеў у снезе плячыма да калючага барбарысавага куста, без шапкі, з белым снегам на галаве і на твары, які не раставаў, не сцякаў кропелькамі вады.

Аўтамат так і вісеў на грудзях, і на ім ляжала адна рука, а ў другой быў повад аброці. Усё роўна як прысеў ён адпачыць, і толькі снег не раставаў на твары.

Яна не памятае, як усцягнула цяжкае сынава цела на саначкі, дзе ўзялася сіла дацягнуць іх па снегавым полі да хаты. І калі спынялася адпачыць, бачыла, як спакойна, бы маленькі, сядзіць яе Пятрок, толькі ногі цягнуцца па снезе і пакідаюць два глыбокія пісягі ды мёртвая рука не выпускае повад, і конь паслухмяна ідзе следам і дрыжыць ад холаду...

Вечарам яна запаліла ў печы, паставіла грэцца ваду, каб абмыць сынава цела, хоць і не ведала, як зможа адна, як будзе хаваць.

Яна не пачула, як увайшлі ў хату ўтрох мужчыны, не памятае, як старэйшы асцярожна павёў і пасадзіў яе на лаву на покуці пад абразамі. Яна сядзела, паклаўшы счэпленыя рукі перад сабою на калені, глядзела, як прыбіралі яе сына, як загарнулі ў посцілку і некуды панеслі.

Высокі мужчына ў белым кажушку падышоў, абняў яе за плечы:

— Не плач, мамаша, мы за нашага Пецьку...

Яна нічога не сказала і ўжо не плакала, не ішла зачыняць расчыненыя насцеж дзверы ў сенцы, з якіх цягнула холадам, толькі ўздыхала і маўчала, як зямля...

Прыйшла яго міла, кітайку адкрыла,
Правай ручкай абняла дый загаласіла:
— Ці ж ты, мілы, упіўся, што з каня зваліўся?
— Я міла, не ўпіўся, з каня не зваліўся,
Я па табе, маладзенькай, сільна зажурыўся...

Антосіха адчула, што ў галаве замітусілася,— у хаце было душна, ды і змарылася яна, пакуль прыйшла, пасядзела. Яшчэ, чаго добрага, упадзе ў вобмарак, сапсуе ўсю бяседу. Яна ціха ўстала з-за стала, неўзаметку выйшла ў сенцы.

Апранула настылы кажушок, непаслухмянымі нязграбнымі рукамі доўга зашпіляла гузікі, завязвала хустку, забрала кіёк і выйшла на двор, у начную цемру, дзе ўсё гудзеў і гудзеў вецер; пакуль разгледзелася, вобмацкам ступала наперад, тулілася бліжэй да плота і думала про Вольку, пра яе дзяцей, пра сваю сіратлівую хату.

...Андрэя засудзілі пасля вайны на дваццаць год. Цяпер ён адбыў сваё, вярнуўся, жыве ў Слуцку, ездзіць па вёсках, закупляе свіней,— як ён адважыўся ездзіць па людзях, якіх некалі абіраў? Ён быў прыехаў і да Антосіхі з жонкаю, сухенькаю, невясёлаю жанчынкаю, і з хлопчыкам, сваім сынам.

Прыехаў на машыне з высокімі драбінамі па бартах — каб вазіць свіней.

Быў па-летняму цёплы надвячорак, чуць парны, як часта на самым пачатку лета, калі яшчэ і вільготная свежая зямля, і зеляніна светлая і пяшчотная, і пахне маладым росным жытам, свежаю раллёю.

Яна з агародчыка ўбачыла, як ішоў Андрэй з вуліцы — у белай кашулі, выціраў хусцінкаю лоб і лысіну,— а ўжо следам ішла жонка, трымаючы малога за руку, ішла боязна і асцярожна, і Антосісе стала шкода яе.

Антосіха спачатку стаяла разгубленая, як утрапёная, а потым спахапілася, зашыбавала цераз двор да дзвярэй, зачыніла іх за сабою, моцна шахнула замыкам, крыху пастаяла ў сенцах, увайшла ў хату, бачыла, як Андрэй усё ж прайшоў да парога, патаптаўся, узяўся за клямку — было чуваць, як бразнуў язычок,— сышоў з усходцаў, стаяў на двары, азіраўся наўкруга і ўсё выціраў хусцінкаю твар і галаву, а потым па-старэчаму цяжка, крыху касалапа, пайшоў да варотцаў, дзе ўсё яшчэ збянтэжана стаяла жонка...

Больш Андрэй не прыязджаў, быў прыслаў дваццаць рублёў, але яна адправіла назад, адправіла потым яшчэ два разы, і ён перастаў прысылаць.

Вокны хат ужо не свяціліся.

У цемнаце ночы ішла адзінокая старая жанчына і ўспамінала маленькія чырвоныя тварыкі немаўлят, людзей, якія не забыліся пра яе, шанавалі і любілі.

І каб гэта ўдзень, то можна было б убачыць добрую, зычлівую і крыху сумную ўсмешку на яе твары і скупыя слёзы, што цяклі па маршчынках,— можа, ад сібернага ветру, які ўвесь час дзьмуў ёй насустрач і наперакор якому яна ішла з вечнаю, як жыццё, мацярынскаю дабратою.

*1969*

## МУЖЧЫНЫ

Малы ўстае разам з бацькам. Яны ўдвух ідуць мыцца. Спачатку малы палівае вялікаму, і той, набраўшы прыгаршчы сцюдзёнае вады, вядро з якой цэлую ноч стаяла ў сенцах і ў якім цяпер пазвоньваюць тоненькія кавалачкі лёду, плюхае сабе ў твар. Пырскі ляцяць на падлогу, на малога.

Маці стаіць ля печы, бачыць, як ён моршчыцца ад халодных кропель.

— Не пырскай так, Коля, а то зноў мора ля тазіка будзе,— просіць яна мужа.

Затым мыецца малы. Ён гэтак жа, як вялікі, плюхае ваду ў твар, і пырскі ляцяць у бакі нават больш, чым у вялікага.

Снедаюць разам.

Малы сядзіць супраць вялікага і гэтак жа старанна, як і ён, есць яечню і п'е чай.

Малы хоча ва ўсім быць падобным на вялікага, на мужчыну.

На двор малы выходзіць разам з дарослымі. На ім чорная шубка з капюшонам, на нагах чорныя бітыя валёнкі, на руках сінія рукавічкі.

Дарослыя ідуць на работу.

Малы застаецца дома адзін. Ён бярэ санкі, што стаяць прыслоненыя да сцяны, і ідзе ў сад, дзе намецены велізарныя гурбы снегу.

Так кожны дзень.

— Сынок, пачакай! — гукае бацька, падбягае да малога, які стаіць перад варотцамі ў сад.

— Сынок, сягоння, можа, прыйдзе мужчына... Я прасіў яго застрэліць Пушка. Выведзеш у сад? Ну, ты ж мужчына, не трусь.

Ён, малы, вядома, мужчына.

— Завяду.

Малы пакідае санкі, ідзе назад на двор — трэба ж паглядзець, ці дома Пушок. Сабака нікуды не пабег, спіць за хлявом на гурбе.

Пушок — стары кудлаты сабака. Шэрсць на ім белая і доўгая-доўгая. Чорныя ў Пушка толькі кончыкі

абвіслых вушэй і кончык носа. Пушок заўсёды спіць на снезе. Ён не баіцца холаду, як маленькі рыжы Шарык, што ў халодныя дні і не паказваецца з будкі. Пушок кожны дзень прыбягае ў сад да малога, разам з ім лазіць па гурбах, нават правязе па вуліцы, калі малы злоўчыцца, лежачы на санках, ухапіцца за кудлаты хвост.

Малому хочацца і цяпер паклікаць Пушка, пайсці з ім у сад, але трэба чакаць таго мужчыну, што прыйдзе застрэліць Пушка.

Малы выходзіць на вуліцу, садзіцца на санкі і час ад часу пазірае па баках — ці не ідзе мужчына?

Малому хочацца ведаць, што будзе з Пушком пасля таго як яго застрэляць. Ён, відаць, уткнецца носам у снег, выцягне лапы і будзе ляжаць, аж пакуль не стане холадна ў нос, а потым усхопіцца, коратка віскне і памчыцца па гурбах. Ён, малы, гэтак жа сама ляжыць на снезе, калі яго «застрэляць», гуляючы «ў вайну», ляжыць, пакуль не пачнуць мерзнуць рукі або твар, потым з вясёлым крыкам даганяе сяброў...

— Здароў, гаспадар. Сабаку тут казалі застрэліць?

— Тут.

Малы з цікаўнасцю глядзіць на мужчыну са стрэльбаю за плячыма. Мужчына ішоў праз сад. За ім засталіся на гурбах глыбокія яміны-сляды.

— Прыводзь сюды. Няма часу. Ясна?

— Ясна.

Сабака паслухмяна ўзняўся на кліч. Малы ўзяў яго за вуха, і яны пайшлі побач.

Мужчына трымаў стрэльбу ў руках.

— Ідзі! — загадаў малы.

Сабака зірнуў на мужчыну, на гаспадара, вінавата вільнуў хвастом, ступіў наперад, потым вярнуўся да малога, лізнуў яго ў нос і пайшоў, правальваючыся ў снег.

Спыніўся ён пад маладою, абсыпанаю бухматым інеем вішанькаю, павярнуў галаву і доўга, тужліва глядзеў на малога.

Мужчына таропкім, дакладным рухам ускінуў стрэльбу да пляча...

Сабака ўздрыгнуў, паволі апусціўся бокам на снег; галава яго была павернута ў бок малога.

Мужчына закінуў стрэльбу за плечы, не гледзячы

ні на малога, ні на сабаку, пайшоў назад па сваіх ямінах-слядах. Са стрэльбы яшчэ тоненька віўся сівы дымок.

Малы пастаяў, пачакаў, але сабака не ўставаў. Малому стала неспакойна. Ён сам падбег да сабакі, пацягнуў яго за вуха. Сабака не варушыўся. Ён быў цёплы, як звычайна, але нейкі ўвесь мяккі і цяжкі. Малы разгублена зірнуў на сабаку: збоку, ля пярэдніх ног, расплывалася на снезе чырвоная пляма. Малы пакратаў снег рукою. Ён быў мяккі, вільготны і нейкі цёплы.

Малы бездапаможна азірнуўся па баках, потым кінуўся бегчы прэч, спатыкнуўся, упаў тварам у снег, усхапіўся і зноў пабег...

Знайшлі яго бацькі ў хляве. Ён ляжаў тварам у сена і плакаў, плакаў не па-дзіцячаму: без усхліпаў, кусаючы губы.

Ён не захацеў абедаць, не пайшоў з бацькамі на двор, а застаўся ляжаць на кушэтцы — прыціхлы і затоены.

Бацька забраў санкі, што засталіся стаяць ля варотцаў у сад, але малы да вечара так і не выйшаў з хаты.

Назаўтра ён не ўстаў разам з бацькам, не захацеў мыцца, як мужчына...

Не пайшоў ён больш і ў сад, нават пасля таго, як частыя лютаўскія завеі замялі і яміны-сляды, і схіленую над імі маладую вішаньку.

*1965*

## СОК МАНГА

Яна ведае, што падабаецца хлопцам. Віцька, самы модны хлопец з усяго двара, у якога ўжо чарнеецца на верхняй губе мяккі пушок, вадзіў яе ў кіно. Яны сустрэліся за паўгадзіны да пачатку сеанса, хадзілі пад руку па фае, разглядвалі выстаўку дзіцячых малюнкаў і фотапартрэты артыстак,— карціны і партрэты былі падвешаны на ледзь прыкметных белых нітачках і пакалыхваліся. Яны глядзелі яшчэ нейкую каляровую хроніку, якую паказвалі тут жа, у фае, для такіх, як яны, ранніх, а потым Віцька павёў яе па вузенькай крутой лесвіцы ўніз, у буфет, і яны пілі напітак, елі бутэрброды з чорнаю ікрою, стоячы за круглым, цыбатым, як і Віцька, столікам.

— Ты не хочаш соку манга?

— А які ён?

— Калі верыць напісанаму, з субтрапічных пладоў. Экзотыка!

Віцька прынёс ёй шклянку светла-жоўтай вадкасці, і яна выпіла яе — саладкаватую, крышку цягучую. І пасля было непрыемна ў роце, бы там ляжаў кавалачак паранага гарбуза, і Людцы ўсё ўспаміналася, як яны восенню выбіралі ў калгасе бульбу, жылі на ўскрайку вёскі ў адзінокае жанчыны, і яна парыла свінням гарбузы, і кожную раніцу ў хаце стаяў такі ж самы густы, саладкаваты пах.

У той вечар Віцька хацеў пацалаваць яе, але яна сказала, што другі раз: сяброўкі гаварылі, што з першага разу цалавацца нельга...

А назаўтра да іх на кватэру прыбегла худая, высокая жанчына і пачала крычаць... З яе слоў, Людка была ледзь не распусніца, якая хітрыкамі паддобрылася да яе сына і дурманіць яму галаву. Людка, здаецца, і цяпер бачыць, як дрыжыць у жанчыны густа нафарбаваная верхняя губа,— чамусьці дрыжыць толькі верхняя.

Потым маці крычала на Людку, а вечарам шапталася з бацькам...

І вось Людка жыве ў вёсачцы, якая густа зарасла

бэзам і дзе, мабыць, прыгожа, калі бэз цвіце, а цяпер пуста і сумна.

Вечарамі, калі ў расчыненым акне драўлянае хаты-чытальні, якая замяняе клуб, пачынаюць круціць радыёлу і сыходзяцца якіх чатыры дзяўчыны і тры хлопцы, Людка ідзе на танцы. Праўда, доўга яна не танцуе, бо яе неўзабаве клічуць:

— Людка-а-а, ма-а-рш дадому!

Так клічуць з рэчкі дадому вясковыя жанчыны сваіх хлапчукоў-дашкольнікаў, і Людцы крыўдна, але яна ідзе на кліч, бо ведае, што маці напісала дзеду доўгае пісьмо, і ён, калі чытаў яго, незадаволена пазіраў на яе насцярожаным позіркам. Яшчэ Людка ведае, што дзед ніякі ёй не дзед, а брат яе сапраўднага дзеда, якога спалілі ў вайну немцы. Але маці называе гэтага дзедам, і Людка таксама. Людка памятае, як ён жыў некалі ў іхнім горадзе і працаваў бухгалтарам,— яна тады любіла дурэць з ім і хадзіць гуляць на вуліцу,— а потым ён пайшоў на пенсію, паехаў у вёску да незамужняе старэйшай сястры.

Сястра яго верыць у бога і ўдзень і вечарам чытае «святыя» кнігі ў пажоўклых, абтрапаных вокладках. Яна адна з усёй вёскі пабаялася «саграшыць», і таму ў хаце няма электрычнасці, а пакуль вячэраюць — гарыць газавая лямпа.

Ужо лежачы ў ложку, Людка чуе абрыўкі песень і музыкі, ціхенька плача. А потым прыходзіць добры чараўнік, і яна ўцякае з ім далёка-далёка...

Яна ўжо была ўцякла раз адна... у гумно, на сена, і дзед падняў паўвёскі пакуль суседскі хлапчук не падказаў, дзе ўцякачка.

Пасля гэтага з яе пачалі пасмейвацца на вёсцы, і Людка, узяўшы кнігі, на цэлы дзень сыходзіць з дому на рэчку. І там, сярод густых лазнякоў, загарае на вільготным, халаднаватым аеры, купаецца, чытае або проста доўга-доўга глядзіць, лежачы на спіне, у рэдзенькі, расплаўлены сонцам блакіт неба,— пакуль не засне.

Людка любіць быць на рэчцы да самага захаду сонца. Тады ад вёскі, якая стаіць на ўзгорку, аж да самае рэчкі сцелюцца доўгія выцягнутыя цені, а паветра робіцца тугім, свежым, і моцна пахне рэчкаю, поплавам.

І так прыемна ісці, ступаючы босымі нагамі па халодным, зялёным аксаміце, а потым — ужо на ўзгорку — па цёплай, пяшчотнай пудры дарожнага пылу!

Яна ішла паволі, як заўсёды, крыху апусціўшы галаву, і валасы амаль закрывалі яе твар.

— Добры вечар, русалка.

Яна павярнула галаву, паглядзела на матацыкліста — ён ехаў побач.

— Добры вечар.

— Давай падвязу. Ці старога баішся?

— Не баюся. Баюся, што твой вослік не пацягне.

— Баіцеся? — усміхнуўся ён.

— Я не баюся!

— Тады садзіся.

Ужо калі пад'язджалі да вёскі, ён запытаў:

— Хочаш паглядзець, як бегае вослік?

— Хачу,— адказала яна.

І матацыкл, пакінуўшы вёску ўбаку, памчаў па прамым уезджаным прасёлку, здаецца, проста ў чырвань захаду.

У Людкі закружылася галава, перахапіла дых, халацік агаліў ногі і трапятаў на ветры,— яна баялася нават паварушыцца, каб абцягнуць яго.

— Ну як?

Ён спыніў матацыкл, агледзеўся. Яна не паспела апамятацца і не магла нічога прамовіць, толькі глыбока і часта дыхала, таропка прыкрывала халацікам ногі.

Ён завярнуў матацыкл.

— Цяпер не трэба так хутка,— ціха папрасіла яна.

— Не буду. А ты хочаш навучыцца ездзіць?

— Хачу. Толькі баюся.

— Заўтра магу ўкрасці цябе з рэчкі, каб не ведаў стары.

— Добра, толькі я злезу тут і пайду, каб ён не бачыў сёння. І скажы, як цябе завуць.

— Шура. А цябе?

— Людка... Люда.

— Да заўтра, Людка-Люда.

— Да заўтра.

І яна доўга глядзела ўслед матацыклу.

Вечарам Людка не пайшла нікуды, не плакала цішком, а заснула амаль адразу і сніла чараўніка, чамусь-

ці ў клятчатай рубашцы з закасанымі рукавамі, загарэлага, з гаркаватаю ўсмешкаю ў куточках вуснаў і лёгенькім шрамам на шчацэ...

Трава пад бярозаю доўгая, бліскучая і халаднаватая. На ёй так прыемна ляжаць і глядзець у далёкае неба. Салодка туманіцца ў галаве, і самі па сабе заплюшчваюцца вочы...

Яна ціхенька гладзіць яго руку. Ён сядзіць побач і нервова курыць, потым кідае недакурак, нахіляецца над ёю: у сініх вачах і чаканне, і боязь, і пакорлівасць — усё разам, і вочы заплюшчваюцца, а грудзі пачынаюць узнімацца часцей...

Ён закурвае зноў і глядзіць на дзяўчынку, якая перастае быць дзіцем, у якой ужо прачынаецца жанчына. І як трывожыць яе незнаёмае, шчымліва-салодкае, страшнае адчуванне, што нешта змяняецца ў жыцці, прыходзіць такая вялікая і важная перамена! І ўспомніў другую, таксама наіўна-шчаслівую, і як страшна было ўпотайкі прыходзіць да яе, і як добра дваім ад адчування, што яны звязаны ўжо навечна!.. Ужо тры гады, як яна пакінула яго, першая, Рыта. А ён, як у помсту ёй, прыходзіць да жанчын, груба, нахабна, і не толькі да такіх, якія разумеюць, што яму патрэбна ад іх і для якіх усё намнога прасцей, чым для гэтае Людкі-Люды.

Яна ляжыць нерухома, нібы нечага яшчэ чакае, і яму робіцца няёмка за сябе і добра, што ён не быў з ёю, як з іншымі, добра, што яна так і засталася Людкаю-Людаю.

Яна рэзка адварочваецца, закрывае твар рукамі і плача.

— Ну што з табою, русалка? — ён адчувае, што голас у яго вінаваты.

— Я люблю... люблю цябе!.. Аднаго... А ты...— з адчаем выдыхае яна.

Ён паднімае яе за плечы, прытуляе да грудзей, гладзіць валасы, нібы супакойвае хворае дзіця, і ціхенька цалуе ў лоб і вочы.

— І я люблю цябе, дурнічка.

Яна ўсхліпвае цішэй і пытае:

— Праўда?

— Вядома...

— Не хлусіш? — яна ўжо не плача.— На той год я прыеду да цябе... А пасля — да маіх... У іх — вочы на лоб!..

І яна ўсміхаецца, і ў вачах свецяцца гарэзлівыя іскрынкі.

Ён таксама ўсміхаецца.

— Можа, дадому паедзем, а?

— Паедзем, толькі завязеш мяне на рэчку, а вечарам у клуб прыйдзі.

— Лепш не трэба. А заўтра махнём на лясное возера. Там у мяне лодка...

— Добра, добра. Я буду слухацца цябе.

Ноччу яму не спалася. Мажліва таму, што за акном была чорная, душнаватая цемень — збіралася на дождж, і ў яго разбалелася рана.

Ён злаваўся на самога сябе за тое, што ўздумаў звязацца з гэтаю Людкаю, выкрадаць яе з рэчкі, вазіць у лес...

Гэта толькі развярэдзіла ўжо крыху забытыя ўспаміны пра Рыту, на гэтым кончылася прыдуманая ім ілюзія, што забыў ён яе, і яму было цяжка.

Не спала і Людка. Яна без усхліпаў плакала, чула, як варочаецца з боку на бок стары, і здавалася, зноў пачне бубніць, што яна ўздумала швэндацца па лесе з прайдзісветам, ад якога збегла жонка і які ўсё роўна не кінуў бадзяцца, будаваць масты, нібы не можа знайсці лепшае работы, інжынер няшчасны... Прыехаў цяпер адлежвацца дадому — прыціснула недзе.

А назаўтра раніцою, калі над рэчкаю яшчэ толькі пачынаў высцілацца лёгенькі туман і матава бялелі густа аброшаныя аселіцы, у аўтобусе, які тонка шыпеў коламі па чорным вільготным пасля ночы асфальце, побач са старым сядзела сіратліва-няшчасная дзяўчынка з набрынялымі ад слёз вачыма.

Потым яна пісала пісьмы і не атрымлівала адказу, і зноў многа плакала, і ненавідзела старога, які — вядома ж! — перахопліваў яе пісьмы на пошце...

Так думала яна.

*1966*

# ЖОНКА ГЕРОЯ

Ухадзіўшыся па гаспадарцы, яна драмала на гарачай чарэні печы. У хаце былі прыцемкі, і ад дажджу, які глуха шастаў хвалямі па гонтавым даху, і ад нуднае асенняе шэрані за заплаканымі шыбінамі вокнаў — ад усяго гэтага было адзінока. Яна нікога не чакала ў гэты непагодлівы нядзельны надвячорак, бо ведала, што нават суседка Волька палянуецца перайсці праз вуліцу да яе ў такі дождж, і таму неяк крыху спалохалася і разгубілася, калі пачула, як грукнулі дзверы сенцаў, як там цяжка затупалі ботамі па падлозе і нечая рука пачала мацаць па дзвярах, шукаючы клямку. Жанчына саскочыла з печы, сунула ногі ў гумавыя боты, якія стаялі тут жа ля печы, пад услонам, падбегла і адчыніла дзверы.

Мужчыны ўвайшлі ў хату і спыніліся ля парога. Абодва яны былі ў пачарнелых і злубянелых на дажджы плашч-палатках, з якіх частымі кроплямі цякла на падлогу вада.

— Авой, дождж які! Чаго вы стаіце? — спахапілася яна.— Вось тут вешайце. Дарма, хай капае!.. Вось тут на вушаку цвік. Бушлаты давайце сюды на шафу павешу... Гэта ж хлюпата на дварэ такая...

— Нічога, нічога, не турбуйцеся, калі ласка.

— Праходзьце, праходзьце да стала, а я святло запалю, а то змерклася ўжэ.

Яна шчоўкнула выключальнікам, зацягнула на вокнах фіранкі.

— Ну, добры вечар,— працягнуў руку нізкі, круглатвары мужчына,— добры вечар, Марыя...

Ён змоўк, чакаў, каб падказала яна сама.

— Ганна... Ганна Антонаўна,— засаромелася, збянтэжылася яна.

— Прабачце, забыўся праз столькі год... Памяць...— сумеўся вайсковец.

Яго сябар, хударлявы мужчына ў цёмна-карычневым касцюме, да якога ніяк не ішлі заляпаныя гразёю кірзавыя боты, з густою сівізнаю ў роўна зачэсаных

назад чорных валасах, прыветна кіўнуў галавою, моцна пацісну руку:

— Васіль Ігнатавіч. Лепш — проста Васіль.

— Мы, Ганна Антонаўна, з Сяргеем разам ваявалі. Рашылі праведаць вас, а то забывацца пачынаем. Мы, калі з Сяргеем ляжалі ў шпіталі, столькі адзін аднаму расказвалі! — зноў першым загаварыў вайсковец.— Бач, забыўся нават, як вас і завуць.

— Дарма, ці мала што забываецца,— пачала заспакойваць яго Ганна.

Не было ўжо таямнічасці і загадкавасці — Ганна ведала цяпер, што рабіць і гаварыць. Яна дастала з шафы льняную сурвэту з мохрыкамі-мяцёлачкамі па краях, накінула яе на стол, потым пачала завіхацца ля печы, збегала ў каморку — і хутка на стале стаяла чуць запацелая бутэлька з гарэлкаю, кіслыя гуркі, нарэзанае тугімі роўнымі кавалачкамі сала, стаялі талеркі з наварыстаю капустаю,— Ганна ўмела гатаваць і любіла гэтым пахваліцца.

— Хопіць, хопіць, Ганна Антонаўна! Сядайце ўжо. Нават няёмка крыху,— затрымаў і пасадзіў яе на крэсла вайсковец.

— А як жа! Здарожыліся... Ды каб не было чым частаваць...

— Ну, то за ўсё добрае! За памяць пра Сяргея, за гаспадыню, за дом гэты! — падняў шклянку вайсковец.

Ганна прывыкла за апошні год да такіх гасцей. Гэта дзеля іх яна павесіла на сцяну фатаграфіі Сяргея, яго граматы, што ляжалі ўсю вайну і пасля вайны на дне старога куфра, які застаўся ад свякрухі і цяпер стаяў у сенцах.

— А мы з Васілём, як прачыталі ў газеце, дзе вы жывяце, яшчэ летам збіраліся, думалі — дапамагчы трэба што. Каб не Сяргей, крышка б нам была з Васем у сорак першым. Нямецкія танкі да нас у тыл праваліся. Ноч была цямнюшчая, мароз... Падабраў ён нас, у нейкае гумно занёс, захаваў у сена. Трое сутак з намі праседзеў, аднекуль есці нам прынёс, перавязаў. Потым нашы стукнулі па гэтым чортавым кліне... Не вытрымаў ён, выбег, як пачалася перастрэлка. Ля гумна яго і секанула. У шпіталь нас разам павезлі,— ціха скончыў вайсковец і дадаў: — Добры быў хлопец.

— Налівайце, налівайце яшчэ! Адагрэйцеся хоць,— пачала запрашаць яна.

Яна ўжо наслухалася расказаў пра геройства Сяргея ад яго былых аднапалчан, якія пачалі прыязджаць да яе пасля артыкула ў газеце, дзе пісалася пра апошні подзвіг яе мужа. Здавалася, што расказваюць пра зусім незнаёмага чалавека, глядзяць на яе чамусьці з павагаю, некаторыя нават з зайздрасцю.

Мужчыны выпілі яшчэ. Яна адмовілася піць, чакала, што запытаюцца пра Сяргея. І яна гатова была гаварыць, што Сяргей з братам былі асілкамі на ўсю ваколіцу, што Сяргей быў лепшым трактарыстам у МТС... Яна расказвала заўсёды амаль адно і тое ж, старалася больш частаваць гасцей, чым расказваць, і яны, магчыма, потым успаміналі толькі яе гасціннасць.

Але мужчыны не распытваліся нічога, закурылі і пачалі ўспамінаць, называць незнаёмыя ёй гарады, імёны.

Ёй успомнілася сваё.

...На вёсцы цэлы тыдзень толькі і размоў было, што пра іх вяселле. Неяк вельмі ўжо не верылася вяскоўцам, што Сяргей, за якога з радасцю пайшла б любая прыгажуня ў наваколлі, бярэ Сідараву Ганначку, маленькую, лядашчую, праўда, на дзіва ўвішную на рабоце. Жанкі гадалі, што пагнаўся ён на працавітыя рукі, бо маці яго памерла, а гаспадарку трэба было глядзець...

Многа яшчэ чаго гаварылі, але што ёй было да таго! І зіма для яе зімою не была, і шчаслівейшага за яе чалавека не было, і зайздросцілі ёй сяброўкі,— бачыла, як глядзяць яны на яе і на Сяргея на танцах.

А потым прыйшла вясна. Сяргей паехаў недзе ў далёкі калгас — МТС была на два раёны — і сабраўся дадому толькі праз месяц. Прыехаў п'янаваты, насуплены. І яна праплакала ўсю ноч, а ён нават не павярнуўся да яе, быццам побач была не жонка, не жанчына нават... Раніцаю не захацеў снедаць, і гэтакі ж пануры, чужы нейкі, паехаў зноў. У той раз ён не прывёз мыць бялізну і больш ніколі не прывозіў.

На вёсцы пачалі пагаворваць, што ў яго завялася другая, не раўня ёй, Ганне. Спачатку пагаворвалі злас-

ліва, а потым са спагадаю ў голасе, асабліва пасля таго, як у яе нарадзіўся сын. І яна спадзявалася яшчэ, што пераменіцца Сяргей, што вернецца, хоць не да яе, дык да сына.

Але ён не перамяніўся.

Пра яго пісалі ў газетах, яму ўручалі граматы: ён быў усё ж лепшым трактарыстам.

А яна пакідала малога на рукі сваёй маці, дзень у дзень ішла на работу.

І яна не праводзіла Сяргея, калі праводзілі, галосячы, сваіх мужчын жанкі.

Сяргей не заехаў нават развітацца з ёю, і гаварылі, што праводзіла яго на вакзал і плакала другая...

— Ганна Антонаўна,— пакратаў яе за руку вайсковец,— выпіце з намі — апошні раз.

Яна механічна ўзяла шклянку, выпіла з нейкай прагаю.

— Скажыце, Ганна Антонаўна, што гэта за малы на той фатаграфіі? — кіўнуў вайсковец на рамку з фатаграфіямі, што вісела над акном.

— Сын мой. У блакаду памёр. Пяць гадкоў было. Ад тыфу...

— Прабачце, я не хацеў... Забыў, што і сын у вас... Мае, праўда, уцалелі ў вайну, а Васіль пасля вайны сваіх усё шукае, нават на след не натрапіў.

Яна паглядзела на маўклівага вайскоўцавага спадарожніка і толькі цяпер убачыла яго вочы — чыстыя-чыстыя, блакітныя вочы, якія глядзелі нібы скрозь дым — затоена, балюча і добра...

Ваенны зноў зірнуў на фатаграфію:

— Быў бы, як бацька, герой.

— Нам час, Ганна Антонаўна. На службу заўтра, ды і вам на работу, а мы тут з Васілём разышліся...— устаў з-за стала вайсковец.

Яна правяла іх да варот.

Не спалася. Можа таму, што нудна і аднастайна шоргаў шорсткім лісцем па шыбіне бэз, нібы прасіўся ў хату абагрэцца, можа, што праз акно глядзела халоднае вока месяца. У хаце пахла папяросным дымам, га-

рэлкаю — мужчынскім, даўно забытым. Невядома чаму ўсё ўспаміналіся глыбока запалыя, журботна-выцвілыя вочы маўклівага вайскоўцавага спадарожніка.

Яна ўстала, падышла да акна, расчыніла яго: вецер разагнаў хмары, і над зямлёю плыла асенняя ноч, абмытая сумным, халодным месячным святлом. Пасярод лагчыны, што пачынаецца ад самае яе — канцавое — хаты, роўным лускавіннем блішчэла сажалка, і над ёй хіліліся ў паклоне зламаныя старыя вербы, нібыта цягнуліся кастлявымі рукамі галля да месяца, што нерухома застыў далёка ад берага. За сажалкаю ўзбіраўся на ўзгорак чорнымі нагамі клёнаў стары парк, з дрэў якога час ад часу зрываліся і трапяталі на ветры, летучы да сажалкі, адзінокія дрыготкія лісцікі, нібы пісьмы, поўныя адчаю і невыказнага суму, пісьмы, якім ніколі нікуды не даляцець, ніколі не быць прачытанымі...

*1969*

# ДОМА

Пра свайго маладзейшага Сымон стараўся не ўспамінаць, і калі, бывала, вечарам узімку Гэлька надумаецца і ўздыхне: «Як жа там Паўлік наш, што чужы...» — Сымон тады толькі зіркаў на жонку, і яна замаўкала.

Два старэйшыя Сымонавы хлопцы аселі на зямлі, у суседніх вёсках. Казя пазней навучыўся на трактарыста, а Іван цяслярыў у будаўнічай брыгадзе. Быў ён гэтакі ж, як і бацька, ладны, невысокі, смаглы з твару, чуць гарбаносы, з сінімі быстрымі вачыма, рухавы і працавіты,— як сякерка, длубае і длубае, не прысядзе за дзень. А маладзейшы, Паўлік,— высокі, тонкі, як бэзавы дубец-пасынак, спакойны. І з малых гадоў пачаў улягаць у паляванне, прападаў то ў лесе, то з кнігаю. Ні на папрокі, ні на сварку не аскірзаўся, глядзеў так спакойна, бывае, чуць усміхаецца, але ўсё роўна зробіць па-свойму. І надумаўся ехаць вучыцца на геолага. Сымон спрабаваў прыгразіцца, не пусціць, але сын сказаў, што ўцячэ з дому. Была ў яго вачах такая добрая ўпартасць, што Сымон здаўся, хоць і не дараваў душою, што кінуў сын зямлю, папёрся лавіць жураўля ў небе. Сымон з малых год рабіў на зямлі, жыў з гэтага і не любіў адыходнікаў. І яшчэ мучыла Сымона, што пацягнула сына па доўгі рубель, па раскошу.

Колькі год ужо, як паехаў сын!.. Яшчэ як вучыўся, разы са два аказаўся дадому, але ненадоўга — адчуваў, што не дараваў яму бацька,— і з'язджаў з бацькавых воч.

А пасля таго як сын развёўся з жонкаю, Сымона не перапрэчыш: зусім разбасячаў хлопец, распіўся!

Але ў гэту весну Сымон усё часцей і часцей думаў пра маладзейшага, не прыкрыкваў на Гэлю, калі яна абзывалася пра сына. Маўчаў, як і не чуў быццам. І сам не ведаў, што гэта з ім робіцца, але адчуваў, што нешта надламалася ў ім,— ці не старасць брала сваё?

Яшчэ зімою даняў Сымона радыкуліт. Пайшоў быў параўняць у каровы ў пярэгарадцы, разоў колькі стукнуў сякераю па мерзляках і адчуў, як востры боль пра-

цяў паясніцу і дайшоў аж да пятак. Так ракачом і дапоўз у хату. Гэля памагла ўзбавіцца на печ, на чарэнь, але боль не прайшоў; колькі дзён ён выграваў, націраў паясніцу і ногі барсуковым тлушчам — троха адпусціла: даштыльгаў сам з кіем да ложка, бо ад ляжбы на печы збалела ўсё цела. Праз тыдзень Гэля запрэгла каня і завезла Сымона ў бальніцу. Там больш за месяц калолі яму ўколы, «грэлі на лямпах».

Калі прыехаў дадому, сеў перад люстэркам галіць бараду — не пазнаў сам сябе: шчокі запалі, былі бледныя, з нездаровымі, тоненькімі чырвонымі пражылкамі, неяк пабольшалі і як выцвілі вочы, і сам ён нібы паменшаў увесь.

Цяпер падабалася падоўгу сядзець нерухома на вясновым сонцы, якое так пяшчотна цепліць драўляную, у глыбокіх трэшчынах сцяну, корпацца ў садзе ці на градах і прыглядацца, як жоўценькімі храсткамі прабіваецца з-пад лёду трава, як потым празрыста зеляннееца; знайшоў ён і тыя шпакоўні, што некалі яшчэ Паўлік быў навешаў у садзе. Сымон пазнімаў шпакоўні — разводзіць гэту стракатую плойму, каб усе вішні паабівалі! А цяпер зняў мерку, зрабіў аж дзве новыя шпакоўні і павесіў на яблынях, а калі раніцаю аблюбаваў адну з іх шпак, засвістаў, што пер'е пад горлам стала дыбком, Сымон загукаў Гэлі праз акно:

— Ідзі сюды!

І тая ад печы з чапялою выбегла на парог, перапалохана запыталася:

— Што?

Калі дайшла да толку, плюнула са злосці.

— Каб на цябе трасца! У мяне ж блінец згарыць! А ён дзяцініцца!

Сымон і сам дзівіўся, што з ім робіцца, і не хацеў пагаджацца, што гэта ад старасці, што гэта яна так угамоньвае яго, напамінае: падыходзіць тая пара, каб агледзецца на пражытае і перажытае і ўбачыць, што зладзілася, а дзе і даў ты, чалавеча, хібу. А калі пражылося цераз пень-калоду, сабе на ўцеху і людзям на злосць? Тады цяжка заспакоіцца, і да канца будзеш злавацца на ўвесь белы свет і вінаваціць яго, каб неяк апраўдацца... Хоць ужо, як ні круціся — не выкруцішся!.. Ікалі ў жыцці было больш пражыта справядліва,

захочацца неяк яшчэ паправіцца, каб і ўсё яно, жыццё, было гладчэй.

Ці не з-за гэтага і пачаў успамінацца Паўлік, заварушылася пад сэрцам забытая стрэмка: не ведаеш ты нічога, бацька, толкам пра сына, адкаснуўся ад яго, і невядома, ці давядзецца стрэцца, пагаманіць. Ды і ці выйдзе гамонка?

Вечарамі Сымон падоўгу сядзеў, чытаў газеты. Ён ужо дрэнна бачыў, і таму чапляў на нос аж двое акуляраў, звязаных суравымі ніткамі, і лямпачку апускаў з-пад столі да самага стала. Як натамляліся вочы, уключаў радыёлу, слухаў не толькі музыку, але і незнаёмую гаворку — спраўна гергечуць!

Лажыўся спаць за поўнач, а падымаўся да сонца, пакрэхтваў, пакашліваў, тупаў па хаце, і Гэлька бубніла:

— Ужэ ўспароўся! І сам не спіць, і другому не дасць!

— Да ўжэ ж і пара...

— Пара, пара! Няма табе толку!..

Сымон ішоў на двор, выходзіў на вуліцу, пустэльную, мокрую ад расы, з кустамі бэзу і травою паўз платы, нечым падобную на растрапаную пасля сну маўклівую гаспадыню; і ўжо як пройдзе статак, пачнуць бразгаць ланцугі на калаўротах і вёдры аб цэментовыя трубы калодзежаў, перакінуцца словамі суседкі праз вуліцу, праедзе на веласіпедзе брыгадзір, пакідаючы белы слядок ад колаў на павільгатнелым ад расы пыле, пачнуць сыходзіцца да лісціка са школьнага сшытка, на якім размашыста напісаны нарад, мужчына гучна штукарыць, закурваць махорку — ажыве тады вуліца, становіцца дзённа звыклаю.

Сымон толькі лёг, не паспеў яшчэ нават задрамаць, як у дзверы моцна загрукалі,— так загрукаць маглі толькі знаёмыя. «Мабыць, з кароваю ў Валодзі нядобра»,— падумаў Сымон пра суседа. Яго збродная карова ўцякла ўдзень з чарады, нахапалася лубіну. Праўда, Валодзя ўзяў каня і цэлы надвячорак ганяў карову.

Сымон, як быў у споднiках, выйшаў у сенцы, адняў ад дзвярэй завалу і патупаў у хату. Ён спачатку не зразумеў, чаго гэтак завохкала і кулём скацілася

з печы Гэля. Сымон аглянуўся: у хаце стаяў Паўлік, ніяк не падобны на таго, якога памятаў бацька,— высокі, шырокі ў плячах, у кароткай бліскучай пры святле адзежыне, у адпрасаваных штанах. Чаравікі яго былі ў гразі. А сам ён — без шапкі, коратка падстрыжаны... і з акладзістаю чорнаю барадою.

Гэлька, раструханая са сну, разгублена ступіла, па прывычцы выцерла руку аб спадніцу, працягнула сыну, але ён не падаў свае, абняў і пацалаваў.

Сымону паціснуў руку, кіўнуў галавою і пачаў знімаць з плеч вялікі, як абозня, рукзак.

А Сымон усё стаяў і не ведаў, што гаварыць, што рабіць.

— Ну што ты стаў, бацька! Штаны хоць надзень!.. Разбасаўся тут! — прыкрыкнула на яго Гэлька, і ён паслухмяна і збянтэжана патупаў да свайго ложка.

Калі ён зноў увайшоў на кухню, Павел распакоўваў рукзак, а Гэля распальвала на прыпечку керагаз, паспела збегаць у каморку па сала і распытвала:

— Дак ты апошнім аўтобусам ехаў? Трэба было напісаць, пад'ехаў бы бацька.

— Помню дарогу, мама. Тут вам з бацькам унты прывёз на зіму.

— Дзякуй, сынок, нашто было мучыцца,— шчаслівая абазвалася Гэля.

— Дзякуй Павел!

У Сымона яшчэ не прайшла разгубленасць і збянтэжанасць, ён ніяк не мог асвойтацца, камячыў у руках, разглядваў незнаёмы, бухматы і лёгкі абутак.

— Ты б, Сымон, не таптаўся, пайшоў бы глянуў чаго на стол...

Сын тым часам распрануўся. Быў ён у касцюме, у белай кашулі, пры гальштуку, зусім гарадскі.

Патэльня з распечанымі яйкамі і салам стаяла на стале; Гэля паспела злазіць на вышкі і зняць кілбасу.

— Ты б мо скінула на талерку,— папракнуў жонку Сымон.

— Можна, але ж гэтак цяплей будзе. Ці мо зняць, Павел?

— Да не, што вы.

— Ты, бацька, ідзі яшчэ качанчык капусты вазьмі. Ён жа любіць...

— У мяне тут каньяк з сабою,— сказаў сын, калі селі за стол. Ён нагнуўся і дастаў бутэльку, адвінціў корак, але не наліваў — хай гаспадар спачатку налівае сваю. Сымон зразумеў сына, усміхнуўся:

— Як ты надумаўся прыехаць?

— Тыдні два вольных. Сеў і прыехаў.

— А з жонкаю як?

Сымон ужо і сам сумеўся, што запытаў, але Павел, нібы не пачуў, нічога не сказаў, разліў у шклянкі каньяк.

— Ты ж не лі бацьку гэтак многа! Ён у Антося раз — хлопец быў, нечага такога салодкага прывёз — напіўся, адале яго як узяло, дак я вяду дадому, а ён згледзеў слуп і раве: «Здароў, Толя!» І прэцца абняць. Ледзьве ўдзержала. Пасынак цэментовы, думаю, голаў паб'е, а каб так слуп, то пярун бы яго дзяржаў!..— паспешна і весела загаварыла Гэля, і сын усміхнуўся, а Сымон пад сталом ціскануў Гэліну нагу і буркнуў:

— А і сама, як лісіца, прысела, лізнуць хочаш!..

А Павел глядзеў на бацькоў і ўсміхаўся ўжо шчыра, шырока і гаркава — бачыў, як падаліся, пастарэлі яны і нечым падобны на дзяцей, наіўных і разумных дзяцей. А ён са сваёй Сібіры мо і не прыедзе больш, не ўгледзіць іх жывымі — далёкія ў яго дарогі і работа зусім не падобная на сялянскую.

Прачнуўся Сымон, як звычайна, ступіў на падлогу і здзівіўся — канапа, на якой паслалі Паўлу, была заслана, толькі табурэтка стаяла на сваім месцы: караткавата было сыну, і давялося пад ногі падставіць табурэтку. Тут жа на спінцы крэсла вісела і сынава адзенне.

Сымон паспешна апрануўся і патупаў на двор, прачыніў дзверы з сянец.

Павел мыўся на двары. На лаўцы стаяла эмаліраваная міска з вадою, у чырвонай мыльніцы ляжала мыла, а сын, падпяразаны ручніком, браў прыгаршчамі ваду і плюхаў сабе на грудзі, на плечы. Сымон быў памкнуўся выйсці — паліць, але сумеўся: наўскасяк на спіне Паўла віднеўся страшны ружовы рубец з сінім адценнем і тоненькаю кволаю скураю,— здаецца, лопне, калі зачэпіш яе.

Сымон асцярожна прычыніў дзверы і пайшоў у хату.

Потым зайшоў і Павел з ручніком на плячах, ветла

ўсміхнуўся і, стоячы тварам да бацькі, хутка ўсцягнуў майку і кашулю, акуратна расчасаў мокрую і бліскучую ад вільгаці бараду.

— Чаго гэта ты так рана?

— Прывык. Прайду троха, пагляджу.

Сымон выйшаў за Паўлам да варот і бачыў, што ён ішоў вуліцаю ў канец, а далей пакіраваў да лесу, і Сымон здагадаўся, што пайшоў сын на тыя сцежкі, якія памятаў і якія, мабыць, і павялі яго далёка, ах як далёка, а цяпер многія зараслі верасам, травою і дзяцельнікам. Заварушылася старая крыўда: не зайшоў, не глянуў у хлеў, вакол будынка не абышоў, агарода не глянуў, а папёрся ў лес...

Вярнуўся Павел, калі Гэля ўжо ўхадзілася, зрабіла снеданне і схадзіла да суседак.

— Да Ганькі Мар'я прыходзіла. Стары яе слабы, усю ноч не адходзілі: думалі, да сонца не дажыве... Але яшчэ чуць сапе. Ён з табою не аднагодак, Сымон?

— На год старэйшы. Што ты хоч, век біўся як рыба аб лёд. Дзяцей куча, зямлі тае — кот наплакаў. І хатку ж гэту адзін скідаў. Дзе яму тога здароўя! Без жонкі, удаўцом, і дзяцей гадаваў...

— Ты ж бач, пашчі твой равеснік,— паўтарыла Гэля.— Сёння, мабыць, і сканае. Садзецеся снедаць.

— Гэта, мама, Трахім, Чыжліха, як мы яго дражнілі? Толькі згледзіць — бяжыць і крычыць: «Га, куды? Чы ж ліха на вас!» А мы не баяліся — пакуль дакульгае...

— Садзіся, садзіся, Павел.

Сымон апаласнуў рукі над вядром, выцер ручніком, што вісеў на цвіку, убітым у вушак, прыслухаўся, як забрахаў на двары сабака, забразгаў ланцугом. Сымон выйшаў у сенцы, было чуваць, як прыкрыкнуў на сабаку: «Ляж, каб на цябе...» — і патупаў да веснічак, з некім загаманіў і скора ішоў назад.

— Сканаў, Гэля, Трахім. Труну трэба ісці рабіць.

Сымон бачыў, як здрыгануўся ў сынавай руцэ відэлец.

— Ты паснедай хоць!

Снедалі моўчкі, нехаця, і Павел нечакана сказаў:

— Больш за ўсё шкадаваў, каб галінку не зламалі, як на целе ў яго расла тая галінка. Пагрозіцца на нас, а мы — дражнімся — Чыжліха!

— Да ўжэ ж! — уздыхнула Гэля.

Хавалі Трахіма пасля абеду.

Паперадзе неслі крыж, за ім плыло века, а потым ужо труна на мужчынскіх плячах. Следам ішлі калгасныя музыканты, нязладна выдзімалі з пацямнелых, даўно нячышчаных труб працяжную мелодыю, і вялікі, белы, новы барабан з сінім абечкам стукаў моцна і роўна.

Сваякі выносілі на вуліцу засланыя абрусам сталы і ўслоны: і на хвілінку заціхала музыка, і труна адпачывала на ўслоне, і чалавека цалавалі ў лоб — у апошнюю дарогу.

Сымон бачыў празрыста, чысты твар свайго равесніка з вачыма, акуратна закрытымі чужымі рукамі.

Павел ішоў побач, і Сымон, колькі ні паглядаў на яго — бачыў: сынаў твар быў спакойны, і сам ён быў нібы не тут, нібы нічога не бачыў,— і зноў нядобрае пачуццё варухнулася ў душы Сымона.

На ўзгорак да могілак вяла ў бэзавых прысадах дарога, крыху вузкаватая, і натоўп расцягнуўся, і недзе наперадзе плыла труна і біў барабан.

Труну паставілі на гурбанок вільготнага, цёмначырвонага долу, і заціхла музыка, і былі толькі ціхія ўсхліпы, і маўклівыя бярозы ў надвячорнім зажураным сонцы, і рэдкая, скупая трава на магільных грудках.

— Таварышы калгаснікі і калгасніцы! Сягоння мы праводзім у апошнюю дарогу нашага дарагога Трахіма Іванавіча, які аддаў усё жыццё рабоце, нашаму калгасу, які не згадзіўся сядзець на пенсіі, глядзеў наш сад і тым прыносіў вялікі даход...

Парторг запнуўся, забыў зараней напісанае і вывучанае, і ўжо ціха і спакойна сказаў:

— Век рабіў, любіў людзей, работу, і сад яму лепшы помнік навекі!..

Сымон кінуў вокам на Паўла: той горка ўсміхаўся, ківаў галавою і глядзеў на барабаншчыка, маладога яшчэ хлопца ў грубым світэры, убраным у салдацкія штаны, падпяразаныя шырокаю папружкаю з начышчанаю бляхаю; той дзелавіта і паспешна дакурваў цыгарэту.

І чужым, не сваім, далёкім слыхам чуў Сымон, як забіваюць века, і бачыў, як апускалі труну на белых

палотнах і шарганула па дошках першая чырвоная вільготная жменя жвіру.

Павел ішоў наперадзе, вялікі і спакойны, чуць уцягнуўшы ў плечы галаву; старшы з музыкантаў наказваў барабаншчыку, каб той не вельмі шчыраваў са шклянкаю за жалобным сталом, бо ў іх яшчэ адно пахаванне; барабаншчык нешта аскірзаўся, пакурваў і смачна сплёўваў цераз плячо.

Сымон дагнаў сына; той ішоў гэтакі ж сцяты, далёкі.

— Вось табе і жыві...— ні то да яго, ні то сам сабе ўздыхнуў Сымон.

— Нічога, бацька. Туды прымуць...— паспрабаваў пажартаваць сын, але голас яго быў цяжкі. У Сымона кальнула глухая трывога; успомніў той рубец на сынавых плячах, які, мабыць, баліць яму, і таму Павел так сцяўся і ідзе, як адзеравянелы.

— Павел, а што ў цябе на плячах?

Сын раптоўна спыніўся і паспешна загаварыў, нібы захоплены знянацку і не можа сабрацца з думкамі.

— А так! Каменем у гарах, ерунда... Толькі друга... Да мацеры яго еду...

Ён не дагаварыў, зноў пайшоў, шпарка, як уцякаў, і Сымон ледзь паспяваў следам: бадай, многа Павел ляжаў у бальніцы, каб на дабро, то ў гэту пору быў бы ўжо на рабоце, недзе ў лесе, ці ў гарах, ці дзе ён яшчэ там бывае...

— Напісаў бы...

— Нашто? Усё прайшло.

— Дак мо яшчэ пабудзеш?

— Паеду заўтра. Трэба ж заехаць...

Больш Сымон нічога не пытаў, стараўся толькі не адставаць.

Вечарам Павел расказваў, як ездзяць на аленях, на сабаках, і маці толькі вохкала і не верыла — няўжо гэта сабакі пацягнуць?

А Сымон пільна глядзеў на сына і ведаў, што той думае пра другое: як паедзе да гэтакае ж старое і скажа, што няма ў яе больш сына,— і бачыў моцныя рукі, глыбокія маршчыны на лбе і рэдкія белыя павуцінкі сівізны ў валасах і ўжо ведаў, што хапіла сыну на вяку

мо больш, чым трэба ў такія гады, што і сам ён саліў яму, а цяпер не скажаш, не раскажаш па парадку. І пойдзе сын, мо назаўсёды, а маці будзе радавацца, што здаровы ён і добра апрануты...

І ўжо калі леглі спаць, Сымон адважыўся і паклікаў сына:

— Павел! Я, як што якое, тэлеграму адаб'ю...

— Я прыеду, тата, прыеду,— ласкава, як з дзяцінства, адказаў сын,— прыеду.

*1970*

# БЕЛЫ МЕСЯЦ

Начамі, у вецер, рыпела аканіца — нудна, аднастайна, над самаю галавою. І тады не было сну. Прыходзілі думкі пра старога, які сабраўся і пайшоў некуды з горада. Яна здагадвалася, куды пайшоў: у лес, бо ўсё шнырыў перад гэтым немаведама дзе, вадзіў да сябе незнаёмых ёй людзей, падоўгу шаптаўся з імі, а ноччу соваў пад падушку маленькі бліскучы наган. Ён і пры паляках усё гэтак жа збродаваў і спаў з наганам, а потым уцёк у лес.

Наказваў, калі адыходзіў, каб сядзела ціха, глядзела дачку, пакуль ён не акажацца, і на яе запытанне, што надалей будзе, адказаў:

— Усяго будзе. І му́ка будзе, а перамелецца — мука́ будзе. Вы тут не бойцеся: я не парціец, і да вас чапляцца не будуць.

Пайшоў — і як у ваду кануў. Няма нават каму прыбіць зашчапку на аканіцы. Хоць бы Вася быў дома... Успомніўся зяць са сваёю вечнаю ўсмешкаю да вушэй і бясконцымі жартачкамі, усё адно, як толькі і жыў, каб штукарыць, успомнілася, як яна скоса паглядвала на яго, нават нашэптвала Яні, каб троха прабрала. А цяпер пякло сэрца — такі па-дзіцячаму худы, тонкі і вастраносы, з вялікімі сінімі вачыма і астрыжанаю, белаю, як бручка, галавою быў ён перад адпраўкаю на фронт. І ўсё гэтак жа жартаваў, толькі вочы былі балючыя і глыбокія.

Забрала мужчын вайна, закруціла, як у вір. І ні чуткі, ні дзейкі. А ім жа жыць бы яшчэ!..

За дашчанаю перагародкаю заварочалася, загаманіла спрасонку дачка. Школу зачынілі, і Яня нікуды не выходзіла з дому — баялася немцаў; цэлыя дні ляжала на ложку, чытала або ўставала, доўга расчэсвала перад люстэркам валасы, даставала з шафы сукенкі, надзявала іх па чарзе, мерала туфлі. І ўсё маўчком, а калі загаворыш да яе, усё злуе, нібы яна, маці, вінавата. Можа, і сасніла Яня Васю, хоць ні пра бацьку, ні пра мужа не ўспамінала, а вечарам, як уздумае, заве варажыць на картах,— старая амаль штовечар рас-

кладвае карты і варожыць на Васю, на старога... Ёй шкада дачкі, цяжка глядзець, як яна, маладая і здаровая, сядзіць днямі, як у цямніцы. Замуж Яня выйшла пазнавата, пажыла з Васем мала больш году — і ці лёгка мацеры глядзець на такое? Хапіла з яе на вяку і «царскае» вайны, і польскай. Хоць бы ўжо закрыліся вочы, каб не бачыць нічога! Каб толькі стары аб'явіўся, забраў Яню...

Яня заціхла, і зноў было чуваць толькі, як парыпвае аканіца.

Прачыналася старая досвіткам, запальвала на кухні лямпу. У хаце, вышастанай за ноч ветрам, было холадна, як у лядоўні.

Ціха, каб не будзіць дачку, старая клала ў печ дровы,— добра, што стары назапасіў. Печ, недагледжаная на зіму, пакуль угравалася, дымела, і ў старое пачыналі слязіцца вочы. Яна кашляла, выцірала вочы ражком хусцінкі і выходзіла на двор.

Каб не стаяць бесталку, брала зробленую з фанеры шырокую лапату, расчышчала снег спачатку на двары, потым на вуліцы ля свае хаты, як і яе суседка Гэлька,— цяпер ніхто не прымушаў ачышчаць «тратувар», ды ніхто амаль і не хадзіў завулкам. Як і раней, суседкі віталіся, але размова не ладзілася: старэйшы Гэльчын да вайны рабіў у райкоме, а цяпер пайшла чутка, што ён хаваецца ў горадзе і разам з сябрамі забівае нямецкіх салдат. Гэлька нейк змарнела, сагнулася — усё спяшалася ў хату з вуліцы,— у яе застаўся ўнук, і яна баялася за яго. А да вайны Гэлька часта прыходзіла гуляць да старое і яшчэ з парога моцна пыталася, расцягваючы словы:

— Андрэйчыха дома?

Старая вярталася ў хату, грэла на агні настылыя рукі і садзілася абіраць бульбу. Нібы чула яе сэрца, што неспакойна будзе,— увесь агарод бульбаю засадзіла, толькі градку на капусту і буракі пакінула. Не было б цяпер за што і зуб зашчаміць. А так і бульба ёсць, і капуста падкісла, і буракоў можна зварыць, яблыкі сушаныя на ўзвар ёсць. Наабірала яшчэ яблык, а на той год невядома ці ўродзіць — пакалечыла яблыню бомбаю, галіну вялікую адламала, і сама бомба не ўзарвалася — сядзіць, убіўшыся ў карэнне.

Мыла бульбу старая ў эмаліраванай місцы, у якой праз дзірачку ў беражку быў працягнуты раменьчык з вузельчыкам на канцы і дзірачкаю на другім,— каб вешаць на цвік. Гэта яшчэ стары вымудраваў. Ён і кацялок салдацкі прыдбаў, у які яна накладвала бульбу і ашчадна цянціла соллю.

Старая чула, як варочалася на ложку дачка, потым было чуваць, як яна тупала, падбівала падушку.

— Маці, а маці! Хоць аканіцу адчыні, а то як у труне. І копціш яшчэ!

Старая тупала на двор, старалася ступаць у ранейшыя сляды, зробленыя ёю паўз сцены, але снег усё роўна засыпаўся ва ўссунутыя набасанож валёнкі і прыпякаў пяты.

Снеданне старая прыносіла ў свой пакой. Бульбу так і не выкідала з кацялка, каб не астывала. Да бульбы звычайна быў качанчык капусты з расолам; калі ўжо неўмагату была капуста — і кіслая, і вараная, і параная,— старая варыла буракі,— хоць нішчымныя, але, калі выстынуць, з бульбаю добра.

— Ідзі, Яня, снедаць! — паклікала старая дачку, абдзіраючы лісцікі з качана. Ад капусты ў яе смылелі дзёсны, і яна толькі паспрабавала есці — не змагла, нацадзіла ў кубак расолу.— Ідзі, а то выстыне! — зноў паклікала яна.

— Іду, іду! Чаго ты...

Яня прыйшла не ў халаціку, як звычайна, а ў плацці, у туфлях.

— Чаго ты так вытрашчылася? — задзірыста запыталася яна ў старое.

— Так. Куды ты выбралася?

— А мне мо тут з табою гніць? Што я, горшая?..

Яня прысела за стол, узяла бульбіну і ўпусціла.

— Равеш і равеш! Выстыць не дала. Але што самой у галаў стукне — тое і ты рабі! Зямлёю пахне, а ўсё нешта плужыцца!

У старое навярнуліся слёзы, і яна хуценька пашоргала на кухню, там змахнула ручніком слёзы, узяла каструлю з узварам — нібы па яе толькі і хадзіла. Але есці больш не хацелася, і яна вярнулася на кухню, пачала выціраць анучкаю стол, потым мыць падлогу — каб толькі нічога не думаць, каб забавіцца. І ўсё ж прыслухоўвалася, як Яня рыпела дзверцамі шафы, некуды

збіралася. Стала неспакойна на душы, забылася крыўда.

— Куды ж гэта ты?

— Пайду на горад. Ты лепш са стала прыбяры!

— Прыбяру... Холадна ў туфельках, зіма...— толькі і сказала яна, нібы і праўда гэта было галоўным, і толькі калі стукнулі дзверы, старая памкнулася выбегчы, закрычаць, вярнуць дачку дадому, насварыцца, набіць, як некалі малую... Ды было позна, і яна толькі квола дайшла да ложка і нязграбна апусцілася на яго.

Сядзела доўга, і калі спахапілася, што не зачыніла ўюшку, не магла разагнуцца — так адзеравянела спіна.

Уюшка была высока, і старая, як заўсёды, палезла на разгойданую табурэтку, але тая неўспадзеўкі хістанулася, і старая ўпала, стукнулася грудзьмі аб рог стала.

— От каб на цябе! — выдыхнула яна і змоўкла — ад вострага болю забіла духі. Да ложка ішла, прытрымліваючыся за сценку. І ўжо як адляжалася, прыбрала са стала, зачыніла ўюшку.

Дачкі не было. Старая выйшла на двор, прачыніла дзверы ў хляўчук, папраўіла лахманы на дзверцах у пограб, прайшла па двары, высунулася ў варотцы, паглядзела ў два бакі: было пуста і мёртва, і толькі на бярозе праз вуліцу, згінаючы тонкую вяршаліну, пагойдвалася варона, выцягваючы шыю, паглядала ўніз і неўспадзеўкі хрыпла каркнула і залопала крыламі, каб утрымацца. Старая сцепанулася ад нечаканасці, перахрысцілася, заспяшалася ў хату, але ад дзвярэй павярнула і затупала зноў на вуліцу — да суседкі.

Дзверы былі замкнёны з сярэдзіны. Старая пастукала, потым яшчэ раз пастукала — і толькі тады пачула, што нехта выйшаў у калідор.

— Адчыні, Гэлька! — абазвалася старая.

— Ты, Андрэйчыха?

— Ага.

Гэлька доўга марудзіла, пакуль адамкнула дзверы, і, як толькі зайшла старая, зноў загрукала завалаю.

— А дзе ж гэта твой сабака, Гэлька?

— Немцы ж застрэлілі. Забраць хацелі. Ахвіцэр іхні ўпадабаў быў. А Рэкс яго за нагу як уцяў! Дык ён яму з нагана ў лоб. А Рэкс і зубоў не расшчапіў. Ле-

дзьве яны яму вінтоўкаю развялі,— расказвала Гэлька, ідучы ўслед.— Садзіся. У цябе не такая халадэча?

У шафе заварушылася, азваўся дзіцячы голас:

— Адчыні, бабка! Душна.

Гэлька дрыжачымі рукамі ніяк не магла ўставіць у замок ключык з чырвонаю стужачкаю.

Хлопчык выкаціўся з шафы чырвоны і адразу ж прыкрыў рукою вочы, хоць у пакоі быў паўзмрок — адчыняла Гэлька толькі адну палавіну аканіцы таго акна, што на двор.

— Нашто ты яго гэтак мучыш, Гэля?

— Ведаеш жа, якія пра Сяргея чуткі пайшлі? А дзіця ж ні ў чым не павінна! Я тут над ім, як асінка, калачуся!..

Гэлька ўсхліпнула.

— Не трэба, бабка. Татка прыйдзе і ўсіх немцаў прагоніць! — суцешыў яе хлапчук, узлез на ложак і лупаценька паглядаў на старых.

— І мая ж некуды сёння сышла, а ў мяне за яе сэрца млее!..

— А я ўсё думаю, каб мой хоць дадому не надумаўся. Яшчэ выцікуюць. Мне то ўжо ўсё адно — зямля зямлёю. А яно, дзіцятка... Як усё ведае! Глядзіць во гэтак на мяне лупаценькімі вочкамі, а як хто грукне — са скуры лужыцца схавацца. А чаго ж тваю пагнала?

— Хай яе бог сцеражэ! Сядзела дасюль, нікуды не выходзіла — і як адурылася. Усё вечарамі, бывае, варажыць просіць. Я і гавару ёй, каб лепш. Суцешыцца троха. А то ўсё агрызаецца, як я ёй ураг які. Пайшла сёння, а я месца не найду! І так ужэ ледзьве ногі цягаю, не магу нічога. То ўпаду, то стукнуся... Хай яно спрахне ўсё!

— Адна яна ў вас. Прывыкла толькі пра сябе думаць, а цяпер гэтак нельга, цяпер талакою трэба... І я, мая галубка, сяджу і думаю: няўжэ гэта германец тут будзе? Сіла ж гэтакая, здэцца, у бальшавікоў была... Але яны заўзёнтыя, не папусцяцца. І людзі глуму цярпець не будуць!

— І я думала, Гэлька, як Вася пайшоў, а цяпер і стары. Усю ноч не магла заснуць, а пад раніцу толькі вочы звяла — і сню, што іду я яшчэ дзеўкаю ў Баслаўцы маліцца. Хораша так, зялёненька. І вярбу ў руцэ нясу, быццам на вербную нядзельку гэта. Думаю, па-

свянцю вярбу і ўсім-усім па дубчыку раздам. Падыходжу к цэркві, а кругом — ні жывое душы! І дзверы ў цэркаў адчынены насцеж! Заходжу: над царскімі варотамі кошык вісіць з саломаю. А ў кошыку чорная кура на яйках, і голаў крывіць — на мяне глядзіць. А для кошыка ікона багародзіцы вісіць. Маленькая, залаценькая ўся. І як зайшла я, гляджу — ікона памаленьку гэтак паварочваецца, паварочваецца! Страшна мне стала. «Няўжэ,— думаю,— павернецца?» Адале кура як залапоча, як закудахча ў мяне над галавою! Я аж утрупянела спуду. А кошык з яечкамі адарваўся — і вобземлю! А з яго пацукі ва ўсе бакі як сыпануць! І іконка назад, назад адварочваецца і аж на сонейку бліснула... Прахвацілася я — і сама сабе не веру, і радасна нейк,— не будзе, думаю, немец тут, не будзе! Іконка ж, як абнавілася, засвяцілася!

— Дай бог, дай бог, мая галубка!.. Здэцца, каб адным вокам глянуць, як красныя прыйдуць, дык і паміраць лягчэй было б!

— Прыйдуць, прыйдуць, каб толькі дзеці нашы жывыя былі. Пайду ж я хіба ўжэ, а то і хату не замыкала.

Андрэйчыха ўстала. Гэлька правяла яе аж да варотцаў.

— Заходзь хоць троха да мяне. Грэх у такі час чужацца.

Яшчэ на ганку старая пачула прыглушаны мужчынскі смех у хаце. «Вася!» — працяла яе здагадка. Як мага барзджэй яна кінулася па калідоры, ублыталася нагамі ў дыван і ўпала б, каб не ўспела схапіцца за ручку дзвярэй, прыадчыніла іх: побач з Яняю за сталом сядзеў малады мужчына, у белай рубашцы, пры гальштуку, пінжак яго ляжаў на ложку і з кішэні была відаць ручка нагана. На стале стаялі бутэлька, кансервы і ляжаў хлеб. Яня сядзела побач з мужчынам, адкінуўшыся на спінку крэсла, чырвоная, з вялікімі асалавелымі вачыма.

— А я думала, Вася...— пачала гаварыць старая, адступаючы назад.

— Гэта маці,— пачула яна.

— Дзіва што! Яна і на Ягу падобна,— ужо далёкадалёка засмяяўся мужчына, а за ім і дачка — дробным, не знаёмым мацеры смехам...

Уваччу туманілася, шумела ў галаве, і здавалася, не хопіць сілы дайсці да ложка. Але старая дайшла і доўга яшчэ чула, як гаманілі і смяяліся там, адкуль пахла хлебам... І апошнім успамінам перад правалам у чорную прорву забыцця быў сонечны, сухі восеньскі поўдзень, гулкая, выбітая нагамі лясная сцежка і вялікая нізка свежага, яркага кляновага лісця, якую яна нясе, перакінуўшы цераз плячо,— заўтра маці будзе пячы хлеб...

Яня не выходзіла з пакоя. Старая запаліла лямпу, прынесла аслізлую за дзень у цёплай печы, пакіслую бульбу, капусту. Вячэраць Яню не клікала. У цяжкім одуме жавала бульбу, запівала расолам і не адчувала смаку — усё роўна, як у роце была кудзеля.

— Мама, а мама! Ідзеце сюды! — паклікала Яня. Старая паставіла на стол кубак з расолам, але не кранулася з месца — быццам раздумвала, пайсці ці не пайсці.

— Ідзеце, мама!

Старая пайшла.

На стале ў даччыным пакоі так і было непрыбрана. Яня ляжала на ложку ў адным халаціку. Твар яе быў бледны, змучаны, было сіне пад вачыма, якія глядзелі вінавата і бездапаможна.

— Хто ён? — глуха запытала старая.

— Вучыліся некалі ў школе...

— Ён на немца цяпер робіць? Не на хронце?

— Ва ўправе.

— Схаўрусаваўся з немцам... Нашто ён табе?

— Каб не ён, я дадому б сёгодня не дайшла... Ён і ў школе яшчэ за мною...

— Нашто ён табе? — закрычала старая.

— Ну, чаго ты крычыш? Чаго?..— дачка не адвярнулася, глядзела, на мацеру плакучымі вачыма.— Пагадайце мне, мама. Пагадайце!

І старая моўчкі ўзяла са стала калоду. Карты былі мокрыя і пахлі гарэлкаю. Раскладвала яна іх на табурэтцы, перад ложкам дачкі. Яна і сама не верыла варажбе і помніла толькі, як некалі маці раскладвала карты, калі прыходзілі суседкі.

— Ну вот бач,— ціха загаварыла яна і неўпрыкмет зірнула на дачку. Тая сядзела, прыхіліўшыся плячыма да сцяны, і глядзела на карты чужымі далёкімі вачыма.

Старая адвярнула першую карту:

— Бач, гэта твой кароль бубновы, светлы кароль, а для яго чорная дзесятка, цяжкае насланнё на яго, і туз піковы тут. Ці не якая хвароба? Але ж не, кароль чырвенны, сябар яго, тут і цябе помніць. Бач, дама чырвенная... А для гэтае дамы кароль чорны, і дзесятка ля яго храстовая — абман яго і твой... Во і валет ля яго, мабыць, дзеці недзе ёсць...

Старая не глядзела ўжо на карты і не думала пра іх, механічна адварочвала і не заўважыла, што ў руцэ яе не валет, а піковы кароль.

— Хлусіце! Усё хлусіце! Як дурную, абманваеце! — закрычала на яе дачка.

Старая здрыганулася, згрэбла карты на падлогу, устала:

— На смерць ніхто не хлусіць! А я ўжэ аднэю нагою там!..

Цяпер было ўсё. У вачах зноў застракацелі чорныя плямы. І старая пайшла, як у тумане, і ў сваім пакоі не змагла нават патушыць лямпу — не хапіла сілы дзьмухнуць зверху ў закуранае шкло...

Лямпа гарэла ўсю ноч.

Назаўтра прачнулася позна. Ледзьве змагла падняцца з ложка і пашамала ў даччын пакой. На стале ляжалі пахучыя агрызкі хлеба, дзверы шафы былі адчынены. Яня зноў пайшла.

Як у сне, хадзіла яна ў хлеў па дровы, абдзірала бярозавую кару на падпал, абірала бульбу, пакуль з носа не хлынула кроў — на рукі, на бульбу... Сяк-так дабралася да ложка.

Ляжаць было прыемна, млява думалася, што выгарыць у печы, што прапала бульба... Як толькі гэта і быў самы клопат.

...Здавалася, ляжыць яна даўно — немаведама колькі часу, колькі дзён і начэй. Ляжыць пад коўдраю ў плюшаўцы, у валёнках. І не ўстае паліць у печы, нічога не есць — ад думкі пра ежу нешта соладка пера-

варочваецца пад грудзьмі, і яна чуе, як пахне з даччынога пакоя хлеб... А Яні так і няма, не прыходзіць. Толькі ноччу чутно, як нехта асцярожна стукае ў дзверы, ходзіць пападвоканню, зазірае праз вокны ў хату, а потым заходзіць і ў сенцы, абівае венікам снег з ног, узлазіць на вышкі і ходзіць туды-сюды па столі, і ў яго пад нагамі прагінаюцца дошкі, і сыплецца на падлогу пясок. А сёння ноччу ён напускае па даху гарохам, і той бубніць, коцячыся долу. Нашто яму дражніць яе? Лепш бы з'еў гэты гарох, чым раскідаць. Неўспадзеўкі стала ціха, і было выразна чуваць, як адчыніліся дзверы ў калідоры і хтосьці лёгенька затупаў па падлозе. І старую апякла нечаканая думка: гэта ж Яня прыходзіць штоноч дадому і не адважваецца зайсці ў хату!

Са слязамі на вачах, паўз сценку, старая як магла пабралася ў сенцы і слабым голасам паклікала:

— Янечка, дачухна!

— Гэта я, бабка, Алежка. У нас немцы, і бабка сказала, каб я ў вас схаваўся.

— А я ж думала...

— Дзе мне схавацца? У шафу?

— Ды не, пад ложак, пад ложак!

Старая слаба падштурхнула малога ў хату, а сама прыадчыніла дзверы і глядзела, як вакол Гэльчынай хаты мітусіліся, бегалі людзі, а потым ля вуглоў зырка затрымцела полымя. А па двары, па маленькіх, як мышыная сцежачка, Алежкавых слядах грэбліся дзве нізенькія, тоўстыя постаці. І думка, што яны ідуць па дзіця, схамянула яе, абудзіла. І з адным неадольным, упартым жаданнем — не аддаць! — яна зачыніла дзверы, прыцiснулася да іх плячыма. Першы салдат напаўсілы грукнуў ботам у дзверы, і яна не стрывала, застагнала ад болю, які працяў усё яе збалелае цела, але ўтрымалася і з апошняе сілы прыцiснулася да дзвярэй. І яна ўжо не чула кароткае аўтаматнае чаргі, і ёй не здалося, што сыпанулі гарохам па даху. Яна мякка асела на падлогу паўз дзверы.

Салдат прыадчыніў дзверы, пасвяціў ліхтарыкам і жахнуўся: схуднелы, учарнелы твар глядзеў на яго вялікімі страшнымі вачыма нянавісці, глядзеў скрозь растрапаныя сівыя валасы, па адной пасмачцы якіх чырвона сцякала на падлогу кроў.

— О, мой бог! — салдат адступіў назад і хутка, як наўцёкі, пакрочыў па двары так, што яго напарнік ледзь паспяваў следам.

Месяц свяціўся слепа і бела.

Нямецкі афіцэр прайшоўся да машыны, прыкурыў ад запальнічкі цыгарэту, утуліў галаву ў каўнер, улез у кабіну і пачаў варушыць пальцамі на нагах — каб сагрэліся ў шчыгульных ботах. Паглядзеў на хату, якая дагарала роўна і спакойна, як грамнічная свечка, і кіўнуў шафёру ехаць.

*1967*

# ДАЎНЯЯ ПАМЯЦЬ

Дзяцінства больш за ўсё ўспамінаецца, калі прыходзіць сталасць. Тады бывае вельмі балюча ад разумення, што прайшлі назаўсёды светлыя дні дзяцінства. І незваротнасць іх ці не самая большая страта ў жыцці. А чалавечая памяць пільная на страты, і толькі за новымі, яшчэ большымі і гарчэйшымі, забываюцца ранейшыя, як і на целе заўсёды смыляць не старыя рубцы, а свежыя раны: старыя, бывае, адкрываюцца — гэта страшна.

Фёдару даўно ўжо не ўспаміналася дзяцінства, страт жа было, што і не перабалець за ўсё сэрцу дзесяткі год, а жыць засталося — не дзесяткамі мерадь. Яму ўспаміналася вайна. Ён спрабаваў успамінаць дзяцінства, сяброў, большасць з якіх забрала вайна... І зноў аб яе спатыкалася памяць, нібы і пачыналася яго жыццё з вайны, і канчаецца вайною. Нават марозным ранкам з аб'інелымі стрэхамі, з пабялелымі аселіцамі, з ярым чырвоным сонцам, калі гулка і цвёрда пад нагамі, молада і лёгка дыхаецца, раптам убачыцца, як ляжыш з хлопцамі ў рэдкім ядлоўцы, зрэдку праглядвае з-за хмар месяц, матава паблісквають на прамазучаных шпалах рэйкі, і змерзлі рукі, якія трымаюць шнур,— нават цяпер адчуваецца холад у рукі, захочацца падыхаць на іх,— і пойдзе, пойдзе, як з гары, цяжкі воз успамінаў!..

Лягчэй было, калі жыла старая, гаманкая, крыклівая, калі была і карова, і куры — уся гаспадарка, пра якую трэба было клапаціцца, даглядаць, і тады менш часу заставалася на адзіноту, а цяпер у пустой хаце з парудзелымі фіранкамі на вокнах, з пабялелымі ад пылу шырокімі лістамі фікуса, з засланымі яшчэ пасля памінак чужымі рукамі ложкамі, якіх ён не чапаў, а свайго — за перагародкаю — не засцілаў,— а цяпер не было куды дзецца ад нудоты, ад успамінаў, невясёлых, як прылашчаныя прымаразкам і ўчарнелыя вяргіні пад вокнамі.

І Фёдар адважыўся — зранку дастаў з шафы пакінуты сынам яшчэ зусім новы карычневы касцюм,

адзеўся, павярнуўся туды-сюды перад люстрам, якое сын называў неяк мудрагеліста, і здзівіўся: які ён нядужы, схудалы ў гэтай велікаватай адзежыне. Фёдар пастаяў, дастаў з тае ж шафы сіняе дыяганалевае галіфэ, хромавыя, разоў са два толькі абутыя боты, пераапрануўся, моцна, па-салдацку закруціў на нагі анучы, усцягнуў боты, прытупнуў, зазірнуў у люстра, нават задаволена ўсміхнуўся сам сабе, выняў з шафы чорны гальштук — усё-такі збіраўся ў горад. І праз паўгадзіны ўжо выходзіў з хаты ў асеннім прыкараткім — пад цяперашнюю моду — паліто, у сівенькай шапцы, з невялічкім чамаданчыкам — ехаць да сына, і калі ўсё добра — застацца пры ім, мо прадаць дамоўку...

Аўтобус-экспрэс не спяшаўся, усё роўна як бярог сілу на няблізкую дарогу, акуратна выстойваў адведзеныя хвіліны то на раённых вакзальчыках, то сярод лесу ля зялёных, невялічкіх, як шпакоўні, дарожных кас, у якія шафёр заходзіў адзначаць ведамасць. І калі пачаўся лес, глухі і дружны абапал дарогі, выраслы пасля вайны на тым месцы, дзе былі толькі чэзлыя кусцікі і пні — засцерагальныя палосы, якія не ратавалі ворага ад партызанскіх засад,— зноў трывожылася памяць, ахвотная варушыць і самае далёкае, і самае шчаслівае, і самае балючае... Некалі па гэтакім самым, чуць зляжалым і чуць прыпрэлым лісці, па гэткіх журавінных балотах ішоў ён са сваёй групаю «асвойваць» новы раён.

...Выйшлі на ноч. Ён — камандзір групы, некалі пад Грэзкам камандзір роты, потым дэсантнік спецгрупы, з ім — «масквіч» (так называлі перакінутых у тыл), два партызаны з мясцовага атрада, якія крыху ведалі тыя лясы, куды кіраваліся.

Ноч была халодная, зорная і цёмная. Спакойна і добра было, пакуль ішлі «сваім» лесам, дзе знаёмы і сцежкі і кусцікі, дзе нябачна і чуйна стаяць дазоры; а за лесам пачаліся пералескі, да якіх адзінока тулілiся хутары, бездапаможныя і напалоханыя, дзе-нідзе вынішчаныя і мёртвыя; ішлі асцярожна і ходка, бо

ведалі, што і так наўрад ці паспеюць перайсці бязлессе, дабрацца да вялікага глухога лесу,— і давядзецца тады дняваць недзе пасярод астраўка рэдзенькага, як недагледжаны сад, ляска, з якога, калі заўважаць, нікуды не ўцячэш...

На вёску, цёмную і глухую, трывожна заціхлую на ноч нават брэхам сабак, выйшлі з агародаў. Асцярожна пракраліся паўз хлявы да сянец, адзін застаўся пільнаваць ход з агарода, а другі падаўся да варот на вуліцу; тады толькі Фёдар асцярожна пастукаў у дзверы, настойліва і патрабавальна, і дзверы адчыніліся нечакана хутка і шырока.

— Што вы яшчэ хочаце?

Стары стаяў на парозе сянец у споднім.

— Ціха, дзед! Што за вёска?

— Адвяжэцеся ўжэ хоць, сабакі! Хочаце страляць, то страляйце, а не здзявайцеся цэлу ноч...

— Мы толькі зайшлі. Партызаны.

— Усе вы бандзіты! Адкаснецеся!..

— Прыкусі язык, дзед! У які бок Янаўка?

— На Янаўку? Хаўруснікаў сваіх даганяць? Сына толькі вунь застрэлілі, пад плотам ляжыць... І каб да раніцы ў хату не ўнёс, бандыты вы... Палавіна тут шастае, палавіна ў Янаўку пакурэла...

Ля плота і сапраўды нешта прадаўгавата бялелася на зямлі.

— Дзякуй, бацька!

— Бог з вамі...

Ад вёскі ішлі хутка, вядома, не на Янаўку, у другі бок, і было трывожна, бо недзе на дарогах шастаў вораг, якога трэба было абмінуць, якога не маглі «сустрэць», як у партызанскай зоне; вораг быў тут гаспадаром, і ад гэтага рабілася яшчэ трывожней, праклёўвалася прадчуванне няшчасця, крывавай сутычкі, але ўсё далей і далей заставалася вёска, усё бліжэй і бліжэй было да запаветных лясоў...

Адышліся далёка, і за плячыма ўжо ледзь пачынала святлецца перадранішняе неба, а ім трэба было прайсці як мага больш і тады ўжо нагледзець месца на днёўку.

...Іх заўважылі першымі, але не вытрымалі, не падпусцілі блізка, каб расстраляць ва ўпор, паласнулі з кулямёта, потым з аўтаматаў, і страшней за ўсё зда-

лiся не гэтыя звыклыя за вайну гукi, а тонкае шыпенне ракеты, яе мёртвае святло над рэдзенькiм асiннiкам, пры якiм Фёдар у адно iмгненне ўбачыў i «масквiча» з залiтым крывёю тварам уверх, з аўтаматам на грудзях, i старэйшага партызана, нiбы прысеўшага пры асiнцы, i маладзейшага, якi з усiх ног ламануў у кусты; Фёдар пабег следам, чуў цяжкiя крокi наперадзе, чуў, як зноў зашыпела ракета, як над галавою, з бакоў стукалiся ў ствалы дрэўцаў разрыўныя кулi — нiбы стралялi за плячыма. Ён спатыкнуўся на нешта мяккае, упаў потырч, балюча стукнуўся тварам аб аўтамат, падхапiўся, спехам зняў з плячэй забiтага мяшок з толам, якi неслi па чарзе...

За iм, на шчасце, не гналiся, але ён iшоў з усяе сiлы, бо ведаў, што заставацца блiзка нельга. Арыентаваўся па халоднай iльдзiнцы Венеры на ўсходзе, якая бясстрасна глядзела ўслед.

Аўтобус асцярожна прытармазiў, крыху пахiлiўся набок — з'ехаў на абочыну,— суха зашумеў коламi па гравiю.

— Дзесяць хвiлiн стаiм! — аб'явiў шафёр, саскочыў на асфальт, ляпнуў дзверцамi i ўразвалку, крыху касалапа, пакалываўся да касы.

Фёдар таксама выйшаў.

Пад навесам, разаслаўшы на зямлi старыя хусткi, бабулька прадавала яблыкi, грушы, якiя былi раскладзены кучкамi: па дзве, па тры, па пяць... Фёдару нецiкавы былi гэтыя па-вясковаму знаёмыя бабулькi з iх няхiтрым таварам,— ён на ўсе грудзi ўдыхнуў пах асенняга лесу, балота, пах незасохлага, а толькi ледзь прыпрэлага лiсту, асакi, разбрынялай ад дажджу твані. I ён на нейкi момант напружана зацiх, бы звер, якi вярнуўся ў даўно забытыя мясцiны i баiцца, што памылiўся.

— Да Заляддзя многа? — запытаўся ён у бабулькi.

— А не. Кiламетраў сорак. Купi яблычка, пагрызеш.

— Пагрызу, як i ты — адным зубам.

— А цi старэй за мяне? Як кавалер якi выглядаеш.

— I цябе, каб намазаў, то пайшла б у нявесты.

— Ужэ i нявеста з мяне! То сватай!

Фёдару прыемна было слухаць знаёмую, крыху распеўную гаворку — і неспакойна, турботна, як пры вяртанні да даўніх сяброў.

...А лесу не было, не было знаёмага густога паху хвоі, восеньскага верасу. І калі скончылася поле і пачаўся лес, Фёдар ведаў, што гэта зноў пералесак з выбітымі каровінымі нагамі сцежкамі, з паламанымі кустамі бярэзніку, ведаў, што небяспечна заставацца ў такім лесе на днёўку, але і ісці было нельга — маглі заўважыць.

Ля самага ляска за руннню быў відзён хутар: гумно наводшыбе, прадаўгаватая, як прыплюснутая, хата, насупраць яе хлеў, і ад хаты сцяжынка па полі ў лагчыну, у густы, як запацелае акно, восеньскі туман.

Фёдар асцярожна ад гумна перайшоў да хлява, доўга ўглядаўся з-за вугла ў цёмныя падслепаватыя вокны, прыглядаўся да дзвярэй у сенцы — і аж здрыгануўся ад хрыплага пеўневага крыку ў хляве. Потым ужо здзівіўся, што і ў вайну спяваюць пеўні.

З аўтаматам напагатове ён перабег двор, прытуліўся да дзвярэй, азірнуўся і пагрукаў прыкладам.

У хаце было ціха.

Фёдар пагрукаў мацней.

Хтосьці выйшаў з хаты і нерашуча спыніўся за дзвярыма.

— Адчыні, хазяін!

Чалавек за дзвярыма загрукаў засаўкаю і ледзь толькі паспрабаваў прыадчыніць дзверы, як Фёдар моцна штурхнуў іх нагою, хутка ступіў за парог, не зводзячы аўтамата са шчупленькага чалавека ў белай кашулі, які адной рукой прытрымліваў штаны, а другой рукой паціраў стукнутае дзвярыма плячо.

— Што пан хоча?

— Адзін дома?

— Дзеці...

Фёдар яшчэ раз уважліва паглядзеў на двор, на поле.

— Зачыняй дзверы на ўсе замкі! — загадаў гаспадару.

У сенцах зямліста пахла выбранай бульбай, буракамі.

— Ідзі ў хату!

Белая гаспадарава сарочка была добра відаць у змроку.

Гаспадар адчыніў дзверы ў хату і спыніўся ў невялічкім пакойчыку.

— Хто там? — паказаў Фёдар аўтаматам на дзверы насупраць.

— Дзеці спяць, пан.

— А тут? — Фёдар кіўнуў галавою на другія дзверы.

— Кухня, пан.

— Заходзь.

Гаспадар штурхнуў дзверы, увайшоў і спыніўся перад маленькім акенцам. Ля печы стаялі чыгуны з бурачнікам, ляжалі дровы. Печ была адслонена, і засланка ляжала на адным з чыгункоў. На засланцы была шэрая кучка попелу, толькі што выбранага з печы.

Фёдар прысеў на ўслонак, прытуліўся «сідарам» да сцяны — каб не так ціснула на плечы, аўтамат паклаў на калені.

— Павярніся сюды! З хаты ніхто не выйдзе. Я буду цэлы дзень у цябе. Найдзі чаго есці. Немцы тут часта бываюць?

— Учора, пан, паліцаі...

— Нюхаешся з імі?

— Не, пан. Усё выбралі. Ні каліва...

— Ты з паліцаямі?

— Не, пан. Ні з кім. А ў каго вінтоўка, той і сільны, пан.

— Пакорміш мяне. І ніхто не выйдзе з хаты, пакуль я не пайду! Чуў?

— Чуў, пан. Няма ні каліва. Сямёра дзяцей...

— Дзе жонка?

— Памерла, пан.

— Памерла? — перапытаў Фёдар, улавіўшы няўпэўненасць у голасе гаспадара.

— Паліцаі, пан, зглумілі ў лесе. Захварэла...

— Ладна. Пакармі — і ўсё на гэтым.

— Няма, пан.

Гаспадар нерухома стаяў перад Фёдарам, прытрымліваў штаны, нібы гэта не на яго быў накіраваны аўтамат. Маленькі зарослы тварык быў бледны і стомлены,

вочы глядзелі з-пад ілба галодна, і Фёдар пасунуў уперад сумку, дастаў вобмацкам пачак грошай.

— Пяць тысяч марак. Схаваеш і накорміш, а не...

Гаспадар раптам схамянуўся, падскочыў, нібы яго тузанулі ўгору за рэдзенькія і лёгенькія валасы на макаўцы, схапіў грошы і ледзь паспеў падхапіць штаны, на якія быў забыўся.

— Пайшлі, пан, пайшлі!

Мёртвыя вочы яго загарэліся, ажывіўся бледны твар, і ён не ведаў, куды сунуць грошы. Ён асмеліўся і пацягнуў Фёдара за плячо, і Фёдар устаў.

— Пайшлі, пан. Жывом!

У сенцах Фёдар спыніўся, вызваліў плячо ад рукі хутараніна. Невядома было, чаго ён так радуецца грашам, за якія тут нічога не дастанеш.

— Куды вядзеш?

— Схаваю, пан. Ніхто не ўгледзе!

— А есці?

— Прынясу, пан!

— Дзе возьмеш?

— Тут за дзве вярсты, пан, брат мой. Баіцца, каб млын не спалілі. За грошы дасць! Жадзён на іх!

— Стой, ідзі будзі большага хлопца!

— Навошта, пан? Я...

— Будзі!

— Хай пан не баіцца!..

— Ну!

Пад трыма густымі елкамі было наслана сена; відаць, не раз тут хаваліся людзі,— валялася бляшанка з-пад кансервы, матавая ад расы, акуркі; хлопчык, гадоў адзінаццаці, бледны і тоненькі, у бацькавым фрэнчы, без шапкі падкурчваў пад сябе ногі і спакойна глядзеў на Фёдара, на ўсе пытанні ведаў толькі «не», «не знаю», «не бачыў». Гаспадар аддаў сыну фрэнч, а сам так і пайшоў толькі ў кашулі. Хлапчук не баяўся Фёдара, мо не здагадваўся, што ён за заложніка, ці проста прывык да ўсяго за тры гады вайны, як прывыкаюць і дарослыя, а яму было лягчэй — не ўсё разумеў, не ўсё спасцігаў галавою.

Гаспадар вярнуўся праз добрых паўтары гадзіны. Фёдар ужо пачаў быў хвалявацца і на ўсякі выпадак паставіў у аўтамат поўны дыск. За плячыма ў гаспадара быў мяшок, у руцэ вядро.

— Не бойся, пан, ніхто не кране.

Гаспадар быў вясёлы, нібы нават крыху выпрастаўся, пабольшаў.

— Дзе ты столькі прападаў?

— У брата, пан.

У вядры была заскварaная да жаўцізны капуста, і ў Фёдара аж звяло сківіцы. З мяшка гаспадар вытрас проста на сена два круглыя боханы самапечанага хлеба, загорнуты ў чыстую анучку кавалак тоўстага, паўз краі чуць пад'ялчалага сала і бутэльку гарэлкі.

— Цяпер жывом, пан!

Чалавек радаваўся, як дзіця.

Фёдар пільна глядзеў на яго. Стома крыху прайшла, праходзіла і санлівасць, і зноў пачынала даймаць трывога: усё ішло навыварат, не так, як гэта павінна быць па няўмольных законах вайны, канспірацыі. ...Чалавек хадзіў да другога... Той можа здагадацца... Млынар... Пайсці — застануцца двое, якія бачылі яго... Куды ісці?..

— Што ты яму сказаў?

— У п'яных паліцаяў украў грошай! Дзецям яда, пан!

Ён быў задаволены сваёй выдумкай, хоць грошы новенькія.

— А калі ён...

— Нічога, сыны ў лесе хаваюцца.

— Чаго?

— Не хочуць у паліцыю. Сам баіцца! Выпі, пан! — З кішэні гаспадар дастаў кубак з адламаным вушкам і працягнуў Фёдару.

— Сам давай.

Гаспадар наліў, стаў на калені, выпіў, пакрывіўся, дастаў з другой кішэні нож, нарэзаў па разасланым мяшку хлеба, сала і пачаў есці.

Фёдар таксама крыху выпіў, дастаў лыжку і ўзяўся за капусту.

Хлопчык моўчкі глядзеў на іх.

— Бяры еш,— кіўнуў яму Фёдар.

— Лыжкі няма.

— Сала бяры.

— Бяры, Зэнак, бяры,— абазваўся і бацька.— Пан, а пан, будзе добра! Пан партызан?

— Нашто табе?

— Хлопцы, пан, партызан хочуць, а іх няма.

— Ну і што?

— Забяры, пан. Добрыя хлопцы!

...Калі што якое, то першая чарга па ім...

Гаспадар смачна еў сала з мяккім пахучым хлебам, пакручваў галавою на худой жылістай шыі як збіраўся зараз пад'есці навек.

— Пазваць, пан?

— Каго?

— Хлопцаў!

— Дзе яны?

— Тут.

Фёдар схапіўся за аўтамат, шалёна бліснуў вачыма на гаспадара, але той спакойна жаваў і ўсміхаўся.

Два чалавекі сядзелі пад кустом метраў за трыццаць, чулі ўсю гаворку. У аднаго за плячыма была вінтоўка, другі меў на плячы нямецкі аўтамат.

Гаспадар узяўся за Фёдараву лыжку і сёрбаў капусту.

...У тую ж ноч яны выйшлі на «жалезку», якую і праўда вартавалі вясковыя дзядзькі з палкамі. І поезд у тую ноч пайшоў пад адхон, пайшла па наваколлю пагалоска пра партызан.

А праз дзевяць дзён яны вярталіся ў атрад. З Фёдарам было ўжо сорак два чалавекі, што туляліся па лясах вакол хутароў. За імі заставаліся сувязныя, свае хутары, былі сцежкі і дарогі ў новы раён, свае «вочы» і «вушы», паролі — усё, што ведаў толькі адзін ён...

Яшчэ раз прабеглі абапал дарогі рэдзенькія алешынкі ў цёмнай, як адцэджанай з паранай бульбы, вадзе, на якой суха і чорна плавала апалае лісце ці не адзінага дрэва, што так непрыкметна восенню і першым зацвітае вясною. А далей пайшоў хваёвы бор, густы насуплены ельнік з доўгай, але прывялай ужо, зблытанай восеньскаю травою пад спаважнымі ніжнімі лапамі, а далей пачала не-не ды і праглядваць зялёная, свежая яшчэ, не пацямнелая ад марозу, жывая зеляніна руні, і Фёдар аж прыўстаў з сядзення, падаўся да акна — тут было ўсё, што ўспаміналася, і Фёдар падхапіў чамаданчык, прытрымліваючыся за спінкі ся-

дзенняў, заспяшаў наперад, хоць не думаў, не ведаў — нашто выходзіць?

Аўтобус накатам пакаціўся ў лагчыну.

— Пастой, браток! Тут мне.

Фёдар перайшоў на другі бок шашы, па некрутому адхону сышоў да тоненькіх рабін з цёмнымі, бліскучымі ствіламі і галінкамі, з ужо пакляванымі птаствам гронкамі.

Ён не памыліўся. Асела толькі гумно, як уціснулася ў зямлю, прытулілася да яе; хата ўсё такая ж доўгая, толькі пакрыта гонтай, ашалявана і нібы пастрайнела, шалёўка пафарбавана чырвонай, ужо крыху выцвілай фарбай.

Фёдар ішоў старой, знаёмай яму сцежкай і пільна прыглядаўся навокал.

Вокны таксама пабольшылі, выразалі сцяну пад страху, і ў хаце ці не крыху прыцемнавата? І лес, здаецца, падступіў бліжэй, падрос, стаў чыстым гайком некалі густы, кусцісты бярэзнік.

А пад вокнамі — малады, пасляваенны сад, падсеяны цімафееўкай.

І ад жоўтага восеньскага бярэзніку неяк святлей і весялей выдае адзінокая чалавечая сядзіба.

Ля парога замест пляскатага каменя невялікі ганачак, збітая з трохкутных рэечак драбінка — выціраць ногі. І дзверы ў сенцы новыя, не пагрызеныя свіннямі. У сенцах падлога пафарбаваная, заслана дываном да дзвярэй у хату, абабітых сухой тынкоўкай.

...Ужо часта і падоўгу дзьмулі халодныя, прапахлыя вадзяністым снегам паўночныя вятры, нават ішоў снег — мокры, камякаваты, раставаў на настылай зямлі і яшчэ больш рабіў гразі. Такой парой Фёдару зноў выпала ісці цераз гэты хутар, заходзіць да маленькага гаспадара-ўдаўца, які ўсё сыпаў свае бясконцае «пан», хоць і прызнаўся, што сам не ведае, беларус ён ці паляк, ці тое і другое.

Па дарозе «туды» Фёдар абмінуў хутар, не хацеў, каб хоць хто ведаў, што ён быў «там» — на крыху багацейшым хутары ў рослага, маўклівага Сцяпана, які быў не толькі сувязным, а сваім і ў разведчыкаў — сам трымаў сувязь і з раённым гарнізонам, з чыгунач-

ным вузлом, у руках яго была добра наладжаная і надзейная арганізацыя.

У Сцяпана яму нельга было заставацца і нічога не выпадала, як сківець цэлы дзень пад трыма елкамі...

Падлога ў прыхожай таксама пафарбавана, тыя ж, пафарбаваныя белым, дзверы ў залу, направа — на кухню. І шпалеры замест парудзелых абарваных газет.

— Сюды заходзьце! — абазваўся мужчынскі голас.

Дзверы ў залу былі крыху прыадчынены.

— Дзень добры,— прывітаўся Фёдар.

— Дзень добры. Прысядзьце.

Невысокага росту, з малым хударлявым тварам, але шырокі ў плячах, мужчына гойдаў дзіцячую каляску.

— Вы мо па страхоўку?

— Не... Барсуковага сала думаў папытацца...

— Хворы хто? Няма. Я не стралец.

— А што гэта вы за няньку?

— Жонка ў горад паехала, а я сёння не на трактары.

— То бацька б хоць...

— Памёр, скора тры гады будзе...

— Але, старасць...

— Не такі і стары. Семярых за вайну выгадаваў, пракідаўся... А дома я адзін асеў.

...Цэлы дзень нізка і нядобра плылі снегавыя хмары, але снег не пайшоў, не было і дажджу, а на вечар хмары разышліся, зусім недарэчы высвяціў месяц, пачала халоднай скарыначкай падстываць гразь, і ў лужынках тонка і лёгка сцяўся лядок.

Прыцемкамі Фёдар зайшоў у хату павячэраць на дарогу.

— А помніш, пан, як баяўся? Я чалавек добры. Шкоды нікому не зрабіў. Я не так, як Сцяпан, бясплатна вам рабіць...

— Які Сцяпан?

— З Прыкрынічнага хутара. Я, пан, усё ведаю!

— Што ты ведаеш?

— Я рана ўстаю, пан. Бачыў, як вы ішлі. Я вас адразу пазнаў, пан. У мяне да вайны чалавек жыў. Грошай надаваў! Пад елачкамі спаў, на паязды хадзіў глядзець, нешта запісваў... Я чалавек добры...

Фёдар не чуў, што далей гаварыў гаспадар, глядзеў на яго да чорнага заношаную кашулю пад расшпіленым фрэнчам і думаў, што калі прагаворыцца гэты чалавечак, калі выйдзе гестапа на след Сцяпана, які звязаны і з падполлем на чыгуначным вузле, і з агентураю ў райцэнтры, будзе столькі крыві і ахвяр!..

— Пайшлі, правядзеш мяне.

— Пан...

— Пайшлі!

На нагах хутараніна мокрыя, разбітыя — адзін без абцаса — салдацкія чаравікі, зашнураваныя канаплянай аборачкай. Дзеці ўжо спалі на падлозе, на саломе, засланай рыззём.

Свяціў месяц, і па ім лёгка і хутка слізгацелі абрыўкі абложных дзённых хмар.

— Станавіся!

— Пан камандзір!..

— Павярніся!

— Пан!..

Ён не мог больш вымавіць ні слова, толькі, як рыба на беразе, раскрываў рот. Нізка віселі абцягнутыя полы яго фрэнча, і сам ён, худы, маленькі, нікчэмны і нікому не патрэбны, халодны і галодны, усё варушыў вуснамі, слепа і спуджана глядзеў на Фёдара і не ведаў, за што, навошта яго расстрэльваюць, але не працівіўся, раптам абвяў, быццам зміры́ўся з лёсам, паволі павярнуўся тварам да сцяны і раптоўна, як нешта ўспомніў, устрапянуўся, павярнуў галаву, каб азірнуцца, але позірк натыкнуўся на аўтамат, халодны ў месячным святле, і гаспадар павярнуўся да сцяны, прытуліўся да яе лбом і безжыццёва апусціў нечакана доўгія, амаль да каленяў, рукі.

Азірнуўся Фёдар: да шыбіны прытуліўся белы ў месячным святле дзіцячы тварык, і адтуль было відно, як стаяў бацька, як стыў аўтаматны ствол. А шасцёра яшчэ спала...

Фёдар паглядзеў на вузкія плечы, што пакорліва чакалі чаргу, якая кончыць усю муку чалавека на гэтай зямлі, павярнуўся і пайшоў, і калі агляну́ўся, ча-

лавек усё стаяў плячыма да месяца і з акна на яго глядзеў белы дзіцячы тварык.

Фёдар ведаў, што, калі будзе правал, застрэліцца са свайго любімага «вальтэра».

— То я пайду. Думаў — дастану.

— Няма. Каб ведаў, сказаў бы. Мо ў леснікоў папытайце.

— Да ўжэ ж. Прабачце...

Фёдар ішоў узмежкам, потым поплаўчыкам рыжым, вытаптаным жывёлай, па выбітай вузенькай сцяжынцы, і за шашой насустрач яму выходзіў той вялікі лес, і ў ім аднолькавыя пры жыцці, улетку, дрэвы цяпер розніліся, кожнае было само сабой, як і людзі перад смерцю.

Ён яшчэ доўга стаяў на шашы, глядзеў на хутар, дзе гадавалася маленькае дзіця, і не спыняў ужо трэцюю спадарожную машыну...

*1970*

# СОНЕЧНЫ СНЕГ

*(Зімовая згадка)*

*Брату Лёню*

Была пара зіхатлівых сонечных дзён, высокага неба і да слёз іскрыстага снегу ў палях. У такія дні здавалася цёмна ў хаце, калі ўвойдзеш з двара, і хацелася зноў выйсці пад гэтае шчодрае сонца, пяшчотнае неба, якое трывожыць душу кволым прадчуваннем вясны, што так няскора і далёка, бо толькі пачатак лютага, бо яшчэ будзе бясконца гусці густы, ліхі вецер, будзе нізкае каламутнае неба і мяцеліцы, мяцеліцы ў страшным сваёй пустэчаю полі, а там няўтульна і адзінока адчуваеш сябе, і страшна ад магільнай цішыні, якая тоіць у сабе незразумелую глухую трывогу чалавека, калі ён адзінокі, калі зрушылася шчаслівая душэўная раўнавага; і нават як угледзіш такі прыветны і цёплы агеньчык ускрайняй вясковай хаты з абмеценымі снегавым пылам вокнамі і сценамі, усё роўна не заспакоішся, нават у прыветным хатнім цяпле. Усё будзеш як сярод поля, усё не будзе спасу ад трывожных думак...

Але пакуль што было светла, добра і шчасліва — гэтак, як бывае рэдка, бо колькі б ні прайшло часу, раптам сярод неспакою ўспомніцца гэты момант, і ты здзівішся — ці і праўда было такое свята? І нібы прысядзеш у цёмнай хаце ля адчыненых дзверцаў печкі, ад полымя ў якой хістаюцца на падлозе і сценах чырвоныя водсветы, і не ўтрымаешся, каб не працягнуць насустрач цяплу рукі.

Пашанцавала і мне на некалькі дзён такога свята чысціні і паўнаты душы.

І ў адзін з гэтых дзён з вуліцы, парыпваючы сыпкім марозным снегам,— я, здаецца, усёю сваёй істотаю адчуваў, як рыпіць снег,— да акна падышоў мой дзядзька, стукнуў у шыбіну, усміхнуўся чырвоным ад марозу тварам, кіўнуў галавою, і я зразумеў па руху вуснаў:

— Пойдзеш?

Ён шчасліва ўсміхнуўся майму адказу і паспешна затупаў па вуліцы, у бітых валёнках, у ватніх штанах і шапцы з хромавым, ужо парэпаным чорным верхам, вушы якой завязаны на патыліцы, з сахарам на плячы.

І пакуль я апрануўся, дастаў з-за шафы стрэльбу і выбег на двор, ён ужо ішоў па вуліцы, трымаючы на сырамятным павадку вялікага, з чорнаю спіною і падпарымі бакамі ганчака, які нецярпліва павіскваў ад прадчування свежага, такога пахучага і дурманячага звярынага следу.

— Успеем да вечара падняць што?

— Павінны. Я аднаго прыгледзеў, з поля сёння зайшоў у хвойнік. Завернем, глянем.

— А як вы з работы?

— Накідаў апошнія сані гною. Павезлі хлопцы. Душа мая чуе, што сёння так не будзем!..

Ужо крыху прахалодней у полі, чым удзень, і ледзь прыкметна гусцее блакіт неба, і не так балюча слепіць вочы снег, але ён яшчэ не такі, як вечарам, калі схаваецца за небакраем напружана-чырвонае сонца і там, дзе яно зайшло, вісіць вузкая марозна-шэрая палоска, а над ёй спачатку чырвань, а потым светлая празрыстасць, якая будзе доўга-доўга, нават пасля таго, як патухнуць вясковыя вокны і высвеціць ваўсю лупаты месяц.

У лесе гэтак жа ціха, як і ў полі, толькі зрэдку цінькне сініца, і здаецца, чуваць, як з галінак, на якіх скача неспакойная птушка, сыплецца лёгенькі снегавы пыл. Настыла, струнка выцягнуты сосны, нібыта ўслухоўваюцца і ўглядаюцца ў высокае неба,— насцярожаныя нечаканаю сонечнаю ласкаю, баяцца падману; калі падзьме вецер, заківаюць вяршалінамі, зашумяць — ведалі мы такую долю! — і будуць варушыць шырокімі плячыма, абтрасаць ліпкі цяжкі снег, пакуль не знясіляцца, не скорацца прыгнутыя снегам галіны; і будуць нявесела стаяць сосны, засмучаныя і ціхія, і ўжо потым, як прыгрэе сапраўднае веснавое сонца, саслізне па іглiцы снег, паволі выпрастаюцца галіны і будуць слухаць, як цяжка і пыхка падае долу снег — нібы па ўсім лесе пойдуць затоеныя ўздыхі палёгкі.

Сабака, які адразу ж прапаў у лесе, коратка, як ад удару, віскнуў зусім побач — ці не з-пад самага носа грабянуў снег шырокімі «лапцямі» заяц, ужо даўно насцярожаны? — і пайшоў горача і часта яхкаць, і далёка, з канца ў канец па лесе загуло раскацістае рэха, і па вузенькай сцежцы, пад узгорак, насустрач нам замільгаў цёплы, спуджаны камячок, поўны жыц-

ця, у якім і сонца, і свежы марозны снег, і такія смачныя тонкія дубцы яблынь у вясковых садах, а на аселіцы, на былым калгасным агародзе, у кучках замеценага снегам націння, замёрзлы лісток бурачніку ці нават і забыты людзьмі бурачок! І столькі жадання, сілы, спрыту, каб вырвацца, уцячы ад гэтага злоснага, страшнага голасу і доўга яшчэ шчасліва імчаць пералескам, полем, прысесці, паслухаць, як калоціцца сэрца! Але нешта моцнае, цяжкае ўдарыла насустрач...

І ўжо нязвыкла лежачы на баку, бачыў ён, як бег да яго чалавек, адчуў, як моцна ўзяўся за пярэднія лапы, яшчэ таргануўся ўсім целам, каб вырвацца, і цяжка павіс уніз доўгімі, нядаўна яшчэ такімі лёгкімі і быстрымі нагамі. Паволі выкаціліся і кругла застылі жоўтыя, як арэхі, вочы... Яму ўжо было ўсё роўна, што чалавек накінуў пятлю на пярэднія лапы, закруціў другую і прыцягнуў іх да шыі, закінуў за плечы паслухмяна мяккае, выцягнутае цела, і па доўгім жалабку вуха выцекла і ярка капнула на снег кропелька крыві.

— Гатоў! Ты бачыў, які харашун! Ах, Туз, маладзец, Туз!

Сабака абыякава паглядзеў на гаспадара і спакойна, незадаволена пайшоў уперад,— яму нецікава і непатрэбна было гэта мяккае, падатлівае і мёртвае цела звярка, яму трэба было задыхацца ад лютасці, імчаць па гарачым потным следзе, разблытваць петлі, адшукваць «скідкі», каб гнаць, гнаць, гнаць!..

— Ну, то мо пройдзем туды, у малады лес? Яшчэ ж да вечара!.. Стой! Бі!

Цецерукі залопалі крыллем адзін за адным уздоўж квартальнай прасекі — з распушчанымі хвастамі, цяжкія і чорныя, як патэльні. І добра, што ні аднаму з іх не ляжаць на снезе, раскінуўшы чорныя з белымі акенцамі крылы, не глядзець здзіўленымі застылымі вачыма з-пад аксамітна-крывавых серпікаў брывей!

І зноў гучна азваўся сабака, і дзядзька трушком пабег наперад па прасецы са стрэльбаю напагатове, прытуліўся да сасёнкі і напружана ўглядаўся то ў адзін, то ў другі бок па сцежцы — а раптам выскачыць шарак на шчыльны, утаптаны нагамі снег, каб «скі-

нуцца» за ядлоўцавы куст і заблытаць сляды. О, як ён любіць такія штукі! Адкуль жа ведаць, што гэтыя хады даўно разгаданы!.. І ўсё, такое патаемнае і хітрае, бачыцца, як на далоні, і здаецца смешным і наіўным, усё роўна што дзіцячыя хаткі з пяску, якія змые лёгкая, пакуль што далёкая хваля вялікага і ўпэўненага ў сабе мора.

Усё бліжэй, бліжэй голас ганчака, зусім побач, нябачны ў ельнічку, праходзіць звярок, а за ім і сабака, і ўжо кружаць далёка, яшчэ больш разагрэтыя і зацятыя, і цяжка разагнуцца — зацяклі ногі, баліць спіна і анямелі, памерзлі рукі.

Хочацца закурыць.

Звечарэла. Неба тугое і цёмнае, і на вяршыні маладое елачкі вяліка, зялёна свеціцца ранняя адзінокая зорка; паветра па-веснавому марознае, якое хочацца ўдыхаць на поўныя грудзі: у ім няўлоўны водар і чуць прыадталага ля дрэвавых ствалоў снегу, і хвоі, і бярозавага веццяў; самыя вяршыні бяроз яшчэ асветлены сонцам, і белая кара мякка, пяшчотна ружовіцца, а снег, такі бела-калючы ўдзень, адсвечвае тугою, глыбокаю сінечаю неба.

На вузкай лясной сцежцы цёмна і зацята-глуха, і ад гэтае глухаты неяк не па сабе сярод кашлатых ялін, пад сагнутымі, як аркі, над сцежкаю бярозкамі, за якія чапляюцца ствалы стрэльбы; і недзе ў душы варушыцца патаемнае жаданне вярнуцца назад, на прасеку, ісці шпарка, каб пахрумствала пад нагамі, паціхеньку пасвістваць...

— Ай-яй-яй! Ту-у-з! Ту-у-з!

Звонка разнёсся па лесе дзядзькаў голас. Ён стаіць, прыслухоўваецца, аглядаецца на шоргат крокаў.

— А, гэта ты! Добра, што падышоў: пойдзем напрасткі на Горацкую дарогу. Чорт яго дазавецца! У поле пайшоў — не дажджэшся. От здуравалі, што не выбеглі на другую дарогу! Быў бы заяц наш!

Дзядзька зноў услухоўваецца ў ледзь чутны адгаласак гону, удыхае на поўныя грудзі. Яму радасна ад марознасці, свежасці, ён усміхаецца і зноў звонка гукае:

— Ай-яй-яй! — і стаіць, слухае, як звонка і молада блудзіць па лесе яго голас, знімае з пляча стрэльбу і страляе ўгару.

— Пайшлі. Захоча — дагоніць! Але ж пакуль не здаволіцца — не кіне. Ногі толькі парэжа: на ноч цалік узяўся. Такая зараза!

Дзядзька ідзе наперадзе, няўклюдна і, здаецца, няспешна.

Узышоў месяц, і ад маладога, пасаджанага радамі хвойніку на бледным снезе — цёмныя цені.

На дарозе, па адзін бок якой поле, а з другога лес, ціха і пустэльна, толькі недзе далёка пафырквае конь і парыпваюць гужы, шкляна адсвечваюць слізкія сляды палазоў на дарозе. Ва ўсю свеціць месяц, зоркі яркія і па-веснавому буйныя; поле пад месяцам не такое прасторнае, і, як удзень, ніжэйшым здаецца неба і бліжэйшым небакрай. Снег не слепіць вочы, а свеціцца адзінокімі крупінкамі, у месячным сумным святле ў полі кожны снежны ўзгорачак бачыцца здаля, няўлоўна, мякка адценены...

У вёсцы цішыня, і толькі ярка і спакойна высвечваюць вокны.

— Ну, то дабранач, нябожа!

Дзядзька яшчэ пастаяў, прыслухаўся да ночы, нібы хацеў пачуць аднекуль з-за лесу голас ганчака, потым пайшоў, і было чуваць, як парыпваў далёка на вуліцы снег у яго пад нагамі, потым грукнулі дзверы — і зноў стала ціха.

...І калі засыналася, бачылася сонечнае поле, адзінокая ранняя зорка і ружовы водсвет заходзячага сонца на бярозавых ствалах. Апошнім адчуваннем быў глухі шум — па бляшаным даху саслізнуў долу падмёрзлы ноччу снег, што быў па-веснавому крыху растаў за дзень.

*1969*

# ЗАВУЛАК

Ціхі завулак са старымі драўлянымі дамамі, з бліскучаю доўгаю травою паўз платы, адзічалымі кустамі руж у густым павуцінні і белых росах пачалі зносіць. Гаспадары наспех прадавалі хаты падгараджанам, і амаль штодня ў завулку гулі нагружаныя бярвеннем машыны, «Беларусы» з прычэпамі, а па сценах хат у лёгкім сухім пыле расходжвалі самавітыя вясковыя дзядзькі ў кірзавых ботах, з ламамі і сякерамі, падважвалі і па лагах спускалі долу панумараванае чорнаю фарбаю бярвенне, разбіралі печы і акуратна, у слупкі, складалі цэглу. І праз два дні на месцы былога жылля ляжалі толькі кучы глінянага друзу, варушыліся пад ветрам парудзелыя абрыўкі шпалеры, газет, і сумна і пуста стаялі сады,— пакінутыя чалавекам, яны падобны на пакрыўджаных, бездапаможных дзяцей.

Валі было шкода садоў, шкода кустоў бэзу, якія толькі зацвілі і якія ламаў хто хацеў, шкода бярозак, што так і стаялі там, дзе былі платы — з прачосамі і ржавымі слядамі ад цвікоў, калі бярозкі былі жывымі шулкамі ў плоце. І гэтае шкадаванне і жаласлівасць мо былі і ад таго, што ёй даводзіцца ляжаць у ціхім, крышку прыцемным пакойчыку і няможна выйсці на двор, дзе так многа святла, прастору і сонечнай ласкавасці, дзе такія цёплыя, мяккія чорныя вечары, шчымліва-салодкая трывога, прадчуванне незвычайнага і цудоўнага, без чаго ў маладосці ніяк немагчыма... І ўсё ж як ні цяжка і сумна было на сэрцы, жыло ў самай патаемнай яго схованцы вечнае пачуццё шчаслівасці і вялікай радасці жыццю, калі ўсё яшчэ ўперадзе, калі жыццё яшчэ не зведана і здаецца такім заманлівым і абавязкова добрым, калі ў чалавека, як бы ні быў ён засмучаны, свеціцца ў вачах гарачыя іскрынкі...

І да таго ж у Валі ўсё найлепш складвалася гэтаю вясною, яшчэ з таго часу, як пачало прыграваць сонца і рабіўся мяккім снег, калі слаба і няўпэўнена пачыналі сачыцца першыя ручайкі. Было гэта мо таму, што

прыжылася яна ў горадзе, прывыкла да свайго па-вясковаму ціхага і ўтульнага завулка, да кватэры — невялічкага пакойчыка, абклеенага даўным-даўно шпалерамі і некалі белай — цяпер парудзелай — папераю на столі. Пазнаёмілася з Валодзем...

Яна ўспаміналa, як хадзілі з мацерaю ад хаты да хаты і не маглі знайсці кватэру. І Валі шкода было глядзець на яе, такую негарадскую: у чорнай новай куфайцы са слядамі мелу на рукаве, якім быў напісаны нумар яшчэ на фабрыцы, у бліскучых гумавых боціках з высокімі халяўкамі, у вялікай кулястай хустцы-тарыноўцы,— неяк задажджыла, не па-жнівеньску захаладала, і таму маці ўбралася, як зазімкам. Яна, як і Валя, была нясмелая і чужая ў горадзе, не мела нікога знаёмых, ім бы абедзвюм не было дзе пераначаваць, каб не знайшлі кватэру — тут, у завулку, у нізкай хацінцы з абмазанымі звонку глінаю пазамі, каб не так дзьмула ўзімку; гаспадыня была старэнькая, цёмная, маршчыністая з твару, у круглых акулярах...

Усё гэта было, здаецца, даўно: і збянтэжанасць, і нейкая спалоханасць, і адзінота ў шумных студэнцкіх аўдыторыях, і цяжкі неадольны сум, які часам прарываўся такім няўрымслівым жаданнем — паехаць! Назад, дадому, за цёмны, непрыветны восенню лес, дзе так прасторна і добра нават у восеньскую пахмурнасць, дзе такі знаёмы і халодны пах туману і размоклых гразкіх палёў, на якіх толькі вузкімі палосачкамі рудзеюць быльнікам палявыя межы-дарогі!

Цяпер смешна, што не ведала аднакурсніц — Ірку, Ніну, Веру, неўгамоннага балбатуна і штукара на ўвесь курс Кірыка... А як хвалявалася і не спала ночы перад экзаменамі першай сесіі! Недарэмна старшакурснікі гавораць, што той студэнт «на ўсе сто», хто здаў першую сесію. І як страшна ісці з самага ранку і чакаць, пакуль прыйдзе выкладчык, потым сваю чаргу ля дзвярэй, на якіх коратка і значна напісана: «Экзамен!» І як падае сэрца і аж звоніць увушшу перад сталом з роўна рассыпанымі белымі лісткамі білетаў! Аж вочы хочацца заплюшчыць. А потым, як выбежыш з аўдыторыі, бесталкова і шчасліва адказваць на бясконцыя пытанні, якія сыплюцца з усіх бакоў: што? як?

І стомлена і спакойна ісці дадому, зайсці ў магазін, купіць пругкага, пасыпанага цукрам мармеладу і дома есці яго — зусім як у дзяцінстве — з булкаю і халодным малаком...

Валя адкінулася на падушку, паклала на стол уверх вокладкамі разгорнутую кнігу,— кніга была тоўстая, нецікавая і, здавалася, бясконцая. Яе прынёс Валодзя ў мінулую суботу. Яна прасіла яго раней, але ён забываў і прынёс, каб хапіла надоўга. Ён абяцаў, што прыйдзе заўтра, і Валя ўяўляла, як яны пойдуць гуляць у горад, а можа, лепш у кіно: ёй нельга яшчэ многа хадзіць. Будуць ісці вузенькаю сцяжынкаю паміж урослымі ў зямлю помнікамі — могілкі старыя, даўно закінутыя. На адным канцы іх абжылася гарадская пескабаза з горамі пяшчотна-сухога жвіру, а з другога канца бульдозерам ссунулі каменне помнікаў, і вучні прафтэхвучылішча зрабілі футбольнае поле, высыпаныя вапнаю лініі якога да дажджу нечакана бялеліся на цёмнай, зрэдку парослай травою зямлі...

У дзверы пастукалі, і Валя моцна, каб пачулі, крыкнула:

— Заходзьце!

Было чуваць, як асцярожна прачыніліся дзверы, потым калыхнулася занавеска ў яе пакой, і паказаўся Ірын твар.

— Ірка!

— Салют, Валька! Ой, як у цябе добранька, прахладненька!

Ірка была ў сукенačцы без рукавоў, у чорна-белую палосачку, лёгенька падпяразаная вузенькім чорным раменьчыкам; аголеныя да пляча рукі ўжо чуць прыхапіў загар, і калі Валя дакранулася да Ірчынай рукі, адчула сонечную цеплыню.

— Як ты загарэла!

— Загарыш яшчэ. Горача!.. Ледзьве знайшла цябе.

— Добра. А то ніхто не заходзіў колькі...

— Многа, бо дэкан мяне выклікаў, пытаўся, чаму столькі пропускаў... Перад стыпендыяй, кажа, праўка трэба...

— На акне ўсё ляжыць.

3 Зак. 697

— Я ў кіно на паўдругой прыбегла... Успомніла пра дэкана. Ледзьве знайшла...

Ірка ўсё нецярпліва тупала па пакоі, стройная, з вузенькімі какетлівымі вочкамі і сімпатычна прыпухлымі вуснамі.

— І Ніны не было...

— О, яна такога фраера закадрыла! З ба́камі, высокі. З канструктарскага бюро... «Масквіч» свой!

— Праўда?

— Ой, што ты! Казала, заўтра на мора паедуць.

Ірка закруцілася на адным месцы, зірнула на гадзіннік.

— Ну, дзе спраўкі? Пайду. Мо яшчэ забягу... Папраўляйся!

— Папраўлюся.

— А што ў цябе?

— Нешта пасля ангіны на сэрцы.

— Ну, бывай!

Было чуваць, як прастукалі па ганку Ірчыны тоненькія абцасікі і нехаця, мабыць з будкі, брахнуў сабака.

Валя заплюшчыла вочы і адчула і лёгкі водар духоў, які застаўся пасля Іркі, і сонечны пах яе загарэлых рук; падумалася пра Ніну, якая заўтра будзе на пляжы — у адным купальніку, з прыклеенаю на носе паперкаю...

...Валя ехала з Валодзем на пляж электрычкаю,— нечакана пачаліся не па-веснавому спякотныя дні, і Валодзя захацеў паехаць на возера пазагараць. Яна спачатку пачала адмаўляцца, што яшчэ рана, што купацца няможна, пакуль не ападзе з дубоў мінулагодні ліст, ды яна не ўмее і плаваць. Валодзя кпіў, што яна, вясковая дзяўчынка, баіцца холаду, бы якая гараджаначка. І на пляж лепш ехаць у першыя дні, калі ўсе яшчэ незагарэлыя, белыя, як разасланыя на поплаве палотны. Валя не памятала ўжо, каб у вёсцы хто ткаў і бяліў палотны. Валодзя, мабыць, памятаў: ён адслужыў у арміі, скончыў інстытут, а цяпер канчае аспірантуру, напісаў кандыдацкую. Валодзя з самага цяпла ходзіць у рубашцы з закасанымі рукавамі і ўжо паспеў загарэць,— лазілі з хлопцамі на дах інтэрната

і там загаралі, пакуль не згледзеў камендант і не пазамыкаў на вісячыя замкі ўсе хады на вышкі.

У электрычцы было бітком набіта народу, большасцю моладзі — з сумкамі, рукзакамі, гітарамі. Валя сядзела ля акна, Валодзя побач. Адну руку паклаў ёй на плячо, а другою трымаў на каленях рукзак.

На пляж ішлі напрасткі, паўз дом адпачынку, потым мяккаю лагчынаю, па якой цякла невялічкая рачулка, плыткая, пятлястая, з падмытымі, абрывістымі беражкамі, на якіх густа раслі альховыя кусты. У лагчынцы ўжо стаялі чырвоныя «Масквічы», маленькія, тупаносыя «Запарожцы», па рачулцы плюхалася шумлівая дзятва з сачкамі ў руках. Тут прыпыняліся сямейныя, з дзятвою,— і вада цяплейшая, і за малымі менш нагляду, і магазін бліжэй.

За лагчынаю сцяжынка пайшла пад узгорак, па маладым сасновым лесе. Тут яна была ўбіта нагамі, як заасфальтаваная, халодная, пасыпаная пасохлаю, колкаю іглiцаю. І Валя, якая зняла басаножкі, калі ішлі лугавінаю, абулася.

За ўзгоркам было возера, і яны доўга ішлі берагам па сыпучым, цёплым пяску — выбіралі, дзе меней народу, дзе ўтульней.

Непадалёку ад берага, у лесе, віднеліся палаткі, чуць дымілі маленькія вогнішчы, і ля іх тупалі хлопцы і дзяўчаты, смяяліся, трэнькалі на гітарах.

— А хто гэта? — запыталася Валя.

— З начоўкаю прыехалі.

— Як з начоўкаю?

Яна ніколі не начавала ў лесе, ды яшчэ вясёлым гуртам. Вакол іх вёскі былі палі, якія яна любіла, калі красуе і спее жыта. Жытнёвае поле далёка, аж да самага небакраю, выгінаецца лёгкімі хвалямі, і тады пахне толькі жытам, нібы на ўсёй зямлі адно жыта! І добра ісці сцежкаю, гладзіць рукою пакорліва-важкія каласы, сядзець на мяжы, плесці валошкавыя вянкі, якія так пяшчотна туляцца да галавы халаднаватымі мяккімі пялёсткамі!..

— Ой, як добра!

— Добра. Я некалі на цаліне любіў сядзець начамі ля вогнішча. Стэп, цёмна, хлопцы спяць, а ты адзін...

Давай пройдзем яшчэ, там, ля лодачнай, на ўзгорку прыляжам...

Пасля абеду падзьмуў лёгкі вецер. І натомленаму ў вадзе целу было прыемна адчуваць яго цёплыя павевы — вецер свежа пахнуў вадою, соснамі, пяском, але скуру пачало горача пашчыпваць.

— Ой, згарыш зараз. Ану, марш у ваду! Абсохнеш — і дадому! У электрычцы яшчэ нямнога будзе.

— Не хочацца. Так добранька!

— Ах, лайдачка!..

Валодзя падхапіў яе на рукі і панёс у возера, і яна шчаслівa дрыгала нагамі, потым на момант заціхла — яе ўсхвалявала і збянтэжыла моц яго рук, яго цела і што ён так прытуліў яе...

Яна аж сцепанулася ад халоднае вады, спуджана загрэбла рукамі і нагамі — і паплыла! Валодзя паўдня, як ні біўся, не мог навучыць яе трымацца на вадзе, а тут раптам...

— О, сабачы брас! Маладзец!

Валодзя шумна плюхнуўся побач, падхапіў яе на рукі і пацалаваў.

— Ну!

Яна спуджана азірнулася — ці хто не бачыў? — але пляж шумеў, плюхаўся ў вадзе, гуляў у валейбол, піў сітро і лена паглядваў праз цёмныя акуляры, і яна ўсміхнулася сваёй збянтэжанасці.

Потым яны хадзілі па беразе, пакуль зусім не абсохлі.

Валодзя трымаў апусцелы рукзак за лямкі і глядзеў, як яна адзявалася, і, нібы адчуў яе збянтэжанасць, усміхнуўся і адвёў вочы.

— А я яшчэ ўсё роўна не хачу ехаць!

— Дождж будзе. Ты і так спяклася ўся. Паглядзіш, як вечарам загарышся.

— Адкуль ты ведаеш?

— Я многа чаго ведаю.

Дождж і сапраўды дагнаў іх ужо ў горадзе. Парывісты, гарачы вецер закручваў па вуліцы пыл, ярка свяціла сонца, але на яго паволі і цёмна ўставала хмара, якая, здавалася, несла навальніцу.

Валодзя купіў у гастраноме паабедаць, і яны беглі да трамвайнага прыпынку; насцярожана паглядвалі цераз расчыненыя трамвайныя вокны — ці не пайшоў

дождж? — беглі завулкам дахаты, усё роўна як гулялі ў хованкі з дажджом. І паспелі дабегчы.

Дома гаспадыні не было. І Валя збегала ў хляўчук, узяла пакладзены над дзвярыма ключ.

У хаце быў прыемны халадок, як і заўсёды ў драўляных дамах, калі не паляць у печах.

Валя адразу ж упала на ложак, раскінула рукі — аддыхацца.

А хмара ўжо закрыла сонца, нізка, нядобра зацямнелася, і вецер не сунімаўся, і адчайна трапятала тонкімі галінкамі і пяшчотным лісцем бярозка.

— Ой, як добра! — не стрымалася Валя.

— Ну-ну, упала! Я есці хачу.

— А што ты купіў?

— Булка, каўбаса, напітак...

— Давай!

Валодзя разламаў напалам каўбасу, адчыніў аб табурэтку і падаў бутэльку. Валя села, прытуліўшыся плячыма да падушкі і выцягнуўшы ногі. Цела пачынала гарэць, аголеныя рукі заружавеліся, было горача і самой,— мо таму такой смачнай здавалася булка з каўбасой і напіткам.

Калі яна крыху сагнала смагу і голад, падняла вочы, то ўбачыла, што Валодзя глядзіць на яе такім жа пільным, незразумелым ёй позіркам, якім глядзеў і на пляжы, калі вучыў плаваць, і калі апраналася, і яшчэ — яна не памятае, калі — да сённяшняга, але яна не звяртала ўвагі.

Валя збянтэжылася, кінула разгублены, устрывожаны позірк на свае далёка аголеныя вышэй каленяў ногі, памкнулася паставіць на стол бутэльку, каб аслабаніць руку і абцягнуць сукенку, але Валодзя ўстаў, падышоў да яе, узяў з яе рукі бутэльку і паставіў на стол, прысеў побач, паглядзеў у вочы, усміхнуўся, моцна ўзяў за плечы, прыціснуў да сябе і пацалаваў — доўга, да болю, чуць пакусваючы вусны; яна заціхла, адчувала, як нечым салодка-пякучым захліснула грудзі, прыліла да твару кроў; спуджана яна ўслухоўвалася ў сябе, спрабавала зразумець, што робіцца, і несвядома, інстынктыўна ўперлася рукамі ў Валодзевы плечы, паспрабавала не даццa пацалунку і адчувала, як моцна і ўладарна трымае ён яе, як млеюць яе рукі і вось-вось скорацца; але Валодзя сам адпусціў яе —

з цяжкаю палёгкаю, як нешта важнае вырашыў для сябе,— і ўзяўся за напітак.

А Валя хуценька падкурчыла ногі, прытулілася ў куток і, разгубленая, натапыраная, растрапаная, як спуджанае кацянё, усё не магла аддыхацца, супакоіцца, зразумець і адчувала, як недзе глыбока ў душы квола праклюнулася радасць.

Валодзя ўстаў і адчыніў фортку.

Навальніцы не было, аціх вецер, які спачатку парывіста біў па даху хвалямі буйных рэдкіх кропель, і дождж ішоў з шырокім густым пошумам — і па даху, і па лісці бярозы, і па зямлі: ён быў цёплы і добры. І Валодзя падсеў да Валі, абняў за плечы і расказваў, як колькі год таму назад, пасля навальнічнай жудаснай ночы са страшэннымі, здавалася, на ўсё неба, кустамі сініх ад лютасці маланак, як пасля гэтай ночы над стэпам хараша і чыста ўзыходзіла сонца, было росна — ён першы раз бачыў росным сухі стэп,— светла і парыста-духмяна пахла цвёрдая, як мазоль, зямля і гаркава, дурманліва — невялічкі, бедны стэпавы палын. І не хапала грудзей, каб удыхнуць гэтую нечаканую жывую свежасць... А калі ехалі абедам на машыне, услед гэтак жа, як і штодня, віўся густы, дробны пыл і парыпваў на зубах.

Валя даверліва слухала, а потым, як і Валодзя, задуменна глядзела ў акно, на дождж, на буйныя бурбалкі, што ўскоквалі на лужынах. А Валодзя ўспамінаў тую ноч у стэпе. Ён тады начаваў не з хлопцамі, а ў пустой суседняй будыніне, на трысняговых матах, засланых старымі вайсковымі бушлатамі. З ім была Іра, паварыха, Валодзевых год дзяўчына. За ўвесь час знаёмства яна ніколі не дакарала яго, не патрабавала ад яго нічога, толькі каб браў з сабою на лета — і ў экспедыцыі, і на цаліну. Яна ў тую ноч сумна гаварыла, што яны апошняе лета разам, і ён пры сініх сполахах бачыў яе няшчасны заплаканы твар і суцяшаў, што гэта няпраўда, што яны будуць сустракацца, і разумеў, што Іра кахае яго, як ніхто не кахаў і ці пакахае яшчэ так, ды і сама яна наўрад ці будзе кахаць яшчэ другі раз так шчыра і аддана... І ўсё роўна ў іх нічога не зладзіцца: ён канчае аспірантуру, пара, як і ўсім людзям, жыць, абжывацца, заняцца работаю, ды не хлопчык ён, трэба сям'я, жонка, якая б умела

павесці яе, а Іра — чуйная і трапяткая, як струна, балючая, навечна неспакойная і пакахала яго за бадзянні. Ён не мог зразумець, чаму яна такая, як не мог уявіць яе і самавітаю гаспадыняю, нібы і нарадзілася яна з гэтаю зрушанаю раўнавагаю душы і балючасцю сэрца, якому вечна мучыцца і шукаць...

Яшчэ зімою ён атрымаў ад яе паштоўку: выйшла замуж за лейтэнанта. Ці гэта проста выдумала для яго, каб усё кончыць?..

Валодзя пайшоў адразу ж, як перастаў дождж.

Валя ўстала, зазірнула ў люстра, пакратала пальцам прыпухлыя, непаслухмяныя вусны, прытуліла на момант далоні да яшчэ гарачых шчок, правяла рукамі ад плячэй па грудзях уніз, па бёдрах — і весела і шчасліва засмяялася...

Назаўтра ў яе схлупіла ў горле, балюча было глытаць, гарэў лоб, не хацелася снедаць.

І настрой быў, як і надвор'е: пасля такога летняга, шчодрага дажджу за ноч усчаўся вецер, аблажыла неба, і захаладала амаль па-асенняму.

Усё ж яна адседзела на ўсіх лекцыях і потым зайшла на медпункт — з высланымі лінолеумам калідорамі, з белымі, зацёртымі да жаўцізны каля ручак дзвярыма, з пасланымі халодна-слізкаю цыратаю кушэткамі.

Жанчына-ўрач з пафарбаванымі ў саламяны колер і дробна завітымі валасамі памацала тонкімі халоднымі пальцамі пад барадою, заглянула ў рот і села нешта хутка пісаць на вузкай прадаўгаватай палосцы паперы.

— Зойдзеце, возьмеце паласканне. Стрэптацыду. Тры разы ў дзень па адной таблетцы. Малако кіпячонае з содаю, чай з мёдам добра...

— Можа, паляжаць мне? А то і галава баліць... А заўтра крос.

— Не магу. Забаранілі выдаваць усякія праўкі. Прыехала з міністэрства камісія, а вас і так не сабраць на лекцыі... Не.

У дробныя, ледзь прыкметныя маршчынкі, моцна напудраны твар жанчыны з ярка пафарбаванымі вуснамі быў звыкла спакойны.

Назаўтра Валя пайшла на крос,— праўда, не бега-

ла, стаяла пікетчыцай,— вечарам піла чай і малако. Праз дзён чатыры горла перастала балець.

...Яна толькі вярнулася з заняткаў, паставіла на пліту ў калідоры, каб падагрэлася, каву, дастала з шафы новую, у буйныя рамонкі на блакітным сукенку, прысела на ложак і раптоўна адчула, як нешта моцнае і няўмольнае пачало сціскаць сэрца. Яна ўстала, падышла да люстэрка, узяла памаду — і толькі свой збялелы твар з чырвоным пісягом памады на падбародку паспела заўважыць...

Праз адзінаццаць дзён Валю выпісалі з бальніцы, наказалі без дазволу не ўставаць, пакуль хвароба не пройдзе; яна і сама адчувала, што тая няўмольная, жорсткая рука ўсё яшчэ трымае яе сэрца і, здаецца, толькі і чакае, каб зноў заціснуць.

Урачы гаварылі, што, калі пашанавацца, усё будзе добра. Валя верыла ім...

— А-ап!

— Ой, Валодзька! Як ты пракраўся?

— Па-кашачы. Ну як ты?

— Ляжу.

— Нічога. Я пытаўся ў аднаго знаёмага медыка. Усё ў ажуры. Ну, перарасцеш...

— І мне казалі... Давай заўтра памаленьку сходзім у кіно. Так хочацца!..

— Не спяшай. Паберагчыся трэба... Ну... Знаеш, мы думаем заўтра з хлопцамі на начоўку паехаць... Я табе яшчэ кнігу прынёс... Паправішся — удваіх з'ездзім. Хлопцы пакрыўдзяцца... Што без гітарыста...

Валодзя спяшаўся гаварыць і не паднімаў на бледную, кволую дзяўчынку вачэй, а калі адважыўся, то ўбачыў, што Валя глядзіць у акно.

— Трэба ехаць.

Валя павярнула галаву да яго, і ён убачыў па шчырых святых вачах, што яна верыць усяму нагаворанаму, на хаду прыдуманаму.

Валя кіўнула галавою і зноў пачала глядзець у акно, дзе дзелавіта-спакойныя людзі ў брызентавых штанах і майках перагароджвалі вуліцу шчыльнымі дашчанымі шчытамі, якія бела свяціліся на сонцы і, мабыць, свежа і смаліста пахлі. І ўспамінала, як ня-

даўна сноўдаў па пляцоўцы туды-сюды бульдозер, падчэпліваў нажом маладзенькія, толькі адцвіўшыя яблынькі, і яны паволі хіліліся, бы чапляліся галінкамі за напорыстае халоднае жалеза...

І недзе далёка-далёка варушылася трывога, што не ўсё так добра за гэтымі прыгожымі агарожамі, якія ставяць разумныя, самавітыя дарослыя людзі... Але гэтую трывогу перамагала, заглушала адчуванне вялікай радасці ад таго, што яшчэ будзе столькі ласкавага, шчодрага сонца, столькі зялёнае травы, дажджоў, столькі такога цудоўнага жыцця, з верай у якое толькі і можна адзінае, сапраўднае і кароткае шчасце чалавека на зямлі.

*1968*

# ВОДСВЕТЫ ЗОРАК

Здавалася, быў не канец жніўня, а самая позняя восень,— дажджы ішлі цэлы тыдзень, халодныя і нудныя. Дарогі раскіслі, лужыны стыла і мутнавата з кожным днём большалі і ў лагчынах сталі падобнымі на маленькія каламутныя азёрцы. Машыны не прабіваліся з шашы ў лясную вёсачку, і, баючыся, каб не застацца без хлеба, кожная гаспадыня ўносіла з каморкі і заквашвала дзяжу.

Голуб сядзеў за сталом, набіваў патроны і глядзеў за акно, дзе ўсё сеяўся і сеяўся дождж. Нявесела думалася, што адпачынак не ўдаўся, што не выйшлася нават пахадзіць уволю на паляванне, паначаваць у стагах сена, ля вогнішчаў на далёкіх лясных азёрах. Знікала апошняя надзея, што наладзіцца надвор'е і можна будзе з Лідаю хадзіць па грыбы, якіх павінна быць — хоць закладай касу; думалася, што Ліда будзе ехаць сягоння вечарам, мабыць, апранутая па-гарадскому, у туфельках і без плашча. Будзе ехаць не да яго, а да сваіх бацькоў, у вёску, што за пяць кіламетраў адсюль, таксама сярод мокрага лесу і балот. Голуб уяўляў, як Ліда будзе выходзіць, магчыма, адна на начной пустэльнай шашы, потым будзе ў цемені і па гразі ісці яшчэ тры кіламетры. Ён пачынаў злавацца на яе, што ўгаварыла ехаць на адпачынак дадому,— ён хацеў ехаць на Нарач, зняць вясковую хаціну, і яна прыехала б да яго. Яны жылі б разам, хадзілі на паляванне, па грыбы, разам, толькі ўдваіх. Голуба мучыла, што яна не зразумела ці, яшчэ горш, прыкідваецца, што не разумее яго жадання быць разам, яго змучанасці ад гэтай раздвоенасці — быць з ёю нейкія тры разы ў тыдзень, кожны раз вяртацца дадому пад раніцу, каб не бачылі суседзі. Для яго ўжо прайшла тая пара шчаслівай узрушанасці спатканняў, яму хацелася, каб яна была не проста знаёмаю жанчынаю, хацелася прыходзіць да яе кожны дзень, ісці разам раніцай на работу, знаёміць са сваімі сябрамі і называць жонкаю.

Ён і зараз уяўляў, як будзе прыходзіць да яе вечарамі, глядзець тэлевізар, будзе прытварацца кавале-

рам, будзе сядзець з ёю ноччу ў настылых сенцах, цалаваць яе... І потым трэба будзе ісці дадому сцяжынкаю праз балота, набрынялае ад дажджу.

Голуб сабраў набоі, напоўніў патранташ, накінуў куртку і выйшаў на двор; зняў з мапеда, які стаяў пад страхою, цырату, якою той быў накрыты ад дажджу, завёў матор, уключыў святло, з сумам падумаў, што не па такіх дарогах ездзіць на гэтай «тэхніцы» і што трэба будзе купіць бацьку матацыкл.

Змерклася. Маці недзе забавілася ў суседак, бацькі яшчэ не было з абходу. Голуб уявіў, як недзе ідзе ён па лесе, стары, высахлы, нібы згінаецца пад цяжарам мокрае брызентавае плашч-накідкі. Ён добра помніў, як захваляваўся тады бацька, калі ён сказаў, што паедзе ў горад давучвацца ў аспірантуры. Голуб ведаў, што бацьку не хочацца, каб сын кідаў работу ў лясніцтве, але ён не запярэчыў. Ён не ведаў, што сын ідзе на работу ў міністэрства, каб быць бліжэй да Ліды. Цяпер бацька, мабыць, здагадаўся, што сын змяніў яму, але не будзеш лаяцца пасля двух гадоў ростані!

У хаце за шафаю Голуб знайшоў стары рэчавы мяшок, запхнуў у яго мацерыны новыя гумавыя боты, мацерын плашч, узяў у кішэню ліхтарык.

Слабасільны мапедзік, якому ў пору бегаць толькі па асфальце, выў маторам і паволі круціў колы, якія слізгалі па дарозе ■ боку ў бок. Голуб адпіхаўся нагамі, каб не ўпасці; калі б не бахілы, ногі былі б ужо мокрыя. Пакуль выехаў на шашу, узмакрэў лоб, балелі ногі і рукі, быццам ён насек і выцягаў з лесу добры воз дроў. Матор перагрэўся і горача пах распаленым жалезам і маслам. Голуб ліnуў на матор прыгаршчы вады з лужыны. Вада з трэскам адскочыла ад перагрэтага металу. Голуб закурыў, каб перадыхнуць самому і даць астыць матору.

Па асфальце мапед каціўся роўна і хутка.

Праз кіламетры тры Голуб спыніўся.

Дождж сціх. Было цёмна і холадна. Дзьмуў паўночны вецер. Голуб падняў каўнер і пачаў, каб сагрэцца, тупаць туды-сюды ўпоперак шашы, шорхаў адзін аб адзін бахіламі. Потым далёка за ўзгоркам засвяцілася, і Голуб здагадаўся, што ідзе аўтобус, а затым убачыў і яго, далёкага, святочнага святлом вокан, з трыма белымі сонцамі фар, якія набліжаліся, а потым

зніклі ў лагчыне, і ўжо блізка, трывожным сполахам свяцілася цемень. Потым святло нечакана патухла. Праз колькі хвілін яно зноў запалілася, і аўтобус, светлы і хуткі, як шчасце, набліжаўся і, не збаўляючы ходу, пранёсся міма Голуба, пругка стукаючы маторам і несучы казытлівы пах спаленага бензіну.

Голуб, разгублены і спустошаны, пайшоў да мапеда і толькі тады заўважыў «казла», які спалохана заморгаў падфарнікам і спыніўся ля яго. У кабіне запалілася святло, пстрыкнуў замок дзверцаў — і Голуб убачыў Ліду, такую нечакана прыгожую, у кароткай спадніччы, у туфлях-шпілечках, у ружовай спартыўнай куртачцы з блакітным каўнерыкам.

— Няўжо ты хацеў падвезці мяне на сваім кату? А які ты! — засмяялася яна сваімі прыгожымі роўнымі зубамі, і ён адчуў, які ён нехлямяжы ў заляпаных гразёю бахілах, у размоклай і пляскатай, як блінец, шапцы, з «сідарам» за плячыма побач з ёю, такою ўпэўненаю ў сваёй прывабнасці.

— Ты ж толькі за намі не ўздумай ехаць,— наказвала яна. І ён не разумеў, ці яна гаворыць сур'ёзна, ці хоча пахваліцца перад сваімі спадарожніцамі — траімі вясковымі жанчынамі,— як ён кахае яе. Ён адчуў, што яму становіцца горача і хочацца закрыць рукою прыгожы белазубы рот.

— Ладна,— толькі і знайшоўся адказаць ён і асцярожна зачыніў дзверцы.

І калі машына прапала ў начной чарнаце, ён падумаў, што недарэчна хваляваўся з-за яе, быццам калгасны аграном не можа сустрэць сваю дачку на машыне. Але было непрыемна ад яе смеху, ад яе па-царску паблажлівай забароны не ехаць за ёю, ад таго, што ёй і не прыйшло ў галаву падумаць, што прыехаў ён сюды дзеля яе.

Пад ветрам пабялеў асфальт і колы лёгка шумелі. Ад думкі, што асфальт скора кончыцца і пачнецца гразь, Голубу стала злосна, і ён з жорсткасцю гнаў мапед і па шашы, і па прасёлку, з радасцю, помслівою і дурною, чакаў, што вось-вось не вытрымае і заклінуецца ад гарачыні маленькі кулачок поршня.

Дома ўжо не было святла. Голуб паставіў пад страху мапед, ахіліў цыратаю, выйшаў на вуліцу, доўга мыў у лужыне боты.

— Гэта ты, Павел? — запыталася са спальні маці.

— Не. А што, бацькі няма?

— Мабыць, не прыйдзе. Ён у такое надвор'е, як натоміцца, не даходзіць да дому, начуе ў Ігната. Састарэў ужэ... табе мо вячэраць даць? — клапатліва абазвалася маці.

— Не трэба. Вазьму сам.

Ён схадзіў у сенцы, прынёс з шафы талеркі з салам, гуркоў, узяў кубак, вярнуўся ў сенцы, наліў гарэлкі. Святло праз занавеску падала на твар маці, і Голуб пстрыкнуў выключальнікам. Ён у адзіноце піў гарэлку, але сум і пачуццё нешчаслівасці не праходзілі. Не атрымалася ў яго са шчасцем, не быў ён шчаслівы гэтыя гады, і кахае ж Ліду, кахае...

Голуб уяўляў, як сядзіць бацька з Ігнатам у закінутай сярод лесу леснічоўцы з пачарнелых ад старасці бярвенняў, абодва пасівелыя, барадатыя, кураць махорку, ад якой сіне ў леснічоўцы, і калі добра вып'юць, заспяваюць сумную, даўнюю песню, а потым будуць спаць спакойна і моцна.

Успомнілася, як з любасцю гаварыла маці пра бацьку, і ўявіў, што было б, каб ён сказаў Лідзе, што вернецца назад на работу ў лясніцтва. З сумам, са шчымлівым болем ён адчуваў, што зайздросціць бацьку, што сам наўрад ці будзе шчаслівы з Лідаю.

Потым ён курыў, глядзеў за акно. На дварэ крыху распагодзілася, холадна блішчалі водсветы скупых далёкіх зорак. А ён усё сядзеў і курыў, і не чуў, як зноў пачаўся дождж.

*1969*

# ЗАМЕЦЕНЫЯ ДАРОГІ

Зіма была на дзіва марозная і снежная: не так ужо часта замятае хаты па самыя стрэхі, выраўноўвае вуліцы снегам — вышэй за платы,— і па гурбах, моцна эмеценых ветрам, можна смела ехаць у санях, а ля калодзежаў паўтыканы ў снег жэрдкі — каб не ўваліцца, як замяце.

Ціха і бязлюдна такімі днямі на дарогах, ды і дарог тых няма: прайшла пара, калі ў санях ехалі далёка і набоісты след не замятаўся ўсю зіму; цяпер «у раён» адна дарога — невысокая, старая сыпанка, амаль без прысадаў, скрозь па полі, з якога лютаўскія вятры вылізваюць, зганяюць снег на дарогу, загладжваюць машынныя каляіны, вершаць упоперак гурбы. І чым больш расчышчаецца дарога, чым вышэй снегавыя валы, ссунутыя бульдозерным нажом, тым больш снегу на дарозе з кожнаю завірухаю, а яны дзень пры дні. Павел прывык ужо і да завірухі, і да таго, што толькі раз у тыдзень, а то і радзей, дабіраецца дадому, у Слуцк, на ўскраінную вулачку, у свой дом, пастаўлены яшчэ пасля вайны, у якім пражылося, здавалася, шчасліва, заможна, бо ён рабіў, як заціяты, умеў зарабляць, як і зараз. Выгадаваліся, пайшлі ў людзі дзеці, і дом нібы пачужэў: Аня сустракала яго, бы староння, падавала есці, цыкалася — то не там кінуў замазучаную ватоўку і ватнікі, то накурыў, то выпацкаў чысты ручнік,— і так кожны раз, і ён ужо нехаця ішоў дадому, яшчэ больш улягаў у работу, зарабляў, але перамены на лепшае не было, і ён неяк раптоўна, яшчэ моцны, чырванатвары, з пасярэбранымі чорнымі валасамі, пачаў сутуліцца — і нібы пастарэў на многа год.

Павел пачынаў прывыкаць не бываць дома, і хоць рабіў ранейшую работу, усё больш і больш начаваў па людзях, у вёсках, праз якія ішла дарога, якую ён расчышчаў ад снегу. Яго за многа год ведалі тут амаль усе.

І на гэту нядзелю Павел не трапіў дадому: мяцеліца мяла цэлыя суткі.

Пачаў расчышчаць з самага ранку. Добра, што снегу нанесла не многа і рэдка дзе прыходзілася разварочваць трактар упоперак дарогі. А так было прыемна і лёгка кіраваць машыну паўз абочыну, і снег зіхатліва і чыста вывіваўся ўбок, як зямля з-пад адкладні. Праўда, бліжэй да Слуцка, на крутым павароце з маладзенькімі прысадамі абапал, як заўсёды, быў самы большы перамёт, і ў снезе, пахіліўшыся набок,— з'ехаў з дарогі,— стаяў напалову замецены «ЗІЛ» — усё роўна як хто прыцягнуў і паставіў на снег кузаў і верх кабіны: ні капоту, ні калёс не было відаць.

Пакуль Павел крыху расчысціў дарогу, з вёскі ўжо цярэспаля спяшаў шафёр — Паўлавых год мужчына ў лётчыцкай футравай куртцы і цёплых ботах з раменьчыкамі на халявах. Ён павітаўся і пачаў закурваць, але ўсё ж не вытрываў, запытаўся першы:

— Дзёрнеш?

— А трос з табою?

— Недзе валяўся абрывак. А ты не цягаеш?

— Мяне ж выцягваць не трэба.

Павел раней браў трос, але ён замінаў, калі даводзілася здаваць назад.

Шафёр моўчкі перайшоў у кузаў і выкінуў трос — добра-такі парваны, некалькі разоў звязаны і калючы, што ёрш, якім мыюць посуд.

— На такім буксіры цябе толькі па роўным цягаць. Сагнаў жа цябе чорт з дарогі!

— А ты папрабуй ззаду адапхні снег, можа, пойдзе.

— Добрым буксірам я тваю каробку і бокам бы выцяг.

Павел расчысціў снег паўз самы борт, і шафёр лапаткаю адкідаў яго ад колаў, падкапаў пад задні мост.

— Ладна. Давай паспрабуем.

Павел падагнаў бліжэй трактар і пачаў чапляць буксір.

Машына моцна засела. Павел рыўкамі разгойдваў яе, і яна падалася, пайшла і была б вось-вось на расчышчаным, каб не лопнуў трос. Павел адчуў гэта па тым, як лёгка калыхнуўся наперад трактар, імгненна прыгнуў галаву — суха трэснула бакавое шкло і пасыпалася дробнымі кавалачкамі. Па звычцы нага адразу ж націснула педаль счаплення.

Шафёр спуджана падбег да кабіны і паклікаў:

— Братка, што з табою?

— Анічога...— вылаяўся Павел.

— Думаў, ужэ ты без галавы, гары яно з машынаю. Я тут збегаю прынясу добры трос... Чалавека чуць не абязвечыла!

— Не дуры! Давай звяжам. Чуць пацягнуць асталося. Не буду ж тырчаць з табою паўдня.

Яны памучыліся, пакуль закруцілі на вузел растапыраныя калючыя канцы троса.

Машына і сапраўды лёгка пасунулася за трактарам, але шафёр усё ж далёка адышоўся ўбок.

— Выкінь к чортавай мацеры гэты трос. І тупай па ваду.

— А ты ўспееш да Слуцка расчысціць дарогу?

— Успею.

Павел уключыў хуткасць.

— Пастой, я табе кардонку дам, пастаў замест шкла.

Шафёр выцягнуў з кабіны кавалак кардону ад нейкай магазіннай упакоўкі. Павел сунуў яго за спінку сядзення.

І зноў трактар паслухмяна і роўна пагрукваў абочынаю. Заставалася толькі яшчэ прайсці па другім баку дарогі — ад Слуцка,— падраўняць дзе-нідзе. А вечарам ён будзе ў лазні, на верхнім палку ў парыльні пасля ўсіх гэтых халодных дзён у кабіне.

Пачынаў добра брацца мароз, і на мяцеліцу не паказвала.

Ужо прыцемкамі Павел выйшаў на другі канец дарогі, завярнуў трактар, падняў бульдозерны нож і ўключыў святло, павышаную перадачу — да Слуцка было пятнаццаць кіламетраў.

Ён выпадкова кінуў вокам на замеценую снегам альтанку збоч дарогі — аўтобусны прыпынак,— зашклёную, але без дзвярэй. Яму зманулася, што ў альтанцы нехта ёсць, ці гэта таму, што з дарогі да альтанкі вялі сляды, якіх ён не заўважыў удзень. Павел спыніў трактар і пайшоў да альтанкі: у адну ноч ён падабраў тут жанчыну з хлапчуком, якія заблудзіліся і ледзь не замерзлі.

Павел падышоў бліжэй, заўважыў у альтанцы дзвюх жанчын, і хоць было ўжо прыцемна, разгледзеў іх. Адна маладая — гадоў за трыццаць, танклявая,

у па-гарадскому прыкараткім футры, поўсць якога нават у змроку адсвечвала серабрыстымі іскаркамі. Абута яна была ў бліскучыя, з высокімі халяўкамі боцікі, бадай, халодныя — стаяла і прытупвала нагамі. Другая, старэйшая, у белых фетравых валёнках, у доўгім прыталеным паліто, захутана, як і маладая, шэраю пуховаю хусткаю — таксама гараджанка. Старэйшая нерухома сядзела на лаўцы і не абазвалася на Паўлаў «вечар добры!».

— Што вы тут робіце на ноч гледзячы?

— Аўтобуса чакаем.

— Што?!

— Аўтобуса чакаем...— паўтарыла маладзейшая не так упэўнена, і Павел заўважыў яе белы твар з ярка нафарбаванымі вуснамі, якія лёгенька дрыжалі і не слухаліся.

— Куды вы ехалі?

— У Заседзь. На вяселле да брата.

— Туды толькі трактары даходзяць. А як сюды дабраліся?

— На машыне пад'ехалі, прайшлі... Свякроў села — і ні з месца... А выбіралася!..

Старая не аскірзнулася, толькі нехаця паглядзела на маладзейшую і сядзела ўсё гэтак жа сцяўшыся.

— Думалі, што аўтобус з вяселлем будзе ехаць...

Аўтобус на Заседзь пайшоў учора, калі яшчэ толькі пачыналася мяцеліца. Ля гравійкі вяселле чакаў трактар, узяў на буксір і пацягнуў полем — менш снегу.

— Пайшлі!

— Куды? — запыталася маладзейшая, узялася за сумку і пайшла да выхада. Старая таксама заварушылася, неяк няўпэўнена паднялася з лаўкі, і Павел зласліва падумаў, што доўга яна будзе выдыхваць гэтае вяселле.

Маладзейшая ўжо стаяла ля трактара. Сумку паставіла на гусеніцу.

— А што мы будзем рабіць?

— Мацеру падсадзі ў кабіну, а сама, як хочаш, следам ідзі...

— Дык, можа, аўтобус яшчэ будзе...

— Вяселле тваё ўчора паехала. Падсаджвай мацеру і сама лезь.

Павел пачаў прыладжваць кардон замест выбітае

шыбіны. Ён не памагаў старой, якая паслухмяна бралася ў кабіну. Пры святле ён заўважыў, што і ў яе густа нафарбаваны вусны і падведзены вочы. Намазалася не горш, чым маладая, і не фыркае, што ўсюды мазута. Другі раз і блізка не падышла б. І пагнаў жа іх чорт!

Калі ён уціснуўся ў кабіну, старая, скурчыўшыся, сядзела ў куточку, а маладая выцягнула насустрач цёпламу струменю з печкі рукі.

Павел скіраваў з дарогі. Свяціла толькі адна фара. У другой перагарэла лямпачка, а запаснов не было. На полі даволі выразна віднеўся ўчарашні трактарны след. Павел апусціў нож «на плаваючае» і прыбавіў газу.

Старая ўсё гэтак жа сядзела ў кутку, не варушылася. Маладзейшая крыху адагрэлася: пачырванелі пасля марозу шчокі, перасталі дрыжаць вусны, але калені, якія яна дарэмна старалася захінуць прыкараткім футэркам, усё яшчэ дрыжалі.

— Ног хоць не адмарозіла?

— Не, шчымяць.

— А ты іх выпрастай. З печкі будзе ўсё цяпло на ногі, а то ад поліка холадна.

Жанчына хацела выпрастаць ногі, але яны далёка агаліліся вышэй каленяў, і яна збянтэжана памкнулася сесці, як раней.

— Семнаццатка мне! — буркнуў Павел і стукнуў далонню па выключальніку — святло ў кабіне патухла.

— А вы нас давезяце?

— Давязу. Не канаць жа вам тут. Другі раз навука будзе...

— Адна пяшком дайшла б. Я тут нарадзілася.

— Старую чаго пацягнула?

— Яна ж без мяне жыць не можа!

Жанчына заварушылася, нешта дастала з сумачкі і загаварыла да Паўла.

— Што?

— Запалак дайце.

Ён даў запалкі. І калі прыкурвала, у слабым святле ад запалкі твар яе быў няшчасны, і яна здалася намнога старэй.

— Мужа дома няма. У камандзіроўцы. Сканала б, каб адну пусціла. Сцеражэ. І яму нагаворвае...

Маладая гаварыла моцна, каб было чуваць за матoрам, а мо каб чула і старая. Відаць, ёй захацелася выгаварыцца, як гэта часта бывае з людзьмі ў дарозе, калі зусім незнаёмаму чалавеку, з якім скурана па папяросе, расказваецца ўсё самае цяжкае і патаемнае. І чалавек гэты тады самы блізкі табе, яму верыш больш, чым каму,— мо таму, што разлучышся з ім праз гадзіну-другую, каб не спаткацца ніколі, і ён не кальне цябе тваёй споведдзю, не пасмяецца ў вочы, хутчэй за ўсё забудзе і пра цябе, і пра тваю гаворку, а калі і ўспомніць, то скажа: так, адзін расказваў, разам ехалі,— і не ўспомніць, калі, куды ехалі...

Старая заварушылася, закрахтала, і маладая змоўкла, толькі неахвотна глянула на старую — не баялася яе, але не хацела лішняе звягі.

Маўчаў і Павел. Злосць з-за таго, што не ўдалося даехаць дадому, прайшла, ён пагадзіўся, што зноў начаваць недзе ў чужых людзях. Роўна працаваў матор, перабраны яшчэ з восені сваімі рукамі, прывычна чырванавата асвятляла снег фара, быстра і лёгка грукалі гусеніцы, ссоўваўся, сплываў убок снег. На дварэ пачыналася мяцеліца — лёгенька па полі паўзлі тоненькія пасмачкі снежных узвеяў.

— Куды акурак? — запыталася жанчына.

Ён моўчкі ўзяў недакураную цыгарэту, дастаў «севярыну» і прыкурыў ад чырвонага, злёгку зашарэлага попелам агеньчыка.

Тарас ужо другі дзень гуляў вяселле дачкі. Яна рабіла ў горадзе, на будаўніцтве, завочна канчала тэхнікум. Маладзейшы Тарасаў сын пасля школы кончыў афіцэрскае вучылішча і дома даўно не быў,— але пра яго меншы клопат, пакуль дачку прыладзіў...

На вяселле Тарас запрасіў усю радню, нават самую далёкую, наказаў усім, у каго быў на бяседах,— мо і не будзе больш прычыны сабраць людзей. І госці з'ехаліся, як адзін,— якраз распагодзілася было.

Частунку хапала — усё сваё, і закусь, і гарэлка. А да клуба — толькі перайсці цераз вуліцу.

Тарас стаяў у каморцы і з дзесяцілітровае аплеценае бутлі пераліваў у паўлітровыя бутэлькі гарэлку.

За дзень і ён крыху падпіў: гасцей прымушаў выпіваць і самому даводзілася.

— Ты тут? — прачыніла ў каморку дзверы Волька.

— Тут. А чаго?

— Хацела сказаць, каб гарэлку ў бутэлькі наліў.

— Ты свае дзела глядзі! У мае дзела ты не лезь!

— Твае дзела, хаджаін мне! — падражніла Тараса Волька.— Каб не каўтаў больш...

— Не твае дзела, кажу!

Тарас паставіў бутэльку і з рашучым выглядам — выпхне за дзверы! — ступіў да жонкі.

— Я не гэта хацела. Мо цяпер, як зваць будзем, на каравай скажам?

— А чаго?

— Чаго! Зранку бабоняць, яшчэ раз як пасядуць за стол — параспаўзаюцца...

— Усё роўна каравайнага назад ніхто не павязе. Пакладуць.

— Табе абы паклалі! Што гэта за каравай, калі ўсе п'яныя блытацца будуць. Мы ж са стала прыбіраць пасля не будзем, хай дзедуюць!

— Ну скажы свату, як можна такое дзела, а што прывезлі — пакладуць!

І Тарас зноў узяўся за бутэльку.

— Тарас, га Тарас! Хадзі сюды! — зноў паклікала Волька, і Тарас смачна мацюкнуўся.

— А каб ты падскокам хадзіла! Ну чаго ты, труба, трубіш?

— Аня ж са свякрухаю прыехалі! Нейкі трактарыст прывёз. Ідзі, і яго ж у хату заві. Куфайку ж ускінь, каб на цябе халера! Мароз жа і вецер...

Ля трактара Тарас адразу ж учапіўся за Паўлаву руку і, як свайго даўняга знаёмага, пацягнуў за сабою.

— Прывёз жа маіх баб — такое дзела! У мяне яшчэ на два дні хваціць. Я сам сабе гаспадар — а ты ў мяне чалавек! Ідзі за стол, каб ніякай крыўды не было... Пачакай, каб ніякай... А дзе ж жанкі?

— Баба твая ў хату павяла.

— О труба! А палеру нарабіла... Я Ані напісаў, сёння пачынаць буду, адале паглядзеў — яды па горла, піць хватае! Хай гуляюць!.. От садзіся сюды, тут усе мужчыны на кухні.

— Пачакай, зайшоў у хату — назад не пайду, дай памыць рукі. І сваю работу глядзі.

— Яно такое дзела, свойскае. На, бяры ручнік... Дзе вы, Аня?

І Тарас паківаўся ў «чыстую» палавіну хаты, адкуль чуліся жаночыя галасы, і мацней за ўсе — голас Анінае свякрухі, з вохамі і ахамі.

Госці збіраліся памалу, гаманілі, заспеўвалі, а як абышла чарка тры разы, сваха ўнесла каравай; старэйшыя жанкі заспявалі каравайную, але сват не чакаў, пакуль яны скончаць, наліў першую чарку бацькам.

За стол, дзе сядзеў Павел, падсеў малады хлопец у касцюме, белай рубашцы, з доўгімі — на патыліцу — валасамі: падсеў мужчына ў галіфэ і дабротнай гімнасцёрцы з белым падкаўнерыкам, падпяразанай новаю афіцэрскаю папругаю. З імі была і жанчына ў валошкавай вязанай кофце, у прадаўгаватай чорнай спадніцы і хромавых ботах; цёмныя парадзелыя валасы яе былі заплецены ў тоненькія косы, складзеныя «кошыкам».

Хлопец адразу ж наліў у шклянкі, Паўлу таксама.

— Ну, Гэля, давай,— ні то папрасіў, ні то прапанаваў ці напомніў даўно дамоўленае хлопец, і жанчына паправіла валасы, уздыхнула і павяла:

Шумяць вербы у край грэблі,
Што я пасадзіла...

Мужчына страсянуў галавою і заспяваў таксама чыстым высокім голасам, нібы спаборнічаў з жанчынаю, але яго голас не перабіваў жаночы — той нібы лунаў над мужчынскім, перамагаў і здаваўся яшчэ чысцей і прывабней: хлопец таксама заспяваў густым спакойным басам, і песня загучала вальней, шырэй, і на яе з другога пакоя пацягнуліся людзі, падсядалі да стала, і ўжо хор, які вялі запявалы, гучаў моцна і зладжана:

Расла, расла дзяўчыначка,
расці перастала.
Ждала, ждала міленькага
дый плакаці стала.

Пасля песні жанчына неяк спустошана і светла ўсміхнулася, азірнулася на сваіх памочнікаў.

У хлопца на вачах гарнуліся слёзы, і Павел здагадаўся, што гэта ён падгаварыў жанчыну спяваць, як спявалі даўно, магчыма, яшчэ тады, калі сабіраліся на Юр'я «на росу»: выходзілі суседскім гуртам на вёску з пачастункам, рассцілалі на маладым жыце абрусы, а вечары былі цёплыя, чуць парныя, і пахла жытам, зямлёю, прахалодаю расы, палямі,— усю ноч плылі да далёкіх пералескаў даўнія песні, якія запомніліся з самых дзіцячых гадоў і якія ніколі не забываюцца, па якіх неўспадзеўкі прачынаецца балючая чалавечая туга...

Павел думаў, што трэба зліць ваду з матора і сказаць гаспадару, каб паслаў дзе пераспаць.

На дварэ было глуха і непрыветна, напружана шумелі высокія вязы, і са страхі завівала снежным пылам: надвор'е памякчэла, вецер завярнуўся з поўначы.

Павел заглушыў матор, паправіў кардон, каб не намяло снегу ў кабіну.

Гаспадар сустрэў яго ў сенцах.

— Брат, такое дзела, куды табе ісці! Пераначуеш у мяне. Месца будзе, дзела свойскае... А цяпер — гуляй!

Гаспадар і праўда быў добра падпіўшы, махаў рукамі, пакіўваўся з боку на бок, але вузка прыжмураныя чорныя вочы стрыглі паспешліва і пільна, і погляд іхні немагчыма было перахапіць.

— Печ не занята?

— Не. Але мо не выспішся?

— Высплюся.

— Тваё дзела.

Гаспадару карцела яшчэ нешта сказаць, але яго, мабыць, збянтэжыла, што Павел не ўдаваўся ў гаворку, і ён не адважыўся ці перадумаў, паківаўся ў каморку.

Застолле яшчэ шумела, хоць і парадзела ўжо: старыя хто-ніхто пайшлі дадому, маладзейшыя былі на танцах; гаспадыня і яшчэ адна жанчына яе год перабіралі на сталах — чакалі яшчэ аднаго заходу.

За сталом на кухні сядзеў толькі адзін хлопец, падпёршы рукою шчаку, у другой руцэ дымілася доўгая цыгарэта, і тоненькая пасмачка дыму лёгенька плыла ўгару — як з патушанае свечкі; твар хлопца быў невясёлы, і русявыя валасы густа ўпалі на лоб; невядома

было: ці то ён крыху ап'янеў, ці проста яму было цяжка не з-за гэтага.

— Вып'ем, каб на тым свеце не журыліся? — прапанаваў Павел.

Хлопец падняў на яго вочы, усміхнуўся, махнуў рукою, устаў і пайшоў з-за стала — проста і лёгка, у парозе падгарнуў пальцамі валасы.

Павел зайшоў на кухню, разуўся, паставіў на прыпечак боты, ускінуў на чарэнь анучы, заслаў паверсе куфайкамі, падкінуў пад галаву маленькую падушачку, акрыўся суконнаю буркаю і заснуў адразу, моцна і цяжка. І снілася яму, што пагойдваецца, пагойдваецца, плыве некуды, а насустрач снег, снег і цемень, і ўзнікае глухая трывога ад прадчування, што нешта здарыцца і ніхто не будзе ведаць пра няшчасце, ніхто, і ўсё гэтак жа будзе насустрач вялікі белы снег; і Павел усім целам адчуў, як хіліцца набок трактар, нема крыкнуў: «Адхон!», ірвануў за рычаг і пачуў толькі жалезны скрыгат...

Павел прахапіўся. Па сценах глуха шастаў снегам вецер, тоненька пазвоньвала шыбіна і бразгала ў коміне ўюшка — мяцеліца расхадзілася на ноч і не думала супакоіцца.

Унізе на палку заварушыліся.

— Адсунься троха.

— От не ўладзішся! — агрызнуўся мужчынскі голас, і Павел пазнаў голас гаспадара.— Унь што на дварэ ўсхадзілася, а ты бубніла, што трактарыста пакінуў... Заўтра зачэпіць аўтобус і да Слуцка зацягне.

— Наліжацца, як учора, і тры дні з хаты не выпараш.

— Ён жа і не піў. Так за дзень здарожыўся.

— Здарожыўся! Дасі гарэлкі, дык і заўтра нікуды не выдаражыцца!

— А не тваё дзела!

— Тарас, га Тарас, а ва ўсіх вочы пад лоб палезлі, як сказаў, што грошай на гэтую... магазінную квацеру ложыш.

— Каперацыйную. Хай цяпер пасмяюцца — па чым цыбуля!

— А Віцька нейкі ваўкаваты прыехаў. Толькі піў ды з Гэляю спяваў. Мо і праўду гавораць, што ён у Сібір ездзіў к Сомаву...

— Спі, кажу, не тваё дзела!

Некаторы час было ціха, потым зноў на палку заварочаліся.

— У Сібір ён ездзіў грошы зарабляць. Мо хто са сваіх пад'ялдыкнуў. Але ж ніхто толкам не ведае.

— А як твой трактарыст уздумае заўтра зранку перціся на работу, скажа?

— Дам чырвонец — суткі яшчэ праседзіць.

— Мо многа?

— Калгаснаму і трыццаткаю не ўмажашся. Спі, назола!..

Скора заснуў і Павел, а ў акне ўсё тоненька, надтрэснута пазвоньвала шыба.

Мяцеліца не аціхла і на раніцу. Усё густа і няўмольна шастаў вецер, стомлена гулі змучаным галлём магутныя вязы і буйна ляпіў крышку вільготны снег. І невядома было, ці ўзышло сонца, ці не знікла яно раптам у Сусвеце, пакінуўшы назаўсёды на зямлі цёмную каламутную шэрань, гэты вецер і снег, якому не будзе канца-краю.

У зацішку за ганкам Павел распаліў паяльную лямпу, прыладзіў на цаглінах вядро, пагнутае і пачарнелае, якое заўсёды вазіў з сабою, і пачаў грэць ваду; мароз ноччу асеў, і можна было паспрабаваць завесці матор, не падаграючы паддон.

Павел курыў, пераstaўляў лямпу, каб грэла з усіх бакоў, і думаў, што дарогу замуравала намёртва і што нялёгка прабіцца ў гэтым мокрым, моцна злеглым снезе; яшчэ палавіна дарогі будзе нічога — вецер уздоўж дарогі, пераметаў менш, а далей...

Гаспадар, які неўзабаве выглянуў на двор, адразу ж завохкаў:

— Чаго гэта ты выдумаў? Баба ў чыгуне паставіла б, такое дзела. Паможаш жа мо? Людзям жа на завод, а не абы-куды... Я заплачу, не пашкадую, такое дзела...

— Не круці. Варушы толькі, каб не на ноч гледзячы.

— Яны і самі заварушацца!

Гаспадар выйшаў у сівых бітых валёнках, кажушку наапашкі і без шапкі. Ён гэтак жа, як і ўчора, памыкаўся разводзіць рукамі, але тады кажушок спаўзаў то з аднаго, то з другога плечука, і гаспадар усё па-

праўляў яго — як захінаўся, каб было цяплей, і вочы яго гэтак жа сама бегалі, як і ўчора, у іх спачатку не было ранейшай хітрынкі і весялосці, і толькі калі зразумеў, што Павел згадзіўся, вочкі забегалі ўпэўнена-хітравата, і Павел з глухою злосцю ледзьве стрымаўся, каб не паслаць яго... Ён толькі павярнуўся да гаспадара плячыма, той патаптаўся і пайшоў у хату.

Пакуль Павел завёў трактар, пачалі сыходзіцца госці. Свае, вясковыя, не спяшаліся, а прыезджым было не да гуляў. І калі ўчора на Паўла ніхто не звяртаў увагі — зайшоў, каб выпіць,— то сёння ўсе паглядалі на яго; не спускалі вачэй гаспадар і жончын брат — яшчэ маладжавы рухавы мужчына, нечым падобны і на гаспадара. Частавалі Паўла асцярожна, і ён чуў, як жанкі цыкалі на мужчын, каб не напаілі. І Павел спехам перакусіў, цішком падаўся ў сенцы курыць і ўжо каяўся, што застаўся тут на ноч; але доўга аднаму пабыць не ўдалося — аднекуль выкруціўся гаспадар з пакункам у газеце пад пахаю.

— Во, брат, табе закуска. Вінарку яшчэ на дарогу... Грошы само сабою, такое дзела.

Яго хударлявы твар заружавеўся, і быў ён гэтакі ж жвавы і разумнейшы, чым ва ўсіх, як і ўчора, ды і не толькі ўчора.

Павел занёс пакунак у кабіну, пастаяў крыху ля трактара, матор якога роўна працаваў на малых абаротах і цёпла патыхаў саляркаю, маслам, нагрэтым жалезам...

— Дзень добры, начальнік!

Павел спачатку не пазнаў хлопца, які ўчора спяваў песні. Ды і выглядаў ён, апрануты ў просценькае асенняе палітцо зялёнага колеру, у мяккай пыжыкавай шапцы, на многа старэйшым.

— Дзень добры! — адказаў Павел.

— Прылыгаў усё ж Тарас?

— Не так і прылыгаў.

— Як ні кажы, а аўтобус пацягнеш,— усміхнуўся хлопец.

Хлопец працягнуў Паўлу пачак з цыгарэтамі. Моўчкі прыкурылі.

— А я з вамі ў кабіне паеду. Дарогу паказваць буду.

— Чаму ты? — запытаўся Павел.

— А ты думаеш, Тэклін брат у мазуту палезе?

Хлопец гаварыў насмешліва, нібы проста жартаваў, але вочы глядзелі вузенька і злосна, як ножыкі.

— Віця, ідзі сюды! — паклікаў з кухні гаспадынін брат, і хлопец падміргнуў Паўлу.

Выбраліся ехаць пасля абеду, а вецер не ўнімаўся, усё ляпіў снег, стаяла шэрая прыцемень.

Хлопец сапраўды ехаў у кабіне. Яму было холадна, але ўсё роўна трэба было высоўвацца з кабіны, каб не заблудзіцца ў полі.

Да гравійкі патрапілі добра, але, каб выехаць на яе, давялося адчэпліваць аўтобус і расчышчаць снег на адхоне. І пакуль лазіў, адчапляў трос, змёрз і сам Павел.

Вецер цяпер дзьмуў насустрач, дарога была замецена менш, але снегам замуроўвала лабавое шкло, і, каб не з'ехаць з дарогі, трэба было пільна глядзець пад гусеніцу — далей наперад усё роўна нічога не было відаць. Павел час ад часу прачыняў дзверцы і праціраў бакавое шкло. Віця глядзеў на яго, потым апусціў вушы ў шапцы, адсунуў кардонку і таксама пачаў глядзець пад гусеніцу, зрэдку камандаваў: «Правей!» або «Лявей давай!».

Дваім было лягчэй весці трактар, ды ў кабіну пачаў закручваць снег, ён раставаў на каленях у Віці, і хутка яго адпрасаваныя штаны сталі мокрымі, прыграваліся ў цёплым струмені ад печкі, парылі, але ногі дрыжалі з холаду.

Павел спыніў трактар, падыхаў на рукі — рукавіцы ён згубіў дзён са тры назад. Віця глянуў на Паўла.

— Ідзі да гэтага свата, хай дасць пагрэцца.

Хлопец вярнуўся хутка, толькі вылаяўся, улазячы ў кабіну.

— Баіцца, каб не напіўся ты.

— Пайшоў ён!..

Павел дастаў пакунак старога, чысты адстойнік з паветранага фільтра.

— Ты радня старому?

— Не.

Хлопец прымоўк.

— Ён з бацькам маім з акружэння выходзіў. Бацька мой з-пад Омска. А Тарас з-пад Смаленска, беларус.

Аселі тут прыпіснікамі. Маці мая ў дзеўках заседзелася, узяла. Тарас у Тэклі прыжыўся, а трэці ў старое Ясіхі за сына. Прыслалі раз двух паліцаяў па іх. Тарас з другім праз два дні вярнуліся, а бацька не. Забілі яго ў алешніку, уцякаць кінуўся... А той, што ў Ясіхі, выпіўшы каяўся, што падвялі сябра: ён на аднаго кінуўся, а яны на другога — струсілі. Другі і застрэлілі бацьку. Маці мая памерла, калі я ў восьмы клас перайшоў. Тарас мяне два гады глядзеў; праўда, я ў сваёй хаце жыў. Усё як дагадзіць стараўся. Магілу бацькаву і цяпер папраўляе. Дачку за мяне сватаў, гэтую, што сёння вяселле, грошы на кватэру даваў. А мне нешта муляе. Ён усё плаціць...

— Чаго цяпер прыехаў?

— Захацелася на людзей глянуць... і яго хацеў прыціснуць. Не скажа. Трэцяга думаў знайсці... І той не скажа.

— Дзе ты цяпер?

— На заводзе. Завочна на эканаміста канчаю. Сваты ж пачаліся, як уведалі, што вучуся... А табе грошы ён заплаціў? — раптам ажывіўся хлопец і весела паглядзеў на Паўла.

— Не.

— Як заедзем у Слуцак — аддадуць. А загадзя — дудкі!

— Мне, як... дзверцы і гэтая гарэлка, і гэтыя грошы! Каб не людзі...

— Для цябе людзі... Давай, паехалі. На мае пальчаткі.

— Выпацкаю.

— Памыю. Бяры.

За паваротам дарогі вецер ужо дзьмуў збоку, і Віця зноў заставіў акно кардонам. Пайшла добра замеценая дарога, і снег цяжка ссоўваўся нажом. Цяпер даводзілася спыняцца ўсё часцей і часцей, каб астыў матор; у кабіне было горача і нават утульна: яны курылі, і Павел расказваў пра дзяцей, пра тое, што нешта не ладзіцца цяпер у сям'і. Віця не перабіваў, толькі нечакана сказаў:

— Чалавека згубілі. За паўлітраю, за рублём, за машынаю... І ўсё з гэтага пачынаецца...

Сцямнела незаўважна, незаўважна пачаў ісці снег, але было не да гэтага: пачуўся самы большы перамёт.

Больш як гадзіну яны прабівалі дарогу ў гурбе, раз нават ледзь не пасадзілі трактар на мост.

І ўжо да самага Слуцка ішлі лёгка і шпарка, і ў няяркім святле фары стомлена і адзінока пагойдваліся апошнія сняжынкі. І на гарадскіх вуліцах было прыцемна, спустошана, забелена снегам.

Павел спыніўся, адчапіў трос, і шафёр аўтобуса пачаў сам налыгваць яго на буксірныя крукі.

Віця толькі моўчкі паціснуў Паўлу руку — абодва ведалі, што наўрад ці больш сустрэнуцца, і Паўлу захацелася сказаць, каб Віця больш не ехаў да гаспадара, але стрымаўся.

Выскачыў і сват з аўтобуса, спехам падаў Паўлу дзве бутэлькі, тыцнуў у руку чырвонец: «Дзякуй, дзякуй вам, каб не вы...»

Павел пастаяў, паглядзеў услед аўтобусу, потым шырокім размахам, як гранаты, адна за адною далёка ў сад папусціў бутэлькі, сеў у кабіну, на месцы развярнуўся і пакіраваў да сваёй вулачкі з замеценымі падворкамі, з рэдкімі ліхтарамі на драўляных слупах, да свае хаты, дзе адзінока і бездапаможна злавалася на яго жанчына, якой непатрэбны былі лішнія заробкі, на якія ён гнаўся,— ёй цяжка было пасля раз'езду дзяцей ад адзіноты — што і ён зараз так востра адчуваў,— і яму было шкада і вінавата перад ёю і за апошнія гады неладоў, і за выбітыя ў верандзе шыбінкі, праз якія ходзіць завейны вецер і холадна, намяло снегу.

*1970*

# ВІНЦЭСЕЎ ДЗЕНЬ

Радыё абяцала раннюю зіму, вялікі мароз і снег праз два тыдні. І надвор'е было на гэта: холадна, ветрана, і ўжо разоў колькі пачынаў ісці мокры, хлюпоткі снег з дажджом, праўда, ненадоўга. Вецер праганяў хмару, і зноў нізка шарэла плывучае асенняе неба, марусіла дробнаю імжою, і трапяталі, трапяталі лісцем, налітым жоўтым сокам восені, клёны, у якіх вятры да часу агалілі самыя вяршыні,— нібы палыселі клёны.

Жанкі яшчэ ўходжваліся з ільном, а бульбы было на полі — і калгаснай, і людской на прысядзібных надзелах. Калгасную з месяц выбіралі студэнты, потым прыехалі шэфы-рабочыя.

Вінцэсь-то ўжо кончыў выбіраць свае пенсіянерскія градкі. Удваіх са старою корпаліся штодня з рыдлёўкамі, а ў нядзелю старшыня даў у брыгаду коні — разараць пляцы. І Вінцэсь разараў апошнія сем радкоў, гроб разам са старою на колінцах. А ў абед сыпануў дождж са снегам, упляскаў, змачыў бульбу, што страшна было пакідаць на ноч: чуць прышэрхне марозікам — прапала. Грэблі дацямна, пакуль не кончылі, хоць пасля абеду адчуваў Вінцэсь далёкі боль у паясніцы — усё-такі прабрала і праз ватнікі на халоднай зямлі! А не дай бог угнявіць на восень радыкуліт, калі яшчэ не абгледжана на зіму гаспадарка! І азярод трэба зрабіць, каб развесіць бульбоўнік сушыцца — будзе ж яшчэ сонца,— і буракоў не так мала ў агародзе, і коп са тры сена на канаве, і лесу б не лішне дастаць і прывезці...

Два дні Вінцэсь нікуды не вытыкаўся з хаты: выграваўся на печы, у пасцелі, і боль прайшоў, як прайшла крыху і непагадзь: не-не ды і праблісквала полуднем сонца, а калі і хмурэла, то без дажджу; было прахладна.

Вінцэсь адзеўся цёпла, абуў новыя ялавыя боты, якія выпадкова купіў у Мінску ў нейкага праныры за чырвонец: у гумавых ботах, колькі ні накручваўануч, настывалі спадыспаду ногі. Зранку ён сабраўся на ба-

лота, на канавы, дзе рабіў раманцёрам усё лета: абкошваў берагі, прачышчаў рэчышча. Канавы на яго ўчастку нестарыя, з крутымі берагамі, шчамляцца па іх, абкошваць было нялёгка, ды і не з яго нагамі плюхацца ў вадзе, але ніхто не хацеў ісці раманцёрам, а Вінцэсю трэба было сена на карову: за пенсію ніхто сенакосу не мераў, ды і шэсцьдзесят рублёў не лішнія...

Старшыня, як упрошваў ісці на работу, слаў мякка і салодка мазаў, адале прыдумаў, што сена Вінцэсь павінен аддаваць у калгас, а прывезенае дадому — важыць і плаціць грошы. Вінцэсь плюнуў быў і на работу, і на скошаную траву,— не пайшоў больш. Сена ніхто не збіраўся зграбаць, нікога не было і на Вінцэсева месца. Старшыня прыслаў запіску, каб ішоў на работу і з сенам разбіраўся, як хоча. Хто будзе ў брыгадзе загібаць з гэтым сенам?! Пакрысе Вінцэсь навазіў два стажкі, залажыў хляўчук, паспеў да бульбы вычысціць рэчышча, і ўчастковы майстар прыняў канаву на зіму. На гэтым была б і скончана Вінцэсева работа, каб не пагнаўся на маладую атаву, не збіў яе перад самымі дажджамі, а цяпер шкода работы. Ды чуць і не акалечаў, збіваючы гэтую атаву: паслізнулася наперад нага, а каса з маху так і збрыла насок бота, добра, што не даняла пальцаў.

Трава не сапсавалася на холадзе і дажджы — не тое што летам. Ляжала зялёная, як толькі скошаная. А копка крыху сушэйшага не вельмі зацякла, не ўгрэлася.

Вінцэсь спачатку распусціў капу, потым выграб з адхонаў берага наверх траву, закурыў, глядзеў, як холадна і роўна цурчала па пясчаным белым дне плыткая, чыстая дрэнажная вада — дзелавіта, быстра, як улетку. Падумалася, што ў рэчцы, пакуль не дабраліся асушаць, у гэту пару цямнелася ў затоках вада, зялёна варушыла, выгладжвала, вычэсвала на хвалях доўгія густыя водарасці. І гэтакаю парою садзіліся на рэчку вялікія чароды шэрых пералётных качак, даверлівых, няпужаных, і вясковыя паляўнічыя днявалі і начавалі пры рэчцы. А Вінцэсеў сын як прыязджаў, то ўсё тупаў паўз рэчку на балоце, страляў маленькіх бакасікаў, якіх ён называў горашнепамі. Або хадзіў яшчэ па маладым асінніку ля Карнявіцкіх на рудых, пляскатадзюбых слонак.

Быў ён і гэтым летам, на дзён пару заязджаў; папаўнеў, палысеў, казаў — паляваць па пуцёўках ездзіць, збіраецца купіць добры матацыкл, як у міліцыянераў, і Вінцэсь даў яму ўпотайкі ад старое дзве сотні. Абяцаў прыехаць выкапаць бульбу...

Вінцэсь кінуў акурак у канаву, недаверліва пагледзеў на дажджлівае неба і пайшоў берагам, спыніўся ля невялікага лазовага куста з гонкімі вішнёва-бліскучымі дубцамі, якіх з лета збіраўся нарэзаць і папраўляць кашы, пашкадаваў, што не ўзяў нажа.

Старая яшчэ карміла парасят на двары, стаяла, трымаючы чыгунок у руцэ, і пакрысе падлівала ў карытца сыроваткі.

— Ну, упанаваў ужэ дабро сваё? Зранку пачухаўся...— сварліва пачала яна, хоць і не было за што, і не збіралася сварыцца; прывыкла гаманіць, прывык і ён да яе гамонкі, слухаў ці не слухаў, чуў ці не чуў — корпаўся, рабіў сваё, і цяпер падняў камень, выпрастаў цвік і пачаў прыбіваць кол, які давялося адарваць учора: ушчамілася парася, няма як дастаць, свіння кідаецца — скалечыць яшчэ.

— То як там?

— Што? Ляжыць...

І Вінцэсь зноў зацюкаў па цвіку.

— Трэба прывезці! Тут, ля стажка, і распусціць, і скласці, як што якое! Мне на тую канаву няма калі валэндацца! А табе абы паўз магазін дарога... Яна ж ужэ прыперла гэтакім дурням, як вы, цэлую бочку віна!..

Вінцэсь кінуў камень пад плот.

— Калі яна прывезла?

— Бач, як скора ўчуў! А то як глухі!

— Калі ты толькі адбарабанішся!..— вылаяўся Вінцэсь і пайшоў у хату: зараз старая ўспомніць усе яго мужчынскія грахі, а толкам не скажа, чаго прывезла магазіншчыца.

Да абеду Вінцэсь таптаўся, збіваў з жэрдак азярод, а потым развешваў бульбоўнік, мокры, зялёны, цырбуністы, і думаў, што крыху не ў пару выбралі бульбу: трэба было даць пастаяць ёй яшчэ, каб агрубела, вы-

стаялася, а то аж пад пальцамі аблузвалася... Ды ўсё гэты холад.

Абедам Вінцэсь схадзіў да суседа Антося, які ўсю восень рабіў на буртах, папрасіў, каб той пад'ехаў пасля работы на канаву — забраць траву. Антось ведаў, што «за так» Вінцэсь не просіць, што, мабыць, ёсць яшчэ ў яго прыхаваны ад старое які рубель.

Надвячоркам Вінцэсь узяў вужышчы, тасьмовы пастронак на перадоўку, сахор і граблі і патупаў на канаву. Існі дарогаю наўкруга паленаваўся і пакіраваў напрасткі праз бульбянае поле; бульбоўнік, збуялы, счарнелы — «з'едзены» туманам,— злёг, зблытаўся так, што не разадраць, ды і лебядою, да белізны ўсохлаю, вялікаю, як каноплі, урасло поле, і толькі цяпер спахапіліся, што з капалкаю на яго ніяк не ўлезеш, а ўпору не пусцілі камбайн, не абкасілі; цяпер даводзіцца сцягваць культыватарам бульбоўнік, мушкацца, а бульба ўрадзіла.

На балоце, недалёка ад канавы, рабочыя палілі вогнішча. Назбіралі карчукоў, наламалі лебяды, якая падсыхала на агні і добра гарэла, і, мабыць, ладзіліся нарабіць даволі прысаку, каб пячы бульбу. Ад вогнішча нізка прыпадаў па полі белы дым і цягнула тарфяным чадам. Вінцэсь аж прыпыніўся, калі адчуў гэты чад, потым прыбавіў кроку да вогнішча, дзе весела штурхаліся, дурыліся дзяўчаты і хлопцы, апранутыя ўсё роўна па-гарадскому, хоць і ў ботах — гумавых, кірзавых, хоць і ў куфайках — новых, незаношаных. А большасць у куртках, старых балоневых і маракенавых, у сівых тоўстых шапках, якія гадоў колькі назад былі ў модзе.

Бульба засталася ў калгасе толькі на балоце, а рабочым надакучыла ў вёсцы, надакучыла вольнае жыццё і гулянкі штовечар у клубе.

— Дзень добры! — павітаўся Вінцэсь, уваткнуў у зямлю сахор, потым граблі, на якія павесіў вяроўкі.

— Здраствуйце! — уразнабой адказалі яму.

— Што гэта вы робіце? — запытаўся Вінцэсь. На яго паглядзелі здзіўлена, прыціхлі.

— А што такое, бацька? — запытаннем адказаў малады мужчына ў зялёным, добра выцертым асеннім паліто, у старых, з пухірамі на каленях і вузкаватых на лытках штанах, караткаватых.

— Балота ж упаліце!

— А хрэн яго бяры, бацька! Нам, мулярам...

Вінцэсь зірнуў на мужчыну, на дзяўчат, але яны нібы і не чулі лаянкі, нешта паціху перагаворваліся іківалі ў Вінцэсеў бок. А мужчына задаволена ўсміхнуўся, што так скора і па-свойску згаманіўся са старым, і ад гэтага Вінцэся падчапіла злосць.

— Што ты, мо тут старшы? — спакойна запытаўся ён і кіўнуў галавою туды, на край поля, дзе стаяў маленькі сівы легкавічок.

— А што? Я.

— У інжынеры выбіўся?

Мужчына нічога не адказаў, толькі разумна і паблажліва ўсміхнуўся.

— Ах ты, г...к! З гэтакай самай вёскі выскрыпаўся, недзе гэтак бацька, як і я, па полі блытаецца нага за нагу. А табе ўсё на храна! Каціся ты... Нужан ты тут, як зайцу стоп-сігнал! — дадаў ён для важнасці чутае ад сына.

Мужчына разгублена замыляў губамі, а гурт дружна засмяяўся. І мужчына, каб як-небудзь выкруціцца, узяць верх, запытаў:

— А вы хто такі?

— Сторaж калгасны!

— Начальнік! — буркнуў мужчына і адышоўся.

— Хто гэта ў вас такі?

— Ат, бацька! — махнуў рукою высокі хлопец у вязанай, як дзіцячай, шапачцы з кутасом. І Вінцэсь зразумеў па гэтым «ат», што хацеў сказаць хлопец пра мужчыну ў старым паліто і чаравіках.

— А агонь, хлопцы, трэба патушыць. Барані бог утлеецца! Ніхто і ніяк не ўтушыць. Метраў чатыры торфу!

— Чаму не патушаць? — запыталася дзяўчына, што прымасцілася сядзець на корчыку, выцягнуўшы ногі.

— Зверху зальеш — далей ідзе. Выкінецца дзе наверх, адале зноў пад ніз.

Некалькі хлопцаў у кірзавых ботах пачалі разграбаць галавешкі, затоптваць вуголле, але пасохлы торф курэў, як вата.

— Бач, як яно, пранцы, гарыць! Трэба вадою,— параіў Вінцэсь.

І той высокі хлопец у шапцы з кутасом знайшоў недзе між радкоў іржавую трактарную фару і пайшоў да канавы па ваду. Вінцэсь паклаў на плячо сахор, граблі:

— То да спідання! Троха пакрычаў на вас... Агонь дзе на зямлі, на ўзгорку запаліце...

Ён ужо канчаў зграбаць сена, калі прыгледзеў, што на другім баку канавы, на бурачным полі, тупае туды-сюды чалавек, нагінаецца, нешта штурхае ботам.

«Каго там носіць?» — пачаў углядацца Вінцэсь і не мог пазнаць: далёка было. І ён зноў пачаў выграбаць сваю атаву і прыкідваў у думках, як вывезці з лесу бярвенне, разагнаць на дошкі, каб летам ашалёваць хату, і агледзеўся, калі ўжо блізка пачуў хрусткі шоргат бурачніку і голас:

— Што гэта ты, дзядзька, робіш?

— Дзень добры! — адказаў Вінцэсь.

— Здраствуйце! Нашто ж вы грабяце?

— Як нашто? Сена...

— Колькі вам цягаць і колькі вам гаварыць! Самі забяром!

Старшыня быў у ботах, у галіфэ, на якое густа пачаплялася «ваўчкоў», у чорнай на футры куртцы, з-пад якой былі відаць полы сівога пінжака. Ён гаварыў пра сена, а думаў, бадай, пра буракі, якія ўсе на полі, а халады ідуць... Ён павярнуўся і шпарка пакрочыў берагам.

— Апанасавіч!..— гукнуў услед Вінцэсь і глядзеў, як той сышоў па адхоне да вады, пераступіў на другі бок, цяжка ўзышоў на бераг і падаўся да рабочых, якія затушылі агонь, але не разышліся, штукарылі гуртам.

Вінцэсь правёў вачыма старшыню і толькі тады вылаяўся, пастаяў, нібы раздумоўваўся — кідаць работу ці не? — і пачаў падбіваць граблямі да ног новую пярэбірку — складаць сена ў капу.

Скончыў, закурыў, сеў на беразе, кінуў вачыма на копы: «А пудоў пятнаццаць набралася б. Нагнаў жа чорт!.. І прападзе ж: ніхто па яго не паедзе».

Устаў, сабраў снасць, цяпер непатрэбную, і пайшоў полем да ўзгорка, дзе прадаўгавата віднеліся па першаму разу прысыпаныя зямлёю капцы, а ля самага

крайняга, абкладзенага напалову саломаю, варушыліся людзі, абарочвалі падводу.

Пакуль Вінцэсь падышоў, падвода ад'ехала, і Антось драўляным шуфлем падгортваў бульбу — вывадзіў капец. Рукі яго былі няспешныя, бульба абкочвалася долу, але капец непрыкметна раўняўся — і вяршыня, і збоку.

— Чаго гэта ты прытупаў? Я ж бы пад'ехаў.

Антось прысланіў шуфель да кучы з саломаю і пачаў круціць тоўстае саламянае перавясла, якім звычайна наўкруга па зямлі абкладваецца капец.

— А хай яно згарыць! Прадсядацель не даў.

— Як не даў?

— Хадзіў там, буракі глядзеў. Злосны!

— Ну, братка, і буракі ж цяпер! Але ж адзін у адзін, ну як вядро кожны! Дальбог жа, Вінцэська, у даёнку будзе!

— Хіба ж я сам не бачыў.

— Дальбог жа, Вінцэська... Дзіва што ён усердаваўся — як іх толькі зацепла ўбраць будзе?

— От пойдзе дождж, то прападзе сена.

— Згніе, Вінцэська... Каму яно ў гэту пору ў галаве!

— Прыйшоў сказаць, каб ты не ехаў...

— Да ўжэ ж... Унь ці не Пятрок сюды курыць! Мо падвязе цябе?.. Гэта ж, Вінцэська, каб мяне, то не ўссадзіў бы на гэтага чорта, а ён не зсядае! Падла старая...

— Без яго ж не вылетае па брыгадзе. Нашых жа год. І так маладзец яшчэ.

Пятрок заглушыў матацыкл, разбіты па бездарожжы, з перакошаным набок сядлом — старамодным, нечакана белым нікелем спружын. Палажыў матацыкл бокам на капец.

Быў ён, як і старшыня, у куртцы, толькі «чартакожавы» верх яе выліняў, стаў шэрым; вушы старое аблавушкі былі завязаны на патыліцы.

— Здароў, Вінцэсь! Акрыяў троха, што сам у помач прыйшоў?

— Здароў! Помач з мяне...

— Нашто гэта ты вяроўкі цягаеш?

— Атаву хацеў з канавы прывезці, дак не даў жа...

Коле ў вочы гэта атава... Хвараты больш угамоніць на гэтыя канавы! Падвязі лепш дадому.

— Дык ты, Вінцэсь, памог бы Антосю. Паедзьце ўдвух з возік саломы прывязеце капец прыкрыць, а то дождж увалье ці марозік...

— Наробім мы з Антосем! Да поўначы... З мала дзейшых бы каго знайшоў.

— Нойдзеш. То трактарысты, то шманісты!

— А трактарысту грэх?

— Не грэх, але ж абабіліся, акрамя гэтае свае жалязякі нічога і ведаць не хочуць! Як не на зямлі жывуць, як чужая яна ім! А зямлі ж, як дзіцяці, рука чалавечая трэба...

— Па-гарадскому, Пятрочак, па-гарадскому, дальбог! Адстаяў змену... Культура! — абазваўся Антось.

— Пранца гэта, а не культура! Дзяцей усе пораспіхалі ў гэту культуру, абы ў горад, дык і культура. А каторыя хоць тратувар месці, але абы ў горад! Добра, калі робіць як чалавек. А чые парассабачалі, гарэлку жлукцяць, а мы, як цені топчамся, зямлю ім дзяром. Але і добра старым дурням, навука! Не трэба было гэтак дзяцей з зямлі спіхаць! — Вінцэсь кінуў акурак і прытаптваў абцасам.

— То і ты ж не лепшы,— абазваўся ў адказ Пятрок.— Паможаш Антосю? У капец больш не будзе, на свінарнік павязуць.

— Не прападаць жа...

Ішоў дадому Вінцэсь позна: пакуль прывезлі салому, пакуль абклалі капец — добра ўмеркла, і там, дзе зайшло сонца, люта зачырванелася неба; крыху распаўзліся хмары, высвечваў месяц і па-асенняму стыла праглядвалі зоркі. Вецер мёртва аціх, і было чуваць, як в клёнаў падала само па сабе лісце, шоргалася між галін...

Старая ўжо канчала паліць у печы і, мабыць, прачакалася яго.

— Пазней не мог прывалачыся? Сена ён вёз, каб цябе вывезлі! Мо дзе кругом магазіна агінаўся!..

Вінцэсь нічога не адказаў, і старая крыху адступілася.

— Дак дзе-та ты быў?

— Капец з Антосем накрываў.

— Да гэтае пары? Ты ж атаву хацеў прывезці?

— Не даў!
— Хто не даў, вярза ты?
— Прадсядацель!
— Дак ты яму за гэта да поўначы ў полі сківеў? Згарэў бы ён, хай бы сам ішоў накрываў!
— Мароз яшчэ на раніцу. Прападзе...
— Дома памог бы свіней пакарміць ці карову загнаць, дак ён чорту лысаму ў зубы глядзіць!
— Дай ты пад'есці хоць!..
— А пад'ясі, бо выгаладаваў жа!..
Старая не сунімалася, а ён зноў думаў пра сваё: калгасныя трактары заняты, трэба будзе згаворвацца з эртээсаўскімі хлопцамі, везці адразу на гатар, каб распілаваць на дошкі.
— Волька, а пісьма ад Федзі не было?
— Не. Мо загневаўся, што мала грошай даў.
— Як мала, то хай сам дабаўляе. Каб было, то і больш бы даў!
— Сунуў сціхача, думаў — я ведаць не буду! Трэба яму той матацыкл! Ужэ можна было б, каб і яны нам давалі...
— Мо калі дадуць...
— У карак яны табе дадуць! — зноў памацнеў голас старое: не перагаманіла яшчэ, не верыла, што Вінцэсь не смакануў віна.
Ён пайшоў, памацаў, ці замкнёны сенцы, маўчком распрануўся ў спальні і прылёг, цяжка, натомлена выпрастаўся, яшчэ прыслухоўваўся да апошніх паведамленняў, і скора заснуў, і сніў, што гарыць балота — употайкі, спадыспаду, і няма як яго патушыць, бо толькі зрэдку прабіваецца агонь наверх, дзе яго тушыць, а балота гарыць; і ён прачнуўся, і ў паўсне думаў, якая дурнота яму сніцца, і не мог зусім ачнуцца, бо моцна стаміўся за дзень...
А на дварэ тым часам глуха, беспрасветна ішоў снег, і зямля ўжо была белаю; бела было на галінках у садзе, і прыцішна, прытуманена, як надоўга, навечна, а не да дня, калі неастылая яшчэ зямля растопіць гэты дачасны холад, ад якога бела ў вокнах...

*1970*

# ПАЛЯВАННЕ НА СТАРЫХ АЗЁРАХ

## I

Пасля дажджоў палявыя дарогі разбрынялі, і «Запарожац», слізгаючы коламі па гразі, паволі прасунуўся наперад. У люстэрка Валянцін бачыў, як прыціхла сядзелі на заднім сядзенні бацькі. Побач незадаволена пакрэхтвала Ірына.

— А дзядзька Антось яшчэ тупае па лесе?

— Тупае, тупае! Пра цябе неяк прапытваў,— паспешна азвалася маці.

— А, чорт! — вылаяўся Валянцін, калі адчуў, што машына забуксавала.

Бацька не вытрымаў, ажывіўся:

— Мо вылезу, вазьму ды і трохі падапхну тваю каробачку?

Валянцін нічога не адказаў: тонка выючы маторам, «Запарожац» выпаўзаў на тупкае.

...— Туз дзе? А ты думаў... Састарэў, аглух быў. Вочы белыя сталі. Як дурны, брэша на сваіх або на вуліцу ўлетку высунецца і ляжыць, пакуль машына над ім не засігналіць. Адале так яго і пераехалі. І не віснуў, здэцца, як ляжаў, так і астаўся. Пад яблыньку яго закапаў. Толькі мне дзіва, як гэта лесавы сабака дапусціўся, каб яго машына пераехала, а не сышоў дзе ў лес, у нетру, каб ніхто не бачыў...

— А кіньце вы пра сабаку, сабакары! Ты от, бацька, скажы яму... Папытайся, што ён рабіць надумаўся? Які ж чорт пёр яго ў карак жаніцца, каб кінуць? Ты думаеш, яна па табе вешацца будзе? Другога дурня знойдзе! А ты ёй кінуў-рынуў і кватэру, і ўсё, а сам гол, як сакол, папёрся!.. Мала, што сам агнюсіўся, дык і нас агнюсіў! А ты ўсё маўчыш, бацька! Даў змалку патачку!..

— Пачакай, маці, дай яму з дарогі пад'есці. Нагаворыш яшчэ, успееш. Дзела ў іх маладое. Яшчэ дзесяць раз змірыцца, а як не, то паедзе, сваю палавіну забярэ. Пасядзіць у нас, пакуль водпуск, атаву паможа скасіць, а то аднаму не даць рады...

У бацькі пасля гарэлкі зачырванеўся твар, і стаў добры настрой, і лепш не гаварыць яму, што работу ты кінуў назусім, што прыехаў таксама назусім.

...У кароценькім зімовым паліто з капюшонам, аблямаваным белай футрай, яна час ад часу злёгку прытупвала на халодных прыступках і здавалася безабароннаю і адзінокаю сярод глухой зімовай стыні.

Ён запытаўся, ці няма ў яе лішняга білецїка, хоць ведаў, што і сама яна спадзяецца купіць у каго-небудзь. Дзяўчына толькі моўчкі зірнула на яго і зноў сцялася ад марозу, а ён з вясёлаю ўпартасцю падумаў, што не адступіцца ад яе, пакуль не забярэ з сабою.

«Я магу даць білет»,— як мог сур'ёзна сказаў ён. Яна ўстрапянулася і па-дзіцячы наіўна папрасіла: «Калі ласка, а то я змерзла».— «А вы мне скажаце, як вас завуць?» — «Ірына».— «А мяне Валянцін. А білеты будуць у нас заўтра. Зараз мы пойдзем кавы вып'ем, а то вы можаце прастудзіцца».

Яна зноў сцялася, увесь яе адчужаны выгляд гаварыў: колькі вас такіх, што не могуць размінуцца, каб не зачапіць, і лічаць, быццам яна без гэтага жыва не будзе. «Вы мяне баіцеся?» — настаяў ён.— «Не, але...» — «Значыцца, пойдзем». Ён далікатна, але настойліва ўзяў яе за локаць. Яна пайшла.

У кафэ ён заказаў вячэру і два кілішкі каньяку. Ірына насцярожана паглядзела на яго, але нічога не сказала. Маўчаў і ён: не хацеў лезці ў гаворку, ды і тая гуллівая смеласць, што з'явілася на дварэ, тут, у светлай люднай зале, прайшла, было неяк няёмка, як заўсёды з незнаёмымі ці мала знаёмымі, калі застаешся адзін на адзін і не знаеш, пра што загаварыць, пра што запытацца.

— А я першы раз піла каньяк,— нечакана засаромелася, і яму стала добра ад яе наіўнасці.

Яе дробны, бялявы тварык заружавеўся, і яна неяк лёгка ўстрасала галавою, папраўляла рукою коратка астрыжаныя русыя валасы.

Дадому ён Ірыну не праводзіў, залішне не настыраўся з заўтрашнім спатканнем, пакуль чакалі на прыпынку яе аўтобус. Але назаўтра білеты ён усё ж узяў, і кіно яны глядзелі разам...

...Ён затрымаўся на рабоце і крыху спазняўся. Ірына цярпліва чакала яго, і ён, нічога не гаворачы, пацалаваў яе і пацягнуў за руку ў таксі:

— Паехалі!

— Куды?

— Паехалі!

Яна паслухалася і не пыталася, куды яе вязе, ці то разгубілася, ці саромелася шафёра: сядзела побач заціхлая і насцярожаная.

За руку ён павёў яе ў пад'езд, уверх па лесвіцы. Перад дзвярыма ўсё трымаў яе за руку і доўга не мог знайсці ў кішэні ключ. Яна не вырывалася, толькі шэптам пыталася і прасілася:

— Куды мы прыехалі? Пайшлі назад!

...Прачнуўся ён на досвітку. Ірына спала, утуліўшыся тварам у яго плячо.

Валянцін з усмешкаю, лагодліваю і зычліваю, паглядзеў на прыціхлую Ірыну, на яе бледны тварык, і ўсё спрабаваў угадаць, што ж так уразіла яго ў ёй. З твару, з постаці яна не была прыгажэй за тых жанчын, якіх ён ведаў, але ён разумеў — яна не магла так, як яны, махнуць рукою на ўсё і пайсці, куды захочацца, яна пойдзе, куды захоча ён, зробіць, што ён скажа,— яна была ягонай. Упершыню ён адчуваў, што жанчына — яго, што ён для яе і бог і цар!.. Так вырашыў ён канчаткова і за яе, пакуль спалохана прыціхлую...

Пасля снедання яны перавозілі Ірыны рэчы з інтэрната.

І наперадзе было такое доўгае, шчаслівае жыццё!

Першыя дні Ірына нібы баялася ў кватэры і была падобна на вясковую дзяўчынку, якая прыехала ў горад да багатых сваякоў. Ён жартаваў, што яна снуе туды-сюды, як мыш вакол печы, на якой спіць кот. Яна вінавата ўсміхалася:

— Я ніколі не жыла так. У дзетдоме, у вучылішчы, на фабрыцы. Усё ў інтэрнатах. Я пра такое і не думала!.. І муж з вышэйшай навукаю... Архітэктар!

Ён уяўляў, як жыла яна, маленькая і кволая, у дзетдоме, заўсёды ціхая і непрыкметная...

...Кожны раз, калі вяртаўся з камандзіроўкі вясною, Валянцін адчуваў, як мала прасторы і святла ў горадзе, як цесна і няўтульна тут пасля шчодрага не-

ба над палямі, пасля далёкіх небакраяў, якія зубяцца ўдалечыні вузкаю палоскаю лесу; як нязвыкла і аднастайна пахне нагрэтым за дзень асфальтам — пасля прагрэтай сонцам за дзень раллі, пасля вясковых аселіц.

У пакоі было прахалодна і прыцемна. Ён нібы ўпершыню ўбачыў сваю кватэру: высланая дыванамі падлога, радыёла ля ложка, тэлевізар на століку ў куце, у другім фікус з бліскучымі, як паліраванымі лістамі; ля акна ягоны столік, пасярод пакоя яшчэ адзін стол, ля стала тры мяккія крэслы на кароценькіх растапыраных у бакі ножках; на століку шкляная вазачка, і на радыёле, і на століку, і на тэлевізары — усюды тоненькія буслікі, сабачкі на акуратна звешаных уніз трохкутнічкамі сурвэтках; невялічкая канапка, на якой ён любіў, як некалі ў дзяцінстве, адпачываць пасля доўгай сядні за сталом, заслана чысценькаю светла-жоўтаю сурвэткаю... Нават не верылася, што некалі ў гэтай кватэры было пуста і прасторна...

— Валік! А я думала,— з палёгкай уздыхнула Ірына, ускокваючы ў пакой,— што забылася замкнуць.

Яна пацалавала яго і адхілілася.

— Ой, які ты брудны, потны! У ванну, у ванну!.. Пакуль памыешся, есці зраблю.

І ўжо з ваннае чуў яе вясёлы, спакойны голас:

— Бачыў, які я дыван дастала? Каб яшчэ халадзільнік да гарачыні...

Яна прынесла яму бялізну. У стракатым цыратавым фартуху, у завязанай, як у ткачых, касынцы, яна ўбачылася другою, зусім не падобнаю на тую кволую і бездапаможную дзяўчынку,— гэтая спакойная, упэўненая жанчына неяк крыху нагадвала ў сваёй залішняй сур'ёзнасці дзіця, якое гуляе ў дарослага чалавека.

— Якая ты стала!

— Не трэба. Пасля...

Яна вызвалілася з яго рук і папраўіла на галаве касынку.

...Ірына павярнулася, пстрыкнула выключальнікам радыёлы.

— Іра, я кідаю работу.

— Цябе знімаюць?

— Не. Сам. Помніш, расказваў перад камандзіроўкай? Дом знеслі. Яго зносіць не трэба было б. А мяне, каб не перашкаджаў, раёны інспектаваць паслалі. Знайшлі хлапчука!

— Дык што, як знеслі?

— Сабачымі вачыма на людзей глядзець?

— Думаеш, каму ў голаў? Кінь! А халадзільнік... Ты ведаеш, колькі каштуе самы лепшы?

— Хто?

— Не хто, а што. Халадзільнік.

— Не ведаю.

Добра і хораша іграла музыка.

## II

У пакоі прахалодна начамі: гаспадыня перастала паліць у грубцы на ноч. А нават і вечарам яшчэ холадна на дварэ, у пругкай сінечы неба буйна свецяць зоркі, пахне вішняком, тонкім пачарнелым лядком, які ляжыць там, дзе былі гурбы, падмёрзлаю зямлёю. Неяк пустэльна і ўрачыста ў такія вечары на ціхай вулачцы, гулка пахрумстваў пад нагамі лядок, і аж не хапае грудзей, каб удыхнуць усю чысціню і свежасць паветра пасля душных кабінетаў упраўлення, дзе печкі паляць яшчэ па-зімоваму.

На стале яго за поўнач гарыць настольная лямпа, ад якой цёпла ў рукі. Можна ўсю ноч працаваць над эскізамі, лепшага месца і лепшага часу не было і не будзе. Але нешта не рабілася, не было настрою...

Валянцін ужо амаль з год не заязджаў да бацькоў, рабіў у раённым архітэктурным аддзеле і ўсё часцей і часцей думаў, што дарэмна «шчапіўся» з начальнікам, што дарэмна так напусціўся на Ірыну. І ён занудзіў, не выходзіў на людзі, асунуўся, пахудаў і быццам пастарэў. І ў пачатку восені паехаў да дзядзькі.

Ён не ведаў, чаму раптам захацелася паехаць да дзядзькі, можа, хоць у гутарцы адвесці душу з чалавекам, які зразумее яго...

...На ажарсцвелай траве ўзлескаў, на густых, насохла-пыльных верасах ужо ляжалі адзінокімі зорач-

камі восені жоўтыя лісцікі бярозы; былі шэрымі ад расы ранішнія паплавы, а ночы пахлі цёплым туманам і яблыкамі, якія гулка стукаліся аб шчодрыя, шырокія грудзі зямлі; над палямі ляцела рэдкае павуцінне, асядала белымі ніткамі на раллі і блішчала на сонцы, якое яшчэ і грэла і ярка свяціла нейкім крышку журботным святлом,— гэта было ўжо не прадчуванне восені, а яе пачатак, добрае, спакойнае, з высокімі самотнымі жураўлямі, якіх з кожным годам усё менш і менш — ці яны гінуць, ці мяняюць старыя дарогі на новыя і там ляцяць па новых дарогах?

Валянцін памятаў, як аднойчы з-за кустоў алешніку, зусім блізка, у мяккім вільготным аўсе ўбачыў двух жураўлёў: яго — крышку вышэйшага, буйнейшага і яе — тоненькую і стройную побач.

Гэта даўні і балючы ўспамін — шырокае, прасторнае роднае поле і яны, адзінокія, насцярожаныя,— ці не адзіныя з тых, што паляцелі да яркага сонца, абмінулі роднае поле дзеля гэтага сонца!

...— А я думаў, ты да мяне і не заедзеш! Дарэмна, думаў, свісткі табе некалі рэзаў. Помніш?

— Помню. І дудкі з гусінага пяра.

— І дудкі! Які ты вымахаў! А я ўсё бліжэй да дому падыходжу. Там і вылечуся.

У дзядзькавых словах Валянцін адчуў боль і шкадаванне. Ці то не хацелася верыць у смерць, ці было шкада, што не зусім удалося жыццё? Некалі дзядзька быў камбайнерам на ўсю МТС, любіў сваю работу. Захварэў на туберкулёз, доўга лячыўся, а вылечыўся — і пажыць з жонкаю не давялося: памерла праз два гады ад родаў. Занямог і дзядзька — нешта сталася з сэрцам. Урачы гаварылі, што хвароба з вялікага хвалявання, што трэба супакоіцца,— і ўсё пойдзе добра. Праз два гады дзядзька пайшоў пастухом, а потым брыгадзірам стаў. Ужо ў інстытуце Валянцін чуў, што дзядзька прадаў хату і падаўся ў леснікі. Сын яго тым часам узрос, скончыў школу і ўладкаваўся ў горадзе, на заводзе. А дзядзька даглядаў пчол, выкошваў лясныя палянкі — абодвум братам па возе сена за тое, што некалі не пакінулі ў бядзе. Адведваў ён братоў кожны месяц. Акуратны, чысты, ён прыходзіў у вёску,

слухаў, як гаманілі мужчыны, добра і спакойна ўсміхаўся, бо нешта ведаў такое, чаго ўсе не ведаюць яшчэ...

Валянцін на ўсе грудзі ўдыхаў сухі, моцны водар свежага ляснога сена, думаў пра дзядзьку і не каяўся, што прыехаў да яго. І ўсё ж нешта зрушылася ў душы, пахілілася, і ўжо неяк неўзаметку прыходзілі палахлівыя, як здрада, думкі, што тая спрэчка з «галоўным» нікому не патрэбна, што многія даўно забыліся пра той дом, які ён адваёўваў, што старадаўняя прыгажосць не дала б людзям скарэй правесці новую вуліцу, многім зарабіць прэміяльныя і пахвалу — што там нейкая развалюха! А ён сарваўся з перспектыўнай, цікавай работы...

На возера ішлі нацямочку. Спачатку вузенькаю сцяжынкаю сярод мокрага ад расы арэшніку і маладых, густых бярозак і асінак. Дзядзька ступаў спераду, няўклюдны ў сваёй брызентавай адзежы і закасаных паляўнічых ботах.

Маўчалі. Было хораша і добра, як заўсёды жнівеньскімі світаннямі і надвячоркамі.

Хвойнік, малады і шызы ў змроку, пачаўся нечакана, і сцяжынка перайшла ў гулкую, добра ўезджаную падводамі дарогу. Потым дзядзька павярнуў направа. Хвойнік кончыўся, пачаўся гонкі меднаствольны бор, высланы мяккай ігліцай і парослы густой высокай папараццю. За борам пайшоў нізкарослы рэдкі ядловец на касагоры. Наперадзе, у лагчыне, было бела ад туману.

— Вот табе і Азярышчы! — нібы сам сабе прагаварыў дзядзька і затупаў уніз.

У самым лагу дзядзька спыніўся, адкасаў боты, заклаў у ствол патрон,— патроны ён насіў у кішэні, браць на паляванне патранташ не любіў.

— Ідзі паўз гэты бок, там, у лазняку, прытуліся. А я тут, ля слупа, чакаць буду. Як далёка над возерам выхваціцца — не бі. Без сабакі ў гэту багну не ўлезеш. А дарэмна — нашто...— дзядзька павучаў Валянціна, як і некалі, даўно...

Туман высцілаўся над возерам лёгка і нізка. А як толькі выглянула сонца і пацягнула ветрыкам, туман застаўся толькі над самою вадою нараўне з чаротам.

Валянціну была відаць з-за кустоў дзядзькава га-

лава, плечы і ствалы стрэльбы, на якіх мутна адсвечвала сонца...

Валянцін аж уздрыгнуў ад нечаканага імклівага посвісту крыл, паспешна ўскінуў стрэльбу і ўдарыў услед качкам раз, другі і толькі тады спахапіўся, што далёка было і страляў дарэмна. Прайшло некалькі чародак, але таксама далёка, над самаю сярэдзінаю возера. Затое потым, адна за адной, дзве імклівыя птушкі ішлі проста на яго. Валянцін цэліўся з асалодаю, «падвёў» і выстраліў. Крыжань гамашна ўпаў амаль пад ногі.

Пачуліся два дзядзькавы стрэлы. Валянцін уяўляў, як на гэты раз дзядзька павесіў стрэльбу ўніз ствaламі — больш страляць не будзе — і прыладжвае качак да папругі. Зараз ён будзе ісці да Валянціна, страляць больш не дасць. Нашто, скажа, без толку глуміць птушку...

Ужо калі ўвайшлі ў лес, слых разануў траскучы, рэзкі гук трактарнага «пускача». Гук далятаў ад Азярышч.

— Дзе гэта, дзядзька?

— Канавы капаюць. Цераз год, казалі, араць трактарамі можна будзе.

— А Азярышчы?

— Тут зямля добрая. Цімафееўкі калгасу і людзям хопіць.

Больш дзядзька не сказаў нічога.

Гатавалі сняданак на двары, на трыножках. Валянцін варыў бульбу, пёк сала, а дзядзька тым часам аскуб, асмаліў, выпатрашыў качак і занёс іх у пограб у місцы з халоднаю вадою. Прынёс ён маласольных агуркоў, каўбасы і накрыў усё гэта ручніком на століку пад клёнам, вынес з хаты табурэтку, а за другую была высокая калодка, на якой дзядзька сек ламачча для трыножкі. Прынёс дзядзька і бутэльку «самадушкі». Сабе капнуў толькі на дно, для прыблізу.

Закусвалі моўчкі, не спяшаючыся, як і здаўна павялося ў сялянскіх сем'ях.

— Яшчэ ўліць? На мяне не глядзі. Мне яшчэ дзень па лесе тупаць.

— Не трэба. Не прывык я многа.

— Хм. А я думаў — распіўся. Жонку кінуў, з работы выгналі...

— Тут не саўсім так.

— Што, не глядзела ці з другім?..

— Не. А работу... сам кінуў. Пішуць, што ў любы час можна прыязджаць.

— Неяк выходзіць у цябе навыварат. А мяне, як знімалі, памучыліся, папацелі!

— А вас знялі? Лепшага брыгадзіра?!

— Помніш Яшку аднарукага?

— Дзіва што! Ён з аднае рукі па зайцу ніколі не мазаў.

— І Амельку помніш?

— Помню яшчэ нават, як Волька з нявесткаю кадоўбчык мёду ўкралі і за мёд хусткі пакуплялі!

— Скнараваты быў, але пчол умеў дагледзець. Пры ім і калгас мёду папрадаваў! Яшка падбіўся да прадсядацеля, спароў Амельку. Вывез пчол на ўзлесак, пчольнік яму паставілі. Самагонку гнаў, мёду на закуску хватала. Дазакусваліся! Пчол звялі. Грахі на самалёты спісалі, што зелле труцяць. Тады Яшка кліны і пад мяне падбіў. Я ў райком да Цвіркі. Наказаў, каб паставілі на работу назад або другую далі. Прыхварэў я быў, а пакуль падлячыўся — Яшкавай і нагі тут няма. З партыі яго выгналі, з работы. Недзе к жончынай радні на Украіну з'ехаў.

— І вы маўчалі? Напісалі б!..

— А што пісаць? Хлопца з цехнікума прыслалі, вучоны. Абвыкнецца з людзьмі — гаспадаром будзе. А мне і тут добра... Ну, ты тут прыбяры, пахадзі дзе, паспі, а то сёння ўспароліся не ў пару. А мне лес глядзець...

Прачнуўся Валянцін прыцемкамі. Дзядзькі не было яшчэ з лесу, і Валянцін чамусьці ўзрадаваўся гэтаму, спехам сабраў рукзак, замкнуў на вісячы замок хату, паклаў ключ у шчылінку ў вуглу і сцежкаю пакіраваў да шашы, каб паспець на апошні аўтобус, хоць і ведаў, што дзядзька пакрыўдзіцца на яго...

Пасля паездкі да дзядзькі стала яшчэ горш мучыць адзінота і раскаянне, і ўсё часцей і часцей не знаходзілася, чым апраўдаць сябе...

Ён чуў, як на ганку затупацелі, і падумаў, што да гаспадыні ў госці зноў прыйшоў сын. Але дзверы ад-

чыніліся ў яго пакой, і ўвайшоў бацька — у хромавых ботах, у сінім галіфэ, у сівенькай рубашцы навыпуск. Твар яго быў чыста паголены і чырвоны ад гарачыні. Следам увайшла маці ў святочнай сукенцы з кароткімі рукавамі, з карзінаю ў руцэ, накрытаю вышываным ручніком.

Бацька засмяяўся, пакашляў, працягнуў Валянціну руку:

— Здароў, сынок! Прыехалі глянуць, як ты тут...

Маці пацалавала Валянціна ў лоб.

— Але ж і гарачынішча, як улетку стала,— загаварыла яна, выціраючы твар рукою.— У аўтобусе цесната, а я адна месца за траіх займаю. Куды ж гэта ты? Мы ў хату, а ты з хаты.

— У магазін забягу, а то зачыняць на абед.

— Нашто? Бацька тут усяго ўзяў.

— Чаму? Піва мо ест, то хай возьме.

Калі Валянцін вярнуўся, стол быў устаўлены частункам.

— У нас цяпер яблык няма куды дзяваць. Сыплюцца, гніюць. Свінням па кашы носім. А недзе ж людзі жадны гэтаму яблычку!

— А хопіць табе з гэтым садам! Адна песня ў цябе! Карове яшчэ і пылінкі на зіму няма! Сад твой есці не просіць!..

— Што ты ведаеш! Назбіраем і карове! Будзе час...

— У цябе век «зробім»! Табе пакуль агню пад хвост не пакладзеш!..

Валянцін падумаў, што бацькі, чаго добрага, пачнуць сварыцца.

— Давайце яшчэ па адной,— прапанаваў Валянцін.

Бацька прыкусіў, закурыў.

— Дык мы вот, сынок, к табе,— пачала маці, кінула вокам на бацьку, але той засяроджана піў піва.

Маці слязліва зашморгала носам.

— Была ж я ў твае, але... Пісьмо прыслала. Сынок жа ў цябе нарадзіўся! Але... Цяжка ёй адной. Не па-людску неяк выходзіць. І бацька жывы, і дзіця сіратою. Цяжка ёй адной...

Маці выцерла вочы.

Бацька ўсё піў піва, не падымаў вачэй, пакашляў і глуха сказаў у шклянку:

— Трэба ж, Валік, дзіця глядзець. І мы дадому ўнучка, як трэба, возьмем. Праўда, Мар'я?

— Але ж, але! І яна, сірата, як былінка адна ў полі, без помачы не выгадуе...

Як толькі пад'ехалі дадому, бацька борздзенька выскачыў з машыны і пабег адчыняць вароты.

Валянцін затармазіў ля самага парога. Пакуль ён з вядром і анучаю ў руцэ выціраў машыну, маці з Ірынаю паставілі на стол ежу, хоць толькі што былі за сталом — гасцявалі ў мацерынага брата.

У хаце і бацька і маці ажывіліся, весела затупалі, і Валянціну аж смешна было ўспомніць, як прыціхла сядзелі яны ў машыне. Ён адчуваў, што бацькі рады і яму, і Ірыне.

Валянцін нібы памаладзеў за апошнія гады, быў стройны, з чыстым хударлявым тварам. А Ірына раздабрэла, раздалася.

— Што ж гэта мы, бацька, з-за стала зноў за стол?

— У гасцях добра, а дома яшчэ лепш. Ты ж там і губ не памачыў.

Пасля першай чаркі ў Валянціна закружылася ў галаве, і ён, як мог, налягаў на кіслыя агуркі.

— Добра было б, каб і Вовачку з сабою ўзялі,— уздыхнула маці.

— Каб не ў лагеры, узялі б,— адказала Ірына.

— Што ж той лагер! Тут бы з хлопцамі выгуляўся на волі,—махнуў рукою бацька.

— А ты там не п'еш хоць? Нейкі лядашчы, як і быў. Ірына, бач, маладзец,— загаварыла да Валянціна маці.

— Не, слава богу. Бывае гады ў рады,— адказала за мужа Ірына.— Хіба ж ён язвеннік!

Валянцін налягаў на каўбасу, агуркі — у апошні час ён палюбіў добра, усмак з'есці — і думаў, каб не забыцца сказаць Ірыне ўзяць агуркоў з сабою.

*1970*

# ІСЦІ ДОЎГА...

Старшына звыштэрміновай службы Юра Спіцын ведаў, што не скора выберацца дадому з гэтага скрозь прамоклага, адсырэлага лесу, беднага, разбрынялага ад вільгаці суглінкавага поля, удоўж і ўпоперак парэзанага глыбокімі каляінамі.

І вясна зацягнулася, хоць пачыналася ранне і цёпла: скора сышоў з поля снег, наплылі вільготныя цёплыя туманы, млявая, добрая прыцішанасць ахіляла зямлю, і яна запахла моцна, хоць і не зусім адпусцілася. Холад не саступіў свайго — зададжджыла, потым лёг ненадоўга мокры снег, і «коцікі» на вябре, якія намякнуліся паказацца на свет, прытаіліся, чакалі цяпла, дасюль такога ласкавага і шчодрага сонца. Тады густа дыміўся ў яловым гушчары злеглы, пачарнелы снег, і здавалася, што заплыў туды і застаўся назаўсёды густы восеньскі туман. Пакрысе, неўпрыкмет выгарнуліся «коцікі», і да вербалозу пацягнулі раннія пчолы...

Старшына ўжо шостую вясну запар сустракаў на палігоне, а ў войску семнаццаты год; пабыў і камандзірам гаспадарчага ўзвода, і старшыной роты, і загадчыкам склада, але нідзе па столькі год не затрымліваўся на адным месцы і нідзе так не ляжала да сэрца работа, як гэтая, на бранядроме, начальнікам якога ён быў прызначаны. Ці то пастарэў і не хацелася лішне турбавацца, ці з гадамі прачнулася балючая памяць сэрца —ніколі не забывае яно той дол, па якім упершыню ступілі тваё ногі! А тут гэтакі ж малады сасоннічак, дробны беразняк, невялічкая дуброва і бедная лесавая зямля, пасыпаная іглiцаю, пакрытая невялічкім, сухім, нібы лішайнік, мохам, пад якім у дажджлівую восень хаваюцца жаўтавата-зялёныя, як кветкі, зялёнкі.

І не толькі работа трымала Спіцына неадлучна на палігоне: можна вырвацца дадому на дзень, на суткі, толькі захацець трэба, але якраз і не было гэтага хацення.

А ехаць ёсць куды: сын, жонка, кватэра. Гэта не прыватныя пакойчыкі з пажаўцелымі шпалерамі, ке-

рагазамі на кухні, сабачым холадам узімку, калі сынаў ложак акрываў кажухом. Не было тады ні рэчаў, ні гарнітураў, ні вялікага акладу... і доўгіх камандзіровак, і не любіў ездзіць далёка, надоўга.

Пасля абеду зацерусіўся ласкавы дождж, і здавалася — убачыш, як на галінках бяроз расхінуцца пупышкі, засвеціцца маладая зяляніна, а раніцою, калі ад дажджу застанецца толькі вільготная смуга, падыме насустрач сонцу цяжкую галоўку сон баравы.

З-за дажджу не ішла работа на бранядроме. Цішыня ў каманднай вежы, дзе на першым паверсе ў двух вучэбных класах спала, радая перадышцы, палігонная каманда.

Трэці клас заняты пад лабаранцкую. Стол, старая тахта, невядома адкуль узятая Юравым папярэднікам, паўз сцены на падлозе бухты электрычнага кабелю, скрынкі з цвікамі, інструментамі, бляшанкі з фарбаю...

Юра прылёг на тахту, выключыў старэнькі «АРЗ», заплюшчыў вочы.

...Ціха і адзінока, як у старым доме, дзе ніхто даўно не жыў. І дом прывык да цішыні, прапах вільгаццю, пылам... Ды і Юра не вайсковец, а брыгадзір электрыкаў, якія вядуць лінію па лесе, ставяць чыстыя смаловыя слупы, цягнуць дрот, жывуць у закінутай сярод лесу хаціне. Скончыліся крукі і ізалятары, хлопцы пайшлі ў вёску, за восем кіламетраў, а ён застаўся адзін, бо трэба будзе прыняць гэтыя крукі і ізалятары, хоць невядома, калі іх прывязуць... І ён зайздросціць хлопцам, быццам пайшлі яны па шчасце...

Тады ён не думаў, што застанецца ў войску, толькі пачыналася жыццё, і ў сэрцы жыла светлая і трывожная радасць. А цяпер спакойна, роўна сплываюць у небыццё дні, нібы сагнаў даўно смагу, а ўсё цягнеш сцюдзёную да ламаты ў зубах крынічную ваду.

Некалі гэтак, як лабаранцкая, пах стары драўляны дом, дзе яны жылі перад тым як атрымаць кватэру. Ля самага парога старыя яблыні і вішні, пад якімі ніхто не ўскопваў зямлю на грады, сад зарос ніколі не кошанаю травою, у якой густа ўзяўся дзьмухавец, цвіў цэлае лета сонечнымі кветкамі, потым бялеўся круглымі лёгкімі галоўкамі. Сярожа, малы зусім, нязграбны, як мядзведзік, тупаў ад бацькі: адзеты ў беленькі касцюмчык, ён здаваўся гэткім жа чыстым і лёгкім на зя-

лёнай зямлі, як дзьмухавец. Сыну было шчасліва ад неспазнанага свету травы і дрэў, бацьку — ад блізкіх і чыстых вачэй сына, у якія не заплылі і не застылі ценем ні крыўда, ні здзек, ні жорсткасць. І ў Юры балела сэрца за гэту чыстую душу, на якую столькі нарыхтавана ў жыцці, і яму здавалася, што, калі не будзе яго побач, нешта страшнае здарыцца з сынам — і ніхто, акрамя яго, не дапаможа маламу!..

Юра ўстаў з тахты, накінуў на плечы шынель. Не зашпіліўся, закурыў; быццам са злосці, штурхнуў і моцна зачыніў за сабою дзверы, холадна сутуліўся, гулка стукаючы ботамі па зваранай з арматурных прутоў лесвіцы; падняўся на другі паверх, пастаяў на тэрасе, паглядзеў на флагшток, дзе трэба замяніць лямпачку ў чырвоным ліхтары. Азірнуўся навокал — знаёмы сасоннік, засмучаны і вільготны за дажджом і туманам, поле... На «змейцы» не гарац сігнальныя ліхтары, але ж не пойдзеш у дождж капаць, шукаць, дзе той разрыў.

Паволі, нібы лічыў прыступкі, сышоў уніз; у лабаранцкай агледзеўся навокал, спатыкнуўся позіркам на акуратна пагабляваных рэечках — з іх трэба было зрабіць шаблоны рознай даўжыні: на тры, пяць, на сем метраў. І нібы была гэта самая неадкладная работа, і ніхто, акрамя яго самога, не мог зрабіць бы яе, выцягнуў рэйкі на сярэдзіну пакойчыка, няспешна размячаў алоўкам, а калі скончыў — адчыніў бляшанку з чырвонаю фарбаю, размяшаў яе, выстругаў нажом трэсачку і акуратна выводзіў на рэйках лічбы. За гэтаю спакойнаю, няспешнаю работаю ішоў час, заціхла трывога...

— Можна, таварыш старшына?

Кухар, высокі, худы салдат у пачарнелай ад дажджу фуфаечцы, якая, мабыць, наскрозь прамокла, пакуль хадзіў ад вежы да паднавесніка з паходнаю кухняю, стаяў на парозе з пустою каструляй у руцэ.

— Вада скончылася, таварыш старшына.

— Ты што? А людзей чым карміць будзеш?

— Не, на вячэру хопіць, я заліў у катлы. На раніцу трэба.

— На раніцу не бяда. Скажы Мустафаеву, хай заводзіць машыну.

І ўжо спяшаўся, быццам Мустафаеў мог паехаць без яго; радаваўся і думаў, што добра якраз падышло, можна заехаць дадому, пабыць з сынам, застацца...

Выклікаў сержанта і загадаў прыняць камандаванне да заўтра, да ранку.

Дарогаю ўсміхаўся сам сабе, і не з таго, што Мустафаеў, калі машына ледзь узбіралася на пагоркі, прыцмокваў, падштурхваў рукамі ў баранку, нібы падбадзёрваў каня...

Яшчэ пабыў ля качагаркі, пакуль Мустафаеў наліў палову цыстэрны — поўную не давезці,— памог зачыніць люкі і пайшоў скора; прыпыніўся толькі ля дзвярэй кватэры, аддыхаўся, пазваніў, і па тым, як лёгка пратупалі да дзвярэй, здагадаўся, што дома толькі сын.

— Татка!

Юра падняў малога на рукі і настылаю шурпатаю шчакою адчуў, якая цёплая сынава шчака і які ён увесь кволы. Сын заварушыўся, каб вызваліцца, і Юра апусціў яго долу.

— Ты мне што прынёс?

Сын глядзеў у вочы сур'ёзна, нібы гэта самае важнае.

— А колькі двоек зарабіў?

— Не!

— Кулямётную стужку.

— Праўда?

— Праўда.

І сын працягнуў руку, чакаў, пакуль Юра даставаў стужку з кішэні, і са стужкаю адразу знік у пакоі — прымераць перад люстэркам, як будзе ляжаць яна на грудзях крыж-накрыж, нібы ў маракоў.

— А дзе мама, Сярожа?

— У іх педсавет сёння... А калі ты мне веласіпед паправіш?

— Сёння і папраўлю. Зараз.

Тая радасць, якая пачалася на палігоне, калі кухар сказаў, што трэба ехаць па ваду, свяцілася ў душы, і ўсё на свеце было проста і лёгка.

— Я вазьму ліхтарык, пасвячу.

— А мы сюды прынясём, у хату.

— У хату? А мама... Дыван жа...

— Пакуль я прынясу, ты на дыван газет насцялі. Давай.

Юра схадзіў у падвал, узяў сынаў веласіпед, спіцы, якія яшчэ зімою купіў і дасюль не сабраўся пераспіцаваць кола.

Старыя спіцы ён перакусваў пласкагубцамі, устаўляў новыя, нацягваў па першаму разу слабей, а калі замяніў усе, прайшоўся яшчэ раз, падцягнуў так, як павінна быць,— рука ў яго трэніраваная на такую работу, і пасля не трэба «выганяць васьмёрку». Ён спяшаўся скончыць работу, пакуль вернецца Валя, каб потым памыцца і глядзець тэлевізар, пасля разам вячэраць, згодна і спакойна, каб не прапала радасць у душы, пра якую чамусьці з гадамі забываюцца людзі і гавораць, што сталі сур'ёзныя, дарослыя...

Сын засяроджана пасопваў побач, набіваў непаслухмяныя гільзы ў стужку, час ад часу адкідваў з ілба даўгаваты чубок.

— Тата, а ў цябе наган ёсць?

— Ёсць.

— А чаму ты яго не бярэш дадому?

— Ён мне не трэба.

— А я, як вырасту, буду насіць наган.

— Нашто?

— Страляць зайцоў.

Сярожа падперазаўся стужкаю, перакінуў канцы на плечы, каб стужка перакрыжоўвалася на грудзях. Для поўнага шчасця яму не хапала толькі сапраўднага нагана.

— Раненыя зайцы, сын, плачуць, як дзеці.

— Плачуць?

Сінія сынавы вочы глядзелі недаверліва, чуть таргануліся вусны, як і некалі, даўно, калі ў тры гадкі запомніў сын, што ходзіць коця па балоце, што памарозіў ён лапкі. Тады малому да слёз шкада было свайго рыжага ката, які не начуе ў хаце, а ходзіць па балоце...

— Я ўсё роўна буду насіць наган.

Сын нахіліў галаву і глянуў на бацьку спадылба.

Юра нічога не сказаў, падпілоўваў напілкам канцы спіц, якія тырчалі вышэй гаечак, і не пачуў, калі ўвайшла Валя, разувалася.

— Што вы нарабілі!

Яна стаяла на парозе ў зялёным шарсцяным гарнітуры, хударлявая, маладая, са свежым ад халоднага ветру тварам. Юра паглядзеў на яе знізу ўверх, і яна

не адчула ягонага позірку, ківала галавою: веласіпед, пакрышка, камера, іржа.

— Нічога, маці, пераджывём.

Юра абняў жонку за ногі.

— Тут жа табе не палігон...

Валя вызвалілася, адышла да парога.

— Канчайце і самі прыбірайце.

Яна чуць усміхнулася вуснамі — калі ўсмешка была шчырая, на шчоках азначаліся ямачкі.

Сярожа, пакуль маці гаварыла з бацькам, насцярожана прыціх ля трумо, скруціў стужку і засунуў за канапу, абтрос на грудзях рубашачку.

— Тата, пайшлі, у падвале кончым. Я пасвячу.

— Усё, сын, зараз гатова.

— І надумаліся вы гразь дзе трэсці...— дабрадушна буркнула Валя, зайшла зноў у пакой, на хаду зашпільваючы халацік.

— А ты гэта чыстую рубашачку так выквацаў!

Сярожа не паспеў адступіцца, і тонкія пальцы моцна трымалі за чуб.

— Не мог другую надзець? Колькі разоў табе гаварыць! А заўтра пойдзеш, каб мяне людзі абгаворвалі? Я ж за табою не настаю, не намыюся!

Сярожа раптам ірвануўся так, што, мабыць, на вачах ад болю выступілі слёзы. Валя памкнулася следам, спатыкнулася на пакрышку.

— Панакідаў тут!..

Ляпнулі дзверы, і ўніз па лесвіцы лёгенька затупалі.

— От дзіцянё працоўнае! Куртку на тубарэтку кладзе, каб уцячы.

Юра прамаўчаў, толькі тоненькі гарачы струменьчык закрывавіў у грудзях, як тады, калі сыну было два гадкі, ён гуляў вакол бацькі, кружыўся. Юра толькі падумаў, што сын упадзе, стукнецца аб стол,— і не паспеў ступіць крок, як малы ўпаў. У Юры апала сэрца, калі ён падхапіў яго на рукі, жывога, сцятага ад болю і крыку, які ніяк не мог вырвацца з грудзей. З тонкай, глыбока рассечанай ранкі амаль ля самага віска пацякла кроў. У Юры тады калаціліся рукі, пакуль абмазваў ранку ёдам, прысыпаў стрэптацыдам, прыклейваў пластыр, каб стуліць ранку і каб потым не засталося рубца. І пасля, калі ён думаў, што нейкага паўсанты-

метра б... Нават цяпер Юра выцер рукою лоб, нібы на ім выступіў халодны пот.

Валя грукала на кухні посудам, яшчэ гразіла на сына.

Юра паспешна зманціраваў кола, сабраў ключы, узяў раму і пайшоў на двор.

Сын чакаў яго ў пад'ездзе. У расшпіленай балоневай куртачцы, без шапкі, чуць ссутуліўшыся, пазіраў на бацьку вінавата і скоса, быццам няёмка адчуваў сябе за ўсё, што было ў хаце.

— Ты не мерзні, ідзі дадому...

— Не, мне не холадна. Я пасвячу.

— Вы без мяне так часта ваюеце?

— Не... Мама скора забудзе.

І зноў у сынавым голасе — здалося —былі засмучэнне і няёмкасць.

Сын свяціў, пакуль Юра ставіў кола ў раму, нацягваў ланцуг, і ў скупым святле Сярожаў твар здаваўся яшчэ худзейшы, тоненькія пальцы стылі на ліхтарыку.

Юра не вытрываў, узяў сынаву руку — скура ля пазногцяў пазадзіралася, а на вялікім пальцы пачырванела.

— Скура пазадзіралася, нарываць яшчэ будзе.

— Не, так было ўжо.

— Халоднаю вадою трэба прыкласці. Худы ты, сын, як верабей зімою.

Юра пагладзіў сына па галаве.

Калі яны вярнуліся ў кватэру, Валя яшчэ марудзіла на кухні, не выйшла, нічога не сказала на Сярожу. І яны ўдвух мыліся ў ваннай. Потым уключылі тэлевізар; Юра лязом ад брытвы зрэзваў на сынавых пальцах скуру, якая пазадзіралася. Сын сядзеў побач, сцішаны і цёплы, як кацянё, і забыўся на тую нядаўнюю крыўду, а бацьку было добра ад сынавай даверлівасці...

— Стужку я схаваю ў падвале...

— Забылася маці на тваю стужку...

— Не-е. Выкіне, як угледзіць. Ты мне дай свой ключ ад падвала.

— Дома ж ёсць.

— Мне свой трэба.

— Каб браць веласіпед, калі захочацца?

Сын не адказаў, толькі ўздыхнуў і не стаў прасіць

больш ключа — усё роўна бацька здагадаўся нашто і не дасць.

— Дам табе ключ. Толькі позна не гуляй і слухай маці.

Сярожа недаверліва паглядзеў на бацьку — ведаў, што ключа не будзе, толькі адгаворка.

— Хваціць вам там шушукацца, есці ідзіце.

— На кухні будзем?

— Ты ж, можа, дадому прыехаў, а не ў госці. На дыван наляпаеце.

За невялікім кухонным столікам, які стаяў у кутку, з аднаго боку прымасціліся Юра з Сярожам. Валя жартам пагразіла:

— Прысебрыўся ўжэ? Будзеш вытвараць абы-што, то дам!

Малы толькі ўсміхнуўся.

Не ўстаючы з табурэткі-трыножкі, Валя дастала з буфета адкаркаваную бутэльку віна, чаркі.

На невялікім далікатным твары толькі крыху болей стала маршчынак, а вочы гэтакія ж, як і ў дзяўчыны некалі, чыстыя, сінія, і глядзелі роўна і спакойна і на Юру, і на талерку з кілбасою...

— Знаеш, бацька, сустрэла сёння я Лену.

Юра не абазваўся: калі «бацька», то нешта трэба будзе даставаць, купляць. А Лену, з якой некалі яшчэ на прыватнай кватэры жылі па суседству, ён недалюбліваў — высокая і худая, як выжла, яна, здавалася, не глядзіць, а нешта выглядае, вывіжоўвае.

— Яна трохпакаёвую адхапіла ў горадзе. Разадзетая, хоць і худэрбіна, як і была.

— Ад скнарасці ўсохла,— абазваўся Юра.

Ён глядзеў, як сын спяшаўся есці, і падумаў, што пасля снедання малы, мабыць, так нічым і не пажывіўся — прабегаў з хлопцамі, рабіў урокі, каб не папала ад маці. І ў Юры зноў зашчымела ў грудзях ад беззваротнасці тых дзён, у якія ён не бачыць сына...

Сярожка ўстаў з-за стала, стоячы выпіў кампот.

— Тата, я на тваім ложку лягу.

— Лажыся.

— Слухай жа: у яе знаёмыя ў магазіне. Дыван можа запраста дастаць. У аўторак трэба пад'ехаць.

— Чай ёсць?

— На пліце. Налі сам.

— Нашто нам дыван, адзін ёсць.

— Есці ж не просіць. А дзе ты, як трэба, дастанеш? Лянуешся паварушыцца? Каб сама паехала! Не мужчына, а...

Сінія вочы глядзелі холадна, і, каб быць добрым, трэба ехаць па дыван...

Юра не дапіў чай, выйшаў на лесвічную пляцоўку, закурыў, падышоў да акна, працёр запацелае шкло, быццам нешта можна ўбачыць у густой чарнаце...

Калі вярнуўся ў кватэру, сын заснуў ужо на яго ложку, прыадкрыў рот, нібы ўсміхаўся, і сон быў моцны і шчаслівы. Коўдра спаўзла долу, худзенькія плечы агаліліся. Сын часта раскрываецца спрасонку і, мабыць, мерзне начамі — Валя спіць моцна.

Юра прынёс два крэслы, прыставіў да ложка, паправіў коўдру, нахіліўся, пацалаваў сына ў шчаку, выйшаў у пярэдні пакой і адчуў, што больш яму няма чаго рабіць дома: падумаў, што Валя зноў будзе настырыцца, каб ехаў па дыван, трэба будзе нешта выдумляць, адгаворвацца, і яна пачне сварыцца...

Юра ўссунуў на ногі боты, апрануў кіцель.

Валя выглянула з кухні. Адзін канец ручніка перакінуты цераз плячо, другім выцірала талерку.

— Ты хіба не астаешся?

Юра заўважыў, як на нейкае імгненне на яе твары горка сышліся маршчынкі да куточкаў губ, разгублена і бездапаможна глянулі вочы, і ён паволі зашпільваў шынель, чакаў, што яна скажа, каб аставаўся, і ён астанецца...

— Табе палявыя хоць заплоцяць, ці так сядзіш?

— Заплоцяць. Ну, я пайшоў.

Валя вярнулася на кухню, а ён успомніў недаверлівыя вочы сына, асцярожна паклаў у кішэню балоневай куртачкі ключ ад падвала.

У пад'ездзе пастаяў, закурыў. І адчуў, што стаміўся, і цела не лёгкае і маладое, і на душы даўняя адзінота, да якое пара прывыкнуць, зміруцца, і тады менш будзе гэтых крыўд, як і сонца ў асенні кароткі дзень...

Уздыхнуў, паглядзеў у цемру і падумаў, што ісці трэба многа і доўга.

*1973*

# ВЕЧАР ШЧАСЦЯ

Зіма так і не зладзілася. Пратрымаўся глыбокі і ранні снег толькі да Новага года, потым задажджыла, быццам на поўдні — то мокры снег, то дождж, і як рэдкае шчасце — снежныя, чыстыя і звонкія марозныя дні. І ўспамінаюцца яны, як успамінаецца чалавеку кароткае прамінулае шчасце: быццам недзе далёка-далёка водбліск цёплага сонечнага праменьчыка.

І так дзень за днём, з туманам, з пахмурым нізкім небам, неўпрыкмет, без вялікае вады і сонечных, вышастаных тугім цеплаватым ветрыкам дзён і прыйшла вясна.

А ў Задарожнага, акрамя свайго інжынерскага клопату пра рамонт трактароў і сеялак, знайшоўся яшчэ адзін, каб каму сказаць, то і смешны клопат: не прапусціць тую пару, калі пацягнуць вечарам над ляснымі прасекамі слонкі. Што да рамонту тэхнікі, да вечнага вясновага клопату пра дэталі, то ён, мабыць, прывык ужо за ўсе гады і ведаў, што тэхніка будзе адрамантавана. А вось гэтае жаданне не прапусціць вясновую цягу, убачыць, як нячутная і амаль нябачная ляціць птушка, і чуць, як хрыплавата, трывожна абзываецца, і ўсё навокал тады незвычайнае: зелянцава-празрыстае, як шкло, неба, быццам прасвечанае з самае запаветнае глыбіні, і вясновы, яшчэ халаднаваты, востры водар лесу!..

За ўсім гэтым пачыналася нейкая падсвядомая трывога, якая часам такою сумотаю брала за сэрца, што яно пачынала балець. І тады, быццам збоку, як староннi чалавек, глядзеў ён на самога сябе і на сваю работу, на дні, занятыя такім прадметным клопатам, з такімі рэальнымі праблемамі, якія ён умеў проста і скора вырашаць, а таму і меў аўтарытэт спецыяліста, вартага работніка і талковага чалавека. А вось у такія вясновыя дні пачынала думацца, што ўсё гэта не галоўнае, што самае важнае яго жыццё яшчэ наперадзе, і самая цікавая і патрэбная работа там, і што пара яму пачынаць гэта жыццё, бо праходзяць гады... Ды так міналася вясна, перабольвала сэрца, ішла зноў работа і пра

тое непатрэбнае капанне ў сваёй душы нават і не хацелася, і сорамна крышку было ўспамінаць. Пакуль зноў не прыходзіла вясна... Цяпер вось захацелася яму пабачыць, як цягнуць слонкі. Паспрабуй, скажы каму, як дзяцініцца інжынер! І Задарожны маўчаў, сам ведаў, што вяртаюцца птушкі і пачынаюць свой лёт, калі заладзяць сваю «сімфонію» ў вадзе зялёныя жабы.

Добра такі, па-вясноваму ўмеркла, пацягнула халадком, моцным, нейкім спрадвечным, які прыходзіць увосень, узазімкі, і доўга трымаецца ў старым мокрым лесе.

Адразу за вёскаю збоч дарогі пачаліся нізкія, маладыя, з сухімі паламанымі ніжнімі галінамі вербы. Яны таму і не раслі высокія, што кожнага году ламалі ім голле, машынамі ці падводамі калечылі ствалы, а яны ўсё папраўляліся, раслі, нават красавалі зялёным лісцем, як і няшчасны чалавек, які мучыцца жывучы, і само жыццё здаецца яму няміла, а ён усё трымаецца за яго, і не толькі трымаецца, а часам і закрасуе наўздзіў усім. Штосьці журботнае і балючае ёсць у гэтай радасці, і дзівішся ёй, і зайздросціш.

Вербы былі ў прадчуванні радасці — дружна намякнуліся выкінуць да сонца мядова-залацістыя «коцікі», і здавалася, толькі і чакалі таго аднаго, апошняга, самага патрэбнага цёплага сонечнага дня.

За вёскай пачынаўся поплаў, кусты лазы, чым далей, то гушчэйшыя, да самае рэчкі. Пад імі доўга стаяла вясновая вада, і адтуль звінелі ў сваю пару жабіныя канцэрты.

Цяпер было ціха, і толькі ад рэчкі павявала вільгаццю. Задарожны стаяў тварам да ветру, быццам прытуліўся шчакою да яго пругкага халадку, адрозніваў і прынесены ветрам пах раллі на ўзлобках, і халаднаватага поплаву, і густы бярозавы настой узлеску, і гаркавы водар лазняку,— усміхнуўся сам сабе, шчаслівы ад таго, што разумее і ўмее адчуваць вецер. І быў Задарожны зноў тым самым вясёлым дружацкім хлопцам студэнцкіх год, які пасля выпуску па накіраванню паехаў у вёску, і застаўся там, і лёгка і проста ўзяўся за работу, і робіць яе каторы год, хоць даўно кончыўся абавязковы тэрмін, і можна шукаць лепшае месца; і думкі пра гэта, як пра нешта далёкае, нават пра крышку нерэальнае і неабавязковае. І яшчэ часам ён думае

пра дзяўчыну, якую сустрэне, і якая пакахае яго, і народзіць яму сына, і яны будуць шчаслівыя... І думкі гэтыя былі светлыя, як прасвечаны летнім сонцам дзень над спелым жытнёвым палеткам, тым, што пачынаецца адразу за калгасным пасёлкам...

Падышоўшы да вёскі, Задарожны прыпыніўся, дакурыў цыгарэту — не было стомленасці і не хацелася ісці дадому, была нават радасць, ціхая такая, як пры чаканні незвычайнага.

Задарожны паволі пайшоў да клуба, вокны якога свяціліся белым святлом, як свецяцца вокны толькі ўвесну. У клубе іграла радыёла, мабыць, на ўсю магутнасць, бо і на вуліцы была чуваць мяккая, аксамітная мелодыя. Задарожны прыпыніўся на верандзе, паглядзеў праз акно: у залітай белым святлом зале танцавалі тры пары, быццам закалыханыя мелодыяй, і быццам няма на свеце нікога шчаслівейшага за гэтых дзяўчынак-школьніц і іх па-юнацку хударлявых і стройных кавалераў, і толькі ім яркае святло, і толькі ім гэтая шчаслівая музыка. Задарожны адчуваў, што ўсяе гэтае прыгажосці не стане, што парушыцца яна, толькі ад таго, што могуць заўважыць яго, не тое што зайсці яму зараз у гэту асветленую шчасцем залу.

Ён ціхенька саступіў з прыступкаў на зямлю і пайшоў прэч са здзіўленнем і смуткам, быццам ад нечага толькі-толькі страчанага і незваротнага, і не хацелася верыць у гэту незваротнасць...

І ў суботу, пасля абеду, Задарожны паехаў у горад, хоць разумеў, што гэта бязглузда: ехаць на вечар, не маючы дзе прыпыніцца пераначаваць. Але ж так чакалася гэтае суботы, таму і суцяшаў сябе, што ўспее і павячэраць, і патанцаваць, пакуль апошні аўтобус адыходзіць, а не дык і на таксі прыедзе.

Аўтобус прывёз Задарожнага да прыгараднага вакзальчыка з дзвюма касамі і невялічкага пафарбаванага ў сіні колер дашчанага паднавеса. Задарожны не садзіўся на тралейбус, пайшоў да праспекта па нешырокім пыльным ужо тратуары. І праспект здаваўся не такі шырокі і не такія высокія дамы, як успаміналіся, і адчуваў сябе будзённа, быццам і не выязджаў з вёскі, і быццам даўно прывык да горада, і яшчэ была адчужа-

насць і непрыемнае адчуванне, як у чалавека, які мае вольнага часу і не ведае, як змарнаваць яго.

Задарожны разумеў, што каб крыху развесяліцца, трэба абмануць сябе: зайсці ў рэстаран, пайсці танцаваць, пазнаёміцца з дзяўчынаю, як і было гэта некалі, у студэнцтве...

Задарожны нікуды не заходзіў, ішоў па праспекце, на якім запаліліся ліхтары, яркія і непатрэбныя яшчэ пры светлым вясновым надвячорку. Была на душы лёгкая сумота, як ад успаміну, і Задарожны разумеў, што нельга спрабаваць вярнуцца туды, куды не вернешся, у чалавека ў жыцці на ўсё свая пара. Цяпер ён ведаў, што паблукае па горадзе, спакойны, чуць сумны, і паедзе апошнім аўтобусам назад...

Яны спачатку размінуліся, не пазналі адно аднаго, хоць постаць дзяўчыны і здалася знаёмая, і таму ён прыпыніўся, азірнуўся, азірнулася і дзяўчына, няўпэўнена, быццам запыталася, паклікала:

— Борка?

— Ну, вось і не пазнаеш,— ён таксама разгубіўся, але паспрабаваў пажартаваць, ступіў ёй насустрач: — Ты так перамянілася. Такая гараджаначка.

— А ты ўсё такі ж мядзведзік. Але не патаўсцеў, нават інтэлігентнейшы стаў.

Марыя падала Задарожнаму руку, тоненькую, вузенькую, другою прытрымала на плячы папругу сумачкі. Цяпло ад яе рукі перадалося яму. Марыя быццам адчула гэта, не спяшала вызваляць руку, ледзь прыкметна ўсміхнулася, і гэтая ўсмешка ацверазіла яго. І ён зноў убачыў перад сабою не спакуслівую дагледжаную жанчыну, а тую худзенькую, маленькую Марыйку, якой паступленне ў інстытут было дарогаю да багатага жыцця, якога ніколі не было ў іх шматдзетнай і бесталковай сям'і, і таму яна плакала загадзя перад кожным экзаменам з-за таго, што не здасць, хоць вучыла і дзень і ноч, і не было такога, каб яна не здавала...

— А ты мужчын са свету зводзіш, Марыйка. Дальбог, зводзіш...

— Ты гэтага не баішся. Цябе, каб і хацела, то не звяду.

— Мяне-то ты і не захочаш.

— Не прытварайся. Там акапаўся ў раёне, на лег-

кавічку раз'езджаеш. Вы цяпер у вёсцы, як паны, жывяце.

Яна прыняла яго жартаўлівую гаворку, але Задарожны заўважыў, што зялёныя яе вочы ўважліва прыглядаюцца да яго.

— Ты ж на наша панскае жыццё не пагналася... Што ж мы стаім пасярод вуліцы? Пайшлі куды... У рэстаран і то не грэх.

— Бач, мядзведзік, а які шустры,— засмяялася Марыя.— Я ў рэстараны не прывыкла хадзіць.

— А я, можа, усё жыццё марыў зайсці ў рэстаран з такою жанчынаю, каб аж людзі з зайздрасці азіраліся...

Марыя кінула вокам на гадзіннік, агледзелася навокал.

— У рэстаране доўга будзе. Калі табе так хочацца, то зайдзем у кафэ, тут недалёка,— прапанавала Марыя, нерашуча, быццам і сама не ведала, ці трэба гэта рабіць.— Ты сустракаў каго з нашага курса?

— У суседнім раёне Кавалёнак. Гэтакі ж худзенькі і маленькі, здаецца, што і той самы студэнцкі касцюмчык носіць. Ажаніўся, двое дзяцей. А тут, у горадзе, мабыць, многа нашых сабралася. Я ўсё выбіраюся, ды і не веру, што і выберуся калі.

— Клаву Усціновіч бачыла, яна гаварыла, што многіх сустракала. Яна выхавацелькаю ў дзіцячым садзіку. Дзве дзевачкі, няма куды дзець. Схудала, састарэла! Жах! І пра жыццё не будзе чаго ўспомніць...

— А Пяшко? Гавораць, яго кандыдацкую залічылі за доктарскую?

— Чула. Сама не ведаю, не бачыла.

Марыя заспяшалася, і Задарожны спахапіўся, што не трэба было пытацца. Апошнія два курсы Марыя не разлучалася з Пяшко. Усе былі ўпэўнены, што яны пажэняцца. У Пяшко была напісана кандыдацкая, яму было забяспечана месца ў аспірантуры, а таму Марыі дзяўчаты зайздросцілі. Кончылася гэта ўсё банальна і нечакана: Пяшко ад аспірантуры адмовіўся, паехаў інжынерам у раённую сельгастэхніку, Марыя з ім ехаць не захацела, нейкім чынам засталася пры інстытуце лабаранткаю, хоць праз год і пакінула там работу...

— Ты дзе зараз працуеш, Марыя?

— Інжынерам на заводзе, у канструктарскім бюро. Ну вось мы і прыйшлі.

Ёй не хацелася гаварыць пра сябе і пра сваю работу, і Задарожнаму нават здалося, што яна шкадуе, што не развіталася з ім, і сам пашкадаваў, што надумаўся быць кавалерам, ды яшчэ ў жанчыны, якая добра яго ведае, якой ён ніколі не падабаўся і не спадабаецца. Задарожны прымоўк, у невялічкім гардэробе дапамог Марыі распрануцца, чакаў, пакуль яна расчэсвалася і яшчэ лепш разгледзеў яе. Падрасла, памацнела целам, і зараз не паверыў бы, што гэта жанчына можа заплакаць, як плакала тая студэнтка перад экзаменам, не заплача нават і тады, калі цяжка не заплакаць. Адзета, як дзяўчынка, у караткаватую спаднічку, у гіпюравай кофтачцы; і агеньчык у зялёных вачах. Марыя заўважыла, што ён прыглядаецца да яе, задаволена ўсміхнулася.

Яна прайшла наперадзе цераз усю залу, молада і лёгка, і на яе азіраліся, нечакана прыгожую і маладую тут, сярод нямногіх людзей. Села за столік, усміхнулася Задарожнаму, дастала з сумачкі люстэрка, зазірнула ў яго. Потым адкінулася да спінкі, паклала нагу на нагу, чуць абцягнула спаднічку, быццам хацела прыкрыць ногі, сама чытала меню, і Задарожны не слухаў, згодна ківаў галавою.

— Што будзеце заказваць?

Афіцыянтка стаяла за плячыма ў Задарожнага, і ён азірнуўся: пажылая, тоўстая жанчына глядзела на іх спакойна, нібы збіралася карміць сваю сям'ю.

Марыя заказала ежу, і быццам хацела спыніць Задарожнага, адмовіцца ад каньяку, паклала на яго руку сваю і не прыняла, калі і адышла афіцыянтка, лёгенька пагладзіла і ўсміхнулася, а ў Задарожнага абарвалася сэрца.

Потым яна сама запрасіла яго танцаваць, і танцавала нячутна, лёгка, угадвала кожны яго рух, і Задарожнаму здавалася, што яна лёгенькая, як пушынка, і падумаў, што яна можа нячутна вылецець у яго з рук. Ён асцярожна прытуліў яе, а жаночы голас з пласцінкі на чужой мове спяваў працяжную песню, і Задарожны верыў, што спявала жанчына на беразе ціхага і далёкага мора, і таму так доўга і журботна ляцела песня над вадою...

За столікам яна сама ўзяла цыгарэту з яго пачка, прыкурыла, агледзела ўсю залу, прыжмурыла вочы на доўгавалосых маладых хлопцаў, якія спрабавалі танцаваць шэйк, і Задарожнаму здавалася, што яна не вытрывае, устане і станцуе прыгожа...

— Давай, Борка, адвалім адсюль. У мяне такія запісы дома.

Яна першая зайшла ў прыхожую, запаліла ліхтар, які свяціў цемнаватым чырвоным святлом, зайшла ў пакой, вярнулася, паклікала яго.

Падлога ў пакоі была заслана дываном, тэлевізар у кутку, у другім вялікі зялёны вазон на падлозе. Два крэслы, канапка, сервант — і ўсё гэта асветлена слабым блакітным святлом таршэра, які стаяў за канапаю ў кутку.

Марыя з нейкім гонарам паглядзела на Задарожнага, быццам паказала яму нешта такое, пра што ён сам не мог ніколі здагадацца, дастала з серванта вазу з цукеркамі, бутэльку з віном, наліла яго ў бакалы, потым адчыніла яшчэ адны дзверцы ў серванце, уключыла магнітафон, і зноў жа запанавала працяжная, быццам незямная, музыка, і сама Марыя ў блакітнай кофтачцы была таксама нерэальная, незямная.

Марыя лёгенька дакранулася сваім бакалам да ягонага, потым працягнула рукі і сама прытулілася да яго, нячутная ў танцы, і пад нагамі мякка слаўся дыван.

— Дурныя мы, нам трэба яшчэ столькі вучыцца браць у жыцці прыгожага і прыемнага, а мы толькі і ўмеем, што аддаваць. Трэба ўмець узяць усё, прыгожа ўзяць! — зашаптала яна ціхенька і шчыра, быццам уздыхнула, потым сціхла, і больш нічога не было, толькі музыка і нерэальнае святло, і адчуванне яе, даверлівае і паслухмянае.

...Задарожны баяўся паварушыцца. Спачатку неяк здзіўлена абвёў позіркам невялікі, прыцемны ад вулічных водсветаў пакойчык.

Марыя спала, павярнуўшы галаў да яго, крышку прыадкрыўшы рот, неяк даверліва і бездапаможна. Задарожны спустошана і са шчымліваю ўдзячнасцю глядзеў на жанчыну. Ён убачыў заліты сонцам жытнёвы палетак, які пачынаўся ад самага яго дома і пра які ён заўсёды ўспамінаў, калі марылася пра шчасце,— і

цяпер ён быццам глядзеў на гэты палетак разам з Марыяй, і іх ахінаў духмяны палявы ветрык...

Марыя скрозь сон, бадай, адчула ягоны позірк, спрасонку ўсміхнулася, і Задарожны асцярожна пагладзіў яе па шчацэ.

Марыя паднялася, прыкрыўшы грудзі рукою, глядзела спачатку на Задарожнага, быццам не пазнавала яго ці не магла ўспомніць, чаго ён тут, ухапіла яго за руку, паглядзела на гадзіннік і палёгкаю ўздыхнула:

— Валя скора вернецца, у дванаццаць. Мы разам з ёю робім,— растлумачыла яна Задарожнаму невядома нашто, устала і спакойна адзявалася. Потым прыбрала пасцель, у пакоі, што не засталося і следу.

Яна першая апранулася, чакала, пакуль абуецца ён, а ў яго, як на злосць, завязаўся вузел на шнурку ў чаравіку, хоць ты развязвай зубамі. Мабыць, ад таго, што спяшаўся, Задарожнаму зрабілася горача, душна, хацелася хутчэй выйсці на лесвіцу, дзе не было святла. Цяпер ён успомніў, як пазірала Марыя навокал і на гадзіннік — і не мог паглядзець на яе, бо яна здагадаецца, як брыдка яму!

І калі паглядзеў, то ўбачыў, што яна спакойна пакручвала на пальцы бліскучы ключык.

У цемнаце, на лесвічнай пляцоўцы, Задарожны не ведаў, што сказаць, яму хацелася хутчэй развітацца, уцячы не ад Марыі, ад самога сябе.

На лесвіцы Марыя сама ўзяла яго пад руку, проста і спакойна, і ён спалохана падумаў, што трэба будзе правесці яе дадому, пра нешта гаварыць... Як, што і навошта гаварыць?

Марыя нечакана спынілася на вуліцы, зірнула яму ў твар:

— Прыязджай, Борка! Інтэрнат за тым домам, Замкавая дзевяць, пакой шэсцьдзесят восем...

Яна прыўстала на пальчыкі, пацалавала яго ў вусны.

— Не забывай: Замкавая дзевяць — шэсцьдзесят восем.

І махнула рукою, адыходзячы, а ён уражана зразумеў, што яна сур'ёзна запрашае яго, знарок паволі ідзе, задаволеная сабою, бо адчувае, што ён глядзіць ёй услед.

Задарожны павярнуўся і хуткім крокам пайшоў

прэч — да прыпынку таксі, там не таргаваўся з шафёрам, паклаў на сядзенне дзесятку, і той згадзіўся ехаць за горад.

Толькі на пустэльнай шашы, дзе таксіст выехаў на сярэдзіну дарогі і гнаў машыну так, што суцэльнаю сцяною ляцелі абапал шашы цёмныя прысады, а сама машына лёгка і амаль бязважка пагойдвалася над дарогаю, здавалася, вось-вось пратараніць лятучую сцяну прысадаў, Задарожны супакоіўся.

Калі ж праз адчынены ветравічок у машыну ўварваўся тугі, напоўнены вільготным водарам струменьчык паветра, Задарожны ўспомніў той вечар, калі хадзіў да рэчкі, з радасцю думаў: добра, што ніхто не ведае, чаго і куды ён ездзіў і што хацеў.

Ён з палёгкаю пазнаваў, што пад'язджае дадому.

*1972*

# ТУМАН

І калі ён думаў, што ў Доме культуры танцы, што там многа святла, дзяўчат, такіх вясёлых, маладых, блізкіх, тады ненавідзеў сябе, стомленага, прапахлага дымам, які зацягвала выхлапное трубы ў кабіну, ненавідзеў старую дабітую машыну, на якой амаль усю ноч блукае па лясных дарогах і прасеках і не можа выбіцца на гравейку, хоць ведае, што яна недалёка наперадзе.

Васілюк праклінаў сябе, што надумаў ехаць яшчэ раз правяраць рунь на азімых палетках, быццам не ведаў, што на ўзгорках, дзе ўсю зіму было гола ад снегу, пасевы вымерзлі, а ўвогуле па калгасе, як гаворыцца, зімоўка прайшла здавальняюча. Здавальняюча — гэта значыць, вялікага ўраджаю не чакай...

Ён ужо шкадаваў, што паслухаў шафёра і не паехаў назад па старой дарозе, дзе яны буксавалі амаль у кожнай лагчыне, але ўсё ж ехалі, хоць назад наўрад ці прайшла б машына па прарэзанай коламі каляіне. Толькі і да гравейкі ніяк не дабрацца. Святло фар абмацвае за туманам ваду, гразь на лесавой дарозе — і машына доўга і цяжка адпаўзае назад, разварочваецца, потым зноў сунецца наперад па другой дарозе або прасецы.

Васілюк толькі стараўся трымаць у памяці, у якім баку дарога, па якой заехалі ў лес, каб зусім не заблудзіцца сярод гэтых мокрых халодных дрэў, захутаных у цяжкі глухі туман.

Ён дастаў з кішэні пачку «Арбіты», працягнуў цыгарэту шафёру, прыкурыў сам і перадаў запалку — і пакуль шафёр прыкурваў, бачыў у кароткім няяркім святле, што ў таго стаў шэры ад бяссоння твар, пачырванелі, падпухлі павекі. Падумалася, што Баранаў стаміўся горш за яго: шчупленькі, невысокі ростам, Баранаў, каб лепш бачыць дарогу, кладзе на сядзенне старую куфайку. І браць яго на работу не хацелі — толькі кончыў дасаафаўскую школу, чакае, пакуль забяруць у войска, будзе ездзіць, не глядзець машыну. Усё ж узялі, пасадзілі на старога дабітага «ЗІЛа», а ў весна-

вую бездараж гэта, аказваецца, адзіная машына, якая можа ехаць па любой дарозе. І каб цяпер з Васілюком быў стары вопытны шафёр, то ён бы даўно выехаў з лесу, і не было б гэтае начное непатрэбнае язды. Хоць Баранаў таксама, мабыць, думаў пра клуб, пра дзяўчат і злаваў на Васілюка.

Машына роўна, паволі паўзла наперад па вузкай прасецы, яловыя лапы мякка шасталі па лабавым шкле, і хацелася нахіліць галаву або прыкрыць твар рукою.

Васілюк крышку апусціў бакавое шкло, і твар асвяжыла густая вільгаць. Вясновы пах моху, счарнелага лісту, ігліцы і свежы водар яловых лап, асінавага голля — ва ўсім гэтым нешта неспакойнае, маладое. І зноў заныла душа: Васілюк быццам перад сабою ўбачыў і густыя каштанавыя валасы, якія вольна падалі на плечы, і акруглыя плечукі пад тоненькім белым світарком, блізкія далікатныя вусны. Яна адчула яго позірк, усміхнулася, адкрыта і спакойна паглядзела ў вочы — здагадалася, што падабаецца яму. У яго сталі непаслухмянымі, чужымі ногі, быццам ён зусім хлапчук і зрабіў нешта страшнае, недаравальнае і яго злавілі... Ён не чуў больш музыкі, нічога не бачыў навокал, толькі адчуваў, якія цёплыя пакорлівыя яе пальчыкі, што трымалі яго за руку вышэй локця...

І гэты неадступны боль, што мінае вясна, не даваў яму спакою, не пакідаў нідзе, нават тут, у глухім лесе. Нібы гэта апошняя яго вясна, адна на вяку дадзеная, і больш ніколі яна не паўторыцца! А тут яшчэ ўбіў у галаў, што за год — сама многа за два — павядзе ўсё паляводства ў калгасе толькі па-навуковаму, як патрабуе агранамія. Зарадаваўся, што старшыня даў волю — рабі, аграноме. А людзі не вераць, што не кіне ён калгас праз два гады, як адробіць, колькі трэба пасля размеркавання...

Васілюк зняў шапку, пальцамі разгарнуў скудлачаныя валасы.

— Што затармазіў, Баранаў? Зноў назад паедзем?

Шафёр нічога не адказаў. Выключыў перадачу, прачыніў дзверцы, выкінуў недакурак.

— Назад позна. Бензіну мала асталося.

— У цябе ж запасны бак.

— Запаска цячэ.

— Якога ж чорта возіш?
— Даезджу. Мяне ў войска, машына на звалку.
— Баранаў, мне трэба к васьмі ў кантору, а ў дзевяць быць у райкоме.
— Выедзем на гравейку, а там ні шум баравы.
— Вады з лужыны зальеш і паедзем?
— Да калгаса дацягнем.
Баранаў адкінуўся да спінкі сядзення, сядзеў з заплюшчанымі вачыма. Яму не хацелася не толькі варушыцца, а нават і гаварыць.
Васілюк выйшаў з кабіны. У святле фар вільгаць плыла, нібы пыл у сонечным промні.
Зямля мякка асядала пад ботамі. За метраў пятнаццаць наперадзе холадна шарэла вада.
Васілюк зябка ссутуліўся, вярнуўся ў кабіну, ляпнуў дзверцамі.
Баранаў, каб ачнуцца ад дрымоты, пакруціў галавою, паглядзеў на аграномa.
— Зноў вада.
— Паглядзім.
Васілюк бачыў, як шафёр паволі ўвайшоў у ваду, тупаў, абмацваў нагамі дно, рашуча вярнуўся назад.
Васілюк надзеў шапку. Ён зразумеў Баранава.
— Будзем прабаваць, Баранаў. Давай.
Гэта ўжо быў не той чалавек, што зусім нядаўна ленавата лаяўся на шафёра. Другі, той дзікаваты аграном, з якога пасмейваліся калгаснікі, але паважалі і пабойваліся. Баранаў не адважыўся нават запытацца, што будзе, калі машына не пройдзе.
— Уключай паніжаную, пярэдні мост — і асцярожненька, лішне не газуй.
Паволі, тонка выючы маторам, машына ўвайшла ў ваду і пасунулася наперад цяжка і роўна. Увосень па дарозе не ездзілі, зямля ўтравянела.
Баранаў не варухнуўся, насцярожана, нібы чакаў нечага неспадзяванага, падаўся наперад, усё роўна як хацеў убачыць дно скрозь шэрую каламутную ваду, па якой роўным паўкругам бегла перад машынаю невысокая хваля.
Васілюк маўчаў: ён ведаў, што не патрэбны яго каманды, што нельга замінаць Баранаву.
І ўжо на самым выхадзе з вады напружана завыў матор, закалаціла машыну. Баранаў некалькі разоў

«выхопліваў» і рыўком адпускаў шчапленне, запахла прыпаленымі дыскамі, моцна і непрыемна.

— Хопіць,— стомлена выдыхнуў Васілюк. Шафёр не пачуў яго, але выключыў перадачу, скінуў газ.

— Яздок! Цяпер у калгас па трактар пабяжыш!

Баранаў нічога не адказаў, адчыніў дзверцы, па прыступцы, потым па крыле дайшоў да буфера, саскочыў на зямлю.

Васілюк ужо ведаў, што на выхадзе з вады крутая выбоіна, пярэднія колы загрузлі, а заднія слізгаюць па лёдзе, які застаўся пад вадою. Цяпер машыну трэба браць на буксір.

Баранаў стаяў у вадзе, нешта мацаў на буферы.

Васілюк глядзеў на яго худзенькую постаць, і няёмка было, што не стрымаўся і дарэмна лаяўся.

Баранаў па крыле вярнуўся ў кабіну, запаліў святло, зняў сядзенне, перагрэбаў балты, гайкі, пакуль не знайшоў цвік-двухсотку, узяў малаток і зноў падаўся з кабіны, пастукаў нешта ля лябёдкі, вярнуўся ў кабіну, адкінуў гуму на падлозе кабіны.

— Ты ж гаварыў, што лябёдка зламаная.

— Думаў — зламаная. Шпілька толькі была зрэзана.

Васілюк пакруціў галавою — ну і ну! Шафёр усміхнуўся, узяў працягнутую цыгарэту. Васілюк запаліў запалку, даў прыкурыць Баранаву, прыкурыў сам і гэтак жа, як і шафёр — па крыле, па буферы,— вылез з кабіны на зямлю, адчапіў трос з крука і паволі, пакуль разматвалася лябёдка, адступаў назад, трымаў трос унацяжку, закруціў за камель яліны і махнуў рукою Баранаву.

Машына на лябёдцы пайшла лёгка.

Сыпанка, на якую выехалі, была разбіта машынамі — дзе парэзаны каляіны, а дзе чыстыя навялічкія папярочныя ямачкі, на якіх машыну калаціла. Баранаў уключыў другую перадачу, адкінуўся да спінкі сядзення, ленавата, абыякава прытрымліваў рукамі баранку. Васілюк не прыспешваў яго: у густым кужэльна-белым тумане нават пры дальнім святле фар відно было толькі на метраў дзесяць перад машынаю.

— За гадзіну будзем дома,— сказаў Баранаў, нібы адчуў, пра што думае аграном.

Васілюк прамаўчаў. Праехалі Апчак, скора паварот

на шашу, а па ёй за гадзіну можна даехаць да пасёлка. Ён ведаў, што на шашы няма такога туману — яна вышэй паднята, і лес далёка.

...Васілюк ці не задрамаў, бо яго хіснула наперад так, што дастаў брылём шапкі да лабавога шкла.

Чалавек стаяў пасярод дарогі ў плашчы і берэце, адна рука ў кішэні, другая слаба паднята ўверх. Ён крыху сутуліўся ад холаду і вільгаці, невысокі, хударлявы і ад таго сіратлівы ў гэтай прамоклай халоднай ночы, на расхлябанай гразкай дарозе. Ён асцярожна пераскочыў цераз каляіну, прачыніў дзверцы.

— Куды вам? — запытаўся Васілюк і пасунуўся да Баранава.

— Недалёчка тут... на шашы... Машына наша ўгразла, цэлую ноч седзімо.

Мужчына не спяшаўся садзіцца, паставіў адну нагу на прыступку і чакаў, што скажа Васілюк. Чаравік і калашына, запраўленая ў шкарпэтку, заляпаны граззю і мокрыя.

— Тут зусім побач, якіх дзесяць хвілінак... У вас жа «ЗІЛ», ён як трактар ходзіць...

— Бензіну мала. Самі не даедзем,— няўпэўнена адказаў Васілюк і паглядзеў на Баранава — што той скажа.

— Можа, і хопіць.

Васілюку, закалыханаму на калдобінах, упэўненаму, што ўвесь клопат скончыўся, не хацелася больш нікуды зварочваць, а хутчэй прыехаць, памыцца, пагаліць твар...

Ен яшчэ раз зірнуў на мужчыну, на мокрыя яго чаравікі і коратка сказаў:

— Сядай.

Мужчына ўціснуўся бокам на сядзенне да Васілюка, зачыніў дзверцы. Маўчаў, нібы прывыкаў да цяпла. Васілюк толькі ў кабіне разгледзеў, што пасажыр — малады хлопец, можа, равеснік... Твар у хлопца дробны, чуць кірпаты нос, рэдкія несалідныя вусікі, нясмелая ўсмешка.

— От тут направа. Пару кіламетраў.

Ехаць па шашы трэба было ў другі ад дому бок. Калі хлопец спыніў машыну і гаварыў, Васілюк нават і не падумаў пра гэта. Цяпер позна было высаджваць чалавека.

— Мы з начальнікам да яго знаёмых рашылі рвануць... Ён там, у машыне... Во мужык! Пяць год, як інстытут кончыў, а ўжо намеснік галоўнага інжынера. Кватэрка, машына...

Хлопец заварушыўся, як верабей, які з марозу адагрэўся ў цяпле. Ён не заўважыў, што Васілюку не па душы ехаць у другі бок.

— Мяне былі размеркавалі ў Мазыр. Ён мяне на работу запраста ўзяў. Жыць ён...

— Ты таксама інжынер?

— Ага.

— Куды ж гэты ішоў?

— Тут недзе машынная станцыя. Думаў, папрашу трактарыста. Цэлую ноч хаджу, а ў плашчыку дубарна яшчэ, гэта не ў горадзе. Па праўдзе сказаць, мы з шэфам рашылі да баб закінуцца...

Хлопец махнуў рукою, даверліва зірнуў на Васілюка, нібы чакаў, пра што той запытае яшчэ.

Васілюк нічога не запытаў, толькі ўсміхнуўся, як старэйшы з глупства маладзейшага. Яму не хацелася гаварыць. З нейкім жалем падумаў, што даўно не быў у горадзе і не ведае, якая там вясна; дажыўся, што аднолькавыя і выхадныя і буднія дні.

Хлопец прыгрэўся, прымоўк, і на твары яго засталася блазнаватая і шчаслівая ўсмешка, як у малога, якога прынялі ў кампанію старэйшыя.

Днела. Неўпрыкмет шэра засвятлелася там, дзе павінна ўзысці сонца; неба стала колеру пралесак, якія толькі-толькі выгарнулі пялёсткі.

Туману над шашою не было, і толькі ў лагчынах дзе-нідзе цягнуліся цераз дарогу доўгія белыя пасмы.

З узгоркаў Баранаў пускаў машыну накатам, і Васілюк здагадаўся, што бензіну зусім мала.

— Во тут, на гэтым павароціку.

Хлопец нібы прахапіўся ад сну, паказаў пальцам направа ад дарогі.

«Жыгулі» стаялі на палявой дарозе, за прыдарожнымі прысадамі — роўнаю, густою сцяною абстрыжанага ельніку,— не ў такой і вялікай гразі. Затое наперадзе віднелася залітая вадою лагчына.

Баранаў спыніўся на абочыне.

Ад легкавіка, пераскокваючы цераз лужыны, да іх ішоў невысокі шыракаплечы мужчына ў расшпіленай

карычневай куртачцы на футравай падкладцы, з капюшончыкам, канцы пояса засунуты ў кішэні. Сам без шапкі, коратка пастрыжаны, з вусікамі, твар спакойны і насмешлівы.

— Салют, старына!

Ён падняў руку, нібы аддаваў чэсць, павітаўся з Васілюком. Прыжмуранымі вачыма паглядзеў на хлопца, на мокрыя чаравікі і на калашыны, запраўленыя ў шкарпэткі.

— Эх, галава ядрона! Што ты, як дзіця? Ну, адышоўся б на гадзінку якую... Цэлую ноч прахадзіў. Мне ж і на жонку трэба сілы пакінуць.

Мужчына адным вокам па-свойску падміргнуў Васілюку, ляпнуў хлопца па плячы — нічога, пасталее, паразумнее,— і той усміхнуўся пакорліва і рахмана. І нічога не сказаў.

Мужчына прыкурыў цыгарэту ад запальнічкі.

— Давай, Эдзь, зачапі трос, ты ўсё роўна заляпаны. Каб не забыць: скажаш маёй Лідзе, што я цябе да бацькоў вазіў,— упэўнена і лёгка, нібы прасіў, загадаў мужчына і цераз лужыны паскакаў да машыны.

Хлопец разматваў лябёдку.

Калі машына стаяла ўжо на абочыне, мужчына вылез з бутэлькаю шампанскага, на рыльца якой угару дном была надзета шклянка.

— А цяпер за вызваленне, Саша!

Дзверцы адчыніліся, і тоненькая дзяўчынка ў туфельках, белым плашчыку і чырвонай газавай касыначцы на шыі выйшла з машыны, сцепанула плячыма з холаду, падышла да мужчыны, чуць нахіліла галаву — павіталася з Васілюком. Ён здзівіўся, які маладзенькі, чысты яе твар, тоненькія вусны, стомленыя і абыякавыя вочы, яркія, рыжыя, толькі злёгку расчасаныя валасы.

Яна адчула залішне пільны позірк, вусны чуць перасмыкнуліся, усміхнулася пагардліва — на сябе лепш прыгледзься. І Васілюк адчуў, які неўваротны, недарэчны і непатрэбны ён з пастарэлым ад бяссоння няголеным тварам, у старой шэрай каракулевай шапцы, у прамоклых ботах і вайсковым галіфэ. І яму трэба было скрозь зямлю праваліцца са сваёю работаю — гразь, зямля, гной, ні выхаднога, ні прахаднога. Усё гэта так нічога не было варта!

— Трымай, старына, шампанскае.
Мужчына падаў шклянку з віном.
— Дзякуй. Не п'ю.
Адказ прагучаў суха і злосна.
Дзяўчына зноў перасмыкнула вуснамі, перахапіла шклянку. Піла настырна, высока падняўшы галаву. Шыя пад касыначкаю тоненькая, як у дзіцяці. Не адвярнулася, стаяла перад Васілюком, і той бачыў, як пацякла, капнула на плашчык кропелька віна. Шклянку страсянула, пайшла да машыны, не глянула больш на Васілюка, стомленага і непатрэбнага, не вартага яе разам з усёю там работаю, клопатам. І ў гэтай яе злосці, пагардлівасці было нешта бездапаможнае, жаласлівае.
Па тым, як яна ішла, Васілюк зразумеў, што дзяўчына піла да гэтага.
— Эдзь, табе яшчэ шклянка. Старына не хоча.
Хлопец ужо вымыў рукі, узяў шклянку.
Мужчына глядзеў на яго скрозь цыгарэтны дым — цыгарэту не выпускаў з губ,— нібы падбадзёрваў на нешта такое, з чаго можна пасмяяцца, як з гэтых запраўленых у шкарпэткі калашын...
Васілюк толькі цяпер зразумеў, што мужчына ведаў: хлопец будзе цэлую ноч шукаць машыну, каб выцягнуць легкавічок, а таму і адправіў...
Баранаў стаяў, прысланіўшыся да радыятара, і ўсё бачыў і разумеў, не толькі пра гэтых, але і пра Васілюка, і пра тую дзяўчыну.
Васілюку здалося, што ён пачырванеў у твары. Вярнуўся да машыны, злосна загадаў:
— Паехалі!
Ужо ў кабіне шафёр нясмела напомніў:
— Можа, бензіну ўзяць у іх?
— Пайшлі яны!..
Легкавічок тым часам круцянуўся на шашы перад машынаю, і Васілюк заўважыў, як усміхалася дзяўчына, як за імі выцягнуў шыю хлопец...
Праз кіламетр матор зачмыхаў, і Баранаў скіраваў на абочыну.
— Усё, няма бензіну. Вы пачакайце, машыны ўжо ідуць.
Васілюк чуў, як Баранаў браў у кузаве каністру.
Машына стаяла ў бярозавым гаі, вільготным, прапахлым старою мокраю травою, бяростаю, веццем, на

якім ледзь вызубілася лісце. І ўсё затулена ў вільготны лёгкі і цёплы пыл, і ў ім нябачна шчасліва звінелі птушкі.

Васілюк выйшаў з машыны, сеў на абочыне, прытуліўшыся плячыма да старое вербалозіны, стомлена расслабіўся ўвесь і не памятаў, колькі сядзеў, толькі рэальна адчуваў пранізаны пяшчотаю і трывожлівасцю бярозавы гай і самога сябе, і вялікую справядлівасць, і шчасце, што ёсць гэта ўсё на свеце і неаддзельна ад яго, чалавека. І ці не таму ў душы зноў варухнулася вострае да шчымлівага болю адчуванне значнасці, незвычайнасці і непаўторнасці гэтае вясны, якую трэба пражыць, як удыхнуць назаўсёды!.. А ўсё астатняе, нерэальнае, прыдуманае — як туман, які сплывае, сплывае...

Васілюк пачуў, як вярнуўся Баранаў, усміхнуўся, кіўнуў яму галавою...

*1973*

## ВЕЧАРОВАЕ СОНЦА

Пасля бяссоннае ночы рэзала ўваччу. Праташчык зазірнуў у люстэрка: павекі не пачырванелі, на хударлявым твары не было і следу ад стомленасці. Двума пальцамі прыгладзіў тоненькія вусікі — яны падабаліся яму,— пакратаў доўгія, аж на каўнер, валасы. Падумаў, што каб не гэты піжонскі выгляд, не валасы «а ля львіная грыва», далі б яму новенькую «Волгу» і ездзіў бы ён, як кароль.

Праташчык пагладзіў бліскучую, у трэшчынах, баранку, гэтакую ж старую, як і сама машына: калі працаваў матор, увесь кузаў ціхенька трымцеў і пабрынькваў.

Праташчык зноў узлаваўся, успомніўшы, як інжынер асадзіў яго: «Сябе ў парадак прывядзі, а тады пра новую машыну заікайся!» Ён, Праташчык, не хлопчык, два гады круціць баранку без аварыі. Нават тыя, хто меней робіць, атрымалі новыя машыны. Вусікі і валасы тут не прычына. Інжынер са злосці сказаў глупства, але Праташчык не спрачаўся з ім не таму, што баяўся, а таму, што Яфімаў стары чалавек і такіх, як Праташчык, у яго многа, і кожны хоча новую машыну.

Можа, і схадзіў бы тады Праташчык да дырэктара, паскардзіўся б. Не на інжынера, а наогул, на тое, што маладых «заціскаюць». Але аднекуль выкруціўся пад рукі Зімін, стары, худы чалавек з маленькім маршчыністым тварам. Загаварыў, што інжынер падаваў новыя машыны тым, хто «даў у лапу». Інжынер зняў Зіміна з машыны за тое, што выехаў з парка без масла і ледзь не «запароў» матор.

Ды пасля таго як машыны размеркавалі, няма чаго ісці да дырэктара. Не будуць жа адбіраць у чалавека машыну, каб аддаць табе. Праташчык суцешыў сябе тым, што ў наступны раз дойдзе і да дырэктара, а на зіму атрымае новую машыну.

Праташчык прытуліўся да спінкі сядзення, зірнуў на гадзіннік: да перазменкі заставалася роўна сорак тры хвіліны. Ноччу яму пашанцавала, амаль не стаяў,

выручка была, і зараз не хацелася спяшацца, хаця на гэтай стаянцы, збоч ад цэнтральных вуліц, наўрад ці каго ён дачакаецца. Трэба было б выехаць на праспект, узяць пасажыра, якому ехаць у раён таксапарка.

Ад нагрэтага на сонцы металу ў кабіне душнавата, хоць шкло ў дзверцах апушчана і чуць працягвае ветрыкам.

Тома, мабыць, збіраецца да яго. Будзе чакаць у пакоі. Прынясе віно, ікры ці яшчэ што-небудзь такое, што не ўгледзіш у магазіне і што бывае ў рэстаране. Замяце падлогу, накрые на стол і будзе сядзець на ложку, падкурчыўшы ногі. Вахцёрка Клава, бурклівая і касавокая цётка ў сінім сацінавым халаце, дае ёй ключы ад пакоя, хоць і ведае, што Праташчык адзін у пакоі — напарнік у камандзіроўцы. Ды і амаль усе ў інтэрнаце ведаюць, што ён скора ажэніцца з Томаю, невядома чаго толькі ён цягне. Праташчык не надта рослы і не такі прыгажун, а яна як каралева. Тома і сама ведае, што яна каралева.

Яна ласкава сустрэне яго ў парозе. Ад гэтае ласкі ні пра што не хочацца думаць, яна як туман...

Пасля Тома будзе сядзець за сталом у блакітным купальніку, з белымі валасамі на загарэлых плячах, частаваць віном і дакараць яго за бяздумнасць, што так нельга жыць, як жыве ён, потым раззлуецца, а пасля заплача ад жалю да самое сябе. Яму тады непрыемна, што яна сядзіць амаль голая, плаксіва крывіць твар і моцна хліпае носам... Потым адумаецца, зноў будзе гаварыць ласкава, спакойна, зноў пра кватэру. У яе падыходзіць чарга на кватэру, калі яны ажэняцца, Тома дастане ад доктара даведку, што ў яе павінна быць дзіця, і яны атрымаюць двухпакаёвую. Тут няма ніякага абману, годам пазней, а дзеці будуць. Праташчык разумее, што яна гаворыць праўду, што атрымаць кватэру не так лёгка і скора.

І кожны раз яму ўспамінаецца адно і тое ж самае: як дапамагаў з салдатамі пераязджаць на новую кватэру жонцы камандзіра ўзвода, як яна заплакала, калі незнарок ашмаргнулі паліраваныя дзверцы серванта, хоць яна ішла следам і камандавала. Як у яе злосна звузіліся сінія вочы, як яна глянула на хлопцаў! А яна таксама была каралева, высокая, далікатная, і ён шкадаваў яе. Кватэру яна атрымала як удава афіцэра. Лей-

тэнант камандаваў узводам, у якім служыў Праташчык, другі год пасля вучылішча. Малады, жартаўлівы, сустрэўшыся, хацелася паглядзець яму ўслед — такі стройны быў ён у форме. Успомніліся часам задумлівыя, такія глыбокія і — цяпер ён ведае — няшчасныя вочы. А прозвішча ў лейтэнанта было Весялюк.

Невядома, чаму ён узяў з сабою Праташчыка ў суседні калгас. Дзеці знайшлі на ўзлеску старую міну, і старшыня пазваніў дзяжурнаму па часці, каб даў сапёраў.

Праташчык на ўсё жыццё запомніў і той лёгенькі, цёплы, як пыл, падзол на ўзлеску, які пяшчотна, чуць казытліва і халаднавата цёк між пальцаў, калі Праташчык адграбаў зямлю вакол карычневае,васпаватае ад іржы жалязякі.

Лейтэнант адправіў яго ўзяць у машыне толавую шашку і бікфордаў шнур, а сам застаўся адгрэбаць міну больш. Такая простая і звычайная заставалася работа — пакласці побач з мінаю толавую шашку, запаліць шнур.

Праташчык не дайшоў да машыны, калі адчуў, як лёгенька стукнула спадпізу ў ногі зямля...

Калі ён дабег да міны, на тым месцы толькі стаяў у паветры слуп пылу і ў неглыбокай варонцы аплываў уніз шэры задымлены пясочак.

Пахла як і на вучэбным полі, калі яны рабілі ўзрывы.

Пасля таго Праташчык нібы пастарэў, упершыню падумалася пра смерць, як пра нешта рэальнае, пра кароткасць чалавечага жыцця, што яно адно і непаўторнае, і што трэба жыць шчасліва, у суладдзі з радасцю.

Абудзілася ў душы свядомая прага жыць, каб толькі бачыць і адчуваць жыццё, і гэта ўжо шчасце — халаднаваты сум восеньскага дажджу, сіняваты сакавіцкі водсвет на снезе, душнаваты подых летняга ветрыку, лёгкі зімовы похрумст лядку пад коламі машыны, і проста гаворка з людзьмі, вясёлымі і жывымі. Гэта давала нейкі свой сэнс жыццю і рабоце. Але пра гэта Праташчык ніколі не гаварыў Тамары: ведаў, яна не зразумее. І думаў, што ёсць на свеце такая душа, якая ведае ўсё, і з тым чалавекам ён будзе доўга шчаслівы. Тому шкадаваў, разумеў, што яна жаночым чуццём ад-

чула яго дабрату і што можна будзе пакарыстацца ёю...

Перад тым, як пачнецца ў вёсцы сенакос, прыязджалі да Праташчыка бацька і маці. Навезлі сала, яек, смятаны. Хапіла на цэлы месяц ім з Пашкам, нават у сталоўку не хадзілі.

Маці падбухторыла бацьку прыехаць, гаварыла, што Праташчыкавы аднагодкі пажаніліся, пабудавалі кватэры ў горадзе. І ўсё выпытвала — ці не п'е ён. Праташчык разумеў яе падыходы, не крыўдзіўся, толькі шкода глядзець было на яе, спрацаваную, з вялікімі моцнымі рукамі, і худзенькую. Недарэчна падумалася, што нядоўга пажыве маці. А ўсё робіць, эканоміць, і бацьку не дае спакою, і з-за работы не бачыла жыцця, і не жыла, толькі рабіла. Бацька ў знак згоды ківаў галавою, маўчаў, думаў нешта сваё. Ён усё жыццё пражыў так — маўчаў, рабіў і думаў нешта сваё невясёлае, а калі здаралася быць п'янаму, не біўся і не сварыўся, а горка, моўчкі плакаў, седзячы за сталом. Маці спрабавала пакрыкваць на яго, разгублена тупала па хаце і сыходзіла да суседзяў. Старэйшыя сыны пасмейваліся з бацькі. Гена, самы большы, сам умеў добра выпіць і тады сляпіцаю лез у бойку. Клаў бацьку спаць Праташчык, самы меншы ў сям'і. І ад тых дзіцячых гадоў засталося ў душы шкадаванне да бацькі.

Маці дагаварылася да таго, што грошы на кааператыўную кватэру дадуць. Праташчык не стаў адмаўляцца, па грошы не паехаў і не збіраўся ехаць, хоць ведаў, што маці пакрыўдзіцца...

— Малады чалавек, малады чалавек, вы не заняты?

Жанчына далікатна кранула Праташчыка за плячо, і ён яшчэ не адкаснуўся ад успаміну, завучана адказаў жартам:

— Халасцяк. Куды паедзем?

Жанчына ўсміхнулася, зразумела жарт. На ёй тоненькая кофтачка, чырвонага колеру штаны і беленькія басаножкі з вузенькіх раменьчыкаў. Знарок распушчаныя на плечы валасы маладзілі яе, але дробненькія гусценькія маршчынкі на прыпудраным пад колер загарэлых рук твары і спакойныя шэрыя вочы гаварылі самі за сябе.

— На вакзал, калі ласка!

— Не. У парк еду.

— Калі ласка! — Жанчына зноў усміхнулася, чуць какетліва, нават стрэльнула вачыма — зусім як маладая, бесклапотная.

Праташчык адвёў вочы:

— Сядайце.

Ён выйшаў з машыны, адчыніў ёй дзверцы. Яна кіўнула галавою — падзякавала — і аж пачырванела ад задавальнення, што згадзіўся паехаць і што так далікатна пасадзіў у машыну. Зазірнула ў люстэрка, паправіла валасы, двума пальчыкамі акуратна ўзялася за маленькую пазалочаную «цаглінку» гадзінніка на тоненькім браслецiку. Праташчыку здалося, што ён недзе зусім блізка бачыў і гэты гадзіннічак, і браслецік, і саму жанчыну.

Але ён не мог успомніць — дзе.

— Сын з вёскі едзе, ад дзеда. Дзіця на вакзале, а я пазнюся. Гаварыла яму: што ты там забыў? Пустэча, глуш. Цяпер і студэнты мала прыязджаюць на лета дадому. Паехаў бы на дачу. Рэчка, цішыня. І горад побач. На дачы куды лепш.

Праташчык кіўнуў галавою, усміхнуўся.

— Калі дача ды яшчэ сімпатычная гаспадыня...— Праташчык знарок шматзначна замоўк, але жанчына не пакрыўдзілася, зноў пачырванела, як і тады, калі ён расчыніў перад ёю дзверцы машыны.

— У нас дача ў такім прытачным месцы... Ад электрычкі пятнаццаць хвілін ходу. Машыну цяпер купіць не праблема. А гаражы быццам знарок робяць за горадам — купляй яшчэ матацыкл па машыну ездзіць...

Праташчык разумеў, што машыну яна будзе мець няскора, добра, што хоць дачу агорала. А жанчыне, мабыць, спадабалася, што ён так уважліва слухае, паглядае на яе, знарок чуць павярнулася да яго, паклала руку на спінку сядзення, і верыла зараз сама, што маладая, прывабная і незвычайная. А ён бачыў і слабенькія пад кофтачкаю грудзі, маршчынкі на шыі, і сухенькія, натруджаныя пальцы на руках.

Праташчык не гнаў машыну, ехаў спакойна і скора. На перакрыжаванні не прытармазіў, пайшоў пад жоўтым святлом, хоць у такім выпадку лепш прытармазіць. Ён не пачуў свістка, але заўважыў, як паставы

паказаў рукою спыніцца, скіраваў да тратуара. Выйшаў з машыны, абышоў навокал — быццам каб пераканацца, што ўсё нармальна, і не было чаго спыняць.

Сержант не спяшаючыся ішоў пасярод праспекта, прывітаўся — кінуў руку да казырка:

— Вашы дакументы!

Узяў талон, паглядзеў: праколаў за перавышэнне хуткасці не было.

— Куды спяшаем, таварыш вадзіцель?

Сержант быў маладзейшы за Праташчыка, мабыць, адразу пасля войска пайшоў у міліцыю, скончыў курсы. Шчупленькі сам, невысокі ростам, што нават маленькі перадатчык у скураным чахле на ім вісеў нізка, як планшэт у лётчыкаў.

— Ну што вы, таварыш сержант! Еду нармальна. А на пераходзе тармазіць — толькі разметку здзіраць. Я за лініяй на зялёным быў...

Праташчык не збіраўся доўга спрачацца, быў гатовы заплаціць штраф. У такіх выпадках не надта сваю праваду дакажаш.

— Расказвай мне, расказвай! — сержант усміхнуўся, як вопытны служака, які ўсё ведае навылёт.— Ладна, на першы раз дарую.

Сержант падаў дакументы, казырнуў.

— Стаяць толькі, прыдзіраюцца! — жанчына хвалявалася за яго, і ён павінен быў ведаць гэта. Але Праташчык бачыў усё тыя ж спакойныя шэрыя вочы.

На вакзале ён падвёз жанчыну да пляцоўкі, куды вяртаюцца з рэйсаў аўтобусы. Жанчына пакінула сумачку на сядзенні, забылася пра спаважнасць, выскачыла з машыны. Праташчык толькі пакруціў галавою: тое «дзіця», якое быццам не магло само прыехаць з вакзала, стаяла ў адпрасаваных шэрых штанах, з валасамі, даўжэйшымі, чым у Праташчыка, і мела гадоў дваццаць.

Хлопец даў маці пацалаваць сябе ў шчаку і адразу ж нешта запытаўся. Жанчына кіўнула галавою на машыну, сын толькі паблажліва ўсміхнуўся, узяў аднюю рукою напакаваны выцвілы руказак, падышоў да таксі, адчыніў заднія дзверцы, паклаў на сядзенне спачатку руказак, сеў сам, узяў з пярэдняга сядзення мацерыну сумачку, падаў Праташчыку трайчку:

— За дарогу ў два канцы і рубель на нос. Паехалі. Сядай, мама.

Праташчык, стрымліваючыся, каб не дрыжалі рукі, адлічыў рэшту, падаў жанчыне, якая стаяла ў дзверцах і пазірала то на сына, то на таксіста, памкнулася была сесці.

Праташчык павярнуўся да хлопца і коратка, стрымліваючыся, сказаў адно толькі слова:

— Вон...

Але твар у яго, мабыць, быў такі, што хлопец не толькі ўсё і адразу зразумеў, але і спалохаўся, ад нечаканасці не мог намацаць ручку і адчыніць дзверцы, няўклюдна вываліўся з машыны і толькі тады апамятаўся, што так палохацца не след, пагразіў:

— Мы яшчэ сустрэнем цябе!..

Жанчына схапіла з сядзення сумачку, шэрыя яе спакойныя вочы ўспыхнулі.

Праташчык рыўком узяў з месца, на хаду зачыніў дзверцы, затармазіў толькі на перакрыжаванні перад чырвоным святлом светафора, глянуў на гадзіннік — ужо трэба было быць у парку. І... і ўспомніў, дзе раней бачыў жанчыну. Ён стрыгся ў яе ў цырульні. І ад гэтага ўспаміну не стала злосці, толькі сум і шкадаванне. Ён нібы здалёк убачыў усё яе жыццё...

Ехаў далей паволі. Пакуль стаяў на наступным перакрыжаванні, пасігналіў дзяўчыне ў сініх круглых акулярах. Калі яна азірнулася, паказаў на сядзенне побач. Дзяўчына зняла акуляры, усміхнулася, нібы не верыла, што сігналіць Праташчык ёй.

Сяброўка яе, нізенькая ростам, таўставатая, дакорліва скубанула дзяўчыну за руку, і тая неахвотна пайшла далей, яшчэ раз азірнулася...

Той самы сержант-паставік, што спыняў Праташчыка, коратка свіснуў, пагразіў жазлом і таксама паглядзеў услед дзяўчыне.

Ад гэтае выпадковае сустрэчы зрабілася лагодней на душы, быццам пачало адхлынаць, як хваля, даўняе і доўгае напружанне, непрыкметнае нікому, але пастаяннае і нялёгкае. Недзе глыбока ў душы нарадзілася прадчуванне, што хутка пачнецца ягонае шчаслівае, незвычайнае жыццё,— гэтулькі абудзілася жадання і гэтулькі было сілы ў запасе, што ён і сам здзівіўся, чаму не адчуваў яе раней.

А перш за ўсё ён пойдзе, здаўшы машыну, на возера, заплыве на востраў, ляжа нерухома і будзе чуць, як пахне пясок, вада і журботнае вечаровае сонца...

Машына ехала па ціхай брукаванай вулачцы пад узгорак, роўна, напружана гуў матор, глуха стукалі па бруку шыны.

Праташчык убачыў усё і зразумеў за нейкія долі секунды: чырвона-белыя палосы на буферах «ЗІЛа», адчыненую дзверцу, якая злёгку памахвалася, прычэп-платформу з белымі бетоннымі блокамі, чалавека, які даганяў машыну і не мог дагнаць. А машына разагналася туды, дзе роўная плынь людзей на праспекце, поўных жыццём, цану і веліч якога спасціг Праташчык сэрцам, і таму не мог зрабіць нічога іншага, акрамя як развярнуць сваю машыну ўпоперак вуліцы, хоць і была дарога, каб размінуцца.

Грузавік быццам спатыкнуўся, ударыўшы ў блакітны легкавічок, павярнуў убок, з трэскам расціснуў яго аб сцяну дома.

Белымі вясёлымі асколачкамі сыпанулася па асфальце шкло, платформу занесла ўпоперак вуліцы, пападалі з яе і цяжка загрукалі па бруку блокі, закрычаў шафёр, які даганяў машыну, і сеў на тратуар.

Калі ў апошні раз на нейкае імгненне вярнулася свядомасць, Праташчык нібы скрозь туман удалечыні ўбачыў незямное, сіняе мігатлівае святло маячка над міліцэйскаю машынаю, адчуў, як вільготна пахне пясок і вечаровае сонца...

*1973*

# ГАРКАВЫ ДЫМ

Сонца заходзіла, і залатое яго святло яшчэ ляжала на самых вяршынях ялін, а над захадам стаяла лёгенькая, нібы смуга, хмурынка. Свяжэй, выразней запахла пясчанаю зямлёю, ельнікам.

Лесіну ўспомнілася, што некалі на гэтакіх жа парослых ядлоўцам і ельнікам узлесках ён паляваў на дзікіх галубоў. Раніцаю яны любілі сядзець на асветленых сонцам вершалінах, а яму бацька толькі дазволіў браць стрэльбу, і хацелася навучыцца страляць, каб восенню біць на пералётах качак.

Лесін паварушыўся, пацягнуўся, што аж затрашчалі суставы, яшчэ некалькі часу ляжаў нерухома, расслаблены, ленаваты, павolі вылез са схованкі — неглыбокае прадаўгаватае ямы, якую густа затулялі з двух бакоў кусты ядлоўцу. Азірнуўся, узяў напагатове кароткі кавалерыйскі карабін, хоць ведаў, што нікога няма паблізу. Ён нібыта бачыў сябе староннім вокам: у былым камсастаўскім адзенні, з карабінам — самы сапраўдны салдат, і ад гэтага было прыемна.

Ад узгорка, на якім ён дняваў,— пустое зямлі, парослае ельнікам і кустамі,— збягала ў лагчыну да лазняку вузенькая шэрая быльнікова мяжа.

Лесін памацаў за нагрудныя кішэні, у якіх ляжалі загорнутыя ў паперу і цырату грошы, якія ён зарабіў за два гады. Жывучы пры дзядзьку, ён траціў на сябе ў месяц толькі дзесятку. І харч, і хромавыя боты з раменьчыкамі на халявах, і гімнасцёрка, і галіфэ, і папруга — усё дзядзькава. Лесін пры дзядзьку хадзіў за справавода, бо дзядзька, хоць і ўмеў лічыць, але з граматыкаю знаёмы не быў, і тое, што ўдалося дасягнуць пасады ў райспажыўсаюзе, не без гонару прыпісваў свайму ад прыроды дасціпнаму розуму, і шкадаваў, што не мае «навукі», бо з «навукаю» быць бы яму «вялікім» чалавекам.

Лесін паклаў на зямлю карабін, расшпіліў сумку, у якой некалі насіў паперы, а зараз ляжала ежа — невялічкі кавалак сала і акрайчык учарсцвелага хле-

ба — усё, што засталося з тых прыпасаў, калі дзядзька зранку пабудзіў яго, даў у рукі вось гэты карабін і дзве абоймы патронаў. Дзядзька нібы схуднеў за адну ноч, стаў меншы ростам, чырвоны вясёлы яго твар стаў нейкі шэры, вочы глядзелі насцярожана і сурова.

— Паедзеш суправаджаць машыну з архівам. Глядзі сам, там нічога важнага ў тым архіве. Шафёр ведае, ён спаліць і машыну, і архіў, як нявыкрутка будзе. А ты на бальшак не лезь, вёсачкамі, ноччу — і дадому, дадому, а там што рабіць, будзеш сам бачыць... Гэта надоўга. Я забраў цябе ў бацькі, я і хачу, каб ты да яго вярнуўся. Абы ты дадому дабраўся цэлы, табе толькі шаснаццаць год... Як хто спытае, кажы пятнаццаць...

— Дык я з вамі...

— Са мною ты не раўняйся. Мая доля вядомая, мне ваяваць трэба, а ты едзь, пакуль магчымеш, а там дадому. Запомні — дадому. Будзе замінаць зброя, выкінь куды ў рэчку. А ісці з карабінам смялей будзе, цяпер у каго зброя, той і ўлада.

Дзядзька абняў яго, пацалаваў на развітанне, няўмела, чуць толькі дакрануўся да шчакі гарачымі сухімі вуснамі, і ад гэтага няўмелага пацалунка нібы нешта абарвалася ў душы, і яна затрымцела ад трывогі.

І калі далёка ззаду засталося мястэчка, трасучыся ў кабіне палутаркі побач з маладзенькім перапалоханым шафёрам, Лесін крыху супакоіўся і думаў ужо, што малавата сабраў грошай, не хопіць, каб пабудаваць хату, але ж і бацька павінен назбіраць крыху... Было такое адчуванне, што скора ён прыедзе дадому, і ўсе гэтыя страхі, вайна не закрануць яго.

Але ехаць доўга не давялося. На шашы стаяла калона машын, шафёры гаварылі, што самалёты бамбяць Берлін і што нашы войскі ўзялі Варшаву, потым нехта спалохана крыкнуў — немцы! Лесін пабег наперад, на ўзгорак, з якога было відаць, як у лагчынцы, дзе з'язджалі з шашы, каб абмінуць паламаны мосцік, варушыліся людзі, выпіхалі з лужыны машыну, якая загарадзіла дарогу.

Ён спачатку не зразумеў, адкуль гэты цяжкі роўны гул, ад якога дробненька калоціцца пад нагамі зямля і вось-вось патрэскаецца. І потым убачыў за

кіламетра паўтара паралельна шашы, бяскрыўдна быццам, пераварваючыся з узгорка на ўзгорак, паўзлі чорныя каробкі, і за імі аж да сонца ўставаў пыл.

Машыну, якая была ўгразла ў лужыне, выпхнулі, але калона не рушыла. Лесін пайшоў да свае машыны, не даходзячы, спыніўся і глядзеў на дзядзьку-шафёра ў абшарпанай замазучанай ватоўцы. Шафёр выцягнуў з бака шланг, праз які зліваў бензін у вядро, кінуў пад машыну, улез у кабіну, пасядзеў там, быццам успамінаў, ці не забыўся чаго, потым вылез, спадылба насуплена паглядзеў на Лесіна, злосна плюнуў і, накульгваючы, пайшоў вакол машыны, плюхаючы бензін на барты. Тады толькі Лесін здагадаўся, што шафёр будзе рабіць, убачыў, што некалькі машын ужо гарэла, заспяшаўся да свае.

Яго машына таксама гарэла, і над жытам былі відаць галовы людзей, якія спяшаліся прэч ад дарогі. І Лесін падаўся за імі, раптам спалохаўшыся, што застаўся адзін.

Лесін усміхнуўся з таго свайго страху, складанчыкам адрэзаў сала. Страху зараз не было, хоць той немец, пра якога ён толькі нядаўна чытаў у газетах, быў тут, хоць меў такую сілу, што мог сцерці Лесіна ў пыл, як мурашку пад коламі. Лесін і сам пераканаўся, што каб застацца жыць, не трэба трапляць пад тыя колы, лезці на дарогу, па якой яны коцяцца. Ішоў ён ноччу, не надта вытыркаўся да людзей і да вялікіх дарог. У яго быў адзін клопат — хутчэй дайсці дадому.

Лесін акуратна высыпаў з далоні ў рот крошкі, зашпіліў сумку, зняў боты, лепш закруціў анучы.

З лагчыны пацягнула падвячоркавай вільгаццю, густым пахам спелае травы і чуць гаркавым лясным водарам алешніку і ракіты. Яму толькі абмінуць Слуцк, каб толькі кончылася гэтае поле, якому няма канца, а як пачнецца лес, будзе лягчэй, дойдзе да Глуска, а адтуль рукою падаць да дому.

За чатыры дні ён неяк зміры ўся з тым, што здарылася, і ўжо аднекуль здалёку бачыў сябе на рабоце, з паперамі. Са шкадаваннем успомніў пра дзядзьку.

Лесін устаў, паглядзеў у поле і з карабінам на плячы пайшоў мяжою да кустоў, потым па беразе маленькага ручая, у якім мелка варушылася вада. Пахла жытам, узыходзіла на небе першая яшчэ нізкая зорка,

і пад нагамі мякка прытоптвалася густая трава, быццам ступаў па коўдры.

І ён усміхаўся, бачыў, як гэтак жа надвячоркам выйдзе з лесу да агародаў, пройдзе поплавам па вузенькай вытаптанай сцяжынцы, па якой некалі любіў хадзіць басанож, і яна прыемна студзіла ступакі ног, потым шорхнуць аб халявы лапушыстыя лісты капусты, і сцежка павядзе між бульбоўніку, узмежкам, на якім расце стары вішняк...

Калі ад'язджалі з дому, даставаў ужо галавою да вушака ў сенцах, а зараз трэба будзе нагінацца, каб увайсці. Ён цяпер не той шчупленькі, бледны з твару хлапчук з худымі вострымі плечукамі пад вылінялай рубашкаю, на якога з жалем глядзеў дзядзька Аляксей і гаварыў, што возьме хлопца з сабою ў Заходнюю, хлопец пісьменны і будзе пры ім...

На дзядзьку былі такія ж галіфэ, як зараз на Лесіну, гімнасцёрка, папруга, на стале стаяла бутэлька, закусь, на вуліцы ля плота жаваў траву белы конік, запрэжаны ў брычку.

Бацька сядзеў за сталом насупраць брата, і скрозь непаголенае шчаціннe свяціўся палатнянаю белізною яго твар.

Бацька нічога не адказаў, толькі закашляўся, твар яго стаў яшчэ бялейшы, і пасля ён доўга сядзеў нерухома, адпачываў, і нешта пахрыпвала, булькала ў яго грудзях.

Маці пісала, што ад зімы бацька ляжыць хворы, калі і робіць работу, то пры хаце...

* * *

Святлела летняя ноч, далёка і нясмела ўзыходзіў месяц, цыганскае сонца, слаў мяккае туманліваe святло.

Лесін паправіў на плячы карабін. Ішоў ён ходка і бясшумна, адразу пачуў бы самы лёгкі староннi гук ці шолах, але ўсё было спакойна, толькі аднекуль здалёку наплываў пах спаленага. Гэтак доўга пахнуць патушаныя пажарышчы, і чым далей ішоў Лесін, тым усё больш мацнеў пах, забіваў вільготны водар травы, жытнёвага палетка. Лесін пайшоў цішэй, прыслухоўваючыся, узіраўся наперад, але нічога не было чуваць,

не відаць водсветаў ад пажару. А чад стаяў над зямлёю.

Лесін зняў з пляча карабін.

Калі нешта нячутна махнулася ў яго над галавою і абдало хваляю холаду, Лесін толькі ціхенька ўскрыкнуў ад жаху, прысеў да зямлі, азірнуўся: нідзе нічога не відаць, і не было сілы ўстаць. І зноў з-за кустоў махнуўся да яго прывідны цень, абдало халадком ад узмаху крылаў. Лесін адмахнуўся карабінам ад савы, плюнуў, вылаяўся. У грудзях усё трымцела, і моцна тухкала сэрца.

Ад таго, што спалохаўся быў дарэмна, пайшоў смялей, паўз кусты.

Пажарышча было недзе побач.

Выйшаўшы з-за купкі маладога бярэзніку, Лесін спыніўся ад нечаканасці. Кусты скончыліся, і перад Лесіным у мяккім падманлівым месячным святле адкрыта ляжала ўтравянелая лагчына, пасярод яе тоненька, няроўна, як крывая разорка, цямнеў берагамі ручай. Белая, быццам пасыпаная мелам, дарога збягала да ручая і за ім зноў падымалася ўгару... У ручаі, на лужыне вады ў тым месцы, дзе дарога перасякаецца з ім, чарнеў абсмалены шкілет машыны, другая ляжала бокам ля дарогі, таксама чорная і знявечаная. І ўсё гэта было быццам не сапраўднае, а намаляванае ці знарок зробленае якімсьці дзіваком. Адно толькі было рэальнае — халодны пах попелу.

Але ўсё ж было нешта страшнае ў гэтай цішыні, у гэтым спакойным, жудасна роўным месячным святле. І калі лёгенька шорхнула зямля пад нечымі нагамі, зусім побач, ён паглядзеў бліжэй, перад сабою. Чалавек ляжаў падкурчыўшы ногі і глядзеў на Лесіна месячна белым тварам. І далей, за гэтым першым, ляжаў другі, трэці, і той, трэці, варухнуўся, быццам хацеў схавацца ў кустах, але заўважыў, што Лесін глядзіць, і прытаіўся. А тыя, нябачныя, заходзяць ззаду!.. Лесін не мог дрыжачаю рукою намацаць ручку затвора. Ён толькі прысеў, калі зноў варухнуўся той трэці чалавек, нарэшце абмацаў, дзе затвор, і той гучна кляцнуў у цішыні. І Лесін аж скалануўся ад слабага голасу:

— Дзядзечка, не страляй! Я свой...

Лесін, утрупелы ад страху, не апускаў карабін. Маленькая постаць устала ад зямлі і нясмела рушыла да яго.

— Дзядзечка, я заблудзіўся!..

Ён пазнаў, што гэта хлопчык, і не апусціў зброю. Толькі сціснуў сківіцы, каб не стукалі зубы.

— Я, дзядзечка, карову шукаю.

Хлопчык стаяў ад яго за метраў пяць, а Лесін усё не мог разагнуцца і бачыў, як дзіця ўсміхнулася.

— А вы наш, а не ням-мецкі!

Лесін устаў, але не мог нічога сказаць, звяло ад сутаргі сківіцы і калаціла, як ад холаду.

— Што... ты... Чаго?..

— Есці шукаў. Я есці хачу, дзядзечка.

— Чаго?

— Думаў у салдат есці знайду. У аднаго толькі поўная кішэня патронаў, а есці няма. Яго немцы штыкамі закалолі.

Лесін адчуў, як цяжка падварочвае пад грудзі, паволі пайшоў прэч, за кусты, ад гэтага чаду і ад мерцвякоў, і, калі адышоў, сеў на зямлю, глыбока ўдыхаў на поўныя грудзі, пакуль не прайшла млоснасць.

Хлопчык стаяў збоку і спагадліва маўчаў. Лесін расшпіліў сумку, падаў дзіцяці хлеб і сала. Хлопчык схапіў ежу, адступіў, быццам баяўся, што Лесін перадумае і адбярэ. Ён, стоячы, спяшаў каўтаць і аж напружваўся ўсім сваім худзенькім целам.

— Ты не спяшай, жуй, а то жывот будзе балець.

Хлопчык толькі здзіўлена зірнуў на Лесіна, і той не мог больш нічога сказаць ад жалю, які цёплым камяком засеў у горле.

— Адкуль ты?

— З Брэста.

— Адкуль?!

— З Брэста. Мяне нашы былі падвезлі на машыне.

— Ты жыў у Брэсце?

— Мой тата палітрук. Мы за горадам жылі. Ён быў у лагерах, як пачалася вайна. Мы ў падвале хаваліся, а раніцаю прыйшлі немцы, усіх нашых мам разам сагналі. Той немец, што па маю маму прыходзіў, хацеў задушыць яе. Я закрычаў, прыбегла цётка Даша, і немец не душыў больш маму...

— А дзе твая мама?

— Іх немцы павялі раненых з бліндажоў даставаць. Я следам ішоў, а мама аглядалася і махала, каб я не ішоў. А я ішоў. Немцы паставілі вінтоўкі, папіхаюць мам, а яны не лезуць у бліндажы. Немцы пачалі страляць у мам, нашы раненыя пачалі самі выпаўзаць, а немцы іх штыкамі калолі! Мая мама закрычала, упала на раненага, а маленькі немчык і яе штыком... Я на таго немчыка кінууся, ён мне нечым па галаве стукнуў...

Хлопчык змоўк, толькі цяжка ўздыхнуў і не заплакаў, пакратаў рукамі галаву, быццам яна яшчэ балела, занепакоена ўстаў:

— Дзядзечка, вы мяне з сабою вазьміце. Страшна аднаму.

Лесін падняўся, пагладзіў хлопчыка па галаве, моцна і ласкава пацiснуў за худзенькі плячук: трэба было ісці, пакуль ноч.

— Як цябе завуць?

— Юрка. Юрка Богушаў.

— А я Федзя Лесін.

Хлопчык пайшоў побач, і Лесін узяў карабін на плячо.

— Чаму ты ночы ідзеш? Цябе ж ніхто не будзе чапаць.

— На мне матроскі касцюмчык. Немцы раз па мне з аўтамата стралялі. Кулі стукалі ў зямлю, і на мяне аж пясок пырскаў.

— Хто ж цябе ад немцаў забраў?

— Дзед Янка. У яго мякенькая барада, як з кудзелі. Дзед Янка нашых мам хаваць прыходзіў, узяў мяне, а я яшчэ цёпленькі і дыхаю. Ён мяне такою горкаю травою паіў, каб з носа кроў не ішла.

— А чаму ты не заходзіш да людзей узяць есці?

— Я заходзіў...

Хлопчык уздыхнуў глыбока і цяжка, быццам дарослы чалавек, які спахапіўся, што залішне многа гаворыць, а можа, думаў пра тое, як знойдзе бацьку, які недзе ваюе.

У скупым месячным святле бачыў Лесін, які худзенькі, празрысты ў яго тварык і глыбокія цені пад вачыма, быццам у старога, і нават чубок быў свет-

ленькі, нібы пасівелы. І ніхто не адважыцца сказаць яму, што няма больш у яго бацькі, і не паверыць ён нікому.

* * *

Толькі ішло на злом лета, перастояла самую высокую сваю пару сонца, схілілася на карацейшы дзень і даўжэйшую ноч. Але кароткія, як дрымота, былі ночы, і доўгія спякотныя дні.

Лесін чуць прыадстаў, глядзеў, як спакойна, чуць нагнуўшыся наперад, ступаў хлопчык, і падумаў, што ён можа ісці доўга і не стаміцца. Бачыў мокрыя калашыны штаноў і чырвоныя, як гусіныя лапкі, ступакі. Трэба было знайсці яму чаравікі, сачак які. Лесін сам зойдзе да людзей.

Ішлі поплавам, які часта пераходзіў у балоцістую лугавіну, ужо не відаць было, дзе той неглыбокі ручаёк. Стаў ён звілістаю рачулкаю, шырокаю і глыбокаю на вымоінах і заваротах, да якое не ўсюды можна і падступіцца з-за багавіння.

Днела. Трэба было наглядаць месца, дзе адседзецца ўдзень. Яшчэ трэба было здабыць ежы і адзежу малому.

Скора пачаўся сухі поплаў, потым паказаліся і хаты на ўзгорку, ад якіх да поплава роўнымі шнуркамі цягнуліся соткі, да самае аселіцы. У канцы сотак былі агароды, адгароджаныя калючым дротам і абсееныя канаплямі — каб не лазілі гусі.

Юра прыпыніўся, прыслухаўся. Лесін зняў з пляча карабін.

— Ты пасядзі, а я пайду...

Хлопчык яшчэ прыслухаўся, потым пакруціў галавою:

— Лепш я пайду. Ты з вінтоўкаю.

Ці то Юрка асвоіўся за ноч, ці то ў ранішнім святле разгледзеў Лесіна, і перастаў зваць дзядзечкам, перайшоў на «ты».

Ён гаварыў праўду, і Лесін пакорліва прысеў пад кустом. Калі ў вёсцы спакойна, ён потым сходзіць па адзенне малому.

Лесін бачыў, як ішоў разоркаю Юра, нечакана малы ў высокім бульбоўніку, да самае будыніны, зайшоў на двор.

Дзіўна, што доўга Юра не затрымаўся, ішоў назад, а за ім — невысокага росту чалавек з кошыкам у руцэ, і калі падышлі яны бліжэй, Лесін пазнаў, што з Юрам ідзе стары.

Ён усміхнуўся Лесіну, быццам пазнаў даўно знаёмага чалавека, прывітаўся.

Быў ён сухенькі, як і многія старыя людзі ад цяжкае сялянскае работы, быццам час і сонца на палетках высушыла яго, пакінула толькі лёгкую, як пушынка, постаць, чыстыя, як летні блакіт, вочы, маршчыны на твары і спакойны голас, ад якога рабілася спакойна на душы. Дзядок быў у палатняных, некалі пафарбаваных, прыкаратких штанах, якія пухірамі выцягнуліся на каленях, у вылінялай чырвонай рубашцы навыпуск.

Адно незвычайнае было ў яго — круглыя акуляры, праз якія пільна паглядаў на Лесіна.

— Пайшлі хіба, а то зараз відно стане. Пераднюецце. Завуць мяне Анціп, кажуць, што я святыя кнігі чытаю. Думаюць, як стары, дык толькі святыя і чытае. Я ў бога не веру, а ўсякія кнігі чытаю.

Стары ішоў паперадзе.

— А цябе як завуць, салдат?

— Федзя Лесін. Толькі я не салдат, а ў выканкоме рабіў. Гэта так адзежа, з вайсковага пашытая.

— Якраз як салдат. Трэба скінуць гэту адзежу. А хлопчыка як зваць?

— Юра.

Адказаў Лесін. Сам хлопчык не абазваўся, ступаў за старым стомлена.

— Куды ён? Адкуль?

— Маці немцы забілі. На фронт ідзе шукаць бацьку. Бацька ў яго пагранічнік.

Стары азірнуўся на хлопчыка, уздыхнуў:

— Прапасці цяпер нядоўга... Прытуліліся б вы дзе, перачакалі, пакуль аціхне...

Лесін нічога не адказаў, стараўся ступаць у сляды старога. Пачалося мокрае хісткае багавінне, ледзь не вышэй за халявы яго хромавых ботаў, і Лесін пашкадаваў, што не разуўся. У гэтай ненадзейнай калатушы пад нагамі адчувалася слізкая цвердзь жэрдзя.

— Ну вот мы і прыйшлі. Толькі на вочы не вылазце, з вёскі ўсё відно, як на далоні. Тут некалі лука

была, потым старыца, а цяпер зацягнула прорваю. Сюды ніхто не адважыцца ісці.

Стары сур'ёзна, жаласліва паглядзеў на Лесіна.

— Многа я вас такіх хаваў. І ўсе ідуць. Нашто? Куды? Каб толькі галавою налажыць? Аставайся, жыві. У чалавека столькі работы і без таго, каб адзін аднаго глуміць... А ты, хлопец, з дзіцем.

Стары павярнуўся і нячутна прапаў за кусцікамі, толькі на развітанне чуць дакрануўся рукою да галавы хлопчыка, быццам пагладзіў.

Толькі цяпер Лесін агледзеўся. Былі яны на невялічкім грудку, пасярод якога рос густы лазовы куст, выцерабленны ўсярэдзіне, і там наслана сена.

Ціха і ўтульна плылі над вёскаю гаркавыя дымкі з каміноў, рыкала недзе карова, а на галінцы суседняга куста бесклапотна пагойдвалася невялічкая шэранькая птушка, тоненька пасвіствала, нахіляла галоўку, быццам хацела зазірнуць у сярэдзіну куста. І нічога не было ад вайны, толькі вечнае жыццё. А сам Лесін прысеў пасля палявання адпачыць ля ракітавага куста.

У кошыку, які пакінуў стары, акрамя збанка з малаком, сала, хлеба, у стары пінжак закручаны рыжыя, усохлыя чаравікі і белыя палатняныя анучкі.

Юрка не заўважыў нічога, глядзеў толькі на хлеб.

* * *

Прачнуўся Лесін, калі пайшло на склон сонца. Прамокла ад поту рубашка, і, можа, з духаты, а не ад доўгага сну, была цяжкая галава, млявае, млявае, непаслушнае цела.

Юра стаў побач. На лбе, на верхняй губе ў яго буйнымі кропелькамі выступіў пот.

Лесін асцярожна расхінуў галінкі, прыслухаўся: усё гэтак жа, як і раніцаю, на галінцы суседняга куста пагойдвалася і пасвіствала тая самая шэранькая птушачка. Злёгку пацягваў густы цёплы вецер, і пад ім жарсткава пашумвала спелае летняе лісце — на ветры было лягчэй дыхаць.

Прыпарвала, душнавата, па-балотнаму пахла тванню, асакою.

Лесін працiснуў нагою ямку ў балоце, пачакаў, пакуль набяжыць і крыху састоіцца вада, набраў у прыгаршчы, плюхнуў у твар так, каб трапіла на грудзі.

Скрозь кусты яму было бачна, як апускалася за вёску сонца і ад высокіх ліп, пасаджаных на вуліцы, цені даставалі аж да поплава. Скора павінен быў прыйсці стары, вывесці са схованкі, расказаць дарогу.

Стары прыйшоў яшчэ завідна. За ім тупаў яшчэ нехта, высакаваты ростам, чуць сутулы, касцісты.

— Гэта брат мой, не бойся,— супакоіў Лесіна стары.

Браты прыселі ля ўвахода ў куст. Было нешта падобнае ў іх постацях, у тварах. Толькі Анціп побач з братам здаваўся бязважкі, лёгкі, як дух, і нетрывалы.

— Хлопчык спіць яшчэ? — спытаўся Анціп.

— Спіць. Будзіць скора трэба.

— Хай паспіць. Трэба не пускаць яго аднаго, а то прападзе.

— А ты думаеш, яму трэба твой паратунак?

Анціпаў брат прагуў густым і моцным голасам, і Лесін падумаў, што шаптаць ён не ўмее.

— Ты думаеш, табе не патрэбна спагада, то і нікому не патрэбна? Усе такія каменныя, як ты? Я гляджу на людзей, і душа мая баліць... Калі што і ёсць святое на зямлі, то гэта чалавек.

— Многа ты святасці захацеў!

Лесін здагадаўся, што гэта даўняя спрэчка ў братоў.

— Ты не перабівай мяне, Павел, ты на памяць ведаеш усе мае казалы. Сонца над зямлёю адно ходзіць, кожнаму адмерана роўна, колькі пражыць. Шкода мне людзей, якія дачасна пагінулі, з імі і цяпла на зямлі меней стала. А ніхто быццам не хоча пра гэта ведаць. Быццам не стала ў чалавека сэрца, а толькі звярыная прага — уварваць сабе большы кавалак,— Анціп павярнуўся да Лесіна.— Некалі раскулачылі ў нас кулака Душыцкага, равесніка майго. Сядзеў недзе, чакаў, а цяпер, кажуць, аб'явіўся, з ім яшчэ два абармоты, кулямёт паставілі на брычку і б'юць тых, хто некалі іх крыўдзіў — расстрэльваюць і старшынь, і камуністаў. Хай даведаецца, што гэты разумнік у мяне,— Анціп кіўнуў галавою на брата,— прыедзе і павесіць яго ўніз

галавою, і мяне за кампанію. Яго права, яго сіла, думае, навек яна дадзена яму.

Анціп гаварыў задумёна, нібы забыўся, што яго слухаюць, лашчыў рукою лазовую галінку.

Павел не пярэчыў больш брату, скоса і насмешліва пазіраў на яго.

— Мне пачынае думацца, што няма ніякага толку ад дабраты, што яна і не патрэбна людзям. Нешта падламалася ўва мне, няма той зласлівасці, упартасці ў дабраце. То верыў, што ўсім людзям зраблю дабро, а цяпер нібы прадчуванне пустога канца вісіць нада мною. Страху няма, толькі крыўда і шкадаванне да людзей...

Лесін бачыў змарнелы твар старога.

Павел узяў карабін, пакруціў у руках:

— Харошая штуковіна.

Лесін заўважыў, што рукі Паўла прывычны да зброі, што яна не ў навінку ім.

Павел адчыніў затвор, зазірнуў:

— Пораху яшчэ не нюхаў.

Ён паглядзеў на Лесіна насмешліва, звысака і здалёку, як і на брата, калі той гаварыў.

— От і ты ідзеш. Дзіця з табою. А ўловіць той жа Душыцкі і застрэліць, малога таксама не пашкадуе. Пабудзь у мяне, разгледзься, перачакай гэта ліхалецце!

Анціп падаўся да Лесіна, быццам хацеў зазірнуць у вочы. Лесін адвёў позірк, і Павел, нібыта яму стала брыдка за брата, умяшаўся ў гаворку:

— Перастань, Анціп!

Анціп як і не пачуў, падсунуўся бліжэй да Лесіна:

— Ты паслухай мяне, не каменная ж душа. Я некалі партызанам памагаў, палякі маю сям'ю расстралялі, дзетак...

— Не, я дадому пайду. У мяне там бацькі, хату пастаўлю...

— Вы што, абодва з глузду з'ехалі? Адзін век пражыў і дурыць людзям голаў, а другі ў пажар будавацца ўздумаў! Застрэляць аднаго за камсастаўскае адзенне, а другога,— што ён мой брат!.. Альбы за што!..— Павел загаварыў нечакана моцна, злосна павярнуўся да Лесіна, і Лесін разгубіўся, але Павел нечакана сціх.

Лесін паглядзеў на Анціпа. Той адчуў яго позірк, спакойна, быццам нічога і не было, сказаў:

— Як сабе хочаш. Сёння яшчэ пасядзі ноч. Сам адпачні, дзіця хай троха абмацуецца. Заўтра выправім вас у дарогу.

Лесін недаверліва паглядзеў на старога. Пасля слоў Паўла не хацелася заставацца на гэтым астраўку сярод балота. Лепш і спакайней ісці.

— У вёсцы ніхто не скажа,— супакоіў Анціп, устаў, не чакаў брата, пад нагамі захлюпала багавінне.

— Ён табе праўду сказаў. Заўтра правядзе ён вас, адпачнеце,— пацвердзіў Павел зусім мірным голасам.— А карабін ты мне аддай, не з рукі ён табе. І скінь гэту адзежу.

Лесін пацягнуў карабін бліжэй да сябе, і Павел толькі скрыва ўсміхнуўся. Лесін з упартасцю падумаў, што ні адзення, ні карабіна ён нікому не аддасць, не будзе распускаць вушы, слухаючы чужую гаворку.

— А чаго дзядзька на цябе крычаў? — Юрка вылез з куста, паглядзеў на Лесіна.

— Так, пагаварылі... А ты кот-соня вячэраць захацеў?

Лесіну не хацелася гаварыць, ён развязаў клуначак.

Ноччу пацягнуў густы вецер і неспакойна, густа шумела лазовае лісце, як перад самаю навальніцаю, калі нахопліваецца вецер. Але пошум быў не навальнічны — шырокі і роўны. Ад ветру стала халадней, вальней дыхалася. У такія ночы пасля душных дзён моцны сон.

Лесін ленаваўся ўстаць, лезці ў куст, ляжаў тварам да высокага цёмнага негустою летняю цемнатою неба, у якім яшчэ малымі здаюцца высокія зоркі, якія потым, калі саспее жыта, быццам таксама саспеюць, апусцяцца да зямлі ніжэй і будуць падаць з цёмнага жнівеньскага неба. Тады будзе час звозіць з поля збажыну, падаць зоркам і людзям загадваць на іх свае жаданні.

За дзень ён звозіць снапы ў гумно, састароніць, і ад снапоў ток будзе пахнуць саломаю, пылам, збажынаю, свежым дзёгцем падмазаных колаў і конскаю збруяй, якая вісіць пад паветкаю, і так будуць пахнуць яго рукі: і збажынаю, і вупражжу...

Ён ціха, каб не чула маці, выйдзе з хаты, пастаіць на парозе, прыслухаецца. Марыля будзе чакаць яго ля варотцаў, на сваім двары, за кустом бэзу, быццам незнарок выйшла пастаяць, паслухаць, ці не збіраюцца на вячоркі хлопцы і дзяўчаты. І ён таксама, быццам незнарок, спыніцца, запытае:

— Гэта ты, Марыля?

— Хіба не бачыш.

— А я думаў, ты пайшла да Косцевых.

— Хіба будуць сёння там вячоркі?

— Павінны быць...

— Далёка ж ісці.

Марыля ціхенька адчыніць варотцы, выйдзе на вуліцу, будзе расплятаць і заплятаць кончык тоненькае чорнае касы, перакінутае цераз плячо.

— То пайшлі паглядзім.

Яна азірнецца на двор, ці не чуе хто, ці не бачыць, і пойдзе побач, запытаецца:

— Ты ўсе снапы звазіў?

— Усе.

— А мы не ўспелі.

— Нічога. Дажджу не будзе. Я заўтра пайду калгасныя вазіць.

Ён будзе ісці блізка, побач, дакранацца да яе пляча сваім, адчуваць, якое гарачае яе цела. Яны, не згаворваючыся, павернуць у вулачку, не даходзячы да Косцевых, бо ведаюць, што няма там вячорак і не будзе...

— От угледзяць людзі, абы-што казаць будуць...

— Каму гэта глядзець...

У яго суха ў роце і нават цяжка сказаць слова. Але ён не паслухае, калі яна спыніцца і скажа: «Пайшлі назад»,— а сама будзе стаяць нерухома. Гэта тады ён пайшоў назад, а яна пакінула яго, пабегла, сказала, што ён смаркаты кавалер, што яму гусей на аселіцы толькі пасвіць. Цяпер ён абдыме яе за плечы, і яна паслухмяна пойдзе побач, а з іржышча будзе плысці пах свежае саломы...

Лесін аж пачырванеў ад гэтага нечаканага сну-трызнення і не мог зусім ачнуцца, усё чуў, як шоргаюць яго боты па ржышчы, як нячутна ступае побач дзяўчына.

Ён доўга не мог умясціцца побач з Юркам у кусце, варочаўся, уздыхаў.

* * *

Цень ад самае высокае ліпы з буслянкаю даставаў да самага іхняга куста. Яны толькі павячэралі. Лесін звязаў канапляныя шнурочкі Юркавых чаравік, каб можна было іх несці на плячы. Скора павінен быў прыйсці стары.

— У бабулькі ў садзе гэтак пахла. Там крапіва расла, маліннік, парэчкі... Траву ніколі не касілі, а крапіва расла большая за маліннік.

— А ты не ў горадзе рос?

— Пасля ў горадзе, як бабулька памерла. Тата мой дома мала бываў, мама лаялася на яго... Я любіў гуляць з татам, ён не біў мяне, я слухаў яго.

— А бабульку вы не забіралі жыць да сябе?

— Не, мама казала, што ў нас і так цесна. Бабулька не хацела ехаць, казала, што дома лепей. У бабулькі засталася кошка Дамка. Яна хадзіла вечарам на вуліцу сустракаць карову з пашы. Сядзіць ля плота, пазірае на вуліцу, чакае малачка. Мама казала, што не ўлавіла Дамку, не прывезла. У яе на вышках маленькае кацянё было... Хто цяпер Дамку корміць? Карову мама прадала, хату ніхто не купіў, а карову купілі...

Сінія вачаняты глядзелі на Лесіна з такою дарослаю тугою і такім клопатам, быццам і не было ў Юркавым жыцці большага няшчасця.

Хлопчык усміхнуўся стрымана і горка, як чалавек, што ўспомніў добрыя і незваротныя дні дзяцінства, і Лесіну стала не па сабе ад гэтае ўсмешкі.

Ужо браўся вечаровы морак ля кустоў, калі ў вёсцы два разы стрэлілі, моцна закрычала жанчына. Юра таксама прыслухаўся, паглядзеў на Лесіна. Трэба было ўцякаць.

Потым яны пачулі, што да астраўка нехта бяжыць.

Лесін адступіў за куст, схаваў за сабою хлопчыка, узяў напагатове карабін і раптам спалохаўся — а як жа страляць, калі чалавек выбежыць так блізка.

Павел быццам і не заўважыў накіраванага на яго карабіна, махнуў рукою:

— Давай следам!

У руцэ ў Паўла быў наган.

У Лесіна здрыганулася сэрца. Ён баяўся адстаць ад мужчыны. Юрка лёгка бег побач, не выпускаў з рукі ча-

равікі і сачак. Усё ж яны адсталі. Павел чакаў іх на тупкім поплаве, за кустом.

— Ты, хлопчык, разоркаю ідзі ў агароды, у вуліцу. Цябе ніхто не кране! Ідзі!..

Павел падштурхнуў Юрку, той бездапаможна азірнуўся на Лесіна, трушком пабег да град.

— За мною, а то прыстрэляць цябе, як уловяць!

Лесін заўважыў, як прыпыніўся Юрка, як глядзеў услед ім. Але не было часу, каб лішне аглядвацца. З вёскі, з узгорка, рэдзенькія кусцікі былі відаць нават і ў вечаровым прыцемку. Лесіну страшна было застацца аднаму. Але кончыліся і гэтыя кусцікі, наперадзе быў голы пагорак, і Павел прыпыніўся, прыглядаўся.

Лесін азірнуўся: іх даганяў Юрка. Павел нібы адчуў, куды глядзіць Лесін, мацюкнуўся:

— Бяры хлопца за руку... Не адставайце!

Павел ведаў, што калі зараз ім не ўдасца перабегчы цераз пагорак, за якім пачынаецца алешнік, які цягне аж у Гразавецкае балота, то паратунку не будзе.

Павел бег нізка нагнуўшыся, бачыў, як хлопчык ледзьве паспявае за Лесіным, не кідае адзежу.

Ад вёскі наперарэз ім курэла падвода. З помслівацю радасцю падумаў Павел, што спазніўся на гэты раз Душыцкі па яго душу, і з адчаем зразумеў, што так не паедзе з вёскі Душыцкі, што застрэліць Анціпа і што яму не трэба было сядзець у брата, трэба было пайсці, як толькі пачуў пра Душыцкага, не толькі пайсці, а падпільнаваць дзе на дарозе і кінуць у падводу гранату. Цяпер ён ведаў, што зробіць так, толькі б уцячы зараз.

Падвода спынілася, і з яе доўгімі чэргамі ўдарыў кулямёт.

Лесін бачыў, як Павел прыгнуўся яшчэ ніжэй і паддаў ходу. Лесін таксама прыгнуўся, не адчуваў хлопчыка, ён як пушынка ляцеў следам. Ён спачатку не зразумеў, чаму так раптам пацяжэў Юрка, азірнуўся: хлопчык цягнуўся па зямлі.

Лесін закрычаў, Павел азірнуўся:

— Не адставай!..

Лесін схапіў хлопчыка на рукі і бег не прыгінаючыся.

Пачаўся гушчэйшы алешнік, пад нагамі заплёхала вада.

Павел чуцён быў наперадзе. Галава хлопчыка ляжала на плячы ў Лесіна, быццам дзіця заснула. Лесін адчуў, што дзіця не дыхае.

— Стой, ён памёр!

Над кустамі ўсляпую паласнулі дзве чаргі.

— Што? Дзіця ранілі?

Павел зняў з сябе рубашку, потым споднюю кашулю, прысеў на калена. Лесін усё стаяў.

— Сядзь. Не тырчы! — загадаў ён, але ў голасе была разгубленасць.

У вечаровай цемнаце бачыў Лесін мёртвы белы тварык. Прамокла ад крыві рубашка на грудзях і на плячах у дзіцяці, і кроў гэтая была на руках у Лесіна.

Павел асцярожна, быццам баяўся пабудзіць, бінтаваў дзіця, і яно стала падобна на спавітае немаўля. Яшчэ некалькі чэргаў паласнулі над кустамі, але рукі Паўла нават не здрыгануліся, быццам загаворвалі ад бяды, снавалі вакол дзіцяці.

Сонца зайшло пагодліва і хораша. Над ім стаяла высокае светлае неба. Пахла травою, туманам, балотам. Хлопчык ледзьве дыхаў, і нешта булькала ў яго грудзях.

Лесін ішоў як у сне, стараўся не спатыкнуцца і не патрывожыць дзіця. А калі адчуў, што Юра перастаў дыхаць, закрычаў, і аж сам схамянуўся ад свайго крыку.

— Ціха! Не крычы!

Павел нахіліўся да хлопчыка, забраў з рук у Лесіна, уздыхнуў:

— Жывы ён.

Хлопчыка не аддаў, панёс сам. Лесін ішоў следам, рукі трымаў перад сабою — яны не разгіналіся.

Пакуль узышоў месяц і стала відно, яны выйшлі да невялікае вёсачкі.

Павел пастаяў за кустамі на агародзе, потым паўз сцены пракраўся да акна, Лесін не чуў крокаў, толькі вочы, якія прывыклі да цемнаты, адрознівалі невыразны цень-постаць.

У хаце Павел загадаў:

— Папраў, Антоля, посцілкі на вокнах, каб не відно было агню.

Жанчына басанож затупала ў цемнаце, зашамала каробачкаю ад запалак, запаліла на камінку газнічку.

— Што гэта вы прынеслі?

— Дзіця раненае,— коратка адказаў Павел, падбіў на ложку падушку, кіўнуў Лесіну, які ўсё стаяў у парозе: — Кладзі.

— За што яны яго, сірацінку? Як лялечка якая?.. Крыві з яго столькі!

Жанчына была старая, у споднай палатнянай кашулі, рассыпаныя па плячах валасы паблісквалі сівізною ў скупым хісткім святле, маршчыністы сялянскі твар здаваўся чорны. Лесін усё стаяў у парозе, і жанчына сама ўзяла ад яго Юрку, углядалася ў твар, быццам хацела пазнаць, ківала галавою:

— Божухна ж ты мой, божухна! Маленькі ты мой! Нашто яны так паглумілі цябе? Бедненькі ты мой! Гэтулькі крыві выцекла...

— Кладзі яго, Антоля. Ляжаць яму спакойна трэба, натрэслі мы яго за дарогу. Э-х! — Павел стукнуў кулаком па стале, апусціў галаву на выцягнутыя рукі, зноў застагнаў і ўсё не падымаў галаву, чуць пагойдваўся ўсім тулавам у два бакі, і Лесіну здалося, што мужчына плача.

Жанчына спалохана прытулілася да ложка, а Павел усё ківаўся з боку на бок, ціха стагнаў, потым падняў галаву, чужымі вачыма паглядзеў на Лесіна, быццам не мог зразумець, чаго ён тут і хто ён.

— Забіў, Антоля, Душыцкі майго Анціпа. Як дурань, сядзеў я ў Анціпа, быццам можа забыць Душыцкі пра мяне. Адзін я цяпер астаўся.

Павел нібы састарэў, ссутуліўся, прайшоў туды-сюды па хаце, пацёр рукою скроню, крута павярнуўся да жанчыны:

— У мяне мала часу, Антоля. Паглядзі мне цяплейшую адзежыну. Сходзіш да Марозіка, скажаш, што я прасіў, каб чым можа падлячыў дзіця. А калі і...— Павел не дагаварыў, зірнуўшы на Лесіна,— ён табе таксама дапаможа... усё зрабіць.

Жанчына, нячутна ўсхліпваючы, устала і пакорліва пайшла ў сенцы. Лесін саступіў з парога. Павел апрануў бравэрку, паглядзеў на Лесіна, зморшчыўся:

— Ты і яму на дарогу есці дай. Хай ідзе дадому, на печ!

Павел пацалаваў жанчыну ў лоб, з парога азірнуўся:

— Трэба з Душыцкім пагаварыць мне.

Жанчына перахрысціла яго ўслед, узяла спадніцу, адзелася, выйшла ў сенцы, вярнулася з клуначкам.

І, мабыць, жаласлівы быў у яго выгляд,— суцешыла:

— Не бяры так усяго да душы, не дапускай жалю. Ты маладзенькі салдацік, табе яшчэ многа ваяваць. А з Паўлам ты не раўнуйся, ён некалі і калгасы зарганізоўваў, з палякамі ваяваў, і зараз будзе ваяваць.

Жанчына падышла да хлопчыка, паднесла да роціка далонь, каб пачуць, ці яшчэ дыхае.

Нядобрае прадчуванне варухнулася ў грудзях у Лесіна, і ўжо на двары ён не слухаў і не запамінаў назвы вёсак, да якіх трэба ісці яму і да каго заходзіць можна. Не было радасці, што дайшоў да лесу, не думалася пра хату, якую ён будзе рубіць... Гэтага не было больш, і тая дзікая шалёная сіла, ад якое ён дасюль так добра і надзейна хаваўся, захліснула, закруціла, як сляпая лютаўская мяцеліца, і ні свету, ні прасвету, ні паратунку...

...На світанні, у тую пару, калі ляцяць з лесу ў поле дзікія галубы, на невялічкім лесавым полі, сустрэўшыся з двума абознікамі, ён не спалохаўся, саступіў з дарогі ў высокую пшаніцу, здзіўлена глядзеў на рабога кармляка, які цяжка дыхаў у задку падводы. Лесін нават забыўся пра карабін, да таго нястрашныя і звычайныя людзі былі гэтыя два нямецкія абознікі, якія нават не звярнулі ўвагу на ягонае адзенне, на зброю, толькі маладзейшы пакруціў пальцам ля скроні, зарагатаў, штурхануў у бок напарніка, старога, з маршчыністым сялянскім тварам мужчыну, і той таксама засмяяўся, заківаў галавою, і ў яго востра захадзіў на худой шыі кадык.

— Да маткі, Іван, да маткі! — зноў выскаліўся маладзейшы, махнуў рукою.

Лесін павярнуўся і пайшоў, не бачыў, як перастаў смяяцца старэйшы, па-свойму закрычаў, каб спыніўся ён, і калі Лесін не спыніўся, дакладным, завучаным рухам ускінуў да пляча стрэльбу.

Лесін пачуў стрэл і не зразумеў, адкуль такі востры

боль між лапатак, чаму хістанулася з-пад ног зямля і сіняе неба прыціснула яго да зямлі.

Ён яшчэ жыў, калі стары немец падышоў да яго, прыклаў свой стары растаптаны бот з разрэзанаю халяваю вялікаю падэшваю да маленькай падэшвы хромавага бота, вылаяўся, гідліва адштурхнуў нагу і подбегам кінуўся даганяць падводу.

І апошняй хвіліны Лесіну не хапала, каб спалохацца смерці. Толькі імгненне было дадзена на тое, каб зразумець, што хлопчык памрэ, закрычаць на ўвесь свет!.. Але цела яго толькі раз слаба варухнулася, і ён ужо не чуў, як над самым тварам дабрадушна прагуў чмель, і нібыта адчуў смерць, імкліва паляцеў прэч над зялёным пшанічным полем, якое толькі-толькі адкрасавала.

. . . . . . . . . . . . . . .

...Карныя атрады яшчэ не палілі вёскі разам з людзьмі.

*1973*

## МІШ

### I

Бонусь прачнуўся рана, але не ўставаў. Чуў, як на кухні пынілася Волька. Каб гэта другога дня, то з жончыных рук на падлогу падала б ці накрыўка каструлі, ці алюмініевая місачка. Калі ж Бонусь не абзываўся ў адказ на ўсю гэтую «артылерыю», дзверы ў спальню прачыняліся: «І дакуль ты будзеш вылежвацца? Сонца ўжэ над зямлёю стала! Варыны малыя дзеці ўжэ па вуліцы бегаюць. Стары чалавек, як табе не брыдка!..» Волька вярталася да прыпечка, споведзь вяла і адтуль, пакуль Бонусь не паднімаўся і не ішоў на двор. Клалася спаць Волька ў адну пору з курамі, але і ўставала разам з імі. І не магла цярпець, каб спаў гаспадар, хоць рабіць яму досвіта не было чаго.

Сёння Волька пынілася ціха. У спальні на суседнім з Бонусем ложку спалі сын Лёня і зяць Гена. Сын прыехаў учора на апошнім аўтобусе, а зяць яшчэ пазней прыкаціў на матацыкле з каляскаю. Гасцей Бонусь не чакаў, не пісаў, каб прыязджалі, бо не было ніякае пільнае работы.

У спальні стаяў кволы прыцемак. Млявае ранішняе сонца мякка прасейвалася скрозь тоненькія занавескі на палакіраваную падлогу. Пры гэтым няяркім сонечным святле, у цішыні добра і радасна адчуваць, што ты жывеш, што ўвесь гэты свет дзеля цябе і што ты здаровы, лёгкі целам.

Ціха, каб не трашчалі спружыны старога матраца, Бонусь устаў, надзеў цёмна-зялёную з тоненькае мацéры рубашку-куртку з вузенькімі пагончыкамі і нагруднаю кішэняю. Будучы ў Слуцку, купіў сабе студэнцкі рабочы касцюм — зручны насіць летам.

Сам Бонусь высокага росту, крыху сутулаваты, з цёмным загарэлым тварам і сівымі густымі валасамі, здаваўся маладзейшым у гэтым касцюме — не скажаш, што яму за шэсцьдзесят год.

На кухні Бонусь уссунуў на ногі старыя растаптаныя сандалеты, выйшаў на ганак.

Сонечна ўстала раніца. Ад расы пацямнела сцяжынка на двары, густа, шызавата легла раса на блакітную

фарбу зяцевага матацыкла і на мураўку, якою туга ўрос двор. Ненадоўга і гэтая раса, і тоненькая намітка туману — пакуль крыху вышэй не ўстане сонца. Дзень будзе гарачы, хоць і пачынаецца ўжо верасень, і нават удзень павявае, ходзіць над зямлёю напорысты вецер.

Мыўся Бонусь ля рукамыйніка, прыбітага да плота. Пакрэхтваў, плюхаючы ваду ў твар,— прыемна, казытліва беглі пад рубашкаю кроплі па грудзях і па спіне.

Галіўся на верандзе, паставіўшы на халадзільнік люстэрка. Доўга вадзіў па твары электрабрытваю, якая хавалася ўся ў яго вялікай, цёмнай руцэ.

Калі вярнуўся ў хату, жонка не вытрывала, запыталася:

— Куды гэта ты зранку так выхарошваешся?

— А табе ніяк не дагодзіш. Пад'еду да Веціка. Хай после абеду заедзе ў лес. Гуртам зараз і забяром усё сена.

— От табе гэта сена! Толькі людзі будуць лішняе языкамі трапаць. Хопіць і таго, што дадуць з калгаса. Хай бы дзеці пагулялі. Схадзілі б у лес, абарвалі якую ягаду.

— Куды ты раўняеш лесавое сена з цімафееўкаю? А яны не падарвуцца за адзін раз у год. Мне ж работу вялікую зробяць.

— А хто на заправачную за цябе пойдзе?

— Сам заеду, адамкну.

Бонусь вывеў з гаража стары, але дагледжаны «каўровец». Матацыкл вывеў на вуліцу, там завёў, каб не пабудзіць гасцей.

У шэсцьдзесят гадоў Бонусь пайшоў на пенсію, пакінуў трактар. Пасля згадзіўся быць запраўшчыкам — здаровы мужчына, неяк не з рукі было сядзець зусім склаўшы рукі.

На заправачнай Бонусь адамкнуў замкі на цыстэрнах з маслам і негролам, а таксама будку, у якой стаялі дзве заправачныя калонкі, на бензін і на салярку. Паклаў на самаробны, з негаблёваных дошак прамазучаны стол канторскую кнігу-журнал уліку адпушчанага гаручага, каб самі механізатары, хто будзе запраўляцца, запісалі колькі чаго ўзялі.

Язда ў Бонуся была нядоўгая: Вецік жыў у прымах у Вуглах, невялікай вёсцы кіламетраў за пяць ад

цэнтральнае сядзібы. Ён у вялікую навуку не пайшоў: кончыў толькі вучылішча, а потым курсы і рабіў у меліярацыйным упраўленні на «беларусу». Меў неблагія грошы, работа воддаль ад начальства — сам сабе гаспадар. Каб чалавек другое натуры, маючы гэтакую машыну ў руках, то нажыўся б. Але Вецік быў не з тых, што ўварві ды падай. Яно мо і так: каб ведалі, што ўрвіцель, то не далі б гэтакае волі.

Бонусь ніколі не любіў прасіць помачы ў чужога чалавека, мець ад каго ласку, калі можна абысціся і без яе. А з гэтым сенам не надта і хацелася, каб у вёсцы ведалі, дзе ён касіў. Чужое дабро людзям вочы коле.

Яно можна было і не гнацца на лішняе сена, хапае на карову і таго, што даюць ■ калгаса. Але ж не зраўняеш калгасную цімафееўку з лесавым, пахучым, як чай, сенам. Ды і невялікі клопат даставаць яго. Гэта пакуль не асушылі балота і не насеялі травы, не было чым кароў карміць. Тады кожны даставаць стараўся наўзахваткі, бо і ржышча з зеллем як падзь падалі, каб дзе якую латку ўкасіць. Іржышча тады касіць не давалі — заворвалі, каб гніло ў зямлі, каб лепш яна ўгнойвалася. Цяпер ніхто не забараняе касіць іржышча і ніхто і не косіць яго — хапае сена і калгасу, і людзям з уробленых, дагледжаных лугоў. Цяпер лесніка пачастуй толькі — і касі, як маеш час. А часу Бонусь меў.

За паўгадзіны Бонусь скружыў у Вуглы і назад на запраўвачную, пабыў там, пакуль раз'ехаліся машыны і начальства з цэнтральнае, і пакурэў дадому.

## II

Госці ўсталі пазнавата. Снедалі за чаркаю, бо спяшаць нікому нікуды не выпадала. Выбраліся ў лес пад полудзень, калі сена добра ўжо абветрыла і падсохла. Упраўна падварушылі, перавярнулі яго і пачалі падбіваць у валкі, каб спрытней класці на прычэп.

Сам Бонусь, раздабрэлы пасля ранішняе чаркі, больш пастойваў, абапіраючыся на грабільна і гаворачы, чым рабіў. Ён, пакуль хлопцы канчалі валкаваць, узяўся рассцілаць сурвэтку і ставіць полудзень, які ўзялі ў лес.

Пазіраў на сына Лёню, рослага, загарэлага да чарнаты, як негр. Неяк не верылася, што гэты мужчына вырас з таго маленькага, бледнага з твару хлопчыка, які насіў картовыя штанікі на адной шлеечцы і мацаў за бацькавы кішэні, калі той вяртаўся з работы — ці прывёз зайчыкавага хлеба? Тады і акраец хлеба быў за пачастунак.

І цяпер нешта пераварочваецца ў Бонуся ў грудзях, як успамінае ён тое жыццё, тыя галодныя і халодныя гады, калі трэба было рабіць душу паслухоўваючы, каб толькі хапіла на кавалак хлеба дзецям...

Бонусь таму і пайшоў на курсы ў МТС, сеў на трактар, а потым і на камбайн. Хоць лажыў сілу і здароўе, але зарабляў, нічога не скажаш.

Пакінуў трактар Бонусь пасля таго як добра ўзяў яго радыкуліт. Два месяцы пралежаў у бальніцы, змогся, наглядзеўся на хворых. Агледзеўся і на самім пражытае, многае перадумаў і дайшоў да таго, што цяпер, калі выбудаваўся, выправіў у жыццё дзяцей, разжыўся — не трэба зайздрасць на лішні заработак: не стане здароўя — не спажывеш нажытага. Трэба ўмець не толькі зарабіць, а і распарадзіцца дабром.

Бонусь накроіў хлеба, нарэзаў чырвонае цвёрдае паляндвіцы, сала, наклаў маласольных агуркоў. Дастаў чаркі, бутэльку гарэлкі і невялікую біклажку хлебнага квасу, які рабіў сам з ячменных праснакоў.

— Усё, хлопцы, усё! Хай ляжыць. Паабедаем і будзем Веціка чакаць.

Лёня ўваткнуў грабільна ў зямлю, першы падышоў да бацькі, сеў у цяньку пад кустом. На плечы яму страката леглі сонечныя плямкі.

Зяць падышоў пазней, сеў на сонцы. Ён ніжэйшага за Лёню росту, незагарэлы, белы целам, як палатно, і таму здаваўся слабейшы, хоць шыршы ў плячах, з вялікімі, цёмнымі ад металу, натруджанымі рукамі.

Бонусь прывык да зяцевае маўклівасці, ведаў, што Гена не вахлак і не маўчун. Калі пад чаркаю і ў настроі — засыпле анекдотамі, песню завядзе. Ды і дарма, што токар,— канчае завочна на інжынера, стаіць у чарзе на машыну. І жонка за ім гора не ведае.

У Лёні толькі што работа чысцейшая: пасля мастацкага вучылішча робіць мастаком-афармляльнікам на заводзе.

Лёня з біклажкі доўга піў квас, потым стомлены адкінуўся на пакошу, як і не адчуў, што яна колецца.

— Гляджу я, бацька, як лес прачысцілі: дзе таўсцейшае — пад сякеру.

— Нарасце лесу. Гэта ж пасляваенны нарос. Некалі тут усё спляжана было. А хто ў лесе не злодзей, той дома не гаспадар. Гэтак некалі старыя людзі гаварылі.

— Цяпер машын столькі, што можна ўсю зямлю спустошыць. Рэчку выразалі, канаваю зрабілі. Усё па парадку рэжам, каб толькі выгаду мець, каб большы кавалак сабе ўварваць.

Лёня прыпадняўся на локаць, узяў чарку, чокнуўся з бацькам і Генам. Гена насмешліва пазіраў на швагра — і як той выпіваў, і як закусваў кавалачкам паляндвіцы.

— Чаму, добра было, як рэчка была. Але ж без сена сядзелі. А цяпер на тым балоце травы нарастае і калгасу, і людзям,— не настойліва, але пераканана запярэчыў Бонусь сыну, як чалавек, які ведае пра гэта лепш за другога, але не хоча настырацца, каб не псаваць таму настрою, бо ад таго, што дакажа ён ці не дакажа сваю праваму, нічога не зменіцца.

Ды чаго спрачацца тут, на ўтульнай палянцы, пад чарку? На душы ў Бонуся спакойна, адчуваецца ўпэўненасць у самім сабе, гонар за тое, што не абы-хто ён, што пражыў жыццё добра: вунь як сям'ёю распарадзіўся — усё ладам, сам мае немалую пенсію.

Гена закусваў гарэлку салам з хлебам і агурком, пакуль Лёня гаварыў, хітравата пазіраў на яго. Той заўважыў гэты позірк і не змоўчаў:

— Чаго пасміхаешся? Я праўду гавару: што не ўмеем мы рабіць усё ў меру, прыгожа каб было. Пачнем балота драць — дзяром усё падрад. А можна было і поплаў асушыць, і рэчку пакінуць. На будучае трэба думаць, хоць і даражэй работа абыдзецца.

— Ён у вас, бацька, мяса любіць, але бычкоў шкадуе. Табе дай менш у рот, дык ты ўсё падрад выкарчуеш і высушыш,— быццам пра даўно вядомае, спакойна сказаў Гена, паволі жуючы. Еў ён не спяшаючыся, але са смакам.

— Цынік! Утылітар! Здаровая біялагічная істота. Пад'ела, села ў кватэру з санвузлом, купіць свой легкавічок — і шчасце!

Лёня махнуў рукою і тэатральна адвярнуўся.

— Саранча-эстэт. Сядзеш у маю машыну, каб паехаць па грыбкі і палюбавацца на прыроду. А можа, і раней за мяне машыну купіш, каб толькі знайшоўся хто мыць і глядзець яе. А ты б толькі сеў і паехаў...

— А чаму не купіць? Ён за сваё рысаванне не менш за цябе бярэ,— рашыў унесці яснасць у сынаву і зяцеву спрэчку Бонусь.

Гена і Лёня разам засмяяліся, зразумеўшы яго захад. Бонусь і сам засмяяўся, здагадаўся, што хлопцы проста з-за няма чаго рабіць паддражнівалі адзін аднаго, і ён са сваім міратворствам трапіў як лапцем у лужыну.

Лёня ўкінуў у рот яшчэ кавалачак паляндвіцы, разаслаў рубашку, прылёг, устаў, заламаў купчастую верхавінку маладое бярэзінкі так, каб цень лажыўся яму на голаў.

Гена выпіў яшчэ чарку, добра пад'еў, напіўся квасу, не паленаваўся, прынёс жмак сена, паслаўся на сонцы, прыкрыў голаў газетаю.

Бонусь дапіў гарэлку, даеў, каб нічога не заставалася, прайшоў яшчэ, памацаў сена — забірай хоць зараз. Тут, на лесавой палянцы, у лагу, які ўвесну залівауся вадою, а таму вільгаці ставала ў зямлі і ў самае спякотнае лета, добра расла трава. Ад выпітага Бонусь размяк і таксама паслаўся пад вербалозавым кустом, задрамаў, думаючы, што дажыў да добрае старасці...

Бонусь прахапіўся ад блізкага лапатання трактарнага матора. Вецік на трактары выехаў на паляну, заязджаў на дальні канец яе. Ды не так і рана было — сонца ўжо добра пахілілася на вечар. Хлопцы соладка спалі. Лёня аж блішчаў ад поту сваім чорным целам, а Гена быў чырвоненькі, як падпечаная ў духу булачка.

Вецік вылез з кабіны, ішоў да бацькі. Невысокага росту, у клетчатай з кароткімі рукавамі навыпуск рубашцы, без шапкі, з рэдзенькім, зачэсаным набок чубком.

— Пад'ём, работнічкі, а то скора дым пойдзе,— ён злёгку шлёгнуў адламаным на хаду дубцом Гену, а потым і Лёню.— Пад'ём!

Гена падхапіўся хутка, сцепануў плячыма:

— А чорт! Здароў!

Ён падаў руку Вецiку, яшчэ раз азiрнуўся на свае плечукi, пакруцiў галавою, надзеў рубашку.

— Злiняеш, злiняеш. Так гультаю i трэба,— пажартаваў Вецiк.

— Злiняць мо не злiняю. З мяне не вельмi злазiць.

Лёня ленавата прыўзняўся на локаць, паглядзеў на брата, падаў руку, каб той дапамог устаць. I, ухапiўшы за руку, лёгка шмарганулў Вецiка на сябе, павалiў i прыцiснуў да зямлi.

— Пусцi, бычок! Выгуляўся, дзiва што. Табе б не памазок у рукi, а да станка цi на трактар.

Вецiк устаў, падагнаў мужчын:

— Ну, давайце пачынаць. А то пакуль ускiнем, пакуль дома стопчам, то i вечар будзе.

— А тут няма чаго рабiць чатыром! — махнуў рукою Лёня, дастаў з-пад куста бiклажку, прагна i доўга пiў, перадаў яе Вецiку.

Напiўшыся квасу, усе ўчатырох пайшлi да трактара.

Падаваць на прычэп стаў Лёня, вярнуў на сахары па капе. Гена таптаў, Бонусь падгрэбаў следам патрусiны, Вецiк дражнiў хлопцаў:

— Давай, давай, iнтэлiгенцыя! Тапчы чужых, каб свае баялiся!

Паклалi сена скора. I хоць, здавалася, нямала яго было, але ўтапталася ў прычэп, толькi чуць вышэй бартоў.

Калi паселi ехаць, Вецiк выглянуў з кабiны i папярэдзiў:

— Наверх не вылазь. А то нанясе якi чорт участковага.

— Давай, давай, газуй, праведнiк! — махнуў рукою Лёня.

Дома Бонусь сам палез таптаць у хлеў, Лёня i Гена падавалi.

Хоць рабiлi работу спорна, але пакуль кончылi, на дварэ зрабiлася свяжэй, сонца ўжо стала вялiкiм i чырвоным, стаяла на самым захадзе.

Мылiся на дварэ. Вецiк палiваў Лёню i Гену вадою, якая цэлы дзень стаяла ў ночвах на сонцы i стала цёплая, як луг. Гледзячы на маладых, не вытрымаў, раздзеўся да пояса i сам Бонусь, загадаў, каб палiвалi яму з вядра на спiну.

Волька, якая ставiла на стале ў верандзе вячэру,

выглянула з дзвярэй, пакруціла галавою: «Дзяціняе пад старасць. Дальбог, дзяціняе!»

Гену намазалі плечы кіслым малаком, і пасля ўсе ўчатырох, спакойна гаворачы, сядзелі на лавачцы пры плоце, курылі, чакалі, пакуль за стол.

Адвячорак на дварэ пах цеплынёю, сухім духмяным вераснёўскім сенам.

За сталом пасля чаркі развесяліліся, загаманілі.

Бонусь успомніў, што сёння ў канцавога Адама вяселле, прымусіў адзецца ў свой выхадны касцюм Веціка, і сам, ідучы пасярэдзіне, павёў сыноў на танцы.

## III

Бонусь ішоў у белай кашулі, з расшпіленым каўняром, у касцюмных, старога пакрою штанах з абшлагамі на калошах — якраз па цяперашняй модзе. Справа ішоў у сетачцы-тэнісцы Лёня, загарэлы, высокі, злева, акуратна адзеты ў касцюм, пры гальштуку, спакойны і паблажліва ўсмешлівы Гена, бытта гонар рабіў і гэтай вуліцы тым, што ішоў па ёй, і нават тым, з кім поруч ішоў. Вецік, у вялікаватых бацькавых штанах і таксама вялікаватай белай рубашцы, нібыта саромеўся сваёй несамавітасці і прыадстаў крыху, а потым і прыпыніўся, загаварыў з мужчынамі.

Музыка іграла на вяселлі непрывычная цяпер нават і ў вёсках — духавая. І яна, мяккая, шырокая, затапіла ўсё наваколле ласкавымі і журботнымі гукамі, ад якіх рабілася не толькі весела, але неяк і ўрачыста, светла на душы.

Воддаль ад натоўпу, які сабраўся вакол танцораў, стаяў мужчына ў сандалетах на босую нагу і, выцягнуўшы шыю, уважліва глядзеў на моладзь. Сандалеты старыя, добра ўсохлыя, ногі вялікія, як лыжы.

— Здароў, Міш! Здароў, кажу! — гукнуў Бонусь, але мужчына не пачуў і азірнуўся толькі тады, як Бонусь моцна ляпнуў яго па плячы. Спачатку на твары ў мужчыны прамільгнуў і боль, і раззлаванасць на Бонуся. Але калі ён угледзеў Лёню, усміхнуўся, падаў руку Бонусям:

— Га? Здаровы! Бач, сабраліся гуртам, як у лес красці!

— Нам, дзядзька Міш, красці не трэба. Мы і самі пазычыць можам.

— Дзіва што! Го! Вучоныя людзі!

Вецік падышоў пазней, моўчкі падаў Мішу руку, і той спехам паціснуў яе — Веціка ён бачыў часта, рабілі раней у адным меліярацыйным упраўленні.

Некалі рослы, жылісты мужчына, аднагодак Бонуся, Міш дачасна састарэў, усох неяк. Крыху недачуваў ён пасля фронту, таму і мянушкаю стала скарочанае ягонае імя — так хутчэй можна было паклікаць мужчыну. Меў Міш сілы на чатырох, не менш. Жыў пасля вайны ў старой бацькавай хатцы з падслепаватымі акенцамі і высокімі прызбамі, без падлогі, з невялікаю печкаю, якая муравалася на зіму пасярод хаты. Тады Віцеку здавалася, што Мішу цяжка хадзіць у сваёй хатцы, трэба згінацца. Але тым не менш у гэтую нізенькую хатку збіраліся на вечары гуляць у карты мужчыны з усяго канца вёскі. У іншых хатах замінаў такі гурт. А тут не. Можна было і курыць, і гуляць. Гаспадыня, худзенькая, бледная з твару жанчына, не злавалася і не сварылася...

Потым Міш пачаў будавацца. Хату ставіў вялікую, прасторную. Падзарабляць хадзіў да людзей — і касіць, і гліну капаць, і торф рэзаць... Хадзіў туды, дзе трэба была сіла, і не шкадаваў яе. І падарваўся на рабоце, пайшоў на курсы экскаватаршчыкаў, дабудаваўся, але, мабыць, з натугі, пачаў глухнуць і марнець.

Да таго часу павырасталі дзеці і разбрыліся па свеце, засталася пустая хата на двух старых людзей, якія жылі толькі на кухні, не стала ўжо каму збірацца на вячоркі, гуляць у карты.

— Дак, Міш, і ў цябе ж дзеці гэтакія, як мае, параслі,— падштурхнуў пад бок мужчыну Бонусь.

— Го? Музыка добра грае, не лянуецца,— ці то не дачуў Міш, ці не захацеў гаварыць пра сваіх дзяцей. Хлопец яго даўно недзе бадзяўся па вярбоўках, дачка пайшла правадніцаю на цягнікі і ўжо разоў са тры выходзіла замуж. Сына яе ад першага замужжа гадаваў Міш.

— Мо і барабана не чуеш, пень глухі! — кіўнуў на Міша галавою Бонусь.

Міш задаволена ўсміхаўся.

— Лёня, завініся дадому, бутылку вазьмі і кава-

лак які хлеба.— Бонусь падміргнуў сыну, і той зразумеў бацьку.

— Перастаньце! Вам што, рабіць няма чаго? — умяшаўся Вецік.

— Ладна. Чаго ты? — перапыніў яго Гена, які здагадваўся, што стары Бонусь нешта прыдумаў. Яму хацелася паглядзець, што будзе.

— Тваё дзела старана! Не па душы табе — адыдзі! — прыкрыкнуў на сына Бонусь, падагрэты зяцевую падтрымкаю.

Міш азірнуўся на мужчын, усміхнуўся. Ён выцягнуў худую шыю, прыслухоўваўся да музыкі і чуў, можа, і сапраўды адзін толькі барабан. І ці не ўспамінаў, як некалі на пасляваенных вечарынках, сам яшчэ ў старой, чыста вымытай гімнасцёрцы, вясёлы, падвыпіўшы, іграў на барабане, пазвоньваючы булавою па медных талерках.

Тады Міш любіў яшчэ расказваць, як ён дайшоў у Берлін і як павінен быў падымаць над рэйхстагам сцяг, калі б гэтага не ўдалося зрабіць Кантарыі і Ягораву. Невядома, праўда тое ці не, але ім, дзецям, слухаць было цікава. Яны тады прыходзілі да Міша стрыгчыся. Ён меў закручаную ў старую чырвоную хустачку трафейную машынку. Колькі хлапчукоўскіх галоў абірычыла тая машынка ў вялікіх, але цёплых мужчынскіх руках!

Праз гэтулькі гадоў забылася многае ў жыцці, а той лёгкі пах машыновага масла, тое цяпло рук не забылася, быццам было зусім нядаўна, і, можа, успомніцца, калі ўжо застанецца табе на свеце некалькі жывых дзён.

Вецік яшчэ здалёк бачыў, як вярнуўся Лёня, як упіраўся, не хацеў ісці Міш, а Бонусь адводзіў яго ўбок, узяўшы пад руку, як дапамагаў бацьку ўгаворваць чалавека Лёня, як пасміхоўваўся Гена.

Вецік паціху пайшоў дахаты, пераадзеўся, завёў трактар і паехаў дадому.

## IV

Музыканты не ленаваліся іграць, не рабілі доўгіх перакураў. Танцавала найбольш моладзь, якой многа сабралася на вяселле — папрыязджалі з горада дзеці

на выхадныя да бацькоў. А таму і заказвалі найбольш модныя цяпер танга, шэйкі, казачкі, і ўжо самі музыканты — старэйшым — пачыналі вальс ці дустэп. Да «рускага» яшчэ не дагуляліся, бо не выйшлі з хаты сваты, перавязаныя ручнікамі і добра расчырванелыя ад выпітага і ад гарачыні за сталом.

Міш таксама чакаў сватоў і чакаў «рускага». Ад выпітае гарэлкі пачынала соладка туманіцца ў галаве, лёгенька пазваньваць у маладыя званочкі. Мішу не ставала «рускага», бо цяперашніх танцаў, у якіх маладыя падскоквалі, як козлікі, ён не ведаў і не прызнаваў. Які ты хват, можна паказаць толькі танцуючы «рускага».

А таму, як толькі паказаліся сваты на вуліцы, Міш асцярожна, бы падкрадваючыся, падаўся да музыкантаў, стаў ля барабаншчыка, па-свойску ўсміхнуўся яму, падміргнуў, махнуў рукамі: адною быццам стукнуў па талерцы, а другая ўдарыла булавою. Барабаншчык, маленькі, худы, ужо ў гадах мужчына, зразумеў, што ад яго хочуць, нават ахвотна ўстаў, зняў з пальца сырамятную почапку, падаў талерку і булаву.

Міш, пахіснуўшыся, сеў за барабан, спачатку ўдарыў крыху не ў такт, а потым нахіліў галаў, прыслухоўваючыся, пачаў барабаніць у лад, калі і не чуў, як іграе барабан, то па руках сваіх адчуваў, што ўдарае не надта моцна і не ціха. І як наладзіўся барабаніць, ужо не надта прыслухоўваўся, больш цікаваў сватоў.

Але тыя не спяшаліся. Спачатку курылі, нешта моцна і весела гаворачы з гэтакімі ж самымі чырвонымі ад гарачыні вясельнымі жанкамі. І толькі пасля таго як Міш збарабаніў яшчэ вальса, на круг выйшаў малады мужчына, доўгавалосы, у штанах з расклёшнымі калошамі, п'янавата папрасіў — «рускага!» — няўпэўнена прайшоў па крузе, спыніўся перад сватамі, прытупнуў нагою, раз, другі, развёў рукамі, запрашаючы ў круг. Першаю на яго запрашэнне азвалася тоўстая, як печ, баба, пайшла ўкруга хлопца, нечакана лёгка, зграбна перабіраючы нагамі, як падмеценая.

От з ёю Міш і мог станцаваць, як гэта танцавалі некалі, у яго маладасць. І каб гэта было яшчэ зухавацей, Міш прыгнуўся, перакінуў на плечы рэмень барабана і з ім, зыбнуўшыся з першага кроку, ірвануў у круг, ужо забыўшыся пра ўсё. Стараючыся, каб прыгажэй выхо-

дзіла, ён сіліўся выступваць нагамі, але яны, і старыя ўжо, і п'янаватыя, не слухалі і смешна тупацелі, стараючыся ўтрымаць гаспадара, каб той не ўпаў.

Але Мішу здавалася, што ён плыве, ляціць па крузе, як вецер. Ён ужо не чуў, што там і як там іграла музыка, лупіў па барабане, усміхаўся і шчасліва на ўсе грудзі вухкаў ад асалоды, як балотны бык.

І сваха, і той малады хлопец, што пачаў танец, шарахнуліся з круга — далей ад барабана і ад булавы, якая шпарыла па ім. Але Міш не заўважаў гэтага, яму здавалася, што ўсе пайшлі танцаваць. Ён бачыў вакол сябе, як варушыліся, смяяліся людскія твары — усе танцавалі разам з ім...

— Давай, Міш, давай! — крыкнуў Бонусь, выціраючы слёзы, якія выступілі на вачах ад смеху, пераможна кіўнуў вокам на Лёню, які гнуўся, таксама задыхаючыся ад смеху, на Гену, які забыўся пра сваю флегматычнасць, і ціха прыгаворваў: «Ну дае! Ну дае!»

Было нешта і жаласлівае, і бездапаможнае, і смешнае ў гэтым стараватым ужо чалавеку з вялізным барабанам перад сабою. Смешна, як блытаюцца, падымаючы пыл, нязграбныя ногі, як ён зыбаецца то ўбок, то назад, то ўперад, гатовы вось-вось кульнуцца цераз барабан.

— Гу-ух! Гу-ух! — задаволена гухкаў Міш, і каб яшчэ лепш і цікавей здаваўся танец, зароў на ўвесь голас свае самыя заліхвацкія прыпеўкі, прынесеныя з-за свету, з ваенных дарог.

Ой сарокі, ой вароны,
Чорна пер'е на хвасце,
Не чапайце, хлопцы, дзевак...

Міш крычаў на ўвесь голас, сп'яна заўважыў, як ажывіўся, зарагатаў натоўп.

Я па садзіку ішоў,
Кірпічы да кірпічы....

Бонусь бачыў, як аж прысеў ад смеху Гена, як ляпнуў па сцегняках Лёня.

Ён радаваўся, што гэтак пацешыў дзяцей.

Натоўп рагатаў, рагаталі музыканты, якія перасталі іграць: без музыкі і сам танцор, і ягонае бухканне ў

барабан здавалася яшчэ смяшнейшым, пакуль прыездрыз хлопец у белай рубашцы з закасанымі рукавамі, маленькі, хударлявы, але жылісты і крываногі, як клешч, мабыць, дабравата выпіўшы, у гэтых прыпеўках убачыў вялікую зняславу вяселлю, выйшаў у круг, выхапіў з рукі ў Міша булаву, паклаў руку яму на плячо. Міш спыніўся, няўпэўнена пахістваючыся, і, можа, каб не трымаў яго хлопец за плячо, то і не астоеўся б на нагах. У Міша ў запасе было яшчэ многа такіх прыпевак, якія ўпадабаліся людзям, і ніхто не мог перашкодзіць спяваць іх.

— Пайшоў!..— Міш лёгка махнуў рукою і некуды далёка ўбок адмёў гэтага настырнага хлапчука, які замінаў яму. Але гэта толькі здалося яму. Хлопец нікуды не адляцеў, хоць і трапіў яму Міш пад нос. Міш сам пахіснуўся, ледзьве астоеўся на нагах, а хлопец, пакрыўджаны, што за яго добрыя намеры, за яго добрае абыходжанне б'юць па мордзе, па-петушынаму спрытна, аж нават падскочыўшы, стукнуў Міша кулаком па твары, цэлячыся ў сківіцу, але папаў недзе вышэй, у шчаку, пад вока.

Міш лёгка, як гумавы, пахіснуўся, але ўпаў уперад, потырч цераз барабан, кульнуўся цераз яго. Войкнулі бабы, моладзь зарагатала, бо вельмі ж смешна дрыгнуў Міш, падаючы, нагамі.

Адразу ж нехта з вясковых падбег і адцягнуў убок хлопца. Да Міша кінуўся барабаншчык, спужаны за свой інструмент. Нехта з суседзяў падымаў і дзяржаў Міша, які роў дзікім голасам.

— Дай кол! Усіх паб'ю!

Але яго тым часам выбавілі з круга. Каб замяць здарэнне, музыканты прылажыліся да труб, і за музыкаю слаба было чуваць, як плакала і ўпрошвала Міша жонка, якой, мабыць, наказалі і якая прыбегла, як роў яшчэ Міш, але ўжо не так рашуча, больш працяжна.

Аднекуль з натоўпу паказаўся той самы клешчаногі хлопец, ужо спакойны, усмешлівы і падаў музыканту булаву.

## V

Пасля снедання, пасля чаркі Бонусь з сынам і з зяцем сядзелі на лавачцы пры плоце на двары, курылі. Чакалі, пакуль Лёнеў аўтобус — да яго Гена меўся падвезці Лёню.

— А Вецік учора невядома калі і знік.

— Вецік хоць і сын мой, але нейкі, як баба! — махнуў рукою Бонусь.— О, Міш, ідзі сюды! Пахмелімся!

Міш быў у сваім учарашнім картовым касцюме, у тых жа самых сандалетах на босую нагу, у руцэ сцябліна, якою ён памахваў на качак, што чарадою, незадаволена пакракваючы, тупацелі паперадзе, за другую руку трымаўся ўнук.

Міш, мабыць, пачуў сваё імя, спыніўся, агледзеўся і ўбачыў Бонуся на двары.

— Пахмяліся ідзі, кажу табе! — падмігнуўшы, запрасіў Бонусь, які добра ведаў, што пасля выпіўкі Міш не тое што пахмяляцца, а і есці дзён са тры не бярэ.

Міш зразумеў, неяк уважліва, нібыта хацеў прыгледзецца і распазнаць, глядзеў на Бонусяў. І на замучаным, шэрым яго твары, дзе пад вокам і здалёку відзён быў чарняк, адбілася пакутлівае неразуменне. Як бывае ў чалавека, калі ён глядзіць на даўно знаёмае, добра вядомае — і не можа пазнаць ці зразумець яго. І гэтакае ж дарослае сур'ёзнае неразуменне з'явілася і на дзіцячым, занадта бледнаватым улетку, тварыку.

Міш нічога не адказаў, толькі паківаў галавою, неяк горка і дакорліва, і цяжка, старэчым крокам пайшоў следам за качынаю чарадою. Унук яшчэ раз азірнуўся на Бонусяў — быццам хацеў пра нешта запытацца...

Бонусь толькі крактануў, Лёня зірнуў на гадзіннік, і хоць было яшчэ ранавата, сказаў:

— Трэба збірацца.

Гена флегматычна ўсміхнуўся, нібы нічога не заўважыў і нічога яго не датычыла ці няварта было ягонае ўвагі. Але ўсе ўтрох скоранька, як і сапраўды трэба было спяшаць, усталі з лаўкі.

*1975*

# СІНІЯ НЕЗЯМНЫЯ АГНІ...

## I

Дзяжурная машына прывезла яфрэйтара Валожына на паўстанак за сем хвілін да прыходу цягніка. Чакалі, седзячы ў кабіне, і як толькі паказаліся далёкія агні лакаматыва, Валожын вылез з кабіны. Памочнік дзяжурнага па часці, лейтэнант-артылерыст, худы і рослы, які бытта саромеўся свайго росту і таму сутуліўся, паднёс чамаданы да вагона.

— Жадаю, таварыш яфрэйтар, шчаслівага адпачынку! Думаю, што вы ўсюды не зганьбіце гонар савецкага салдата.

Валожын стаяў навыцяжку перад лейтэнантам. Абодвум было няёмка і хацелася, каб хутчэй усё скончылася: лейтэнант не ведаў Валожына, яму не надта хацелася сярод ночы трэсціся на машыне за восем кіламетраў, але ён павінен быў, бо не мог выправіць дзяжурную машыну з адным шафёрам.

Лэйтэнант казырнуў, падаў на развітанне руку і, як толькі Валожын ступіў на прыступку вагона, заспяшаўся назад да бартавога «ЗІЛа», які холадна пабліскваў у водсветах прыстанцыйных ліхтароў выпуклым лабавым шклом.

Валожын падаў правадніцы білет, глядзеў ўслед лейтэнанту, які, пераступаючы лужыны, падышоў да машыны, хуценька ўлез у кабіну. Машына, не зачыніліся яшчэ за лейтэнантам дзверцы, пыхнула белым дымам і параю ад выхлапное трубы, крута завярнулася і паплыла ў мокрую начную цемру зыркімі чырвонымі стоп-сігналамі.

Марусіўся дробны, як снегавы пыл, дожджык. Ад яго мокра блішчала бетонная платформа, дах станцыйнага будынка.

— Вазьмі білет, салдат! Што глядзіш, мо вярнуцца хочаш ці не верыш, што едзеш! — правадніца паклала руку на плячо салдата, блізка і смела паглядзела яму ў вочы. Яна, у шэрым форменным касцюмчыку, у бе-

лай рубашцы, пры гальштуку, у берэце, выдавала не старэйшаю за Валожына. Валожын заўважыў яе драбнаваты кірпаносы твар, усмешку, ні то гарэзна-смелую, ні то весела-зласнаватую, як у чалавека, які нешта задумаў сваё і не хоча зважаць на староннім, на тое, што скажуць яны ці падумаюць.

Валожын не прыдумаў, што адказаць, адчуў, што пачырванеў.

Цягнік скалануўся, паплыў наперад, набіраючы разгон. Праваднiца, трымаючыся рукамі за поручні, падалася наперад, і ў сінім, незямным святле ліхтара на стрэлцы постаць яе здалася лёгкаю, гатоваю ўзляцець у цемру.

Валожын пераступіў з нагі на нагу. Невядома, што трымала яго ў тамбуры. Праваднiца глядзела назад, на станцыю, нібыта панікула там нешта.

У купэ, дзе было месца Валожына, на ніжнім палку спала маладзенькая жанчына ў спартыўным касцюме, а на суседняй — чорнавалосы, кучаравы хлопчык з гэтакім жа светлым і далікатным, як у маці, тварам і з гэтакаю ж самаю пяшчотнаю і кволаю ўсмешкаю.

Пры дзяжурным асвятленні, ціха, каб не пабудзіць маці і дзіця, Валожын паклаў на багажны палок чамадан, зняў і павесіў на плечыкі мундзір, пачарнелую ад вільгаці фуражку, выключыў святло і выйшаў у калідор.

Начная язда на машыне перабіла сон. А можа, не хацелася спаць і таму, што цяпер толькі паверылася — едзе ён, салдат, у адпачынак, і ў чамадане, разам з фатаграфіямі сяброў, ляжыць і фатаграфія, дзе ён зняты ля сцяга часці... Ехаў на пабыўку салдат, якому было чым і пахваліцца, і паганарыцца, якога чакала нявеста.

— Не спіцца, салдат? — праваднiца ўсміхнулася, нібыта яна ведала, што яму будзе не спацца.— Чаго не адважваешся, не заходзіш у госці? Адна я не сплю. Усе спяць. Скора чатыры гадзіны ночы. Ці ты баішся, салдат?

— А чаго баяцца такое вясёлае? — Валожын заззлаваў, што перабіла ягоную адзіноту і ўспаміны, што папракала яго ў нясмеласці.

Валожын узяў дзяўчыну за руку вышэй локця, яна

адкінула галаў, знізу ўверх зірнула на Валожына, адчыніла дзверы службовага купэ.

— Сядай, салдат.

Купэ было цеснае, з акуратна засланаю сіняй коўдраю пасцеллю, і ён нясмела сеў на яе да століка.

Правадніца зачыніла за сабою дзверы, зняла пінжачок і берэтку, папраўіла рукою коратка пастрыжаныя валасы. Яна была маладзенькая, кволая, тварык у рабацінкі.

— Ліда мяне завуць, салдат.

— Валодзя.

Валожын устаў, нахіліў галаву.

Дзяўчына крыху збянтэжылася, уважліва глянула на яго і зноў бадзёра запыталася:

— Чым частаваць цябе, салдат? Ты ж чай толькі п'еш? А каб што другое, то не заслужыў бы пабыўкі.

Ліда ўсміхнулася, ўзяла дзве шклянкі, адчыніла дзверы, наліла кіпню, потым з белай фарфоравай заварніцы даліла заваркі, паставіла на стол чай, на талерачцы цукар у папяровай загортцы. Яшчэ на адной талерачцы падала бутэрброды з сырам.

Валожын глядзеў на дзяўчыну і не ведаў, навошта ўсё гэта, прынамсі, яму. Валожын раптам уявіў, што Аксана ўбачыла б яго тут, у гэтым службовым купэ, у чатыры гадзіны ночы, калі ўвесь цягнік спіць. Параўнаў Аксану з гэтаю рабенькаю, худзенькаю зеленавокаю дзяўчынаю — рослая, чарнявая, з белаю ўсмешкаю роўных зубоў і далікатным тварам, яна здавалася кінаакторкаю ў параўнанні з гэтаю маленькаю Лідаю ў яе цесным купэ.

Ліда, усё гэтак жа сама сабе ўсміхаючыся, паставіла на столік дзве шклянкі, узяла са шкафчыка і наліла ў іх чагосьці гэтакага ж густога, як чай, толькі не чаю, сабе на дно, [redacted] яму амаль паўшклянкі, не прыняла бутэльку, адсунула ўбок на століку шклянку з вадою, у якой стаялі нядаўна зламаныя свежыя галінкі, ад якіх ішоў востры хваёвы водар.

— За тваё шчасце, салдат!

— І за тваю дарогу.

Валожын бачыў, як дзяўчына бадзёра ўзяла чарку, але толькі памачыла вусны, паставіла яе на стол, чака-

ла, пакуль вып'е ён. Валожын піў да канца і злаваўся на самога сябе — яму трэба было адразу ўстаць і пайсці... Не ўвязвацца ў гэтае знаёмства. Ён успомніў пра чутыя прыгоды з праведніцамі.

— Надоўга дадому, Валодзечка?

— На дзесяць сутак. Без дарогі.

— Надоўга.

Дзяўчына села побач з ім, блізка, што ён памкнуўся было адсунуцца, але не пасмеў.

— Цяжка не быць доўга дома, праўда? Ты адкуль?

— Беларус.

— А я з-пад Растова. Пакуль езджу, гэтак па доме зануджуся! А прыеду, пабуду — і зноў вядзе ў дарогу...

Дзяўчына крыху зачырванелася ад выпітага, непрыкметна стала рабацінне. Яна задумёна глядзела ў цёмнае акно. Пастуквалі колы на стыках, пакалыхваўся вагон, і здавалася, што няма і не будзе канца ночы, будзе толькі гэтае, лёгкі імклівы палёт наперад. І Валожыну здалося, што ён толькі зразумеў Лідзін сум.

— Валодзька, а ў цябе прыгожая дзяўчына, праўда? У такіх хлопцаў заўсёды прыгожыя, доўгавалосыя, даўганогія дзяўчыны, як русалкі...

— Ну...— Валожын збянтэжыўся.

— Ты шчаслівы, што любіш яе... А то не заслужыў бы пабыўку. Ты хацеў угледзець яе. Як я зайздрошчу табе і ёй!

Валожын збянтэжана нічога не адказаў. Ён не мог тут, з гэтаю дзяўчынаю, вось гэтак вольна пачынаць гаворку пра Аксану. Яму непрыемна было гэта.

— У мяне быў хлопец. Гэтакі, як ты, і рослы, і харошы. Маленькая, рабенькая я побач з ім. Каб пальцам варухнуў, не тое што на край свету, пайшла б у агонь за ім. Ён ведаў гэта. У вочы гаварыў, што надаела я яму, па тыдню не паказваўся, а потым званіў — і ведаў, што я, як шчанятка, пабягу на спатканне.

Вочы дзяўчыны засвяціліся глыбокім ціхім святлом, усмешка легла на твар. Толькі глыбока абазначыліся маршчыны, што збягалі да куточкаў губ. Нешта наіўнае і светлае ў яе абліччы. Толькі гэтая па-старэчаму сумнавата-горкая ўсмешка. І гэтая вольнасць, аж з нейкім выклікам і ў кожным руху, і ў гаворцы.

— Ох, салдацік, як я яго любіла! Каб ты толькі такое ведаў! І верыла, галоўнае, што я люблю яго...

— А потым?

Дзяўчына толькі зірнула на Валожына, памаўчала, спакойна адказала:

— Потым проста. Аднойчы два тыдні ён не хацеў і бачыць мяне. А пасля пазваніў ноччу, што хворы, што нават вады няма каму падаць. Аўтобусы не хадзілі ўжо. Ноч. Дождж лье. А я бегла. Прыбягаю. Свечкі ў кватэры гараць. Магнітафон ці прайгравальнік іграе. Дзве пані, даўганогія і доўгавалосыя, гэтакія як твая,— кароткі позірк на Валожына,— на канапе сядзяць, ленавата пасміхаюцца. Бог мой сядзіць за сталом у беленькай вадалазцы, прыгожы. Смяецца. І два сябрукі смяюцца. Ён паспорыў з імі, за колькі я прыбягу... Стаю я, лужына вады з мяне нацякла. І не разумею, якая ў яго хвароба. Адзін ■ яго сяброў смяяцца перастаў, да мяне падышоў. Прапаноўваў выпіць, каб сагрэлася, каб не прастудзілася. Тады і ўсе смяяцца перасталі, і паненкі быццам засароміліся. Не памятаю, як там і што было, не гэта самае важнае. Самае важнае, што стаю я тады і быццам не стаю, а некуды падаю, і таму гэтак на душы пуста і лёгка зрабілася. І не ведаю, чаму гэтак раптам. Лёгка і пуста...

Кінула я вучобу. Паехала правадніцаю. У дарозе па доме сумую, а прыеду — сядзець не магу на месцы. Ведаю, што ёсць на свеце гэтае каханне, якім я кахала. І ўсё быццам насустрач яму еду і вось-вось сустрэну...

Дзяўчына махнула рукою, ва ўпор глянула на Валожына.

— А што з хлопцам?

— Нічога. Ён пасля да мяне і сяброў прыводзіў, і нават тых дзяўчат, каб пацвердзілі, што ў яго з імі нічога не было, што дарэмна я прыраўнавала. А я і не раўнавала. Пуста да яго ў душы стала. Ён і замуж прапаноўваў, каб за яго ішла. Мабыць, і жылі б мы добра. Але на душы ў мяне і злосці нават на яго не стала. Пасля ён і запіў быў, а потым ажаніўся, інстытут кончыў. Жыве. Бачыла я яго. Нейкі як злінялы ўвесь чалавек. Шкода мне яго... Ты пі чай, Валодзя, а то астыне. І перадай прывітанне сваёй дзяўчыне. Зайздрошчу я ёй...

Дзяўчына памкнулася ўстаць. Валожын працяг-

нуў руку, каб прытрымаць яе. Невядома чаму захацелася, каб пасядзела, каб яшчэ што-небудзь гаварыла. Можа, гэта ад выпітага, ад утульнасці ў службовым купэ і што быццам даўно ведае гэтую дзяўчыну.

Але праваднiца ўпэўнена і зграбна адхілілася і ўсхапілася на ногі, зірнула на Валожына тым знаёмым яму адкрытым і халаднаватым позіркам чалавека, які ўсё ведае. Ад гэтага позірку Валожын адчуў сябе пасажырам, які не можа прамінуць, каб не рабіць ухажорскіх заходаў да маладзенькае праваднiцы.

— Што вы, Ліда!.. Я не...

Валожын збянтэжыўся: адкуль яна ўзяла, што ён мае намер чапіцца да яе?

— Спакойнае ночы, салдат!— Ліда ўсміхнулася, зняла з вешалкі пінжачок і берэтку, прыпынілася ў дзвярах.

Валожын чуў, як дзяўчына адамкнула суседняе купэ, нешта гаварыла са сваёю напарніцаю, потым у тым купэ нехта засмяяўся.

Валожын выскачыў з купэ, дабраўся да свайго і, не ўключаючы святла, разуўся, узлез на верхні палок, раздзеўся і лёг.

Што яму да гэтае праваднiцы? Заўтра выйдзе з вагона і ніколі больш не сустрэне яе. Прыдумала, што гэтак упадабалася яму — аж гатовы кінуцца да яе быў. І чамусьці і прыкра адчуваў сябе Валожын, і хацелася даказаць дзяўчыне, што памылілася яна, што не такі ён... І ведаў, што нічога не дакажа і даказваць не будзе калі...

Ён, мабыць, і задрамаў крыху, бо здалося, што ў баявой машыне. Адчуў пад пальцамі ёмкую рабрыстасць штурвала, мокры картовы пах камбінезона, разагрэты дух ад матора. Нават цеснату адчуў пад бранёю зачыненага люка. Бачыў шэрую, парэзаную тракамі трасу праз апырсканыя гразёю трыплексы, адчуў, як упарта набірае хуткасць машына, нібыта матор сам па сабе перайшоў на самы высокі рэжым абаротаў і нельга скінуць іх, хоць наперадзе пачыналіся глыбокія калдобіны, на якіх можна пабіць тарсіёны. Але і нейкая асалода была ў гэтай імклівасці — аж замірала сэрца, калі машына, здавалася, ляціць над зямлёю, адно пагрукв ае і пакалыхваецца, зямля застаецца ўсё ніжэй і ніжэй...

Валожын прачнуўся, глядзеў у столь вагона, адчуваў, што ўсё яшчэ ляціць, адрываецца ад зямлі, сціскаючы рабрыстыя ручкі штурвала.

Пакрысе думкі вярталіся да рэальнасці. І не вада шумела пад гусеніцамі ў калюжынах, а вецер шастаў за сценкамі вагона, і не гусеніцы дакраналіся да зямлі, то пагруквалі на стыках колы, і не мокрым камбінезонам пахла — свежаю прасцінаю і казённаю вагоннаю ўтульнасцю.

Паволі супакойвалася сэрца. Цяпер Валожыну здавалася, што ён і сапраўды, калі гнаў машыну, думаў пра Аксану, з-за яе заслужыў адпачынак. І ўспомніў, што гэта прыдумала праваднiца. Успомніў пра яе прывітанне Аксане.

Валожын падумаў, што прывітанне ён ніколі не перадасць і не раскажа Аксане, як ехаў у купэ з праваднiцаю. Ён і ўявіць не мог, як гэта можна расказаць.

Валожын злосна завярнуўся да сценкі — трэба паспаць яшчэ хоць якую часіну! Сам сабе ўсяночную ўтварыў! І чортведама з-за чаго!

Заснуў Валожын трывожным і неспакойным сном.

Раніцаю, калі выходзіў, каб перасесці ў другі цягнік, у тамбуры стаяла другая праваднiца, пажылая жанчына.

Валожын коратка кінуў ёй на развітанне «ўсяго добрага», выйшаў на перон, спыніўся, закурыў. Чамусьці хацелася ўгледзець Ліду. Ён яшчэ азірнуўся на вагон.

Пажылая праваднiца зябка ссутулілася і раўнадушна глядзела на салдата.

Валожын падхапіў чамадан і пашыбаваў да вакзала.

## II

Той, хто служыў і каму было шчасце прыехаць у адпачынак дадому, ведае, якія гэта кароткія, шумныя, шчаслівыя дні сустрэч з сябрамі, знаёмымі, сваякамі, са сваім горадам, па якому засумаваў і бачыць які — радасць. І вядома, расказы, без якіх нельга салдату, пра розныя выпадкі і здарэнні на службе, калі пад вясёлую чарку тое-сёе прыпісваецца і сабе, хоць здарала-

ся з іншымі. Старэйшыя, хто прайшоў салдацкую школу, пасмейваліся, але не перашкаджалі Валожыну «заліваць», жанчыны аж вохкалі ад перажытага Валожыным страху, маладзейшыя раты адкрывалі ад захаплення, дзяўчаткі папіскваді ад захаплення...

Калі ў Аксаны не было пасля абеду заняткаў, Валожын хадзіў з ёю ў кіно, у рэстаран, да паўночы прастойваў з ёю на лесвічнай пляцоўцы — пазней дванаццаці Аксана ніколі не затрымлівалася...

Адным словам, Валожын жыў шчасліва, бо яго ўсе любілі, усе шанавалі, у яго ёсць дзяўчына, якая чакае з войска. І хоць не плача, як тая з песні, але ўпэўнена чакае... Пра Ліду Валожын і не ўспамінаў. Але ў чалавечым жыцці нельга, каб было адно толькі шчасце. І заўсёды яно канчаецца раптоўна. Гэтак і ў Валожына — аказалася, што ў яго засталіся толькі суткі. Дзень на зборы, ноч адпачыць перад дарогаю. І гэты апошні дзень раптам здоўжыўся, бо колькі тых збораў у салдата. Пасля абеду аказалася раптам многа часу, і не было дзе дзецца, цяжка ад адзіноты, і не хацелася вялікае, шумнае і бязладнае кампаніі.

Валожын спачатку тупаў з пакоя ў пакой, не мог прыдумаць, за што зашчаміць рукі, круціў на прайгравальніку модныя пласцінкі, па якіх засумаваў у войску і якія ўспелі надакучыць за адпачынак, узяўся рамантаваць бацькаву электрабрытву, потым не вытрываў, пазваніў Аксане. Здавалася, што сама лепш — гэта пабыць удваіх, пахадзіць па мокрым, вяснова-вільготным, непрыхарошаным, а таму нейкім сумнаватым, прыцішаным парку. Валожын нібыта ўсім целам адчуў густую, як вада, вільготнасць, пах мокрага, набрынялага вільгаццю галля і кары, і яму, як жывое вады, захацелася пайсці ў парк.

Аксана сама ўзяла тэлефонную трубку.

— Аксана, прыязджай да мяне, і пойдзем у парк,— жартаўліва скамандаваў Валожын пасля прывітання.

— Гэта новыя правілы? Цяпер ужо паненкі павінны ехаць да кавалераў?

— А сёння такі дзень, што ўсё павінна наадварот рабіцца.

— Усё можа рабіцца наадварот. Але ехаць павінен да мяне ты. Не маленькі, павінен усё разумець.—

Аксана адказвала Валожыну сур'ёзна.— І я табе гаварыла, што ў мяне пасля абеду сёння калёк...

— Ну чорт з ім, з тым калёквіумам! Плюнь на яго, на ўсё, што павінна быць і як павінна быць, прыязджай да мяне, мы пойдзем у парк, будзем там адны, самыя першыя...

— А каго ж яшчэ панясе ў гэты парк?

— Значыць, я еду па цябе і мы пойдзем у парк?

— Перастань дзяцініцца. Ты думаеш, як у цябе адпачынак і свята, то і ўсе павінны святкаваць разам з табою? Ты мяне сустрэнеш сёння пасля заняткаў, як мы ўчора згаварыліся. Мне ж яшчэ паўтарыць трэба, Валодзька. Я так баюся гэтае хіміі.— Валожыну здалося: яна нейкім чынам адчула, што нешта крыўдліва варухнулася ў ягонай душы, а таму перайшла на гэту ласкавую пакорлівую гаворку.— Чуеш, Валодзька, як згаварыліся!

— Як згаварыліся.

— Ты не крыўдуй. Сам знаеш, як здаваць экзамены...

— Знаю, знаю. Я прыйду, сустрэну цябе.

— Цалую. Да вечара.

Валожын паклаў трубку. Ён ведаў, што ў Аксаны калёквіум, ведаў, што няма ёй чаго ісці ў парк, што ён павінен, як і кожнага дня, прыйсці і сустрэць яе ля інстытута, які павінен быў заслужыць адпачынак і прыехаць, каб угледзець яе.

Валожын пастаяў, паглядзеў на тэлефон, быццам ён вось-вось павінен быў абазвацца званком і сказаць Аксаніным голасам, што яны зараз сустрэнуцца, што прападай пропадам той калёквіум...

Тэлефон не абазваўся. Валожын патупаў яшчэ па хаце, адзеўся ў цывільнае і пайшоў у парк. Там сапраўды было пуста, халадна, няўтульна аднаму, і Валожын вярнуўся назад на гарадскія вуліцы. Ён шкадаваў, што білет узяў на заўтра на раніцу, трэба было браць на сёння, пасля абеду, і што ніколі не варта пры развітанні цягнуць да самае апошняе хвіліны, трэба ўмець сабрацца хутка і нечакана, сесці і паехаць, каб не выходзіла доўгага развітання.

Адвячоркам вярнулася маці, прыйшоў бацька са сваім сябрам, дзядзькам Іванам, маленькага росту, кульгавым, зайшоў аднакласнік Міша, слесаруга, як

называў ён сам сябе, мажны, з жывоцікам хлопец і доўгімі валасамі.

Валожын піў мала, коратка і стрымана расказваў дзядзьку Івану пра сучаснае войска, пра тэхніку і ўзбраенне, не прыхлушваючы і не хвалячыся. Маці падавала на стол, уважліва прыглядалася да сына сумнымі вачыма, і Валожын цяпер ужо канчаткова ўпэўніўся, што не трэба было яму адкладваць ад'езд.

Валожын устаў, выйшаў на кухню, закурыў. І Міша, і бацька, і дзядзька Іван падпілі і разгаварыліся пра свае, завадскія праблемы-радасці, забыліся пра Валожына, які ўжо быў неяк прывычны ім, не самым галоўным героем за сталом.

— Ты курыць пачаў, сынок? — запыталася маці.

Валожын збянтэжыўся: да войска ён не курыў, ды і на службе браў цыгарэту зрэдку, дзеля форсу толькі. Гэтыя дні, пакуль гасціў дома, маці хоць і бачыла яго з цыгарэтаю, нічога не гаварыла, не пыталася.

— Не, так...

— Не прывыкай да гэтае халеры... А дзе ж Аксана? Ты казаў, яна прыйдзе?

— У яе калёквіум. У восем я пайду сустрэну яе.

— Хіба гэтак. Бачыш, каб ты тады паступіў...

Маці не дагаварыла, стрымалася. Яна хацела, каб ён паступіў у інстытут, і Аксану, якую ведала яшчэ школьніцаю, любіла і за тое, што яна выдатніца і што цяпер студэнтка, што сур'ёзная дзяўчына.

— Ты ж глядзі, не выпівай многа, каб, як прыйдзе Аксана, можна пасядзець было, пагаварыць. А то гэты Мішка як бочка вып'е, бач які здаровы.

На кухні ў маці стаяла прыгатаваная страва — абнавіць стол, як прыйдзе нявестка. Валожын хацеў пажартаваць з гэтага, але стрымаўся.

У гаворку мужчын Валожын не ўмешваўся, сабраўся і паволі пайшоў да Аксанінага інстытута.

Вечар лёг па-вясноваму вільготны. Сіняе густое сейва плыло ў блакітным святле вулічных ліхтароў, мокра, чорна блішчаў вільготны асфальт, але гэта была не тая восеньская мёртвая і халодная вільготнасць. Нешта маладое, свежае адчувалася і ў паветры, і ў гэтай вільготнай мройнасці, якая вісела над зямлёю.

Да інстытута Валожын пайшоў пеша, Аксану ён убачыў здалёку. Яна паходжвала туды-сюды, зябка

сутулілася, нібыта ўся хацела схавацца ад вечаровае вільгаці ў пухнаты белы каўнер. У павольнай хадзе яе, у нейкай задуменнасці і адрынутасці ад усяго свету было нешта самотнае, блізкае і мілае. Валожын прыпыніўся, здалёку любаваўся Аксанаю.

— Ой, госпадзі, я змерзла саўсім! Не мог ты раней прыйсці. Я знарок першая... Адпрасілася.

Валожын нічога не адказаў, ён разумеў, чаму яна злуецца.

Ён пацалаваў Аксану, пяшчотна, доўгім пацалункам, і яна сцішылася. Яму хацелася зрабіць нешта незвычайна прыемнае ёй.

— Ну пайшлі, Валодзя.

Аксана зірнула на гадзіннік.

— Да дванаццаці яшчэ далёка,— засмяяўся Валожын. Яму сапраўды зрабілася весела.

— Слухай, Аксана, давай зойдзем дзе ў кафэ ці ў рэстаран. Будзем сядзець, танцаваць, пакурваць...

— Я не куру. І не адзета, каб у рэстаран ісці. Ды і ў цябе не лішне грошай.

— На вечар у рэстаране хопіць.

— А другое, там твае чакаюць, што мы прыйдзем у госці.

— Я пазваню маме...

— Што ты думаеш, я без цябе пайду да твае маці ў госці? Раз сабраліся і дагаварыліся, то трэба ісці.

Валожын хацеў даказаць, што нічога страшнага не будзе, як і не пойдуць, што сама лепш цяпер пабыць ім удваіх, але глянуў на ўпэўнены, спакойна-чарнабровы прыгожы Аксанін твар і зразумеў, што нічога не трэба даказваць.

Калі яны прыйшлі да Валожына, у кватэры не было ні дзядзькі Івана, ні Мішкі. Нават пакой праветрылі ад цыгарэтнага дыму, бацька пераадзеўся ў выхадны касцюм.

Маці сустрэла іх у прыхожай. Аксана пацалавала яе.

Валожын збоку пазіраў і на маці, і на бацьку, дзівіўся, як хутка маці сумела выправіць дзядзьку Івана і Мішку.

— Садзіся, Аксана, сюды. Садзіся, тут лепш. На, сурвэтку вазьмі, пакладзі сабе... Ці мала што. Гэтакі касцюм харошы, спорціць можаш...

Бацька ўсмешліва пакашліваў, пазіраючы то на жонку, то на сына. Валожын улавіў бацькаў позірк і таксама падміргнуў яму. Маці, нібыта адчула, гэта, сур'ёзна і строга глянула на мужа: яна ведала, што стары пад чаркаю вельмі востры на язык, і цяпер папярэджвала, каб не ўздумаў свае жарцікі распускаць.

Першая падняла бакал маці:

— Ну, за ўсё добрае! Каб вы, дзеці, здаровыя былі, каб вайны не было, каб Валодзя скора дадому вярнуўся. Каб шчасце было!

Аксана адпіла сухога віна, акуратна, прыгожа ела. Маці села побач з ёю, гатовая ў любое імгненне падаць тое, што захочацца Аксане. І, можа, побач з маладою, чуць заружавелаю з твару, прыгожаю дзяўчынаю старою падалася яна, ці гэта раней не заўважыў Валожын? І нешта жаласлівае было ў гэтай яе шчырай стараннасці дагадзіць Аксане.

— Давай, маці, ты і сама вячэрай,— крыху грубавата-жартаўліва прыкрыкнуў на маці бацька.

— Пад'ем, пад'ем. Я і не веру неяк цяпер, што гэта Валодзя прыязджаў у госці. Як адзін дзень гэты яго водпуск.

— Чаму, у арміі, як хто захоча, то даб'ецца, каб прыехаць. Гэтак як у нас: хто захоча вучыцца і павышаную стыпендыю палучаць, той здасць экзамены,— Аксана выцерла папяроваю сурвэткаю вусны.

— Таго, хто чэсна работу робіць, усюды любяць,— згадзіўся з Аксанаю бацька.

Валожын кіўнуў галавою — гэта праўда, што добрыя салдаты трапляюць у адпачынак. Але тады на трасе ён думаў не пра адпачынак, а пра тое, што ад яго адзнакі залежала адзнака падраздзялення.

— Колькі табе служыць засталося. Ужэ і без водпуска даслужыш. Лепш от кніжкі чытай, каб экзамены здаў да ў інстытут паступіў,— умяшалася маці.

— Я не забыла, Валодзя, я табе прышлю новы даведнік па фізіцы,— падтрымала мацеру Аксана.

Гаворку далей з Аксанаю вяла маці.

Валожын не лез з успамінамі. Потым пілі каву, глядзелі тэлевізар, і яму трэба было праводзіць Аксану, бо яна павінна ўспець дадому да дванаццаці гадзін. Усё проста, звычайна, як часам гавораць, па-сямейнаму. І маці Валожына радавалася сыну, Аксане.

Толькі пад канец гаворкі, калі маці расказала ўсё сваё, Валожын, не думаючы нават, пачаў:

— Ехаў я ў вагоне дадому... Праваднiца мне расказвала...

Ён раптам успомніў усё, як учора было, нават пах пачуў хвойнае галінкі. І здалося, што гэта праваднiца расказвае пра ўсё, што зараз робіцца за сталом, а не сам Валожын бачыць гэта і чуе...

— Што яна расказвала? — запыталася Аксана.

— А глупства...— Валожын спахапіўся, што нічога ён не зможа расказаць.

На развітанне Аксана пацалавала маці, і яна стаяла ў дзвярах, пакуль маладыя сыходзілі ўніз па прыступках.

На вуліцы вільготнае мроіва, здавалася, яшчэ пагусцела, памацнеў вецер. Валожын прытрымліваў Аксану пад руку, і яна паслухмяна тулілася да яго, нібы гэтак можна было сагрэцца. Яна крыху зачырванелася ад выпітага, і гэтая чырвань не астудзілася і на холадзе. Імгла асядала на яе пухнатым каўняры, і кончыкі шарсцінак паблісквалі ў святле ліхтароў.

Людзей на вуліцы было не многа, як і звычайна ў гэткае надвор'е.

Валожыну захацелася пацалаваць Аксану. Аксана ўсё ж азірнулася па баках, быццам цяпер вялікі сорам цалавацца на вуліцы ці ніколі раней не цалавалася пры людзях. Яшчэ школьнікамі цалаваліся на лаўках у парку сярод белага дня. Аксана адказала кароткім пяшчотным пацалункам, сама ўзяла Валожына пад руку, прытулілася да яго, але не прыцішыла кроку.

Валожын успомніў, што яна спяшае да дванаццаці дадому, падумаў, што даўно ўжо не школьніца і не баіцца маці. Сама прыдумала гэты прынцып і ўпэўнена, што інакш нельга. У Валожына ўспыхнула вясёлае хлапчукоўскае жаданне прыдумаць, вытварыць нешта, каб сёння яна спазнілася, каб прахадзіць цэлую ноч па горадзе, цалавацца на вуліцы ці ў чужых пад'ездах...

Але і на гэту задуму, і на самога яго ўсё яшчэ глядзеў разумным староннім вокам нейкі другі, Валожын-двайнік, той, што жыў у казарме, той, што сядзеў за рулём баявое машыны на праверцы, той, які ехаў у цягніку і піў чай у цесным купэ з незнаёмаю праваднi-

цаю... І невядома толькі, чаму гэтак сумнавата і горкава глядзеў гэты Валожын-двайнік.

Валожын нічога не прыдумаў, і яны не спазніліся. Яшчэ пастаялі на лесвічнай пляцоўцы. Аксана плакала і абяцала прыслаць Валожыну даведнік па фізіцы, згадзілася з ягонымі довадамі, што ёй не трэба заўтра ехаць чуць свет на вакзал праводзіць яго...

Як выйшаў з пад'езда, Валожын нібыта адчуў палёгку. Можа, таму, што на лесвічнай пляцоўцы было душнавата ад непамерна гарачае батарэі. Зірнуў на гадзіннік — тры хвіліны на першую. Ён нават паднёс да вуха, паслухаў, ці ідзе гадзіннік. Гадзіннік ішоў.

Дадому Валожын ішоў доўга. Сумна і спакойна было на душы, нібыта думаў пра нечае, вельмі падобнае на ягонае жыццё. Каб гэта не позна, ён бы зайшоў у кафэ ці рэстаран, дзе іграе музыка, і дзе можна спакойна пасядзець сам-насам, і дзе крышку цяплей, чым аднаму сярод горада.

## III

Раніцою Валожына да цягніка правялі маці з бацькам, хаця ён і адмаўляўся: таксі прыйшло па заказу, і ён бы даехаў адзін. А праз паўтара сутак яфрэйтар Валожын перасеў у той самы цягнік, які на тры хвіліны ноччу спыняўся на маленькім паўстанку.

На гэты раз у купэ разам з Валожыным папалі тры хлопцы-электрыкі, грашовыя, здаровыя, якія ў сваю пару адслужылі ў войску, салдата разумелі... Валожыну ледзьве ўдалося адгаварыцца ад іхніх шчырых пачастункаў, якіх у хлопцаў прызапашана было, што і ўсю ноч балявацъ хопіць.

Валожын, не прызнаючыся самому сабе, каго шукае, прытвараючыся, быццам хоча збавіць час, пакуль весяляцца спадарожнікі, прайшоў па ўсім цягніку, прыглядаючыся да праваднiц, хаця ведаў, што Ліды быць не можа, што іхняя брыгада зараз, магчыма, на другім канцы краіны, невядома, нашто яна яму і што ён ёй скажа. Ды ці пазнае яна яго...

І ўсё ж нечага пуста стала на сэрцы, калі вяртаўся да свайго вагона.

Дзверы ў ягоным купэ былі толькі чуць прачынены. Там ужо ішла вясёлая гамана. Між хлопцаў сядзела і пасмейвалася рэдзенькая, як вышчыпаная, бландзінка ў чыгуначнай форменцы — праваднiца — і паводзіла павольнымі каровінымі вачыма на хлопцаў. Яшчэ сядзела адна канарэйка ў пушыстым стракатым джэмперы-безрукаўцы і паношаных джынсах, коратка астрыжаная. Па-мужчынску прыжмурана глядзела на субяседнікаў і выпускала з рота цыгарэтны дым, скрывіўшы вусны.

Валожын пастаяў на калідоры, потым здагадаўся, дзе дзецца, пайшоў да вагона-рэстарана, заняў месца ў кутку, заказаў вячэру, піва і сядзеў, пакуль не зачыніўся рэстаран. Лейтэнанты, якія занялі непадалёку столік, весела падморгвалі Валожыну — давай, яфрэйтар. Лейтэнанты падвесяліліся ўжо, і Валожын толькі ўсміхаўся ў адказ. Сумна і шчымліва было ў яго на душы. Не, не толькі таму, што вяртаўся пасля адпачынку і нельга не сумаваць... І думалася чамусьці пра нічым не адметную праваднiцу з яе востраю тугою па вялікім, незвычайным каханні, нечага шкада было Аксану, тым шкадаваннем, якім шкадуюць блізкага, але няроднага чалавека.

Выйшаў з цягніка Валожын адзін, сярод ночы, і перад тым як рушыць у дарогу да свае часці, пастаяў, правёў вачыма цягнік, пакуль не патухлі слабыя чырвоныя агеньчыкі апошняга вагона, на пуцях засталіся толькі свяціць сінім, незямным святлом агні на стрэлках...

*1976*

# ПРОЧКІ

## I

Міцька збіраўся ўпрочкі.

— Давай мне... маю тысячу! Аддавай тысячу — і нагі мае тут больш не будзе! Пайду! Па-айду! — Міцькаў голас задрыжаў, мабыць, ад жалю да самога сябе: яму, старому чалавеку, які і хату выбудаваў, і абрабіў усю дамоўку, які трымае добрую гаспадарку, даводзіцца сярод ночы сыходзіць з дому, як таму жабраку, а іншая рада не служыць.

— Ці яна мне трэба, твая тысяча? Каб была пад рукамі, то аддала б. Схаджу заўтра на пошту, аддам тваю тысячу.

Міцькава жонка, Маня, худая, высакаватая жанчына з цёмнымі ад работы рукамі, у кашулі і камізэльцы, стаяла пасярод хаты. Яе спагадлівасць і памяркоўнасць збівалі мужа з панталыку, не давалі за што прычапіцца, каб лаяць або соваць пад нос кулакі.

— Аддавай! Усё маё аддавай! А не — дэпутата прывяду!

Міцька тупнуў нагою, паддаў сабе злосці і жалю, заморгаў пачырванелымі павекамі, бліснуў вачыма, як далёкімі, заблудзіўшымі ў тумане, а таму слабымі агеньчыкамі.

— Або ж я табе не даю! Бяры, што хочаш бяры!

— Посцілку мне давай! — Міцькаў голас сарваўся на плач.

Маня выйшла на кухню, прынесла з палка посцілку — у вялікія клеткі, якую ткала сама, пасля вайны, калі не хапала крамніны. Тады зімою ў хатах у людзей стаялі кросны. Яна прыпынілася на нейкі момант, успомніла, як староннім вокам убачыла, і сябе, маладую і лёгкую за кроснамі, і Міцю, чорнавалосага, з насмешлівымі карымі вачыма, пакула, як мяккім драўляным постукам пастуквала сукала, на якім Міця сукаў цэўкі. І Зінка іхняя, маленькая, яшчэ, як дражнячыся з бацькам, прыстаўляе палец да цэўкі, якая прыемна слакоча яго, і ўсміхаецца...

— Посцілкі шкода? Поедам мяне ўсю жызню ела,

усю жызню мне загубіла! Век як парабак у цябе быў, і цяпер як парабка з хаты выпраўляеш!

Міцьку шкода было самога сябе, свайго жыцця, якога назад не вернеш і якое змарнавалася, а вінавата ў гэтым была толькі жонка, якая не любіла яго, якой ён патрэбен быў толькі як парабак. Зараз гэта Міцька ведаў цвёрда.

Раней ён не мог пайсці з дому, бо шкадаваў дачок, трэба было выгадаваць іх. Дочкі параслі, замужам ужо. Цяпер яго нішто не звязвала, цяпер яму можна ісці.

— Пайду! — уголас крыкнуў Міцька.

— Ага. Ну ідзі. Я ж нічога не кажу,— пакорліва згадзілася Маня.

Добра, што Міцька не задзіраўся і не кідаўся біцца.

Зыбаючыся, Міцька разаслаў на падлозе посцілку, загадаў:

— Падавай мне ўсё мае!

— То мо сам бяры?

— Я табе сказаў: падавай!

— Падавай мне ўсё маё!

Падыходзячы да шафы, новае, цяперашняе, на трое дзверац, Маня мелькам убачыла сябе ў старым пасляваенным люстры, якое вісела на сцяне,— маршчыністую, худую, азірнулася на мужа — сухенькага, з худым вастраватым тварам, парослым сівым, як соль, шчаціннем, з рыжаю старою вушанкаю, адно вуха якое матлялася, як у дураслівага шчанюка, у картовых, выцягнутых на каленях пухірамі штанах, у літых гумовых ботах. Няўжо гэта ўсё, што засталося ад таго чарнявага вясёлага мужчыны, якога яна любіла і ад якога нарадзіла і з якім выгадавала і выправіла ў людзі Зіну і Клаву? Успомніла дачок, абедзвюх гараджанак, якія, здаецца, ніякага дачынення не маглі мець да іх, дваіх старых, якія разводзіліся сёння сярод ночы...

— Што, перадумала ўжо, ведзьма? Шкода стала? Давай я сам, сам усё забяру!

Міцька папхнуў жонку ўбок, шарахнуў насцеж дзверцы шафы, што яны аж ляпнуліся аб падаконнік, і на падлогу выпаў з замка ключык з чырвонаю стужачкаю.

— Усё мае! Нічога не пакіну! Усё забяру! Сядзі ў голых сценах, як Хама той!

Міцька кідаў на посцілку з шафы і касцюмы, якія прывозілі яму зяці, і пінжакі, і рубашкі. Прывезенае адзенне Міцька пакідаў на пазней, бярог, хадзіў у абшарпаным пінжачку да таго часу, пакуль Маня не выкідала яго куды, каб не знайшоў.

— Яшчэ ж і той пінжачок забірай, з медалямі. А то на памінкі як пойдзеш, другі раз не пусцяць без медалёў! — прыпомніла Міцьку Маня, як ён аднаго разу хадзіў на памінкі з медалямі.

— А, сцерва! Ты яшчэ смяешся? Пасмешышча найшла? Я цябе... Я цябе абдзяру, як ліпку, я цябе правучу, як родзіну любіць! Пажывеш без Міцькі!

— Хіба ж я не даю табе чаго? Усё забірай. Хоць і лыжкі з хаты павывалакай.

— Усё павыношу... Я цябе правучу!..

— Дзіва што правучыш! Я і не сумняюся. Каторы год ужэ вучыш.

— Маўчы!..

— Маўчу. Я табе ўвесь век маўчу.

— Пайду да дэпутата! Калі ты такая! Пайду, пры дэпутаце падзялюся! І нагі мае больш тут не будзе!

Міцька шмаргануў носам, азірнуўся навокал, угледзеў пад сталом сваю куфайку, шырока расставіў убакі рукі, як куру ловячы, нагнуўся, падняў яе, доўга цаляў у рукаў, цяжка соп і, калі справіўся з работаю, яшчэ пагразіў:

— Я цябе на ўсю жызнь правучу!

Маня чула, як выйшаў ён на двор, грукаў дзвярыма, смаркаўся і нешта бубніў сам сабе.

## II

Маня абышла вакол клунка. Яна ведала, што Міцька нідзе не дзенецца, пашлутуецца па вуліцы, па двары — і вернецца. Сама вясна, гразь і холад, гэта не лета, што можна альбы-дзе пераспаць. А ўжо позна, спяць людзі. Ды і не першына гэтакая ягоная бура, гэтакі спектакль у хаце. Прывыклі гэтыя сцены і нагледзеліся ўсякага.

Але нешта не давала спакою. Нібыта чужымі вачыма яна глядзела і на недарэчны клунак пасярод хаты, і на сябе, старую, сівую. Маня азірнулася наўкруга:

і на чыста аклееныя новымі шпалерамі сцены, і на гардзіны, і на тэлевізар, і на бліпчастую, палакіраваную падлогу, як упэўнівалася, што і хата — як звон, і ў хаце — як у вулеі — усяго. Маня выключыла святло ў зале, пакінула толькі на кухні, прыслухалася, ці не чуваць гаспадара на дварэ. Але на дварэ шумеў толькі густы вясновы вецер.

Маня вярнулася ў спальню і прылегла на ложак. Яна толькі ўчора вярнулася ад Зіны. За гэтыя тры дні Міцька прапіў пакінутыя яму грошы і палавіну сваеё пенсіі, не карміў ні карову, ні парсюка. Маня вярнулася дадому не ў пару: Міцькава нутро яшчэ не змаглося ад гарэлкі, і ён не жадаў яшчэ бачыць жонку.

Жыла дачка ў новай трохпакаёвай кватэры вокнамі на лес. Сама высокая, як маці, хударлявая, па бацьку чарнявая, выдавала маладжаваю і лёгкаю. Старшы даччын хлопец ужо хадзіў у восьмы клас. Ведаючы Міцькаў нораў, Маня прыехала да дачкі на дзень, але заседзелася аж на тры: утульна і спакойна было ў даччынай сям'і. І цяпер, лежачы на пасцелі, Маня ўспомніла, як, прачнуўшыся рана, убачыла, што дачка ходзіць па кватэры ў пантофлях і халаце, нешта пераастаўляе, пагруквае посудам на кухні, потым вярнулася ў спальню да мужа. У прачыненыя дзверы відно было Мані, як спаў зяць, звесіўшы з ложка вялікую, шырокую ў далоні шафёрскую руку. Зіна прысела побач на ложак, па-мацярынску, шкадуючы будзіць, глядзела на мужа, асцярожна, як сына, пагладзіла па галаве. Ён усміхнуўся скрозь сон, не расплюшчваючы вачэй, павярнуўся, вобмацкам знайшоў жончыну руку, прытуліў яе да шчакі, пацалаваў. І пасля Маня бачыла, як, выходзячы, Саша пацалаваў жонку. Яна нават падумала тады, што як маладзёнкі...

Нібы штосьці пераварочвалася ў душы Мані ад гэтага ўспаміну. І цяпер здавалася, што і не ў сваёй хаце, не на сваім ложку ляжыць яна. Каб гэта хто пасля таго як адышоў немец, сказаў ёй або яе мацеры, што гэтакая хата будзе ў іх пад бляшаным дахам і гэтакая ўся дамоўка выбудавана! Жылі яны ў пограбе, які толькі і ацалеў на сядзібе, пасля таго як нямецкія танкі з шашы стралялі па вёсцы і спалілі яе. Тады ж асколкам параніла ў грудзі маці. Асколак прайшоў навылет. Маці ўсё кволілася, што нешта баліць у гру-

дзях, і памерла скора пасля вайны. Бацька так і не вярнуўся з партызанаў, магілы нават нідзе не засталося на зямлі — згінуў у балоце, у часе апошняе блакады.

Міця таксама быў у партызанах, адтуль пайшоў на фронт і, як скончылася вайна, вярнуўся дадому, пад восень ужо. Старыя бацькі яго згарэлі разам з хатаю, у якую трапіў снарад. Маніна маці і ўгледзела яго на пажарышчы, прывяла да сябе.

Вечарам пры газоўцы — у бутэлечку ўстаўлены кнот,— якая стаяла на перавернутай уверх дном бочцы, што замяняла стол, ляжала прынесеная Міцем яда. Сам Міцька наліваў з флягі ў конаўку спірт, піў, нічога не еў і ўсё дапытваўся ў маці:

— Цётка, скажэце вы, чаму так несправядліва на свеце? Чаму тыя, каго дома чакаюць, пабітыя асталіся і ў блакадзе, і на фронце? А я — жывы...

Пазвоньвалі медалі на грудзях у яго, і ён стагнаў ці то з гора, ці то з болю ў параненай руцэ, якая яшчэ не загаілася зусім...

Маніна маці памірала ўжо ў хаце. У першай, скіданай дачасна, каб толькі выбрацца з пограба. Маці памірала лёгка, спакойная за дачку — яна тады ўжо жыла з Міцем і хадзіла першым дзіцем...

III

Маня ачнулася ад успамінаў, бо на дварэ загаварылі мужчыны, пагрукалі ботамі на прыступках пры верандзе. Ужо ў сянец Маня пачула Міцькаў голас:

— Ну зайдзі! Калі я кажу, што трэба, зайдзі!

Маня ўстала, выйшла на кухню.

Першым увайшоў Федзя Адасёў, які вучыўся некалі разам у школе з маладзейшаю Манінаю, з Клаваю. Цяпер ён рабіў звенавым на трактарах, даглядаў бульбу, за гэта яму далі ордэн і кожнага года пісалі ў раённай газеце, як ён даглядае і ўбірае бульбу.

— Чаго вы мяне ў хату ведзяце? Вядзеце ў хлеў,— патрабаваў Федзя, павітаўшыся з Маняю.

— Пачакай, Федзя! Я табе ўсё раскажу, усю маю жызню і ўсю маю абіду, каб ты ведаў!

— Ноч, дзядзька, ужэ!

— А што гэта ён ад цябе хоча? — запыталася Маня ў Федзі.

— А, нарыца! Не спіцца? Баішся, што ўсё забяру? Забяру, вымету!..— Міцька грукнуў кулаком па стале. Цяпер было перад кім выступаць яму, хацелася паказаць сябе перад староннім чалавекам, сваю мужчынскую ўладу і незалежнасць.

— Давай усё маё! Казаў, што дэпутата прывяду — і прывёў!

Міцька ўсхапіўся з-за стала, грукнуў кулаком, як падцвярджаючы свае словы, аж прысеў-чэкнуўся.

— Дзе мой клунак?

— Тут клунак, чаго крычыш? Ляжыць на падлозе.

Федзя крыху збянтэжана пазіраў то на Маню, то на Міцьку, здагадваючыся, што да чаго, і не ведаючы, што рабіць.

— Аддавай маю тысячу! Пры дэпутаце гавару — аддавай! — зноў пачаў зрывацца на плач Міцькаў голас.

— Ціха, дзядзька, брыдка гэтак,— няўпэўнена абазваўся Федзя.

— Я ж табе казала ўжэ, што грошы на кніжцы. Заўтра знімеш і забярэш.

— Аддавай кніжку!

— Вам жа, дзядзька, ніхто з кніжкі не дасць. Яшчэ і ў міліцыю завязуць,— уступіў у гаворку Федзя.

— Мяне? У міліцыю? Я кроў за Савецкую ўласць праліваў! Хто пасмее мяне ўзяць у міліцыю? Месца таму на зямлі не астанецца! Ты знаеш мяне, Федзя!

— Чаму ж не знаю, дзядзька.

— Скажы гэтуй сцерве, хай аддае мне мой клунак, усё маё! Не хачу, каб і нага мая тут больш была! Госпадзі, каб і не бачыць нічога! Я ж парабак тут. На ўсіх век рабіў і рабіў, і ўсім усё мала!

— Бяры, бяры! Я ж табе і пінжак твой з медалямі ўвязала, будзе ў чым па сталах поламі месці!

Маня не стрывала: брыдка было перад староннім чалавекам, які ў дзеці ім гадзіўся, за ўсё, што тварылася ў хаце. Ды і не баялася Міцьку, што кінецца цяпер да яе ■ кулакамі.

— Федзя, сынок! Ты бачыў, якая сцерва? А я з ёю жызню жыву!

Міцька ляпнуў аб зямлю шапку і не стрываў, заплакаў з жалю да самога сябе.

Федзя скрывіўся, пераступіў з нагі на нагу: прыкра і непрыемна ўсё гэта, але і пайсці раптам, нічога не сказаўшы, не выпадала. А Міцька шморгаў носам, грукаў кулаком па стале,ківаючыся з боку на бок. І на яго цяжка было глядзець, як на калеку, якога і шкода, і якому нельга нічым дапамагчы.

— Маўчаць! Хто смее з жызні мае прапашчае смяяцца? — Міцька ваяўніча падхапіўся на ногі.

— Ніхто і не смяецца. Паплач, паплач сабе.

— Гэта не слёзы! Гэта кроўю я сваею плачу!

Міцька зноў шмаргануў носам ад жалю, што выплаквае ўсю сваю кроў.

— Гарэлка гэта плача, а не ты плачаш.

— Смяешся? Пайду, у свет пайду! Нажывешся без мяне, нацешышся! Паглядзім, як ты без мяне папануеш! Пайшлі, Федзя! Ты скажаш усім, як яна мяне жыўцом з хаты выжыла.

Міцька насцеж шаснуў дзвярыма ў залу, шмарганіў за клунак, але не змог падняць яго, стаў ракам, патупаў нагамі, мацуючыся, зыбнуўся і сеў на клунак.

— Дзядзька, дзядзька! Як вам не брыдка! Дзеці гэтакія параслі, гэтакія ўнукі ўжэ. Зяці на машынах прыязджаюць. Вам жа толькі цяпер жыві і радуйся. А вы за гарэлкаю свету божага не бачыце, светам гнюсіце. Дзяцей бы пасаромеліся! Як вам не брыдка прыйсці паднімаць мяне з пасцелі, гаварыць, што карова захварэла. Мне раніцаю на работу, а я к вам, як на пажар, бягу! Лажэцеся, ды праспецеся, ды троха падумайце!

— Федзя, сынок, і ты мяне вучыш? Я сам каго хочаш навучу... Думаеш, не ўзяў бы ўнучка за руку да не павёў бы ў лес? Я ж на ўсіх колькі жыву, толькі і раблю. Ты от уласць і ты мне скажы, чаму мне на старасць толькі і радасці тае асталося, што гарэлкаю вочы заліць, чаму гэта дзеці мае ўсе ў нейкія людзі, усе ў некія людзі!.. Ты мне скажы, раз ты ўласць!

Міцька намёрзся, цяпло і гарэлка бралі свае. Мякка і добра сядзелася на клунку, нават песня не выходзіла заліхвацкая, а больш напрошвалася нешта працяжнае, жаласлівае:

Памру-у-у, у чужой зямлі за-а-ароюць.

Міцька заплакаў, заспяваў, прыслухоўваючыся да свайго падвывання. Яму, мабыць, здавалася, што жалкуе яго песня над усёю зямлёю.

— Закапаюць, закапаюць, а як жа ты думаеш? Без канца светам паскудзіць будзеш? Выеш, як воўк, сам сябе шкадуючы,— напаўголасу пагразіла на мужа Маня. Яна ведала, што цяпер ужэ Міцька бушаваць не будзе, што наспяваецца, наплачацца і засне.— Ты ж, Федзя, хаця людзям нічога не расказвай. І не злуй на яго. Бач, як прапаў чалавек на старасць год. Ён ужэ ўгамоніцца, конь гэты!

— Ды не, цётка... З цвярозым ім я пагавару,— супакоіў Маню Федзя і пайшоў.

Маня замкнула на засаўку сенцы, пастаяла, паслухала, як галасіў Міцька, як нешта бубніў, на яе, на жонку. Холад у сенцах, трэба было ісці ў хату.

Калі ўвайшла ў хату, Міцька, развязаўшы клунак, ляжаў на сваім дабры.

— Ідзі мо на палок ляж. Там ужэ пападаеш нагамі ў печ.

— Пацалуй... хітрая на маю голаў знайшлася! Я дабро свае пільнаваць буду! А раніцаю па-а-айду!

— Пойдзеш, каб з цябе душа выйшла!

Маня выключыла на кухні святло, зайшла і легла на ложак, чула, як яшчэ мармытаў, заспеўваў гаспадар, пакуль не суцішыўся і не супакоіўся.

## IV

Ціха стала ў хаце, як у вуху. Маня нават дзіву далася, што гэтак можа ціха быць у вялікай будыніне. Ні шашалю не чуваць, ні мышы за шпалерамі. Хаця мышэй ніколі не было ў іх: пазы пазамазваны глінаю, падлога добра прыпушчана да сцен, і столь добра прыдрана. Хата, як звон! Век яшчэ прастаіць. Ад думкі пра хату, пра той век, які стаяць ёй, схамянулася — а самой колькі ж жыцця засталося? Маленькі нейкі асколачак ад усяго, як ільдзінка, якая растае, растае на сонцы. Якое то сонца, колькі тае ільдзінкі? А ўсё жыццё не ставала часу, усё спяшаць, спяшаць трэба было. Цяпер, як можна прыпыніцца, агледзецца і жыц-

цю падзівіцца, аказваецца, жыць больш і не засталося часу. Колькі пра смерць гаварылася, лёгка і проста: што ўсё там будзем, што на ўсё свая пара і свой час. І гаварылася, і думалася, як пра нешта недасяжна далёкае... А цяпер вось ён, краёк. Хочаш — прыпыніся, агляніся, супакойся душою, калі зможаш...

Маня села на ложку, прыслухалася. Вясновая ноч густа шумела ў раскошным бярозавым вецці. Скора ўжо адступіцца зямля ад марозу, заварушыцца, пойдзе пад карою халодны, жывы сок, набухнуць пупышкі. Ночы тады будуць цёмнымі, як сажа, а зоркі чыстымі, святочнымі. У гэтую пару і ў чалавека кожнага года прачынаюцца, ажываюць невядомыя сілы, у якім бы веку ні быў чалавек, нават у старога зварухнецца нешта ў душы, як знясіленая доўгім выраем птаха.

Маня ўстала, прайшла па хаце. Хацелася хоць да каго сказаць слова і ведаць, што яго пачулі. Крыўда падцяла душу: усё рабіць умела, век рабіла, выбудоўвалася, дзяцей у людзі выводзіла, багацця нажыла. А на самым краі жыцця няма каму сказаць слова, а на самым краі жыцця азірнуўшыся — і не было жыцця, толькі чаканне яго і спадзяванне на тое жыццё і на шчасце, бо колькі ні жыве чалавек, як ні жыве ён, а спадзяецца на шчасце.

Міцька сонна застагнаў, цяжка, як ад доўгага болю. Маня за апошнія гады прывыкла да яго выпівак, да ягоных выбрыкаў, але не магла прывыкнуць да гэтых доўгіх стогнаў. Яна памкнула падысці да гаспадара, але ён заціх, і яна моўчкі стаяла. Трэба ж было, каб гэтак раптам перавярнулася перад ёю ўсё жыццё... Абакрадзенае вайною дзявоцтва, нішчымныя, з работаю, ад якое набягаюць крывёю вочы, пасляваенныя гады... Але ўсё роўна як прыгрэтая, пазалочаная сонцам аблачынка на далёкім небасхіле, нешта цёпла і радасна варухнулася ў душы, нейкім слабым, далёкім успамінам успомнілася тая Міцева ласка, тыя ночы. Аж горача зашумела ўвушшу ад маладых успамінаў — і сорамна, і соладка зрабілася...

Маня раптам успомніла і той вясновы надвячорак. Ніколі не ўспаміналa, а цяпер нібыта перад вачыма ён устаў. Ціхі быў надвячорак, хораша заходзіла сонца, пахла чуць душнавата маладою травою, лісцем, упары-

стаю, цёплаю раллёю. Яна тады падгрэбла двор, на якім, хоць і прыбірала ўжо раз, засталіся трэскі, маленькія, насохлыя — бойся ступіць нагою. Тае вясны яны толькі ўлезлі ў хату. Сцены яшчэ свежа пахлі дрэвам і мохам, які нават не закананачаны ў пазах заставаўся. Прыбраўшы на двары, яна ўзяла мяшок і пайшла на бераг рэчкі, дзе ўзяліся расці кусты маладое крапівы, нажаць яе свінням.

Калі вярнулася дадому, убачыла, што Міця прыбраўся ў чыстае: у прынесенае з войска галіфэ і суконную даўгаватую — тады мода гэтакая была — гімнасцёрку, чакае яе.

— Дзе гэта ты ходзіш? Жывы будуць свінні. Збірайся...

— Куды гэта? — яна здагадалася, успомніла, што Юрай сёння, што трэба на росу ісці. Але яе заела за жывое, што Міця нічога не робіць, быццам і работы няма дома, а выфранціўся і сядзіць, чакае.

— На росу.

— От гэтакая бяседа, што няма як і не пайсці! Змітровічы, Жаўрыдавы і той год не былі. Не гэтакія мы багатыры, каб на ўсе бяседы дастачаць. Ідзі дзяцей лепш дадому прыштыр.

— Пачакай, як гэта?

— О вот так! Прыбраўся!

— А што ж мне і век зжываць у лапленых штанах? Я і па лясах бадзяўся, і на фронце стаяў! А цяпер каб не мець як і з людзьмі пасядзець? Ты што, саўсім ужэ абнаглела з гэтаю работаю? Збірайся!

— Ото спужалася!

Яна не баялася яго, ведала, што зробіцца гэтак, як яна захоча. І таму не стала больш і гаварыць, завярнулася і пайшла ўходжвацца, карміла свіней... А калі агледзелася, Міці не было дома.

Паклаўшы дзяцей спаць, яна таго вечара сядзела, чакала Міцю. Але не дачакалася, на злосць яму падперла з сярэдзіны калом дзверы — хай папросіцца, пастукае, калі яго на гулі гэтак пацягнула. І не магла заснуць — маладая, ласкавая ноч ішла, што, здавалася, грэх і спаць.

Спрасонку чула яна, як прыйшоў Міця, як першы раз упэўнена, моцна плячом штурхануў у дзверы, потым, як дзівячыся, памацаваў асцярожна. Але дарэм-

на яна чакала — не крануў больш, не стаў ні прасіцца, ні гразіцца, ні лезці ў хату...

З таго вечара і не стала між імі добрага слова, нават у вочы развучыліся глядзець адно аднаму. Работу рабілі, дабро нажывалі, бо трэба было рабіць.

І ўспамін быў, як другі бераг, далёкі ад сённяшняга яе берага. А між гэтымі берагамі як бытта чорная прорва, таму і берагі зчужэлі.

Маня абышла вакол гаспадара, прыслухалася. Ён часта і цяжка дыхаў. Нагнулася, правяла рукою — ці не ўткнуўся тварам у лахманы, вярнулася да ложка, легла.

Шумела, плыла ў ветры вясновая ноч, недзе высока ляцелі дзікія гусі, гэтак высока, што відны былі ім зоркі, якіх не ўгледзіш з зямлі, закрытае воблакамі. Доўгая яшчэ ноч, многа можна перадумаць старому чалавеку. Як пра добрае думаць — неўзаметку ноч праміне, а пра горкае — годам здоўжыцца...

## V

Прачнулася Маня пазнавата. Міцька прачнуўся раней за яе, схадзіў на парог ганка, напіўся вады, клунак схаваў пад палок, зняў боты, акрыўся куфайкаю і лёг на палок дасынаць.

Іншым разам Маня дала б яму прачуханца — цвярозы Міцька рук не распускаў. Але гэтае раніцы ўходжвалася ціха. Гэта і ўстрывожыла Міцьку, не дало спакойнага сну.

Маня несла вядро мяшанкі свінням, калі пачула знаёмы голас:

— Добрае раніцы, цётка Маня.

Брыгадзір, малады, з чырвоным, як рыжык, тварам, стаяў ля варот. Ніз чорнае курткі не сыходзіўся зашпіліцца на яго жываце.

— Я хацеў, каб дзядзька пайшоў памог сечкі ўрэзаць, а то няма каму.

— Добра, Міхаіл, скажу.

— Скажэце, што я прасіў.

Міцька тым часам стаяў ля акна, чуў жончыну гаворку з брыгадзірам: быць таго не можа, каб жонка не

прывяла брыгадзіра паглядзець на яго, як звычайна. Але Маня пайшла да хлява. Міцька разгублена мацнуў за кішэню, дзе ў яго засталася яшчэ траячка, ухмыльнуўся, узяў у сенцах кажушок і няўпэўнена палез на печ.

*1976*

# СВЯТА ПЕРАМОГІ

Вузкакрылы, косы, крыжасты цень пралятаў па невялічкіх і рэдзенькіх кусціках лазы, па вострай беднай балотнай асацэ і чорнай густой вадзе між куп'я. Здавалася, не цяжкі маторны гул і свіст нізкага самалёта ўціскаў людзей у балота, а гэты востры, як брытва, косы крыж, які быццам рэзаў на ляту ўсё жывое.

Непадалёку ад Кізілы, пад густаватым, разложыстым кусцікам лазы ляжала стараватая жанчына ў суконным, у клеткі, андараку і ў мужчынскай вылінялай да белага рубашцы. Па гэтай рубашцы Хведар і пазнаў жанчыну — яна найбольш абмывала і абшывала разведчыкаў... Як толькі самалёт зноў заходзіў над балотам, і косы яго цень пралятаў па ім, ад чаго, здавалася, варушылася, шапацела лісце на лазняку, бялявая і бледненькая з твару дзяўчынка, якую жанчына захіляла сабою, крычала немым голасам:

— Мамачка-а-а! Які ён лупаты і на мяне глядзіць!

— Ціха! Не крычы гэтак моцна! Нельга крычаць! — цішыла яе жанчына.

Дзяўчынка ляжала пад кустом на куп'і, засланым хусткаю-канаплянкаю, якую жанчына, мабыць, зняла з галавы. Валасы ў жанчыны былі гэтакія ж белыя ад сівізны, як і вылінялая рубашка. Дзяўчынка насцярожана заціхла, прыслухоўваючыся да самалётнага гулу. Кізіла нібыта адчуваў, як сцялася ўсё яе маленькае цела і як дрыжыць у ім кволенькая, бы пялёстак, душа ад жаху, бо гэтак хочацца жыць. Каб толькі не вярнуўся самалёт і лётчык зноў не ўглядаўся ў гэтае парослае каржакаватым бярэзнічкам балота...

Кізілу цяжка было ляжаць падняўшы галаву — ад раненага бока разыходзілася гарачыня па ўсім целе. Нават цёплая балотная вада здавалася халоднаю, студзіла — і білі дрыжыкі. Кізіла, паклаўшы галаву лбом на рукі, сцінаўся, напружваўся ўсім целам,

каб суняць дрыжыкі. У твар ішоў цяжкі балотны дух вады, твані, мёртвы і цёплы, як з таго свету.

Кізіла прыслухоўваўся, і яму здавалася, што ён чуе, як цяжка ўздрыгвае зямля,— зусім недалёка фронт. Можа, яму гэта здавалася, бо ведаў, што амаль на трэць выбітыя ў баях з рэгулярнымі вайсковымі падраздзяленнямі партызанскія брыгады і атрады і так цудам трымаліся яшчэ, вялі бой.

І параненыя, і жанкі, і дзеці прыслухоўваліся да блізкага водгулля партызанскага бою — усе ведалі, што пакуль ідзе гэты бой, яны тут у бяспецы. Партызаны трымаюць абарону на апошнім рубяжы, за ракою, на гэтым беразе...

— Сынок, а сынок! У цябе мо вада ў біклазе?

Кізіла падняў галаву і паглядзеў на жанчыну. У галаве ў яго шумела, як у бярозавым гаі пад жнівеньскім ветрам.

Кізіла ўзяў біклажку, якая ляжала пад купінаю ў вадзе і падкінуў да старое. Вады ён узяў з сабою, бо ведаў, што яго будзе мучыць смага, і балотнаю вадою яе не здаволіш. Ён бярог ваду, браў яе толькі па дватры глыткі, калі ўжо нельга было трываць.

— Ціф жа ў яе. Згарае як свечка. На вачах згарае...

Жанчына быццам тлумачыла, чаму адважылася папрасіць у яго, параненага, вады.

Дзяўчынка ляжала на купіне нерухома, уся звялая, з прыадкрытым, як у птушаняці, ратком і ўжо нават не зважала на гул і на самалёт, які паказваўся над балотам...

У гарачцы, ад жалю да дзіцяці, з лютасцю ад бяссілля хоць што змяніць, Кізіла схапіў карабін, каб усадзіць кулю проста ў лоб ачкастаму нямецкаму лётчыку, круцянуўся павярнуцца на спіну і адчуў яшчэ, як сыходзіцца над ім, зрабіўшыся раптам гарачаю, як кіпень, балотная вада...

Хведар глядзеў у столь і ўсё ніяк не мог удыхнуць паветра, быццам грудзі забіла тая балотная вада. Ён выцер рукой твар, ліпкі і цёплы.

Столь была пафарбаваная ў белае. Як ён папаў у бальніцу і чаму нічога не памятае? Хведар скінуў з сябе коўдру, усхапіўся на ногі, бы хацеў праверыць, ці можа падняцца, потым сеў на ложак і з палёгкаю ўздыхнуў: ён быў дома, на сваім ложку. А прыцемак

і цішыня ў хаце таму, што яшчэ толькі досвітак на дварэ.

Хведар насцеж адчыніў акно. Веснавая цёплая імгла абдала прыпарыстым пахам зямлі, маладога лісця і маладое травы — трывожлівым, маладым, чыстым водарам, у якім перамешаны пах і жыцця і тлену.

Добрая была цяпер вясна, шчодрая і на цяпло, і на зелень. Ды і зіма — не як ранейшая з дажджамі, без снегу — раскашавала і мяцеліцамі, і марозамі. На багаты ўраджай, на багаты год паказвала і зіма, і вясна, якая сабрала гэтага года вады ў лагчынах і нават паводак пусціла па былой рацэ, цяпер меліярацыйнай магістральнай канаве, павыкідала была на паплавы вялікія белыя крыгі, якія чарнелі і доўга раставалі на берагах, як паламаныя, павыкіданыя на бераг незвычайныя лодкі-караблі.

Некалі людзі гаварылі, што калі прырода паказвае на добры ўраджай, то гэта, няйначай, на вайну. Кізіла не верыў гэтай прыкмеце, не любіў яе, называў дурною. Але лавіў сябе на тым, што думае: мабыць, апошняя гэтая яго і зіма, і вясна, таму гэтакая шчодрая і харошая, таму гэтак радуецца ёй душа.

Гэтае вясны Хведару пераснілася ўся партызанка, ад першага да апошняга дня. Сніліся людзі, якіх Хведар пазабываў даўно. Усё роўна як пераклічку рабіла памяць. Сніцца пачало Хведару недзе ад піліпаўкі, ад тых самых доўгіх і нудных снежаньскіх начэй, калі Хведар адчуў боль у сэрцы, быццам нешта сцяла яго і не адпускае, нават пакрысе ўсё сціскае, як тая карная блакада партызанскі раён, і каб вырвацца з яе — трэба разарваць мёртвае акружэнне.

Першы раз саснілася сёння тыфозная дзяўчынка, якая памірала ў мокрым балоце, на самым краёчку вайны. Хведар памятаў пра яе, але ніколі не сніў. І здавалася, як усё роўна ён у балоце і недарабіў нешта... Не стрэліў у таго лётчыка? Смешна. Гэта тады ён толькі ў гарачцы мог страляць з карабіна па самалёце.

З таго часу прайшло больш за трыццаць гадоў, цэлае жыццё прайшло. Летам, калі на цэнтральную сядзібу калгаса пераносілі астанкі загінуўшых у час вайны, з усяго калгаса сабралася толькі сем чалавек

іх, партызан. Усе, хто застаўся жыць яшчэ, не адсыпаўся.

Хведар доўга ляжаў на ложку, роўна і спакойна дыхаў, нібыта супакойваўся, вяртаўся з таго далёкага часу назад, і потым толькі ўспомніў, чаго гэтак рана ўстурбаваўся — Дзень Перамогі быў сёння...

— Куды ж гэта ты ні свет ні зара? — Жонка абаперлася на локаць. Яна даўно прачнулася ад таго, што ён цяжка стагнаў і гаварыў нешта ў сне. Усё роўна як балела яму што. Яна баялася за Хведара. Ведала, што здароўе ў яго дастала яшчэ вайна, а гэтулькі работы перарабіў і пасля вайны. Старая не ведала, што ж будзе, як памрэ ён. Дзе тыя дзеці ў тым горадзе! А як пакідаць тут ці збываць усю гаспадарку? Усё жыццё рабілі, каб нажыць і хату, і дабро, адале — узяць і спусціць чорту лысаму на рукі?

Цяпер, калі старая ўбачыла, што Хведар устае жыў-здароў, другое падазрэнне варухнулася ў яе:

— Мо ўжэ дзе прыхаваў учора дак смакануць збіраешся? А пасля паміраць будзеш!

Хведар не заўважыў калі, ці не з таго часу, як параспраўлялі дзяцей, засталіся адныя ў хаце, яны са старою і гаварылі як бы сварачыся. У Хведара сёння не было ні гарэлкі прыхаванае, ні нават думкі пра яе, і другім разам ён даў бы старой здачы. Але сёння не хацелася пачынаць звягню ў хаце. Дзень не такі.

Толькі як выйшаў Хведар з хаты, старая ўгледзела на вешалцы з аленевых рагоў, што вісела пры парозе, выхадны Хведараў пінжак з медалямі, успомніла, які дзень і куды збірацца стары. Ён моцна перамяніўся за апошнія гады два: высакаваты, худы, лёгкі на ногі, вечна нечым заняты, ахвочы пагаварыць, пажартаваць, Хведар ні з таго ні з сяго раптам замаўкаў, прыціхаў, быццам аднекуль здалёку вяртаўся і не пазнаваў нічога навокал, прыглядаўся і дзівіўся. І не стаў трываць яе сваркі: ане цыкаў гэтак, што і язык да паднябення прысыхаў, а то часцей, як і сёння, сыходзіў з воч. І старая, здаецца, адчувала, як паціху адыходзіць і адыходзіць некуды стары, туды, куды яна не можа пайсці...

З дому Хведар пайшоў, як толькі пачалася вайна.

Спачатку партызаніў у сваім лесе, а потым далёка ад
дому, хадзіў у рэйды, а яна адна кідалася з дзецьмі
і ратавала іх у блакады. Яна не паехала за Хведарам
пасля вайны, калі ён у Заходняй Беларусі арганізоў-
ваў калгасы і дзе хапала яшчэ бандытаў і банд... Тады
ў яе падраслі дзеці і яна не баялася, што прападзе ад-
на. Ён мог прапасці ці скруціць галаў, усё роўна, як
толькі адзін ён гэтакі, на ўвесь свет, партыец быў. Спа-
койна прыняла яго, калі вярнуўся з Заходняе паране-
ны, ледзьве душа ў целе. Цяпер, пад старасць, калі
страшна было застацца адной у пустой хаце, яна піль-
навала старога. А пасля таго як яму далі рэспубліка-
нскую пенсію, захацелася больш ведаць пра тое ягонае
жыццё, пра якое раней і чуць не хацела... Калі не бы-
ло дома старога, яна перабірала ягоныя фотакарткі,
якіх было нямнога і якія разам з партызанскімі давед-
камі ляжалі ў вокладках, перавязаных шпагатам. Во-
чы яе слаба свяцілі ўжо, а картачкі старыя, пажаўце-
лыя, таму старая доўга прыглядалася да іх. Амаль на
ўсіх муж быў пры зброі, пры кані, з чырвонаю стуж-
каю на шапцы — і неяк не верылася, што гэта той са-
мы Хведар, на якога яна гэтулькі гадоў ужо сварыц-
ца... І тое, невядомае ёй жыццё Хведарава самым важ-
ным было, з-за яго ён меў павагу і ад людзей, і ад
дзяржавы, і ад дзяцей.

Цяпер, як пасялілася ў душы гэтае неадступнае
адчуванне трывогі за мужа, хацелася распытацца ў
яго самога пра ўсё. Але яна ведала, што позна, што ні-
чога ён не будзе ёй расказваць ды не ўсё і зразумее
яна.

Старая толькі цярпліва пільнавала старога, як
пільнуюць малое дзіця, нібыта можна было ўвагаю і
доглядам забегчы наперад няшчасцю, апярэдзіць яго.

Старая ўстала, зайшла на кухню, глянула ў акно:
стары стаяў ля ганка, шырока, моцна расставіўшы
ногі. У ботах, у салдацкіх штанах — усе гады ён насіў
боты і салдацкую адзежу.

Злосці на жонку Хведар не меў. Ён ведаў, што яна
не разумее яго. А калі не было ў яе дасюль тае простае
жаночае дабраты, з якою шчаслівыя і самі жанчыны,
і тыя, з кім сышліся яны жыць, то і не будзе. Пра гэта
не раскажаш, гэтаму не навучыш, і гэтага не выпатра-
буеш. Пакуль ён ваяваў, аднаўляў, яна зберагла, вы-

гадавала дзяцей, і за гэта ён павінен быць удзячны ёй. Хведар заўважаў цяперашнюю жончыну разгубленасць, нясмелую і няўмелую познюю спагаду, з якою старая якраз патрапляла не ў пару. Ён не мог здзержаць сябе, злаваў.

Хведар прагна, на поўныя грудзі, удыхаў веснавую раніцу маладое травы і свежа ўзаранае раллі. Гэтае маладое паветра будзіла кроў, і яна пачынала не толькі роўна пульсаваць па целе, а здавалася, святочна хвалявалася. І ад гэтага хвалявання шчасліва пачынала трымцець душа, водгукам таго далёкага маладога трымцення, якое бывае ў самую маладосць на самым досвітку жыцця і якое быццам атухае, заціхае з году ў год, але так і не можа патухнуць і заціхнуць, бо да самае апошняе часіны жыве ў чалавека светлая надзея і радасць жыццю, жыве і паміpae толькі з ім. І цяпер Хведару здавалася, што пражытае яго жыццё толькі маленькая частачка, пылінка, а самае яшчэ важнае павінна быць... Але Хведар ведаў, што нічога не будзе. Ён пражыў сваё: як стаў камуністам, рабіў старшынёй у сельсавеце, прайшоў усю партызанку, блакады і рэйды аж да самае Белавежы, ад радавога партызана да камандзіра разведкі... А пасля яшчэ калектывізацыя ў заходніх раёнах, банды...

А смерць — гэтакая блакада вакол жыцця, што яе як ні вырывайся, як ні цеш сябе надзеяю, а наткнешся яшчэ на адзін, самы апошні яе круг. І Хведар усё ішоў і ішоў скрозь гэтыя кругі, ведучы за сабою памяць пра тых, хто загінуў.

Нібыта мацаючы нагамі зямлю, Хведар ступіў некалькі крокаў, прыпыніўся і заглядзеўся на шпака, які сеў на галінцы пры шпакоўні і гэтак спяваў, падняўшы ўгору белую дзюбку і растапырыўшы на горлачку пер'е, нібыта рабіў самую важную, самую патрэбную работу на зямлі.

Хведар выйшаў у сад, дзе пад яблынямі ўжо ўзялася расці маладая ласкавая трава. Сад пасляваенны, пасаджаны самім ім. Дарослы. І паветра ў ім жыватворнае і густаватае, як вада, якая абмывала, студзіла і маладзіла і цела і душу.

Хведар спачатку не зразумеў, адкуль наплыў востры смурод, пачуў, як стукнула аб вядро восілка і павярнуўся да суседавага саду.

Вецік паставіў вядро з разведзеным калам, цярнуў аб старыя лапленыя штаны рукі, усміхнуўся. Ступіў два крокі насустрач Хведару — ногі ў каленях у яго чуць сагнутыя, і калені растапыраны ўбакі. Ён і хачуць сагнутыя, і калені растапыраны ўбакі. Ён і хадзіў крыху апусціўшы азадак і раскарэчыўшыся. Казаў, што гэтак яго скалечыў радыкуліт...

— Добры дзень, Хведаровіч,— прывітаўся ён.

Хведар толькі нагнуў голаў, што нельга зразумець было, ці то кіўнуў галавою ў адказ, ці набычыўся.

З-пад ілба ён глядзеў на Вецікаву работу: маладыя прышчэпкі былі акуратна паабкопваны навокал, і Вецік падкормліваў іх.

Вецік пераступіў з нагі на нагу, усміхнуўся, нешта мыльнуў губамі.

Пасля таго як вярнуўся, адбыўшы свой тэрмін, ён Хведара называў толькі па бацьку і вітаўся з ім па некалькі разоў на дзень, на першым часе спрабаваў, каб пераняць дзе і загаварыць. Але Хведар абыходзіў яго, каб і не гаварыць і не слухаць.

Вецік спачатку пахадзіў паплаўнічым у калгасе, а пасля падвозіў харч на свінарнік, нават узбіўся быў на загадчыка свінафермы, але парабіў там нядоўга. Ён паставіў большую, лепшую, чым у Хведара, хату, хваліўся, што і дачцэ даваў грошай на кааператыўную кватэру. Хлопец яго кончыў тэхнікум, застаўся рабіць на нейкай будоўлі, потым пачаў прыязджаць дадому на белых «Жыгулях».

Да гэтага часу Вецік асвойтаўся з людзьмі, навучыўся нават прыкрыкнуць, калі яму спрабавалі ўспомніць пра ваеннае, пра тое... Ён нават даказваў, што судзіць яго не было і за што. На Хведара пры людзях не зважаў, перадавалі, нават пасмейваўся за вочы, але калі сустракаўся адзін на адзін, то разгублена вітаўся, крывіўся дробненькаю ўсмешкаю, глядзеў усё на сваё ногі. І нельга было заўважыць вачэй з-пад кашлатых пабітых сівізною чорных брывей. А Хведару хацелася зблізку паглядзець яму ў вочы.

— Твой яшчэ не прыехаў? Ён жа неяк кожнага года едзе...— пачаў Вецік.

Хведараў Павел кожнага года прыязджаў на Дзевятага мая. Цяпер яго не будзе — якраз паслалі ў камандзіроўку. Але Хведару здалося, што Вецік знарок напомніў пра Паўла, таму, што яго хлопец прыедзе.

І ў душы ўсё затрымцела, сціснулася, як тады, калі ціха перадавалася па засадзе каманда: «Падрыхтавацца!» Ведае ж і памятае, які дзень, а выйшаў рабіць такую работу! Хведар адчуваў, як пачынае туманіцца ўваччу, і ён нагнуў яшчэ ніжэй галаву, прыжмурыў вочы, нібыта глядзеў на Веціка скрозь прыцэл...

— Хведар! А Хведар! Дзе ты там? — старая стаяла ў варотцах у сад.

Апошнім часам яна ўспявала, як хто вёў яе за руку, не давала Хведару ступіць лішняга кроку.

— Чаго ты ўсё на яго як вожык нашатыраны? Нашто ён табе, жывучы ў суседстве? Ён цябе ні ачарніў, ні абяліў, а ты ўсё на яго рубам у рубам. Ведаеш жа, што сілком яго ў той батальён пагналі. Дваццаць год за гэта адседзеў. Думаеш, здароўе ў яго тое, калі ходзіць, як жаба, растапырыўшыся? — пачала яшчэ з парога старая, як толькі ўвайшлі ў хату.

— А чаму ён у Бор ні разу не пакажацца? — Хведар звярнуўся да старое.

— Ну што Бор, што Бор? Самі бараўцы гавораць, што не паліў ён, толькі стаяў там у акружэнні.

— Бач, стаяў. Паказаўся б ён у Бор, яго б там галавою паставілі ў балота, у прорву. Туды не паказваецца. А тут ужэ, калі хочаш, і як пастрадаўшы выступае, што залішне адседзеў... Ён ужэ супакоіцца хоча, добрым быць. Яму на тым свеце спакою не будзе! Зямля тут да Амерыкі кроўю нашаю партызанскаю прамочана!

— То не крычы. Хай сабе, хай... Садзіся паснедай, а то і яда ў рот не палезе. Ды і збірацца трэба, машына стаіць ля Петрыка.

Старая падала на стол снеданне, наліла кілішак гарэлкі. Хведар не чакаў гэтага, збянтэжыўся і моўчкі, нібыта і праўда спяшаўся, каб не спазніцца на машыну, снедаў.

Тое, што гаварыла старая пра Веціка, ён і сам ведаў: той не сам пайшоў служыць, пагналі яго сілаю. Але ж, каб не было віны, то і не судзілі б. І чаму гэта ён мог сядзець спакойна, гнаць самагонку і прадаваць, пакуль людзі ў лясах у блакадах паміралі, дзеці ваявалі, паміралі?.. А ён хітрэйшы за ўсіх быў. Хай бы ж хапіла хітрасці не пайці і ў батальён... І не гэта, мабыць, не давала адступіцца нянавісці, а нейкае адчу-

ванне таго, што Вецік так і не зразумеў і не прыняў да душы свае віны, толькі мусіў затаіцца і скарыцца, не можа зразумець яе ці не хоча. Можа, таму гэтак паволі і панура, з кожным годам сунецца наперад, у такія, як усе, бо вайна чаго толькі не рабіла з людзьмі, і на яе можна ўсё зваліць. А ён, Хведар, не мог змоўчваць, як гэта гаварыла яму старая. Ён ведаў другую, сваю праўду, праўду тых, хто даўно застаўся ў балотах і пад зямлёю на партызанскіх магілках і пры лесавых дарогах, ляжыць там з вераю не толькі ў тое, што пасля вайны будзе ўволю і пад'есці, і пагуляць, а і ў тое высокае, светлае жыццё, дзе не будзе ні злосці, ні жорсткасці, ні подласці, дзе не толькі жываты будуць поўныя, а і душы чалавечыя светлыя і родныя адна адной.

Пасля снедання Хведар дастаў мел і анучку і пачаў чысціць медалі. Пасля вайны яны доўга пралежалі ў прыскрынку куфра, пакуль не аказалася, што саўсім мала асталося іх, партызан і былых франтавікоў, і калі ўжо неяк і нельга было не надзець медалі.

Пакуль чысціў медалі і збіраўся, Хведар крыху супакоіўся, настроіўся на другое — на самую маёўку, на сустрэчу з мужчынамі, на доўгія ўспаміны і гаворку, дзе, здавалася, можна нагаварыцца, наўспамінацца на цэлы год, бо там цябе кожны разумее і не трэба нічога нікому тлумачыць.

У касцюме, у чаравіках, блакітнай рубашцы, пры гальштуку, з белымі ад сівізны густаватымі валасамі Хведар паходжваў па двары, чакаючы машыну. І, можа, з-за гэтае сівізны, хударлявае стройнасці і касцюма больш выдаваў на вясковага настаўніка, чым на простага дзядзьку.

Было чутна, як недзе на другім канцы вёскі сігналіла машына — збірала людзей.

Хведар больш за ўсё любіў гэтае свята, свята Перамогі, і таму, што нападала яно на самыя ласкавыя і харошыя вясновыя дні і што гэтае свята як ні адно, здавалася, мела да яго гэтакае блізкае дачыненне.

Машына праехала крыху далей па вуліцы, за Хведараву хату, напеўна, як легкавічок, пасігналіла. Кузаў машыны паабтыканы маем, у ім было ўжо людзей,

большасцю, праўда, маладых, але відны і жанкі, і мужчыны.

Хведар махнуў ім рукою і амаль не подбегам заспяшаў да машыны. Ён гатовы быў, як хлапчук, ускочыць у кузаў, ■ ходу, ухапіўшыся рукамі за задні борт,— ад машыны, ад зялёнага маю і нават ад вострага паху дымка з выхлапное трубы павеяла маладосцю. Ён усміхаўся, бо і з машыны таксама ўсміхаліся яму. Два падлеткі ў белых рубашках з закасанымі рукавамі, падалі рукі, каб падхапіць Хведара...

— Саскоч хто, падапхні гэтага старога...— гукнуў з машыны Ванька Капцэвічаў, каб пачуў Хведар.

— Дзе ты там, самаходка на тараканавым ходу? Марш давай! — у тон яму адказаў Хведар. У кузаве зноў зарагаталі.

Але гэты смех перапыніў гармонік — Ванька расцягнуў, як некалі, з тою даваеннаю зухаватасцю і форсам сваю «шуйку», што аж выгнуліся мяхі, прыклаўся да яе вухам і зайграў «Развітанне славянкі». І Хведар па-вайсковаму цвёрда ўзяў крок у такт музыцы.

Але нешта раптам перамянілася ў настроі: некуды далей за Хведара глядзелі хлопцы, прыціх смех, нешта загаварылі ў кузаве, толькі бадзёра і заліхвацкі «палівала» Ванькава «шуя», а потым, як спатыкнулася, заціхла і яна.

Хведар крута завярнуўся — Вецік у вялікаватым, як спадніца, галіфэ, у хромавых ботах і чорным, мабыць, сынавым пінжаку раскарэчыста ішоў да машыны.

Хведар адчуў, як усё ў яго ўсярэдзіне сцялася ў тугі камячок, які ўвабраў у сябе гэтулькі сілы, што яна ўсё можа здолець і нічым яе нельга спыніць.

Хведар ведаў: мінулага года — той год Хведар якраз ляжаў у бальніцы — Вецік сабраўся і паехаў на маёўку. Тады ён ішоў не адзін, а са сваім чырванатварым Генікам, які знарок, каб чутно іншым было, гаварыў: «Ты гэтакі самы грамадзянін, як і ўсе. Ты сваё і так нізашто адбыў, цяпер роўнае права...»

Тады, як вярнуўся з бальніцы, Хведар пасварыўся з Ванькам Капацэвічам — як той мог дапусціць, каб Вецік ехаў разам з ім на адной машыне.

Вецік, які спачатку знарок упэўнена гробся да машыны, прыпыніўся, угледзеўся, што Хведар стаў, а по-

тым пайшоў, але не гэтак ужо ўпэўнена і паспешна.

Хведар глядзеў на яго, як спрактыкаваны вайсковец мерае вокам, на колькі можна падпусціць да сябе ворага, вызначае тую, нікому нябачную мяжу, цераз якую таму нельга пераступіць.

Вецік ступаў усё павальней і павальней, на твары ў яго расплывалася слабая ўсмешка. Але і яна раптам прапала, і на імгненне шырока акругліліся яго вочы — ён убачыў, як Хведарава рука міжвольным, дакладным рухам вайскоўца пагладзіла знізу ўгору сцягно — рука шукала кабуру. І потым зноў Вецік усміхнуўся, успомніўшы, што цяпер не тыя часы, што не будзе на папрузе кабуры, усміхнуўся і неяк скора пакіраваў цераз вуліцу да суседавага двара, быццам ён і не думаў ісці да машыны, а ваксаваў боты і адзяваўся, каб пайсці да рэчкі. Нават не павітаўся з людзьмі.

Хведар завярнуўся да машыны, хлопцы падхапілі яго за рукі, і ён уляцеў у кузаў, прытупнуў нагамі.

Шафёр адпусціў счапленне, людзі ў кузаве гайдануліся, весела запішчалі дзяўчаты...

Тут, на палявой Случчыне, ад лесу засталіся толькі назвы палеткам ды яшчэ ляскі — сям-там на ўзгорках, на неўрадлівай зямлі ацалелі яны, каб было дзе прыткнуцца зайцу ці якой лісіцы, бо ваўкоў і большага звера тут не засталося, ды большы звер і любіць вялікія лясы.

Лясок гэты стаяў і да вайны. Але пад час яе высеклі яго на дровы. З аднаго краю ляска, дзе калісьці бралі гліну, немцы расстрэльвалі людзей. На тым месцы нішто і не ўзялося расці, толькі некалькі пакручастых чорных хвоек-каржакоў з кароценькаю ігліцаю ды кусты ядлоўцу.

А з другога канца ляска рос хвойнік — злева ад дарогі, якая дзяліла лясок напапал, а справа — бярэзнік. Ён некалі браўся расці кустамі, у якіх бушавалі каровы, бо была ў бярэзніку травіца, і туды ганялі пасвіць. Потым бярэзнік узяў сілу, даў ценю. Трава пад ім прапала, парос верас, а самі бярозы павыцягваліся ў дрэвы, і той некалі кудлаты зараснік зрабіўся роўным, белым, як часнок, бярозавым гаем.

Свята рабілася кожнага года на адным месцы, на вялікай прагаліне. Тут ставілі адну ля аднае дзве машыны з адчыненымі бартамі, заместа сцэны, з якое выступалі ветэраны з успамінамі, а потым быў канцэрт. Яшчэ далей былі пароблены валейбольныя пляцоўкі, і тут мераліся сіламі вясковыя каманды — чыя вёска пераможа.

Абапал дарогі стаялі ларочкі, дзе прадавалася і закусь, і чарка.

Калі машына стала на стаянку, Хведар паспяшаў злезці першы і адысціся ўбок, кругам пайшоў па бярэзніку.

Мабыць, нідзе гэтак молада не адчуваецца вясна, як у бярозавых гаях, калі лісце светлае і, здаецца, цёплае сваім зялёным цяплом. Хведар выйшаў на дарогу, далей, за буфеты, за людскую гаману. Перайшоў дарогу і ўвайшоў у хвойнік — гонкі, падцярэблены, роўны. Ужо дарослыя пасляваенныя хвойкі, як тыя, партызанскія, якія не давалі далятаць да партызанскага лагера снарадам і мінам, бялеліся тады абломкамі і ранамі...

Хведар прыпыніўся, памацаў рукой тугі, тонкі, зацёклы смалою пісяг на ствале хваіны — усё роўна як ад кулі ці ад асколка.

Хведар паволі вярнуўся борам назад да людскае гаманы, да музыкі. Нейкі круг канчаўся ў ягоным жыцці, ён быццам бы зводзіў канцы. Хведар спыніўся, уражаны, што гэтак падумалася яму. Як жывую, пачуў пад нагамі пакрытую слабенькім мохам і іглічаю зямлю, дзівячыся з самога сябе, што гэтак чыста і свежа, як у маладосці, абноўлена чуе жыццё і радуецца яму. І зноў пайшоў, памятаючы, што нібыта зводзіць адзін да аднаго два канцы круга.

Калі выйшаў на прагаліну, завярнуў да сцэны, на якой два доўгавалосыя хлопцы спявалі пад гітары пра Сярожку з Малое Броннае і Віцьку з Махавое, людзі азіраліся на Хведара, на слабае пазваньванне медалёў, і давалі яму дарогу.

Хведар забавіўся пасля канцэрта — паглядзеў на танцы. Танцы былі не тыя, што, здаецца, зусім нядаўна танцавалі і яны, старыя, і іхнія дзеці. Новыя тан-

цы бытта і весялейшыя, чым раней, і музыка іншая, ансамбль, як гавораць цяпер, з гітарамі, саксафонамі, незвычайная, цікавая музыка, але яму самаю лепшаю здавалася духавая музыка. Некалі, пасля вайны, мода была на духавую музыку. Ды і му́зык тых было ў вёсках. Нават у іхнім калгасе свая была, хоць і не гэтакая слаўная, як шалавіцкая ці свідзіцкая. І цяпер яшчэ ёсць — Хведар усміхнуўся, успомніўшы, што і сапраўды яшчэ маюць трубы музыканты іхняга калгаса. Чалавек шасцёх іх засталося. Ездзяць яны на пахарункі. Папоў няма, а аркестр гэты, з гітарамі, на пахарункі не пазавеш. «Адным словам, будзе яшчэ на твой век музыкі!» — усміхнуўся сам сабе Хведар, зірнуў на гадзіннік і пайшоў да палянкі.

У гэтым лесе была свая мясціна ў іхняе вёскі, дзе кожнага года збіраліся гуртам абедаць, узяць чарку і пагаварыць. Мабыць, ва ўсіх кампаній меліся свае мясціны, бо пасля абеду амаль па ўсім лесе пачуліся песні, найбо́льш мужчынскімі галасамі ды жаночымі — моладзь танцавала.

На палянцы ўжо стаяла на газетах (першыя гады бралі і засцілалі на траве абрусы) закусь і выпіўка. Мужчыны ўжо ўзялі чарку. Хведар прыпыніўся, зводдаль аглядаючы і палянку, і людзей: невялічкая лапінка між хвойніку, цяпер гэтакага высокага, што сонца даставала на траву і на твары людзей толькі вясёлымі неспакойнымі плямінамі. Людзей на палянцы было не многа. Каб да сённяшняга дня папытаць у Хведара, то ён бы сказаў, што на палянцы амаль уся іхняя вёска збіраецца ў дзень свята. Рэй за газетным сталом вёў брыгадзір, стрыжаны «вожыкам», крутаплечы, загарэлы малады мужчына і побач з ім далікатненькая з твару, як лялечка, ягоная жонка з малым на руках. Бацькі брыгадзіравага, Алёшы, ужо няма. А то ён вёў застолле. Далей сядзеў Пракопаў Віця, нешта гаварыў брыгадзіру і з-за гаворкі так і не выпіў налітае ў шклянку. Побач з ім сядзеў, згорбіўшыся, задумённа закусваў Пятрок. Твар у яго быў сіні ад тых кропінак, што засталіся пасля кантузіі. Цяпер ён амаль аглух, нічога не чуў, што і зараз гаварылі мужчыны, але таму, хто не ведаў пра гэта, магло здацца, што чалавек і прыслухоўваецца да гаворкі, і думае нешта сваё. За Пятром сядзеў Ванька, прытуліўшыся

плячыма да бярозы, з «шуяй» у руках, магло б здаецца, што заснуў ён, паклаўшы галаву на гармонік, каб рукі не варушылі мяхі і не хадзілі пальцы па гузіках. Ванька, як выпіваў, спачатку гаманіў і мітусіўся, потым упадаў у меланхолію, іграў сам сабе невядома што, мабыць, на хаду прыдуманае, доўгае і тужлівае.

Астатнія ўсе былі маладыя, пасляваенныя мужчыны. Па дзецях Хведар успамінаў іхніх бацькоў, якія яшчэ нядаўна сядзелі на гэтай палянцы. Многіх ужо не было на гэтым свеце, многім стала дарога толькі ад печы да парога. Спакойна думалася пра гэта. Усё гэта нібыта аднекуль зверху бачыў Хведар, нібыта падняўся ён над жыццём, адкаснуўся ад яго і таму глядзеў старонкім вокам, сумна, але без шкадавання, прымаў да сэрца тое, што ёсць,— бо і гэта як шчасце адпушчана...

— Дзе вы прапалі, дзядзька Хведар? Стаіць ваша чарка, чакае! — брыгадзір першы ўгледзеў Хведара.

Пятрок падняў галаву, паглядзеў на брыгадзіра, але не пачуў, толькі ўгледзеў Хведара, усміхнуўся — зразумеў, пра што гаварыў брыгадзір.

— Ай, Паўлуша... Але ж дзякуй, што не забыў,— Хведару хацелася сказаць, што ўспомніў яго бацьку, і не сказаў.

— Штрафную дзядзьку! — падпіта гукнуў нехта з маладых.

Хведар апусціўся на калені:

— За вас, хлопцы. Каб ні вам, ні вашым дзецям не давялося перажыць і з макавае зерне таго, што мы перажылі! За вашых бацькоў, за наш сённяшні дзень!

Пасля загаманілі. Пятрок таксама ажывіўся, расказваў, махаючы ўгору рукою, не чуючы, вядома, жартаў і не зважаючы, што з яго пасмейваюцца:

— Значыць, ядрытваю такую, пруць яны, як на парадзе. Ну, думаю, ядзяць цябе мухі, прапаў Пятро і з кухняю, і з галавою тваею дурною. Але, думаю, не аддам вам нашу яду. Значыць, ядрытваю такую, да кулямёта я! Як улупіў, аж пар з кожуха пайшоў. Ядзяць твае мухі!.. Вызывае мяне к сабе генерал і пытае: ну скажы, Пятрок, як ты атаку адбіў адзін. А я яму і расказваю, як тое было. Значыць, гавару, як даў ім, як даў, а тады яшчэ наўздагон і па с...ках, і па с...ках!

Смяяліся дружна, і не з Пятра. Ён служыў у гаспадарчым узводзе, пры кухні. І калі б і праўда здарылася з ім, не далі б веры. Смешна было ўявіць, як Пятрок дакладваў генералу, па чым лупіў адступаўшых немцаў.

Пасля вясёлае гаворкі, калі прытаміліся ёю, Пракопаў Васіль заспяваў. Голас у яго быў, як і ў бацькі, ласкавы, густы, і песню заспяваў бацькаву: пра забітага партызана, які ляжыць пад дубам, быццам спіць...

Спявалі ўсе, нямоцна, не выпінаючыся адзін перад адным, як гэта бывае ў п'янаватых кампаніях дзе за бяседным сталом.

Ванька так і не падняў галавы ад гармоніка, але ціха падыгрываў песні. І як скончылі спяваць, прыціхлі, як бытта павеяла тым ветрам, што гладзіў забітага партызана па валасах.

З лесу таксама чуліся песні, вясёлыя — «Распрагайце, хлопцы, коні» і далёкая партызанская:

Ні сястра, ні жана
Нас не жджэ ля акна,
Маці родная стол не накрые...

Некалі цясней было ў лесе ад песень. І пра гэта падумалася Хведару неяк спакойна — усё з тае дзіўнае вышыні і аддаленасці свае.

Як зайграў аркестр, пачаўся новы танец, песень амаль і зусім не чутно стала.

— Прывет, землячкі! Весялімся?

Хведар азірнуўся, угледзеў Вецікавага Геніка і ўстаў.

— Здароў. Садзіся і ты з намі павесяліся,— запрасіў Геніка брыгадзір.

— Не, я за рулём. Мне з ім пагаварыць трэба,— толькі чуць кіўнуў галавою на Хведара Вецікаў Генік.

Хведар нават не здзівіўся, нібыта і ведаў, што Генік павінен быў прыйсці сюды.

Рослы, таўставаты, як камель, па-жаночаму круглы ў плячах, з залысінамі, з даўгаватымі валасамі ў белай тэнісцы-сетачцы, у шыракаватых карычневых штанах, ён неяк быццам лена завярнуўся да Хведара.

— Слухай, мілы, ты калі перастанеш да бацькі чапляцца, га? А то я цябе некалі,— ён як нехаця, паволі працягнуў руку і ўзяў Хведара за лацкан пінжака. Толькі слабенька звонкнулі медалі.

Хведар усміхнуўся — проста, ясна было ўсё. Ён ведаў, што і як трэба рабіць, і як тады, некалі на вайне, чуў і лёгкую звонкую сілу ў целе, чуць павярнуўся, каб ударыць... і лёгка паляцеў потырч на зямлю. Здзіўлена ўбачыў перад самым вокам купінку травы вострай, здавалася, доўгай, як тая, на балоце, у тую апошнюю блакаду. Генік не ўдарыў, ён пхнуў яго ўбок і павярнуўся, каб ісці, споўніўшы пагрозу і папярэдзіўшы, паказаўшы сваю сілу і што ён не пужае.

Уставаць Хведару было цяжка, і ён не ўспеў яшчэ падняцца, як убачыў, што Ванька адкінуў гармонік, лёгка, кульгава падхваціўся на ногі:

— Ах ты, морда!..— крыкнуў і хвасянуў Геніка крывулькаю па галаве.

Той толькі на імгненне хваціўся за галаву і з пачырванелым ад злосці тварам рынуўся на Ваньку, які неяк здзіўлена і быццам спалохана глядзеў на гэтага мужчынішчу, што ішоў, як мядзведзь, на яго.

І зноў Хведару стала лёгка і ясна. Пакуль успелі падхваціцца на ногі мужчыны, Хведар завучана, з размаху ўдарыў нагою Геніка, па галёнцы, а другою рубануў рабром далоні па шыі, і Генік гамашна і цяжка рухнуў на зямлю.

Уставаў ён паволі, не паварочваючыся да людзей, дастаў з кішэні хусцінку, прыклаў да галавы, потым паглядзеў на яе. Белая тэніска яго была ў маладой зелені ад травы.

— Ах ты, Курашчуп! — успомніў ягоную вулічную мянушку Пракопаў Вася, але Хведар прытрымаў яго за руку, Генік паволі завярнуўся і пайшоў.

— Ладна, хлопцы, бог з ім. На ўсіх дурняў кулакоў не набярэшся.— Хведар ведаў, што свята парушылася, што цяжка будзе ўжо супакоіцца і пасядзець яшчэ, спакойна паспяваць і пагаварыць.

— Захацеў зарабіць — улез,— спакойна і з гонарам заявіў Ванька, і ў Хведара нешта цёпла варухнулася ў сэрцы ад успаміну, як няўклюдна, як курапатка пад ногі паляўнічаму, кінуўся ён да Геніка.

Песню заспяваць не ўспелі — паказаўся Генік з міліцыянерам. Міліцыянр быў незнаёмы, не ўчастковы, сяржант, мабыць, з райаддзела. Побач, трымаючыся за лоб, ішоў Генік.

— Што, таварышы, нарушаем? П'янствуем? — за-

пытаўся міліцыянер, малады, мабыць, толькі нядаўна з войска.

— Святкуем, таварыш сержант.— Брыгадзір устаў яму насустрач.— І вы давайце з намі!

Сержант збянтэжыўся.

— На службе.— І звярнуўся да Генiка.

Той не абазваўся, толькі паказаў на Хведара і на Ваньку.

— Прашу, таварыш, прайсці!

— Вы разбярэцеся спачатку! Ён жа першы да чалавека палез з рукамі! — усхвацілася да міліцыянера брыгадзірава жонка.

— Пастой, сержант! Ты разбярыся,— Пракопаў Вася махнуў рукою на жанчыну, каб сунялася.— Ён першы пачаў, а цябе сюды прывёў. Хай Курашчуп гэты моліцца богу, што я яго не страсянуў, а інвалід толькі кастылём агрэў! А можа, і трэба было страсянуць, каб да вечара тут праляжаў, пакуль адышоў!

— Гэта яшчэ паглядзелі б, хто ляжаў бы! — агрызнуўся Генік.

— Пакінь нас, сержант, не чапай. Табе і без нас работы хопіць. А яго з сабою забяры. Так лепш будзе,— падвёў гаворку пад канец брыгадзір.

— Ціха! — крыкнуў сержант. Ён аж пачырванеў ад хвалявання.— Мне прыказана даставіць. А будзеце мяшаць, вызаву нарад.— Сержант дакрануўся да мікрафона радыёстанцыі, які шумеў на раменьчыку на грудзях.

— Ну і вызывай свой нарад!

— Ціха, хлопцы! Чалавек на рабоце. Мы пойдзем з Ванькам, разбяромся. А вы пасядзіце, пачакайце нас.— Хведар ведаў, што мужчыны не жартуюць, не аддадуць іх.— Павел, я старэйшы, калі гавару — ведаю.

— Праўда, хлопцы, праўда,— падтрымаў Хведара і Ванька.

Ён здагадаўся, што хоча Хведар.

Ішлі павoлі. Хведар поруч з Ванькам, які адною рукою прытрымліваў гармонік, а другою апіраўся на крывульку. Сержант прыадстаў і таксама пайшоў поруч з імі.

Генік ішоў наперадзе.

8 Зак. 697

Ля жоўтае машыны з дынамікам наверсе і гербам на дзверцах сержант коратка далажыў маёру:

— Таварыш маёр, загад выкананы. Дазвольце ісці?

— Ідзіце.

Маёр таксама быў малады, гадоў трыццаці пяці, у форме, з белаю рубашкаю і чорным гальштукам. Твар у дробныя дачасныя маршчынкі, і вочы глядзелі стомлена, як у многа старэйшага чалавека.

— Яны? — запытаўся маёр у Геніка, зірнуў у паперку, якую трымаў у руках.

— Так точна. Я магу і спраўку пра пабоі ўзяць, і ў суд падаць!

Маёр затрымаў вочы на паперцы, нібыта і не пачуў апошніх Генікавых слоў, потым коратка зірнуў на яго:

— Вы свабодны, грамадзянін. Можаце ісці:

— Але, таварыш маёр...

— Вы ўсё напісалі?

— Усё.

— Ідзіце, не перашкаджайце.

І калі Генік пайшоў, маёр паглядзеў то на Хведара, то на Ваньку, спытаў у таго:

— Гэта вы яго палкаю?

— Каб знаў, што такая сволач, то і яшчэ трэба было раз лупянуць. Ён жа не напісаў, што першы Хведара на зямлю грабянуў? — задзірыста пачаў Ванька.

— Не напісаў,— спакойна адказаў маёр і зноў роўна глянуў на іх, як умеюць глядзець міліцыянеры на ўсіх тых, хто «парушае».

— А за што? За тое, што яго бацьку, батальёнца, не пусціў на машыну сюды ехаць!

Маёр зірнуў на Хведара, і ў вачах у яго на імгненне ўспыхнула цікавасць, ён нібыта чакаў, што скажа Хведар. Але Хведар ведаў, што гаварыць яму трэба доўга, ды і ці раскажа ён усё, каб было зразумела гэтаму міліцэйскаму маёру.

— А што будзе, як кожны пачне сёння кулакі распускаць? Што загадаеце рабіць? — запытаўся ён у Хведара.— Старыя заслужаныя людзі, ветэраны...

Маёр акуратна, учатыры, склаў лісцік паперы.

Хведар горка ўсміхнуўся — маёр і не чакаў, каб яму тлумачылі. Яму было і так усё ясна...

— А што нам, маўчаць, як з кулакамі лезуць? —

усё яшчэ храбрыўся Ванька, збянтэжаны маўкліваю ўпэўненасцю маёра.

— Паўлаў, вазьміце машыну і завязіце таварышаў дадому,— загадаў ён пажыломму, таўставатаму сержанту.— Толькі раз-два — і тут.

— Ёсць. Прашу! — сержант блазнавата падміргнуў мужчынам чорнымі вачыма і адчыніў дзверцы машыны.

— Дзякуем, таварыш маёр,— разгублена падзякаваў Ванька. Маёр толькі кіўнуў галавою і не ўсміхнуўся. Хведар таксама падзякаваў маёру лёгкім кіўком галавы.

Калі машына хутка ўзяла з месца, Хведар азірнуўся на маёра: той разарваў паперку, якую трымаў у руцэ і кінуў абрыўкі пад куст.

— Куды кіраваць, гавары, паны ветэраны? — запатрабаваў шафёр.

— Направа, браток! Наша дзела правае! — ахвотна абазваўся Ванька і на роспыты вясёлага міліцыянера ахвотна расказваў, як і ён ваяваў з Генікам, і міліцыянер весела смяяўся і перапытваў:

— Гаворыш, як твая Мар'я па табе чапляёю, так ты яму крывулькаю?

Развяселены Ванька перад самаю вёскаю пачаў угаворваць шафёра, каб той уключыў сірэну, хай усе ведаюць, як іх вязуць з гонарам, а сам збіраўся ўрэзаць марша. Хведар не даў яму зрабіць гэтага, вылез ля дома, развітаўся з міліцыянерам і, калі зайшоў на свой двор, пачуў, як Ванька ўсё ж урэзаў марша, выглянуў за вароты і ўбачыў, як паміргвала над міліцэйскаю машынаю вясёлае сіняе святло трывожнага маячка.

Хведар пастаяў на дварэ, падняўшы галаў, падстаўляючы твар да негарачага, ласкавага сонечнага святла, паслабіў гальштук, расшпіліў рубашку на грудзях, паглядзеў на сад, які рыхтаваўся зацвісці, толькі цяпер адчуў, як здрыганулася сэрца — дасюль яно быццам бы акамянелае было і не адчувала болю.

Паволі, ужо не адчуваючы ні вясновых пахаў, ні сонца, толькі боль у сэрцы, Хведар асцярожна пайшоў у хату, паволі лёг на ложак ля адчыненага акна, усміхнуўся — раптам падумалася, што і на свята, на палянку, ён прыехаў адтуль, дзе ляжаць яго сябры-муж-

чыны, прыйшоў і пагасціў, і нават паваяваў. Недарэчная гэта думка развесяліла яго, і не гэтакім моцным здаўся боль. Падумалася, што яшчэ ён выжыве, пажыве...

Старая, калі вярнулася ў хату, угледзела гаспадара, які прыехаў не ў пару дадому і ляжаў на ложку адзеты, зжахнулася, не магла закрычаць — заняло мову, але ўбачыла, што Хведар расплюшчыў вочы, з палёгкаю загаварыла:

— Ды гэта мо і ты насцёбаўся, як Ванька, што на міліцэйскай машыне дадому прывезлі?..— і асеклася, убачыўшы, як ад болю скрывіўся гаспадароў твар, зашамала на кухню накапаць кропель ад сэрца...

*1977*

# ПАЎСТАНАК ВЯРТАННЯ

Добра прыгравала сонца, якое свяціла ўжо не самым высокім, журботным святлом. І поле пад ім ляжала без канца прасторнае, крыху засмучаным здаваўся далёкі далягляд, а ў сэрцы глыбока, як далёкі ўспамін, пачынала варушыцца тая даўняя, з хлапчукоўства знаёмая туга, якая ахіляе чалавека ў пустым восеньскім полі, што зняможана і пуста ляжыць шызавата-попельным крылом восеньскага ворыва, пацямнелым ад дажджу і быццам выкачаным іржышчам...

Каляда прыпыніўся, паправіў на плячы папругу стрэльбы, зняў берэтку, выцер спацелы лоб, прыжмурана паўглядаўся ў палявую далечыню.

Цішыня і спакой ляжалі на полі. У лагчыне пры дарозе вялі лісцем тры разложыстыя лазовыя кусты, з якіх упала долу першае яркае, поўнае соку лісце, нібыта нетутэйшая страката-яркая птушка згубіла сваё пер'е. Там жа ўзбоч дарогі маленькім рыжаватым лапікам куп'іста стаяла асака ў высахлым за лета лужку.

Не было адчування свае гаспадарскасці ў полі, якое ён памятаў з дзяцінства, недарэчным здаваўся ён тут у чаравіках-скараходах, у штармоўцы, якая вісела прасторна на яго хударлявых плячах. Ды і даўно ён не паляўнічы, і няма чаго рабіць у гэтым полі паляўнічаму...

Не, сабраўся, паехаў, як не ставала клопату ў горадзе. Хоць бы выспаўся, пасядзеў дома як чалавек.

Каляда ведаў, што дома не спалася б і не сядзелася.

А каб сказаць каму, з-за чаго пагнала яго ў гэтае поле? Засмяяліся б людзі. Можа, і праўду гавораць, што волас на сівае, а галава на дзяцінае...

...Яна цалавала яго ў губы, шыю пяшчотнымі вуснамі, якія бываюць толькі ў маладосці. І ўсё цела яе было маладое радаснае яму, і ў яго аж заходзілася сэрца ад любові да яе, ад таго, што яна гэтаксама без памяці любіць яго... І рукі, якія абвілі яго за шыю!..

Каляда адчуваў на сабе гэтыя рукі, калі прахапіўся ад сну, з жахам успомніў, што побач жа жонка.

Сеў.

Жонка спала, завярнуўшыся ад яго, спакойна і моцна, акуратна акрыўшыся коўдраю. Каляда з палёгкаю ўсміхнуўся са свайго спалоху: тая, што снілася, маладая, і была ягоная жонка, толькі даўняя, амаль дзяўчынка...

Каляда пакруціў галавою — чаго не ўваб'еццa чалавеку ў галаў! Кінуў вокам на жонку — быццам хацеў успомніць, ці ўмела яна гэтак любіць і мілаваць? І не ўспомніў.

Жонка не пачула, як ён устаў, адзеўся ў трэніровачны касцюм, асцярожна выйшаў на балкон.

Высокая месячная ноч стаяла над зямлёю, прыпарушаная лёгкаю наміткаю белае журбы і напоўненая ціхаю ўрачыстасцю. Ніводнае акно не свяцілася ў суседніх дамах. І не халаднаватасцю, а цяплом ахінала ўсё ноч...

Каляда памятаў, што гэтая ноч ужо была ў яго. Гэтае ж самае пары, на стрэчанні лета з восенню, калі яшчэ многа на зямлі цяпла і ласкі, над якою заходзіць ужо крыло ранняе цяжкаватае вераснёўскае пазалоты і жаўцізны.

Ён прыкурыў цыгарэту, аж захлынуўся вострым, салодкім водарам цыгарэтнага дыму — і ўраз успомніў і пах дыму, і атаўнага сена, складзенага ў копы, пах блізкае рэчкі, і гэтакую цішыню і святло месячнае ночы. І адчуў тыя саснёныя пацалункі і тую маладую радасць дзявочых рук...

— Табе хіба нядобра стала? — жонка стаяла ў дзвярах на балкон.— Чаго-та то ўспароўся сярод ночы і курыш? На першую ж змену ўставаць.

Каляда нічога не адказаў, глядзеў на суседнія дамы, чуў, як адплывае пах прылеглага расою сена і гаркавы прывялага лазовага лісту.

— Во месяц вылупіўся. І праўда, хоць іголкі збірай,— жонка сцепанула плячыма.— Лажыся ідзі...

Ён ведаў, што нічога не скажа жонцы і нічога не зможа растлумачыць, бо і сам не ведае, скуль і чаго раптам выплыла ў памяці тое? Паўжыцця ягонага прайшло, усё змянілася і перамянілася. Тады маладосць была, цяпер амаль старасць. Дачку замуж аддаваць пара...

Ён дакурыў цыгарэту, паглядзеў, як падаў з балкона чырвоны агеньчык цыгарэты — і рассыпаўся на зямлі кароткімі маленькімі іскаркамі.

У спальні ён завесіў акно, але доўга не мог заснуць, прыслухоўваўся, углядаўся ў столь...

З узгорка Каляда ўбачыў трактар, які — здалёку гледзячы — лёгка і весела ішоў па полі, пакідаючы за сабою крыху цямнейшую, не гэтакую шэрую, як астатняе ворыва, палоску раллі. Ён нібы спяшаўся дацямна заараць нешырокую стужку ржышча, пакінуць у спакоі поле, падобнае на мора ў дробненькія хвалі, са светлымі астраўкамі саламяных сціртаў.

Толькі цяпер, як угледзеў трактар, Каляда ўспомніў, што чуў яго даўно, але не выдзяляў маторнага гулу з палявое цішыні — гэтак адразу паверылася, што поле ўжо адно, само па сабе да зімы і на ўсю зіму.

Няўтульна стала ад таго, што яго нехта можа сустрэць тут, са стрэльбаю ў чыстым полі, дзе няма ніякае дзічыны. Калі хочаш — і знаёмы хто.

І адчулася недарэчнасць таго, што ходзіць ён у гэтым полі, стомленасць. Каляда падаўся да бліжэйшае сцірты, зняў стрэльбу, утуліўся плячыма ў жорсткую салому, якая чуць запылела і запахла цёплым і казытлівым саламяным пылам.

Прыплюшчыўшы вочы, Каляда глядзеў у поле, на трактар, за якім плавала сухое воблачка пылу, слухаў, як гудуць ад стомленасці ногі, як моцна стукае сэрца і як утамілася ўсё ягонае цела. Жонка праўду гаварыла, што не патрэбна яму гэтая язда і паляванне. І толькі тут, пры сухім цяпле саломы Каляда нават не падумаў, а адчуў, што староннi і чужы ён у гэтым некалі сваім полі, па якім хлапчуком хадзіў за плугам... Бо і ён даўно не той хлапчук, а вопытны, стары ўжо токар, заслужаны рабочы чалавек. Рукам ягоным паслухмяна цяпер не зямля, а жалеза. Ды не толькі мяняюцца людзі, мяняецца і зямля...

Каляда цяпер цвяроза і разумна ведаў, што адпачне і пойдзе на паўстанак да цягніка.

Ён заплюшчыў вочы і прыслухоўваўся тварам да сонечнае цеплыні.

Даўней на гэтым месцы, мабыць, было возера, бо і назва лугу засталася незямная — Возера. Пачынаўся луг адразу ў канец вёскі шырока і роўна, толькі два ўзгорачкі высіліся на ім — палянкі. Атаву па лузе касілі не ў калгас, а сабе, на працадні.

Дні тады стаялі цёплыя, нават душнаватыя, і не толькі луг, а і ўся вёска пахла прывялаю атаваю, а потым і сухім сенам, якое, каб схаваць у хлявы да дажджу, вазілі цэлы дзень і нават познім вечарам, калі стала цёмна і ўзышоў вялікі месяц.

Ад лёгкае расы памякчэла пад нагамі кароткая тугая пакоша, зажурыўся белаватым начным смуткам нешырокі начны далягляд з рэдка пастаўленымі копамі і адзінокімі — бліжэй да рэчкі — кустамі.

Ён тады не паехаў разам з бацькам на возе. Пастаяў, паслухаў, як парыпваюць гужы і чыркае, прыціраючы па ручцы кованым вобадам, кола, удыхнуў востры пах тытунёвага дыму, які застаўся ў паветры ад бацькавае цыгаркі. Паволі пайшоў да ракі.

Якраз тут, на Возеры, была глыбокая завоіна, як гаварылі, Коньскае — шырокі плёс, дзе і конь мусіў плысці. Вакол завоіны раслі кусты, нізкі бераг выслізганы і вытаптаны мокрымі нагамі, як і ўсюды на купнацы.

Каляда пастаяў, дзівячыся спакойнаму густому водсвету восеньскае вады, потым асцярожна, мацаючы нагамі хрумсткае, з тугога мыльцу дно, ступіў у ваду, густую ўжо, восеньскую, сцепануўся ад холаду, але ішоў наперад, туды, дзе роўна, як шкло, ляжаў водсвет поўні. Нейкая слодыч была ў жаданні паплысці, парушыць гэтую спакойнасць. На імгненне мільганула цвярозая думка, што разагрэтае цела ў вадзе можа скруціць сутарга — і ніхто не ўбачыць і не дапаможа. Але думка гэтая бытта паддражніла. Вабіла белая месячная сцяжына на вадзе. І Каляда, як толькі пачуў, што лізнула нагу слізкая пасма водарасцяў, плашчаком упаў на ваду і паплыў шырокімі моцнымі сажонкамі, прыслухоўваючыся толькі да вады і да свайго здаровага кожным мускулам цела.

Калі вярнуўся назад, стаў на беразе, не адчуваў холаду, горача і молада звінела ў целе кроў, і радасна было глядзець, як хвалюецца і не можа супакоіцца і застыць вада.

І толькі калі адзеўся, расчасаў валасы, адчуў, што над рэчкаю выплывае туман, сцепануў плячыма і пайшоў да вёскі. Чым далей адыходзіў ад рэчкі, здавалася, што зноў уваходзіў у ваду, толькі цёплую і нячутна мяккую.

— Ой, хто гэта?

Каляда аж здрыгануўся, бо не чакаў чалавечага голасу: дасюль ён ведаў, што адзін застаўся ў гэтым лугавым прыволлі, як уладар яго. Голас быў стрывожаны, але не спалоханы, дзявочы. Ён убачыў пры капе невысокую тонкую постаць у белай з чорным гарошкам сукенцы. Пазнаў Юліну Жэню, хоць у месячным святле было нешта ў ёй незвычайнае, танчэйшае і лягчэйшае. І яна пазнала яго.

— Што ты тут робіш?

— Маці адправіла копы пільнаваць.

— Хто ж іх ухваціць?

— А ты хіба не ведаеш нашае мамы?..— запыталася Жэня і асеклася, як засаромелася нядобра гаварыць пра маці. І не сыходзіла з месца, стаяла, апусціўшы рукі і чуць нахіліўшы галаву, глядзела на яго.

Каляда міжволі неяк ішоў да яе. Ён і на вячорках часам лавіў на сабе яе позіркі і злаваўся, бо іх заўважалі хлопцы таксама і пачыналі падсмейвацца.

— Усе ж ужэ раз'ехаліся, ніхто не бярэ...

Ён не пазнаваў свайго голасу, спыніўся перад дзяўчынаю разгублена, не ведаючы, што рабіць, і неяк міжвольна працягнуў рукі...

І пасля яму здавалася, што найшло тады месячнае зацьменне. Не было ні святла, нічога, былі толькі гарачыя, салёныя ад слёз пацалункі і яе ласка, якое не магло стрываць, здавалася, ягонае сэрца. Адчуваў скрозь тоненькую сукеначку тугую завязь яе грудзей, чуў, як соладка замірала яна, і сам быццам апускаўся ў гарачы салодкі туман, чуў толькі ласку яе рук і пацалункі...

А можа, і сапраўды было тады месячнае зацьменне? Бо пасля ён прыгледзеўся да Жэні і ўбачыў яе дробненькі ў рабаціінні твар і бедныя, растрапаныя бялявыя валасы, і чым больш цверазеў, не разумеў тае невядомае сілы, якая была ў гэтай няўдаленькай, недагледжанай дзяўчынцы. Яна бытта адчула гэты

яго позірк, неяк вінавата сцялася і толькі пакорліва пазірала на яго.

Ад рэчкі халадком наплываў туман. Ён падняўся. Усхапілася і яна.

— Пайду, там бацька даўно прыехаў. Сена ўкідаць трэба.

— Ага... А я яшчэ троха пабуду, бо мама...

Яна не дагаварыла, падцяла губы і адвярнулася.

Ён ведаў, што сена і заўтра будзе ляжаць на двары і яна ўбачыць гэта.

Пакуль выйшаў да вёскі, аж угрэўся — спяшаўся як найхутчэй вырвацца з месячнага бязлітаснага святла. Баяўся, што яго ўгледзіць хто тут і пусціць па людзях, што быў ён з Юльчынаю Жэняю. І ў гэтым было нешта нявартае яго... Што менавіта з Юльчынаю Жэняю...

Пасля, цераз многа гадоў, калі яшчэ начамі ні з таго ні з сяго сніліся зямля яго дзяцінства, яе людзі і жыло ў сэрцы незразумелае вострае адчуванне віны, тады, калі сны былі гэтакія яркія і свежыя, што пазнаваў ён нават каменьчык, які вытыкаўся на ўтоптанай босымі нагамі сцяжынцы на родным двары,— тады ведаў ужо, чаму саромеўся Жэні: з-за таго, што пасміхаліся ўсе ў вёсцы і з яе маці, і з іх, усіх Юліных дзяўчатак. І яны, мабыць, адчувалі гэта... Тады, як успамінаў, шкадаваў і самую Юлю, галодную і халодную, лапатлівую бесталковую бабу, хоць і рабацяшчую. Гаварылі, што да вайны, пры гаспадару, і яна была добраю гаспадыняю і ніхто не пасміхаўся з яе.

У вёсцы нават прымаўка была: «Пашыла, як Юля нападрост». Бо сваім дробненькім дзяўчаткам шыла яна сукеначкі нападрост, а тыя дзяўчаткі і не надта раслі, так і зношваліся сукенкі, не дачакаўшыся падросту.

Тае восені Каляда паехаў у ФЗВ. Калі пасля і наязджаў да бацькі, стараўся не сустрэцца з Жэняю.

Дзе было яму тады, маладому гараджаніну, зразумець тую вясковую беднасць, з якое па вясковай дурасці смяяліся, нават здзекаваліся. А хто выехаў у горад, лічылася, у людзі выбіліся, і яны лёгка выракаліся ўсяго вясковага...

Ачнуўся ад дрымоты і ад успамінаў Каляда раптоўна, як прачынаецца ад сну стомлены чалавек, што на некалькі хвілін звёў вочы, і адчуў сябе саўсім здарава. Ён неяк здзіўлена азірнуўся навокал — бы хацеў уразумець, дзе гэта ён і з-за чаго тут, у гэтым чыстым полі, устаў і заспяшаўся да дарогі цвёрдаю і шырокаю ступою — каб успець да цягніка на паўстанак.

Але сесці ў цягнік і паехаць не ўдалося. У цесным пакойчыку чакання, дзе паўз сценкі стаялі лаўкі з гнуткае фанеры, падрапаныя і распісаныя імёнамі і прозвішчамі, нібы нехта знарок некалькі дзён рабіў гэту работу, акенца касы было прачынена, праз яго відцеўся чырвоны аколыш фуражкі дзяжурнага.

Каляда паглядзеў расклад і ціха мацюкнуўся — цягнік на горад ішоў недзе апоўначы. На прыгарадны ён спазніўся на хвілін пяць.

Дзяжурная, мабыць, пачула крокі, выглянула з касавага акна, прыжмурана прыглядалася, нібыта намагалася пазнаць, і папярэдзіла:

— Поезд ноччу толькі будзе.

Каляда кіўнуў галавою, што ведае, але гаворкі не пачаў, глядзеў у акно, пакуль дзяжурная не пайшла. Яму таксама здалося нешта знаёмае ў абліччы дзяжурнае, але ўспомніць яе ён не мог...

Сядзець у гэтым цесным пакойчыку больш шасці гадзін не было як. Але і выходзіць з гэтых сцен не хацелася. Хацелася толькі аднаго: незаўважна знікнуць адсюль, без следу, без сустрэч і размоў. Усё роўна як увабраўся ў чужы сад, а ўцячы няма як.

Ён паволі выйшаў з будынка і рушыў да вёскі, міжволі прагна прыглядаючыся да яе. Шыракаватаю вулачкаю Каляда ўвайшоў у вёску, прайшоў па вуліцы, высока падсыпанай гравіем, з водаправоднымі калонкамі. У канцы павярнуў направа, да аўтобуснага прыпынка,— цаглянага паднавесніка, як пры асфальтавых міжгародніх дарогах.

Каляда з палёгкаю ўздыхнуў, прачытаўшы расклад — да райцэнтра будзе яшчэ аўтобус. Пастаяў, прыжмурана прыгледзеўся туды, дзе відна была яго-ная вёска. Быццам паніжэлі пагоркі, на якіх стаяла яна, і сама карацейшаю стала, і маленькаю супроць новага пасёлка і цэнтральнае калгаснае вёскі. Толькі векавая ліпа з буслянкаю ўсё гэтак жа, як і раней, зда-

лёку значылася над вёскаю і цяпер здавалася нібыта яшчэ вышэйшаю. Ці гэта так аддаляла і прыглушала зрок туманлівая восеньская зажуранасць, як захіляла лёгкім дымам...

І чамусьці зноў варухнулася ў душы забытае, пахаванае гадамі адчуванне нейкае свае вінаватасці, якое было вастрэй, калі прыязджаў некалі ў госці да вяскоўцаў... А цяпер, з гадамі, усё бытта супакоілася: адным горад, другім вёска... Такое жыццё... Недарэчна вінаваціць сябе, што не застаўся тут.

Каляда кінуў рукзак пад галаў, і асалодаю выпрастаўся на лаўцы і, заплюшчыўшы вочы, апускаўся ў цеплаватую вечаровую цішыню, здавалася, нават некуды плыў у гэтай цішыні, лёгенька пакалыхваючыся...

— А хто гэта ўжэ тут улёгся?

Каляда падхапіўся.

Ля самае лаўкі стаяў матацыкл, і на ім сядзела жанчына ў камбінезоне, з туга завязанаю на патыліцу хустачкаю, у хромавых ботах і кароткімі халяўкамі.

— Ой, я думала, гэта хто з нашых ужэ намурзаўся, што дадому не дайшоў...

Жанчына намацвала нагою завадны рычаг.

Нешта знаёмае падалося Калядзе ў жанчыне. Ды і яна раптам прыгледзелася да яго:

— Няўжо гэта ты? Дальбог! Гэтулькі гадоў прайшло!

Каляда нічога не гаварыў. Ён ужо ведаў, што гэта Жэня. І самае дзіўнае было, што яна не змянілася. Гэтакі ж у рабацінні дробны твар, рэдзенькая пасмачка бялявых валасоў выбілася з-пад хусткі. І гэтакая ж невысокая, спраўная. Як дзяўчына ўсё роўна моцная.

— Гэта ж ты, мабыць, і хадзіў па полі сёння, як адзінокі журавель? А я гадала і ўгадаць не магла! Аўтобуса чакаеш? Вой, садзіся, паедзем да мяне. Паглядзіш, як я цяпер жыву! Паехалі! Заўтра зранку на поезд сядзеш.

Каляда паволі ўскінуў на плячо рукзак. Ён бачыў, як шчыра зарадавалася яна, дзівіўся яе спраўнасці і маладжавасці, і радасць гэтая перадавалася і яму, зближала іх, расхінала тую занавесь часу, якая раздзяляла іх.

— Няма як,— слаба запярэчыў Каляда, хаця ад-

чуваў, што паедзе з Жэняю, што цягне яго паехаць, як вярнуцца ў маладосць.

— Мы ж пра цябе і чыталі, і ў целевізары бачылі. Аж неяк не верылася, што гэта ты такі стаў.— Жэня гаварыла і ўсміхалася, тыльным бокам далоні правяла па лбе, як гэта робяць тыя, чые рукі прывыклі да работы з жалезам і мазутаю.

— Садзіся!

Жэня завяла матацыкл, пачакала, пакуль сеў Каляда, і акуратна кранулася з месца. Кіравала яна матацыклам спакойна, гаварыла да Каляды. Ён чуў, што нешта радаснае, але за ветрам і за трэскам матора не разбіраў, што яна гаворыць.

Спынілася яна каля па-цяперашняму прасторна зробленае хаты з пагабляванага бярвення, якое пафарбавана сурыкам.

— Як сышліся мы з Віктарам, калгас нам крэдыт даў... Каб не той крэдыт, то, можа, і я б не засталася тут сядзець. Сёстры ж мае хто дзе... Вера аж у Самаркандзе.

Каляда зайшоў следам за ёю на двор. Жэня адамкнула дзверы веранды, запрасіла:

— Заходзь, здымай з сябе гэты мяшок. А я зараз...

Каляда агледзеў дамоўку. Непрывычнае нешта было ў ёй. І асфальтаваная дарожка ад варотцаў да ганка, і фарбаваныя са штыкетніку платы. Хлеў стаяў воддаль за хатаю, упоперак сядзібы, і да яго быў з вуліцы асобны ўваход. І ўсё акуратна прыбрана, як не ў вёсцы жывуць людзі, а ў горадзе. Цераз двор за плотам стаяў немалады, багаты сад, з акуратна падпёртымі ацяжэлымі ад яблыкаў галінамі, і цымянтовы калодзеж.

— Заходзь, заходзь, чаго ты стаіш. За верандаю рукамыйнік, спаласніся, калі хочаш, лягчэй стане.

Жэня пераадзелася ўжо ў чорную спадніцу і белую без рукавоў кофтачку. І здалася цяпер зусім дзяўчынаю, тою, далёкаю.

Каляда адвёў позірк, саромеючыся, што яна адчуе яго.

Жэня вынесла з хаты ручнік, запаліла на верандзе газавую пліту, бразгала пасудаю ў буфеце.

Вада ў рукамыйніку прыгрэлася за дзень, не апякала холадам, а прыемна асвяжала, маладзіла цела,

і добра было чуць яго пад рукамі, тугое, мускулістае. Ён не саромеўся Жэні, якая магла бачыць яго цераз акно веранды, адчуваў нейкую сваю ўпэўненасць, паўнапраўнасць тут...

Жэня паспела не толькі прыгатаваць вячэру, але і ўхадзіцца — пакарміць курэй і свінчо. Каляда, каб не замінаць ёй, сядзеў на лавачцы пры плоце, курыў, прыслухоўваючыся да цёплае і ціхае журботнасці восеньскага надвячорка з лёгкаю астудаю ў паветры, з парывістым, як шолах крыла ўспуджанае птушкі, шэлестам лісту на бярэзіне пры вуліцы і гулкім кароткім, як удары сэрца, стукам ранніх ападаў у садзе. І разам з гэтым вечарам, які вяртаўся да яго аднекуль здалёку, бытта і ў цела вярталася маладая звонкая сіла... І ён ужо ведаў, што гэта з-за яго молада, як падмеценая, завіхаецца Жэня. І бытта звязалася даўно абарваная нітачка, якая пачыналася недзе там, у дзяцінстве, і канчалася недзе тут, цяперашнім вечарам. Каляда цяпер спакойна ведаў, што ніякае вінаватасці яго не можа быць, што сюды ён можа прыехаць у любую пару, раўнапраўны, паважаны...

Жэня першая пачула матор і подбегам падалася да варотцаў, адчыніла іх.

На «ІЖы» пад'ехаў да парога і спыніўся хударлявы, да чорнага загарэлы мужчына, коратка зірнуў на Каляду, паставіў матацыкл на падножку. Да матацыкла была прывязана рыдлёўка, коссе і закручаныя ў анучку касы. Мужчына паклаў на сядзенне лёгкую шэрую шапку, паправіў густыя, без сівізны чорныя валасы і завярнуўся да Каляды. Пад выгаралаю да белага брызентаваю курткаю была расшпілена на грудзіне клятчатая рубашка. І ўвесь ён, прысадзісты, жылісты, дачарна загарэлы, сухі, быў як з жаўцелага скамянелага ядлоўцу.

Краем вока Каляда заўважыў, што Жэня ўсё стаіць пры варотцах, любуецца мужам, з тою мяккаю ласкавасцю, як цешыцца маці дарослым любімым дзіцем.

— Віктар! — мужчына падаў руку і ўсміхнуўся, стомлена і спакойна, як старому знаёмаму. І вочы яго ўспыхнулі нечаканаю дзіцячаю валошкаваю сінявою.

— Васіль Антонавіч,— прывычна назваўся Каляда, уражаны гэтым чыстым блакітным позіркам, і спахапіўся, што не трэба было так, што нібыта ў нечым адмежаваўся ад Віктара.

— Віця, гэта сусед наш... Помніш, у целевізары глядзелі, я гаварыла,— Жэня ўзяла ў мужа куртку, шапку.

— Я пазнаў. Ты яблыкаў бы дала Антонавічу...

Гэтым «Антонавіч» ён як бы паправіў Каляду.

Пакуль ён ставіў у гараж матацыкл, мыўся, Жэня накрывала на стол на верандзе, але ўспявала да мужа, стаяла з ручніком напагатове і ўсміхалася яму.

Каляда, які ўжо даволі ўпэўнена адчуваў сябе тут, нават нейкім крыху і галоўным, цяпер здагадаўся, што не перад ім гэта Жэня старалася ўходжвацца і гатаваць вячэру, што яна ўвесь час чакала Віктара, каб пабегчы насустрач, як толькі чуцён стане матор, каб адчыніць варотцы,— і гэтая здагадка кальнула яго чамусьці недарэчнаю крыўдаю, нават і не крыўдаю, але зачапіла за нешта жывое...

За сталом Каляда спачатку прыглядаўся да гаспадароў, стараўся менш гаварыць, не піць многа, каб не ап'янець, але і не піць разам з Віктарам, прапускаць чарку не хацеў. І не заўважыў, што пачынае хмялець, хаця і падумаў, што Віктар ужо лішне горача гаворыць.

Каляда сам пачаў гаворку пра рэчкі, якія паасушвалі, і пра тое, што з-за меліярацыі вада пачала прападаць у вёсках. Віктар нечакана пачаў заступацца за меліярацыю, гаварыць прапіснае пра карысць ад яе і не заўважаў, што Каляда знарок, асцярожна «падводзіць» яго...

Жэня, якая заўважыла гэтую падводку, умяшалася ў гаворку, перавяла яе на другое.

— Цяпер гавораць, што меліярацыя шкодзіць, некалі казалі, што бабам на трактары рабіць таксама няма як.

— А я і цяпер гавару, што не жанчынам на трактары рабіць! — запярэчыў Каляда, горача і рашуча, недзе яшчэ слаба здагадваўся, што загаварыла чамусьці пра гэта Жэня знарок і што не трэба яму лішне гарачыцца.

— Чаму? Думаеш, ля станка лягчэй стаяць бабам? Я тут хоць ветру з поля ўдыхну, натамлюся — прылягу, паляжу... Я цяпер не прамяняю трактар на станок... Думаеш, каб не трактар, мела б я гэту хату, думаеш, Віктара б мела? А так сама падняла ўсё... Папробуй той бабе пастой ля станка, а пасля яшчэ ў магазіне, адале дома... Дзіва што яны ў тым горадзе дзяцей радзіць не хочуць.

— Не, не ўсё ў гэтым. Я лепш ведаю і магу расказаць...

Каляда не заўважыў, што Жэня, гэтак жа, як ён толькі што Віктара, «заводзіць» яго...

— ...І таму я саўсім цвяроза гавару: хлопца вашага вазьму пад свой кантроль, во такога спецыяліста на заводзе зраблю. Ты знаеш, мяне там паслухаюць... Я сам некалі не верыў, што можа ўпадабацца, а хоць раз як пачуеш, што жалеза рукам паслухмянае, як цеста... Тады не пакінеш работу, майстар з цябе будзе!

Каляда гаварыў праўду: ён змог бы ўсё, каб Жэнінага хлопца зрабіць харошым рабочым, навучыў бы пачуць радасць рабіць работу з жалезам.

— Тут жа цяпер не асталося і дзяўчат... Горад ёсць горад. Яшчэ мы застанем, што не стане вёсак, гарадкі будуць. Тралейбусамі ў поле на работу ездзіць будзеце,— пажартаваў Каляда, па Жэні і па Віктару адчуў, што яны не згаджаюцца з яго прапановаю і што не патрэбна яна ім — і няма як адмаўляцца ад ласкі, якую ён ім дае.

— Ой, Вася, я яшчэ і тут дажыву, і на работу на матацыкле праезджу. А не, вот машыну купім. Дачка пайшла ў горад, вучыцца. А хлопец хай пры нас будзе. У Алега тут дзеўка харошая, любіць ён яе,— сказала Жэня, каб Каляда зразумеў, што пра гэта даўно перадумана і раздумана.

— Ну, я б свайму за дзеўку...

Каляда недагаварыў, што б ён свайму, бо не думаў пра тое.

— А што тут... Бацькі яе харошыя, сама добрая дзеўка. А Алег ужэ тры гады летам за памочніка камбайнера. А гэтага лета, як захварэў Казёл, паўжніва камбайнерам прарабіў... Матацыкл за свае грошы купіў... Ён хлопец сур'ёзны,— растлумачыў Калядзе

Віктар, як не пра сына, а пра дарослага чалавека, якога ён добра ведае і паважае.

— А некалі і веласіпед дзіва быў, помніш, Жэня. Хлеба кавалка не было. Я добра памятаю цябе, сядзіш пад плотам, зялёную скарынку жуеш, што за шахаўкаю знайшла. І хвалішся, што смачная, што грому не будзеш баяцца...

— А-а! Давайце лепш выпіце, мужчыны!..

— Цяпер, здаецца, і няпраўда, як успомніш,— Каляда і сапраўды адчуваў сябе, быццам глядзеў у тое далёкае, як уніз, у калодзеж, і соладка таемна, як у дзяцінстве, цягнула туды, адгукалася далёкім голасам.— Ты помніш, Жэня?

— Перастань, Васіль. Налівай, Віця, па чарцы, а то ноч ідзе... Не завярнуў бы, каб на тое пайшло, туды аглоблі ніхто, і ты б не завярнуў! Я сваімі рукамі зарабіла і на гэту хату, і сям'ю зрабіла. І не буду дурною і не вярнуся ні ў тыя балоты, ні да таго сярпа! — Жэня па-мужчынскаму выпрастала плечы і спахапілася змякчыць сказанае: — Машыну зараз з Віцем купім...

Каляду яе словы ацверазілі. Ён нібыта адхінуўся ад тае чорнае прорвы калодзежа, на самым дне якое абманліва адсвечвалася блакітная вышыня неба. І зразумеў, што нічога таго Жэня не ўспомніла і, мабыць, не хацела ўспамінаць, і адчуў, што тут ягоныя і абяцанні, і паслугі не трэба, і ягонае старшынство за гэтым сталом не прызнаецца, першы падняў чарку...

Жэня пайшла спаць, пакуль Каляда з Віктарам, абодва падвяселеныя, на поўным сур'ёзе разабраліся з Кітаем, з амерыканскімі крылатымі ракетамі, з Анголаю і Егіптам. Міжнародныя пытанні яны вырашылі аднадушна, грунтоўна...

Спаць Каляда лёг у садзе, у будане, на чыстай пасцелі, пасланай на свежым сене. Заснуў адразу і лёгка, скора прачнуўся з яснаю галавою і лёгкім целам, паглядзеў на гадзіннік, які саленавата свяціўся фосфарам лічбаў на цыферблаце — было без дванаццаці хвілін дзве гадзіны апоўначы, асцярожна вылез з будана.

І неяк спалохана прыслухоўваўся да сябе, бы з ім здарылася нешта ненармальнае. Бела і высока стаяла

поўня ў высокай сваёй сумоце. Быццам з тае, далёкае юнацкае вераснёвае ночы. Ці сама тая ноч вярнулася, паўтарылася насуперак усім законам жыцця, быццам жыццё завяршыла нейкі свой круг?

Каляда асцярожна, як крадучыся, ступіў ад будана, скалануўся, апёкшыся аб халоднае, напацелае ад расы лісце яблыні, прайшоў да варотцаў на двор, пастаяў, уважліва прыглядаючыся да вокнаў хаты, якія бліскуча адсвечвалі месячным святлом, нібы хацеў пра нешта здагадацца ці разгадаць, і быццам разгадка гэтая была там, за вокнамі, а не ў ім самім...

Раніцаю Каляду пабудзіў Віктар. Чарку на дарогу Каляда браць не хацеў, выпіў вялікі эмаліраваны кубак сырадою.

— Яна раніцаю паспаць любіць, як дзіця... Я ўжэ не будзіў яе,— як просячы прабачэння за Жэню, сказаў Віктар.— Утоміцца ж за дзень на трактары.

І ўсміхнуўся, нечым падобнаю на Жэніну, добраю ўсмешкаю.

Каляда і не шкадаваў, што не праводзіць яго Жэня, але з нейкаю непрыемнасцю падумаў пра Віктара — сам бы, здаровы, сеў на трактар.

І той нібы пачуў яго думкі, гаварыў:

— Яна, бач, не любіць, калі пра тое, як яны жылі, успамінаюць. За мяне замуж пайшла, бо ніхто ж не браў... А я туберкулёзам хворы быў. Села на трактар, грошы зарабіла, мяне вылечыла, хату пабудавала... Гэта ўжэ цяпер я абмацаваўся. А то ўсё сама, гаспадыня... Так што, Антонавіч, прыязджай у госці. Па яблыкі прыязджай, бачыш, колькі іх! А можа, падвязу на матацыкле на паўстанак?

— Не, не, дзякуй. Давай я табе адрас свой запішу, тэлефон, будзеце ў горадзе, заходзьце.

— Няма ж на чым пісаць... Варочацца не будзем, гавораць, нельга перад дарогаю.

— Ну, добра, я прыеду, напішу вам пісьмо,— згадзіўся Каляда.

Віктар, развітаўшыся, яшчэ пастаяў на вуліцы, і калі Каляда азірнуўся, махнуў рукою.

Была самая ранішняя шэрая часіна, калі яшчэ няма сонца, і Каляда ішоў ходка, каб сагрэцца. Хацела-

ся ў вагон, у ягоную казённую цеплыню і ўтульнасць, добра падумалася пра гарадскую прывакзальную плошчу, дзе стаяць таксі з цёплымі зеленаватымі агеньчыкамі.

За вёскаю на ўзгорку прыпыніўся, паглядзеў туды, дзе заставалася ягоная вёска, далёкая і маленькая з гэтае дарогі, азначаная толькі вершалінамі высокіх прысадаў. Яна заставалася там і такой і будзе ў яго памяці, нават калі не стане і следу яе. І не забудзецца, і не вернецца, і не выпадзе з жыцця, як не можа нічога выпасці, выкрасліцца з пражытага...

Каляда паглядзеў на Жэніну вёску, на пасёлак калгасных дамоў — Жэніну хату ён не мог пазнаць. Успомніў, што не знае цяперашняга яе прозвішча і не зможа прыслаць пісьма. І не ведаў, калі і чаго заедзе сюды.

Недзе далекавата, як кукарэкнуў, крыкнуў прыгарадны цеплавозік.

*1977*

# АПОВЕСЦІ

## ТАКАЯ ВОСЕНЬ

### I

Калі пачынаецца пара ранішніх туманаў, ціхай зажуранасці, усё тады падуладна цішыні, журботнай, доўгай, як роздум чалавека над пражытым жыццём. У гэту пару маладое, некалі звонкае рэха коціцца па прывялай траве, слабее ў густых прырэчных туманах — і таму гукі здаюцца такімі ціхімі, нібы прыляцелі аднекуль здалёку. У такія раніцы не хочацца спяшацца, хочацца ісці паволі, удыхаць вільготнае паветра, якое пахне маладою незакусцелаю рунню.

Васіль Аляксеевіч пастаяў, паглядзеў навокал, нібы шукаў каго вачыма, наставіў каўнер плашча, глыбей засунуў рукі ў кішэні.

Не, не толькі хвароба не давала апошнім часам сну, нешта іншае, не знаёмая дасюль трывога прыжылася ў сэрцы, і хоць зрэдку, але давала пра сябе адчуць. І Васіль Аляксеевіч не ведаў, адкуль яна, чаго — усё ладзілася ў жыцці, амаль так, як хацелася. Можа, падыходзіць узрост, калі чалавеку не хочацца многа спаць? І яшчэ гэтае неадступнае адчуванне, быццам стаіць ён на жвіры, а той выплывае, цячэ з-пад ног...

Васіль Аляксеевіч успомніў, як моцна і смачна, закінуўшы сагнутую ў локці руку за галаву і прыадкрыўшы рот, нібы шчасліва ўсміхаўся, спаў у яго на канапе малады настаўнік, быццам прыехаў да бацькоў у госці, а не да чужых людзей. І спіць, як дзіця, якое нагулялася ўволю і не мае больш ніякага клопату. Паспрабуй скажы яму, што стаіць вось чалавек, а з-пад ног у яго плыве, як вада, зямля. Невядома, што ён і падумае пра цябе, малады, здаровы, які галаву лішне не тлу-

міць, што там наперадзе. Прыслалі сюды — будзе хадзіць, даваць урокі, як і ўсе настаўнікі робяць, а пастаў яго брыгадзірам у калгасе, таксама справіцца. Толькі каб быў брыгадзірам, кватэру б раней атрымаў у калгасным доміку. Але дадуць, калі і застанецца настаўнічаць.

Васіль Аляксеевіч кінуў вокам у канец вулачкі, на якой далей за школаю будаваліся спачатку самохаць людзі, а потым і калгас пачаў ставіць домікі. Вуліца падсыпана гравіем, хаты стаяць вольна, не ціснуцца адна да аднае. І што б яму адыходзіла некалі забудавацца ля школы, ля самага саду? Не, палез на дзедаўскае котлішча, на шнурок, на вуліцу, дзе дзвюм падводам не раз'ехацца, дзе гразішча, як толькі дождж. Добра, што яшчэ здагадаўся, суседскі пляц заняў, хоць троха было дзе разбудавацца. Але хто тады надта думаў пра раскошу, кавалку хлеба былі жадны, рады, што хоць жывыя вярнуліся пасля партызаншчыны і франтоў, рады былі, што ёсць кавалак зямлі, а на ёй вырасце і хлеб, і бульба. У спалены і галодны горад не надта хацелася. Зараз усе ў горадзе, і яго Лёня таксама. Пакінуў інстытут, пайшоў на будоўлю. У калгасе зараз і меней рабіў бы, і больш палучаў. Пакаецца яшчэ, што кінуў навуку, хай трохі ўбудзе сілы. І ажаніўся ў дваццаць год, дзіця цешча гадавала, а да бацькі гады ў рады аказваецца. Хіба не можа дараваць за Ларысу? Нічога, пасталее — паразумнее...

І злосці не было на сына, толькі крыўда. Вось ляжаў бы і ён зараз недзе, як гэты хлопец, знаў бы толькі ўрокі правесці, а не сківаць на сіверы, перакідаць у руках цэглу.

Добра, што хоць дачка пайшла вучыцца, а некалі, як радзілася яна, завёз жонку ў бальніцу, а сам паехаў здаваць дзяржаўны экзамен у інстытуце... Ведаў і тады, што без дыплома доўга не набудзе дырэктарам...

Пачаў, мабыць, старэць ён, пакідае сіла, хочацца пабурчаць на другіх, пашкадаваць самога сябе, нібы і праўда такі ён няшчаснік у жыцці. Дай бог кожнаму столькі мець і так жыць.

Урэшце, яму і самому лепш, што прыслалі такога хлопца, які не палезе са сваім, не пойдзе наперакор, а зайздросціць яму няма чаго — невядома яшчэ, як будзе жыцца гэтаму хлопцу.

Ды і падняў Васіля Аляксеевіча просты гаспадарскі клопат: даўно думаў ён зрабіць пры школе сталоўку, каб карміць дзяцей раз у дзень гарачаю стравою. Некаторыя ходзяць за пяць кіламетраў, раніцаю не надта есці хочацца, а пакуль дадому прыйдуць — на вечар хіліцца. Бацькі згодзяцца, тры рублі ў месяц ніхто не пашкадуе на дзіця.

Такія сталоўкі даўно ёсць пры сярэдніх школах, прымусяць зрабіць і пры васьмігодках. А яму няма чаго чакаць. Ён сам зробіць. Загадчык райана новы, гэта не Кірыла Данілавіч, якому не трэба было расказваць, хто такі Васіль Аляксеевіч...

Можа, так і не запала б гэтая думка, каб не нагледзеў памяшканне на сталоўку.

Васіль Аляксеевіч зірнуў на старую кантору, якая была цераз вуліцу ад школы. Хата даволі прасторная, з пятоўстых круглякоў, пад новым гонтавым дахам. Васіль Аляксеевіч падышоў да дзвярэй, выняў з прабоя затычку, адчыніў дзверы. Прысаладзіла ж было тут бульбу парыць пасля таго як пабудавалі цагляны клуб з канторою пад адным дахам. Адну зіму толькі і папарылі, на цэнтральнай сядзібе новую парню паставілі, механізаваную...

Васіль Аляксеевіч меркаваў ужо — работа не такая і вялікая. Трэба паставіць пліту, зрабіць з дошак перагародку, збіць сталы і лаўкі, пафарбаваць падлогу, абклеіць шпалерамі сцены, а калі дастанецца сухое тынкоўкі, то і абабіць ёю сцены. Тыдняў за два зробіць усё сам з хлопцамі-васьмікласнікамі, каб толькі старшыня даў хату і матэрыял.

## II

Спаў Шура моцна і спакойна, быццам не на новым месцы, прачнуўся позна і здзівіўся, што свяціла высокае ранішняе сонца, і на яблыках у садзе, на лісці віселі чыстыя кроплі. Ноччу прайшоў ціхі невялікі дождж, ад якога ўдалечыні засталася толькі лёгенькая вільготная смуга.

Шура заплюшчыў вочы, і здалося, што толькі ўчора вярнуўся з экспедыцыі, прайшоў халодным і пыльным калідорам ціхага летняга інтэрната, адамкнуў свой

пакой і там убачыў адно абрыўкі газет, сіратліва адчыненыя дзверцы шафы, шэры пыл на нікіляваных більцах ложкаў — і над усім гэтым мёртвы пах пакінутага людзьмі памяшкання, у якім жывымі здаваліся толькі скручаныя новыя паласата-чырвоныя матрацы на кожным ложку.

Дарэмна ён стараўся прыбіраць, мыў падлогу, засцілаў стол чыстымі газетамі, паставіў на яго букецік белых невясёлых астраў. Не стала ўтульнасці ні ў пакоі, ні на душы, аказалася раптам многа вольнага часу, здоўжыліся дні, і нарэшце, вахцёрка, якую ён ведаў пяць гадоў, запатрабавала пропуск, ён разгубіўся, нават не паспеў зманіць, што ідзе ў госці, мусіў лезці ў інтэрнат праз акно ва ўмывальніку першага паверха...

Назаўтра ён сабраў рэчы, напаследак азірнуўся з парога — рэчы не захавалі ніякай памяці пра яго, быццам і не жыў тут пяць гадоў, а самае важнае і вечнае ў пакоі — сытыя паласатыя матрацы.

Ужо ля лесвічнай пляцоўкі ён спыніўся, размахнуўся і кінуў на падлогу калідора ключ, і той тоненька зазвінеў па бетоне.

Гэтым тоненькім звонам яшчэ доўга трымцела ў сэрцы трывога: кончылася такое зручнае жыццё, у якім трэба было толькі два разы на год здаць сесію, каб не засталося «хвастоў», і атрымаць стыпендыю, а летам са спакойнаю душою паехаць у экспедыцыю, зарабіць грошай. Вучыцца ён умеў лёгка, яго называлі здольным і ў школе, і ў інстытуце, нават злёгку журылі, што падляноўваецца. Цяпер успомнілася, што размеркавалі яго няблага, у прыгарадны раён.

З лёгкаю душою браў ён білет да райцэнтра, ехаў спачатку шашою, потым старою вузкаю і калдобістаю брукаванкаю па густым лесе, які толькі мясцінамі расступаўся да самага небакраю, даваў людзям поле. Ля самага мястэчка пайшлі асушаныя тарфянікі, чыстыя, роўныя, страшныя сваёю шырокаю чарнатою, на якой бездапаможна азначаліся неглыбокія заплыўшыя канавы з травою над меленькаю вадой.

Районна мясціўся ў вялікім драўляным доме ў цэнтры мястэчка. Загадчык — высокі, малады, рыжы мужчына з загарэлым тварам і цёмнымі ад загару рукамі, больш падобны на лесніка ці егера, устаў, працягнуў Шуру руку цераз стол, і старая падлога зары-

пела пад ім. Паглядзеў на накіраванне, засмяяўся дабрадушна:

— Якраз у пору, дарагі мой, прычапаў! Месц няма, даю табе адмацаванне — і танцуй! Маеш, чаго хацеў! Але тут ты пралічыўся: паедзеш у Зарудзь, там настаўніцы радзіць трэба, а мы яе ў дэкрэтны адпусціць не можам. Пасля, калі табе так не хочацца ў нас быць, трымаць не стану. Маладым у нас дарога. Не жанаты? Кватэры няма? Бацькі жывуць?

Адказу загадчык не чакаў, быццам ведаў, што нічога і нікога ў Шуры няма, і Шура не пакрыўдзіўся на яго, не стаў тлумачыць, што не прыехаў ён па адмацаванне, што яму трэба работа.

Загадчык зноў устаў з-за стала, зноў зарыпела пад ім падлога.

— Прабачце, што не магу пагаварыць з вамі болей. Спазняюся на выканком. Клава вас аформіць і ўсё раскажа.

Ён паказаў рукой на дзверы ў суседні пакой.

Афармленне заняло хвілін дваццаць, і Шура ехаў назад па той самай шашы, злез на трыццатым кіламетры ад горада, як і расказвала Клава, ля павароткі да вёскі Іванкі, зняў балоневы плашчык, ямчэй падхапіў саквяж, ішоў ходка, молада, пільна акідаў позіркам і пацямнелае поле пшанічнага ржышча з невысокімі аселымі сціртамі саломы, з балотцамі, у якіх ужо зарудзелася ажарсцвелая асака і цёмна лускавілася вада. Ён спяшаўся, рады, што ўсё так проста і скора ўладкавалася, за адзін дзень.

Пэўна, многа Іванаў жыло ў Іванках, вёску выбудавалі ў адну вуліцу, на паўтара кіламетра, і Шуру хацелася хутчэй выйсці ў поле, дзе вальней ветру і менш цікаўных вачэй.

Непадалёку за вёскаю яго дагнаў светлы «Масквічок», прыпыніўся. Шура падбег, прачыніў дзверцы, і мужчына за рулём толькі кіўнуў галавою — сядай. Так нічога і не запытаўся, толькі, як скіраваў на палявую дарогу за метраў дзвесце ад наступнай вёскі прытармазіў:

— У Зарудзь?

Шура кіўнуў галавою, і машына спынілася.

Школу ён пазнаў здалёку па шчытах на баскетбольнай пляцоўцы, па турніках. На двары на круглых

клумбах цвілі кусты жоўтых вяргінь, бялелі, нібы вялікія рамонкі, «ленінградкі», сінім сумам дацвітала бабіна лета. І драўляны, накрыты шыферам будынак, і густа парослы муравою з белымі вытаптанымі сцежкамі двор, і нават чуць прагнілая дошка на прыступках — усё было, як у ягонай школе, даўно...

У маленькай баковачцы з шыльдачкаю «Настаўніцкая» пахла старою паперsuccession. Адзін кут займала грубка, у другім — этажэрка з сшыткамі, са старэнькім «Рэкордам» першага выпуску, ля сцяны злева — канапа, над ёю паліца з падшыўкамі часопісаў, насупроць канапы, ля другое сцяны, засланы чырвоным стары двухтумбавы пісьмовы стол.

За гэтым сталом і сядзеў круглатвары, дабрадушны на выгляд мужчына ў шэранькай кашулі, пад гальштукам; лоб у мужчыны круглы, чысты, залысіны ў доўгіх з сівізною валасах. Чуць прыплюшчаныя, як быццам падпухлі, павекі, усмешлівыя вочы пасур'ёзнелі, нават насцеражыліся спачатку, і толькі, калі сказаў Шура, чаго ён тут, вочы зноў паглядзелі спакойна і ўпэўнена.

— А, добра! — мужчына пасвятлеў з твару, пацёр рукою пульхнаватае падбароддзе.— Добра, з радасцю вас прымем. Мяне завуць Васіль Аляксеевіч.

Дырэктар працягнуў руку, грубую, шырокую, без мазалёў, з далікатнаю белаю скураю.

— Шура... Аляксандр Пятровіч.

Дырэктаравы вочы хітравата ўсміхнуліся.

— Пачакайце хвілінку, Аляксандр Пятровіч, я тут паперку кончу пісаць. Зараз і званок, пазнаёмлю вас з калегамі.

Ён зноў нахіліўся над сталом, і Шуру стала няёмка ад таго, што зараз будуць аглядаць яго, знаёміцца і што ён не запомніць адразу ўсіх, і потым будзе зноў перапытвацца, як завуць каго. Хаця яму даўно пара перастаць саромецца, як хлопчыку ў людзях.

Яшчэ да званка ў настаўніцкую зайшла невысокая жанчына, прытуліўшы да грудзеў класны журнал і стос сшыткаў. Яна павіталася, паклала сшыткі на ражок дырэктарскага стала.

Светлыя валасы яе былі акуратна зачасаны і заколаты на патыліцы грабянцом, твар невялікі, круглы, з дробнымі, ледзь прыкметнымі маршчынкамі і пад ва-

чыма, і ля губ, і ля вушэй, толькі з-пад чорных броваў спакойна глядзелі сінія маладыя вочы. І ў тым, як павіталася яна, як нетаропка і ўпэўнена прысела на канапу, акінула позіркам Шуру, адчуваўся спакой чалавека, які ведае, чаго варты сам і ягоная работа.

Калі Васіль Аляксеевіч сказаў, што гэта новы настаўнік, яна ўсміхнулася — падумала была, быццам інспектар — зарадавалася, бо толькі яна, Марыя Антонаўна і Валерыя Канстанцінаўна мовазнаўцы, і каб не ён, Аляксандр Пятровіч, то ёй бы давялося замяняць Валерыю Канстанцінаўну. Жанчына гаварыла шчыра і проста, і Шуру было добра слухаць яе гаворку, і здавалася, што яны даўно знаёмы і што ён прывык да яе мяккага, без цвёрдага вымаўлення «р».

І пасля, як толькі празвінеў званок і заляпалі дзверы класаў, у настаўніцкую, як вучаніца, убегла высокая дзяўчына ў вузенькай спадніччы і вішнёвым світэры і па-хлапечаму коратка астрыжанымі валасамі.

— Марыя Антонаўна, каб вы ведалі!..

Дзяўчына асеклася, прыкусіла мізінец, паглядзела на Шуру.

— Гэта, Пятровіч, наша школьная мамка, ага. Яна малодшыя класы вядзе. Марыя Васільеўна, а прозвішча яна скора на другое памяняе.

Дырэктар скончыў пісаць, насмешліва паглядзеў на дзяўчыну, і яна пачырванела, азірнулася, быццам нешта забыла, і хуценька выслізнула на калідор.

— Ох, нявестка!..

Дырэктар дабрадушна ўсміхнуўся.

Апошняй у настаўніцкую зайшла крыху ссутуленая, хударлявая жанчына з вялікаватым і чуць гарбатым носам. І, можа, ад таго, што сутулілася, была яна падобна на птушку, якой і холадна і адзінока на ветры.

— Ну вось вам, Аляксеевіч, і новы настаўнік. Не тое што мы, чарапкі старыя, з вышэйшай адукацыяй, малады чалавек.

Голас у жанчыны быў нечакана моцны, і хоць Лідзія Аляксандраўна ўсміхалася, Шуру стала няёмка за сваю адукацыю, і ён не ведаў, ці сказаць што, ці прамаўчаць. Адразу знік добры настрой і ўпэўненасць

у сабе, адчуванне сваёй блізкасці да гэтых незнаёмых людзей, якое было ўзнікла.

Дырэктар нібы зразумеў Шуру, коратка зірнуў на настаўніцу, і яна толькі сцепанула плячыма, пачала перагортваць класны журнал.

Але гаворка, якая была пачалася з Марыяй Антонаўнай, перапынілася, і Шура ўжо хацеў, каб дырэктар хутчэй павёў яго з сабою, выйсці з настаўніцкай адзін не адважваўся, і ад гэтай цішыні ў маленькім пакойчыку ўсім было няўтульна.

Дырэктар згроб са стала ў шуфляду паперы, апрануў сіні плашч, прабурчаў, што столькі прысылаюць цыркуляраў — хоць наймай пісара.

У прыкараткім плашчы, у шэрай каракулевай шапцы, якая некалі была ў модзе, ён павёў Шуру спачатку вулачкаю, потым вузкаю вуліцай з каляінамі ад машынных колаў, са старымі, пазелянелымі ад лішайніку платамі. Пра Лідзію Аляксандраўну не ўспамінаў, распытваў у Шуры пра жыццё, расказваў пра сваё, дабрадушна, з гумарком, быццам насміхаўся, і Шура адчуваў, што ён хоча развесяліць яго, каб не звяртаў увагу на тое, што было ў настаўніцкай, каб паверыў малады настаўнік у «невялічкі, дружны калектыў».

Дырэктарава хата стаяла крыху воддаль ад вуліцы за маладым, моцным ужо садам. Плот штыкетны, пафарбаваны, вароты з жалезных прутоў, асобны ход да невялікага хлява, выкладзеная цэглаю сцяжынка да веранды. Вокны вялікія, дах цынкавы, некалі быў далёка відаць, гэта цяпер падрос сад, і сама будыніна нібы прысела да зямлі.

— Быў час, можна было выбудавацца, толькі наперад глядзець не ўмелі. Так можна было выбудавацца!

Васіль Аляксеевіч махнуў рукою, і Шура не зразумеў яго незадаволенасці і незразумелай крыўды невядома на каго...

...— Вы ўжэ не спіце, Пятровіч?

Гаспадыня выглянула з кухні, запыталася чуць нараспеў, усміхнулася, бліснула залатым зубам. Яна даўно заўважыла, што Шура не спіць.

— Зараз устаю.

Шура ўспомніў, як маці хацела, каб ён стаў настаўнікам, палучаў грошы, спаў і хадзіў чыста, як іхні вясковы настаўнік Аляшкевіч. Шура-то цяпер ведаў, што,

каб мець грошы і хадзіць чыста, можна быць не толькі настаўнікам, ды не надта вялікія і лёгкія настаўніцкія грошы. Але галоўнае цяпер, што ў жыцці зноў усё ясна, проста і добра.

## III

Непрыкметна адыходзілі светлыя і спакойныя вераснёўскія дні. Яшчэ не пачаліся дажджы, касыя, з хлёсткім пранізлівым ветрам, калі на цэлыя дні шарэе, прыпадае да зямлі цяжкае неба. Стомлена, самлела выстойваліся на сонцы бярозы, клёны, асіннік у барвовым, чырвоным, жоўтым лісці, налітым густым свежым восеньскім сокам. Страшна было падумаць пра лістабой, які за адну ноч аблакоціць, разнясе па свеце дарагую, залатую плату за пражытую радасць першага зялёнага лісціка, за дабрату чэрвеньскай зорнай цішыні, за ўдыхнуты жнівеньскі водар жытнёвых палеткаў.

Шура спачатку ўзяўся ўставаць а палове восьмай, рабіць зарадку, мыцца халоднаю вадою да пояса, не спяшаючыся збірацца на работу, снедаць разам з Васілём Аляксеевічам, але праз тыдзень усё больш і больш пачаў залежвацца ў ложку, а потым і зусім уставаў, каб толькі ўспець паснедаць і не спазніцца да пачатку ўрокаў.

Васіль Аляксеевіч выходзіў з дому раней, і, калі туды прыходзіў Шура, у настаўніцкай ужо сядзела і Марыя Антонаўна, правярала сшыткі на канапе. Пазней з'яўлялася Лідзія Аляксандраўна.

Дырэктар нязменна займаў сваё месца, калі ў яго былі ўрокі, перагортваў падручнік па гісторыі, калі не, штосьці пісаў, сур'ёзны, заняты чалавек, і ніхто не мог парушыць цішыню: так заведзена на першы год. Няма чаго пераказваць вясковыя росказні, лепш аднавіць у памяці матэрыял урока. Шуру часам хацелася ўсміхацца з манументальнасці дырэктара за сталом і з таго, як пасопвала ў нос, невядома навошта перакладвала сшыткі на этажэрцы Лідзія Аляксандраўна, і не магла трываць — не давалі спакою «апошнія звесткі». Але смяшней за ўсё было глядзець, як настаўнікі клалі на дырэктарскі стол стосікі сшыткаў з планамі ўрокаў, як ён нетаропка іх перагортваў. А Шура першыя дні

баяўся гэтай праверкі, пакуль не зразумеў, што хоць і глядзіць Васіль Аляксеевіч у сшытку сур'ёзна, цікавіць яго дата, а не тое, як там напісаны план.

Часта гэту завядзёнку парушала толькі Марыя Васільеўна. Убягала ў настаўніцкую перад самым званком.

— Што, Марыя Васільеўна, дома званок пачулі?

— Васіль Аляксеевіч...

— Зноў будзільнік не завялі, га?

— Не, але...

— У школу вы са званком прыходзіце, а першакласнікаў пасля ўрокаў затрымліваеце!

— Што я магу зрабіць? Праграма новая, а дзеці мае не ў садзіку ў падрыхтоўчай групе былі, а з бабкаю на печы, яна іх у школу рыхтавала!

— Гэта я без вас ведаю. Гэта не нам з вамі рашаць і абмяркоўваць. А дзяцей не затрымлівайце, цяпер цямнець пачынае раней. Будзеце спазняцца ў школу, я вашага кавалера пралаю, каб спаць вам даваў...

— Вы скажаце, Васіль Аляксеевіч!

Марыя Васільеўна толькі крышку чырванела і ўсміхалася — жарт падабаўся ёй. Яна ведала, што дырэктар любіць яе і ўсё даруе.

Пасля званка Шура імкліва заходзіў у клас, на хвілінку прыпыняўся ля стала:

— Барэйша, устань як след, чаго сагнуўся?

Барэйша нехаця выпростваўся — высокі, нясклад- ны падлетак у пінжаку з прыкараткімі рукавамі.

— Сядайце. Хто адсутнічае? Раманаў? Астатнія ўсе?

— Усе.

— Добра. Хто сёння не падрыхтаваўся да ўрока?

Заходзіць у клас энергічна, па-дзелавому пачынаць урок ён сам прывык, а пытанне, ці ўсе падрыхтаваліся да ўрока, было традыцыйнае — калі вучань прызнаецца, настаўнік звычайна не ставіць дрэнную адзнаку. Гэта як узнагарода за шчырасць.

Стрыгельскі ўстаў, чуць паблажліва ўсміхнуўся, быццам яго зараз будуць лаяць за нешта нязначнае. Шура наперад ведаў, што скажа Стрыгельскі, і запытаўся:

— Што нам скажаш, Стрыгельскі?

— Ну, гэта самае, я не ведаю добра... да канца.

Клас заварушыўся, прытоена загуў. Шура ўжо тры разы падымаў вучня расказаць адзін і той жа вершык на памяць, і Стрыгельскі кожны раз адмаўляўся, а цяпер быццам ад сораму нагнуў галаву і цікаваў спадылба. І па гэтым зацятым позірку Шура здагадаўся, што хлопец хоча, каб яму нарэшце паставілі адзнаку — абы-якую — і болей не чапалі, пакуль ён сам не папросіць, каб «выправіць» адзнаку, як гэта рабілася неаднойчы.

Шура незаўважна кіўнуў вокам у класны журнал: калі паставіць «двойку» зараз, то і за чвэрць давядзецца выводзіць нездавальняючую адзнаку, а потым, на педсавеце будзе падлічана, па чыіх прадметах сама болей двоечнікаў. Ён пакіне Стрыгельскага пасля ўрокаў і прымусіць сядзець да таго часу, пакуль ён не вывучыць вершык. Шура ўспомніў, што ў яго няма двух апошніх урокаў.

— Раскажы нам пачатак, калі не ведаеш канец...

Стрыгельскі пакруціў галавою.

— Я, гэта самае, забыўся ўжэ...

Шура ўстаў з-за стала, падышоў да вучня, спакойна і роўна, каб чулі ўсе, сказаў:

— Ты нідзе не дзенешся, вершык вывучыш.

І пакуль Шура ішоў да стала, Стрыгельскі не садзіўся, разгублена глядзеў услед, а маленькі, рабы ад вяснушак, Шукала не вытрываў, пераrнуўся з першае парты паглядзець, ці і праўда настаўнік нічога не паставіць Стрыгельскаму ў журнал.

— Цікава, Шукала? Я от зараз цябе да дошкі выклічу.

Вучань прыціх — ён адказваў на мінулым уроку...

Шура ўсё ж не выклікаў Шукалу, урок пайшоў звыкла, роўна, выклікаў да дошкі трох чалавек, чацвёртаму паставіў адзнаку за адказы на пытанні, успеў растлумачыць новы матэрыял, задаць кантрольныя пытанні і ў настаўніцкую ішоў спакойна.

Шура ведаў, што толку ад Стрыгельскага не даб'ешся, што з восьмага класа яго ўсё роўна «выпусцяць», каб не мець надалей клопату, а таму лепш выклікаць яго тады, калі зможа выплыць на «троечку». А за гэты вершык нікуды не дзенешся, давядзецца пакідаць пасля ўрокаў...

Шура з першых дзён адчуў нейкі патаемны рытм школьнага жыцця і радаваўся, што работа пайшла адразу лёгка і проста, быццам ён век настаўнічаў, не адбірала лішне часу. Толькі нельга апускацца ніжэй даўно вызначанага невядома кім узроўню, каб і збоку не было відаць, што ты толькі адбываеш павіннасць. Усё павінна быць добра, правільна, так што і не абвінаваціць ніхто цябе... І ўсё ж...

Сваё новае прыўнёс у школьнае жыццё і Шура — ва ўсіх класах навучыў вучняў дружна ўставаць, калі заходзіць настаўнік або канчаецца ўрок. Варта было толькі некалькі разоў патрэніраваць увесь клас садзіцца і ўставаць, а ўсё ж Васіль Аляксеевіч заўважыў гэта, параіў і астатнім настаўнікам рабіць. Увогуле, Шуру пашанцавала на дырэктара, і гэта ён разумеў.

Васіль Аляксеевіч стаяў ля прыёмніка, круціў за кацёлку настройкі і, калі зайшоў Шура, выключыў.

— Як там у вас Стрыгельскі?

— Стрыгеліць. Трэці раз падняў сёння, трэба было двойку ставіць. Гэтых пераросткаў хоць бы ваенкамат прымусіў. У войска скора, а вучобы з іх...

— Э-э, Пятровіч, у мяне некалі такая ж гарачая галава была. Далі мне за такую прапанову і ў райкоме, і ў раяна!

Васіль Аляксеевіч засмяяўся, быццам успомніў нешта прыемнае, пакруціў галавою, як бы дзівіўся і тае наіўнасці.

— От адно мне здаецца рэальным: каб за кожнага другагодніка бацькі плацілі, хай не многа, але плацілі. Так сказаць, адваротнае матэрыяльнае стымуляванне. Тады б нам і ўсенавуч можна было б выконваць, і алгебра лягчэй засвойвалася б, і новая праграма не такою цяжкою была б... На ўсё трэба свой час, умовы, а мы не дараслі яшчэ да многага, пераскокваем цераз адно, ловім другое...

Шура заўважыў, што дырэктар гаварыў стомлена, роўна, быццам тлумачыў нешта даўно вядомае, з чым ён даўно прымірыўся і лічыць, што гэта і павінна так быць, і нечага нават спрабаваць перайначыць.

— Я вам не гаварыў, Пятровіч. Лідзія Аляксандраўна скардзілася мне, што вы да яе дачкі, Валі, быццам прыдзіраецеся, заніжаеце адзнакі... Гразіла не даравань. У нас з ёю ніхто не хоча сварыцца, усе свае,

вясковыя... А ты правільна зрабіў! Я ёй гэта таксама сказаў, і не адступай ад свайго...

Дырэктар перайшоў на прывычнае «ты», нават усміхнуўся Шуру бадзёра.

— У нашай рабоце няма як брак рабіць. Будзем мы патураць дзіцяці — скалечым яго. А Валя ў Лідзіі Аляксандраўны разумная і здольная дзяўчынка, і нам трэба глядзець, каб з яе сапраўдны чалавек вырас, гэта наш абавязак! Мы павінны пра гэта памятаць заўсёды! — Дырэктар кашлянуў, быццам гаварыў прамову дзе з трыбуны, і яму падабалася, што так ён добра сказаў, і што малады настаўнік глядзіць на яго са здзіўленнем — не чакаў такога ад старога дырэктара. І Васіль Аляксеевіч усміхнуўся, памяркоўна, проста, як таварышу, сказаў:

— А са Стрыгельскім ты не надта маракуй, Пятровіч. За гэту чвэрць у яго двойкі будуць па алгебры і па фізіцы, так што ён усё роўна двоечнік...— Дырэктар разумнымі прыжмуранымі вачыма глянуў на Шуру: — Гэта некалі будуць хваліць ці ганіць, якога мы выхавалі чалавека. Пасмяротна, як гаворыцца. А практычна добры настаўнік той, у каго вучні засвоілі праграмны матэрыял! У каго высокі працэнт паспяховасці! Май гэта на ўвазе, Пятровіч!

Васіль Аляксеевіч падміргнуў Шуру — ведай нашых! — і выйшаў ў настаўніцкае на калідор, які аж разлягаўся ад тупату і вясёлага крыку. «Што гэта тут такое, Кашкан?» — пачуў Шура ўжо з-за дзвярэй дырэктарскі голас у цішыні, якая імгненна запанавала на калідоры. І, пакуль дырэктар ушчуваў вучня, Шура падышоў да палічкі з журналамі, узяў патрэбны і супроць прозвішча Стрыгельскага замест кропкі паставіў «двойку».

## IV

Адкладваць надалей не было як: Васіль Аляксеевіч дамовіўся з магазіншчыцаю, каб прывезла посуд, перагаварыў з Янінаю з Русакоў, і яна згадзілася пайсці кухаркаю ў школьную сталоўку... З людзьмі абзадачыўся, а галоўнага так і не зрабіў — не пагаварыў са старшынёй наконт будынка.

І зараз, слухаючы спакойную і цёплую яшчэ восеньскую ноч за сценамі хаты, сам спакойны, думаў пра тое, як раптам сталася, што стаў даўно ён далёкі ад калгаса і ад сельсавета, а пасля ж вайны калгасны старшыня, сельсавецкі і ён, дырэктар школы,— адна рука была, рашалі і вяршылі і калгасныя, і сельсавецкія справы... Праўда, даўно не засталося тых пасляваенных старшынь. Ён-то толькі ўтрымаўся на сваім месцы... І ад думкі пра старшыню, «кучаравага малайца», як ахрысціў яго сам сабе Васіль Аляксеевіч, стала не па сабе — неўзлюбіў яго Васіль Аляксеевіч п першых дзён, хоць за тры гады старшыня многа добрага зрабіў у калгасе, нічога не скажаш, але гэта не так і яго заслуга, а таму, што нарэшце дайшлі рукі і да калгасаў, далі ім і сродкі, і тэхніку... А старшыня не ўнімаецца, варушыцца і варушыць усіх, не дае прыпыніцца і лічыць, што ўсе павінны так, як і ён, лузацца са скуры. Адкуль толькі ў яго столькі ўпэўненасці, што ўсё пераробіць па-свойму, што інакш і быць не можа! Нават і ў школу некалькі разоў дапяў выступаць перад вучнямі, расказваў пра калгас, агітаваў, быццам ён, Васіль Аляксеевіч, горш гэта можа зрабіць, ды і паможа гэтая агітацыя!.. І яшчэ старшыня з фінскага калгаснага доміка, у якім у свой час жылі старшыні, зрабіў медпункт. Калі надумаўся застацца жыць, то можна было ў калгаса купіць гэты домік, невялікія грошы, абкласці потым цэглаю — і хата была б на век. У такім прыгачным месцы будыніна: сад калгасны пад вокнамі, сажалка.

Хаця некалі і сам Васіль Аляксеевіч быў перакананы, што свет перавернецца, калі ён не пабудуе школу; бярвенне з лесу вазіў, сам зруб рубіў, паехаў вучыцца завочна, каб больш ведаць, каб дзяцей вучыць як след...

Васіль Аляксеевіч ведае цяпер, што зямля-то ў другі бок не закруціцца, які ты ні ёсць, а спакойна будзе несці чалавека да скончэння ягоных дзён. А калі перад канцом жыцця паглядзіць чалавек назад, то акажацца, што і жыць-то не жыў, толькі спадзяваўся...

Урэшце, старшыня ніколі ні ў чым не адмаўляў Васілю Аляксеевічу, і прасіць ён ідзе не сабе; вось толькі непрыемна, што зноў будзе старшыня жартаваць з яго,

быццам хлапчука падражніваць, пра якога ведае нешта такое...

Васіль Аляксеевіч ведаў, што на нарад у старшыні збіраюцца ў сем гадзін, і прымеркаваў, каб трапіць, калі спецыялісты разыдуцца, а сам старшыня не паспее ўцячы з канторы — удзень яго няма чаго і думаць заспець дзе-небудзь у кабінеце.

Васіль Аляксеевіч абышоў вакол школьны сад, прайшоў па ўзмежку ля плота, мацаў, ці не зусім пагнілі слупкі, жэрдкі, бачыў, як разыходзіліся брыгадзіры, механізатары, нешта доўга даказвалі адзін аднаму ў варотцах загадчык свінафермы і заатэхнік. Адзін маленькі, прэнткі, другі высокі, як пустая коласам жыціна. Яны так і не дайшлі да толку, пайшлі поруч па дарозе, і заатэхнік нізка нахіліўся да загадчыка, быццам не мог пачуць, што той гаворыць.

Старшыня быў ужо не выхадзе, нешта злосна гаварыў механіку, і той не апраўдваўся, толькі злосна кінуў у кут міма сметніцы недакураную цыгарэту.

— Добрай раніцы, Пётр Нічыпаравіч,— Васіль Аляксеевіч падаў руку і не саступіў з дарогі старшыню.

— Добрай раніцы,— коратка адказаў той, памкнуўся ісці да дзвярэй, але Васіль Аляксеевіч прытрымаў яго.

— Пагаварыць трэба, Пётр Нічыпаравіч.

— Добра. А ты мне што хочаш зрабі, а каб камбайн быў адрамантаваны і пасля абеду на полі рабіў работу! — загадаў ён механіку.— Дай мне, Васіль Аляксеевіч, пару камбайнаў на буракі, я цябе ганаровым калгаснікам зраблю, пенсію буду да смерці плаціць. А не — хоць памажы іх дастаць.

Вочы ў Мацкевіча знаёма, весела прыжмурыліся, густа збегліся пад імі маршчынкі. Сам ён высокі, цемнатвары ад загару, у карычневых, ладна падагнаных штанах, асенніх, пад колер штаноў, чаравіках з круглым наском і шырокім рантам, у белай кашулі ў палосачку, пад гальштукам, у расшпіленым шэрым пінжачку быў больш падобны не на старшыню, а на франтаватага спартыўнага трэнера.

Дарэмна Васіль Аляксеевіч спадзяваўся, што механік сапсаваў старшыні настрой і таму будзе не да жартачак.

— Калі ласка, Васіль Аляксеевіч, заходзь.

Кабінет у старшыні невялічкі, бакоўка з адным акном, ля якога стаяў пісьмовы паліраваны стол, а ўздоўж сцен — крэслы.

Старшыня прысеў на крайняе крэсла і моўчкі паказаў Васілю Аляксеевічу на суседняе.

— Слухаю, Васіль Аляксеевіч.

— Хачу, Пётр Нічыпаравіч, каб ты мне аддаў старую кантору.

— Дачу, Цімошак, сабраўся будаваць? Такую дачу не кожнаму можна мець.

Старшыня ўсміхнуўся, быццам яму было цікава знарок дражніць дырэктара.

— Я сур'ёзна гавару, Пётр Нічыпаравіч. Калі ты не згодзішся, буду падымаць пытанне на партсходзе, на праўленні, а калі трэба...— Васіль Аляксеевіч недагаварыў, заўважыў смяшынкі ў вачах старшыні, спахапіўся, што гэтыя пагрозы смешныя, збянтэжана дадаў:

— Ага.

А старшыня ўсё прыжмурана глядзеў на дырэктара, як на хлопчыка, якога ён бачыць наскрозь, і Васіль Аляксеевіч памкнуўся было падняцца, каб пайсці.

— Васіль Аляксеевіч, ты ж мне толкам раскажы, што да чаго.

Мацкевіч сказаў гэта спакойна, дзелавым тонам, і пакуль гаварыў дырэктар, глядзеў у акно; сышліся над пераноссем складачкі, твар быў стомлены; павекі ад недасыпання прыпухлыя, а кудлатыя, густыя яшчэ валасы дробна пабіты сівізною. Ён некаторы час памаўчаў пасля таго, як скончыў гаварыць Васіль Аляксеевіч, усё глядзеў у акно.

— Добра прыдумана. Талкова. Думаю, праўленне не будзе супраць. Толькі людзей я табе, Васіль Аляксеевіч, не магу даць на рамонт. Дай бог маім будаўнікам да халадоў кончыць цялятнік.

Мацкевіч глядзеў на дырэктара стомлена і сур'ёзна, і толькі тады падумалася Васілю Аляксеевічу, што яны недзе аднагодкі, а калі і ёсць розніца, то на год-два.

— Рамонт я сам з хлопцамі зраблю.

— Матэрыял у нашых будаўнікоў вазьмі. Я скажу Дашкевічу. Толькі ўсё не за так,— старшыня ўсміхнуўся, і Васіль Аляксеевіч падумаў, што старшыня зноў

састроіць жарт.— Ты мне на пару дзён, пакуль цяпло, дай школьнікаў. Я па другому разу капалкі пушчу па бульбянішчы. Дзецям не цяжка будзе збіраць, а мне вялікую работу зробяць.

— Вядома, дам.

Старшыня кіўнуў галавою — падзякаваў — адкінуўся да спінкі крэсла, расслабіўся ўсім целам, быццам цяжка было нават павярушыцца, але ўстаў нечакана лёгка, зноў прыжмурана глянуў на Васіля Аляксеевіча:

— Слухай, Васіль Аляксеевіч, ішоў бы ты замест Дашкевіча да мяне брыгадзірам, а то чалавека другі год трымаю, не пускаю на пенсію, замену не найду. Ты будавацца любіш і ўмееш...

І калі хвіліну назад Васілю Аляксеевічу з жалем падумалася, што старшыня проста няўдачнік, чалавек, які на старасць год так і не знайшоў, не выстачыў для сябе ўтульнага куточка, і яму можна паспачуваць, і Васіль Аляксеевіч рады быў бы паспачуваць, пацешыць сябе, што ён сам-то лепей сумеў у жыцці,— зараз Васіль Аляксеевіч зразумеў, што не патрэбна яго спачуванне, і яму стала не так крыўдна ад жарта, як ад таго, што зноў старшыня падмануў яго...

— Ты, Мацкевіч, каб мог, то і пастухом бы мяне зрабіў! За што ты мяне не любіш? Дарогу я табе перайшоў?

Васіль Аляксеевіч нібы збоку пачуў свой глухі, хрыплаваты голас, адчуваў, як цёплыя тоненькія іголачкі закалолі ў пучкі пальцаў, і ведаў, што зараз ён не стрымаецца, выкажа ўсё!

— Перастань, Аляксеевіч. Гэта ты мяне не любіш за тое, што ты харошы, а я бачу цябе наскрозь, разгадаў я цябе, чым ты жывеш... От ты мяне за гэта і не любіш, баішся, быццам я ўсім пра гэта раскажу. Таму так цябе і мучыць... А расказаць-то я нічога і не змагу, усё юрыдычна правільна ў цябе, талкова, па-гаспадарску, як некалі дзяды казалі.

І ўжо вочы старшыні глядзелі на Васіля Аляксеевіча спагадліва.

— Мне лепш было б, каб ты не быў пустым месцам у калгасе, не толькі значыўся ў партактыве, чытаў лекцыі на святы. Ты ведаеш калгаснае жыццё, ты мне многа мог памагчы. Хаця я да цябе ніякіх прэтэнзій

мець не магу, і сімпатый таксама. За жарты прабач, пастараюся надалей вытрымліваць чыста дзелавую этыку. Насільна міл не будзеш. А дарогу хай бы ты мне перайшоў: не аднаго двоечніка раз у два гады ў калгасе пакінуў, а цэлы клас выдатнікаў... Прабач, Аляксеевіч, мне пара ехаць.

Васіль Аляксеевіч нічога не адказаў, нечакана збянтэжаны гаворкаю старшыні, кіўнуў толькі галавою ў знак развітання, выйшаў следам за гаспадаром, прычыніў дзверы, бачыў праз акно, як молада прайшоў старшыня да «козліка», пачуў, як ляпнулі дзверцы, і на гэтым месцы, дзе стаяла машына, засталася толькі лёгкая аблачынка дыму.

І толькі тады Васіль Аляксеевіч азірнуўся па баках — ці не чуў хто іхняе гаворкі, спехам выйшаў на вуліцу, выцер невядома чаму спацелы твар, і, забыўшыся, што думаў зайсці на канюшню і запрэгчы каня, павалі ішоў да школы, і ненавідзеў сябе, што не абсек гэтага выскачку, а даўся, каб самога прабралі, як хлапчука...

У настаўніцкай яшчэ нікога не было. Уключыў прыёмнік, распрануўся. Пасопваючы ў нос, Васіль Аляксеевіч выняў з шуфляды стала пакецік соды, адсыпаў на паперку, з паперкі высыпаў у рот, запіў цеплаватаю і непрыемнаю вадою з графіна, прыслухаўся — пячайка не праходзіла — узлёг грудзьмі на стол.

Крыху супакоіўся, пакруціў галавою, падумаў, што вось возьме і не пусціць вучняў на бульбу, а матэрыялы атрымае. І думка гэта была недарэчная.

Ён узяў аловак і пачаў падлічваць, колькі прыкладна трэба грошай, каб адкрыць сталоўку; захапіўшыся, шпаркія крокі на калідоры пачуў толькі ля самых дзвярэй у настаўніцкую, няўцямна паглядзеў на Лідзію Аляксандраўну, якая з парога кінула на яго стол згорнуты ў трубачку вучнёўскі сшытак.

— Узяла сёння ў дзіцяці сшытак, яна мне не паказвала, баялася! Двойку ён Валі паставіў, каб яму вочы слупам сталі! Цяпер я маўчаць не буду!..

Васіль Аляксеевіч толькі мелькам глянуў на пакрэслены чырвоным алоўкам тэкст, на адзнаку — і не мог зразумець, што ад яго хочуць: думкі былі далёка і ад сшыткаў, і ад адзнак.

— Думаеце, як ён у вас жыве, як вы яго зяцем зрабіць хочаце, дык і ўсё можна! Век мяне дурною лічыце, абы падкусіць, абы пасмяяцца, самі за вочы Сцёбаю завеце, а цяпер і дзяцей маіх бэсціце!..

Ён зразумеў, што Аляксандр Пятровіч зноў паставіў Валі «двойку» па дыктанту, а гэта значыць, будзе і за чвэрць выведзена «тройка»...

Толькі з якога часу на яго крычаць нават у настаўніцкай?

— Я ў райком дайду, мяне не спыніце, я ў партызанах была!..

Лідзія Аляксандраўна падалася да Васіля Аляксеевіча, і сліна з рота пырснула і на сшытак, і на руку дырэктару. Нібы ад агню, коратка і моцна ўзмахнуў ён рукою, стукнуў па стале, што аж апякло далонь, і Лідзія Аляксандраўна адхіснулася назад, у вачах адбіўся спалох, толькі адкрывала і закрывала рот, быццам не стала голасу, ці ён проста не пачуў яе за сваім:

— Вон, а то я цябе вымяту так, што і на зямлі месца не стане, не толькі ў гэтай школе!

Лідзія Аляксандраўна глядзела на яго руку, якая нервова мацала па стале, падступалася да шкляное цяжкае чарнільніцы, адступіла да парога, скоранька ляпнула за сабою дзвярыма. Васіль Аляксеевіч апусціўся на крэсла. Тоненька, напята гудзела ўвушшу, нібы яго толькі што аглушыла выбухам, і ён не мог успомніць, што было зусім нядаўна, глядзеў праз акно, як подбегам шыбавала па вуліцы Лідзія Аляксандраўна, азіралася, быццам яе даганялі...

Ён не памятаў, калі так «зрываўся», ад прыкрасці пакруціў галавою, паморшчыўся — нібы ўпершыню гэта такая выхадка Лідзіі Аляксандраўны.

Васіль Аляксеевіч адчуваў, як не перастае, лёгенька паколвае ў скроні, апрануўся, успомніў пра канюшню, заспяшаўся, каб кульгавы конюх Хведзька не выгнаў коней на пашу, а вярнуўшыся з канюшні, зазірнуў у настаўніцкую, сказаў Марыі Антонаўне, каб замяніла сваімі ўрокі Лідзіі Аляксандраўны, ведаў, што тая абавязкова «адхварэе» дзень, узяў хлопцаў-васьмікласнікаў, і, пакуль вазіў да сталоўкі дошкі, сухую тынкоўку, цэглу, гліну, прайшла пячайка, забыўся і пра старшыню, і пра Лідзію Аляксандраўну.

Ужо самым надвячоркам адпусціў дадому школьнікаў, завёў на канюшню, распрог каня, па дарозе дадому яшчэ раз зайшоў у будучую сталоўку, патупаў, выйшаў, замкнуў на вісячы замок.

Надвячорак быў сухі, халаднаваты, без ветру; сонца свяціла ярка, чырвона, і неба здавалася высокім, зеленаватым; а ў паветры была здаровая маладая свежасць, як на пачатку вясны, калі гэтае ж самае зеленаватае неба, чырвонае сонца і зямля яшчэ закрыта снегам і доўга да цёплага сонца, але на брылях гурбаў чуць прыадтае за дзень снег і ў вечаровым сонцы халаднавата паблісквае далікатны ледзяны карунак.

І ад гэтай свежасці на душы рабілася лягчэй, вальней хацелася дыхаць, і нават такія нядаўна значныя жыццёвыя клопаты здаваліся дробязнымі; і Васіль Аляксеевіч ужо шкадаваў, што пагарачыўся з Лідзіяй Аляксандраўнай, што яна і на самай справе можа напісаць скаргу, ёй гэта проста, а яму толькі не хапала камісіі, калі прыйшоў на работу новы загадчык райана...

Васіль Аляксеевіч толькі сцепануў плячыма — успомніў, як крычала яна, як варушыліся яе сінія вусны!

Замуж толькі гаворыцца што выйшла — за Сцёпку-п'яніцу, пачала яго перавучваць, дзеці растуць, а яна, як пачне бойку, уся вёска збіраецца, бы на спектакль... А Сцёпка як быў, так і застаўся Сцёпкам. Сама знервавалася, усё здаецца, што ёй толькі нядобрага людзі хочуць...

Не, трэба было яму раней, як пачалі накіроўваць настаўнікаў з адукацыяй у школы, зволіць яе — яшчэ і сям'і не мела, і загадчык райана згадзіўся б, а зараз няма як, хоць тая яе даваенная даведка не дакумент, што скончыла яна два курсы, вывучала нямецкую мову...

Ды і самому яму не трэба было падбадзёрваць Аляксандра Пятровіча, калі той паставіў першы раз Валі дрэнную адзнаку.

Урэшце, усё гэта перамелецца, а да раённай нарады добра было б адкрыць сталоўку, і ён яе адкрые.

Ішоў Васіль Аляксеевіч лёгка, упэўнена.

## V

Роўна пастукваў на стале будзільнік, і нязвыкла ціха было на кухні. Можна не ўставаць, спаць да абеду, пакуль не захочацца есці самому і не трэба будзе карміць парсюка, якому Іванаўна прыгатавала ежу, толькі занесці і выліць у карыта.

Шура прывык ужо да спакойнага жыцця на кватэры ў дырэктара, прывык рана класціся, позна ўставаць; дні сталі падобныя адзін да аднаго: ён усё збіраўся купіць стрэльбу, хадзіць на паляванне, але адкладваў, супакойваў сябе тым, што ён тут часова; от тады, як пераедзе на новае месца, дзе будзе працаваць пастаянна... Ён не хацеў прызнавацца самому сабе, што яму падабаецца такое ціхае непрыкметнае жыццё, калі цябе ніхто не турбуе і не прымушае турбаваць іншых. Жыві, як табе хочацца... І ніхто ў цябе допыту здымаць не будзе.

Шура адкінуў коўдру, саскочыў на падлогу, некалькі разоў прысеў, памахаў рукамі, заслаў ложак, падбіў падушку.

Раздзеты да пояса, доўга мыўся на двары, фыркаў ад халоднае вады, расціраўся ручніком. Потым у пакоі апрануўся ў касцюм, наглянцаваў чаравікі, выцягнуў з чамадана шырокі стракаты гальштук, хоць невядома, навошта і куды так трэба збірацца — было задавальненне ад чыстага святочнага адзення. Паглядзеўся ў трумо: папаўнеў на настаўніцкіх харчах, трэба болей варушыцца, трэба! І тут жа ўспомніў, што даўно збіраўся зайсці ў бібліятэку, узяцца і па-сапраўднаму перачытаць класіку, не так як студэнтам — па дыяганалі. І зараней радаваўся, як будзе ісці восеньскім ранішнім халадком прыгожы і малады, удыхаць чуць гаркавы дым з ранішніх вясковых камінoў, і цёткі будуць здзіўлена і цікаўна пазіраць услед.

Шура лёгка, не вельмі спешна ішоў па сухой, вытаптанай сцяжынцы паўз плот, і святочны настрой не праходзіў, хоць ужо і не пахла на двары гаркавымі ранішнімі дымкамі, і ніхто не глядзеў яму ўслед — жанкі даўно выпалілі ў печах і пайшлі на работу ў поле.

Бібліятэка была ў тым жа будынку, дзе кантора і клуб. Займала два пакойчыкі, адзін большы, застаўлены сталамі, на якіх раскладзены газеты і часопісы,—

чытальня, а за чытальняй, у крышку меншым пакойчыку, і сама бібліятэка — стэлажы з кнігамі. У бібліятэцы было халаднавата, чуць вільготна, як і заўсёды ў мураванай будыніне, калі доўга не палілі ў печках або не было ўключана абаграванне.

У кутку пры дзвярах за сталом сядзеў хлопец з доўгімі валасамі, што аж закрывалі каўнер пінжака, з акуратнаю чорнаю барадою, якая была да твару і не рабіла яго старэйшым. Вочы ў хлопца былі чуць прыпухлыя і чырвоныя — мабыць, ён многа чытаў. На стале стаялі скрыначка з абанементнымі картачкамі, стосы кніг, вазачка на ручкі і алоўкі, зробленая з дуплістага бярозавага круглячка.

Пахла кнігамі добра і прыемна, чуць пылам, як пахнуць заўсёды невялічкія бібліятэкі, дзе на паліцах тамы класікаў і на руках кнігі «пра шпіёнаў».

Хлопец устаў, працягнуў руку:

— Валодзя. Мясцовы культраб.

Шура назваўся.

— Што ж, запішам яшчэ аднаго чытача.

Валодзя ўзяў з вазачкі ручку і акуратна паставіў на чыстым бланку парадкавы нумар, потым гэтак жа няспешна запісаў прозвішча.

— Надоўга да нас? — запытаўся ён, не перастаючы пісаць.

— Да Новага года.

— Зайздрошчу табе! А я тут, як у турме.

Хлопец махнуў рукою, і Шуру здалося, што ён выпіўшы.

— Добрая ў цябе, Валодзя, работа. Кніг столькі.

— Ну яе!.. Усё роўна кіну.

Валодзя прыжмурыў вочы.

— Уяўляеш, касцюмчык, на нагах коры — люкс, кадру з ножкамі балярыны і ў спаднічцы міні, маг на падлозе, цвіст, таршэрчак і інтымнае святло ў пакоі!.. Гэта называецца зараз успамінам пра шчасце... А я жыў так, я нават маляваў гэтыя ножкі з натуры, без міні нават. Цяпер я мастак-недавучка, вясковы бібліятэкар... Як гаварыў Бендэр, гэта вам не Рыо-дэ-Жанейра.

І Шура лёгка і адразу ўявіў яго на вуліцы горада, у раскляшоных штанах, у модных чырвоных шкарпэтках, даўгагрывага; і яго даўганогую сяброўку з падсі-

ненымі павекамі і перламутравым лакам на кіпцях; і тое, як няспешна, віхляючыся, ішлі яны, коратка і шматзначна перагаворваючыся, паплёўваючы сабе пад ногі. Шуру заўсёды, калі бачыў такія пары, было шкада іх, як шкадуюць вясковыя людзі бяздомных калек; і яшчэ было прыкра і гадка, як і тады, калі бачыш, што чалавек прытвараецца старцам, калекам...

Валодзя ўстаў з-за стала:

— Калі ласка, выбірайце кнігі... Я скора вярнуся.

Шура ўспомніў, што дырэктар неяк расказаў пра Валодзю. Яго маці і зараз тэхнічкаю ў школе працуе. Яна не пусціла хлопца ў вучылішча, хацеў на сталяра вучыцца. І настаўнікі дапамагалі маці, угаворвалі, а потым і адзнакі «падцягвалі», каб лепшы атэстат быў, а старэйшы брат уладкаваў яго ў мастацкае вучылішча — маляваць хлопец быў здатны. Потым спіўся, з вучылішча выключылі, быў ажаніўся, кінуў жонку з дзіцем, і з горада выселілі яго, зноў жа брат тут уладкаваў на работу ў бібліятэцы... Хоць тут не Рыо-дэ-Жанейра, а нікуды Валодзю адсюль пакуль што не вырвацца, не «прашвырнуцца» асфальтавым тратуарам з транзістарам у руцэ.

Кнігі Шура глядзеў няспешна, перагортваў, адкладваў, і адкладзеных назбіралася болей за дзесятак. Ён не заўважыў, калі вярнуўся Валодзя, зноў сядзеў за сталом, пакурваў цыгарэту, і выгляд у яго быў сумны, як у чалавека, якому не пашанцавала, але які не хацеў, каб пра гэта ведалі. І кнігі запісваў ён не з такою асалодаю, як пісаў, афармляючы абанемент,— чыркаў размашыста, а сам думаў пра нешта сваё, нейкі клопат мучыў яго.

— Я думаў, вып'ем за знаёмства! А Жэнька не дала. Маці нагаварыла...

Валодзя спадылба паглядзеў на Шуру, і той зразумеў, што бібліятэкару да смерці хочацца выпіць, і ён чакае, каб Шура згадзіўся, даў грошы, бо ў магазіне не даюць больш «напавер».

Шура не падаў выгляду, што зразумеў, распісаўся, забраў кнігі. І калі выйшаў, з нейкім задавальненнем думаў, як лае яго ў думках Валодзя,— і скнараю, і ідыётам. Было прыемна адчуваць, на колькі ён, Шура, самавіцей, разумней і мацней у жыцці за гэтага Валодзю, які прапаў з-за гарэлкі, і ніколі не бачыць яму горада, і

ніколі не пафарсіць па вуліцы... І разам з задавальненнем сабою, сваёй вартасцю і сталасцю, лёгкі, як восеньская намітка сінечы ля небакраю, застаўся ў душы незразумелы сум пасля гэтай сустрэчы, і нібы ўпершыню пачуў ён, якая цішыня навокал, толькі далёка ледзь чуваць машына, і сонца свеціць журботна, ленавата ходзяць па дарозе куры... Так ціха, мабыць, было і тады, калі ён прыехаў сюды, і будзе праз год, і гэты ж самы Валодзя-бібліятэкар, і школа... Так жыццё скончыцца, нічога амаль не пераменіцца, і ніхто не будзе ведаць яго, і ён будзе бачыць адных і тых жа людзей кожны дзень, і калі-небудзь яму надакучыць да смяротнай стомленасці хадзіць на ўрокі, за якія штомесяц атрымоўваў грошы, спаць, сумаваць... Стала шкода самога сябе, і гэтае шкадаванне было прыемнае, як і прыемна і зручна жыць так, як ён жыве зараз, не надта клапаціцца і быць незалежным, сытым, спакойным і задаволеным самім сабою.

Дадому Шура ішоў напрасткі, сцяжынкаю цераз калгасны сад, малады, пасляваенны. Яблыкі абабралі, толькі трымаліся на самых кончыках галінак маленькія, як жалуды, яблычкі; нікому не патрэбныя, яны счарнеюць ад марозу і правісяць да самае вясны, сухенькія, непрыкметныя. У садзе прыціх, заблудзіўся лёгенькі палявы ветрык, цёпла блішчала карою на сонцы пакручастае нязграбнае голле, а ў скудлачанай, стаптанай траве маленькімі сінімі кропелькамі светла жылі кветачкі восеньскага пазняцвету.

У хаце Шура толькі зняў пінжак, расслабіў вузел гальштука, урачыста, не спяшаючыся, сеў за чысты засланым белым стол, на якім ляжаў шэранькі ў папяровых вокладках томік Тургенева з бібліятэкі «Огонька». Яму падабаўся гэты стары томік з недарагой паперы, чуць пажаўцелай ад часу, і аповесць была даўно, яшчэ ў дзяцінстве, прачытана ім, і ён зараз не памятаў, пра што пісалася, толькі назву «Вешние воды» і тое, што і сапраўды чытаў ён кнігу, калі сама пачыналася вясна і снег надвячоркамі быў вільготны і фіялетавы — і на ўсё жыццё запомніўся светлы вясновы настрой і назва.

Шура спачатку не звярнуў увагі на лёгкі шоргат у суседнім пакоі — спальні,— потым здзіўлена паглядзеў на зачыненыя дзверы: Васіль Аляксеевіч і Алена Іванаўна, «мая Іванаўна», як зваў яе дырэктар, павін-

ны былі раніцаю, досвіта, першым рэйсам аўтобуса паехаць у раённы цэнтр — дырэктар на нараду, жонка ў магазіны.

Упэўнены, што ў пакоі застаўся кот і, чаго добрага, зноў паскідае з падаконнікаў на падлогу вазоны, Шура шырока расчыніў дзверы, ступіў у пакой — і падаўся назад: на ложку ляжала дзяўчына і чытала кніжку; усміхнулася Шуру, падцягнула да барады коўдру. Шура адступіўся на парог, заплюшчыў вочы, пакруціў галавою і, мабыць, быў смешны і бездапаможны, бо дзяўчына ціхенька, шчыра засмяялася, потым прывіталася:

— Добрай раніцы, Шурык!

Яна працягнула яму загарэлую тоненькую руку, ён ступіў да ложка, падаў сваю, усміхаўся, усё не мог апамятацца і не адпускаў руку дзяўчыны. Зялёныя вочы весела глядзелі на яго з-пад тоненькіх чорных броваў.

— А я Рая. Цяпер ведаеце?

Яна вызваліла руку, зноў паправіла коўдру.

— Ведаю... А, Рая! Так і перапалохаць можна...

— А вы перапалохаліся? — вочы дзяўчыны зноў заіскрыліся смехам.— А што было б, каб я ўпоцемках на ваш ложак натрапіла?

— Тады б не было калі палохацца...— Шура яшчэ не ачомаўся і разгубіўся ад такой нечаканай сваёй смеласці.

— А вы вясёлы. Толькі вас саміх можна ўкрасці, не тое што...

— Калі вы прыехалі?

Шура нарэшце супакоіўся: дачка Васіля Аляксеевіча, пра якую ён не раз чуў ад Іванаўны, прыехала начным цягніком, а з райцэнтра першым аўтобусам; на прыпынку спаткалася з бацькамі, яны далі ёй ключ ад хаты. Яна здарожылася, пакуль прыехала, адразу лягла спаць.

Рая нічога не адказала на пытанне, і ён не перапытваў.

— Добра, Шура. Мне трэба адзецца. Я паміраю з голаду.

— Калі ласка. Я з вашага дазволу таксама займуся падрыхтоўкай да снедання.

Шура з радасцю паклаў кнігу на паліцу, апрануў

пінжак, зазірнуў у люстра, паправіў гальштук. Дырэктарава дачка аказалася простаю і вясёлаю дзяўчынаю, а не тою студэнткаю-зубрылкаю, якая ўяўлялася па расказах бацькоў.

У магазіне Шура патаптаўся ля прылаўка, пакуль бабулька купляла гаспадарскае мыла і «мяккія» цукеркі, а калі яна пайшла, папрасіў у магазіншчыцы, худзенькае, бледнатварае жанчыны ў акулярах з чорнаю аправаю і вялікімі ржавымі плямамі на халаце, чаго-небудзь лепшага чым «Вермут», які стаяў на вітрыне.

Магазіншчыца дастала з-пад прылаўка бутэльку каньячнага напітку, які трымала «для патрэбных людзей», загарнула ў газету...

Рая сустрэла Шуру ў верандзе: коратка пастрыжаныя валасы падбіла, расчасала зверху, і прычоска была роўненькая і круглая, як адуванчык, твар здаваўся яшчэ далікатнейшы, чуць адцэнены бледнаю памадаю вусны. Спартыўнае трыко з белаю палосачкаю на каўнерыку хораша ляжала на яе танклявай постаці.

— А ты не забыўся пра студэнцкую звычку.

Яна дакорліва паківала галавою, але Шура адчуваў, што яна рада гэтаму.

— Без віна рыба — атрута.

— Гэта значыць, што добра засвоіў французскую мову, нават можаш пераказаць прымаўку.

Рая разгарнула газету, паглядзела на бутэльку:

— Вясковая інтэлігенцыя абы-чаго не п'е. Прашу да стала, у мяне ўсё гатова.

На стале стаяла талерка пшанічных аладак, смятана, на сподках парэзанае на драбкі сала, каўбаса, кава ў чайніку.

Рая наліла ў фужэры кампоту, паставіла на стол чаркі.

— Ну, за знаёмства, Шурык!

— За студэнцтва! За цябе!

Пасля выпітага ўсе клопаты засталіся далёка, нязначныя такія, і Шура здагадаўся, што ад сустрэчы з Валодзем крышку засумаваў ён па гарадскім турботным жыцці, ад адзіноты...

— Што ты глядзіш на мяне, Шурык?

Ён не адказаў, толькі ўсміхнуўся сваім думкам і запытаўся:

— Ты надоўга?

— Не. А ты назаўсёды сюды ці на два гады?

— Да канца першага паўгоддзя.

— А потым куды?

— У другую школу недзе. Куды накіруюць.

— Анекдот ты, Шурык! Дыплом у цябе на руках — дзе хочаш, там і рабі. Толькі па спецыяльнасці. Мужчыну можна і ў горадзе работу знайсці не толькі ў школе, нерваў не трапаць... А ты анекдот! Маладому трэба жыць, а не чакаць, пакуль састарэеш. Мае бацькі пражылі, свету не бачылі, а я і без іх грошай магу жыць, што ім і не снілася.

І Рая глядзела на Шуру, быццам не верыла, што праўда ён не думаў заставацца ў горадзе, сама наліла ў чаркі.

— А я багатая нявеста, сватайся!

— Будзем лічыць, што гэта заручыны.

Шуру не хацелася думаць пра «сусветныя праблемы», яму было весела і добра, і на жыццё ён не крыўдаваў, не спяшаўся закусваць, доўга піў каву, а Рая прыбірала са стала, і не было канца вясёлай пуставатай гаворцы, і абаім было прыемна.

## VI

Загаць тулілася да самага лесу. За агародамі адразу ж пачынаўся нізенькі рэдкі ельнік, які толькі браўся ў сілу, між елачак сям-там былі відаць здалёку высакаватыя струхлелыя пні,— як пачыналі адбудоўвацца пасля вайны, секлі лес чым бліжэй ад дому: не было на чым вазіць бярвенне здалёку. Потым на высечаным пасвілі кароў, марнела гадамі пустка — не даходзілі рукі разрабіць зямлю пад поле або пасадзіць лес. Лес сам узяўся пакрысе, спачатку кустамі ядлоўцу, потым падняўся ельнік...

Вёсачка невялікая, вуліца шырокая, зарослая муравою, пустэльная надвячоркавым часам, і толькі здалёку, з цэнтральнае сядзібы, далятаў тонкі звон кавальскага молата па кавадлу.

Настрой быў паганы. Шура яшчэ спадзяваўся, што дома ў Стрыгельскіх нікога не будзе, і ён з лёгкаю душою пойдзе назад, спаткае Раю, якая павінна была

прыехаць надвячоркам; потым пойдуць з хаты, спачатку Рая быццам бы да сяброўкі, потым і ён скажа, што трэба схадзіць у бібліятэку, а Рая будзе чакаць яго за вёскаю... І замест гэтага яму сама мала да цёмнага даводзіцца быць у нейкай Загаці, гаварыць з бацькамі двоечніка, быццам гэта нешта дапаможа цяпер, перад самым канцом чвэрці. Для справаздачы хіба толькі, што «праводзілі індывідуальную работу з бацькамі вучняў, якія дрэнна вучацца», як будзе запісана ў пратаколе педсавета. Урэшце, у Загаць ён не павінен быў ісці: ён чалавек часовы, не класны кіраўнік, магла зайсці па дарозе ў Русакова да Стрыгельскіх Лідзія Аляксандраўна, але ж яна і назвала яго, быццам ён, Шура, зможа лепей, прыйшоўшы адзін раз, пагаварыць з бацькамі Стрыгельскага і з гэтага будзе больш карысці, чым ад тых размоў, якія вялі настаўнікі не адзін год... Шура быў зазлаваў, але Васіль Аляксеевіч быццам не зразумеў іроніі ў словах настаўніцы, дабрадушна сказаў Шуру, каб схадзіў ён у Загаць, і Шуру нічога не заставалася, як змоўчаць. У злосці ён забыў, што ў гэту суботу павінна прыехаць Рая, а калі абдумаўся, было позна не згаджацца...

Не пайсці ў Загаць Шура не адважыўся, але і затрымлівацца там не збіраўся — зойдзе, адбудзе сваё. Хата Стрыгельскіх стаяла ў канцы вёсачкі, наводшыбе, агароджаная высокім шчыльным дашчаным плотам, варотцы таксама зроблены з дошак, з клямкаю, як дзверы.

Ад варотцаў да ганку вяла заасфальтаваная сцяжынка. Двор чыста прыбраны, толькі пры сцяне хлява акуратна складзены кругляки-двухмятроўкі, куча бурачнага націння ля варот у хлеў. З-за хлява няспешна выйшаў вялікі паджары ганчак, пастаяў, паглядзеў на Шуру, трушком пабег насустрач, на імгненне прыпыніўся, яшчэ раз паглядзеў на незнаёмца і патрухаў да варотцаў, стаў на заднія лапы, адкінуў зашчэпку, пастаяў, азірнуўся і выбег на вуліцу.

Шура доўга выціраў ногі на верандзе аб кавалачак саматканага дывана, прытупваў, спадзеючыся, што хто-небудзь выйдзе з хаты, потым зайшоў у сенцы, доўга намацваў у цемнаце клямку, пастукаў яшчэ раз — з хаты ніхто не абазваўся, і ён зайшоў, прывітаўся.

Толькі тады на печы нехта заварушыўся, і жанчына ў гумавых ботах, у старым сачку злезла з печы.

— Дзень добры. Заходзьце ў хату. Я толькі з кароўніка, дома дагледзелася і задрамала.

Яна падгарнула валасы, што выбіліся з-пад хусткі.

— То праходзьце ж у тую палавіну...

Яна адчыніла дзверы, і Шура зайшоў у другі пакой, прасторны, халаднаваты, з пафарбаванаю падлогаю і столлю, з тэлевізарам на покуце. Пасярод пакоя стаяў круглы стол, засланы саматканаю далікатнаю сурвэтаю, і ў гэтым пакоі таксама было крыху прыцемна — ад завешаных гардзінамі вокан.

— Садзецеся ж. Я не кажу, каб распраналіся: печку яшчэ не закладвалі ад лета.

Жанчына была невысокая, худзенькая. Таксама прысела на краёк крэсла, паклала на стол рукі, цёмныя, з патрэсканымі, натруджанымі пальцамі даяркі. Такія рукі былі ў яго мацеры, Шура памятаў іх. Перахапіўшы ягоны позірк, жанчына нібы засаромелася, прыняла рукі са стала.

— Я са школы. Прыйшоў да вас...

— Хіба натварыў наш там?..

Жанчына азірнулася, быццам баялася, што іх пачуе хто.

— Нічога. Але вучыцца не хоча. Зноў за чвэрць двойкі будуць. Яшчэ можна падцягнуцца...

Шура ведаў, што ўжо не «падцягнешся», нічога нельга направіць, і яму стала ніякавата, што гаворыць няпраўду.

— Хто ж яго ведае... Я і прасіла, і гразіла, вечарам, калі час маю,— правяраю троха. Ён і не гультай, за лета тону саломы зарабіў.

— Бачыце, а на вучобу часу не стае...

— Якая тут работа!

Жанчына зноў паклала рукі на стол.

— З першых класаў вучыўся добра, адале захварэў, адстаў. Першы раз двойку паставілі яму, а Павел яго пастронкам чуць не да смерці збіў, ледзьве жывога адабрала. З таго і пайшло. Паўла настаўнікі часцей бачаць, яму гавораць, калі што якое, а ён прыйдзе з работы п'яны і б'е хлопца смяротным боем. Такі канчаны чалавек. Заступлюся я — і мяне б'е. Бывае, ночы не начуем дома. Настаўнікі ведаюць, гэта вы новы...

Жанчына гаварыла проста і горка — яна не скардзілася і не прасіла суцяшэння, шкадавала сына, прывыкла і да мужа, змірылася.

Цяпер Шура ведаў, што настаўнікі не захацелі ісці да Стрыгельскага, і ён толькі адбудзе гэтае наведванне. Невядома было, што гаварыць далей. Трэба было ўставаць, развітвацца. Шура паглядзеў на дзверы.

— Калі Павел уведае, што вы прыходзілі, зноў бяда будзе. А Мішка толькі хоча васьмігодку кончыць, у горад на завод паехаць. Мяне, кажа, забярэ з сабою. Усё роўна, як я куды паеду... Дзіця яшчэ.

Жанчына квола ўсміхнулася.

Шура зразумеў, што жанчына баіцца, каб яго не заспеў у хаце Павел — ён ведаў гэтага высокага, худога і панурага трактарыста.

— Скажыце Мішу...

Шура так і не дагаварыў, што павінна гаварыць жанчына сыну, бо не ведаў і сам.

— Вы пасядзіце яшчэ з дарогі. А я насваруся на яго.

Жанчына выйшла следам за Шурам у сенцы.

— От вазьміце з сабою груш.

— Не трэба, дзякую, навошта...

— Вазьміце, такіх мала дзе асталося — слуцкія бэры.

Жанчына правяла яго да варотцаў.

Ужо цямнелася, затухаў туманлівы асенні дзень, але Шура не заўважыў гэтага, ішоў шпарка. І не думалася пра Раю і пра тое, што марна толькі патраціў ён час. Выразна ўспомнілася, як аднойчы бацька прыйшоў выпіўшы, сварыўся з маці, потым ударыў яе па твары, яна ўпала, стукнулася галавою аб вушак і закрычала тонкім і страшным голасам, і ён таксама закрычаў з перапалоху, папусціў у бацьку з печы качалкаю, і яна старчма ўдарыла ў плечы. Бацька сцягнуў яго долу, моцна біў рукою. Маці паднялася з падлогі, і, пакуль бацька адвярнуўся, каб адапхнуць яе, ён вылецеў з хаты, прытаіўся ў мокрым, адсырэлым вішняку, чуў, як бацька шастаў па двары, шукаў яго, лаяўся, грозіў разадраць, нібыта жабу, а маці хадзіла следам, бездапаможна прасіла не чапаць дзіцяці. Ён плакаў, седзячы на мокрым вішнёвым лісці, быў упэўнены, што дадому больш не вернецца, што пойдзе да

дзядзькі Алеся, і там застанецца назаўсёды. Потым, калі бацька заснуў, маці ўсё хадзіла па двары, плакала, клікала, і ён абазваўся, бо не чуў ад холаду ног... І зараз Шура нібы адчуў і той холад, і вільгаць у вішняку, і тую крыўду, якой, здавалася, не быць век забытай і якую не можа вытрымаць яго хлапчукоўскае сэрца. І ён сам адчуваў, як ненавідзіць часам і яго Стрыгельскі, як марыць ён паехаць туды, дзе яго не ведаюць, каб жыць так, каб зайздросцілі іншыя!.. І як гэта нязначна: і працэнты паспяховасці па школе, і колькасць «двоечнікаў», і невядома каму патрэбнае — прытрымаць хлопца яшчэ на восень, «каб памятаў». Што яму памятаць? Навошта? Усё гэта здалося чужым, непатрэбным жывому чалавеку, і Шуру раптам стала прыкра ад таго, што і ён мае сваю ролю ў гэтым непатрэбным спектаклі.

Шура падыходзіў ужо да вёскі, калі нехта паклікаў яго:

— Пачакайце, Пятровіч! Не дагнаць вас.

Шура пазнаў Марыю Антонаўну.

— Самога Стрыгельскага, старога, хоць дома не было?

— Не.

— Ну і то добра.

Марыя Антонаўна ішла побач, маўчала. Шура бачыў, як углядаецца яна ў вечаровую далечыню, у спустошаны лес за полем, дзе прасторна ветру між голага галля, дзе застаўся да самага марозу неадольны, вечны пах вільготнае зямлі і прэлага лісту.

— Ехалі б вы ад нас, Пятровіч.

— Чаго?

Шура аж прыпыніўся. Сказанае здавалася зусім недарэчным.

— Ехалі б... Прывыклі вы скора... Я колькі год жыву, а так і не магу прывыкнуць да канца... Прызвычаіцца і не мець клопату.

Шура не зразумеў, пра што яна гаворыць, не хацеў зразумець, як не хацеў і раней звяртаць увагі на тое, часам трывожнае адчуванне, якое бывала находзіла ў такія спакойныя, добрыя дні і перашкаджала яму жыць нармальна і быць задаволеным сабою. І зараз ён зазлаваў: мала з яго Стрыгельскага, мала таго, што можа прапасці вечар, у які да яго прыехала Рая, яшчэ

і гэтыя шматзначныя павучанні, быццам ён сам не ведае, што яму трэба. Ён скоса зірнуў на Марыю Антонаўну, але тая маўчала, больш не гаварыла нічога, толькі ўсё гэтак жа глядзела ўдалечыню, паўз Шуру.

Апошнім часам Шура заўважаў, што настаўніца пільна прыглядалася да яго, не гаварыла з ім так шчыра, як у першыя дні,— ды і Шура сам неяк пазбягаў і размоў і сустрэч з ёю.

І, як толькі дайшлі да вёскі, Шура заспяшаў развітацца:

— Добрай ночы, Марыя Антонаўна. Я цераз сад пайду.

— Дабранач.

Шура прыпыніўся, прыслухаўся да пустога, выстуджанага, як адзінокая чалавечая душа, саду, у якім слаба, нібы матылёк аб аконнае шкло, трымцелі на ветры ацалелыя лісцікі. І толькі цемень, рэдкія агні ў хатах, і вялікая чарната неба над маленькім і непрыкметным чалавекам, такім нязначным і слабым, як гэты позні лісцік на галіне. Шура толькі зябка павёў плячыма...

І яшчэ некаторы час ён няўцямна глядзеў на вёску, на вялікія асветленыя вокны клуба, і нібы скрозь туман адчужання дайшло, што сёння прыехала да яго Рая, што ў яго шчаслівы вечар, які нельга страціць. І трэба было спяшацца.

## VII

Васіль Аляксеевіч зірнуў на гадзіннік, на ранні прыцемак на дварэ, згарнуў паперы ў стол і апрануўся,— трэба было заспець старшыню сельсавета на рабоце.

Васіль Аляксеевіч ішоў лёгка, нават усміхаўся сам сабе — усё-такі нечага варта яго галава, можа знайсці выйсце з самага бязвыхаднага становішча, і зноў яму, Цімошаку, будуць зайздросціць людзі. Зараз Васіль Аляксеевіч быў упэўнены, што машыну трэба купляць абавязкова. Самому яму ездзіць нікуды не трэба, аддасць Лёню. Хай сын не думае, што бацька яму вораг, а будзе ў сына машына, часта і ў вёсцы бываць стане. Зноў усё наладзіцца ў сям'і...

У сельсавеце гарэла святло. Гэта была старая будыніна пад старымі выносістымі вязамі, якая ацалела ў вайну, з замшэлым стромкім чарапічным дахам.

Агароджу нядаўна паставілі новую, на цэментавых шулках.

Падлога ў будынку вытапталася, на дошках гурбанкамі выступалі сукі. Узімку ад гэтай хісткай, як клавішы, падлогі ды і ад старых атынкованых з сярэдзіны сцен цягнула ледзяным холадам. А таму і сам Гуськоў, і сакратарка, вастраносенькая дзяўчынка, не распраналіся. Гуськоў сядзеў зімой у старым вайсковым кажушку, у бітых валёнках, дзяўчына ў паліто, у боціках, ногі ў якіх усё роўна прабірала холадам, і таму яна бегала грэцца ў суседні невялікі пакойчык, дзе мясцілася паштовае аддзяленне, і начальнік якога, аднарукі таўстун і штукар Дземідок, заслаў падлогу фанерай, ababіў фанерай сцены, ды і на маленькі пакойчык была асобная печка, у якой палілася два разы ў дзень, і таму Дземідок сядзеў у картовым пінжачку.

І калі заходзіў Гуськоў, жартаваў:

— Што, улада? Сама сабе дабра не зробіш, а што пра людзей казаць?

— Перастань, Адамавіч. Летам зробім рамонт. Падлогу перасцелем, сцены ашалюем, шыферам пакрыем. Ах, гарачая!

Гуськоў туліў далоні да печкі, папраўляў накінуты на апашкі кажушок.

— А гэту сценку выкінем, зробім перагародку напрамую, табе ў два разы пакойчык большы будзе.

Дземідок пераставаў ляпаць лічыльнікамі, нагінаў галаву і спадылба, міма акуляраў, хітравата мружыўся на старшыню.

— А ты ведаеш, Сцяпанавіч, як цыган хату будаваў?

— Цыган? Які цыган?

— От паслухай. Ездзіў, ездзіў цыган, лета канчаецца. Трэба думаць, дзе зіму зімаваць. Сядзіць вечарам цыган з цыганкаю ля агню і суцяшае: «Не турбуйся, міла, я табе во такую хату зраблю». І на пяску рысуе: от тут у нас веранда, а от тут чыстая палавіна, тут самі спаць будзем, тут дзеці. А цыганка: «Не, от тут дзеці будуць, а тут зала, а тут мы з табою».— «Цыц, я хадзяін, так будзе!» — «Не, от так, як я кажу!» — «Дурная

баба, не будзе табе хаты!» Цярнуў цыган ботам, плюнуў і пайшоў. Так і дасюль на возе ездзіць.

— От ты, Адамавіч, усё мяне паддзяеш.

Гуськоў папраўляў на плячах кажушок і мякка тупаў па дошках-клавішах па калідоры, а Дземідок зноў ляпаў на лічыльніках, пасміхаўся сабе пад нос: трэцюю зіму Гуськоў збіраўся рамантаваць сельсавет, выдзяляў грошы, але потым то не было людзей, то не хапала матэрыялу, і зноў хадзіў зімою грэцца да Дземідка, планаваў на лета рамонт, а на наступную зіму Дземідок зноў расказваў, як цыган хату будаваў...

Васіль Аляксеевіч адразу прайшоў да стала, павітаўся з Гуськовым за руку, і той не проста прыпадняўся з крэсла, а выпрастаўся на ўвесь рост, як некалі перад сваім вайсковым начальствам.

Насупраць яго сядзела Цярэшчыха з Іванкаў, і не дала Гуськову загаварыць да Васіля Аляксеевіча, працягвала сваё:

— ...Як гэта вы, людзям можна, а мне — не? Іван Варчын дастаў сабе, накрыў хлеў, а я і малака больш за ўсіх здаю, як трэба, і паўнорму яшчэ ў калгасе бяру буракоў і льну рабіць...

— Вы слухайце мяне: я вам яшчэ раз тлумачу. Шыфер мы даем толькі крыць хаты. З вашых жа Іванкаў Данілка выпісаў шыфер на хату, а накрыў хлеў. Цяпер ходзіць, каб давалі на хату, а мы не дадзім. Мы яго папярэджвалі... Ёсць гонта, дошчачка...

— Таму, хто можа лішні раз і гэту гонту трактарным маслам намазаць, і перакрыць, як трэба, вы шыферам, а мне ўдаве...

— Не знаю, цётка, дзе хто дастае шыфер! Даставайце і вы. Мы даём шыфер крыць толькі хаты.

Гуськоў стомлена ўсміхнуўся.

— Вам толькі з бабы нясграматнае і зубы паскаліць. Ведама, няма каму заступіцца, то і папіхаюць, хто як захоча...

Гуськоў адкінуўся да спінкі крэсла, умольна зірнуў на Васіля Аляксеевіча — бачыце, як тут можна працаваць.

Сакратарка, якая нешта заклапочана друкавала на машынцы, не вытрымала, мабыць, гаворка ішла даўно і надакучыла і ёй.

— Хопіць дурыць голаў, цётка. Табе як чалавеку сказалі, што крыць хлявы сельсавет шыферу не дае. Хочаш — бяры гонту. А не — развязвай калошу з грашыма і купляй шуфер у якога блатаўшчыка. Толькі глядзі, а то грошы возьме, як той дзядзька з Дзешчанкі, а шыферу не дачакаешся...

— От ты, Галя, напляцеш абы-што. Дзе тыя грошы ў мяне калі былі...

Цётка паднялася і зашамала да парога.

— Цяжка, Васіль Аляксеевіч, з такімі людзьмі працаваць. Ёй усё чэсна гаворыш, а яна не разумее. Думае, што ты яе абманваеш... Крыўдна. І ўсе так думаюць.

— Не так і думаюць, як прытвараюцца... Я і то перастаю табе верыць, Павел Сцяпанавіч. Плот вакол школы згніў, паваліцца. А ты мне новага так і не паставіў...

— От бачыш, і ты, Васіль Аляксеевіч!.. Пасля Новага года ў нас ліміт будзе... Будзе плот, будзе.

Старшыня нават устаў з крэсла, узяўся за лацканы пінжака і пераконваў Васіля Аляксеевіча. Машыністка толькі пазірала то на аднаго, то на другога, і бачыла, як дабрадушна і сыта мружыць вочы дырэктар.

— Я от хацеў папрасіць цябе, каб паставіў мяне на чаргу купіць машыну, да і пабойваюся, што зноў нічога не выйдзе, як і з плотам... Зноў скажаш, што ліміт выбралі.

— Васіль Аляксеевіч, машыну на той год гарантую! На наш сельсавет яшчэ ні аднае не бралі! Нам дадуць адразу.

Гуськоў нават расправіў плечы, а машыністка перастала друкаваць — цікава.

— Ты, Павел Сцяпанавіч, кім служыў?

— Начальнік артузбраення ў палку быў. Там і маёра далі.

Васіль Аляксеевіч усміхнуўся: усё жыццё заяўкі старшынам рот на боепрыпасы падпісваў, ведамасці перабіраў, апошнім часам баяўся, каб не трапіць пад злую руку камандзіру палка і дабыць да пенсіі на штабной рабоце... А праз год і са старшыньскаю пасадаю давядзецца развітацца: як бралі, думалі, што возьмецца за справу, чалавек вайсковы, прывык да

парадку, ёсць хватка, а напавер выйшла — пустое месца.

— Прынясу табе заяву да выканкома. Можа, і не падвядзеш.

— А, Васіль Аляксеевіч!..

Гуськоў не кончыў апраўдвацца — шырока расчыніліся дзверы, і Дземідок з парога даў каманду:

— Устаць, скамандаваў Сувораў!

І па яго ваяўнічаму настрою, і па ордэнскіх планках на пінжаку Васіль Аляксеевіч зразумеў, што Дземідок атрымаў пенсію па інваліднасці, і што сёння ў яго святочны дзень. Праўда, грошы ў лік пенсіі ён пакрысе браў наперад з касы — сам сабе галава на пошце — але не болей, чым палавіна пенсіі, а калі прыходзіла пенсія, разлічваўся з дзяржаўнаю касаю.

— Цішэй вы, Адамавіч, тут Васіль Аляксеевіч да нас прыйшоў...

— Васька мяне ведае... Ён франтавік, партызан. Мне Родзіна да смерці грошы плоціць. Каб было штодня на паложаныя ўставам сто грам, франтавых сто грам. А ты чаго, сарока, хмылішся? Рабочы дзень кончыўся — і марш дадому! — накінуўся Дземідок на сакратарку.

— Ціха, герой мне! Зайду, скажу Ганьцы, яна цябе прыструніць.

— Маўчаць, сказаў Сувораў! — ужо не так упэўнена паўтарыў Дземідок. З жонкаю мець справу не хацелася.— Ідзі, хай хлопцы дзе паціскаюць, каб мякчэйшаю стала.

Сакратарка аскірзалася толькі для блізіру, ёй нарукy было кінуць перадрукоўваць тэрміновую справаздачу. Яна згарнула паперы ў шуфлядку.

— То я пайду, Павел Сцяпанавіч,— ні то прасіла, ні то сказала яна, бо ведала, што старшыня не скажа наперакор.

— Калі ласка, Галя. Заўтра чуць раней прыйдзеце.

Васіль Аляксеевіч бачыў, як неўзаметку стараўся адчайна падміргваць і ківаць галавою Дземідку Гуськоў, але той ці то не заўважаў, ці то не зважаў на гэтыя мігі, дастаў з кішэні паўлітэрку, прыткнутую коркам, зробленым з пераводнага бланка, паставіў на старшынёўскі стол.

— Даставай, Сцяпанавіч, закуску.

Васілю Аляксеевічу здалося, што Гуськоў аж пачырванеў ад няёмкасці. Дырэктар адвярнуўся, зірнуў у акно, усміхнуўся, каб не заўважылі. Ён аднекуль зверху глядзеў на гэтае маленькае і смешнае жыццё і Дземідка, і Гуськова, на іх хітрыкі, на тое, што старшыня з Дземідком любяць саграшыць з чаркаю, і Гуськоў пастаянна трымае ў сябе ў стале кавалачак сала, цыбулінку, нават лаўровы лісцік, каб забіць гарэлачны душок.

— Ну што ты круцішся, як на шыла сеў. Даставай! — падагнаў Гуськова Дземідок, зашчапіў на зашчапку дзверы.— Рабочае ўрэмя кончана, маем такое права.

Дземідок зубамі выняў корак, наліў паўшклянкі, падаў Васілю Аляксеевічу.

— Не, Адамавіч. У мяне ж гастрыт. Я потым кроплю вазьму.

— Маўчаць! Я камандую парадам!

Васіль Аляксеевіч зразумеў, што адмаўляцца няма толку. Пакуль Дземідок запрашаў Васіля Аляксеевіча, Гуськоў накроіў на газеце хлеба, нарэзаў сала, і Васіль Аляксеевіч са сваёй спакойнай вышыні пазіраў і на Гуськова, і на Дземідка паблажліва, дабрадушна.

Пасля выпітай чаркі Дземідок зусім ап'янеў, не мог трапіць цыбулінаю ў соль.

Эх, ва палях ахвотнік,
Цэлы дзень гуляе!..

Дземідок зацягнуў гучна, з падвывам.

— Адамавіч, Адамавіч, калі хочаце, то ціхенька, ціхенька,— супакойваў сябра Гуськоў.

— Маўчаць! Ты што знаеш? Ты пенсію палучаеш — і сядзі. А з сельсавета цябе турнуць скора, каб не псаваў места! Я пяхота! Палавіна людзей на зямлі пяхота, царыца палей. Васіль ведае, што такое пяхота. Хай ён табе раскажа, як перад цягачом целы прыбіралі, каб праехаць цягачу... То пяхота мёртвая ляжала! Наша пяхота пасля прарыву! Пяхота і пасля вайны на сабе поле арала, пяхота...

Дземідок не дагаварыў, абапёрся на стол; як цень хістаўся пусты рукаў яго пінжака, а вочы нечакана сінія і пустыя глядзелі ва ўпор на Гуськова, які спакойна жаваў сала,— ён прывык да такіх выступленняў Дземідка.

— ...Дзяцей гадавалі, сябе не шкадавалі, хацелі, каб яны панамі пасталі... Мой пан ажаніўся, на прыватнай кватэры ў горадзе жыве, на мяне смяротная крыўда, што не даў яму грошай на кааператыўную кватэру! Пан вырас... А ў мяне хата пуставаць астаецца, прыязджай жыві, старасць маю дагледзь! Ты маўчы, пісарышка, ты мяне не поймеш! А Васіль ведае... У яго гэтакі вырас, бацькі сцураўся за тое, што бацька яму дабра хацеў. Ён жа цяпер сілу мае, сам пражыве, а старому ў крапіву паўзі... А дзеўка што, дзеўка зязюля... Сёння з настаўнікам у лесе качаецца, а заўтра знойдзе сабе дурня, узлезе яму на шыю. Дзяўкі ерунда, добра, што самі жыць прыстрояцца. Хлопцы наша сіла, а мы іх у паны павыпраўлялі, у паны. А няма горай пана, чымся з хама... Я табе, Вася, па дружбе скажу... Толькі ты не шум баравы...

Дземідок заплюшчыў вочы, памахаў рукою перад тварам, нахіліўся цераз стол да Васіля Аляксеевіча.

— Лідзія Аляксандраўна, Сцёба, напісала на цябе ў раён. Што ты дзяцей не па-савецку вучыш, што малады настаўнік таксама за табою цягне, бо гуляе брыдка з тваёй Райкай. Таму ты за яго заступаешся... Толькі ні шум баравы! Службовая тайна!

Рука Дземідка саслізгнула са стала, ён пахіснуўся, зноў завёў:

Ва палях ахвотнік...

Васіль Аляксеевіч спачатку няўцямна глядзеў на Дземідка, нават працягнуў руку, каб пакратаць яго за плячо, перапытацца, страсянуць загрудкі, каб не гаварыў альбы-чаго, і зразумеў, што нічога больш ад п'янага паштара не даб'ецца, і што той і спачуваў яму, і гаварыў праўду, тое, што ведаў, гаварыў, як сябру ў няшчасці. І толькі зараз яму стала не па душы, што сядзіць ён разам з Дземідком і Гуськовым, гэтакі ж, як і яны... Ён устаў, толькі на двары прыпыніўся, прытуліўся да плота. Не засталося і следу ад добрага настрою, ад упэўненасці, што зноў усё будзе добра ў жыцці. І ад таго, што яму, Цімошаку, спачувае нават гэты п'яны, бесталковы паштар, злосць і крыўда ахынулі, вярнулі да свядомасці. Востра і роспачна зразумеў ён, што лёгка, як кладзены на адзін бок воз сена, абрынуліся ўсе яго спадзяванні... І пакуль ён шыбаваў

вуліцаю, нічога не заўважаючы навокал, як ашалелы, роспач і адчай саступілі месца злосці на дачку, на самога сябе, на Аляксандра Пятровіча, на Лідзію Аляксандраўну, на камісію, якая прыедзе пароцца, разбірацца, рабіць вывады, на Дземідка... Пакуль дайшоў подбегам да хаты, выдыхаўся, узмакрэў. Зняможана прыхіліўся ў варотцах плячыма да слупка-трубы, адчуваў, як сталі слабымі і цёплымі ногі, як стыне ад жалеза спіна, усё цела, нават душа. І добра, што дамовіўся з Гуськовым, а дачка!..

Спакойна, зацята пайшоў ён да парога, чуў, як далёка на вуліцы падвываў паштар: «Ва палях ахвотнік...»

Васіль Аляксеевіч не прыпыніўся ў верандзе, не разуўся, апрануты зайшоў на кухню, стаў на парозе, запытаўся:

— Пятровіча няма яшчэ?

Ён не спадзяваўся, што Рая будзе дома, і, калі недзе глыбока ў душы жыло спадзяванне, што няпраўду гаварыў Дземідок, што гэта, магчыма, толькі плёткі, цяпер успомніў, што дачка прыязджае дадому кожную суботу, а раней раз у два месяцы — і то добра...

Рая стаяла ля кухоннага століка ў блакітным халаціку, у шлёпанцах, крышыла бульбу.

Васіль Аляксеевіч успомніў, што і ў інтэрнаце яна ходзіць у гэтым кароткім халаціку. Староннім, не бацькоўскім вокам убачыў ён і загарэлыя аголеныя ногі — і толькі выдыхнуў паветра, стрымаўся, каб не вылаяцца.

Жонка расклала на патэльні катлеты, але так і не паставіла на пліту, трывожна запытала:

— Што ў цябе, Васіль?

— А ты ў дачушкі пытайся! Мо табе яна раскажа, дзе і з кім качалася, што ўсё сяло пальцамі, як на пасмешышча, паказвае!

Рая асцярожна паклала нож, адгарнула з вачэй пасмачку валасоў, зірнула на бацьку і чуць збянтэжана ўсміхнулася, хаця і ведала, што значыць гэты хрыплаваты яго голас.

— А я ў цябе пытаюся!

Васіль Аляксеевіч ступіў ад парога, і жонка падалася насустрач, быццам хацела стаць між дачкою і мужам.

— Выгадавала, выпесціла лялечку! То ў год адно пісьмо піша, а то штотыдня сюды яе цягне! Людзям на пасмешышча! Я і таго ціхага сабакара вазьму за кудлы! Жанецеся, калі гэтак смачныя адно аднаму!

Васіль Аляксеевіч асекся: дачка толькі пагардліва ўсміхнулася, чуць сяступіла ўбок, насмешліва, як дарослая жанчына на нявопытнага хлапчука, глянула на бацьку. І ён сумеўся.

— Я сабе, папачка, лепшае найду... А дзе мне і з кім — не твой клопат! Не бойся, у прыполе табе не панясу...

Васіль Аляксеевіч толькі адчуў, як перахапіла дыханне, тоненька зазвінела ў галаве... Ён навотлю раз і другі ўдарыў па дагледжаным тварыку і біў бы, пакуль не скрываваў, не скалечыў, ад роспачы, што цяпер нічога нельга перамяніць.

— Вася! — тонка, нібы траціла прытомнасць, закрычала жонка, і ён спыніўся.

Дачка не закрычала, толькі зацята ўсміхнулася роўнымі зубкамі — чужая, невядомая жанчына.

Ён чуў, як яна грукнула дзвярыма спальні, ваўкавата зірнуў на жонку, адчуваў, як востра рэжа жывот, зняў толькі пінжак, не раздзяваўся, ускінуўся на печ, на цёплы чарэнь, знясілены, спустошаны, нібы мёртвы.

І нібы здалёку чуў, як снавала па кухні, усхліпвала жонка, як нешта гаварыла да дачкі, і тая адказвала моцна і злосна, як прагрукалі абцасікі туфелек да дзвярэй, у верандзе, па цаглянай сцяжынцы, нехаця зірнуў на гадзіннік — дачка ўспявала яшчэ на апошні рэйс аўтобуса.

Потым ні то заснуў, ні то задрамаў, толькі адчуваў, як тупа баліць жывот, як прыемна целу ад цяпла, і не злаваўся на Шуру, неяк спакойна і роўна думаў, што не трэба было чапаць Лідзію Аляксандраўну. Захацеў нешта мяняць... Сказаў бы не чапаць — і Шура паслухаў бы, паставіў добрую адзнаку... З яго-то, з маладога, што спаганяць, сабярэцца і паедзе, а тут каміcіі... Быў бы хоць стары загадчык райана... А Шура паедзе...

І думка, спачатку млявая, невыразная, захадзіла ў галаве, закружылася, і нечакана ён зразумеў, што трэба зрабіць,— і ўсё будзе добра! Ён нават усміхнуўся, што ўсё так лёгка і проста.

...Ноч стаяла чорная, густая, і ў гэтай чарнаце, як вялікія мядзведзі, здавалася, варушыліся, калі пацягне ветрыкам, калючыя кусты барбарысу, шыпшыны і ядлоўцу, і страшна было ісці, каб не выкалаць вока ці не абадраць твар калючкамі. Гэты зарослы хмызам пагорак на самым узлеску яны не выпадкова выбралі для пазіцыі батарэі: адсюль добра прастрэльвалася скрыжаванне шашы і гравейкі, і не трэба было многа капаць, каб замаскаваць гарматы,— мабыць, некалі на гэтым пагорку капалі пясок, таму і засталіся, пазарасталі травою глыбокія ямы. Капаць нікому не хацелася — немцы адступалі так, што дывізія ніяк не магла «сесці на хвост» ім.

Ён спаў непадалёку ад гарматы, у неглыбокай ямцы, і каб не прабірала холадам ад настылае зямлі, ссек некалькі кустоў ядлоўцу, падаслаўся. Паверх шыняля акрыўся кавалкам брызенту, які яшчэ ў восеньскія дажджы падабраў ля згарэлае машыны.

Страляніну паднялі сярод ночы дазорцы. Ніхто не ведаў, дзе вораг, колькі яго, нават невядома, хто даў каманду адступаць. У начной цемені зачапілі гарматы, ад'ехаліся за пару кіламетраў у лагчыну і камбат, высокі, худы і ходкі, як лось, мужчына, з аўтаматам у адной руцэ, шастаў па полі, арганізоўваў батарэю, кляўся знайсці панікёра і расстраляць на месцы — ён не даваў загаду адыходзіць. А потым аказалася, што няма гарматы, ёсць машына, разлік, а гарматы няма...

Усе яны стаялі ў адным страі тварам да пакінутага рубяжа, дзе час ад часу пускалі ракеты і пастрэльвалі немцы — таксама баяліся многа шумець. Усе яны ведалі, што калі добраахвотнікі не прывязуць гармату, то камбат загадае штурмам браць вышыню... Але не гэта было галоўнае. На ўсё жыццё запомніў ён, як лёгка застукаў па намёрзлай зямлі каменьчык ад удару яго бота, калі ступіў наперад два крокі, у шарэнгу добраахвотнікаў. І які ён быў тады моцны, нібы зліты ў адзінае з начным холадам, цемнатою, «студэбекерам», які

на малых абаротах поўз да ворага. Бог ведае, якое чуццё вяло сержанціка, маладога хлопца, якая зорка свяціла ім скрозь чарнату стылага чужога неба, што натрапілі яны на згубленую гармату. А як яны ляцелі назад, да сваіх, і толькі ледзяны, як смерць, холад насустрач!

Васіль Аляксеевіч спачатку не мог ачнуцца ад гэтага цяжкага сну-ўспаміну і ўсё адчуваў той самы смяротны восеньскі холад на твары, падумаў, нашто яму ўбілася ў галаў гэта дурнота, якую даўно пара забыць, якая не мае сёння да яго ніякага дачынення, бо нікуды ён не ступіць... Толькі адкуль гэты холад?

Васіль Аляксеевіч сеў, спусціў ногі на прымурак. Дзверцы ўюшкі ў коміне былі прачынены і адтуль цягнула снежным марозным ветрам. Ён зябка перасмыкнуў плячыма, зачыніў дзверцы, злез з печы.

На двары густа пачынала сінець, развіднеvала.

Ён апрануўся. Яшчэ і лепш, калі ніхто не будзе бачыць, што ён хадзіў у Подзелень.

## VIII

Пакуль Васіль Аляксеевіч дайшоў да Подзелені, зашарэла, пасвятлела, суха забялела выціснутая марозікам зямля, па платах і стрэхах густа ляжаў прымаразак, вецер закручваў, як і ўлетку перад навальніцай, пылам, і верылася, што раптам пойдзе снег, за адзін дзень стане зіма. Толькі не ў пару такі нахабны марозік, рана яму. Удзень аціхне вецер, чыста высвеціць сонца, пацямнее, адступіць зямля, растане шэрань на стрэхах, і тоненькі, як спадзяванне, лядок у калюжынах. У спакойным паветры будзе ападаць долу пабітае марозам, аця жэлае апошняе лісце, толькі на позднім дубе, пры палявой дарозе за вёскаю, застанецца яно да вясны жорсткае, скручанае, будзе палохаць сваім мёртвым пашорхваннем зімовую ноччу выпадковага падарожнага.

Васіль Аляксеевіч ішоў скора і ўсё роўна не мог сагрэцца, праціналa халодным ветрам.

У скупым сінявaтым прыцемку ярка свяціліся агні Подзелені. Вуліца яшчэ бязлюдная, толькі было чуваць, як нехта ў канцы вёскі браў ваду, і тоненька па-

звоньвала аб цэментавыя трубы калодзежа вядро і ланцуг.

Васіль Аляксеевіч утуліў галаву ў падняты каўнер плашча, спехам мераў паўз платы да Валерыі Канстанцінаўны.

Хата настаўніцы стаяла ў вулачцы, за вялікімі старымі вязамі, акуратна пафарбаваная, ашаляваная, з прасторнаю верандаю і невялікімі вокнамі, і ад гэтых вокан уся прасторная будыніна здавалася старою, нязграбнаю.

Перад ганкам Васіль Аляксеевіч доўга выціраў ногі на зробленай з металічных вугольнічкаў лесвічцы і не ведаў, з чаго пачне гаворку.

У сенцах старая, маці Валерыі Канстанцінаўны, секла параную бульбу ў рашцы, над якою густа падымалася белая пара. Старая спачатку не пазнала Васіля Аляксеевіча, прыглядалася.

— Добрай раніцы, добрай раніцы,— паўтарыла яна, выцерла рукі аб фартух, адчыніла дзверы ў хату, паклікала: — Валя, к табе ўнё дырэктар прыйшоў.

Васіль Аляксеевіч следам за старою зайшоў на кухню і не адважыўся праходзіць у другі пакой.

На кухні быў ранішні непарадак, як і ў кожнай вясковай хаце: стаялі ля прыпечка чыгуны, ляжала вялікая мокрая ануча, на заслончыку ля тумбачкі — каструля наабіранае бульбы...

— Дзіця ў яе было заплакала, а я адна да свету ніяк не ўпраўлюся, аж брыдка.

Старая падапхнула пад прыпечак анучу.

Валерыя Канстанцінаўна выглянула з суседняга пакоя ў караткаватай і цеснай летняй вылінялай сукеначцы, збянтэжана прывіталася:

— Заходзьце ж сюды, Васіль Аляксеевіч. У нас настаўлена, што і цераз парог не пераступіць.

Яна саромелася непарадку ў хаце, што сама адзета так, у старое.

У зале было прыбрана, ля грубкі стаяла блакітная калясачка. Васіль Аляксеевіч падышоў, пaглядзеў: малое спала моцна, і нават нельга было заўважыць, ці яно дыхае.

Валерыя Канстанцінаўна вярнулася ў пакой у новым халаце, з акуратна расчасанымі валасамі, усё яшчэ крыху бянтэжылася.

— Як ваша наследніца? Спакойная хоць?

— Каб толькі не сурочыць, Васіль Аляксеевіч. Не мела яшчэ з ёю гора.

Жанчына прысела на крэсла.

— Хай вялікая гадуецца!

— Дзякуй, Васіль Аляксеевіч.

— А самі як адчуваеце?

— Добра. Не першы ж раз.

Валерыя Канстанцінаўна пажартавала, зноў зачырванелася, збянтэжылася свайго жарту.

— І замачыць бы не грэх.

— А як жа! Зараз прыйдзе Сяргей, паснедаем...

Валерыя Канстанцінаўна памкнулася ўстаць.

— Сядзіце, сядзіце! Які з мяне п'яніца, і ў школу ж ісці. Так калі.

Васіль Аляксеевіч зняў шапку, прыгладзіў пальцамі валасы.

— Я прыйшоў вас прасіць, Валерыя Канстанцінаўна, каб вы не бралі за свой кошт адпачынак. Я спачатку згадзіўся, а цяпер паглядзеў... Пятровіч малады хлопец, няма таго падыходу да дзяцей. Павучыць ён паўгоддзе, запусціць матэрыял, а вам тады як выпраўляць?..

— Вы ж яго хваліце, я чула...

— А што мне болей рабіць? Хлопец малады, у нас часова... Я і характарыстыку добрую яму напішу... Але ж з вамі не раўняць. Ён толькі адбывае павіннасць...

Настаўніца зноў пачырванела і не ведала, што сказаць дырэктару.

— Я не ведаю, як тут мама з малымі. Трое ж іх. Гаспадарка.

— Разумею, Валерыя Канстанцінаўна, што цяжкавата. Але ж і грошы вам патрэбны. Сям'я. Так размяркуем урокі, каб вы ўспявалі і раніцаю малую накарміць, і ўдзень... Можа, частку ўрокаў Марыя Антонаўна возьме. Тут яшчэ адно: ёсць харошае месца Аляксандру Пятровічу ў Лапіцкай школе. Трэба ж чалавеку добра ўладкавацца.

Васіль Аляксеевіч глядзеў на настаўніцу цвёрда і патрабавальна, яна збянтэжылася:

— Я ж нічога не кажу. Калі трэба, то выйду на работу.

— Вось і добра. З панядзелка, калі ласка.

— Я ж не ведаю, як там...

— Гэта мой клопат. Скажу Пятровічу, каб пакінуў у настаўніцкай і планы, і сшыткі. Вам толькі прыйсці і праводзіць урокі.

— Дык, можа, Васіль Аляксеевіч, паснедаеце?.. Сяргей зараз прыедзе.

Васіль Аляксеевіч устаў, яшчэ раз зірнуў на дзіця.

— А дачка — вылітая мама. Хай здарова гадуецца.

— Дзякуй вам на добрым слове.

Валерыя Канстанцінаўна праводзіла дырэктара да дзвярэй.

Васіль Аляксеевіч развітаўся са старою, якая ўсё яшчэ секла бульбу.

Скора ён выйшаў за вёску. Памацнеў вецер, пайшоў рэдкі і калючы снег, моцна біў у твар, і Васіль Аляксеевіч толькі глыбей нацягнуў на лоб шапку, пашкадаваў, што не адзеў зімовую. Адкуль было спадзявацца, што так захаладае за адну ноч, звечара толькі чуць выяснівалася неба, і то на пагоду, а не на мароз.

І ад гэтага ветру, няўтульнасці на дарозе, не стала лягчэй на душы. Ён стараўся не думаць, што Валерыя Канстанцінаўна раскажа настаўнікам, як ён прыходзіў да яе... Галоўнае, што ўсё ўладкавалася, толькі не забыць, зайсці ў сельсавет і пакінуць заяву, каб купіць машыну...

Васіль Аляксеевіч блізка за плячыма пачуў падводу на дарозе, і хоць не хацелася, каб яго хто-небудзь бачыў, саступаць з дарогі за кусты не выпадала. Ён прыпыніўся, павярнуўся плячыма да ветру, глядзеў, як неахвотна, але шустра, прылажыўшы вушы і апусціўшы галаву, тупаў да яго чорны конік з белаю, зацярушанаю снегам грываю, труска пагруквалі калёсы па дарожнай намаразі, нешта тонка металічна пазвоньвала.

Конік сам прыпыніўся ля Васіля Аляксеевіча, і чалавек, які сядзеў плячыма да каня, заварушыўся, азірнуўся:

— Садзіся, Васіль Аляксеевіч.

— Здароў, Казя,— прывітаўся дырэктар і не садзіўся ў драбіны.

— Дзень добры. Садзіся, хоць не скарэй даедзем, чым дойдзеш, але ж пагамонім. І так мы даўно не бачыліся, а некалі сватамі быць меліся.

Казя пасунуўся, даў месца Васілю Аляксеевічу, ахінуў яго палою плашча, ленавата прыкрыкнуў на каня, і падвода зноў застукала па дарозе.

Васіль Аляксеевіч блізка бачыў худы Казеў твар, чыста паголены, цёмна-карычневы ад загару, высокі, гэтакі ж цёмны і маршчыністы лоб.

Казя заварушыўся, дастаў пачак «Паміру», пакамячыў цыгарэту ў пальцах, прыкурыў, прыплюшчыў адно вока, каб не трапіў дым.

— Здаецца, Аляксеевіч, не тыя гады, каб дзе да ранку маладзіцу настаўляць, як дзяцей гадаваць...

— А ты б яшчэ наставіў?

Васілю Аляксеевічу не было настрою да такое жартаўлівае і пуставатае гаворкі, але яшчэ горш не хацелася роспытаў, як ён жыве, пытацца самому.

Казя памаўчаў, зацягнуўся дымам:

— Гляджу я на цябе, Васіль, і думаю: няўжо тое праўда было? Ты дырэктар школы, я старшыня сельсавета. Жылі на адну ногу, адзін без аднаго выпіць ні разу не селі. У цябе на Новы год два графіны гарэлкі выпілі ўтрох, на падлозе палеглі, старая нас кажухом накрыла. Я раніцою дадому ўцёк, пасля абеду да мяне вы прыйшлі...

Васіль Аляксеевіч бачыў, як засвяціліся Казевы вочы, і сам успомніў той сіні, як адшліфаваная сталь, марозны адвячорак, адчуў і тое здароўе, і маладую прагу жыць...

— А вы зналі, бачылі, што співаецца Казя, што крышка будзе Казю. І ніхто і слова не сказаў. Мне трэба было зямлю араць, а мяне начальнікам зрабілі. Куды тую дурную сілу было дзяваць, седзячы за сельсавецкім сталом? Як паднялі высока мяне, так і апусцілі. Да старасці праваляўся п'яны Казя пад плотам. Цяпер адумаўся — а і жыць няма калі. Перад дзецьмі бывае так часам брыдка — не бачыў за гарэлкаю, як яны і раслі...

— Ты што, між людзей вінаватых шукаеш?

— А што шукаць? Не адзін чалавек на свеце... Станеш жыць адзін — да пустога канца дажывеш.

Васіль Аляксеевіч шкадаваў, што згадзіўся, сеў на

воз. Не хапала з яго на сёння толькі такое гаворкі. А Казя курыў цыгарэту.

— Ты не злуй, Васіль, няма ў мяне на цябе крыўды. І ты пасля вайны хацеў пажыць, і я хацеў. Ты хітрэйшы, лепш ухадзіўся. Хацеў, каб і дзеці любілі не зямлю, а тое што яна дае. А я сваіх, як і раслі, не бачыў. Работа іх навучыла, людзьмі зрабіла. Мне цяпер часам так брыдка стане, хоць завый воўкам! Ларысу шкода. Такая дзеўка, аграном... Ларыса мне расказвала, як ты некалі свайго Лёню на замок замыкаў, каб ён да яе не прыходзіў...

Казя прымоўк. Васіль Аляксеевіч успомніў Ларысу ў сіняй паралонавай куртачцы, у заячай шапцы, у боціках, за рулём калгаснага «газіка». Хто тады думаў, што яна завочна кончыць на агранома, а не пойдзе разам з мацераю на кароўнік даяркаю? Можа, і Лёня кончыў бы з ёю вучобу, рабілі б разам... Усё гэта было даўно, далёка, забылася.

— Не хацелася мне казаць, але скажу. Яна і зараз з Лёнем тваім... То ён да яе пад'едзе, то яна да яго ў горад. Прыгледзеў я.

— Ты што, зноў зранку бутэлькаю хрысціцца пачаў? — Васіль Аляксеевіч пасунуўся да аглабіны, быццам здаля хацеў лепш разгледзець Казю.— У твае дзеўкі партбілет у кішэні!

Казя толькі згодна кіўнуў галавою.

— Ты сядзі, захініся плашчом, а то прадзьме ветрам. І не пужай. Лёня ў цябе чалавек! Сына ён любіць, і жанчына, мабыць, харошая ў яго. Паедуць яны ў Карэлію. А мая ўсохла, яда ў рот не лезе... Можа, і лягчэй будзе, як паедзе ён далёка, мо каго другога ўпадобае... Но, воўчае мяса!

Казя тузануў за лейцы, прывязаныя за аглабіну, кінуў акурак, зноў дастаў пачак, не прыкурваў, глядзеў на пасінелы ад холаду няголены твар дырэктара.

— На, калі хочаш — закуры,— працягнуў ён спагадна цыгарэту.

Васіль Аляксеевіч пакорна ўзяў цыгарэту, няўцямна паглядзеў на яе, падаў назад.

— Я думаў, што Лёня напісаў табе. Можа, заедзе яшчэ...

Васіль Аляксеевіч толькі згодна кіўнуў галавою, і яму здалося, што гэта не першым кароткім холадам

восені дыхнула на яго ў полі, а тою будучаю доўгаю адзінотаю, прадчуванне якое не давала яму спакою, і гэтая адзінота — усё, што засталося ад яго жыцця.

— Добры ты чалавек, Васіль Аляксеевіч, а сыну жыццё скалечыў, дачка ў цябе... І сам вось так астаўся. Думалі, каб толькі дзеці не галодны былі... Няма і ладу, і душы няма. Чалавек без свае зямлі ў сэрцы — як гэты вецер у полі: усім ад яго холадна... Мае пры мне засталіся, і я жыву, як у вянку!

Казя памаўчаў, спагадліва глянуў на дырэктара і лагодна сказаў:

— Як ты ні мудруй, а сядзіш са мною пад адным плашчом, у якім я кароў летам пасу, вязе нас Бэра ў адну дарогу, сняжок над намі адзін, адно поле вакол!.. Наша, брат, поле.

Казя нокнуў, навотлю кінуў акурак, які прыпёк у пальцы, зноў шмаргануў за ляйчыну. Конік завалюхаўся трушком, заскакала, забрынчала падвода, і Васілю Аляксеевічу здалося, што і ў галаве ў яго забрынчала, і ён зноў падумаў, як добра, што згадзілася пайсці на работу Валерыя Канстанцінаўна, што не трэба купляць ніякай машыны, нібы ад гэтага быццам бы штосьці змянілася ў ягоным жыцці...

## IX

З таго ранняга марозу і снегу толькі сталася гразь. Яшчэ да абеду ў пятніцу церусіла снегам, а пасля абеду пасыпаўся халодны, калючы, імжысты дождж, і трэція суткі мачыла, мачыла, нізка хадзілі хмары, не ўнімаўся вецер, і цяжка, несціхана шумелі ўжо голыя дрэвы, пачарнела на іх голле ад вільгаці, падалі долу мёртвыя адламаныя галінкі... Гэта ўжо было ад позняе восені...

Шура сядзеў на верандзе канторы, у якую праз выбітую шыбку холадна ўрываўся вецер, курыў, паціраў вочы: падняўся ў шэсць гадзін, чакаў, калі будзе тая машына да райцэнтра, пра якую гаварыў Васіль Аляксеевіч.

Апрануўся на дарогу цёпла, не мёрз. Ён не разумеў, чаго яму раптам трэба ехаць, чаму выходзіць на рабо-

ту Валерыя Канстанцінаўна, чаго апошнія дні хадзіла, як апушчаная ў ваду, гаспадыня, і дырэктар нібы пастарэў, усё маўчаў, пасопваў у нос. І Васіль Аляксеевіч і Іванаўна не паказвалі і выгляду, што нешта здарылася, і Шура не выпытваў, і гэта было лепей, спакайней — не здагадвацца і не ведаць. І таму ён паверыў, што Валерыя Канстанцінаўна ідзе на работу, бо ёй патрэбны грошы, і яна жадна на іх, а яму тэрмінова выпадае ехаць у райана, бо ёсць праца ў добрым месцы, у добрай школе. Урэшце рана ці позна Шуру трэба было адсюль ехаць. Такая цудоўная была восень! А цяпер гразь, холад.

Шура прытуліўся плячыма да сцяны, выцягнуў ногі, сонна прыплюшчыў вочы, усміхаўся, успамінаючы, як пахла борам, сухою іглiцаю, мохам. Падумалася, што век не забудзецца лёгкі дотык Раіных пальцаў, яе загарэлае маладое плячо, ціхі смех. І чырвоны ракітавы куст на беразе возера, і глыбокая зеленаватая і халодная вада, і свежае вялікае кляновае лісце на зялёным аксаміце імху, і барвовыя ягады касцянкі, і рабенькае, як крыло слонкі, лісце рабін,— ва ўсім гэтым была ціхая радасць, ласка, усё гэта было неаддзельна ад Раі!

І ўсе іхнія патаемныя выхады ў лес, і чаканне, і радасць — усё засталося лёгка і проста там, за паласою халоднага дажджу, і тая любоў да дзяўчыны, ад якое, здавалася, разарвецца сэрца, усё было там, прыемны ўспамін пра незвычайную прыгоду. І ён падумаў, што некалі будзе расказваць каму ці ўспамінаць самому сабе, і яму будуць зайздросціць... І з прыемнасцю думалася, што вось усё так незвычайна скончылася, і нават адраса Раі ў яго не засталося, не адважыўся папытацца ў бацькоў і адчуваў, што гэта ім будзе непрыемна... Зусім, як у кіно...

Калі не зважаць на дробязі і не ўдавацца ў падрабязнасці, пажыў ён — лепей нельга, а зараз, калі не будзе выгаднага месца, можна ўзяць адмацаванне, уладкавацца ў горадзе на работу, жыць самому сабе,— тут Рая мела рацыю. Успомніў раптам, як апошні раз яна пайшла ад яго белаю сцяжынкаю на руні, роўна і лёгка, незвычайная ў вечаровых прыцемках, з букетам буйнага кляновага лісця; потым узмахнула рукою, і лісце яркаю жоўтаю сцяжынкаю разнеслася ветрам

па зялёным полі, і ён адчуў пах гэтага лісця, пах яе валасоў, вільготны, свежы...

Палоска яркага белага святла махнулася па верандзе, праплылі чорныя цені рам на сцяне. Шура падхапіў чамаданы, выйшаў да варотцаў, чакаў, пакуль пад'едзе машына.

У кузаве, накрытым брызентам, няярка гарэла лямпачка. Хлопец Шуравых год у чорнай цёплай куртцы, ад якое пахла саляркаю, адчыніў дзверцы ў заднім борце, узяў чамадан, павітаўся, крыкнуў шафёру: «Паехалі!»

— Як вам у нас было? — запытаўся ён у Шуры, усміхнуўся, быццам ведаў яго даўно.

— Добра. Такая восень!

— А зараз куды?

— Месца будзе. А не — у горад махну.

— Як кажуць, там, дзе запахне, туды і ногі павядуць.

— А вы куды едзеце? — запытаўся і Шура, хоць яму было ўсё роўна, куды і чаго едзе гэты хлопец.

— Што мы? Мы толькі новы трактар палучаць едзем.

Хлопец зноў усміхнуўся. Шура кіўнуў галавою, а сам думаў, што напіша Васілю Аляксеевічу, папросіць адрас Раі. І думкі пра гэта былі, як пра нешта даўно мінулае. Каб толькі расказаў каму, якая была восень!.. А Рая!..

Шура не заўважыў, як насмешліва глядзеў на яго спадарожнік; той бачыў, як пакруглеў Шураў твар, думаў, што дырэктару быў бы якраз зяць у масць. Але настаўнік не адчуваў, што глядзяць на яго, як на пустое месца, з насмешкаю і прыхаванаю пагардаю, настаўніку было не да гэтага, ён усміхаўся сваім думкам, паслухмяна пагойдваўся ў лад дарозе, па якой яго везлі.

*1972*

# ЧЫГУН

Яшчэ не пачаліся зацяжныя дажджы, суха пылілі вуліцы і дарогі. З бяроз на ўзмежках і з клёнаў і вязаў у агародчык ад вуліцы ападала свежае жывое лісце, і было чутна, як яно шоргае па галінках, быццам хоча ўтрымацца. А надвячоркам пачынала халадаць, ярка і суха ў стылай зеленаватай вышыні выступалі зоркі. У такія часіны далёка разносіцца па наваколлі, аддаецца рэхам у лесе ляскатанне колаў на ўсохлай палявой дарозе. Конь ахвотна і быстра бяжыць наперад, туды, дзе цёпла свеціцца агеньчыкамі вёска, дзе яго чакае канюшня і свежае пахучае сена ў яслях.

У такую пару полуднем цёпла, нават горача высвечвае сонца. Ігнат выходзіць на вуліцу, садзіцца ля плота на пляскаты цёплы камень. Следам за гаспадаром высоўвае з-за плота голаў Босы — вялікі худы сабака з пасівелаю ад старасці пысаю, падыходзіць і кладзецца ля ног гаспадара, выцягнуўшы ўперад лапы і паклаўшы на іх голаў, толькі зрэдку спрасонку варушыць абадраным вухам, да якога ліпне куслівая настырная восеньская муха.

Ігнат неахвотна і скоса пазірае на сабаку, на свае старыя з укасцянелымі перадамі кірзавыя боты. На ім старыя картовыя штаны і зашмальцаваная да бляску на грудзях і ля кішэняў куфайка. Ходзіць Ігнат без шапкі да самых халадоў. На дзіва густыя, сівыя, коратка астрыжаныя валасы паблісківаюць на сонцы. Таксама сівую густую бараду ён зрэдку падроўнівае вялікімі ржавымі ножанкамі, якімі некалі стрыглі авечак. У руках Ігната выцерты рукамі да бляску ядлоўцавы кіёчак, лёгкі і моцны, які цьмяна паблісквае на сонцы, як і выцвілыя блакітныя вочкі над гарбатым велікаватым носам.

Сядзіць Ігнат прытуліўшыся плячыма да старога пазелянелага плота з асінавых калоў. За плотам густы зялёны зараснік бэзу, пад якім улетку любяць хавацца ад спёкі суседскія куры і панагрэблі мяккага, як попел, пылу. Над бэзам толькі ледзь відаць зялёная ад моху страха, і цяжка здагадацца, хто не ведае,

што гэта хата, бо тут, на Случчыне, хату так ніхто не крые, крыюць так толькі гумны — саломаю з усіх чатырох бакоў, без зашчытка. Ды гэта і не хата, хутчэй варывенька і крыху вышэйшымі, чым звычайна, сценамі, з нятоўстых круглякоў і двума падслепаватымі акенцамі. Падабенства да хаты надаюць прыступкі перад дзярыма ў сенцы, зробленыя з дошак, ды яшчэ развалены пачарнелы комін пад страхою. Крыху воддаль ад хаты — маленькі, як будка, таксама дашчаны, хляўчук, накрыты чарапіцаю, старою і ўзелянелаю, як і страха на хатцы. Хляўчук абкладзены паўз сцены гноем аж да самае страхі, каб не было холадна зімою. Гной за лета высах, выпетраў і шарэў саломаю.

Акрамя таго, што ад вуліцы, на сядзібе больш нідзе не было агароджы. Вакол старых груш ні за адзін год густа ўкараніліся дзяды, высокая, з белым, як у канапель, насеннем крапіва, а паўз сцены суседскае хаты, ад якое на гэтым дзікім садзе толькі ў самы поўдзень не было ценю, узяўся малiннік, на якім ніколі не было ягад.

І калі хто прыезджы ідзе вуліцаю, даволі шырокаю, з дарогаю пасярэдзіне і роўнаю густою муравою паўз платы, на якой бела ўецца вытаптаная сцяжынка, гэтае ўрослае пусткавым зеллем котлішча здаецца даўно пакінутым; невядома толькі, чаму стаіць на ім хатка, як варывенька, побач з пасляваеннымі хатамі на высокім падмурку і з вялікімі вокнамі. Ад гэтае хаткі застаецца нешта цяжкае на душы, як ад нядобрага мінулага, якое ўсё чэпіцца да цяперашняга, не дае забыць пра сябе.

Ігнат не ходзіць далёка, толькі ў магазін узяць хлеба. А магазін праз два дамы ад ягонай хаты, і то ідзе ён, апусціўшы галаву, быццам цяжка глядзець навокал, і ні на кога не падыме воч, не павітаецца. Сабака, які бяжыць следам, і той з большаю цікавасцю круціць у бакі галавою.

Грэцца на сонцы да каменя Ігнат выходзіць, калі людзі на рабоце ў полі і пуста на вуліцы. Сядзіць, прыплюшчыўшы вочы, і можна падумаць, што спіць чалавек, калі б не жывы бляск вачэй скрозь прыжмураныя павекі і кіёк лёганька і паслухмяна не варушыўся б у руках, паблісквваючы на сонцы. Кіёк малюе на зямлі домік, незамыславаты, з вокнамі-крэсцікамі, толькі

без густога дыму над комінам, як малююць дзеці. А скрозь прыплюшчаныя павекі бачыць Ігнат цынкавы дах, ашаляваныя і пафарбаваныя сцены, белыя шырокія вокны і залаціста-жоўтага пеўніка на каньку; двор прасторны, парослы травою з нізенькім плоцікам уздоўж сцяны, за якім пасеяны кветкі; а ў агародчыку ад вуліцы грады з клубнікаю, паўз плот кусты агрэсту, парэчак. Насупраць дзвярэй з сянец, цераз двор, вымураваны ў зямлі пограб, а хлеў воддаль ад хаты, упоперак пляцу, з цаглянымі шуламі... Плот ад вуліцы таксама на цэментавых шулках, з дошак, шчыльны, зверху дзве столкі калючага дроту — каб не сунулі зверху галовы да кустоў коні і каровы. У яго самога карова сытая, аж ляўціць, дзве свінаматкі, бо на свіннях ніколі не прагадаеш...

І ад гэтых думак робіцца цёпла і сцішана на душы. Ігнат нібы засынае, адчувае, як наплывае хваля радасці і шчасця. Ён бачыць, як людзі зайздросна пазіраюць на яго хату, і на твары абазначаецца злаславая, пагардлівая да ўсіх усмешка. Яна не сыходзіць з твару, мёртва застывае, пакуль Ігнат услухоўваецца ў далёкі лёскат колаў — едуць з поля на абед калгаснікі і школьнікі. Нага прывычна сцірае малюнак. Расплюшчаныя вочы бачаць цераз вуліцу і шчыльна пафарбаваны плот на цэментавых шулках, і светлую веранду, і цынкавы дах, і залатога пеўніка,— на тым месцы, дзе некалі стаяла Стахванава хата, збудаваўся ягоны сын, калгасны трактарыст Павел. Там і хлеў з мураванымі шуламі, і сытая карова...

Ігнат штурхае ў худыя рабрыны сабаку, і той неахвотна, бяскрыўдна ўстае і ідзе на двор за згорбленым, як кручок, гаспадаром, садзіцца на сцяжынцы, глядзіць, як той ставіць ля парога кіёк, ідзе да хлеўчука, адчыняе варотцы, здымае з ланцуга рашку і нясе ў хату, не зачыняючы за сабою ні сенечных, ні хатніх дзвярэй. Сабака ведае, што рашку Ігнат ставіць пад прыпечкам, ля цэбрыка, у якім ссечана параная бульба, у старой алюмініевай місачцы прыносіць з сянец муку, з печы дастае чыгунок з варанымі буракамі, палівае замешанае. Босы ідзе ў хату, кладзецца пад сталом і чакае, пакуль гаспадар уходжваецца. Некалі ён хадзіў за гаспадаром туды-сюды, а цяпер нават цяжка варушыцца, хочацца толькі ляжаць і драмаць.

Калі Ігнат вяртаўся ў хату, Босы адным вокам з-пад стала глядзеў, як той распранаўся, бразгаў лыжкаю, наліваючы буракі ў вялікую эмаліраваную міску, адкалупліваў кавалак мяккага варанага сала. Потым даставаў з печы чыгунок з бульбаю, ставіў на стол. Перш чым есці набіраў бульбы ў прыгаршчы, кідаў сабаку. Хлеб рэзаў на тоўстыя лусты, потым ламаў на кавалкі і кідаў у міску са страваю,— куплены ў запас хлеб быў, як камень. Еў буракі Ігнат з бульбаю, ловячы лыжкаю па кавалку размяклага хлеба. Потым жаваў з бульбаю сала. Апошнія гады ён еў многа, як не ў сябе, хоць і адчуваў, што сілы не прыбывала, але есці хацелася, быццам нейкая прорва найшла, а таму трымаў штогод кармляка. Аддаваў соткі засаджваць бульбаю Паўлу, браў сабе толькі каб хапіла карміць падсвінка. Павел даваў яму крыху капусты на зіму, сякой-такой гародніны яшчэ, мукі таксама перападала ад Паўла. Цукру Ігнат не купляў, цэлы год варыў узвар з груш.

Пасля полудню Ігнат зграбаў са стала крошкі, кідаў сабаку яшчэ кавалак хлеба і ішоў на палок. Ложка не было і некуды было яго ставіць — ад сцяны да печы насланы дошкі, на іх засланы посцілкай сяннік.

Удзень яму не спалася. Ляжаў апрануты, у ботах на сваёй пасцелі, глядзеў на сабаку, які паволі жаваў акраец, прыціскаючы яго лапамі да зямлі, і не зважаў на гаспадара. Нават яму, сабаку, усё надакучыла, ён на памяць ведаў кожны рух Ігната, кожны пах і меў права занудзіць цяжкаю сабачаю нудою, ад якое сышоў бы дзе далёка ад людскога вока паміраць, каб была сіла, але замест сілы — толькі старасць...

* * *

Тая Ігнатава хата стаяла не з краю вёскі, але ў месцы даволі прытачным: побач з прагонам, пасярод якога ішла выезджаная коламі і выбітая конскімі капытамі палявая дарога ў тры неразлучныя сцяжынкі — дзве ад колаў, адна ад капытоў. Дарога выходзіла аж да брукаванкі, якая цягнула да Мінска. І хто б ні ехаў у вёску, быў відзён з вокан; у Ігната пыталіся, дзе кантора, начавалі ўпаўнаважаныя, страхагент. Ігнат баяўся, каб хто не пераманіў яго да сябе — агент

у аддзяку за гасціннасць не надта драў страхоўку. Ад прагону было многа выгад: можна выпусціць курэй, і яны не баяліся пайсці далёка ад дому, аж на калгасны палетак; у снапавозку можна было перакінуць у агарод сноп-другі збажыны, спусціць на дарогу добрую латку сена, якую ў момант падбярэ жонка і не пакіне нават парушынкі. Гэта акрамя таго, што ад прагону прыараў ён да свайго пляцу сотак дзесяць лішняе зямлі і штогод прыхватваў па баразне.

Стахван, які быў брыгадзірам, і Тодар-рахункавод добра цягнулі з калгаса. Пра гэта многія здагадваліся. Ігнат сам быў раз прыгледзеў ля малатарні пад амецямі ладную кучу збажыны, не вытрываў, ноччу пайшоў і нагроб у мяшок, але ў вішняку яго так агрэлі па галаве, што не памятае, колькі і пралежаў пад тым мяшком; раніцаю знарок першы прыйшоў да малатарні на работу — ад кучы і следу не засталося. А збожжа было — не аднаму чалавеку панесці... Зайздрасць зайздрасцю, а свая галава даражэй, больш не прыкмячаў і не лез у крадзёж: краў не адзін чалавек, і каб здагадаліся, што высачыў, жывога не пусцілі б.

І тады Ігнат з глухім болем успомніў, што каб гэта некалі, калі былі яны, Чыгуны, у самай сіле, ніхто не адважыўся б падняць руку. А цяпер ад былое славы засталася ў Ігната толькі мянушка Чыгун і так сабе гаспадарка, каб жыць паціху.

Пайшоў іхні род ад дзеда Данілы, чалавека прышлага, смаглага з твару, шыракаплечага, танклявага ў поясе, гарбаносага, з гарачымі, чуць на выкаце, карычневымі вачыма. Ён застаўся на работу на смалакурні, скора стаў праваю рукою гаспадара, збіраў грошы, а потым ажаніўся з маладою ўдавою Махорціхай, якой адышла ўся мужава зямля. Гаварылі, што Даніла быццам сябраваў з Мохартам і быццам апошні раз бачылі іх разам на паляванні... Мохарт прапаў, Данілу дапытвалі, але не арыштавалі, а праз год ён сышоўся з Ганнаю, выгадаваў двух хлопцаў, Апанаса і Хведара, рослых і здаровых, як і бацька.

Пасля раздзелу Даніла застаўся жыць пры старэйшым, пры Апанасе. Пад старасць нахабства і прагнасці ў яго не стала менш. Выводзіў ноччу коней на суседскую канюшыну, хадзіў красці снапы з чужых мэндлікаў. Яго і лавілі, але чапаць баяліся: памяталі людзі,

як ён краў з сынамі і збываў цыганам коней, выпускаў з засекаў у свірне праз дзірку ў падлозе ўсю пашню, выносіў з каморак кублы з салам, і клёпкі ад іх знаходзілі на полі толькі вясною, калі сыходзіў снег. Калі хто адважваўся пайсці насупраць Чыгуноў, лавілі вечарам ці ноччу і білі чуць не да смерці. Страх доўга яшчэ жыў сярод людзей.

Зайздрасці канца няма. Састарэлы Даніла здзяцінеў, тупаў па завуголлю нібы здань, удзень і ўночы, усё, што трапляла пад руку, валок дадому. Аднойчы ўпотайкі ад сына запрог каня і паехаў нанач на Баўслаўскі палетак, дзе ля самага ляска стаялі мэндлікі: зручна з кустоў было цягаць снапы да воза. Назаўтра яго і знайшлі там, павешанага на аглоблі, якую падвязалі за аглабліну ўгору, каб далёка было відаць. Віноўнага так і не знайшлі.

З таго і пайшло на скон Чыгуноўскае кодла, быццам хто смыкнуў за хвост клубочка. Хведар заця ўся на Апанаса, быццам гэта ён павесіў бацьку, бо высачыў, дзе той хаваў золата, забраў сабе і Хведараву долю. Кончылася тым, што браты аднойчы шчапіліся біцца каламі. Здароўшы Апанас скрывавіў брата, таго ледзь жывога адабралі. Хведар не дараваў, падпаліў Апанаса. Хведара засудзілі, жонка і дочкі не маглі саўладаць з гаспадаркаю, пакрысе распрадалі зямлю. Старая памерла, дзяўчаты пайшлі па свеце.

Апанас спрабаваў не паддацца, пачаў адбудоўвацца, але не выцягнуў, падарваўся, зачах.

Ігнат і памятае бацьку бледнага, сагнутага, яго расказ пра былую моц, пра тое, што за вёскай ён паставіць на ўзгорку млын і запануе над усім наваколлем. Пасля доўгае гаворкі бацька кашляў з крывёю, твар у яго станавіўся аж жоўты. Перад смерцю і ён мусіў прадаваць зямлю.

Ігнату засталася занядбаная гаспадарка, крыху зямлі, не меней, чым у іншых, але пра тое, каб запанаваць над наваколлем, не было чаго і думаць, а з калгасамі і зусім недасяжнаю стала бацькава задума, толькі часам у душы варушылася глыбока затоеная крыўда і нейкае помслівае спадзяванне, што прыйдзе яшчэ час, яшчэ ўсе ўведаюць пра Чыгуноў...

...Ігнат не надта радаваўся, што стаіць яго хата пры дарозе. І не да млына было, бо і той узгорак рас-

капалі, калі насыпалі вузкакалейку. Цяпер лепей бы было далей ад дарогі, ад людскіх вачэй — і жыць ціха, каб і не чуваць было пра цябе, бо пачалася вайна.

А да яго першага зайшлі чырвонаармейцы. Адзін маленькі, худы, з доўгаю тонкаю шыяй, басанож, з парэзанымі да крыві нагамі. Другі — большага росту, у новым, але парваным і выкваціаным адзенні. Салдаты прасілі цывільнай вопраткі, на пытанні адказвалі, што нашы не адступаюць, што гэта перадыслакацыя, хоць і самі не ведалі, дзе тыя нашы, не ведалі, куды ісці, не выпускалі з рук зброю, быццам толькі яна магла ўратаваць іх. Мар'я накарміла, дала ежы на дарогу, аддала і старую Ігнатаву вопратку. Але ці мала што могуць пасля сказаць людзі, хоць вопратка салдацкая моцная, добра будзе насіцца, не адзін год. Заходзілі да яго яшчэ салдаты, ён пераапранаў іх, карміў, пасмялеў: бачыў, што і да людзей таксама заходзяць, не толькі да яго.

А начамі не мог спаць, усё здавалася, што нешта здарыцца нядобрае. Неспакой хіба быў ад таго, што трывожна і цяжка гудзела недалёкая брукаванка, ад выбухаў далёка ўздрыгвала зямля. А то з цемені раптам вырываліся і нізка над вёскаю ішлі самалёты. Вось возьмуць і пусцяць па саламяных стрэхах чаргу — і пойдзе ўсё полымем і дымам. Гэтае страшнае, немагчымае раней, да вайны, было цяпер проста, цяпер усё было можна...

Ночы ж стаялі цёплыя, ласкавыя, напоўненыя пахам роснае травы, жытнёвых палеткаў, на якія насоўвалася вайна, і каласы, быццам галовы, цяжка падалі долу. І не верылася, што і раней не было ўночы нязвыклых, страшных гукаў, быццам тыя ціхія ночы былі даўным-даўно. А цяпер ночы жылі сваім трывожным жыццём. Жудасна пакалыхвалася над Слуцкам светлае неба, часінаю выбліскваў і полымя — горад гарэў.

Ігнат з запечку прынёс торбачку з накрышаным сасуюць неба маланкі, калі не абыходзіцца без пажару. Ён ведаў, што не спала ў хаце і Мар'я, шкадаваў, што награзіў на яе, калі збіралася ісці на двор разам з ім. Было б з кім перакінуцца словам. Але і без яе «госпадзі, што з намі будзе?» было на душы, як перад канцом свету.

Ён спыніўся, закруціў з самасаду цыгарку, прыку-

рыў і так і ўслупянеў з непатушанаю запалкаю ў руцэ — за хлявамі, за ліпамі на ўзгорку трапятаў зыркі агеньчык. Там, дзе калгасная кантора. «Няўжо гарыць?» — не паверыў сам сабе Ігнат. Яшчэ надвячоркам яны з мужчынамі гаварылі пра калгас, і ніхто не адважыўся сказаць, што трэба дзяліць дабро, пакуль немец не забраў усё агулам, а пра гэта думаў амаль кожны. Цяпер вось гарэла кантора.

Ігнат не адразу адчуў, як прыпякла пальцы запалка. І толькі тады памкнуўся на вуліцу падымаць крыкам людзей, але за веснічкамі спыніўся, уражаны глухою цішынёю. Агонь увайшоў у сілу, ад яго пасвятлела ноч над вёскаю, затрапяталі на вокнах водсветы, але на вёсцы было ціха, быццам ніхто і не бачыў пажару.

Ігнат вярнуўся на двор і, прыгнуўшыся, разоркаю між бульбоўніку пашыбаваў да канторы. І каб хто папытаўся ў яго, што яму там трэба, ён нічога не сказаў бы, бо і сам не ведаў.

Пакуль дабег, полымя вырвалася з-пад страхі, шугала праз вокны, шырокімі вольнымі языкамі абмывала сухое смаловае бярвенне. Пажар пачаўся з сярэдзіны.

Кантора была ў Змітрычкавай хаце. Змітрычка пры калектывізацыі раскулачылі, выслалі, пашкадавалі толькі яго старую незамужнюю сястру, якая пражыла пры брату служанкаю. Пакінулі ў пакойчыку, даручылі прыбіраць кантору.

Ігнат аж скалануўся ад слабага крыку: «Ратуйце!» Нібы клікалі побач, з-пад зямлі. Ён нават адступіўся з таго месца, дзе стаяў; толькі тады жахнуўся, што гарыць жывы чалавек, бездапаможна азірнуўся наўкруга і заўважыў, што яго добра відаць у святле ад пажару, скажуць, што падпаліў. Непадалёку ў вішняку зашумела галлё. Ігнат зусім блізка ўбачыў, як холадна ўспыхнулі два чырвоныя агеньчыкі. У яго аж падагнуліся ногі: «А божа, што за насланнё сёння!» Халодныя мурашкі пабеглі па плячах, быццам за каўнер высыпалі жменю жалезных апілак. Ігнат прысеў, бы яго стукнулі зверху па галаве, не прыслухоўваўся да крыку. І было ўжо не да пажару, ламануў прэч, блытаўся нагамі ў бульбоўніку; толькі на двары аддыхаўся, прытуліўшыся плячыма да дзвярэй хлява, апа-

мятаўся, стала мулка ад таго, што так перапалохаў. І толькі тады адчуў, што смыліць далонь,— у кулаку так і трымаў расціснутую цыгарку.

Плюнуў ад злосці, сыпануў на зямлю тытунь — бегаў туды-сюды, як заяц, каб хто паглядзеў збоку. Паволі пайшоў да веснічак, выглянуў на вуліцу: ніка-гусенькі, толькі нехта варушыўся на двары ў суседа, таксама ля варотцаў. Ігнат пазнаў Стахвана і паклікаў:

— Стахван!

Той пастаяў цішком, быццам думаў, ці аказвацца, потым рыпнулі завесы.

— Не спіш і ты, суседзе? — запытаўся ён, не даходзячы.

— Заснеш у такую ноч!

Ігнат моўчкі працягнуў суседу капшук з тытунём, нават у начным прыцемку бачыў, як дрыжаць у таго рукі, пакуль загортваў цыгарку.

— Бач, Ігнат, што пачалося, кадук на яго?

— Не дай бог, прападзём.

— Але ж, але... што ты казаў?

— Што ніхто і тушыць не рухнуў, усе баяцца.

— Наводшыбе стаіць, нічыё не зоймецца. Каб чалавечая хата, а то кантора, кадук на яго. Усё, па калгасу.

— А як жа будзе?

Стахван памаўчаў, быццам думаў, што сказаць:

— А так яно, суседзе, і будзе. Немец чалавек гаспадарлівы, парадак любіць, гаспадара талковага, каб ад яго карысць была...

— Чорта немец калгасы пакіне.

— Жылі некалі людзі... А цяпер ніякага і дакументу не засталося, кадук на яго!

Стахван супакоіўся, і вугельчык цыгаркі не трымцеў у руцэ.

— Абы было ў самога здароўе ды зямля, на якой можна рабіць, чалавек ніколі з голаду не памрэ, а ў каго на плячах галава, а не качан капусты, то той яшчэ як жыць будзе.

— Але ж ніхто не адважыцца дзяліць калгас. Невядома яшчэ, што надалей будзе? — усумніўся Ігнат. Такія думкі не прыходзілі яму ў голаў.

Стахван нічога не адказаў, быццам не пачуў, пра

што гаварыў Ігнат, толькі ўсміхаўся сам сабе, ці гэта здавалася Ігнату ў начной цемені пры нядоўгім чырвоным святле ад цыгаркі, калі Стахван зацягваўся.

— Жыць застанецца той, хто збоку будзе, запануе. А цяпер можна ні ў кога не пытаючыся ўзяць, што табе трэба: і каня, і гавяду. Немцу і таму не засталося ніякіх папер. Цяпер толькі і часіна, пакуль ніякае ўлады.

Стахван гаварыў спакойна, быццам пра нешта даўно вырашанае, пра што загадзя не раз думаў, нібыта чакаў ён такога часу і цяпер радуецца. І гэта ж ён падпаліў кантору, ён бег з агародаў! Нечаканая гэта здагадка ўразіла і спалохала Ігната. Але потым варухнулася ў грудзях злосць: як у калгасе, то Стахван хадзіў брыгадзірам, а цяпер бач як пакіраваў. Ігнат згарача і не падумаў, што лепш яму памаўчаць, сказаў:

— Як гэта ты на такое адважыўся? Брыгадзірам быў, а цяпер падпаліў усё. Чалавек жа там згарэў.

— Ты што? Пра што ты? Рэхнуўся, чалавеча? Што ты вярзеш?

Стахван разгублена адступіўся, быццам аглушаны, потым падаўся да Ігната:

— Удаць мяне хочаш? Сам жа туды бегаў, сам і падпаліў. Вам, Чыгунам, не навасць гэта рабіць! Бач, надумаўся!..

У голасе Стахвана не было разгубленасці, і гаварыў ён так спакойна, што ў Ігната пахаладзела пад сэрцам: «Спаліць і мяне, калі што якое!»

— І пажартаваць нельга...— нібы здалёку пачуў Ігнат чужы, не свой голас.

— Ты штукуй ды меру ведай, кадук на цябе. Нам жыць у суседстве трэба, адзін да аднаго не ў крыўдзе. Калі хто знарок падпальваў, то трэба было хоць старую як вывесці. Каменная душа ў некага, кадук на яго, а ты на мяне!

Стахван крыху супакоіўся, дакурваў цыгарку, пакуль недакурак не прыпёк губы. Тады плюнуў яго на зямлю, развітаўся:

— Дабранач, суседзе!

Ігнат яшчэ стаяў, глядзеў, як ішоў ён цераз вуліцу, высокі, худы, быццам угледзеў нейкага другога чалавека. Успомнілася, што і жыў ён не бядней за

Змітрычка, а яго ніхто не раскулачваў, сам ён дапамагаў калгас арганізоўваць, брыгадзірам стаў. Змітрычак мо дзе і косці ў зямлі спарыў, а ён тут пануе, жыве багацей за ўсіх, толькі што на людзях не лішне казырыцца дабром сваім. А цяпер волю пачуў. Вось табе і «кадук на яго», так увесь век мудруе, што і не дагадаешся, сваё задумаў — і гне, не адступаецца. А ён, Ігнат, на нешта спадзяецца, быццам з неба яму скінуць і багацце, і сам святы дух млын паставіць. Цяпер Ігнат чуўся, як хлапчук, яго высарамацілі, і недзе ў душы варухнулася слабае адчуванне зайздрасці Стахвану і непрыязні.

Ігнат сеў на парозе ў сенцы, скруціў цыгарку, курыў спакойна, не спяшаўся. Думкі неяк самі пакіравалі ў другі бок, хоць і не было яшчэ на сэрцы спакою пасля пажару, але і вайна быццам прайшла недзе збоку, і ўсе яе жахі, і нічога страшнага не здарылася, а што будзе — невядома. Успомніў, як крычала старая, крактануў ад прыкрасці — не хапала яшчэ мучыць з-за яе сваю душу.

У хаце спакойна сказаў Мар'і, што невядома ад чаго згарэла кантора, і прамаўчаў пра старую.

Заснуў нечакана скора і моцна, упершыню за ўсе ночы, як пачалася вайна.

* * *

Зімою Ігнат на людзі не паказваўся, даглядаў гаспадарку, карміў і свіней, і карову, і авечак, паіў рыжага таўсматага бычка. Ігнат ведаў, што на лета, калі прыйдзе пара падводзіць кароў, у яго адзін бычок ва ўсім наваколлі. Плаціць будуць не калгасу, а яму, Ігнату, а плату сам ён выбера, якую захоча. Бычка карміць трэба, а есць ён нямала...

На аднаго работы многа, і трэба ўсё рабіць не абыяк, а па-гаспадарску. Калі была паблізу Мар'я, ён бурчаў, што гэта работа выцягне з яго ўсе жылы. Ён прытвараўся, што работа не па душы яму, і жонка разумела гэта, маўчала. Хоць і праўда ён за зіму пахудзеў, быццам пабольшалі блакітныя на выкаце вочы, і хадзіць перастаў уперавалачку, а ўсё трушком, як бы подбегам, быццам баіцца, што яго апярэдзяць... Акрамя ўсяго, узяўся сталярнічаць. Стругаў аглабіны, клёпкі на цабры і бочкі...

Жонка, якая спачатку бубніла, што не трэба ўсё гэта дабро, што толькі бяды набярэшся ад яго, што задушышся работаю, цяпер маўчала, не хацела злаваць Ігната, ды, можа, і сама раздумалася. Немцы калі і не занялі Маскву, то дзе тая Масква, тут свой парадак.

Вечарам выходзіў Ігнат на двор пакурыць. Уставаў ён першы, клаўся апошні, як і належыць гаспадару, як і рабіў некалі яго бацька. Перш чым закурыць, ішоў паўз хлявы, мацаў, ці замкнёны замкі, хоць сам надвячоркам вешаў іх на дзверы. Канчаў агляд у весьнічках ад вуліцы, удыхаў вясновае марознае паветра, якое не студзіць да болю ў грудзях, а цячэ ў нутро халаднаватае, настоенае на водары прыадталага ўдзень снегу, які цёмна ўледзянеў на сцяжынках. У такія вечары хочацца думаць пра жыццё, радавацца, што ёсць ты, чалавек, на зямлі, і ў цябе наперадзе доўгія гады радасці гэтаму жыццю, у якім ты сам сабе гаспадар, табе могуць зайздросціць і цяпер, а потым будуць яшчэ больш зайздросціць, калі сам станеш распараджацца радасцю і адпускаць яе людзям. Ён не ведаў яшчэ, як будзе выдзяляць іншым радасць, усё гэта наперадзе, але пра тое канкрэтнае, што дасць яму сілу, уладу, павагу ад людзей, ён ведаў — гэта багацце, а яно з першага года пайшло яму ў рукі, і ён не выпусціць сваю ўдачу.

Ігнат прыглядаўся да Стахвана і стараўся рабіць так, як і той: не надта паказваўся на людзі, не высоўваўся наперад, нават бараду адгадаваў, і не лез людзям у вочы са сваім багаццем. У Стахвана больш усяго, і то ён цішэй вады ніжэй травы, хоць з калгаса ўзяў і двое коней, і дзве каровы, ды і будынкі не раўня Ігнатавым. Выбудаваўся яшчэ пры калгасе. Хлеў, як гумно, быццам ведаў, што аднаасобна будзе жыць.

Вясна радавала Ігната прадчуваннем упрэлае зямлі, якую ён узарэ, не нейкія там соткі, а гектары, пасее і нажне жыта, навозіць снапоў! Толькі шкода, што няма гумна, давядзецца сена ў стог скідаць. Лепш бы замкнуць, схаваць усё. На ўсё свой час! Вайна ж пакуль што на свеце.

Ігнат прыпыняўся яшчэ ля парога, вобмацкам заходзіў у хату, распранаўся. Жонка ціха стагнала спрасонку — балелі ад работы рукі.

Пагрукалі ў акно ціха, потым яшчэ раз, мацней і настойлівей. Ігнат устаў, прыслухаўся, уссунуў басанож гумы, але не ішоў, стаяў ля прыпечка, пакуль у акно так пагрукаталі, што забрынчалі шыбы. Трэба было ісці адчыняць, пакуль не пабілі шкло. Адшчапіў хатнія дзверы, выйшаў у сенцы. На двары пачулі, што ён выйшаў.

— Адчыні! — запатрабавалі настойліва і стукнулі ботам у дзверы.

Ігнат чуў, што і паліцыя па начах абірае людзей, быццам партызан шукае, выпорвае ўсё дабро і забірае. Зледзянелаю ад страху рукою ён не адчуваў холаду крука, за які была закладзена завала, і калі зноў стукнулі ботам у дзверы, узяў яе ў рукі, быццам дубінку.

Цераз парог пераступілі тры чалавекі, зачынілі за сабою дзверы, і толькі тады адзін з іх пстрыкнуў запальнічкаю, і яна засвяціла бледным чырвоным агеньчыкам.

Усе ўтрох пры зброі, маладыя. З бездапаможнаю злосцю мільганула думка — малакасосы, смаркачы! Але страх не адпусціў.

— Пастаў, дзядзька, завалу! — загадаў адзін з прышлых. Голас быў мужчынскі, густы.

— Цябе Чыгун завуць?

— Але, я. Я...

— Поп як хрысціў?

— Ігнатам.

— Вядзі ў хату, Ігнат.

Ігнат пайшоў спераду, халадзеючы ад думкі, што яны аднекуль ведаюць пра яго і прыйшлі знарок. Каб толькі дзяцей не пабудзіць, не палохаць.

— Завесь, дзядзька, вокны,— зноў загадаў мужчынскі голас, Ігнат зашлёпаў гумамі, зайшоў за занавеску, пачуў, як Мар'я слаба шапнула: «Што ж будзе!» — цыкнуў — нішкні, ляжы каменем, забраў посцілкі, завесіў вокны.

Зноў чыркнула запальнічка, адзін з мужчын сам запаліў газнічку на камінку, якую раніцаю Мар'я ставіла на прыпечак, пакуль падпальвала ў печы.

— Курыва маеш, гаспадар?

Ігнат з запечку прынёс торбачку з накрышаным самасадам:

— Бярэце, хлопцы, я многа насадзіў!

— Забяром,— спакойна запэўніў яго старшы, у афіцэрскай круглай фуражцы з доўгім казырком. Ад яго роўнага голасу Ігнат ссутуліўся.

— Ідзі, барада, штаны хоць нацягні, а то матляеш тут перад намі...

Хлопцы засмяяліся, а Ігнат за занавескаю доўга мацаў па білу, пакуль здагадаўся, што штаны ўпалі на зямлю, ніяк не мог патрапіць у калашыну, і раптам здагадаўся, што страляць яго не будуць, калі загадалі адзявацца.

— Сядай, барада, паталкуем.

Старшы прыжмурана глядзеў на Ігната з-пад абшарпанага казырка, паволі, густа пускаў праз нос дым. Быццам адпачываў і не надта хацелася гаварыць з Ігнатам.

— Самагонкі нагнаў? Паліцаяў поіш?

— Таварыш начальнік, я іх...— Ігнат падхапіўся.

— Сядзі, барада. Пан начальнік не навучыўся яшчэ гаварыць? Даўно яны тут былі?

— Даўно... Чорт іх ведае, я з імі ніякага кантрагенту не вяду, я...

Ігнат азірнуўся на спадарожнікаў старэйшага, але ім быццам не было і справы да гаворкі, якую вядзе начальнік. Адзін сядзеў, заплюшчыўшы вочы, быццам драмаў, другі падцягваў папругу вінтоўкі. Зноў стала страшна ад іх упэўненасці і спакою, сілы, якую яны адчувалі за сабою. «Вось выведуць, застрэляць — і ніхто ім не перашкодзіць! Застрэляць жа такі!»

— Ты, барада, ні іх, ні нас не хочаш ведаць. Пра іх як хочаш, а пра нас не забывай. Мы пра цябе помнім. А сёння нам калгаснага бычка аддасі.

— Таварыш начальнік...

— З хлява выведзеш сам. Цераз вуліцу ад цябе Андрэйшын жыве?

— Андрэйшын, Андрэйшын...

Мужчына больш не слухаў, устаў, кіўнуў, каб Ігнат ішоў паперадзе. Ігнат ішоў не сваімі нагамі. Сэрца адарвалася і мёртва ляжала ў грудзях. «Раскопваюць. Усё ведаюць! Добра, што я не лез першы і не хватаў лішне».

Адамкнуў дзверы, увайшоў у хлеў. Вароты нават не рыпнулі, зняў кавалак вяроўкі з шулкі, вобмацкам, ступаючы па гнаі паўз сцяну, дзе сушэй, падышоў да

бычка, завязаў вяроўку на шыі. Жывёліна паслухмяна торкалася пысаю ў руку. Ігнат пагладзіў па сытай спіне бычка. Паднялася ў грудзях злосць і крыўда, і адразу ж прапала, як толькі пачуў цвёрдыя крокі ля варот у хлеў.

— Ідзі, ідзі, быська,— пацягнуў ён за вяроўку.

На двары адзін з мужчын узяў з Ігнатавых рук повад, а старшы ціха загадаў:

— Ідзі, дзядзька, у хату. І не зарывайся лішне.

— Таварыш начальнік...

— Помні, барада, што я табе сказаў. А то ў нас будзе пра што з табою пагаварыць,— яшчэ раз папярэдзіў ён Ігната, і ад гэтага папярэджання ў Ігната зноў адарвалася, упала сэрца: «Ведаюць, усё ведаюць! Нехта даказаў!»

Ігнат яшчэ пастаяў на двары, чуў, як цішэлі крокі мужчын, як недалёка пырхануў конь, потым стукнулі веснічкі на двор да Стахвана. Ігнат аж сцяўся ад гэтага стуку, ускочыў у сенцы, шахнуў засаўкай, заклаў за крукі завалу, толькі тады адчуў, што ўвесь мокры ад халоднага поту, быццам з вады вылез ці цэлы дзень хадзіў за плугам. Яшчэ стаяў, чакаў стрэлаў на двары ў Стахвана, але было ціха.

— А што яны з табою зрабілі! — запрычытала насустрач Мар'я, як толькі пераступіў парог у хату.

— Ціха, не енчы! Бычка забралі, каб ён ім бокам выйшаў!

Жонка з палёгкаю ўздыхнула.

— Чаго ты радуешся? Так і ўсё з хаты павыносяць, не толькі з хлява павыводзяць! — напусціўся ён на жонку. Страх прайшоў.— Каб яно калом вам у горле стала, тое мяса!

— А я табе казала, не чапай калгаснага, не хлыніся за дабром! Думаеш, людзі дурныя, не бачаць, што Андрэйшын, Завадскі і ты больш за ўсіх нахваталі? Думаеш, маўчаць будуць? Дадуць вам спакойна панаваць на чужым горы? Хай толькі чырвоныя вернуцца....

— Маўчы! Я калгас не дзяліў, я ўзяў, што мне далі!

— Не шукай дурнейшага за сябе! Думаеш нахватацца навек? Задушыш мяне і сам задушышся за работаю! А не і галаў адкруцяць!

— Не каркай! І без цябе моташна. Укладзіся і ляжы каменем.

— Тут і нежывы не ўлежыць.

Жонка заціхла. Прыслухаўся і Ігнат.

Ноч стаяла цёмная, ціхая. Ні агеньчыка, ні гуку. Доўга прыслухоўваўся Ігнат, але нішто не парушала цішыню, толькі ў брусе быў чуваць шашаль — патрэсквау, патрэскваў. Праз акно ў халаднаватай вышыні ярка стылі зоркі.

Прыдрамаў Ігнат адну часінку, дасвеццем быў на нагах, пахадзіў па двары, выглянуў на вуліцу. І следу не засталося ад тых людзей, што былі тут ноччу, толькі пустая пярэгарадка ў хляве, камячок гною, што адваліўся ад капыціка бычка ля веснічак, ды яшчэ неспакой, страх і няўпэўненасць на будучае, быццам была пахіснулася пад нагамі зямля. Цяпер гадай, калі яна зноў пахіснецца, каб не ўпасці, утрымацца.

Над Стахванаваю хатаю, як і звычайна, віўся дымок. Ігнат супакоіўся — абышлося.

Ігнат узяў вёдры і пайшоў па ваду. Амаль роўна са зрубам намёрзла лёду, але адсякаць не збіраліся, пакідалі веснавому сонцу. Агляну ўся Ігнат толькі тады, калі бразнулі восілкі пастаўленых на зямлю вёдзер.

— Добрай раніцы,— прывітаўся Стахван.— Ён нібы паменшаў за ноч, сагнуўся, асунуўся.— Ты ж мо чуў, кадук на яго, што ночы рабілася?

— Чуць нічога не было...— Ігнат не ведаў, казаць праўду, ці маўчаць.

— Нічога, кадук на яго! А чаго яны ад цябе да мяне пайшлі?

Стахван спадылба зыркнуў на Ігната. Прытварацца не было чаго.

— Падказаў ім нехта на нас. У мяне бычка забралі.

— Забралі?

— І што я Чыгун — ведалі, і што ты цераз вуліцу ад мяне жывеш, і што калгас ты дзяліў.

— А ты што пра мяне казаў?

— Нічога не казаў. Яны і не пыталіся. Самі ўсё ведалі.

— Кадук на іх!..

Стахван патаптаўся на месцы, азірнуўся навокал, намякнуўся пайсці да хаты.

— А вады чаго не браў?

— І то ж, кадук на яго...

Ён узяў з Ігнатавых рук гладкае, выцертае рукамі пругло, на якім цяжка пагойдвалася акаванае замшэлае вядро. Усё мыляў губамі, быццам хацеў нешта сказаць і не адважваўся.

— А ў цябе, Стахван, нічога не ўзялі?

— Адкуль я ведаю... Што ты гаворыш?

— Пытаюся, у цябе нічога не ўзялі?

— Не, нічога. Павячэралі толькі, кадук на іх. Антося Маніхватава хацелі застрэліць. Стараста, кажуць, і ўсё. Ледзьве Волька вымаліла, што ад старасці скора і сам па сабе рассыплецца... Стараста — і ўсё...

Стахван мо з тыдзень не паказваўся на вуліцы. Ігнату таксама мулка спалася, ні з таго ні з сяго прачынаўся сярод ночы, прыслухоўваўся — здавалася, зноў стукаюць у акно. Маўчаў, нікому не гаварыў пра бычка, пра Стахвана, і людзі гаварылі толькі пра старасту.

А потым прыйшла пара вазіць гной, засяваць надзелы. Пакуль ухадзіліся з работаю, страх забыўся, і здавалася, што даўным-даўно былі партызаны. Ігнат толькі кляў іх зрэдку за бычка, пакрысе вярнулася ўпэўненасць. Даходзілі чуткі, што партызаны спусцілі з рэек цягнік, зрабілі засаду, але гэта было далёка, там, дзе за палявою Случчынаю пачынаўся лес. Перад касьбою, калі сама абрабілася і было крыху вольнага часу, нечакана знік з вёскі Стахван. Тэкля гаварыла, што паехаў мяняць сала на соль, але ніхто не паверыў, што не было ў Стахвана ў запасе солі, ды ішоў час, а ён не вяртаўся.

Ігнат-то не вельмі паверыў, думаў, што знарок Стахван пусціў такую пагалоску, а сам прытаіўся дома, але колькі ні цікаваў, нічога падазронага не заўважыў. І Ігнат зразумеў, што Стахван сышоў з дому, што баяўся, каб не зайшлі да яго ноччу другі раз. І недзе там, дзе яго не ведаюць, не сядзіць ціха, дабывае дабро.

Надвячоркам Ігнат узяў сякеру і пайшоў на аселіцу — паправіць загарад. Карова, мабыць, чухаючыся, зламала кол, калючы дрот абвіс, і нядоўга было жывёле ўлезці, стаптаць грады. Новы кол ён высек у алешніку, завастрыў і пачаў прабіваць дзірку ў

дзёрне: з размаху ўганяў кол у зямлю, раскіўваў, потым зноў заганяў у гэтае ж самае месца. Потым убіваў сякераю. Біў з-за пляча, па-малатабойску; кол мякка, напорыста ішоў у поплаў, пакуль суха не трэснуў і не раскалоўся зверху.

— Памагай бог! — пачуў Ігнат за плячыма і аж сцепануўся ад нечаканасці.

— Цьфу ты! Перапужаў толькі.

— Нейкі ты вельмі пужлівы стаў.

Тодар, які да вайны сядзеў рахункаводам у калгасе і якога апошнім часам нідзе не было відаць, нядобра ўсміхаўся сінімі бяскроўнымі вуснамі, гледзячы на Ігната праз круглыя акуляры. Быў ён па даўняй сваёй звычцы без шапкі; бледны, высокі яго лоб бялеўся ў прыцемках. Дубчык, які Тодар трымаў у руках, няспешна пагладжваў траву ля старых, сшытых белымі суравымі ніткамі галошаў.

Бацька яго яшчэ за царом трымаў карчму, сына адправіў вучыцца ў Мінск, і Тодар там, гаварылі, меў сваю лаўку, гандляваў, чым і як — ніхто толкам не ведаў. Пасля рэвалюцыі, пасля палякаў Тодар вярнуўся дадому, да бацькі, які не вёў ніякага гандлю; лаўка згарэла, калі адступалі палякі. Людзі пагаворвалі, што стары знарок спаліў будыніну і што там нічога не было. Тым не менш, старога ніхто не чапаў, лічыўся бедным.

Тодар з'явіўся нечакана, у абшарпаным чырвонаармейскім адзенні, худы, з абстрыжанаю галавою. Гаварыў, што ваяваў у Будзённага і ледзь не памёр ад тыфу. Дакументаў у яго ніякіх не было, ды ніхто і не пытаўся іх. Застаўся жыць пры бацьку, потым нібы дапамагаў арганізоўваць калгас; як чалавек вучоны, былы чырвонаармеец, стаў рахункаводам у калгасе. Ажаніўся ён пасля смерці бацькі з дачкою местачковага шорніка Федзькі, добрага майстра і п'яніцы. На работу жонка не хадзіла ў калгас, даглядала гаспадарку, нават сама калола дровы. Тодара баялася, як агню,— біў ён яе чым папала і па чым папала часта, невядома за што. Тодар меў знаёмых у сельсавеце, у раёне, нікога з вяскоўцаў і не крыўдзіў быццам, але ў вёсцы яго недалюблівалі.

«Прынеслі яго сюды пранцы!» — злосна падумаў Ігнат. Тодар усё глядзеў на яго, усміхаўся.

— А ты што тут робіш? — не вытрымаў, запытаўся Ігнат.

— Мне што рабіць? Мая работа кончылася з калгасам. Гэта ў некаторых яна сама пачалася. А я гаспадаркі не маю, сабе не нацягаў калгаснага дабра...

— Хіба не даваў хто?

— За больш увішнымі не ўспеў. Яны цяпер мо і не рады, назад аддалі б.

Дубчык жорстка сцебануў па зямлі.

— Ты пра каго гэта, Тодар?

— Ды от ні пра кога... Пра суседа свайго нічога не чуў?

— Я суседа не пільную.

— Мо і гэтак яно.

Тодар зноў усміхнуўся і хвасянуў дубчыкам па траве:

— Табе, Ігнат, і на руку, што сядзіба побач запустуе. Тэкля адна з работаю не ўправіцца, зямлю не ўробіць. Забярэш. За гэта можна было і падказаць, хто калгаснае дабро дзяліў, калгас распускаў.

Ігнат на крок адступіўся, паважыў у руцэ сякеру, быццам прымерваўся ўдарыць ёю, зазлаваў:

— Ты што гэта? Сам рахункавод, сам і даў Стахвану спісы. Цяпер хочаш хвастом накрыцца?

Тодар ухмыльнуўся, павярнуўся ісці сваёю дарогаю — і ў вечаровым нізкім сонцы халоднымі чырвонымі агеньчыкамі ўспыхнулі шкельцы акуляраў.

Ігнат аж выпусціў з рук сякеру. Тодар гэтага не заўважыў, не агледнуўся, спакойна ішоў разоркаю. У грудзях у Ігната нешта трымцела, як і тады, ад крыку старое, якая гарэла жыўцом.

* * *

Лета прайшло спакойна. Стахван так і не вярнуўся. Тэкля сама парадкавалася, касіла. Аднаго каня мусіла прадаць Ігнату, а на больш гаспадарку не зменшыла, ды і не варта было, пакрысе прыбрала з поля ўсю збажыну, на зіму корму будзе.

Не аказваліся больш у вёску і партызаны.

Спакойна, мірна ішла ў прыродзе восень, асыпалася лісцем на вузкія каляіны парослых травою дарог, засцілала жаўталістам лужы ў лесе. Калі-нікалі аб-

кладвала неба, па тры-чатыры дні шумеў спорны дробны дождж, прыліпала да падэшваў лісце, пахла прывялаю мокраю травою.

У такія дні Ігнат часцей пазіраў на два стажкі сена, на складзены пад страхою паўз сцены хлява бульбоўнік. Шкода было, што многа прападзе і сена, і бульбоўніку. Трэба было гумно. Сасоннікаў-круглякоў навазіў з Лошы, з ваеннага гарадка. Ды і ток прасторны трэба быў на малацьбу. Думкі пра гумно кружылі ў галаве, як некалі ў бацькі пра млын. Цяпер ёсць за што людзей наняць, лес ёсць... Сама будавацца, пакуль лесу ніхто не пільнуе... А надалей можна будзе і пра млын падумаць, там прыбытак верны, гэта не ад бычка. Хай троха астоіцца ўсё на свеце, супакоіцца.

Ігнату было чаго радавацца. Цяпер, калі пайшоў Стахван, у вёсцы ніхто больш за яго не мае дабра, напомніць ён людзям, хто такі Чыгун.

Запаў Ігнату ў вочы і не даваў спакою дубняк за Бранавіцкімі, у невялічкім ляску сярод поля за кіламетраў шэсць ад вёскі. Дубкі яшчэ не старыя, танкаватыя, але ёсць некалькі высокіх, сама раз на сохі, і на шулы можна назбіраць. Па тоўсты дуб трэба ў вялікі лес ехаць, за Вераб'ёва, наймаць людзей, а хто захоча такім ліхім часам ехаць туды, дзе немцы паляць вёскі разам з людзьмі? За Бранавіцкімі ён і адзін управіцца пассякаць, усцягне на воз канём.

Цяпер, пакуль не ўзяліся выбіраць бульбу, сама час паехаць у лес. Думка гэтая так засела ў галаве, што пад вечар Ігнат інакш і не мысліў, быць таго не магло, каб не паехаць заўтра па дуб.

Надвячоркам падмазаў калёсы, паклаў у передок бярэмя канюшыны, трэцяга ўкосу, дробненькае і зялёнае. Зайшоў у падпаветку, узяў пілу, паспрабаваў на палец, ці вострыя зубы, раздумаўся: аднаму няма чаго рабіць пілою, дастаў з-пад варштата сякеру — кавальскае работы, на доўгія з бярозы-чачоціны тапарышчы, якое знарок рабілася на работу ў лесе. Можна замахнуцца, ударыць. Там жа, пад варштатам, у дробных габлюшках абмацаў кавалак тачыла.

Тачыла і сякеру пакінуў на парозе, пазамыкаў хлявы, паслухаў, як за сцяною карова роўна жавала жвайку, зачыніў варотцы ў агародчык і толькі тады

зайшоў у хату, насварыўся на Мар'ю, якая ў мыцельніку перастаўляла посуд:

— Зноў варотцы ў агародчык расхлябестаны. Рукі лянуешся за сабою завярнуць!

— А чорцяга ўспее за такою плоймаю ўсё ўпільнаваць! За дзень ні рук ні ног не чую. Мо дзеці лазілі.

— Прывыкла на дзяцей спіхаць. Можа, хочаш, каб я яшчэ і за дзецьмі даглядаў, а не ты? Лямпу запалі.

Дзяцей-то ён не бачыў і не глядзеў за імі і раней, і цяпер. Але Мар'я не аскірзнулася, узяла з каміна запалкі. Кнот не ўкруціла ўсярэдзіну, і лямпа свяціла бледна, як газоўка.

— Будзеш вячэраць, Ігнат?

— А Зіна з Аняю дзе?

— Пападалі спаць. Набегаліся за дзень.

— Не буду вячэраць. Малака троха з'ем. Пайдзі ў кубел, прынясі сала ўзяць на заўтра ў торбачку. Цыбулі, агурка якога. Малака налі ў пляшку. Паеду заўтра за Бранавіцкія па дубы.

— Адзін паедзеш? Хоць бы я памагла.

— Упраўлюся адзін. Дом жа не пакінеш на цэлы дзень.

— То малака я заўтра налью, свежага.

— Але, буду я цябе чакаць. Досвета паеду.

— Задушышся адзін. На чорта табе так хватаць! Такая калатнеча на зямлі...

— Не тваё дзела!

Мар'я патупала ў каморку, было чуваць, як стукнула вечкам кубла. Прынесла ў хату ўвесь кавалак сала — мокрага ад расолу, пад'ялчалага, з адстаўшаю шкуркаю, зняла з цвіка дошчачку і наважылася абрэзаць самае зжаўцелае паўз край кавалка.

— Нашто ты рэжаш?

— Не ўясі мо, соль адна.

— Уем. Не вялікі пан.

Мар'я адрэзала кавалак, аскрэбла соль, прынесла маласольных агуркоў, наліла ў бутэльку малака, заткнула коркам з газеты, усё паклала ў палатняную торбачку, з якой Аня хадзіла ў школу.

Ігнат закурыў, паклаў на лаву кавалак тачыла, пappляваў на яго і зашоргаў сякераю.

— Мо агонь большы ў лямпе зрабіць?

— Нашто? Я і так бачу.

— Як хочаш.— Мар'я памаўчала.— Учора Смалярню спалілі разам з людзьмі...

— Ну і што? Яны, лесавікі, з партызанамі знаюцца.

— А хто цяпер у каго пытаецца? Бычка забралі, добра што самога жывога пакінулі...

— Адчапіся з бычком! Колькі ты ўспамінаць будзеш?

— От, божа літасцівы! Як азвярэў ты. Жылі некалі, як людзі. А цяпер — як на пусты канец...

Мар'я не дагаварыла, бо Ігнат быў перастаў шоргаць сякераю па тачыле, яшчэ нешта прашаптала сама сабе пад нос, зашамацела сеннікам, уздыхнула.

Цыгарка дагарэла, пачала прыпякаць у губы. Ігнат, не ўстаючы, кінуў недакурак на прыпечак, зноў засяроджана зашоргаў сякераю.

Глухая, зацятая злосць на партызан не прайшла. Ён узненавідзеў іх, але маўчаў, баяўся, што зноў прыйдуць, калі хочаш, пазабіраюць і коней.

Выехаў Ігнат, як і збіраўся, досвіта. Ноччу легла густая, белая, як шэрань, раса, густы туман, і ад вільгаці стылі рукі. Ён нават пашкадаваў, што не ўзяў рукавіцы.

У тумане было глуха, як у мяшку, але Ігнат ведаў, што да абеду распагодзіцца, будзе сонечна, цёпла. Ветру няма, не будзе хмар і дажджу.

— Ну, Дэраш, варушыся, ваўкарэзіна!

Ігнат сцебануў каня, і той неахвотна затрухаў бягом.

За лагчынаю з такім густым туманам, што нават дугі не было відаць, дарога пайшла пад узгорак, між кустоў калючага барбарысу; калёсы застукалі па карэнні маладога сасонніку; за сасоннікам дарога пайшла ў лог, зарослы кустамі шызаватай лазы. Далей дарогу абступілі густалапыя, насупленыя яліны з урослымі ў мох ніжнімі лапамі.

Непрыкметна ельнік расступіўся, адышоў у туман; захрумсцеў пад коламі гравій. З аднаго боку ад дарогі пайшла нізкая маладая пасадка сасонніку з рэдкаю доўгаю травою, пажаўцелаю, па-восеньску пакамечанаю. З другога боку пачаўся кусцісты грабнік, малады

дубняк. Ігнат закіраваў на вузенькую, ледзь прыкметную дарогу, да сваіх нагледжаных дубкоў... Каня распрог на невялічкім прагалку, прывязаў лейцамі за аглабіну, падкінуў канюшыны, навесіў торбачку з ядою на сук, узяў сякеру і пайшоў да першага дубка, кінуў вокам на парэпаную кару, абымшэлую ля самае зямлі. Камель моцна, разлапіста ўваходзіў у зямлю глыбокімі карэннямі, якія разлічаны надоўга, на стагоддзі, каб дрэва разраслося ў некалькі абхватаў, вынеслася ўверх над усім наваколлем, абымшэлае не толькі ў камлі, але і на вершаліне. Гэтага не будзе, наканавана яму толькі лёгенька здрыгануцца ад першага вострага ўдару...

Ігнат з размаху біў сякераю пад самы камель, чыстыя пругкія трэскі падалі на траву. Усё глыбей, паслухмяна ішла сякера ў вільготнае жывое дрэва. Ігнат не разагнуўся, пакуль дрэва цяжка не трэснула, незаўважна пахілілася ў падсечаны бок. Толькі тады некалькі хвілін пастаяў, аддыхаўся, слухаў, як па целе расцякаецца гарачая стомленасць. Спакойна, з адцяжкаю, секануў раз, другі, і дрэва, сваім цяжарам абрываючы моцныя валокны, нахілілася, пачало падаць, зашумела вершалінаю і цяжка вухнула вобземлю. Пасля ў мёртвай цішыні было чуваць, як выпростваюцца падкамечаныя цяжарам ствала галіны, нібы дрэва яшчэ варушылася.

Ігнат абсек галіны, адцягнуў іх ад дарогі, прыкідаў дубовы камель ламаччам, каб не так кідаўся ў вочы, і перайшоў да наступнага дрэва.

Ён падступаў ужо да трэцяга дубка. Даўно мінуў ранішні халадок, расплыўся туман. Свяціла, пачынала выпрыгваць сонца. Ігнат усё часцей прыпыняўся, выціраў рукою пот, як на сенакосе.

Ён спачатку не прыслухоўваўся да далёкае страляніны, махаў сякераю, і толькі тады, як моцна, глуха вухнула недалёка раз, а потым і другі, перастаў секчы, прыслухаўся: стралялі густа і зацята. На нейкую хвіліну страляніна заціхала, а потым зноў усхаплівалася з новаю сілаю. Ігнат быў узяўся за сякеру, але трывога закралася ў душу — стралялі ў тым баку, адкуль ён прыехаў. Страляніна нахапілася з новаю сілаю. Ігнат адрозніваў і аўтаматныя чэргі, і вінтовачныя стрэлы. Яшчэ раз моцна вухнула, раптоўна стала ціха,

было чуваць, як гудуць маторы; потым гул пачаў аддаляцца, цішэць, а высока ў небе з'явілася лёгенькае светлае воблачка. Яго быццам падштурхнулі ў плечы, подбегам кінуўся да воза, сунуў пад траву сякеру, ліхаманкава ўзяўся запрагаць каня, потым ускочыў у воз, шлегануў каня па азадку лейцамі, і той ад нечаканасці з месца рвануў рыссю, а Ігнат усё круціў, круціў лейцамі над галавою, чуў, як ляскацяць колы і амаль не дакранаюцца да зямлі.

Калі выехаў з лесу, сэрца абарвалася: гарэла яго вёска, пасярэдзіне, там, дзе яго хата. Дым над пажарам паменшаў, узялося ў сілу полымя, не давала людзям падступіцца і тушыць, ды і патушыць ужо было нельга. Ігнат толькі паўтараў сам сабе: «Барані божа, барані божа!» — лупіў і лупіў лейцамі ўзмакрэлага каня, колы ляцелі над зямлёю, выбіваючы з камення іскры. Даўно растрэслася канюшына на дарогу, выпала сякера, холадна бліснуўшы на сонцы сіняватым лязом.

На поўным кар'еры з-за вербаў уляцеў ён у вуліцу, амаль на самы натоўп вяскоўцаў. Конь сам спыніўся перад людзьмі, закіраваў да плота.

Перад Ігнатам расступіліся. Ён стаяў пасярод вуліцы, няўцямна глядзеў на тое, што засталося ад яго дамоўкі: на чорнае абсмаленае бярвенне, якое дыміла тоненькім шызым дымком. Крыху сцен успелі расцягнуць, залілі вадою. Чорныя асмалкі і печ з разбітым комінам — усё, што засталося ў яго.

Ігнат цяжка павярнуўся і ўздыхнуў, быццам яго трымалі за горла, і ён нарэшце вызваліўся. Не сказаў ні слова, пайшоў да воза, нечакана скоранька азірнуўся, быццам успомніў пра нешта патрэбнае, некага шукаў вачыма ў натоўпе. І не бачыў ні жонкі, ні дзяцей. Нехта, зразумеўшы, што ён хоча ўгледзець, толькі кіўнуў галавою ў бок пажарышча — там яны.

Ігнат усміхнуўся, быццам ашчэрыўся, закруціўся на месцы, кінуўся да каня, які ішоў, згрызаючы паўз плот зелле і траву. Следам за драбінамі цягнулася па зямлі торбачка з ежаю.

Ён быццам спатыкнуўся, стаяў некаторы час на адным месцы, глядзеў сабе пад ногі, на зямлю ля вялікага каменя, які некалі нарочна паклаў, каб не ездзілі блізка паўз плот і не ламалі калоў. Ля каменя ляжала

нешта страшнае, што было чалавекам, і цераз гэта праходзіў танкавы след. Побач бездапаможна і недарэчна тырчаў угару сагнутым ствалом кулямёт, і ля яго ляжала афіцэрская фуражка з паламаным казырком, такая, тая ж самая, што была ў таго старшага, як забіралі бычка.

Людзі ўтрапёна глядзелі, як Ігнат вялікімі, нібы скачкі, крокамі дабег да падводы, выпрагаў каня, ускочыў верхам, ударыў пад бакі абцасамі. Натоўп шарахнуўся да платоў, даючы дарогу каню. Усе зразумелі, што Ігнат звар'яцеў.

— От і ўсё чалавеку. А жыць замахваўся, як на два вякі.

...Босы, мабыць, сасніў, што даганяе суседскага рыжага ката, якому за збродную натуру адсеклі хвост, сам прачнуўся ад брэху, насцярожана павёў вушамі, вінавата паглядзеў на гаспадара.

— Раздзяўкаўся, падла! — абазваўся да яго Ігнат, ачнуўся, успаміны зблыталіся. Нядобра паглядзеў на сабаку, які вінавата біў хвастом па зямлі і не падымаў пысу з лап. Старасць брала сваё, і яму, як Ігнату, падабалася ляжаць нерухома ў цяпле.

Пасля вайны гэта трэці сабака ў Ігната. Першага ён памятаў, а тых двух, што трымаў перад Босым, не мог успомніць, ды і яны былі падобныя на Босага, і з імі, як з Босым, ён хадзіў на вартаўніцтва, і гэты Босы з разарваным вухам будзе жыць і тады, як не стане гаспадара...

Ігнат аж падхапіўся з палка, быццам хацеў пераканацца, што ў яго ёсць яшчэ сіла, з палёгкаю ўздыхнуў. Пра смерць прыходзілі яму ў галаву думкі даўно, але думалася пра яе, як пра нешта далёкае, нерэальнае. Цяпер думка была пра смерць, як пра заўтрашні дзень. Ігнат разгублена сядзеў на палку, спалоханы і збянтэжаны, падумаў, што ў жыцці яго не было нічога, толькі гэтыя тры сабакі пасля вайны, ды і самога жыцця не было, гэта толькі здавалася, што жыў ён. А тыя людзі, тыя жанкі і дзеці, якія засталіся ў абрабаванай вёсцы і павінны былі згінуць, прапасці, не згінулі, яшчэ як зажылі і без яго дапамогі, выбудавалі вёску, а ён так і застаўся ў сваёй падслепаватай хатцы, у якой сабраўся пераЖыць усіх і радавацца, гледзячы, як мучацца людзі, і той самы Павел, сынок Стахванаў,

які шморгаў за комінам носам, калі Тэкля намякала Ігнату застацца жыць з ёю, вырас і цяпер з жалю дапамагае яму, як кідаюць брадзячаму сабаку кавалак хлеба... Не патрэбна яму ні Ігнатава бульба, ні соткі.

Ігнат устаў, памкнуўся выйсці на вуліцу, дзе больш святла, паветра, але лёскат калёс на вуліцы спыніў яго. Ігнат пастаяў у парозе і вярнуўся назад. Людзей не хацелася бачыць.

Сеў на палок, потым лёг, заплюшчыў вочы.

...Ігнат не памятаў, колькі часу і куды ехаў. Вёскі абмінаў, хоць не думаў ні пра небяспеку, ні пра ратунак. У яго балела галава ад чаду тых галавешак на пажарышчы. І калі пад'язджаў да вёскі, думаў здзіўлена, чаму яна цэлая, чаму не куча асмалкаў. Усё на зямлі павінна было згарэць і застацца толькі пустка. А зямля трымала Ігната, паіла вадою, і толькі зялёнае надвячоркамі восеньскае неба пагардліва глядзела на чалавека.

Вярнула Ігната да розуму, да адчування рэальнасці простае, знаёмае ўсім жывым істотам адчуванне голаду. Яно аказалася мацней за ўсё. На гэты раз ён не аб'ехаў вёску, а з кустоў доўга цікаваў за чародкаю белых гусей, выламаў ладную папруцінку, і, калі гусі падышлі блізка, выляцеў на іх конна, па-драпежнаму дакладна ўдарыў гусь па галаве, схапіў яе, страсянуў яшчэ, трымаючы за голаў, і знік на кані за кустамі, чуў, як спалохана гергеталі гусі.

Гусь смажыў у лесе, на беразе ручая. Абмазаў глінаю, касцёр клаў невялічкі, каб не было многа дыму. Смаку не адчуваў, толькі слухаў, як напаўняецца страўнік. Ад гусі мала што засталося, яму не хацелася больш варушыцца, рухацца. Ён знайшоў на ўзлеску стажок сярод маладога бярэзніку, прывязаў каня за дрэва і заснуў мёртва, упершыню за ўсе дні блукання. Засынаючы, успомніў яшчэ таго чалавека ля каменя, які прыходзіў некалі да яго ноччу, злосліва падумаў: «Цяпер нічога не возьмеш, набраўся!» Прачнуўся толькі надвячоркам, паглядзеў на каня, які скуб траву, прыслухаўся да цішыні і зноў заснуў.

Ноччу сніўся яму кароткі сон. Сонечна, моцна пахне смалою, свежымі халаднаватымі трэскамі, якія яшчэ не насохлі, не пацямнелі на сонцы і не трашчалі пад ботамі. Яны ўдвух са Стахванам толькі што пры-

дралі верхняе бервяно, па яловых лагах цягнулі вяроўкамі ўгару, вось-вось усцягвалі, як неўспадзеўкі трэснулі лагі — і рассыпаўся ўвесь зруб, бярвенне пачарнела, прапаў некуды Стахван. І нікога навокал, каб паклікаць. Ён глядзеў, як дагарала бярвенне і нарэшце здагадаўся, што гэта ў яркім сонечным святле не відаць агню, толькі шыпенне і патрэскванне чуваць.

Ігнат прачнуўся і выразна пачуў крокі. Нехта краўся паўз стог, і было чуваць, як шоргае па адзенні сена. Ён не паварушыўся, толькі скасіў вока і перад самым тварам убачыў ногі і прыклад вінтоўкі, які ледзь не даставаў да зямлі. Не чакаючы больш, клубком кульнуўся пад ногі, ірвануў за вінтоўку. Чалавек упаў. Ігнат ляжачага з усяе сілы ўдарыў па твары, што аж забалела ў руку. Чалавек толькі ўсхліпнуў ротам і заціх.

Ігнат ухапіў вінтоўку, кінуўся да каня. Не было часу адвязваць лейцы, скінуў аброць, ускочыў верхам, ударыў вінтоўкаю па баку. Бабахнуў стрэл; перапалоханы, аглушаны конь так ірвануўся з месца, што Ігнат ледзь утрымаўся, не выпускаў з рукі грыву, не кіраваў канём, толькі трымаўся, нізка прыгнуўшыся да грывы, пакуль конь не спыніўся.

Вакол быў глухі лес. Конь стаяў на вузенькай сцяжынцы пад кашлатымі ялінамі. І чуваць толькі было, як сапе стомленая ад доўгага бегу жывёліна.

Ігнат кляцнуў затворам, перазарадзіў вінтоўку, пагнаў каня. Трэба было некуды ехаць.

Блукаў ён па лесе да світання, разумеў, што заехаў у вялікі лес і заблудзіўся. З вінтоўкаю адчуваў сябе смялей, не палохаўся — удзень некуды выедзе.

«Стой!» прагучала так блізка і нечакана, што ён не ўспеў і агледзецца, здагадаўся скінуцца з каня, каб схавацца за ім, адбегчыся ў лес. Але з другога боку, з-за арэхавага куста, глядзела на яго чорнае вочка вінтоўкі.

— Кідай! Ну! — спакойна загадаў той жа голас, што крыкнуў «стой!».

Ігнат паслухмяна кінуў вінтоўку.

З-за куста выйшаў вайсковец, а з другога боку — падлетак гадоў пятнаццаці. Хлопец падняў Ігнатаву зброю, памкнуўся закінуць на плечы, але нечага пачаў разглядаць яе.

— Ты куды? Хто такі? — запытаўся вайсковец.

— Абы-куды.

— Чаго па лесе шастаеш?

— Дамоўку маю спалілі.

Вайсковец зірнуў на напарніка, які ўсё круціў у руках вінтоўку.

— За што цябе спалілі?

— Танка стрэліла. Вашага аднаго задушыла.

Вайсковец узяў на плячо вінтоўку.

— Ладна, разбяруцца з табою без нас. Валодзя...

— Гэта Зелкіндава вінтоўка, таварыш сержант.

— Ты што пляцеш? Адкуль?

— Зелкіндава. У атрадзе адна такая старая.

— Адкуль у цябе зброя?

Ігнат маўчаў. Невядома, што лепш: хлусіць ці гаварыць праўду.

— Што, зарвала? Шагай!

Вайсковец зноў узяў вінтоўку напагатове. Хлопец вёў за грыву паперадзе каня. Ігнат паклыпаў следам за канём. Зноў захацелася есці, і ён пашкадаваў, што не з'еў тады ўсё гусінае мяса. А яшчэ хацелася спаць, і на душы, і ў галаве было цёмна, як у самую глухую ноч піліпаўкі.

Але ён прыклыпаў у атрад, сеў на пень ля зямлянкі, і, калі [illegible] гурту партызан, да якіх падышоў хлопчык-канвойны, пабег да яго, накульгваючы, маленькі чалавек у вялікім галіфэ, якое звісала шырокім «крыллем» ніжэй калень, падумаў, што чалавек бяжыць да яго біцца; прыўстаў, тасакнуў чалавека ў грудзі, і той упаў, смешна сядзеў на зямлі, расставіўшы ногі, нешта крычаў тоненькім голасам. Маленькі, у рэдкім сівым шчаціннні твар яго горка крывіўся, адна шчака падпухла.

Партызаны рагаталі, выціралі слёзы, якія набягалі на вочы ад смеху. А канвойны кінуў на зямлю побач з чалавекам вінтоўку, якую адабраў у Ігната. Чалавек забраў зброю, паволі ўстаў, пайшоў, яшчэ раз азірнуўся на Ігната.

Потым пажылы чалавек у парэпанай шкуранцы зноў і зноў перапытваў адно і тое ж самае: адкуль родам, што рабіў у лесе, нашто напаў на партызана... Ігнат нават не злаваў на чалавека ў шкуранцы за тое, што той чаўпе і чаўпе адно і тое ж самае. Ігнат ста-

раўся толькі не заснуць, глядзеў на шапку следчага, на зорачку, у якой на адным ражку адшчамалася эмаль...

* * *

Яго пакінулі ў атрадзе. Зброі не далі. Прыкамандзіравалі да кухні, у дапамогу таму маленькаму чалавечку ў вялікім галіфэ, Зелкінду. І той перадаў на правах старшага Ігнату самую нявыгадную сваю работу: насіць ваду з калодзежа і запасіць дровы. Сабе Зелкінд пакінуў работу рангам вышэй: падручны ў Каці-кухаркі,— пасекчы мяса, накрышыць цыбулі, папільнаваць кацёл з варывам. Да таго часу падбіты Ігнатам твар Зелкінда загаіўся. Жыць давялося ў невялічкай зямлянцы, якую змайстраваў сам Зелкінд, да вайны нарыхтоўшчык. Жонку яго і двое дзяцей немцы застрэлілі на сваім двары, накрылі целы анучамі і запалілі. Зелкінд пайшоў быў якраз да суседа, чуў, як расстрэльвалі сям'ю, бачыў, як гарэла хата. Ігнат чуў, як Зелкінд плакаў не раз ноччу і дакараў сябе, што ўцёк з мястэчка.

Зелкінд Ігната пабойваўся, стараўся быць далей ад яго і загады перадаваў праз Кацю. Хаця і Кацю ён баяўся яшчэ горш, чым Ігната. Тае ночы ён вяртаўся ў атрад, натрапіў на нічыйнага каня і вырашыў прывесці каня ў атрад.

Каця-кухарка, высокая, худая, як жэрдка, жанчына, здавалася, толькі і ўмее, што крычаць, сварыцца. З пачатку вайны немцы расстралялі мужа, камуніста, а паўгода назад загінуў тут жа, у партызанах, яе сын. Пасля таго як абодва яе сыны пайшлі ў партызаны, паліцаі ехалі па яе. Яна ўцякла раненая. Знайшлі яе пасля на балоце аднавяскоўцы, потым пераправілі ў атрад. Зелкінд увесь дзень пакорліва слухаў Каціну сварку, цяжка ўздыхаў, а калі Каця дабіралася да Ігната, Зелкінд спалохана глядзеў на яе. Ігнат заўважыў раз, як Зелкінд пакруціў пальцамі ля скроні і паказаў Каці на Ігната, тая замахнулася на яго мокраю анучаю. Пайшоўшы па ваду, Ігнат паглядзеўся на сябе ў вядро — зарослы шчаціннем, худы, запалыя вочы. Вечарам папрасіў у Зелкінда кавалак люстэрка, падраўняў бараду. Быццам не чуў, што ў атрадзе яго

завуць Мармолем, а калі хто думае, што звіхнуўся розумам, то хай думае, яму ад гэтага горш не стане.

На наступную зіму Ігнат справіў бравэрку і боты, яго пачалі браць з сабою нарыхтоўшчыкі, калі выязджалі па харч. Тады Ігнат запрагаў дзіўнай масці коніка — пярэстага, чорнае з белым — якога звалі Караваю, кідаў у старыя драбіны з выламанымі лёсткамі жмак сена, каб мякчэй было сядзець. Карабін звычайна клаў пад сена. Бралі Ігната з сабою, калі нарыхтоўшчыкі меліся ехаць у далёкія ад лесу вёскі, а штонебудзь трэба было прывезці ў атрад з бліжніх, куды немцы не асмельваліся паказвацца.

Ігнату здавалася, што Каця неўзлюбіла яго за тое, што прыручыў сабаку, шчанюка, якога Зелкінд аднойчы падабраў на спаленым хутары. Шчанюк застаўся адзін між чорных галавешак і знямогла скуголіў. І ніхто не мог пачуць яго голасу: стаяў вялікі мароз, ад якога змерзлася ў празрыстую льдзіну паветра з белым маленькім бяльмом месяца высока ўгары. І сам шчанюк пачаў умярзаць у гэтую празрыстую льдзіну холаду і цішыні, і голас яго таксама ўмёрз тоненькаю белаю павуцінкаю.

Ён усю дарогу дрыжаў пад цёплаю палою кажушка, пакуль не сагрэўся і не заснуў, быццам дома на анучах пад прыпечкам ля цёплых чыгуноў з паранаю бульбаю.

Жыць застаўся шчанюк спачатку на кухні, у закутку, там жа і карміўся; таўсматы, з тоўстымі лапамі, ён браў ласункі, але, калі спрабавалі падурэць з ім, паваліць угару лапамі, вылузваўся з рук, адбягаў убок. Калі залішне надаядалі, падымаў дыбком на загрыўку шэрсць і ўжо не па-шчанячы паказваў маладыя белыя ў чорным роце зубы,— і ад яго адступіліся, ахрысцілі Ваўчком.

Ваўчок аднойчы зайшоў у зямлянку, уважліва паглядзеў на Ігната маленькімі чорнымі вочкамі, не спалохаўся, калі Ігнат паставіў перад ім кацялок з кашаю — свой абед. Не выняў з кацялка пысу і не перастаў есці, толькі выгнуў спіну пад рукою Ігната.

Больш Ігнат яго не чапаў, накідаў у куток пад нарамі рыззя. Ваўчок не пайшоў з зямлянкі. Вячэру Ігнат таксама аддаў сабаку.

Каця, якая была прывыкла да шчанюка, расказвала яму ўслых пра свае беды, цяпер бубніла:

— Сышліся два ваўкалакі! Бельмамі толькі адзін на аднаго зіркануць — і маўчаць!..

Ваўчок не адставаў ад Ігната ні на крок. І ніхто больш не чапаў яго, не трэба было шчэрыць зубы. Ігнат толькі зрэдку дапускаўся да пяшчоты, гладзіў па спіне, і Ваўчок тады паслухмяна выгінаўся пад рукою. Ён неяк скора падрос і паказваў на дарослага сабаку: пацямнела шэрсць на спіне, сталі моцныя і высокія лапы, вочы з-пад абвіслых вушэй глядзелі насцярожана і пільна. Нікому цяпер не хацелася падурэць з ім.

Кожны раз Ігнат з Ваўчком выязджаў у вёскі. Сабака садзіўся ў перадку ў драбінах і вартаваў воз, не злазіў нікуды і не адыходзіў, пакуль не вярталіся ў атрад. І гэтак жа, як Ігнат, назаўтра цэлы дзень не выходзіў з зямлянкі, спаў пад нарамі.

* * *

Пад вясну Ігнат пачаў прыслухоўвацца да таго, што гаварылі пра фронт. Тое, што дасюль здавалася далёкім, нават і несапраўдным, пачынала адчувацца рэальна. А рэальнасць была ў тым, што не будзе партызанскага атрада і не будзе гэтага звыклага, неблагога для яго жыцця.

Акрамя ўсяго, партызанам не стала ні дня ні ночы. Выязджалі і выязджалі на заданні. Бралі з сабою і шаўцоў, і кавалёў з майстэрні, якія рамантавалі зброю. Зброі хапала трафейнай, тол скідалі на парашутах. Немцы баяліся паказвацца паблізу ад лесу малымі атрадамі.

Нават самым упартым і зацятым паліцаям дайшло, што лепш за ўсё сядзець у мястэчку, дзе моцны нямецкі гарнізон. У мястэчку сабраўся ўвесь здрадніцкі зброд, які ведаў, што літасці не будзе.

Мястэчка, якое спрабавалі ўзяць штурмам мінулую зіму і вымушаны былі адступіць з вялікімі стратамі, было як бяльмо на воку для партызан. І ўсе адчувалі, што рана ці позна давядзецца штурмаваць яго.

Ігнату з-за мястэчка адыходзіў малы клопат. Але неспадзявана аперацыя захапіла і яго. Усе, хто мог трымаць зброю, былі пастаўлены ў строй. Ігната прыкамандзіравалі да першага ўзвода другой роты.

Ноч знарок выбралі месячную, калі менш за ўсё ў мястэчку чакалі нападу. Атакаваць вырашылі перад світаннем. Спецыяльныя групы абрэзалі сувязь з суседнімі гарнізонамі, атрад, які дыслацыраваўся побач, перакрыў гравейку, па якой магла падысці да акружаных дапамога. Атакаваць было вырашана адначасова з двух бакоў, пасля таго, як у мястэчку заўважаць знішчальнікаў кулямётных гнёзд.

Перад штурмам Ігнат прыглядаўся, за кім бы прыстроіцца бегчы следам, каб быць заслоненым ад куль. Ён праклінаў таго, хто ўздумаў ставіць усіх пад ружжо. Ігнату яшчэ думалася, ці вернецца Ваўчок назад да Каці на кухню, калі заб'юць яго. Сабаку ён запёр у зямлянцы, каб не пайшоў следам.

Але, калі падняліся ўсе бегчы, Ігнат забыў хавацца. Бег, прыгнуўшыся, лёгка і адчуваў, што праскочыць між куль, і яны не закрануць яго.

Калі дабег да хат, трымаўся ў цяні ад будынкаў, не спяшаў бегчы наперад і страляць. Заўважыў на гарышчы кулямёт, які біў кароткімі злоснымі чэргамі, не страляў па ім, падкраўся з-за вугла і кінуў гранату, перабег і прысеў за дубоваю шулкаю плота, і, калі першы вораг выскачыў з хаты, стрэліў, але не трапіў. Чалавек з разгону пераскочыў плот і знік за ім. А па шулцы ўдарыла з гарышча чарга, Ігнат перабег назад за вугал. Другога ў шынялі ён заўважыў у варотцах і зноў паспяшыў, не пацэліў. Мацюкнуўся, згарача кінуўся следам цераз вуліцу, калі адтуль коратка пырснуў чырвоны агеньчык, з разгону паваліўся, адчуў, як апякло левы плячук. Лежачы, з аднае рукі спакойна стрэліў у чорную постаць, якая кінулася ад сцяны да дзвярэй у хату. І чалавек быццам пацягнуўся, падняў угору рукі, няўпэўнена, сутаргава пайшоў да парога, усё перагінаючыся назад. Ігнат даслаў тым часам другі патрон у ствол і зноў стрэліў, чуў, як куля ўдарыла па чалавечаму целу. Немец адкінуўся плячыма на зямлю.

Ігнат падняўся і зайшоў на двор. Тупа, горача ныла плячо, і стала мокра на грудзях.

На забітага не глядзеў, толькі кінуў вокам, быццам гэта не першы забіты чалавек, быццам усё жыццё рабіў такое, і, упёршы ствол карабіна ў бот, загнаў у патроннік патрон, адчуў, як горача слабее ўсё цела, быццам выходзіць з яго жыццё, застагнаў скрозь сціснутыя зубы, выстраліў у саламяную страху. Калі ўбачыў, як слабенька затрымцеў на саломе кволы агеньчык, бы лягчэй стала на душы, што пайшло прахам чалавечае жытло — і нічога не застанецца, так, як не засталося і ў яго. Ігнат ведаў, што за гэта, калі даведаюцца, расстраляюць яго. Але не мог стрымацца, зноў перазарадзіў карабін, рука не магла ўтрымаць зброю, цяжка гойдалася руля, і ён не мог зноў прыцэліцца ў тое месца на страсе, дзе лёгенька курыўся дымок.

— Стой! Сволач, стой!

Ігнат пазнаў голас ротнага, скасавурыў вока і ўхмыльнуўся, што не паспее ён дабегчы, толькі на хвіліну прыпыніўся палец на спуску. Страшная сіла тузанула з рук карабін, тоненька віскянула рыкашэтная куля. Галава, якая чамусьці горача гудзела, не магла зразумець — ад чаго гэта. Пасля страшнага ўдару ў сківеру пацямнела ўваччу месячная ноч, закруцілася віхура снежных іскрынак... Ігнат застагнаў, сілячыся ўстаць, але другі ўдар нагою ў грудзі адкінуў яго на зямлю, і ў галаве нешта лопнула, расцёкся ў ёй кіпень, апёк. Трацячы прытомнасць, Ігнат яшчэ ўбачыў абпалены твар ротнага, наган у руцэ. Апошняе адчуванне было, што ротны выпусціць у яго ўсе патроны, якія былі ў барабане...

* * *

Ротны не застрэліў Ігната. Яго падабралі разам з раненымі і паклалі ў шпіталь — вялікую, чыстую зямлянку. Усіх раненых было толькі сем чалавек, цяжкапаранены адзін, малады яшчэ хлопец, ад якога не адыходзіла сястра, прыкладвала мокрую анучку да вуснаў. Хлопец не стагнаў, толькі ціхенька, бездапаможна прасіў піць. Піць яму не давалі, рана была ў жывот, і ён паміраў. Ігнат стараўся не глядзець на яго. У самога рана ў плячы няцяжкая, толькі што пачала гнаіцца. Куля не зачапіла за костку, прайшла

навылёт. І гэта было на руку, даўжэй застацца ў шпіталі, ведаў, што чым скарэй паправіцца, тым скарэй возьмуцца за яго.

Але ніхто дапытваць Ігната не прыходзіў. Ваўчок перабраўся ў шпітальную зямлянку, пад Ігнатавы нары, зусім мала выходзіў на двор, нібы пільнаваў гаспадара. Ігнат апускаў руку, гладзіў сабаку і часам шкадаваў, што больш яму не выехаць з атрада, нават калі і даруюць яму. Без выездаў жыццё тут траціла ўсякі сэнс і цікавасць. Калоць толькі дровы і насіць ваду?

Ён пачаў ужо спадзявацца, што ніхто і не будзе чапаць яго.

Пралежаў Ігнат у шпіталі амаль месяц.

Лежачы ў шпіталі, Ігнат не мог бачыць, што многае незаўважна перамянілася ў прыродзе. Вышэйшае, маладое стала неба, вільготна, чыста запахла паветра. Снег пацямнеў, надвячоркам, у марозік, быў шорсткі, зярністы, як соль. У лесе ўладарыў тонкі жывы водар бярозавага і асінавага голля.

І з гэтымі непрыкметнымі, нязначнымі пераменамі ў прыродзе, у душы чалавека ачынаецца вострая, шчымлівая прага да жыцця, простага, прымітыўнага, як жыццё дрэў і травы, уся асалода яго ў тым, каб толькі адчуваць, бачыць, быць.

Ігнат зазірнуў у сваю зямлянку, аж зморшчыўся — Зелкінд, мабыць, ні разу не праветрываў яе. Ігнат адчыніў дзверы, сеў ля зямлянкі на кучу ламачча. Прыслухоўваўся да лесу, які ажываў і шумеў нават, ледзь чутна і весела, і разумеў, што ён тут не патрэбен, лішні.

Зелкінд прывітаўся з Ігнатам за руку, затаптаўся на месцы. Ігнат быццам здалёку, з невядомасці глядзеў на доўгія, вялікія Зелкіндавы штаны, адчуваў цёплы, смачны пах кухні, які ішоў ад яго адзення, падумаў, што зноў будзе спаць у адной зямлянцы з Зелкіндам.

Ківаў галавою Зелкінду, згаджаўся, хоць і не слухаў, што той гаворыць. А Зелкінд глядзеў на Ігната жаласліва, не вытрываў, нагнуўся і зашаптаў, сам аж уздрыгваў ад кожнага свайго слова,— начальнік асобага аддзела распытваўся, дзе, калі быў Ігнат,

Зелкінд спалохана азірнуўся на Ваўчка, быццам той мог пачуць і расказаць каму, сціх, спалоханы сваёй смеласці, шкадаваў, што не вытрымаў, прагаварыўся.

Ваўчок спакойнымі прыплюшчанымі вачыма глядзеў на мужчын. Ігнат падумаў, што рабіць тут больш няма чаго, устаў і пайшоў па зледзянелай цёмнай сцяжынцы, быццам гэтае разуменне давала ратунак, але пра ратунак не думалася, быццам усё гэта датычыла не яго самога, а іншага чалавека.

...Прачнуўся Ігнат адразу, быццам яго паклікалі, нават убачыў маленькую постаць у чорным кароценькім кажушку і галіфэ з кавалерыйскімі кантамі. Ігнат бачыў яго разы са два, але чуў пра начальніка асобага аддзела часта, быццам той нябачна ўспяваў усюды. Думкі ў галаве пайшлі ясна, выразна, як рэдкія воблакі на летнім небе. Ён цяпер ведаў, што начальнік выведаў усё, нават знайшоў гільзы на тым месцы, адкуль ён, будучы адзін на выездах, страляў па людскіх хатах запальнымі. І ад успаміну пра тое на імгненне ў душы ўспыхнула вострае адчуванне радасці, быццам наяву перажыў тую ўцеху, калі паволі даставаў з кішэні патроны з запальнымі кулямі і страляў, акуратна цэлячыся ў насохлую салому падстрэшка, у гумны ці хлявы, закладзеныя на зіму сенам і саломаю. А потым, калі ўдавалася падпаліць, стаяў, цешыўся на агонь, быццам тое полымя людское бяды грэла яго. А аднаго разу яму пашанцавала так, што вецер перакінуў агонь на суседнія хаты...

А начальнік асабовага аддзела, бадай, знайшоў і яго патроны з запальнымі кулямі, схаваныя ў дупле старое алешыны. Падумалася быццам не сваім, а чужым староннім розумам — чаго ён яшчэ тут? Кулю ў лоб чакае? Або каб пасля на фронт па смерць пагналі?

Адзеўся асцярожна, каб не пачуў Зелкінд, дастаў у яго з кабуры наган. Зелкінд выменяў наган у навічка на сваю ржавую вінтоўку.

З лёгкаю душою ціхенька выйшаў з зямлянкі, з палёгкаю ўдыхнуў на поўныя грудзі стылае начное паветра, адчуў, як пацёрся аб нагу Ваўчок, адзіная жывая душа на свеце, якая шкадуе яго і любіць, хоць ця-

пер ён зноў нішто, не можа нікога ні пакараць, ні памілаваць — узяць пусціць або не пусціць з дымам і попелам па свеце. Але затое жыць застанецца, усіх перажыве!

Выхады ён [redacted] атрада ведаў, не патрэбен і пароль.Ваўчок, быццам разумеў усё, ішоў пры назе. Ігнат абмінуў пасты і выйшаў на сцежку не таячыся, пакрочыў шпарчэй, каб далей адысціся, выйсці з лесу і згубіцца між людзей, як знікнуць у вечаровым мораку.

Ён аж спатыкнуўся, калі загадалі спыніцца. Невядома было, хто тут можа спыніць. Ён ведаў, што будзе, калі зловяць за пастамі свае. І калі паліцыя, то не памілуе. Ад страху аж засвярбела скура на ўсім целе. Ігнат зразумеў, што гэта смерць, што гэта яна дакранулася да рукі, а не халодная галінка. У яго аслабелі ногі. Нібыта ўсё зразумеў, ціха віскнуў пры назе сабака, і ён, яшчэ нічога і не падумаўшы, загадаў: «Кусі!»

Ваўчок гыркануў і кінуўся туды, адкуль паклікалі Ігната. Коратка пырскнула аўтаматная чарга — завішчаў сабака...

Згубіўшы шапку, аглушаны і асleплены тымі кароткімі агеньчыкамі, Ігнат ляцеў па лесе, пакуль не ўпаў знясілены, амаль непрытомны.

Прыбіўся ён жыць далёка ад лесу, у спаленай палявой вёсачцы. У абшарпанай бравэрцы, з густымі сівымі валасамі і пустымі вачыма, ён коратка адказваў на пытанні, ноччу ўсё пасвістваў, клікаў сабаку, уставаў, выглядаў з пограба. Людзі жылі ў паграбах, але месца яму знайшлося, і кармілі... Вясною ён хадзіў ад хаты да хаты, дапамагаў ускопваць зямлю. З усяе вёскі не засталося ніводнага мужчыны, толькі некалькі падлеткаў і два нямоглыя дзяды.

Калі прыйшло вызваленне, ён, ні з кім не развітаўшыся і нікому нічога не сказаўшы, пайшоў.

* * *

З аселіцы Ігнат выйшаў на свой пляц. На сядзібе нехта гаспадарыў, засадзіў соткі бульбаю. І абгарэлае бярвенне было акуратна складзена пры варывеньцы, якая ацалела ад пажару. Ігнат здзівіўся і зарадаваўся, ён не памятаў, не бачыў, што варывенька ацалела, і ад

гэтае варывенькі стала лягчэй на душы, утульней — усё-такі сваё засталося. Ігнат пастаяў, уздыхнуў з палёгкаю, сеў на камень, які некалі трымаў на сабе вугал ягонай хаты і вакол якога цяпер густымі тоўстымі цырбунамі вырасла лебяда. І гэтая лебяда была мілей за чужое жытло ў паграбах, дзе яму з літасці давалі кавалачак хлеба і вараную лебяду. Цяпер тут ён зможа сам сабе здабыць ежы, каб хапала, і жыць на злосць усім спакойна, сыта, хай пазайздросцяць яму... Пакуль пераіжыць гэту разруху, пакуль зноў нарабіць усяго патрэбнага чалавеку для жыцця, трэба не адзін год, трэба многа страціць сілы. А Ігнат тым часам будзе жыць, уставаць і бачыць сонца, чуць пах хлеба і травы і берагчы сілу, каб жыць, існаваць бясконца, а калі не бясконца, то даўжэй за сваіх аднагодкаў.

Цераз вуліцу ў кухонным акне Стахванавае хаты свяціўся слабы чырвоны агеньчык. Ігната аж кальнула пад сэрца: а ў суседа ўсё як было, жыве як і жыў, і будзе спачуваць Ігнату, уздыхаць і глядзець на чалавека, які даўно аджыў і невядома чаго з'явіўся з таго свету.

Ігнат аж подбегам шыбаваў цераз вуліцу, каб скарэй убачыць... Ён і сам не ведаў, што ўбачыць. Стахвана? Не, не!..

Веснічкі на двор былі адчынены, абвіслі на завесах да зямлі і не зачыняліся. І ў Ігната крыху палягчала на душы, ён спыніўся, аддыхаўся. Каб быў Стахван дома, варотцы зачыніў бы, паправіў бы. Ужо спакойна пайшоў Ігнат да дзвярэй, пагрукаў, чуў, як адчыніліся хатнія дзверы, аж сцяўся ўвесь:

— Хто там? — запытала Тэкля. Ігнат уздыхнуў на ўсе грудзі.

— Я, Ігнат.

Тэкля шаснула засаўкаю, Ігнат сам адчыніў дзверы, пайшоў следам за ёю на кухню.

На прыпечку стаяла газоўка — бутэлечка з кудзельным кнотам. Ля прыпечка чыгуны з бульбаю і бурачнікам, налітыя з берагамі, каб не прыгаралі. На Тэклі, як і некалі, заляпаная цестам спадніца, скарэлая і нямытая, што, здавалася, яе можна паставіць і яна будзе стаяць.

— Няўжо ж гэта ты?! Усе думалі, што і следу твайго даўно не стала. Хто б падумаў!

Толькі ў кухні здагадалася здзівіцца Тэкля, разводзіла ў бакі рукамі, але глядзела на Ігната спакойна і насцярожана.

— Садзіся ж да стала, чаго стаіш у парозе. Гэта ж трэба думаць!..

Яна не дагаварыла, запынілася ў одуме, патапталася на месцы, дастала з печы чыгунок, наліла варыва ў вялікую міску.

— Гэта ж трэба думаць! Ніхто веры не даваў, што ты жыў будзеш.

Ігнат не садзіўся, стаяў у парозе, запытаўся нечакана моцна, нібы крыкнуў:

— А Стахван дзе?

Ён ужо здагадаўся, што Стахвана няма. І па абвіслых веснічках, і па худой, змучанай ад работы, Тэклі, і па тым, што не было ў хаце густога тытунёвага паху.

— Чорцяга ведае. Пайшоў як да часу, перачакаць... Людзі бытта пад Клецкам бачылі ў паліцыі, дабро ў людзей адбіраў. Калі праўда, то партызаны застрэлілі ці чырвоныя, як прыйшлі. Вярнуўся б дадому.

Ігнат зразумеў адно: Стахвана даўно няма жывога, Тэкля звыклася з гэтым, а што і як — не хоча гаварыць. Ён не дапытваўся, ён думаў, што ўсё-такі шчаслівейшы за Стахвана, бо галава засталася на карку.

Тэкля тым часам паставіла на стол міску, дастала з паліцы дзве шклянкі з сіняга тоўстага шкла, бутэльку. Выпіла нараўне з Ігнатам, не закусвала, запрасіла:

— Еш. Ты здарожыўся, галодны.

Сама толькі ўкінула ў рот кавалачак хлеба.

Самагонка была прыгарэлая, Ігнат не дапіў да канца.

Тэкля толькі скрывілася, але нічога не сказала, успомніла, што ў яе ёсць работа, паклала бокам табурэтку і села абіраць бульбу.

Ігнат разумеў, што ёй хочацца гаварыць, распытваць, ухмыляўся і еў наварыстыя затоўчаныя здорам буракі, потым адрэзаў дабраватую скварку ад кавалка сала, што ляжаў побач з хлебам. Гаворкаю ён сыты не будзе. Ды і настрой палепшаў, думаў пра Тэклю — з хлапчуком не доўга пацягне такую гаспадарку, пойдзе па свеце Стахванава дабро.

— Насаўсім прыйшоў? — не вытрымала, запыталася Тэкля, не глянула на Ігната, толькі рукі прыпыні-

ліся, і белая стужачка лупіны перастала спаўзаць з нажа.

— Насаўсім.

Ігнат адсунуў міску, смачна ікнуў і прытуліўся плячыма да сцяны.

— Ведама ж, дзе чалавеку лепш будзе. Але...

Зноў з-пад нажа паплыла стружачка лупіны.

— А як, дзе жыць будзеш?

— Пражыву. У крапіву не запаўзу і ад голаду не здохну.

— Але ж, здаровы чалавек пражыве. Не ўсе хаты пагарэлі, можна дзе і жыць...

Тэкля толькі скоса, імгненна зірнула на Ігната, і той зразумеў яе нявыказаную думку, ухмыльнуўся, згроб са стала і ўсыпаў у рот крошкі, аблізаў губы. Не хапала яму толькі клопату гадаваць чужое дзіцё і пыніць чужую гаспадарку, не бачыць свету белага, каб некалі старога выкінулі за лапу на двор, як жабу.

— З варывенькі зраблю хатку. Колькі чалавеку трэба.

— Я ж пляц твой засеяла!

У Тэклі выпала з рукі ў кош напалову абабраная бульбіна.

— Што тваё, тое выбераш. Мне дасі насення на развод... Ну сяго-таго з гаспадарскага начыння пазычыш.

Тэкля з палёгкаю ўздыхнула, узяла бульбіну, павярнулася да Ігната плячыма і нязлосна буркнула:

— Ну пажыві, пажыві ў варывеньцы.

— Людзі і ў паграбах жывуць.

— Я ж кажу — пажыві.

У Тэклі адлягло ад сэрца, што Ігнат нічога не спаганяе, але не надта хацелася, каб ён хадзіў пазычаць.

А Ігнату хацелася гаварыць альбы-што, але гаварыць многа і весела, з упэўненасцю ў сваёй праваце. Аднекуль з'явілася яна, гэтая ўпэўненасць, калі пачуў, што няма Стахвана, быццам ён, Ігнат, абмануў суседа, перахітрыў і яшчэ многіх перахітруе.

Выходзячы, Ігнат узяў з прыпечка кавалак тачыла, аб які некалі тачыў сякеру, калі збіраўся ехаць секчы дубы.

Тэкля нічога не сказала, быццам не заўважыла, толькі перасмыкнула плячыма.

Пераначаваў Ігнат пад яблынькаю ў садзе, на кучы

сухога зелля. Раніцаю распаліў невялічкі агеньчык, напёк у прысаку маладое і дробнае яшчэ бульбы, нашчыкаў на градзе цыбульнага пер'я.

Пад страхою ў варывеньцы знайшоў сякеру. Яшчэ да вайны была падаткнёна пад страхою, каб на патрэбу не ісці ў падпаветку. Сякера ядавітая, вострая, толькі што расколаны абушок.

Раскаціў абгарэлае бярвенне, выбраў цалейшае, абчысціў ад вуголля. На другі дзень акуратна раскрыў варывеньку. Салома была цэлая, моцная, тоўстага, як чарот, жыта. Пасля абеду схадзіў у поле, на лужок, нарваў і паслаў, каб высах, мох.

А потым клаў вянец за вянцом, падымаў зруб варывенькі вышэй, выразаў дзверы і два акенцы.

На чацвёрты дзень ставіў кроквы, тыя самыя, што былі на варывеньцы. І на чацвёрты дзень зайшоў да яго калгасны старшыня, адзін на ўсю вёску «здаровы» мужчына Ясюткаў Паўлік, кульгавы пасля фронту.

Ігнат чакаў Паўліка яшчэ ўчора, калі той павінен быў вярнуцца са Слуцка, куды яго выклікалі. Да Паўліка ў Ігната пабылі ўсе аднавяскоўцы, жанкі быццам незнарок прыпыняліся на вуліцы, віталіся. Больш настырныя спрабавалі пачаць гаворку, распытваліся ў Ігната, дзе быў, што рабіў. Ігнат не пераставаў длубаць сякераю, адказваў коратка і нехаця: от партызаніў, ранены быў цяжка, а цяпер жыць вярнуўся, быццам не чуў пытання, нашто збіраецца жыць у варывеньцы, пажыў бы ў каго, пакуль пабудуецца.

Самыя змысныя жанчыны здагадваліся, што ў галаве ў Ігната не ўсё так як трэба.

— Здароў, дзядзька Ігнат! Пакуль я да начальства з'ездзіў і назад дабраўся, ты хату сабе зрабіў, ядры яго качалку. Аднаму хоць разарвіся. Ты ў партызанах быў? Руку там табе скалечыла? А мяне мінаю.

Шустры Паўлічак, якога Ігнат памятаў яшчэ хлапчуком, не мог спакойна стаяць на адным месцы, таптаўся, прысядаючы на адну нагу.

— Напрасна ты гэту будку робіш. Пажыў бы пакуль што ў каго, а потым і добрую хату справіў. Мы з табою цяпер будзем і начальствам, і рабочаю сілаю. Я старшыня, ты брыгадзірам будзеш. Мяне пра Тодара распытвалі. Стахван быў у паліцыі, яго злавілі, а ён і прызнаўся, што Тодар кантору падпаліў, і спіскі калгас

дзяліць ён напісаў... Да вайны ён многа грошай накраў, а таму і спаліў кантору. От як яно, ядры яго...

Ігнат сядзеў, звесіўшы ногі, на сцяне, зверху глядзеў на Паўліка.

Той сапхнуў на патыліцу пілотку з цёмным пятнячком на тым месцы, дзе была зорка, весела глядзеў знізу ўгору, нібыта абяцаў нешта лёгкае і вясёлае.

— Не выхадзіўся я яшчэ,— нехаця сказаў Ігнат.— Здароўя ў мяне не засталося.

— У каго яно цяпер, тое здароўе? Але жыць трэба, рабіць.

— Я сваё адрабіў. На мой век многа не трэба. Стаtoday пайду, а не — коней буду пасвіць.

— Як гэта?.. Ты што кажаш?

Павел замітусіўся, заштыльгаў туды-сюды.

— Разруха... Мы ж вайну канчаем, ядры яго, а ты...

— Канчайце. Жывеце. А я пагляджу.

Паўлік закруціўся на месцы, быццам яго зверху стукнулі па галаве. Бледны твар яго загарэўся яркаю чырванню:

— Цьфу! Я думаў, ты партызан, а ты... Чыгуніла ты! Ядры яго кабылу!

Паўлік хацеў яшчэ нешта сказаць, такое, каб Ігнат век памятаў.

Ігнат не чакаў, пакуль ён скажа, зацюкаў сякерaю, і не чуў, калі Паўлік пайшоў...

* * *

Адыходзіла разам з цяплом восеньская прыгажосць лесу і поля. Халаднавата цягнула ўначы паўночным ветрам. На лужках у полі вялікімі чародамі начавалі шэрыя пералётныя качкі. Яны спяшаліся. За імі ішлі халодныя дажджы, якія вымачаць парыжэлыя бакі аселіц і лугоў, абарвуць апошняе лісце і кінуць яго ў халодную рэдзенькую гразь.

Ігнат не выходзіў сядзець на каменьчыку. Выпаўзаў з хаты, каб толькі пакарміць парсюка. Адзяваў ватнія штаны, калашыны якіх выпускаў паверх ботаў, на галаву — старую, пашытую з аўчыны, шапку.

За некалькі асенніх тыдняў ён асунуўся, ніжэй прыгнуўся да зямлі, і вочы ўсё нешта неспакойна шукалі. Не стала сілы, і цяжкія невясёлыя думкі прыйшлі

ад таго, што не хацелася яму есці, не пайшла на душу ні капуста, ні сала, ні буракі, быццам нешта перасохла ўсярэдзіне. Толькі ўзвар піўся. Ігнат мусіў быў ісці да Паўла, прасіць, каб даваў пакрысе малака. Ігнат хацеў заплаціць грошы, але Павел адмовіўся, толькі зморшчыўся —не трэба мне ні твае грошы, ні той твой пляц. Ігнат толькі тады зразумеў, што і дапамагаў яму Павел не ад зайздрасці, а ад жалю, і яму надакучыла дапамагаць.

Сабака не кожны раз выходзіў за гаспадаром на двор, на холад і гразь; Ігнат, вяртаючыся ў хату, цадзіў скрозь зубы: «Падла!» Ён не мог спакойна глядзець на Босага. У грудзях уставала незразумелая глухая злосць, і Ігнату думалася, што сабака перахітрыў яго, пераживе. І ад таго, што пераживе, Ігнат не мог супакоіцца...

Яму не спалася, балела ад ляжні цела. І разам са слабасцю ў целе прыйшла саслабеласць душы, быццам счахла і яна без сала і капусты, на якой жыла дасюль.

Думкі вярталіся да пражытага, а яно аказалася кароткае, памятнае страшнымі выпадкамі: смерць бацькі, пажар, вось і ўсё памятнае, адметнае, а потым доўга-доўга два маленькія акенцы і гнілаваты сыры пах варывенькі, гэтакі ж, як і пах выкапанае на могілках ямы.

Аказалася, што не ён абмануў людзей, а яны яго. Выбудаваліся, жывуць і будуць жыць, бясконца. І не паглядзець на іх звысоку, не пацешыцца іх мукаю, наадварот, быццам ён сам недзе глыбока ўнізе, а над ім ідуць, ідуць...

Ён засынаў, прачынаўся і не ведаў — ці гэта думалася, ці снілася.

Сабака спачувальна глядзеў на Ігната, калі той стагнаў і варочаўся з боку на бок, жаласлівымі вачыма.

Ігнат пачуў, як бразнула клямка ў дзвярах, не ўстаючы запытаўся:

— Хто там?

— Я, дзядзька, малако прынёс.

Ігнат пазнаў Паўлава сына, які прыносіў яму малако.

— Мама казала, каб вы аддалі той збанок, што я ўчора вам малако прыносіў.

Хлапчук паставіў на стол збанок, накрыты лісцікам чыстае паперы.

— Гэта ж я забыўся.

Ігнат устаў, дастаў з шахаўкі збанок, баўтануў у яго з вядра вады — спаласнуў — укінуў акрайчык хлеба. Глядзеў на падлетка, танклявага, цыбатага, у пінжаку з прыкараткімі рукавамі — і постаць, і тварам ён быў якраз, як Стахван, толькі меншы, быццам гэта сам Стахван прыйшоў да яго ў абліччы свайго ўнука, абмануўшы Ігната зноў.

— Як баба твая, Тэкля як?

— Здаровая. Яшчэ і ў печы паліць. Камандуе,— засмяяўся хлапчук.

Ад яго смеху Босы дзяўкнуў спрасонку, Ігнат аж сцепануўся ад нечаканасці, і раптам думка праклюнулася ў галаве.

— Хочаш, я дам табе стрэльбу. Ляжыць у мяне недзе.

У хлапчука ад нечаканасці заняло дыханне.

— Аддам. Толькі сабаку мне застрэль, а то я сам не магу. А ён яшчэ ашалее ад старасці...

Коля забыўся пра збанок і гатоў быў бегчы дадому.

— Ты заўтра, пасля школы прыйдзі. Я пашукаю, дзе яна.

Калі хлапчук пайшоў, Ігнат запаліў лямпу, стаў на калені і пачаў перабіраць пад палком анучы, рыззё — старыя гумы, валёнкі, лямцы аўчыны, якая спарахнела і рассыпалася ў руках. Пад нізам абмацаў прыклад стрэльбы. Яна не заржавела зусім, некалі добра змазаная тавотам. Ігнат адчыніў замок, асцярожна, трымаючы за ствол, пастукаў прыкладам па зямлі. Стрэльба з тонкім віскам пераламалася. Ігнат на калена зачыніў стрэльбу, адняў цаўё, потым ствол, узяў з прыпечка кавалак цагліны, аб які вастрыў нож, пачаў адціраць іржу. Анучкаю выцер карычневы пыл, узяў з міскі кавалак варанага сала, змазаў стрэльбу, сабраў, злажыўся — рукі дрыжалі і не відна была мушка.

Ігнат стомлена выцер пот.

Сабака драмаў пад сталом, роўна падымаліся і апускаліся худыя бакі.

Ігнат не мыў рук, выцер аб штаны, даеў сала з міскі, выпіў за раз паўзбанка малака. Апетыт з'явіўся, быццам гэта і на самай справе сабака не даваў яму

жыць, а цяпер адпусціць душу, калі яго не стане на зямлі. Ігнат кінуў яму пад стол кавалак сала, якім мазаў стрэльбу.

За ноч Ігнат ні разу не прачнуўся, спаў, як і некалі.

Ігнат ішоў наперадзе. Побач на повадзе са старога канаплянага пастронка ішоў Босы, час ад часу патрэсваў галавою: з самага маленства ён не насіў аброжкаў.

Следам за Ігнатам, трапляючы ў яго сляды, ішоў Коля ў тым жа кароценькім пінжачку з чарнільнымі плямамі на рукаве, з пачырванелымі ад холаду пальцамі трымаў стрэльбу.

Спыніўся Ігнат ля старое засохлае вішні на ўзмежку, прывязаў сабаку, аддыхаўся, адвярнуўся ад ветру, які сек дробненькім, як пыл, халодным дажджом. І гэтым халодным вільготным пылам працінала наскрозь, ад яго халадзела ўсё ўсярэдзіне.

Коля, ссутуліўшыся, цёр адна аб адну рукі і дыхаў на іх, каб крыху адагрэліся. Глядзеў на Ігната, на холадзе твар у якога пасінеў да чарнаты, а на сівай барадзе, як на звярынай пысе, бялелі дажджавыя кроплі.

Ігнат адышоў ад сабакі і махнуў рукою.

Стрэл прагучаў глуха, заслалася наперадзе дымам, і ў гэтым дыме завішчаў сабака.

Коля разгублена пазіраў на Ігната, быццам не разумеў, што здарылася, і чаму сабака круціцца на адным месцы, хапаючыся зубамі за бок, з якога тоненькім высокім струменьчыкам біла кроў.

— Бі! Бі! — азвярэла закрычаў Ігнат, адчуваючы, што сабака можа ўцячы, бо лопнула гнілая вяроўка, выхапіў у Колі стрэльбу і, трымаючы за ствол, ударыў, але не патрапіў па галаве, а па спіне, сабака рвануўся прэч, і другі раз прыклад плюхнуў у перамешаную з крывёю гразь, пырскі свіснулі на твар Ігнату, але ён не адчуў, анямела глядзеў, як уцякаў сабака, цягнучы за сабою кавалак мокрае вяроўкі.

Ігнат не бачыў, як у жаху адступіўся ад яго Коля, толькі цяпер па-чалавечаму зразумеўшы, што яго прымусілі зрабіць, як ён кінуўся прэч, прыгнуўшыся, быццам яму хацелі стрэліць у плечы...

Ігнат доўга ішоў дахаты, прыпыняўся, аддыхваўся, а ў хаце адразу ж упаў на палок, быццам у ім раптам

не стала касцей і нельга было трымацца больш на нагах. Адчуваў вільготны холад, які працяў усё цела і не адпускаў тут, у хаце. Глядзеў на чорную, як у кузні, столь. І потым яму снілася гэтая густая чарната...

Ён не чуў, як з апоўначы ля дзвярэй тонка скуголіў Босы, залізваў раны ад качынага шроту, і зноў скуголіў, пакуль не прыйшоў ад магазіна аднавокі вартаўнік Антось, не зайшоў у хатку, доўга чыркаў запалкай, угледзеў мерцвяка, кінуў запалку, вобмацкам выйшаў на двор, узяў сабаку за вяроўку і павёў за сабою.

Пакінуў Босага ў сваёй старажоўскай будачцы з печкаю, зробленаю з парожняе бензінавае бочкі-двухсотлітроўкі, і пайшоў да паштальёнкі, каб сказала заўтра ў сельсавеце, што памёр Чыгун і каб далі загад пахаваць яго.

Загад назаўтра далі, брыгадзір напісаў мужчынам нарад выкапаць на могілках яму, зрабіць труну, папрасіў старых, каб абмылі і прыбралі цела.

Работу рабілі скора, і ні ў кога не было нават таго шкадавання, якім шкадуюць мёртвую звярыную душу, толькі жаданне скарэй скончыць непрыемную работу, нібыта пераносілі мёртвае цела з аднаго месца на другое.

Напрадвесні загадалі Паўлу раскідаць на дровы хатку і хляўчук, а потым бульдозерам, які ішоў падсыпаць дарогу, зраўнялі ўсё так, што не засталося і следу, толькі чатыры цяжкія камяні на зямлі, ссунутыя ў адно месца.

*1973*

# НЕ ЗАБЫВАЙ МЯНЕ

## I

Дзяўчына стаяла, падняўшы руку, на абочыне дарогі. Невысокага росту, у белай кофтачцы з кароткімі рукавамі, у чорнай спаднічцы.

Загацкі зняў нагу з акселератара, паклаў руку на зробленую з арганічнага шкла галоўку рычага пераключэння хуткасці, паказаў правы паварот, перайшоў з другога рада ў першы. Ён усміхнуўся, што на дарогу будзе маладая спадарожніца, адхіліўся, замкнуў з сярэдзіны заднія дзверцы, прытармазіў якраз ля дзяўчыны.

— Калі ласка!

Нават не спытаўся, куды дзяўчыне ехаць.

— Да Слуцка? — запыталася дзяўчына.

Загацкі моўчкі кіўнуў галавою.

Краем вока Загацкі згледзеў, што да машыны падалася і цётка, якую ён спачатку не заўважыў. Яна падхапіла карзіну, накрытую выліннялаю клятчастаю хусткаю. Загацкі ведаў, як будзе сядзець цётка ў яго за плячыма, цікавасць і на яго, і на дзяўчыну, а потым пачне трэсці і лічыць медзякі, каб разлічыцца з ім.

Загацкі рэзка адпусціў счапленне, і машына ўзяла з месца рыўком. Ледзь не заглух матор.

Спадарожніца ад нечаканасці адкінулася да спінкі сядзення, азірнулася, угледзела цётку, якая засталася стаяць на ўзбочыне дарогі, ківала галавою і нешта гаварыла. Дзяўчына зірнула на Загацкага і ўсміхнулася.

Загацкі не падаў выгляду, што бачыў цётку і што разумее ўсмешку дзяўчыны. Ён засяроджана абагнаў некалькі машын. Злосна думаў пра цётку. Сапсаваўся настрой, добры і лагодны, з якім выязджаў з дому. Пуцёўку яму на поўдзень не дасталі, але перад саслужыўцамі Загацкі не падаў выгляду, што гэта зрабілася не па яго волі, успомніў пра свайго аднакурсніка, які жыў і рабіў у раённым горадзе, пра ягонае запрашэнне пагасціць. А той якраз выязджаў у адпачынак, у госці да сваіх бацькоў. І вось едзе, як сказаў жонцы, адпачыць у вясковай цішыні і адзіноце. Хаця сам не ведаў, навошта яму гэтая адзінота. Але не саступаў са свайго —

што стаміўся, што яму трэба спакой і цішыня. У адпачынак Загацкія ездзілі па аднаму. Загацкі нават любіў і пахваліцца гэтаю сямейнаю дэмакратыяй. Ён браў сабе ў заслугу, што ў сям'і жыццё ідзе ладам, нават на зайздрасць знаёмым. Некалі ён гэтаксама, як і многія ў маладосці, хацеў нечага незвычайнага і ў рабоце, і ў сямейным шчасці, якога — цяпер верыў — рэдка каму ўдаецца спазнаць. Але ён бачыў, што ягоная абранніца пакрысе ператварылася ў даволі растлусцелую квактуху, якая цвёрда ведала, што Загацкі павінен кахаць яе, наогул, ведала ўсё, што ён павінен, і з халаднаватаю ўпартасцю сцвярджала гэтыя ісціны. Спачатку з гэтакім жыццём Загацкі не мог мірыцца, выпіваў, бунтаваў, уталкоўваў жонцы, што жыццё адно ў іх, што ім трэба навучыцца жыць хораша, шчасліва. Жонка цярпліва слухала і не пярэчыла, бо ведала, што «пад мухаю» Загацкі бывае задзіракавы. Назаўтра ён праспіцца, працвярэзіцца, і ёй можна будзе зноў рабіць усё, што яна задумала.

Нарэшце Загацкі і сам зразумеў, што голас яго ў пустыні галосіць. Нават разгубіўся ад гэтага адкрыцця. Убачыў, што і ў канструктарскім бюро далёка да сваё сапраўднае канструктарскае работы, што і праўда можна праседзець усё жыццё на ста дваццаці рублях затурканым ітээраўцам.

Пасля гэтага свайго адкрыцця Загацкі быў ціха і моцна занудзіў, думаў пра развод, завербавацца і паехаць куды. Кончылася ягоная нуда тым, што нажыў бяссонніцу, неўрастэнію. Жонка ўстурбавалася толькі тады, калі муж не змог, як гаворыцца, выконваць свае мужчынскія абавязкі, паперла яго да доктара. Невядома, што дапамагло: ці тыя доктаравы парашкі, ці ягоныя парады, гімнастыка і халодны душ кожнае раніцы, ці дастатная медсястрычка з паліклінікі, да якое Загацкі потым завітваў у госці...

Як бы там ні было, а вылечыўся Загацкі душою і целам, наладзіў свае сямейныя справы, ужо не шукаў нечага незвычайнага ў жыцці, а на асновах даўно правераных да яго людзьмі: па знаёмству ўладкаваўся на работу ў міністэрстве на грашовую, няпыльную работу, напусціў на сябе важны выгляд занятага адказнаю работаю чалавека, не надта звяртаў увагу на тое, чым займаецца і што робіць жонка. А знаходзіць жаночую

ласку і ўцеху дапамог вопыт, прыдбаны медсястрою,— многа на свеце і жанчын, і дзяўчат, якім холадна і адзінока на свеце, і з якімі лёгка і добра...

Жонка тым часам пачала пахвальвацца мужам перад сяброўкамі і суседкамі.

І хоць цяпер і сам Загацкі пасміхоўваўся з тых сваіх сямейных бунтаў, але калі пра іх успамінала жонка, як пра грахі маладосці, абсякаў яе. Бо ад гэтых успамінаў, часам, уставала ў душы нейкая глухая, нядобрая незадаволенасць... Яна мінала, Загацкі суцяшаўся тым, што ён малады, што яшчэ не позна будзе знайсці сваё шчасце, як падрастуць дзеці.

Вось гэтакі чарговы прыступ незадаволенасці сабою падняўся ў душы ў Загацкага з-за няўладкі з пуцёўкаю — гэта неяк прыніжала ягоную рэспектабельнасць у жыцці.

І з-за гэтай цёткі ён мусіў быў уцякаць, як хлапчук.

Краем вока Загацкі пазіраў на дзяўчыну. Бачыў, як яна ганарліва патушыла ўсмешку, пачала засяроджана глядзець на дарогу. Старалася паказаць, што ёй усё роўна. З нейкаю помслівасцю Загацкі заўважыў, што спадарожніца і не такая маладзенькая, што ўжо ў тым узросце, калі даводзіцца даганяці леты маладыя, знарок адзяваць вось такія юнацкія кофтачкі і спаднічкі, хоць на твары ля вачэй дробненька пачалі збірацца маршчынкі. Ёй, мабыць, надакучыла хадзіць на танцпляцоўкі, какетнічаць з хлопцамі і мужчынамі, пахіхікваць, як дзяўчынцы. Яна, мабыць, гатова праняняць сваю і волю, і стройную постаць на тое, каб мець дзяцей, сям'ю. І, мабыць, моцна нудзіць чыста бабскаю тугою па дзецях і па сям'і.

Загацкі ведаў, што спадарожніца адчувае на сабе ягоны позірк, як гэта ўмеюць адчуваць толькі жанчыны, але ўпарта нахіліла галаву і прымушала сябе нават і скоса не глянуць на суседа.

Праехалі міліцэйскі пост, невялікую сінюю будачку з чырвонымі шалёўкамі, нібы кантамі, па вуглах.

Маўчаць амаль сотню кіламетраў не было як. Загацкі нібыта і не заўважыў, ехаў проста на кавалак дошкі, які ляжаў на дарозе, і перад самым ім рэзка вільнуў, аб'ехаў гэтак, што машына гайданулася і жанчына прытулілася плячом да Загацкага, збянтэжана зірнула на яго. Той як мог стрымана, шчыра і добра

ўсміхнуўся ў адказ на яе неразборлівае: «Прабачце!» Жанчына нібыта не ведала, што рабіць, памятала, як ён не заўважыў яе першае ўсмешкі, і ўсё ж усміхнулася, крыху завярнулася да Загацкага. Той адкрыта акінуў позіркам і яе калені, і грудзі ў разрэзе блузкі, блазнавата заплюшчыў вочы і пакруціў галавою — аслепнуць можна. Жанчына на імгненне насцярожана замерла, чакала нейкага падману, насмешкі, зачырванелася, але як убачыла, што Загацкі не спрабуе нічога гаварыць, і засяроджана выводзіць машыну на паласу сустрэчнага руху, на абгон малакавоза, усміхнулася, ямчэй села на сядзенні.

— Прыгожыя жанчыны, што сонца: глядзець на іх хочацца, хоць і вочы баляць,— сказаў Загацкі, калі закончыў абгон.

Гэтыя банальныя словы, як ні дзіўна, падабаліся жанчынам. І не наіўным і недалёкім прастушкам, як тая медсястра з паліклінікі, а нават і жанчынам, якія, здавалася, даволі інтэлектуальныя, сучасныя.

Загацкаму крыху не па душы прыйшліся пакорлівыя ўсмешкі жанчыны, заведамая гатоўнасць прымаць заляцанні. Загацкі лічыў, што ён вышэй таго, каб «дружыць» з жанчынамі толькі дзеля ночы ў адным ложку, ён мусіў сыходзіцца з другімі, каб мець нейкі душэўны кантакт, якога не меў у сямейным жыцці. І гэта, здавалася, апраўдвала ягоныя сувязі.

— А жонкі не баіцеся? — не вытрывала, папытала спадарожніца.

— Жонкі баяцца, на чужых жанчын не глядзець!

— А вы думаеце, што ім гэтак трэба, каб вы глядзелі?

— Што вы! Я ж ведаю, які я прыгажун. Я пра сапраўдных мужчын кажу.

— А вы яшчэ і сама сціпласць. Добра, калі на жанчын глядзяць, як на сонца, а не як рэнтгенам...

— Што зробіш. Прыходзіць час, што і гэтакае крыўды жанчыне ад мужчын не заслужыць.

— Дзякую за камплімент.

— Я думаю, вам не цяжка, калі я вамі любавацца буду?

— А за рулём можна? — жанчына зноў крыху завярнулася да Загацкага, глянула прыжмуранымі вачыма.

Загацкі здагадаўся, што гэтая жаночая вольнасць і ў словах, і ў рухах нарочная, што ёй не па душы ягоныя кампліменты і ягоная балбатня.

— Нават патрэбна, каб не стамляцца і не драмаць за рулём. Можа, вас не пакрыўдзіць, што я хачу ведаць, як вас завуць? Мяне завуць Міша.

Цяпер трэба было зрабіць так, каб ранейшая размова здавалася жартам, несур'ёзным нечым, чаму не трэба надаваць і ўвагі.

— Валя. І да Слуцка я не еду. Выйду ў Шышчыцах.

— Мне вельмі прыемна пазнаёміцца. На жаль, я не магу падвезці вас, куды трэба... Я гляджу на вас і на вашы рукі. У вас не паўднёвы загар, у вас вясковы, палявы загар. Але не магу дадумацца, хто вы.

— Не дадумаецеся.— Валя ўважліва паглядзела на Загацкага: як зразумець гэтую перамену ў гаворцы, гэту ягоную даверлівую стомленасць пасля нядаўнае блазнаватасці.— Я раблю начальнікам участка ў меліярацыйным упраўленні. Канчала політэхнічны інстытут.

— Ясна. Я таксама політэхнічны кончыў. Аўтамабіліст, канструктар. Цяпер у міністэрстве. Майце на ўвазе — магу прыгадзіцца...

— Ці ў памяць вам будзе нейкая пасажырка...

— Як сказаць.

Загацкі памаўчаў, адчуў, што жанчына ўважліва глядзіць на яго. Ён нібыта задумаўся пра нешта сваё, нялёгкае. Яму трэба было чакаць, пакуль жанчына загаворыць сама. Цяпер нельга навязвацца, калі зроблена галоўнае — жанчына адчула, што запала ў вока.

— А цяпер вы к нам едзеце ў раён? Камандзіроўка?

— Не, рашыў адпачыць, пабываць на сваёй радзіме, як кажуць. Я родам з гэтага раёна. Праўда, даўным-даўно не быў тут. Але лічу радзімаю. А вы слуцкая?

— Жыву ў Слуцку. А родам з Магілёўшчыны.

— Але ж вас у Слуцку не застанеш? На рабоце і на рабоце.

— Чаму? Можна пазваніць ва ўпраўленне. Валошына маё прозвішча.

— А чаму вы да горада не едзеце?

— Каб заўтра не выбірацца на ўчастак, заеду сёння.

— Я з радасцю правёз бы вас заўтра па ўсіх вашых участках. І паглядзеў бы на цяперашнюю Случчыну.

— Дзякую. Нават каб і хацела, то не магу з-за падначаленых даць сабе гэтакую раскошу.

— Прабачце, я не падумаў пра гэта.

Машына выскачыла з лесу, крыху страсянулася, пераязджаючы невялікі мосцік цераз канаву. Уперадзе абапал шашы пачыналася вёска. На перакрыжаванні віднелася дыспетчарская будка, стаялі на ўзбочынах міжгароднія аўтобусы. Далей відзён быў двухпавярховы белае цэглы будынак.

— Вось тут мае канавы.

— Спыніцца?

— Калі ласка.

Загацкі спакойна скіраваў на абочыну, плаўна спыніў машыну.

Валя адчыніла дзверцы, узяла сумку. Загацкі нібы і не звяртаў увагі на яе, заўважыў, што Валя марудзіць, затрымалася, не зачыніла дзверцы.

— Дык, можа, падвезці вас? — нібыта спахапіўся Загацкі.

— Не. Дзякуй вам! — Валя ўскінула папругу сумачкі на плячо.

— Калі вам лепш званіць? Удзень?

— Зранку. Да дзесяці я заўсёды ва ўпраўленні.

— Я пазваню. Усяго добрага.

— Усяго добрага.

Загацкі бачыў, што Валя не пайшла адразу, глядзела ўслед машыне і знарок, каб бачыла яна, некалькі разоў высунуў галаў з акна і азірнуўся назад.

Потым ён ямчэй усеўся, прыпёрся плячыма да спінкі сядзення, прыбавіў газу, заспяваў сам сабе, падладжваючыся пад чутае: «Пайшла, ніколі ўжо не вернешся...»

Валі званіць ён не збіраўся. Падумаў, што яму сапраўды неабходна пабыць аднаму, у цішыні, адпачыць на прыродзе без усялякіх там амурных прыгодаў, без кампаній і без знаёмстваў. Каб пабыць з якою прыяцелькай, то можна сесці ў машыну, узяць палатку, паехаць да Нарачы.

Мабыць, старэць пачаў, ці што, бо і раней не-не ды

і праклёўвалася стомленасць — і ад сяброўскіх кампаній, і ад знаёмстваў, і раманаў, не ставала часам пачуцця, каб і сапраўды захапляцца, і кахаць шчыра, хоць і ненадоўга.

«Старэю. Старэю»,— падумаў Загацкі, крыху прытармазіў, з ходу выкіраваў машыну з шашы на цэнтральную вуліцу горада. Але падумалася весела, упэўнена, як не пра сябе, а пра старонняга некага.

Абапал дарогі пайшлі акуратныя хаты і дамкі, патанулыя ў садах. На туташняй багатай спрадвеку зямлі любяць расці сады, увесну цвітуць раскошна ружоваю, белаю квеценню, мятуць ёю на вуліцы гэтак, што на пялёстках можна паслізнуцца, і пялёсткі змятаюць і зграбаюць у кучкі, як зімою снег. Цяпер сады стаялі ў густой крыху запыленай зяляніне спелага лета, скрозь якую цяжка віднелася густая чырвань чарэшань і вішань.

Наогул, восенню трэба будзе не ленавацца, прыязджаць сюды на базар па яблыкі. Тут не тое што ў Мінску. А калі паехаць проста ў вёску і наабіраць самому... Ды каб паехаў у сваю вёску, то і купляць не трэба было б.

Але ехаць у вёску, Загацкі ведаў, не было чаго — радня засталася там далёкая, аднагодкі, мабыць, у Мінску, Слуцку, Салігорску... А на базар сюды прыязджаць варта.

Загацкі прыглядаўся да новых пяціпавярховых камяніц, якія стаялі ў цэнтры гарадка, падумаў, што тут можна не толькі адпачыць на ўскраіне ў вясковай адзіноце, а і павесяліцца па-гарадскому, хай сабе і з папраўкаю на раённыя маштабы.

## II

За два дні жыццё Загацкага быццам увайшло ў каляю. Хата была падобна на многія драўляныя хаты Слуцка, пабудаваныя пасля вайны, не цяперашняе архітэктуры, дзе самае адметнае — вялікія вокны, гладкі вугал, высокія падмуркі, раскошныя веранды. Хата акуратная, ашаляваная, накрытая шыферам, з верандаю, хай і не гэтакаю раскошнаю, як у новых хатах, але і не маленькаю. Стаяла хата ўздоўж вуліцы,

кароткае, шыракаватае, падсыпанае некалі гравіем, але ўжо раз'езджанай. Плот нядаўна пастаўлены стандартны, са штакетных шчытоў, брама таксама шырпатрэбаўская, металічная. І плот і брама пафарбаваны ў зялёны колер.

За брамаю невялікі дворык, на якім мясцілася машына і заставаўся праход. Справа, пад вокнамі хаты, велікаваты агародчык: ля платоў кусты агрэсту і парэчак, пад самымі вокнамі кусты вяргінь, гладыёлусы, астры, на градах клубніка, толькі ля самага плота вузенькая града цыбулі, там жа два радочкі часнаку і высокія парасоны ўкропу над ім.

Клубнічнік на градах здрасаваны, мабыць, як паехалі гаспадары, тут патапталіся хлапчукі. Абгародкі вакол агрэставых і парэчкавых кустоў пааблomваліся, і галлё ляжала на зямлі. За хатаю прысядзібны надзел засаджаны бульбаю. Нават у цяні пад яблынямі і пад грушамі бульба. Сад, хоць і невялікі, але дагледжаны. Антонаўка, папяроўка, з якое апалі на зямлю першыя яблыкі, штрыфель, дзве грушы. Галлё прарэджана, сквалы акуратна пабелены. Паўз плот стаяла некалькі закаржанелых вішань, якім, мабыць, не па нутру прыйшлася тутэйшняя вільготная і тлустая зямля. Але і на вішнях крыху ўрадзіла — хоць рэдкія ягады, затое буйныя. Уздоўж плота невялікі хлевушок — на дровы і торф. З аднаго боку хлевушка стаяла, як і ў вёсках, «шпакоўня», а з другога прыкладна гэтакая ж самая пабудова, толькі з чорнаю бочкаю-двухсотлітроўкаю наверсе — летні душ. Адно што невясковае было ў гэтым садзе-агародзе — сцяжынкі, выкладзеныя з бетонных плітак ад ганка да ўсіх гаспадарчых пабудоў і нават у канец пляца, да варотцаў, за якімі віднеўся чырванаватымі мяцёлкамі шчаўевых цырбуноў паплоўчык.

Усё было гэтак жа, як расказваў Загацкаму гаспадар — райскі куток, каб адпачыць ад турботы зямное і душою і целам. Загацкі адразу ж заспяшаў на паплоўчык, за якім цякла рака і дзе чакала яго лодка, якую гэтаксама абяцаў гаспадар.

Паплоўчык быў добра выкачаны. Мабыць, гаспадары загаралі на ім. Але бліжэй да вады роўна і густа стаяў казялец, цвіў пяшчотна-бэзавымі шышачкамі вужоўнік. Паўз ніз расла кароценькая, натапыраная і

вострая, як асака, травіца. За паплоўчыкам распарана хіліўся да вады светла-зялёны пакорлівы плюшнік. Між яго і вызірала карма затопленае лодкі, у бруднай, з бліскучымі балотнымі падцёкамі вадзе. Загацкі згарача, не зважаючы, што вада набіраецца ў басаножкі, пашыбаваў да лодкі, мацюкнуўся, потым засмяяўся — карма ды верхнія дошкі абодвух бартоў, вось і ўсё, што засталося ад лодкі. Ды і рэчкі тае, змялелае і вузенькае, было, што і не развярнуцца і не праплыць на лодцы.

«От баламут!» — смяяўся Загацкі, успамінаючы, як сябра хваліўся ў кампаніі і расказваў, што, лічы, катэр стаіць у яго на агародзе.

У верандзе месціўся невялікі кухонны столік, стаяла канапа. З веранды дзверы вялі ў невялікі прыхожы пакойчык, направа ад яго кухня з газаваю плітою, польскаю кухоннаю мэбляю і звычайнаю сялянскаю печчу, у якую ўмураваны кацёл на паравое абаграванне. Дзверы ў кухню адчынены, направа дзверы ў невялікі дзіцячы пакой, напрамую ў прасторную залу з тэлевізарам, з фікусам, з дзвюма канапамі — цяпер, мабыць, зала служыла бацькам і спальняю.

Побач з дзвярыма ў залу, злева ад іх, яшчэ адны дзверы.

Загацкі спачатку здзівіўся і стаяў у парозе, прыглядаючыся да незвычайнага пакоя. А незвычайнасць была не ў тым, што вузкім і даўгаватым ён выдаваў, непадобным ні на дзіцячы, ні на залу, дзе панавала чысціня і святочная прасторнасць. У гэтым пакоі панаваў паўзмрок. Ля акна, якое выходзіла ў сад, стаяў стары пісьмовы стол, у куце стары тэлевізар. Уздоўж аднае сцяны паліцы з кнігамі, ля другое канапа. Пры канапе невялічкі газетны столік з попельніцаю і тэлефонным апаратам, у куце, у вялікай глінянай вазе засохлыя «кіяшы». На падлозе ляжаў стары, з вытаптанымі пляшынамі, дыван.

«Ты бачыш, чорт Чорны!» — здзівіўся Загацкі. Чорным аднакурсніка празвалі ў інстытуце — за смуглы твар, чорныя валасы і гарачыя цыганскія вочы. Загацкаму ўспомнілася, што сам ён, як вучыўся на апошнім курсе, меў перакананне — на сваіх інжынерскіх грашах нажыве неблагую бібліятэку, застанецца дасведчаным ва ўсіх тэхнічных навінах.

У Загацкага была бібліятэка. Праўда, ён не пайшоў следам за модаю, як рабілі іншыя, не купляў кніжных паліц. Але ў зале ў яго стаяла блок-секцыя, дзе можна і трэба паставіць кнігі. Каб заставіць палічкі, хапіла праграмных кніг класікаў, якія патрэбны дзецям па школьнай праграме. Там стаяла некалькі даведнікаў. Вялікае цягі чытаць кнігі Загацкі не надта меў, ведаў, што ў жыцці ёсць клопаты важнейшыя для дарослых людзей.

А жонка наогул лічыла, што найлепш глядзіцца на палічках за шклом прыгожы посуд.

Загацкі ўважліва разглядаў кнігі, большасцю па аўтамабілях, даведнікі, падручнікі. Але нямала стаяла і свае, беларускае класікі, рускае, чатырохтомнік Хемінгуэя.

Выходзячы з пакоя, Загацкі прыпыніўся. Ён не мог яшчэ растлумачыць, чым прывабіў яго сябраў кабінет. Можа, тым, што тут кнігі ўладарылі і вітаў даўно забыты дух студэнцтва, маладосці.

Загацкі ведаў, што застанецца жыць у кабінеце, будзе запоем чытаць і перачытваць кнігі, як і марылася яму.

У шафе ў зале Загацкі знайшоў чыстую бялізну, прынёс з залы, паставіў яшчэ адну настольную лямпу на газетны столік, каб не запальваць верхняе святло. А і праўда — цікава пажыць з паўмесяца гэтакім пустэльнікам. Гэта мела сваю радасць і сваю заманлівасць, пра гэта можна будзе некалі расказаць. Загацкі лёгка ўявіў сябе ў новай ролі. І адразу ж у думках развіў план свайго гасцявання ў доме сябра: будзе ўставаць кожнае раніцы, бегаць, рабіць гімнастыку, менш есці, таму што пачаў ужо таўсцець.

Адвячоркам Загацкі схадзіў пад душ, паглядзеў, лежачы ў пасцелі, праграму «Час», завёў на сем гадзін будзільнік. Але спалася неспакойна, як і заўсёды на новым месцы. Прачнуўся Загацкі да званка будзільніка ад моцнага пасмоктвання ў жываце — хацелася есці.

Ён зрабіў на двары гімнастыку, але мыцца пад душам не адважыўся, пастаяў ля варот, гледзячы на людзей, якія спяшаліся на работу, на ранішнія сонечныя промні, што цёпла лажыліся на лісце ў садзе. Ды і вуліца пасля ночы гэтаксама пахла сухім пяском,

пылам, прывялаю ад гарачыні травою, якая густа расла пры самых платах.

Загацкі паставіў на пліту чайнік, паснедаў: з'еў усе прывезеныя бутэрброды, вярнуўся ў кабінет, не вытрымаў, прылёг паляжаць і заснуў сапраўды моцна і спакойна, праспаў да дзесяці гадзін. Устаў з цяжкаватаю галавою, як гэта бывае пасля лішняга сну, яшчэ раз зрабіў гімнастыку, схадзіў пад душ — на дварэ ўжо запанавала душнаватая жнівеньская спякота, якая бывае ў нізкіх мясцінах, куды не дастае вецер. Яшчэ раз паснедаў — і з кнігаю і старою байкаваю коўдраю падаўся за агарод, на паплоўчык, як ён сам з сябе жартаваў — плаваць на лодцы пайшоў.

Першы дзень мінуў хутка. Ды і той Хемінгуэй, пра якога дасюль Загацкі многа чуў, пісаў цікава. Можа, кніга ўпадобалася тым, што стары амерыканскі палкоўнік гэтаксама як і ён, Загацкі, нешчаслівы быў у жыцці, але не паддаваўся няшчасцю, умеў трымаць сябе, умеў нават кахаць, гледзячы ў твар смерці, і жыць прыгожа, падпарадкуючы сабе жыццё, і Загацкаму нават бачылася падабенства паміж сабою і тым палкоўнікам...

На вечар Загацкі накапаў маладое, яшчэ драбнаватае бульбы, наварыў, нарабіў халадніку, як некалі рабілі ў вёсцы: схадзіў у прадуктовы магазінчык, які быў у пачатку вуліцы, і купіў кефіру, накрышыў цыбульнага пер'я, перацёр яго з соллю, потым заліў кефірам. Але смак халадніку, мабыць, быў не той, што са свойскага кіслага малака некалі, у дзяцінстве. Давялося пасля кефіру з'есці кавалачак сала, якое ўзяў з халадзільніка.

Вечарам Загацкі глядзеў тэлевізар, зноў на раніцу завёў будзільнік. На ноч паставіў сабе на столік кубачак кефіру.

Загацкі заснуў з радасным адчуваннем, што цела, увесь ён напаўняецца здароўем і лагодлівасцю.

## III

Раніцою трэцяга дня Загацкі адчуў сябе не зусім утульна. Нешта рупіла, не давала спакою. Можа, што не ўбярогся ўсё ж, крыху прыпёкся на сонцы, і скуру

лёгенька пашчыпвала, а таму парушаўся задуманы распарадак — нельга ісці загараць. Ды і другая перамена выйшла — павярнуліся думкі да самога сябе, бо як ты ні хочаш, а калі чытаеш кнігі, міжволі пачынаеш параўноўваць сваё жыццё з тым чужым, пра якое напісана, прыгожым, смелым. Параўноўваць было нявыгадна, хоць ён даўно вырашыў, што ўсе кнігі — гэта «сон залаты», а рэальнае жыццё намнога прасцей і грубей.

Але... Вось на адзіноце заварушыліся неспакоем думкі.

Пасля абеду Загацкі схадзіў у магазін, купіў сёетое з прадуктаў, узяў бутэльку каньяку, хаця ніколі вялікае цягі да выпіўкі не меў,— няхай стаіць на ўсякі выпадак. Потым узяўся агледаць машыну і такім чынам забавіўся на цэлы дзень. Вечарам, стомлены, але задаволены сабою, заснуў рана і лёгка.

Прачнуўся апоўначы, нават не прачнуўся, а прахапіўся са сну. На першым часе не мог уразумець, дзе гэта ён, прыглядаўся да сцен і да мэблі, і не пазнаў нічога, і ад гэтага аж затрымцела ў душы ўсё. І тады прачнуўся зусім, успомніў, дзе ён, і зразумеў, што гэта не староннi шум пабудзіў яго, а нешта ў самім ім азвалася трывогаю. Загацкі прыслухоўваўся, стараўся зразумець, адкуль тая трывога, але прычына яе прапала разам са сном. Толькі засталося нейкае цьмянае адчуванне, што ўсё гэта ўжо некалі здаралася з ім, што гэта быццам успамін. А было яно ў бацькавай хаце, дзе цяпер жывуць чужыя людзі. У той хаце — над печчу на пацямнелай столі Загацкі памятаў кожны сучок. Столь, мабыць, цяпер пафарбавалі белаю фарбаю і зафарбавалі тыя сукі. Не трэба было намагацца, каб успомніць усё дазвання, хоць як нешта жывое, прадметнае, убачылася і тая прорва часу, якая аддзяліла пачатак жыцця Загацкага ад гэтае месячнае ночы, праглынула беззваротна і гэтулькі маладое сілы, і гэтулькі шчасця, якое, калі не збылося, то і не збудзецца.

Ночы стаяла поўня. Малочнае яе святло вузкаю паласою між няшчыльна завешаных штораў рассякала напал цемру ў пакоі, напаўняла яго шэрым моракам. Маці некалі гаварыла, што Загацкі з дзяцінства не мог спаць пры месяцавым святле, і яна мусіла посцілкаю

завешваць акно. Загацкі гэтага не памятаў, але памятаў, што маці была пераканана: не трэба, каб на чалавека, які спіць, клалася месяцава святло.

Загацкі ўстаў, прайшоў па пакоі, пастаяў ля акна, прытуліўшыся лбом да шкла. Спаць не хацелася. Плыла над зямлёю месячная, душнаватая ноч. Стомленыя гэтаю духатою, млява стаялі дрэвы ў садзе, у засені лістоты хаваючы жывую вільготнасць і халаднаватасць.

Ад гэтага роўнага белага святла чамусьці маленькім здавалася ўсё на зямлі, нібы сам падняўся высока, і глядзіш здалёку зверху на яе спагадлівым і добрым, засмучаным позіркам, і бачыш адзінокага чалавека, які не спіць і думае нешта сваё, гэтакае вялікае для яго, гэтакае значнае — і гэтакае маленькае пад белаю бясконцаю вышынёю, у вечнай мудрай цішыні на зямлі. Але страшна зірнуць з белае вышыні на незасмучную зямлю, праплысці над ёю, убачыць усё і не ўгледзець нідзе чалавека.

Загацкаму здалося, што гэта ён сам неяк недарэчна падняўся над зямлёю і глядзіць на самога сябе, і бачыць горка і бязлітасна, што таго спадзявання на шчасце, на незвычайнасць не спраўдзіў лёс. Ён нібы пражыў палавіну нечага чужога, не свайго жыцця.

Загацкі зайшоў на кухню, выпіў каньяку. І пачаў п'янець адразу, лёгка, і чым больш думаў пра сябе, тым больш шкадаваў, і ў рэшце рэшт вырашыў, што цяпер пачне ўсё спачатку, кіне сваю канцылярскую работу, пераменіць усё жыццё, з заўтрашняга дня, збярэцца і паедзе адсюль, з гэтае непатрэбнае яму цішыні і адзіноты... Што яму да таго, як пасля загавораць пра яго?

Ён і заснуў незаўважна, шчаслівы і супакоены.

Прачнуўся Загацкі рана, з непрыемнаю цяжкаватасцю ў галаве, са смагаю, ад якое было непрыемна ў роце. Успомніў ноч, як піў сам-насам... Якраз як некалі, калі спрабаваў, бунтаваўся з жонкаю, і ўчора, акажыся яна пад рукою, узяўся б за старое.

Загацкі аж крахтануў ад прыкрасці, зайшоў на кухню, не ведаў, за што зашчаміць рукі, угледзеў эмаліраваны малочнік, і яму захацелася малака, свежага салодкага малака.

Ён намыўся, бадзёра і ўпэўнена пакіраваў вуліцаю да базара.

Вуліца, па якой ішоў Загацкі, была падобна на вясковую цяперашнюю: падсыпана гравіем, але даўно не раўняная грэйдарам, з травою, густымі цырбунамі цыкорыю, які цвіў светлым валошкавым цветам, нечакана пяшчотным на кастлявых сцяблінах. Цераз платы звісала голле сліў і вішань, крыху пацягвала гаркавым дымком з коміна. Гэты гаркавы пах адразу напамінаў вёску, яе ранішнюю ціхую вуліцу.

Загацкі ўдыхаў на поўныя грудзі паветра, думаў, што толькі як выедзеш з вялікага горада, зможаш адчуць гэтую асалоду дыхаць свежым паветрам. А наогул, яму трэба ўжо берагчы сябе, не есці шмат мяснога, прывучыцца да малочных прадуктаў, якіх ён пакуль што не прызнаваў.

Загацкі перайшоў вуліцу і звярнуў на базар. Адразу пры ўваходзе абапал дарогі, якая вяла да мосціка, стаялі магазіны, новыя, з белае сілікатнае цэглы, старыя, з вузкімі дзвярыма, маленькія, як катушкі, у якіх не павярнуцца. За магазінамі пачыналіся новыя базарныя рады, а лявей іх — выбрукаваны пляц, дзе збіраюцца машыны, падводы,— тут у базарныя дні прадаецца жывёла. Ды і наогул раніцаю небазарнага дня базар здаваўся бязлюдным, некалькі жанчын і бабулек з малаком, з яйкамі, адна са слоікамі мёду.

Старая, якая прадавала малако, непадобная крыху была на астатніх гандлярак. Яна была ў чыстай сацінавай рубашцы, у старамоднай шырокай у зборкі спадніцы, у чорных скураных тапачках. Белая хусцінка ў дробную, як мак, крапінку, белы хвартух з фальбонамі рабілі старую нейкаю святочнаю.

Яна павіталася з Загацкім, усміхнулася яму, адкрыта паглядзела на яго чыстымі блакітнымі вачыма, як умеюць глядзець старыя людзі, і позірк якіх не бянтэжыць, і не цяжкі. Рукі ў яе спрацаваныя, з цёмнымі венамі, касцістыя, але ўсё роўна ласкавыя — яна, нібы жывое, пагладжвала загорнутую ў капусны ліст грудку масла.

— Я вот гляджу на вас... Вы ж, мабыць, начальнік, а саўсім па-нашаму гаворыце хораша!

Загацкі збянтэжыўся: ён і сам не ведаў, чаму загаварыў са старою па-свойму, сам дзівіўся, што гаворыц-

ца лёгка, як у дзяцінстве. Не, у яго не было думкі, што гэтак ён хутчэй і лепш дамовіцца са старою. Неяк само сабою загаварылася.

— А чаму вы пытаецеся?

— Вы ж і на хворага не выдаяце з твару. Гэта хворы які ўжо калі вернецца, то па-свойму кажа... А так усе: «счас», «кірасін», «спічкі», «мацъ»...— Старая ціха засмяялася і растлумачыла: — Гэта, як я дзеўкаю яшчэ была, аднолетак мой, Змітрусь, у Мінск папаў... Мо Лейбу памагаў свіней збываць. Колькі там пабыў, вярнуўся дадому. Чуем, Змітрусь вярнуўся і толькі па-гарадскому ўжэ гаворыць. Дык тады на вячорках поўная хата назбіралася, упрошваюць таго Змітруся, а ён ні ў якую. Адале ўпрасілі, устаў і кажа ён гэтыя самыя счас, кірасін, спічкі, мацъ... Каб яно спрахла! Да смерці яму ўспаміналі гэтыя шчас, мацъ, кірасін, спічкі... Ці мо вы вялікае навукі? Тыя людзі гэтаксама па-нашаму хораша гавораць. Я, бывае, сяду, радзіва слухаю... Хораша гавораць, я ўжэ не кажу, як песню нашу заспяваюць.

— А як вы тут у горадзе карову дзяржыце? — запытаўся ў старое Загацкі, каб перавесці гаворку на іншае: ён не ведаў, што гаварыць і адказваць ёй. І, мабыць, добра ўгадаў, пра што трэба запытацца.

— Падгараджанка я. Цяпер нам з калгаса пенсіі падавалі. Дзеці параслі. Пры дзецях я жыву. Вот і важу малако на базар. Шкода яго свінням выліваць. Сын трактарыст у мяне. Сварыцца, кажа, брыдка мне ад людзей, бытта гэта ён мяне на базар выпраўляе. Я ж не толькі з-за тых грошай. Сама дзяцей гадавала, без каровы жыла. Калі тады хто прынясе кроплю малака... Лепш за мёд яно было. А і ў горадзе яно ж, з-пад свае каровы, малако патрэбна: то дзіцяці малому, то старому ці хвораму чалавеку.

Старая акуратна наліла яму ў малочнік малака, дастала з кішэні жоўтую дробязь і да капейкі адлічыла рэшту, неяк здзіўлена, з неразуменнем глянула на Загацкага, калі той заікнуўся, што не трэба рэшту даваць.

Толькі цяпер Загацкі прыгледзеўся, што яна старэнькая ўжо зусім.

— От прыходзьце да мяне кожнае раніцы. Малако харошае, як смятана, густое... Хоць і гавораць, што па

малаку і ног не павалаку,— старая ўсміхнулася, шчыра, весела.

Загацкі падзякаваў, развітаўся.

І дома, пакуль снедаў, усё ўспамінаў старую, адчуваў той светлы настрой, якім яна асвятліла яго.

Не думалася пра сваё пражытае, пра ўдачы-няўдачы: як гэта здорава — проста жыць і радавацца жыццю. Якое гэта вялікае ўменне! І шчасце — пражыць многа і пабачыць усякага жыцця.

Хацелася нешта рабіць, прывычнае, у чым упэўнены.

Да абеду Загацкі прахадзіў па горадзе, які ўжо не цешыў яго ні вясковаю ўтульнасцю ўскраінных вуліц, ні новымі белакаменнымі раёнамі, дзе гэтак жа, як і ў сталічным горадзе, стаялі аднатыпныя дамы і душната ад нагрэтага за дзень асфальту. Адзенне прыліпала да цела. На вуліцах нават і на асфальце пылела ўслед за машынамі. Горад, які ў свой час панаваў над наваколлем, горад, які гандляваў, ваяваў, меў вакол сябе ўзброеныя пасяленні, слава якога засталася ў гісторыі, цяпер зноў набіраў моц, але ўжо горада індустрыйнага, горада заводаў і камбінатаў. І як кожны гэтакі горад, стараўся выглядаць больш па-сталічнаму, незасцянкова, а таму нават назвы магазінаў і кінатэатраў стараўся мець сталічныя — «Чаравічкі», «Цэнтральны», што якраз і патыхала крыху правінцыйнасцю. Загацкі агледзеў рэстаран, дзе няблага паабедаў, павесялеў, успомніў пра сваю спадарожніцу Валю, вырашыў на ўсякі выпадак пазваніць ёй пасля абеду, запрасіць павячэраць.

Стомлены блуканнем па горадзе, гарачынёю, Загацкі вярнуўся дадому, у прыемны халадок драўлянага будынка, раздзеўся, памыўся пад душам, узяў чытаць кнігу, але так і не адолеў і старонкі, заснуў, накрыўшыся адною прасцінаю.

Прачнуўся Загацкі надвячоркам. Галава была свежая, ясная, а не цяжкая, як звычайна пасля дзённага доўгага сну. Ён старанна пагаліўся, схадзіў яшчэ раз пад душ, надзеў светлыя льняныя штаны, таксама льняную рубашку. Гэты светлы касцюм, увабраная ў штаны рубашка, шырокая папруга маладзілі Загацкага. З дому ён пазваніў Валі на работу. Там ніхто не падняў трубку — позна. Але гэта не засмуціла Загац-

кага і не сапсавала настрою — ён ужо ведаў, што і як трэба рабіць.

Знаёміцца з жанчынамі ён умеў.

## IV

Паволі, гуляючы, Загацкі прыйшоў у цэнтр, да пошты, зайшоў, пастаяў перад міжгародні́м тэлефонам-аўтаматам, але званіць дадому не стаў — не было чаго гаварыць.

З невялікай цэнтральнае плошчы перад будынкам гарсавета ўжо раз'ехаліся начальніцкія машыны. Дзверы райвыканкома былі адчынены насцеж. Ля ўвахода ў будынак стаялі мужчына і жанчына. Мужчына, нягледзячы на гарачыню, у касцюме, раз-пораз расхіляў пінжак, скідаў з плечукоў. Штаны на каленях у яго віселі пухірамі ад доўгай сядні ў машыне. Побач з ім, таўставатым, потным, жанчына ў джынсах і жоўтай кофтачцы, якая па цяперашняй модзе шчыльна аблягала постаць, здавалася зусім маладзенькаю. Загацкі прыпыніўся і любаваўся жанчынаю, яе нечакана імклівымі і, разам з тым, прываблівымі рухамі. Яна была з тых жанчын, якіх не мінае мужчынскі позірк, ведала пра гэта, мабыць, адчула позірк Загацкага, толькі коратка зірнула ў яго бок, не перастaвала гаварыць, правяла мужчыну да самага ягонага «козліка» з пабялелым ад пылу брызентавым верхам, развіталася, пайшла да свайго, гэтакага ж запыленага, пасівелага.

На паўдарозе яна спынілася, рэзка азірнулася, сур'ёзна паглядзела на Загацкага, быццам не магла ўспомніць, хто ён і чаго ад яе хоча. У кожным яе руху жыла яшчэ дзелавая заклапочанасць, але Загацкі быў перакананы, што яго позірк не застаўся незаўважаным, яна, жанчына, не магла не заўважыць, што мужчына любуецца ёю. Гэта не якая-небудзь квактуха... Нарэшце жанчына ўсміхнулася, слаба, бытта сказала сама сабе — во, адурылася баба, села ў машыну, завяла матор, крута, што аж завішчала гума па асфальце, завярнулася.

Загацкі рушыў далей.

Ён пачуў, як машына затармазіла і жаночы голас няўпэўнена, але з начальніцкаю цвёрдасцю ні то запытаўся, ні то паклікаў:

— Загацкі?!

Ён азірнуўся, здзіўлены, што яго тут нехта мог паклікаць. Жанчына прыадчыніла дзверцы машыны, ступіла адною нагою на зямлю, таксама няўпэўненая, што не памылілася.

Загацкі пайшоў да жанчыны паволі — не пазнаваў яе, але ўзяў сябе ў рукі, прыветна ўсміхнуўся. У яго было ўжо, што не пазнаваў сваіх ранейшых знаёмых, і навучыўся не губляцца ў такіх выпадках.

— Ну, Міша, багаты будзеш! Такі мацёры мужчына! Госпадзі, у мяне аж сэрца здрыганулася, як паглядзеў на мяне. Я хіба гэтак пастарэла, што не пазнаеш?

Жанчына не адводзіла ад Загацкага позірку, назірала за ім і не пераставала ўсміхацца, паволі, абедзвюма рукамі асцярожна, з жаноцкаю пяшчотнасцю, правяла рукою па валасах, папраўляючы кароткую, акуратна ўкладзеную прычоску.

Загацкі адчуў, што кроў прыліла да твару і ад гэтага яе руху, і ад таго, што гэтак уважліва, насмешліва, нібыта з выклікам глядзіць на яго жанчына. Ён пазнаў яе, бо ўспомніў адразу і тое маладое жыта, сярод якога ішла палявая сцяжынка, і той светлы дзень, і маладое яшчэ неба. Яны ішлі са школы. Дурэлі, бо яны тады былі таго ўзросту, калі хлопцам хацелася зачапіць дзяўчыну, ды і дзяўчатам, хоць яны і быццам крыўдавалі і сварыліся, падабаліся хлапцоўскія паскубанні і абдымкі. Ён тады пагнаўся па маладым жыце за Марыяй Зажэўскаю, старэйшаю за яго гадоў на два дзяўчынаю, якую ўжо праводзілі з вечарынак кавалеры і якіх старая Зажэўская праганяла, бо лічыла, што дачцэ яшчэ не пара любіцца з хлопцамі. Яна смяялася, уцякаючы ад яго, не перастала смяяцца, калі ён схапіў і закружыў яе на месцы. Яна вырвалася з ягоных рук, памкнулася бегчы далей, але смяяцца перастала, нібы не адважвалася ступіць з вытаптанага жыта, спынілася, завярнулася да Загацкага. Яна яшчэ ўсміхалася, бездапаможна неяк, са страхам і чаканнем, чамусьці абедзвюма рукамі падгарнула, паправіла растрапаныя валасы, пакуль ён, таксама няўпэўнена,

з сэрцам, якое соладка зайшлося ў грудзях, ішоў да яе, не ведаючы навошта. Яны пакорліва прыпалі адно да аднаго, адчувалі, здаецца, як хвалюецца ў чужым целе кожная крывінка...

Не памятна, колькі яны стаялі гэтак, адны не толькі ў полі, на ўсім свеце адны. Як сустрэліся іхнія вусны, памятае Загацкі толькі яе туманныя вочы. Яны яшчэ не маглі разлучыцца, як усё роўна кожны прыслухоўваўся — што з ім гэтакае было? А са сцяжынкі Марыю клікала сяброўка. Марыя асцярожна вызвалілася з ягоных рук, адступіла крок назад, зноў паволі папраўіла валасы і бы адышла ад сну — звонка засмяялася, кінулася назад да сцяжынкі, ён следам, гэтаксама смеючыся, але не даганяючы яе...

Пасля таго выпадку яны не сустракаліся з Марыяй блізка, саромеліся адно аднаго. У яе былі свае «кавалеры», у яго свае «паненкі». Але на вечарынках, калі летам збіраліся на лавачках, каб патанцаваць або проста паабдымаць, паціскаць дзяўчат, што па тым часе ў іхнім узросце сведчыла пра «кавалерскую» сталасць, Загацкі не адважваўся зачапіць Марыю, дакрануцца да яе.

— Марыя! Забі мяне — не пазнаў!

— Сур'ёзна?

— Каб некалі мне цяперашні розум...

— І што было б?

— Ажаніўся б з табою!

— Ясна. Дажыўся да таго, што не супроць другую жонку займець?

— А што, не змагу ўжэ?

— Госпадзі, пра што ты гаворыш?

— Значыць, дагавор — варочаемся ў маладосць?— запытаўся Загацкі, адчуў, што Марыя неадважна падтрымлівае нечакана гуллівую і смелую размову.

— Ну цябе! Яшчэ ў чырвань увядзеш,— Марыя збянтэжылася ад напаміну, і Загацкі здагадаўся, што яна таксама памятае тое.

— Ты ў камандзіроўцы ў нас, міністр?

Яна ведала, што Загацкі працуе ў міністэрстве, а таму і абазвала «міністрам».

— А ты шафёрам?

— Я? А-а! Ну цябе! — Марыя махнула рукою, гэтак засмяялася шчырым вясёлым дзявочым смехам,

што Загацкі здзіўлена паглядзеў на яе. Як убачыла ягоную збянтэжанасць, Марыя засмяялася яшчэ вясялей, гэтак шчыра, што і Загацкі не вытрымаў, засмяяўся ўслед за ёю і ўжо тады здагадаўся, што з шаферствам даў, мабыць, маху.

Гэты смех зняў тую скаванасць, што часта бывае між людзьмі, якія даўно не бачыліся, у якіх даўно няма нічога агульнага, а таму няма пра што і распытвацца, і гаварыць. Бывала такое і з Загацкім, хоць ён меў у запасе і анекдоты, і ўмеў весці пуставатую, але лёгкую гаворку.

— А я думаў табе халтуру падкінуць.

— Магу да сталіцы. За чырвонец, па знаёмству,— у лад яму адказала Марыя.

— Даю два чырвонцы.

— Не хачу ні чырвонцаў, ні халтуры. Пад душ бы ці ў ваду. Жніво пачынаецца, ні дня ні ночы не будзе. Аграномша я ў нашым калгасе.

— Магу прапанаваць душ.

— У чамадане возіш? Я чытала пра такую лазню, у чамадане.

— Душ. Дзвесце літраў вады на душу. У мяне яшчэ свой асабняк у вашым раённым раі. Катэр за агародамі, каб прагулкі рабіць.

— Ну-ну!

— Не верыш? Паехалі.

— А жонка на мне верхам з твайго асабняка не выедзе? Я баюся чужых жонак.

— Ты ж сама сказала, што ў маім узросце пара мяняць жонку. Якраз гэтым заняты. А таму мне спецыяльна далі камандзіроўку сюды — уладзіць асабістыя справы. Сур'ёзна, паехалі да мяне на кватэру. Ёсць душ і чарка за сустрэчу,— прапанаваў Загацкі.

Марыя зірнула на гадзіннік, на Загацкага, махнула рукою — так і быць! Загацкі заўважыў, што рухі ў яе чалавека, які прывык сам рашаць, камандаваць і не надта пытаць парады. І машынаю Марыя кіравала гэтак жа ўпэўнена, не па-жаноцку.

Гледзячы на Марыю, Загацкі сказаў:

— Я, будзь тваім мужам, адабраў бы ў цябе машыну і спаліў бы твой дыплом, а не пусціў бы гойсаць...

Марыя востра зірнула на Загацкага і адказала нечакана суха і рэзка:

— У мяне быў такі... Таму цяпер і жыву ўдавою саламянаю.

Яна скінула газ, прытармазіла на выбоіне.

Загацкі адчуў, што пра яе сямейнае жыццё не трэба нічога ні гаварыць, ні распытвацца. Каб неяк змякчыць сваю неасцярожнасць, сказаў:

— Я таксама даўно жыву сам з сабою. Хаця і не ўдавец.

І сам здзівіўся, што сказалася журботна, як пажаліўся.

Марыя зноў коратка зірнула на Загацкага, нібыта правярала — ці праўду ён сказаў. Твар яе быў засяроджаны і адчужана строгі. Ён падумаў, што яе, мабыць, пабойваюцца ў калгасе і недалюбліваюць, як і часта строгіх жанчын-начальніц.

— Дзе зварочваць? — запыталася Марыя.

— Яшчэ квартал — і налева.

Трэба было неяк выводзіць з тупіка гаворку.

— Значыць, ты багатая нявеста...

— А і ты жаніх не бедны. На твае чырвоненькія «Жыгулі» і семнаццатка клюне,— падтрымала жарт Марыя, спынілася ля варот.

Загацкі адчыніў дзверцы, ступіў на зямлю. Марыя неяк напружана, нерухома сядзела за рулём. Не глушыла матор, і Загацкаму трэба было сказаць, каб заходзіла Марыя ў хату ў госці, але не ставала тае звычайнае лёгкасці, з якою ўмеў Загацкі гаварыць з жанчынамі. Марыя ўважліва паглядзела на Загацкага, зірнула на гадзіннік, але нічога не сказала, нібыта гэтым давала зразумець, што часу ў яе няма, што трэба ехаць. Рука легла на рычаг пераключэння хуткасцяў.

— Калі ласка! Я тут гасцюю ў свайго аднакурсніка... Душ, праўда, ёсць,— нарэшце загаварыў Загацкі, сам чуў з прыкрасцю, які ў яго драўляны непаслухмяны голас.

— А я думала, ты выдумляеш,— адказала Марыя і не варушылася, не ўставала.

— Давай, глушы свой керагаз. Ці ты за рулём і начуеш? — Загацкі заспяшаў гаварыць, стараўся зноў узяць той жартаўлівы, нявінны лад размовы, за якою няма ніякага сур'ёзнага намеру. Ён абышоў спераду машыну, усё роўна як баяўся, што Марыя можа ўця-

чы, адчыніў дзверцы, тэатральна пакланіўся: — Прашу вас, пані!

Марыя рэзка працягнула руку, павярнула ключ запальвання, не выняла з замка, усміхнулася чужою ўсмешкаю:

— Што ж, пагляджу твой маёнтак. А гаспадыня твая не супраць таго, што ты да яе гасцей водзіш?

Яна сама адчула, што жарту не атрымліваецца, раззлавана і рашуча вылезла з машыны, моцна грукнула дзверцамі, абцягнула кофтачку і першая пайшла да варотцаў, прыпынілася толькі ля ганка, рэзка завярнула галаву, ва ўпор зірнула на Загацкага. Ён вытрымаў яе позірк. Марыя абедзвюма рукамі, тым самым, памятным Загацкаму рухам, паправіла валасы, крыху вінавата і стомлена ўсміхнулася, папрасіла:

— Дай мне вады напіцца і пакажы, дзе твой душ.

Загацкі хуценька адамкнуў хату, адчыніў кран, зліў цёплую ваду. Подбегам знайшоў у гаспадаровай шафе махровае палаценца і толькі тады спахапіўся, што мітусіцца, як лёкай, спаважна выйшаў да Марыі. Яна стомлена сядзела на ганку. Ваду піла прагна, але прыгожа, маленькімі глыткамі, выліла астаткі з кубка і стомлена падзякавала, устала.

— Ты адразу пад душ ці спачатку зробім прагулку на кацеры па слаўнай рэчцы Случы? — запытаўся Загацкі. Яму раптам здалося, што Марыя падзякуе за ваду і пачне развітвацца, і ён заспяшаўся апярэдзіць яе.

— Не, на кацеры ты паедзеш адзін... Ого, і шампунь нават прынёс! Дзякую,— Марыя пільна паглядзела на Загацкага.

Загацкі вярнуўся ў хату, на кухню, нетаропка пачаў рыхтаваць на стол. Перамыў клубнікі, парэзаў свежага сыру, сала, каўбасы. Усё акуратненька расклаў на сподачкі. Зайшоў у залу. Не, зала не спадабалася яму залішняю прасторнасцю і халоднаю акуратнасцю, якая панавала ў ёй. Зайшоў у свой кабінет, паправіў і так акуратна засланую пасцель. акінуў пакой вокам. Тут, за столікам, будзе ўтульна. Падышоў да акна, адчыніў яго, каб праветрыць пакой.

Цёпла і жаўтлява за горадам заходзіла сонца — ляжаў на небе душнаваты, запылены водсвет. Пахла ўгрэтымі за дзень платамі, сценамі, травою і лісцем.

Стаяла спелае лета. І не толькі святочнасцю дагаралі ягоныя вечары, як у маі ці з пачатку чэрвеня, а слабенькаю журботнасцю і трывожлівым непакоем. Густа цягнула ад рэчкі пахам цёплае застоенае вады, аеру.

Загацкі ўдыхнуў вечаровы пах на поўныя грудзі, адышоў ад акна, прыпыніўся пасярод пакоя, нібыта не мог успомніць, што тут трэба яму. Потым схадзіў прынёс сурвэтку, заслаў столік, паставіў ежу, бутэльку з каньяком і маленькія кілішкі-напарсткі, завесіў шторы, уключыў на пісьмовым стале лямпу — даўнюю, з зялёным шкляным абажурам. Мяккае, свежае святло заліло пакой.

Ён быў памкнуўся выйсці насустрач Марыі, але спыніўся, вырашыў пачакаць, каб яна сама ўвайшла ў хату, схадзіў яшчэ раз у залу, знайшоў у шафе гаспадынін цёплы зімовы шарф, занёс яго ў кабінет, пастаяў, прыслухаўся, як ішла Марыя па бетаніраванай сцяжынцы, як нерашуча пастаяла перад парогам, даўгавата, потым адчыніла дзверы ў веранду, бы чалавек, які заходзіць першы раз у чужы дом і няўпэўнены, што хто-небудзь ёсць дома.

Загацкі ўсміхнуўся, слухаючы яе асцярожныя крокі, і, як толькі Марыя павярнула ручку дзвярэй у прыхожую, ступіў наперад, нібыта спяшаўся сустрэць яе.

— Заходзь. Будзь як дома.

— Пастараюся. Толькі мы абое не дома.

— А мы маем такое права — дапусціць, што гэта наш дом...

— Хіба толькі. Як пагуляць на чужым вяселлі. Дзякуй за душ. Я ажыла і памаладзела, як другі раз на свет нарадзілася.

— Прашу к нашаму шалашу!

Загацкі далікатна ўзяў Марыя пад локаць, правёў у адчыненыя дзверы кабінета. Яе мокрыя валасы пахлі свежым рачным водарам. І гэты пах, і дотык да яе рукі хвалявалі Загацкага, як некалі даўно, у юнацтве. І сам ён адчуваў сябе лёгкім і вольным юнаком.

— Госпадзі, Міша! Ты і праўда не роўня другой гаспадыні! Адкуль ты ведаў, што я хачу есці?

Загацкі заўважыў, што Марыя збянтэжылася, але ёй прыемна ягоная ўвага. Нават здалося, яна крышку пачырванела ад задавальнення, асцярожна прысела ў крэсла. І рухі яе сталі мяккімі, жаноцкімі, не тымі рэз-

кімі, начальніцкімі, якія былі раней,— яна міжволі імкнулася падабацца і не заўважала сама гэтага імкнення.

— А дзе ж гаспадары? — запыталася Марыя і хітравата ўсміхнулася, каб і ён бачыў гэтую яе ўсмешку і адчуў, што яна і не спадзявалася застаць тут гаспадыню.

— Калі мы маем на стале вячэру, то цяпер ці трэба тыя гаспадары?

Загацкі ўліў каньяку і запрасіў:

— Калі ласка. За цябе, за маю госцю...

— І за цябе, за нашу сустрэчу.

Марыя выпіла, вінавата нахіліла галаву, як гэта ўмеюць рабіць жанчыны, нібы прасіла прабачэння — бач якая?

— Ой! Мне ж не можна! Я ж за рулём,— спахапілася яна, але ў голасе не чулася сапраўднае спалоханасці.

— Цябе тут уся раённая міліцыя ведае. Хто цябе спыняць будзе і правяраць,— супакоіў яе Загацкі.— Я ж не магу цябе адпусціць не пачаставаўшы. Ды і не ведаю, хто пасмеў бы адпусціць такую жанчыну.

Марыя не падтрымала яго жартаўлівую гаворку, а можа, і не пачула сказанага, пра нешта задумалася.

— Табе не холадна? Ахіліся на ўсякі выпадак,— ён падаў Марыі шаль, знарок не ўстаў, не ахіліў сам, нават быццам бы і не заўважыў, як засвяціліся яе вочы, як асцярожна ахілялася яна шалем.— Хто дома з нашых аднагодкаў астаўся? Як яны жывуць? Я нікога амаль не сустракаю. Сталіца вялікаю стала.

— Нікога не асталося. Аж не верыцца — ні аднаго чалавека. Маладзейшыя ёсць троха. Мы ж тады нейк і папаступалі многія вучыцца ў інстытуты, тэхнікумы, у вучылішчы, на заводы пайшлі... Мая маці паўгода галасіла, як першы раз я не паступіла і ў брыгаду хадзіла. Горшае бяды не было, чым не паступіць ці не пайсці ў людзі,— Марыя холадна павяла плячыма.— І праўда, нудна адной... Самадзейнасць нейкая, танцы. Цяпер з дзесяцігодкі ў Борках васьмігодка стала. У нас у вёсцы... Ты помніш старэнькую пачатковую школу? Яна ж пасля вайны і за клуб нам служыла... Няма яе даўно. Пабудавалі з сілікатнае цэглы новую, цёплую. А дзяцей няма. Закрываць трэба. Ты ні разу не быў у

вёсцы? Многіх хат няма... Аж страшна бывае лічыць — засталіся старыя, адны пансіянеры 3 нашага ўзросту ніводзін чалавек не забудаваўся. Ні адзін. Мы калгасны пасёлак паставілі, домікі са ўсімі выгодамі... Прыязджаюць да нас здалёку, з Палесся, застаюцца рабіць, жыць. Усякія людзі. Ёсць і добрыя, есць і навалач...

— А ты чаму вярнулася ў вёску?

— Я? Не, я не адразу вярнулася... Потым замуж выйшла, па-другому падумалася. Валька Пятрова з табою разам вучылася?

— Са мною. Якая яна цяпер?

— Тоўстая, урасла мясам, што і шыі не заверне, трэба самой укруга паварочвацца. Сам ведаеш, як яна вучылася. Выпхнулі яе са школы... Адным словам, яна цяпер у сталіцы, у паліклініцы ў рэгістратуры. Каторы год сядзіць, капейкі зарабляе, кватэры не мае. Добра, што бацькі яшчэ ліпяць, можа, і пенсію сваю ёй аддаюць. Сустрэла мяне нядаўна. Штаны крымпленавыя ўсперла... Госпадзі! І ты паверыш, мне спачувала, што прападаю я! Госпадзі! — Марыя шчыра і ціха засмяялася.— Сказала я ёй па-добраму: аставайся ты дома, і зарабляць будзеш, і на сваім месцы сядзеш, замуж мо выйдзеш. Пакрыўдзілася яна на мяне. Цяпер, як сустрэнемся, голаў у другі бок адварочвае, нібыта і не бачыць...

Марыя сядзела, цёпла ўтуліўшыся ў крэсла. І нават у зялёным святле было заўважна, як крыху заружавеліся шчокі, разгладзіліся суровыя валявыя маршчыны, што збягалі да вуглкоў губ, мякка, задумліва глядзелі вочы, нібыта зараз бачыла тое, пра што расказвала, ішло яно ў яе перад вачыма, і ўвесь твар яе асвятляўся нейкаю сумнаю, пяшчотнаю ласкавасцю.

Загацкі любаваўся ёю, стараўся, каб не адчула Марыя ягонага ўважлівага позірку. Але яна, мабыць, выключылася з успамінаў, вінавата зірнула на Загацкага і сказала, нібы прасіла прабачэння:

— Якое гэта шчасце — пасядзець хоць часіну вось гэтак цёпла... Госпадзі, заўсёды пачынаеш даражыць тым, чаго не вернеш.

Вусны яе ледзь прыкметна тарганул іся, як ад болю, кароткага, але вострага.

— Можа, тэлевізар уключыць? — запытаўся Загацкі.

— Нашто. Добра і так. Ехаць мне трэба, а я падняцца не магу, прысаладзіў ты мяне.

Яна не ўсміхнулася, а неяк дакорліва паківала галавою.

Загацкі нічога не адказаў, падышоў да акна, зачыніў. Не хацелася, каб ехала Марыя, заставацца аднаму. Ён ведаў, што тут не прыдатны тыя вядомыя яму захады і закіды, якія ён умеў рабіць да жанчын. З Марыяй гэтак нельга было... Але што і як рабіць, ён не ведаў, разгубіўся, бы хлапчук.

Загацкі знарок затрымаўся ля акна, ды гэтак нічога і не прыдумаў, пайшоў да Марыі, адчуваў, што зробіць зараз нешта не тое і не так, як трэба.

Марыя, мабыць, заўважыла перамену, якая зрабілася з Загацкім, запыталася:

— Ты нешта сказаць хацеў?

— Дай ключ ад машыны. Яна не замыкаецца, нельга пакідаць яе на вуліцы.

— Я паеду.

— Ведаю,— Загацкі працягнуў руку.

Марыя павалі ўстала, глядзела ў вочы Загацкаму ўважліва, пільна. Ён зразумеў, што ўсё скончана, гатоў быў праваліцца скрозь зямлю!

Але нічога не здарылася. Марыя павалі, як у сне, падала яму ключы на бліскучым тоненькім ланцужку.

Загацкі не ўзяў ключы, а ўсю Марыіну руку, якая трымала іх, лёгенька пацягнуў яе да сябе. Яна паслухмяна падалася насустрач, задыхнулася ў яго ных абдымках працяглым і ціхім, як стогн, «Госпадзі!», горача, прагна прыпала да яго...

## V

Верхняя палавіна дзверак была знята на лета, Марыю ў адной кофтачцы даймала холадам. За горадам яна спыніла машыну, знайшла за заднім сядзеннем балоневую куртку, але перш чым сесці, прыпынілася перад люстэркам, прыгледзелася да свайго твару, дастала расчоску, памаду, акуратна расчасала валасы, падфарбавала вусны, што рабіла рэдка, звычайна, калі пачыналі сіверацъ, яшчэ раз паправіла валасы. «Дурань!» —

вылаяла шафёра, які прамчаў па дарозе і коратка насмешліва пасігналіў ёй.

Толькі пачалася раніца, нарад не скора. Ехала паволі, роўна, крыху стомленая і сонная — ніяк не магла прывучыць сябе ўставаць рана. Як дзіцяці, хацелася спаць раніцою.

Усміхнулася: як светла, з усмешкаю на твары спаў Загацкі, прыадкрыўшы рот. Успомніла з лёгкаю пяшчотаю і прыкрасцю. Не магла прывыкнуць да чужых мужчын. Хаця яна і ведала, што, маладая, удава, не робіць нічога брыдкага, калі сустракаецца з мужчынамі, якія падабаліся ёй. І сустрэўшы Загацкага, яна перш-наперш здзівілася, які прыгожы мужчына вырас з таго белатварага падлетка, якога памятала. Ён спадабаўся ёй і гаворкаю, і тою стрыманаю ўвагаю, якую ўмеў паказаць ненавязліва — быў прыемным мужчынам, як умеюць быць прыемнымі выхаваныя і вышкаленыя гараджане. Адбіваць яго ў жонкі Марыя не збіралася, пачынаць раман не было калі — жніво на носе. Таму ўстала рана і паехала, пакуль ён спіць, не пакінула нават запіскі. Але нешта яшчэ не супакоілася глыбока ў яе душы.

Марыя прыбавіла хуткасці. Яна навучылася ездзіць, як самавіты шафёр, мела асалоду разагнаць машыну так, каб тоненька, востра заспявалі па асфальце шыны, загудзеў вецер у кабіне, каб пярэднія колы толькі крыху адчувалі дарогу — і ехаць гэтак на той грані, дзе можа раптоўна кончыцца шафёрская ўлада над машынаю, дзе ўсё майстэрства ў тым, каб не разгубіцца з-за якое нечаканасці, не памыліцца. Гэтакая язда супакойвала, бо адганяла ўсе думкі. Марыя называла яе «вентыляцыяй мазгоў».

І цяпер яна гнала машыну па сухой шашы насустрач вёсачкам, са зласліваю радасцю, што людзі яшчэ спяць і ніхто не думае і не здагадваецца, як ляціць яна ў не падуладнай ёй прасторы, бы па напятай нітачцы паміж жыццём і смерцю. І толькі калі паказаўся паварот, выключыла хуткасць, трымала руль адною рукою, пакуль машына ішла накатам, збаўляла хуткасць.

Ад шашы да калгаса вяла гравійка, на якой машыну калаціла, падкідала, і даводзілася сунуцца на другой перадачы, зрэдку ўключаць трэцюю. Праз які кіламетр Марыя стамілася пераключаць перадачы, пры-

тармажваць, уключыла другую перадачу, хуткасць рэгулявала газам, пакорліва пагойдваючыся ўсім целам у лад дарозе, пакуль не пайшла раўнейшая і можна было ехаць нармальна.

Як даехала да палёў свайго калгаса, скіравала на палявую дарогу, якая ішла ўздоўж поля, парослая цыкорыяй, мятлюком, высокім, з пабялелымі сцяблінкамі і жаўтлявымі мацёлачкамі, валошкай паўз самы ячмень. Ячмень ад дарогі рос меншы, але з вялікім коласам, а далей, у полі, пасеў ішоў густы, як шчэць, яшчэ слаба пабялелы вусамі, і шамяткі ўжо.

Марыя ехала да пшанічнага поля, не самага ўрадлівага, якое раскінулася на ўзгорку. І толькі таму, што добра ўрабілі зямлю, навазілі кампосту, угнаенняў, далі і ўраджай — можна мірыцца. Марыя выйшла з машыны. Расы не было. Мякка туліліся да ног «коцікі». Марыя сарвала колас, расцерла, перасыпала з рукі на руку зерне, правеяла яго, роўненька расклала на далоні, нібыта збіралася лічыць, але не лічыла, узяла зерне на зуб, прыжмурылася ўдалечыню, усміхнулася, рашуча вярнулася да машыны, дарогаю заехала на жытнёвы палетак і адтуль паўз калгасны сад выехала да канторы, яшчэ замкнёнае, ад канторы да гаража, дзе павінны быць камбайнеры: заставалася два дні да пробнага выезду, а работы на камбайнах хапала. Ля майстэрань нікога не было. Марыя зірнула на гадзіннік: ішла сёмая гадзіна. Яна выйшла з машыны. З-за гаража паказаўся каваль і пачаў адмыкаць майстэрню.

— Добрай раніцы, Паўлавіч! — павіталася Марыя, падыходзячы да яго.— Ранавата вы сёння...

— Ранавата не ранавата, а першы за ўсіх.

— Бачу, што першы.

— А што, Ігнатаўна? Хочаце, праверце, я яшчэ ўчора ўсе заказы парабіў. Хай камбайнеры прыходзяць, за мною задзержкі не было і не будзе.

Каваль пачаў апраўдвацца, пажылы, негаваркі мужчына з густым рабаціннем на твары, у пабялелай на плячах і пачарнелай спераду ад мазуту спяцоўцы, нарэшце пачырванеў і стараўся не глядзець аграному ў вочы.

Марыя ўсміхнулася. Яна прывыкла, што намнога старэйшыя за яе людзі не адважваліся доўга спрачац-

ца з ёю, падпарадкоўваліся яе волі. І цяпер, уласна, не яе справа, як выконваецца загад старшыні пачынаць рамонт з шасці гадзін раніцы. На гэта ёсць у калгасе механік. Але людзі прывыклі, што аграномцы да ўсяго трэба дапасці, і былі ўпэўнены, што праз два гады, як старшыня пойдзе на пенсію, яна зойме яго месца. Больш падхадзяшчага чалавека і не было.

— А, генеральша, з гуляў звалілася! Нацешылася!..

Марыя сцяла плечы. Яна ведала гэты голас і гэтыя словы, гэтую крыху гугнявую лаянку. Не завярнула галавы да чалавека, старога, сагнутага, у доўгім, да самае зямлі плашчы, з вялікаю кудлатаю галавою, пад маленькаю шапкаю-васьмiклiнкаю.

— Нагандлявалася?.. Можа, здаволілася ўжэ?

Ён смакаваў словы. Яму хацелася, каб яна абазвалася. Тады ён пачаў бы крычаць, пакуль не давёў бы сябе да істэрыкі.

Марыя завярнулася і паволі пайшла да машыны. Яна даўно ўжо шкадавала, што не дала свёкру адразу паварот ад варот. Муж некалі не надта любіў гаварыць пра бацьку: што піў ён многа, біў дзяцей, здзекаваўся з жонкі. Потым, як узраслі абодва сыны і не далі маці ў крыўду, сышоў з дому, бадзяўся па свеце. Пасля смерці жонкі вярнуўся ў пустую хату, пакрысе прапіваў усё, што можна было прадаць. Ён не быў ні на вяселлі, ні на пахаванні сына. Можа, праз месяц з'явіўся абшарпаны, старэнькі, няшчасны, прыгнечаны смерцю сына. Плакаў, што гэта яму пакаранне за грахі, што век сабе не даруе. Скардзіўся, што цяпер няма дзе і жыццё дажыць, бо хата згарэла, спалілі дзеці, забаўляючыся з запалкамі.

Яна дала старому грошай на першым часе, дапамагла застацца вартаўніком на цэнтральнай сядзібе. Праз месяц-два стары аслухаўся, пачаў прапіваць вартаўніцкія грошы, разоў колькі прасіў, а потым патрабаваў у Марыі. Калі ж адчуў, што яна больш нічога не дасць, пачаў пужаць яе судом, бы гэта яна знарок давяла мужа да смерці. Нікуды жаліцца ён не жаліўся, але вырашыў, што яму нічога яна не зробіць, пачаў брахаць.

Заехала ў кантору, зайшла ў свой кабінецік, цесную баковачку, дзе ўмяшчаўся стол, шафа з паперамі і даведнікамі.

Падумалася, што цяга да гарэлкі ў мужа была, мабыць, спадчынная. Гавораць, што дзяцей алкаголікаў таксама цягне на гарэлку. Каб не быў п'яны, не разбіўся б тады на матацыкле. Не, здароваму чалавеку не хапіла б розуму разагнацца і тараніць бетонны электраслуп. Самае страшнае і самае першае, што яна тады ўгледзела, як прыляцела да месца аварыі, яго нагу ў шкарпэтцы і далёка збоку чаравік, а потым, пакуль страціла прытомнасць, яшчэ мільганула ўваччу нешта страшнае, незнаёмае ёй...

Марыя страсянула галавою. Пасля сустрэч з былым свёкрам ёй успаміналася заўсёды тое.

Яна пачула, як ля канторы спыніўся старшынёўскі «козлік». Машыны мелі толькі яны ўдваіх, старшыня і аграном. Выйшла з пакойчыка, сустрэла старшыню ў калідоры. Старшыня не здзівіўся, што яна чакае яго. Стары чалавек, ён навучыўся не гаварыць лішне, а больш маўчаў, прыслухоўваўся, бо пачаў недачуваць, і стараўся не падаваць выгляду, што недачувае. Пра Марыю ён аднойчы пажартаваў: «Каб раніцаю перадалі паведамленне, што яна ў космасе лётае, то я не здзівіўся б. Успее і туды».

— Пятровіч, дакуль гэты.. свёкар мой будзе п'янстваваць? Пакуль п'яны не спаліць гараж? Ці вы нічога не ведаеце?

— Дакладвалі мне, што выпівае.

Старшыня змоўк. І нельга было зразумець, што ён думае.

— Можа, мне з-за гэтага п'яніцы і на цэнтральную не заязджаць? Ці вы думаеце, ён праўду пра мяне гаворыць? Я вам гавару, што нага мая не ступіць на цэнтральную, пакуль ён тут!

— Добра. Адправім яго. Толькі я не разабраўся: ты просіш ці камандуеш мне?

— Прашу. А як жа.

Марыя збянтэжылася. Яна не ўмела гаварыць са старшынёй так, каб браць верх у гаворцы, і гэта злавала яе і бянтэжыла.

— А я ўжо не прашу, а камандую! Цераз тры дні ў нас пробны выезд. Ты гэта ведаеш. Будзе прадстаўнік з раёна. А ў панядзелак мы павінны пачаць жніво і к канцу дня даць зводку, колькі зжалі і колькі намалацілі.

— Усяго толькі? У мяне не пясочкі, у мяне чарназём! На пясочках даўно жаць можна. Я пачну жніво, калі ў мяне зерне гатовым будзе! Я не вінавата, што некаму там хочацца мець прыгожы парадны пачатак, каб паказаць добрую арганізаванасць і падрыхтаванасць да жніва. Мне трэба сабраць ураджай...

— Да, Марыя, у мяне няма пясочку. Таму ў цябе і трэбую поля і на пробны выезд, і на зажынкі. Усё. А ты чаго зранку ўзварушылася? Чаго не спіш з гэтае пары?

— Гэта толькі мой былы свёкар ведае,— нявесела пажартавала Марыя.

— Да, дзеўка, адна ты асталася. Я табе ў бацькі гаджуся... Паслухай, пакуль я яшчэ не на пенсіі, плюнь на ўсё, не разваліцца калгасная работа — знайдзі мужчыну талковага, выйдзі замуж, нарадзі дзіця. Ты ж баба, дзіця табе трэба. А то ўжэ і я прывыкаю, і людзі прывыкаюць, як з мужчынам, з табою гаварыць. Я жыццё пражыў, мілая, хлеб рабіў людзям... Добрая работа, а як пражывеш і агледзішся, то каб не выгадаваў дзяцей, брыдка перад людзьмі было б.

Марыя хацела адказаць жартаўліва-грубавата, але нешта перавярнулася ў душы ад старшынёвых слоў, не магла яна нічога сказаць, бачыла, як і сам старшыня збянтэжыўся ўсё ж, кашлянуў, кіўнуў галавою і пераступіў з нагі на нагу, адчыніў дзверы свайго кабінета.

Марыя зірнула на гадзіннік: да нарада заставалася больш паўгадзіны, выйшла з канторы і паехала дадому. Жыла яна ў новым калгасным пасёлачку, займала асобны з сілікатнае цэглы домік. Як прыехалі сюды з Віцем, пажылі ў бацькавай хаце, пакуль дачакаліся кватэры. Колькі ні перарабляй старую хату, а такой утульнасці, як у сучасным доме, не зробіш. Тут, у новым доме, ужо сам Віця паклаў на падлогу драўлянавалакністыя пліты, пафарбаваў іх, і цяпер падлога блішчала, як люстраная. Ды і агароджа вакол доміка, і асфальтаваныя сцяжынкі, і выкладзеная пліткаю ванная — усё Віцева работа. Кватэра зроблена як лялечка. Толькі збоч хлеўчука зарос быльнікам падмурак на гараж, які цяпер ніколі не будзе пабудаваны...

Марыя зайшла на кухню, запаліла калонку, памылася пад душам, адзелася ў спартыўны трыкатажны касцюм, заварыла чаю, спякла на патэльні яйка, па-

ставіла на паднос, прысела ў зале, утульна прытулілася на крэсле. Уключыла транзістар. Амаль чатыры гады прайшло, як няма Віці, а нішто не перамянілася, не пастарэла ў кватэры, нібы чакала нечага шчаслівага і вясёлага, якое дзесьці затрымалася.

Цяпер, здаецца, і няпраўда, што ім з Віцем зайздросцілі, іх маладосці, дастатку, іхняму каханню. Яна не шкадавала, што пакінула горад, што перамагла Віцю, прывезла яго сюды, што знайшлася і работа яму — брыгадзірам будаўнічае брыгады, і што ён сам перакана́ўся, лепш быць тут добрым работнікам, чым спадзявацца, што стане вялікім архітэктарам. Тое, што хвалілі яго дыпломны праект, нічога не значыла яшчэ, можна было ўсё жыццё згубіць, каб выбіцца ў тыя вядомыя... Ён кахаў яе, і яна ведала, што ён не пакіне яе, зробіць гэтак, як яна хоча... І нічога не сталася з задуманага, ні шчаслівае сям'і, ні дзяцей. Апошні час перад смерцю ён піў, многа, без просыпу, і яна не любіла, ненавідзела яго п'янага, не падпускала да сябе. І ён пачаў раўнаваць яе, п'яны ездзіў следам на матацыкле, урываўся ў кабінет да старшыні, калі яна затрымлівалася вечарам у канторы. Яго знарок падводзілі, і ён верыў пачутаму. І ўжо як наступалі цвярозыя дні, не лашчыўся да яе, стараніўся нават дома, і чэркаў алоўкам па паперы эскізы нейкіх сваіх будынкаў, стараўся, каб яна не ўгледзела іх, ірваў. Яна бачыла, як трымціць у ягоных руках аловак.

У яе ж тады ўсё ішло як найлепш, яе прызналі і пачалі паважаць, а таму і спачувалі і шкадавалі. І яна ўжо крычала на мужа, што з-за яго ёй брыдка перад людзьмі. І ён пакорліва маўчаў, толькі глядзеў на яе журботна, як нешта хацеў зразумець ці сказаць.

Цяпер яна часта ўспаміна́ла гэты яго позірк і думала, што трэба было, каб сказаў ён пра тое, што невыказна было ў яго вачах. Тады ёй не прыходзіла ў галаў запытацца.

І забіўся ён не ў час чарговага запою, а пасля таго, як яны памірыліся і ён зноў хадзіў чысты і прыгожы, і яна кахала яго і лашчыла. Але вочы, вочы яго!..

Экспертыза дала заключэнне, што ён піў перад смерцю. Яна ж ведала іншае: ён за яе каханне адплаціў тым, што забіўся, зламаў ёй жыццё... Яна збіралася з'ехаць адсюль у свет, але старшыня не пусціў.

І пакрысе работа заняла галоўнае месца ў яе душы, дала тую радасць, якая ёсць, калі ты ведаеш, што патрэбны людзям.

Цяпер, калі яна ўспаміналаа той Віцеў позірк, здавалася, вось-вось зразумее, што ён хацеў сказаць, і смутна адчувала, што нечым вінавата перад ім.

Але ішоў год за годам... Можна было даўно выйсці замуж за добрага чалавека, ды нешта нібы застыла ў душы. Ці то быў страх, каб не паўтарылася яшчэ раз сямейнае няшчасце, ці не сустрэла такога чалавека, якому б паверыла? А можа, адчула сябе занадта начальніцаю, якой не ставала часу на сямейныя клопаты?

І нават старшыня не вытрываў, сказаў, што трэба ёй дзеці, сям'я. Абы сказаць ён не мог, меў на гэта прычыну.

Марыя міжволі ўмасцілася на крэсле гэтак, як сядзела ў Загацкага, успомніла тое цяпло шаля, які ён падаў ахінуцца, тую сямейную ўтульнасць у пакойчыку. І тую яго разгубленасць, нейкую безабаронную, калі ён хацеў утрымаць і не адпусціць яе. Бытта адчуў ён яе адзіноту, пашкадаваў і не хацеў, каб яна адчула гэтае ягонае шкадаванне гэтак жа і як яго адзіноту, што хавалася за ўпэўненасцю і спакойнасцю шчаслівага чалавека, які любіць надурыць голаў прыгожай жанчыне. І ў ім жыла тая невыказная туга па шчасцю, якая азвалася і ў ёй...

Мабыць, гэта і прымусіла яе ўстаць і ўцячы раніцаю. Ён жанаты чалавек. Ёй не замахвацца на яго сям'ю. А грэх за гэту ноч яна возьме на сябе.

Марыя рашуча і цвёрда ўстала, прайшла па пакоі, прыбрала на кухні посуд, адзелася, выйшла на двор, села ў машыну, завяла матор.

Яна не спазнілася на нарад, які праводзілі ўлетку ля канторы ў альтанцы, цвёрда і хутка ўвайшла, прывіталася і села побач са старшынёй.

## VI

Загацкі прачнуўся, але не расплюшчваў вачэй, адчуваў, што ўжо раніца і светла ў пакоі, цёплую Марыну шчаку ля свайго плечука і баяўся нават глыбока ўздыхнуць, каб не пабудзіць яе.

Чыста і спакойна, як не жыў яшчэ і не зведаў нічога ў жыцці, чакаў толькі і верыў у шчасце, у доўгі светлы шлях па ім, радавалася душа. І быў далёка недзе, у дзяцінстве, і там лашчыла яго шчасцем раніца.

Загацкі асцярожна павярнуўся, каб пацалаваць Марыю і падхапіўся на ложку, правёў рукою па прасціне, якая не захавала і цяпла Марынага цела. На падушку клаўся вузкі цёплы сонечны прамень.

Ён падхапіўся, выбег на веранду, закружыўся па пакоях, потым вярнуўся ў кабінет, шукаў вачыма запіску. Нічога не засталося. На спінцы крэсла вісеў шаль, стаяла вячэра. Як і не было нікога тут.

Загацкі ўсміхнуўся, сеў на ложак, пагладзіў рукою цёплую сонечную палоску. Недарэчна падумалася, што ніколі так у яго не здаралася. Быццам жанчына сама спакусіла яго, распарадзілася сама. Паволі ўстаў, доўга мыўся халоднаю вадою з-пад крана.

Потым паволі прыбіраў у пакоі, снедаў. Успомнілася, як расказваў Марыі ноччу пра сваё жыццё, бязлітасна, горка, усё, што сабралася на душы, як песціла і суцяшала яна яго ласкаю рук, пацалункамі, як малога, пакрыўджанага... Нібыта жалем да сябе вымольваў яе ласку. Загацкі з прыкрасцю кінуў відэлец на стол, устаў, прайшоў па кухні. Успомніў, што Марыя амаль нічога не сказала пра сябе. А ён!.. З першага вечара!.. Успомніў, як запрашаў яе да сябе, свае кампліменты... І яшчэ распрануўся душою, паплакаў...

Загацкі так адчуў прыкрасць, нібы выйшаў голы на людзі. А ўрэшце, дзяцей ім не хрысціць і не сустракацца кожнага дня, ды і наогул не сустрэцца больш у жыцці. Што было б, каб кожную сустрэчу браць гэтак да сэрца? Ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць.

Знарок бадзёра схадзіў на базар, потым пазваніў у даведачную службу, узяў тэлефон і пазваніў у меліярацыйнае ўпраўленне, запытаў Валошыну.

— А яна на аб'екце. А хто звоніць? Што ёй перадаць? — з клапатліваю цікаўнасцю запытаўся жаночы голас.

— Белы мядзведзь.

— Адкуль? — разгублена азвалася трубка.

— З Палярнага круга. Дзякуй.

— Як?..— не зразумела субяседніца.

Загацкі паклаў трубку, узяў кнігу і пайшоў загараць.

Аднак Марыя не выходзіла з галавы. Не, нешта не гэтак выйшла, як звычайна. Не гэтак... Не прытворная была яе ласка. Ды і сам ён не прытвараўся. Загацкі аж схамянуўся, ясна і дакладна зразумеў, што ўпершыню з чужою жанчынаю не прытвараўся. Але як яна магла вось гэтак узяць і паехаць? Як магла? І ўжо гэтае адно пытанне не выходзіла з галавы, і чым больш думаў пра яго Загацкі, усё больш і больш адчуваў сябе незаслужана пакрыўджаным, і жаданне даказаць, што з ім нельга так, што ён не проста жалем выпрошваў у Марыі ласку, што ён не такі! І яна павінна ведаць гэта. Павінна ведаць!

Яму трэба сустрэцца з Марыяю. Узяць і паехаць да яе. Думка гэтая спачатку здалася нерэальнаю, але чым больш Загацкі думаў пра сустрэчу, верыў, што інакш нельга. Не паедзе ж яна зноў да яго сама, і не будзе ён дзяжурыць днямі ля райвыканкома. І ён ужо думаў, як знойдзе яе, як прыедзе. У вёсцы не ў горадзе, там людзі на віду. А яго старыя могуць і пазнаць...

І Загацкі ўжо чакаў вечара.

Выехаў Загацкі з дому крыху раней, чым збіраўся,— нецярпелася. Суцяшаў сябе, што лепей прыехаць загадзя, каб агледзецца, не блудзіць у поцемках.

Дарогу Загацкі памятаў добра. Да раёна па гэтай дарозе ён не адзін раз ездзіў яшчэ на возе, а потым і на веласіпедзе, самым модным тады транспарце.

Ехаў паволі, прыглядаўся навокал. Што-ніштo перамянілася. У першай ад горада вёсцы паклалі асфальт, ды і сама вёска злілася з горадам, можна лічыць яе гарадскою вуліцаю, каб не маляўнічы шчыт на ўездзе, які гаварыў, што пачынаецца тэрыторыя калгаса, і каб не стандартны дарожны знак з назваю вёскі. За вёскаю ішла памятная Загацкаму гравійка, пры ёй, перад наступнаю вёскаю, высокая старая таполя. Загацкі памятаў яшчэ і другую таполю, якая расла побач і якую разбіла маланка. Ад тае таполі не засталося і следу, ды і гэтая пачала ўсыхаць, толькі самая верхавіна кучаравілася зялёным дробным лісцем. Пад гэтымі таполямі калісьці стаялі лавачка і абгароджаны плоцікам крыж — «святое» месца.

Бацьку Загацкага ўвесь час рупіла перабрацца са Случчыны да сябе на Лагойшчыну. Там у вёсцы ў яго былі два браты. Мацерынае блізкае радні тут не засталося. Бацька яшчэ гаварыў, што ніяк не можа прывыкнуць да гэтага роўнага, як стол, поля.

Ужо на новым месцы, на Лагойшчыне, Загацкі скончыў школу, паступіў у інстытут. Атрымалася так, што і на ранейшую радзіму не вяртаўся, і на новым месцы, у новай вёсцы, амаль не бываў: служыў у войску, потым пасяліўся ў горадзе. Пры бацьку застаўся ў калгасе маладзейшы брат, дапамога бацьку не патрэбна была. У госці прыязджаў. А наогул, лічыў сябе карэнным гараджанінам, мог, стоячы ў чарзе, калі якая цётка некуды спяшала і лезла без чаргі, спадзеючыся, што яе, вясковае бабы, чапаць не будуць, а калі і скажа хто што-небудзь, то з яе карона не спадзе, а час сэканоміць,— Загацкі мог пры такой нагодзе і пажартаваць: «Расступіся, народ! Дзярэўня ў горад прыехала!» Народ расступаўся і без ягоных жартаў...

Спыніўся Загацкі, не даехаўшы свае былое вёскі, на беразе колішняе рэчкі, ля колішняга маладзенькага хвойніку, які цяпер выцягнуўся і стаў светлым гонкаствольным борам з высокімі ад зямлі шапкамі-вершалінамі. Цераз былую рэчку, а цяпер магістральную асушальную канаву зроблены бетонны высокі мост. Загацкі кінуў вокам па шырокай даліне, якая ляжала па абодва бакі канавы, шукаў астраўкі аеру — дзе засталіся глыбокія старыцы. Але да самых канаў ляжала роўнае ўробленае трактарамі бурачнае поле. І ад лагчыны не павявала вільготным водарам, а цёплаю роўнаю палявою сушшу. На тым беразе, на пагорку між пасеянае цімафееўкі, які называўся Палянкаю, роўна браўся ў рост кудлаты хвойнік, гэтакі ж, як быў у памяці на месцы гэтага меднастволага бору, у цяні якога цяпер стаяла машына Загацкага.

Ад моста адна дарога, добра ўезджаная трактарамі і машынамі, ■ глыбокім чорным пылам, вяла ўздоўж берага канавы на поплаў, а другая, зарослая травою, вакол бурачнага поля, паўз жыта — да вясковае вуліцы.

Загацкі ўехаў у вёску з нейкім страхам, быццам ён у нечым вінаваты, яго спыняць, пачнуць распытваць.

Але па вуліцы ехаў нават паволі, лёгка і адразу пазнаваў старыя хаты. Толькі вуліца здавалася вузенькаю. А ўспаміналася шырокаю, і хаты вялікімі і прасторнымі.

Дарэмна Загацкі баяўся, што на яго будуць прыглядацца, пазнаваць. Нікога на вуліцы не было, ніхто цяпер на машыну ў вёсцы не прыглядаецца, да іх прывыклі, як і некалі да трактароў.

У сярэдзіне вёскі Загацкі прыцішыў ход: ён пазнаў новую пачатковую школу, пра якую гаварыла Марыя, стандартны тыпавы будыначак, а далей, за школаю, з таго ж самага боку была і хата, дзе ён нарадзіўся. Рос малады каштан. За каштанам, воддаль ад вуліцы, стаяла новая хата з серабрыста пафарбаваным дахам, сіняю ашалёўкаю, вялікаю верандаю і вясёлымі вокнамі. Хата стаяла раскошна, прасторна, і толькі збоч, пад вокнамі хаты Загацкі пазнаў грушу. Яна пабольшала, пастарэла, але ён пазнаў яе...

І машына пакацілася з узгорка, некалі высокага, з якога яны дзецьмі ездзілі на санках, а цяпер палогага, маленькага. Нібыта час зраўняў, прыгладзіў яго.

Загацкі з палёгкаю расслабіўся ўсім целам, калі машына выехала ў канец, скінуў газ, паглядзеў направа, туды, куды яму трэба было ехаць, дзе за кіламетр віднеўся пасёлак суседняе вёскі і пры ім белыя цагляныя домікі, дзе і жыла Марыя. Сонца ўжо прысела на кароткую часіну на самым крайку далягляду, але святло яго, яшчэ яркае і высокае, стаяла над зямлёю, і Загацкі не адважваўся ехаць адразу да пасёлка, кінуў вокам налева, пад узгорак у поле — можна ехаць да пасёлка і кругавою дарогаю, палямі, заехаць з другога боку, з чужых вёсак.

І рукі адразу ж павярнулі руль улева, але машына ўжо страціла набраны разгон, тарганулася і заглухла. Загацкі хуценька, не выключаў нават перадачу, націснуў на счапленне, завёў матор і з перагазоўкаю крануўся з месца, набіраў хуткасць пад гору.

На гэтым месцы, за яго памяць, ляжала шырокая, утравянелая сценка. Цяпер яе зааралі з двух бакоў, зрабілі звычайную палявую дарогу. З аднаго боку стаяў жытнёвы палетак, а з другога — бульбянае поле. Загацкі з палёгкаю разганяў машыну на поўную хуткасць, з радасцю, што можа вось гэтак імкліва ўрэзац-

ца ў нізкую палявую прастору, на якую пачала апускацца слабенькая вечаровая смуга.

У лабавое шкло, як цалялі Загацкаму ў лоб, хлупка білі буйныя, звешаныя над дарогаю каласы, і Загацкі міжволі ўгінаў галаву.

За палеткам пачаўся невялікі лясок. Паўз яго Загацкі праехаў да лагчыны, не зважаў, што дарога ўтравянела, толькі калі адчуў, што колы мякка садзяцца ў зямлю, пераключыўся на ніжэйшую перадачу, хуткасці не скідаў, прабіваўся ўперад з разгону. Але так і не прабіўся, машына села. Загацкі не вылез з машыны, пагазаваў, паспрабаваў паехаць назад, па старых сваіх слядах.

«Не хапала толькі гэтага!» — Загацкі падумаў пра свой вымушаны палон насмешліва. Ён ведаў гэтае поле. У такую суш адкуль магла тут узяцца гразь?

Загацкі адчыніў дзверцы, ступіў на зямлю. Пад чаравікам мякка чмякнула. Загацкі аж прысвіснуў: направа, далей у лагчыне, роўна ляжала вада, а яшчэ далей, пасярод вады, узвышаўся над возерам востраў.

Не хапала небыту — хадзіць шукаць трактар.

Загацкі ўжо не зважаў на гразь, дастаў з багажніка рыдлёўку, пачаў падкопваць пад коламі. У падкапаныя раўчукі адразу ж набягала вада. Машына крыху набрала раскачку, але і села амаль на жывот. Загацкі разгублена абышоў вакол машыны. Нагнуўся, зірнуў пад ніз: яшчэ крыху сядзе машына — і без буксіра не вылезці, азірнуўся на поле, на лес, за якім чырвона схавалася сонца, лёг ад лесу ў лагчыну доўгі цень. Пахла свежасцю, цёплаю балотнаю вадою, збажынною і хвояй.

Загацкі са злосці даў ногца ў задняе кола, з нейкаю лютаю ўпартасцю падумаў, што выберацца сам і знойдзе Марыю. Знойдзе, хай яна што хоча думае, знойдзе!

Загацкі ўзяў сякеру і пайшоў да лесу, да вербалозавых кустоў, якія раслі з ускрайку. Выбіраў і ссекаў таўшчэйшыя стваліны, галлё, насіў ламачча да машыны, вымошчваў пад коламі.

Потым уключыў хуткасць, прыціснуў ламачынаю педаль газу, вылез з машыны і пачаў папіхаць машыну, разгойдваць яе, пакуль яна, нарэшце, не пайшла, не ўсхапілася на галлё. Тады хуценька ўскочыў у ка-

біну і, стараючыся, каб не зляцець са старога следа, пачаў даваць назад і з разгону вылецеў на сухое.

Тым часам добра ўмеркла, Загацкі разуўся, схадзіў да лужыны, збольшага абмыўся, сеў у машыну і падгнуў назад, да вёскі, старою дарогаю, не даехаў пасёлка, завярнуў на цэнтральную сядзібу ў спадзяванні ўгледзець там Марыю.

Там ужо было бязлюдна, у канторы свяцілася адно акно, але ён не мог зайсці і папытацца пра Марыю. Заляпаны па калені граззю чалавек ні з таго ні з сяго раптам шукае аграноma...

Па дарозе да канторы Загацкі ўбачыў чалавечую постаць у доўгай адзежыне, паволі паехаў насустрач, прытармазіў.

— Дзядзька! А дзядзька! — паклікаў Загацкі, бо чалавек не спыніўся пасля першага воклічу.

Чалавек паволі падышоў да машыны.

— Дзядзька, дзе ваш аграном жыве?

— А вы хіба начальнік які, што на легкавіку? — запытаўся чалавек, адною рукою абапёрся на машыну.

— Начальнік,— коратка адказаў Загацкі. Ён ведаў, што начальнікаў, хоць і невядома якіх, дзядзькі прывучаны паважаць, а таму і гэты раскажа дарогу.

— А вы знаеце, хто я такі? Я свёкар яе. Вы ж нічога пра яе не ведаеце! Яна ж майго сына да смерці давяла! Круціла-круціла светам, што ён на сябе рукі наклаў! Разагнаўся на матацыкле — і ў слуп. Насмерць. Мне нават яна не напісала, як хавалі! Без бацькі пахавалі! Я б яе да суда падвёў! А цяпер я адзін астаўся, без дапамогі, без сына... А яна мне ні грама памагаць не хоча. Я мяшаю ёй зноў, спадніцу задраўшы, перад мужчынамі задам круціць! Ёй нічога не трэба, абы толькі перад мужчынамі круціць...

Чалавек, калі гаварыў пра сына, плаксіва шморгаў носам, спыняўся, каб пачуць ад Загацкага спачуванне. І пад канец гаворкі голас яго аж зазвінеў ад злосці.

— А яна ж парцейная! Хіба месца такім у парціі! Хіба такія могуць людзьмі камандаваць? Я вам пра гэта ўсё напішу ў раён!

Чалавек усё ніжэй нагінаўся да Загацкага, стараўся зазірнуць яму ў твар, каб лепш разгледзець. Загац-

кі ўбачыў яго зарослы твар, пачуў густы смуродны дух, як ад даўно нямытага апуснога чалавека, і пах гарэлачнага перагару.

— У яе трэці домік налева, як уедзеце ў пасёлак... А вы мо не начальнік над ёю, а падгледзець яе прыехалі? — зноў запытаўся мужчына са смакам, бо заўважыў, што Загацкі адхіліўся назад, каб не можна было ўгледзець яго.— То яна вам целевізар да раніцы пакажа...

Дзядзька дробненька захіхікаў, аж нешта заекатала ў яго ўсярэдзіне.

Загацкі адпусціў счапленне, газануў, машына рыўком узяла з месца, і дзядзька не насмяяўся, пайшоў вінтом і, як здалося Загацкаму, ткнуўся тварам у дарожны пыл.

Да домікаў ехаў паволі, быццам яшчэ думаў завярнуць назад. У Марыі тут, аказваецца, і свёкар жыве. І, можа, ёсць чалавек, з якім сустракаецца яна. Што б ён сам рабіў, каб да яго дадому раптам з'явілася якаянебудзь знаёмая? Але ўсё ж паехаў, спыніўся ля трэцяга доміка, глядзеў на шчыльна завешанае асветленае акно. Здрадліва варухнулася думка, што вось зараз убачыць там цень двух постацяў — і ўсё само сабою стане на свае месцы.

Потым вылез з машыны, доўга не мог трапіць ключыкам у замок, прыпыніўся ў варотцах, пайшоў да ганка, перавёў дыханне і не пастукаў у дзверы, папхнуў іх. Дзверы нечакана лёгка і шырока адчыніліся, што Загацкі ледзьве паспеў злавіць і спыніць іх, каб не грукнулі ў сцяну. Асцярожна адчыніў наступныя і ўвайшоў у невялічкі калідор. У куце гарэў таршэр. Марыя сядзела ля журнальнага століка, побач з якім на крэсле ляжаў разгорнуты план калгаснае зямлі. Марыя нешта запісвала ў блакноцік, час ад часу пазірала ў тэлевізар.

Яна не пачула, калі ўвайшоў Загацкі. Твар яе ў халодным святле таршэра здаваўся суровым, стомленаначальніцкім, рухі рэзкія, па-мужчынску ўпэўненыя, і рукавы спартыўнае трыкатажнае рубашкі гэтаксама па-мужчынску закасаны вышэй локцяў. За сталом сядзела другая жанчына, зусім не падобная на тую, што была з ім учора. Загацкаму здалося, што ён памыліўся, зайшоў не ў тую, што трэба, хату.

Марыя крута завярнулася, паглядзела на Загацкага, гэтаксама, нібы не пазнавала яго. І Загацкаму здалося, што яна зараз скажа кароткае: «Вон!», так і не пазнае яго.

— Ты?! — ні то здзівілася, ні то запыталася Марыя, але на твары не заўважылася ні здзіўлення, ні разгубленасці, заставалася тая ж самая начальніцкая ўпэўненасць і незадаволенасць, што ёй перашкодзілі. Яна паволі ўстала, маленькая і зусім не грозная ў кароценькай дзявочай спаднічцы, у шлёпанцах на босую нагу, як школьніца-падлетак.

— Што зрабілася? — запыталася, ступіла насустрач і раптам нібы спалохалася, перамянілася з твару, як штосьці ўспамінаючы, зноў абедзвюма рукамі прыгладзіла валасы.

Загацкі нічога не адказаў. Адчуў, што няма чаго гаварыць. Ён стомлена ўсміхнуўся і паволі зачыніў за сабою дзверы.

— А ты думала, ад мяне гэтак проста ўцячы? — Загацкі збіраўся пажартаваць, прынамсі, сказаць хоць тым жартаўлівым лёгкім складам, як умеў гаварыць, але не пазнаў свой нізкі глухі голас.

— Ну і што? Мы не дзеці з табою.— Голас яе стараўся набраць звыклую камандзірскую ўпэўненасць.— Нам з табою трэба ведаць, што ад дабра дабра не шукаюць...

— Марыя!

Загацкі крыкнуў на яе. Ён адчуваў, што далей яна можа сказаць нешта такое, што паміж імі ўсё скончыцца. Яна аж здрыганулася ад яго крыку, расслабілася, як знясілела, неяк роспачна выдыхнула:

— Госпадзі! Нашто гэта ўсё? — і ступіла насустрач.

Загацкі чуў, як пяшчотна, бы мяккім крылом, гладзіла Марыя яго па галаве, дакранаася пальцамі да твару, да шыі, нібыта старалася запомніць. Ён трымаў яе за другую руку, чуў пад пальцам, як часта пульсуе кроў, і не хацеў прачынацца, успамінаў, як плакала Марыя, як расказвала пра сябе, нібы ў гарачцы шаптала сваё «госпадзі, госпадзі!», уся ягоная, безабаронная. І ён усміхнуўся спагадліва, стомлена.

Прачнуўся ад кароткага пацалунка. Спрасонку здалося, што ў сваёй кватэры, у сваім ложку, і аж сцяўся душою ад гэтага нечаканага пацалунка.

— Мне пара, Міша. На нарад трэба.

Ён пачуў голас Марыі, не расплюшчваў вочы, працягнуў насустрач рукі, пачуў, што яна адступіла.

Загацкі расплюшчыў вочы. Марыя ўжо адзелася, сабралася, і на твары ў яе засталіся і нейкая змучанасць, і радасць, і няўпэўненасць, усё роўна як цяпер, пры ранішнім святле, саромелася ўсяго, што было ў іх.

— Марыя!

— Не. Позна. І ты доўга не будзь. Людзі ж...— яна не дагаварыла і як збаялася, што падумае, быццам праганяе яго, паабяцала: — Я лепш сама прыеду...

Адступіла да парога, махнула рукою, потым прыпынілася, знаёма ўпэўнена азірнулася на Загацкага, нібы хацела нешта ўспомніць, і выйшла. Загацкі заплюшчыў вочы, паляжаў нерухома, лёгкі і ўпэўнены, потым устаў, заслаў ложак, памыўся пад душам, выпіў на кухні прыгатаваны яму чай з бутэрбродам.

Адзенне яго, вычышчанае і адпрасаванае, акуратна вісела на спінцы крэсла, і ён быццам і не здзівіўся гэтаму.

Загацкі замкнуў дзверы на французскі замок, лёгка і ўпэўнена выйшаў да машыны, адамкнуў яе, завярнуўся, выехаў за пасёлак, успомніў пра вартаўніка, вылаяўся, не паехаў праз цэнтральную сядзібу, а завярнуў налева, на новую дарогу, пра якую гаварыла Марыя.

Як вярнуўся дадому, Загацкі яшчэ праехаў да рэчкі, старанна вымыў машыну, каб не засталося на ёй і звання гліны ці гразі, нават памыў гумавыя падсцілкі пад нагамі, пачакаў, пакуль машына крыху абсохла, прыехаў, паставіў яе на двор, сабраўся і пайшоў на базар — да бабулькі купіць свежага малака і яшчэ сяго-таго з правіянту, каб да вечара ўжо больш нікуды не выходзіць з дому.

## VII

Вільготны, туга намыты мылец капусна пахрумстваў пад нагамі, маленькая хваля ласкава і цёпла даставала да ног, і хацелася ісці па ёй бясконца. Сонца паднялося над лесам і прыгравала ў плечы. Марыя

адышла ад вады, села ў мяккі і цёплы пясок, выцягнула ногі, акінула сябе позіркам і ціха засмяялася: успомніла, як прыраўнаваў яе Загацкі да іхняга суседа, маладога хлопца! Марыя зірнула на чырвоную палатку суседзяў, якая прытаілася за ядлоўцам. Насупраць палаткі ля берага стаяла раскладная лодка. Міша не пусціў яе паплаваць учора па возеры з суседам. Марыя засмяялася ціхенька сама сабе: навошта яна гэтаму хлопцу, які прыехаў сюды з нявестаю. Ёй хацелася і сёння крыху пакакетнічаць з суседам — каб бачыць, як хмурыцца, хоць прытвараецца і не падае выгляду, што раўнуе, Загацкі.

Марыя спачатку адмаўлялася ехаць — як гэта ў жніво пакідаць калгас? Каб даведалася, што хто з калгасных начальнікаў зрабіў такое, не дала б спуску... Але паехала. За гэты тыдзень, калі яна кожнага вечара прыязджала да Загацкага, жыла, як у нейкім дурмане: рабіла ўсю сваю работу і міжволі чакала, каб хутчэй скончыўся дзень... Быццам у сне нейкім прыйшло да яе тое шчасце, пра якое марыла, прыйшло яшчэ прыгажэйшае, яшчэ нечаканейшае. І пра гэта нельга было нікому сказаць, гэта трэба было аберагаць ад людзей, як нешта несправядліва прысвоенае, чым нельга ўсё ж не тое што пахваліцца, але і падзяліцца. Гэтае шчасце ў нечым непрымірыма разыходзілася з усім тым, чым яна жыла... Але прызнацца ў гэтым, як ачнуцца ад сну.

Загацкі падрыхтаваў палатку і ўсё начынне, мабыць, таму, што памятаў, як яна расказвала пра сваё жыццё і пра тое, як марылася некалі рабіць такія паездкі сям'ёю.

Ды і сапраўды работа ў калгасе не стане, калі агранома і не будзе які дзень.

На возера прыехалі вечарам, але Адамам і Еваю пабыць не давялося. На тым месцы, якое ведаў Загацкі, стаяла палатка — дапала да гэтага ляснога возера пара маладых масквічоў, Валодзя і Валерыя.

Валодзя дружна ўзяўся дапамагаць Загацкаму ставіць палатку, а Валерыя з Марыяю гатаваць вячэру — масквічы ўжо тыдзень праседзелі на возеры і радаваліся суседзям.

Аб'ядналі за сталом не толькі закусь, але і выпіўку, жартавалі і блазнавалі доўга, Валодзя спакушаў

Марыю паплаваць з ім на лодцы, станавіўся на калена і цалаваў руку. Загацкі Валерыі аддаваў за адзін пацалунак свае «Жыгулі». П'янаватыя, адурэлыя ад вясёласці, палезлі ў лодку і перакулілі яе ля самага берага, вымаклі і толькі тады разышліся спаць, нават не прыбралі вячэру.

Раніцаю Валерыя пабудзіла Марыю, сказала, што яны з Валодзем даўно хочуць на базар з'ездзіць у райцэнтр і рады, што ёсць на каго пакінуць палатку.

Марыя не будзіла Загацкага, устала, прыбрала астаткі ўчарашняга балявання, і ўжо не хацела ісці ў палатку, любавалася возерам і раніцаю і са шкадаваннем думала — як даўно не была вось гэтак спакойна пры вадзе, на сонцы.

Зірнула на палатку, дзе спаў Загацкі, і думкі яе быццам спатыкнуліся,— а што ж далей? Яны абое, як згаварыліся, знарок маўчалі пра будучае, нібы баяліся неасцярожным словам ці намёкам парушыць тое, што мелі, як бытта цяперашняе само сабою прадоўжыцца ў вечнае. І калі часам сядзелі моўчкі, Марыі здавалася, што Загацкі гэтак жа, як і яна, думае пра тое, што будзе, і гэтак жа, як і яна, не можа сказаць нічога канкрэтнага. І, магчыма, уяўляе яе ў горадзе, гэтак жа, як яна яго ў калгасе. Ім трэба інжынер...

Марыя ўстала і пайшла да палаткі, у якой ужо стала душнавата, легла на свой надуўны матрасік, прыціснулася да Загацкага, пацалавала, пачакала, каб прачнуўся, абняла яшчэ мацней...

— А дзе Валодзя і Валера? — запытаўся Загацкі.

— На базар паехалі.

— Так і жывем: к нам людзі з Масквы едуць, а мы на поўдзень. Не знаем, што самі маем.

— А я ўсё роўна хачу на поўдзень. Сесці ў машыну, заехаць на бераг мора. Мабыць, некалі ў кіно нагледзелася, як ён і яна едуць да мора. А табе чаго сама-сама больш хацелася?

— Не помню. Нечага такога... Некалі хацеў геолагам быць. Далёка было ехаць у тэхнікум, у Кіраўскі, пабаяўся, не паехаў. Як вучыўся, думаў, што новую машыну прыдумаю, што і па дарозе ездзіць будзе, і па вадзе плаваць, і лятаць... Хацеў знайсці жанчыну, якую буду кахаць, як ніхто не кахаў яшчэ на зямлі і якая мяне гэтак жа сама будзе любіць...

— Ну а яшчэ?

— Яшчэ? Нікуды не паехаў, машыну не прыдумаў. Цяпер у міністэрстве, з паперамі, ведаю сваю работу, нават перспектыўны малады кіраўнік... У жыцці ўсё намнога прасцей і прымітыўней. І кожны чалавек павінен ведаць сваё месца і на гэтым месцы зрабіць сабе шчасце. Вось і сустрэў цябе...

— Ведаеш, старшыня, стары наш, ён любіць мяне. Гаворыць мне: пакуль я не на пенсіі, замуж выходзь, нарадзі дзіця, а тады ўжо і калгасам за мяне астанешся камандаваць, а то не будзе калі за работаю мужа знайсці. Госпадзі, а я і праўда хачу нарадзіць дзіця! Каб хто пачуў гэта з маіх калгаснікаў! Усе думаюць, што я, акрамя старшынёўскае пасады, нічога не хачу...

— Пакуль дачка меншая была ў мяне, я думаў, што ёсць, нарэшце, адзіная жывая душа, якая мяне любіць, якая не можа без мяне. І гэта шчасце... А цяпер пачала падрастаць, і, аказваецца, сваё жыццё і ў яе...

— Ты не хочаш, каб я нарадзіла дзіця?

— Адкуль ты ўзяла? І што табе ўзбрыло ў галаў? Я ж не доктар. Пара ўставаць, а то няёмка, як прыедуць нашы суседзі, а мы з табою ўсё яшчэ ў палатцы сядзім.— Загацкі сеў, пацягнуўся, што аж хрумснулі суставы.

Марыя глянула на яго, і гаворка пра дзіця здалася зусім недарэчы. Невядома, што пацягнула яе за язык. Загацкі заўважыў гэты яе позірк.

— Пад'ём, пад'ём! — Загацкі схапіў яе за плечы, выпхнуў з палаткі, не пераставаў слакатаць, павёў перад сабою да вады.

— Ой, ненармальны. Пусці! Ой, ну што ты робіш! Баюся! — Марыя круцілася, каб вырвацца. Загацкі знарок упаў на пясок, паваліў Марыю, прытуліў да сябе, пачаў цалаваць, пакуль яна не змаглася і не сцішылася, ляжала, прытуліўшыся да яго, паклаўшы сваю галаву яму на руку. Цёпла і ласкава грэла сонца. Яна слухала, як лёгенька і асцярожна, нібыта хлапчук, які першы раз застаўся адзін на адзін з дзяўчынаю, Загацкі гладзіў яе руку — яна любіла гэтую яго ласку.

— Сёння лашчышся, а ўчора пацалаваць Валерыю — як на мёд,— Марыя лёгенька адапхнула Загацкага.

— Вось угавару і пацалую!

— Я табе пацалую!

— А я цябе пакупаю!

Загацкі ўскочыў на ногі, падхапіў Марыю і панёс да вады.

— Пусці, ой! Купальнік вымачу! Госпадзі! — Марыя заматляла нагамі, старалася вырвацца з рук, засмяялася весела на ўсё возера, як дзяўчынка — звонка і шчасліва.

Загацкі паставіў яе на ногі ля самае вады, не адпусціў, пацалаваў і запытаўся:

— Думаеш, гэтая маладая ўмее гэтак засмяяцца. Я за адзін твой смех не прамяняю цябе ні на кога!

— Знаем, знаем мы вас!

— Думаеш, лепш, чым мы вас? — Загацкі пырснуў на Марыю вады.

— Ой! А вось і табе!

Марыя нагнулася і плюхнула на Загацкага прыгаршчамі.

— Купаць яе! — крыкнуў Загацкі, схапіў Марыю, пацягнуў ад берага. Яна стукала кулакамі яго па плячах, смяялася і крычала, пакуль Загацкі не спатыкнуўся, і яны абое не шухнулі ў ваду.

Марыя адразу ж ускочыла на ногі, каб зноў не схапіў яе Загацкі, кінулася на ваду і паплыла, чула, што Загацкі даганяе яе, але не спяшалася, завярнула і паплыла да берага. Яна не азіралася назад, адчувала, што Загацкі побач, чакала, пакуль ён параўняецца. Вада хатуга абмывала цела, супакойвала і сваёю жывою халаднаватасцю, і мяккасцю, нібыта закалыхвала. І да другога берага здавалася, далёка, а прад імі ляжала бясконцая вадзяная гладзь, якая паблісквала на сонцы, што цёпла грэла ў твар. І калі заплюшчыць вочы, то можна адчуць, як мякка дакранаецца да павекаў ягоная цеплыня.

Загацкі параўняўся, паплыў побач на баку, і Марыя павярнулася тварам да яго. Яны нічога не гаварылі, толькі стараліся, каб плысці суладна, і плылося лёгка, нібыта вада была жывою істотаю, якая злучала іх.

Марыя то заплюшчвала вочы, каб адчуць, як дакранаецца да павек сонечная цеплыня, то расплюшчвала, бачыла, як пяшчотна глядзіць на яе Загацкі і ўсміхалася яму. Яны сплываліся ўсё бліжэй і бліжэй, стара-

ліся, каб не зрабіць лішняе хвалі і не запырскаць адно аднаго.

Марыя толькі ціха і здзіўлена ўскрыкнула, калі Загацкі пацалаваў яе, адчула на сваіх вуснах смак азёрнае вады. І далей зноў паплылі асцярожна, з асалодаю, не заўважылі, што даўно завярнулі ад берага і пераплылі возера, падхапіліся на ногі, калі дакрануліся рукамі да зямлі, спахапіліся. Тая блакітная прастора, якая здавалася бясконцаю, пакуль плылі, цяпер на сонцы здавалася шэраватаю, як і заўсёды робіцца вада ўдзень, пад высокім спякотным летнім сонцам.

Валерыя і Валодзя стаялі на тым беразе і глядзелі на іх. Яны даўно глядзелі і ціха перагаворваліся, Валерыя ківала галавою. Марыі непрыемна стала, што яны глядзелі і гаварылі пра іх, маладыя, сур'ёзныя. Нібы іхнімі вачыма з іхняе маладосці глянула на сябе і на Загацкага.

Валодзя бадзёра махнуў рукою — давайце хутчэй сюды. І Валерыя павольна паўтарыла ягоны жэст.

— Пайшлі. Пераадзецца трэба.

Ім не хацелася ісці на той бераг, з якога яны адплылі.

Шпарка, моўчкі яны вярнуліся да свае палаткі, пераадзеліся ў сухое і пайшлі да суседзяў. Там ужо ля палаткі ляжала разасланая каляровая поліэтыленавая цырата, святочная, яркімі кулястымі кветкамі. Стаялі ружовыя пластмасавыя шклянкі з малаком, вялікая чырвоная міска, поўная буйнае клубнікі, якая туга паблісквала на сонцы. На чыстым белым лісточку ляжаў парэзаны свежы клінковы сыр, на сподачку масла, нарэзаны акуратнымі лустачкамі батон.

Марыя глядзела на Валерыю, даўганогую, доўгавалосую, на яе мяккія, як у вадзе, павольныя рухі, адчувала нейкую сваю пабляклasць побач з ёй, з яе маладосцю. Яны з Загацкім здаваліся нейкім далёкім ценем Валодзі і Валерыі, якім, мабыць, смешна было глядзець, як дурэлі яны і цалаваліся ў вадзе.

— Калі ласка, Марыя Іванаўна, я ваш кавалер.

— А я Валерыі сёння падару «Жыгулі»!

Валерыя ветліва ўсміхнулася.

— Міхаіл Міхайлавіч, наліце Валерыі,— перадаў Загацкаму бутэльку Валодзя.

Учора вечарам яны былі проста Марыя і Міша. Марыя падумала, што цяпер, пры сонцы, нельга не зваць іх па бацьку.

— Ну што ж, вып'ем за гэтае слаўнае, неабтоптанае цывілізацыяй лясное возера, за вашу слаўную зямлю, за ваш слаўны народ, за наша знаёмства,— падняў тост Валодзя.

— Марыя Іванаўна, вам бутэрброд, калі ласка.— Валодзя гаварыў жартаўліва. І Марыі здавалася, што яму крыху няёмка сёння, учора яны абое дурэлі, як маладыя, як дзеці.

— Дзякуй, Валодзя.

— Міхаіл Міхайлавіч, вы ж мяне абкорміце. Прападзе мая талія... Вы на батон мне тыднёвую норму масла намазалі.

— Маслам Валерку не сапсуеш,— пажартаваў у адказ Загацкі. Ад гэтага яе Міхаіла Міхайлавіча ён не адчуваў сябе старэйшым, прывык, каб так гаварылі да яго. Марыя зразумела гэта.

— У вас тут цудоўныя людзі. Мы першы год сюды прыехалі, паглядзелі... Народ, які сапраўды многа пакутаваў. Многа...

— Валодзя, ты раскажы ім пра бабку з базара,— Валерыя далікатна перавяла гаворку на другое, узяла ў два пальцы са свайго сподачка буйную ягадку.

— Ну, гэта класічна! Класічна! — Валодзя ўсміхнуўся, стрэльнуў вачыма.— Падыходзім мы да бабкі... Гэтакая старэнькая, у белым фартушку — ну адуванчык божы. Масла, дзетачкі, купляйце, свежае...

Валодзя загаварыў нараспеў і танчэйшым голасам. Але ён не ведаў беларускае мовы і падладзіцца пад яе не выходзіла.

— Дзе ж ваша масла, бабка, кажу. Паказвае. А яно... поўны дзіцячы гаршочак накладзена. Пытаюся, ці купляў хто ў яе. Не куплялі. Гавару, бабка, ніхто і не купіць, бо ў гэтую пасудзіну не масла кладуць, а дзяцей на яе садзяць...

Валодзя ціха засмяяўся, далікатным і кароткім смехам яго падтрымала Валерыя.

— Пакрыўдзілася на мяне бабка. Абы-што гаворыш. Паглядзі, якая чыстая, эмаліраваная пасуда. Ці ж я дурная, каб дзіця на яе садзіць. Ведзер старых колькі хочаш... Класічна!

Засмяяліся Марыя і Загацкі разам з маладымі з тое бабулькі...

— Вы доўга тут будзеце? — запыталася Марыя першае, што прыйшло ў галаў, бо адчувала, што не выходзіць сёння гаворка за сталом.

— Тыдзень засталося. Яна ў мяне таваравед, на работу трэба,— кіўнуў Валодзя на жонку і дадаў: — У мастацкім салоне... Так што вы правядзеце нас.

— Не, мы сёння пасля абеду паедзем,— адказала Марыя, перахапіла здзіўлены позірк Загацкага: яны меліся пераначаваць яшчэ ноч, але цяпер яна ведала, што свята скончылася і трэба ехаць.

— А, вы на выхадны,— здагадалася Валерыя.

Трэцюю чарку Валодзя падняў за здароўе сям'і Загацкіх, і Марыя і Загацкі хуценька падзякавалі. Іхнюю збянтэжанасць заўважыла Валерыя, дакорліва глянула на мужа, які ўжо не надта заўважаў, але Загацкага называў Міхаіл Міхалычам. Потым яны адышлі да Валодзевага «Масквіча», Загацкі нешта расказваў яму.

Марыя памагла Валерыі памыць посуд. Цяпер ёй здавалася, што яна і сапраўды быццам бачыла Валерыю дзе-небудзь у сувенірным аддзеле якога ГУМа.

Стомленыя гарачынёю і выпіўкаю, пакупаліся і палезлі ў палаткі спаць.

Марыя адчувала, што Загацкі пакрыўдзіўся на яе, хоць і не падаваў выгляду. Падумала, што ўсё ж не трэба было ехаць ім сюды.

Раптам кальнула думка, што таго маладога шчасця, якое было ў яе з Віцем, не паўторыцца, бо з гадамі адышло самае светлае цяпло душы, што шчасце ёсць кожнага дня ў жыцці новае, сваё...

Выехалі з возераў пасля абеду. Сама прыпякала сонца, і паветра аж мроілася, пабялела, выліняла неба. Па полі збоч дарогі ішоў камбайн, вёў за сабою слабенькі белы след пылу, і не верылася, што на ім, гэтакім гарачым, як патэльня, можа сядзець чалавек.

Марыя ведала, што гэта толькі з машыны здаецца, быццам няма ветру. У полі ён ёсць. Яна скоса зірнула на Загацкага, які засяроджана глядзеў на дарогу.

Ёй трэба было загаварыць да яго, не маўчаць. Але думалася не пра тое, што сказаць, а пра той нейкі гар-

кавы асадак на душы, які пакінула гэтая паездка, быцам яна нечым прыгняла Марыю, нейкаю фальшывасцю. І Марыя амаль адчувала ўсёю істотаю гэта — як з халаднаватае, тугое вады заплыла ў меленькую, ілістую...

Яна прытулілася плячыма ў куточак між спінкаю сядзення і дзверцамі, каб не гэтак даставала сонца, нібы драмала, толькі зрэдку паглядала на Загацкага, які апусціў сонцаадбіўны шчыток, крыху нахіліў галаву, і цень ад шчытка закрываў вочы і дзяліў твар на чорную і белую палавіны. Ехаў ён хутка, але ўпэўнена, чыста, нідзе не выходзіў адчайна на абгон, ні на паварот.

— Ты многа ездзіш на машыне? — запытала Марыя.

— Не, не вельмі.

— Прафесійна едзеш.

— Я ўсё ж аўтамабіліст. З дыпломам.

— Нам таксама інжынер патрэбен.— Марыя падумала, каб у калгасе быў талковы інжынер, і старшыні, і ёй намнога б менш работы заставалася.

Загацкі не завярнуў галавы да Марыі, глядзеў на дарогу, над якою трымцела, цякло паветра, усё роўна як нябачным полымем гарэў і дыміўся асфальт. Ён злаваў на Марыю, здавалася, не за тое, што сарвала яго з возера, а за тое, што зрабіла гэтак, каб не было яму як запярэчыць. Так рабіла заўсёды Загацкага жонка, калі хацела зрабіць па-свойму і ведала, што яму гэта не па душы, але не хацела зважаць на яго. Пачынаць сварку з Марыяю, як з жонкаю, ён не мог.

— Слухай, а што гэта за стары ў вас на цэнтральнай? — запытаўся Загацкі, каб не маўчаць.

— Адкуль ты яго знаеш?

— Я ў яго пытаў дарогу тады...

— І што ён гаварыў? — Марыя выпрасталася.

— Чым ты яму дапякла?

— Няма яго ўжо ў нас.

— Правільна. З такою мордаю толькі пад мостам сядзець.

Марыя паглядзела на Загацкага, як хацела здагадацца, ці ўсё сказаў ён, пачутае ад старога? Але Загацкі прыжмурана глядзеў на дарогу. Ён цяпер падумаў, што стары, мабыць, нешта ведаў... На такую жан-

чыну ахвотнікі заўсёды знойдуцца. Ён стараўся заглушыць у сабе жаданне запытаць, ці былі ў яе мужчыны да яго, ведаў, што, калі і былі, гэта нічога не азначае, не ведала ж яна пра яго, пра Загацкага... А можа, і чакала такога, каб аблапушыць, нарадзіць дзяцей і камандаваць, рабіць па-свойму, як зрабіла сёння?

Загацкі зірнуў на Марыю, нібы спалохаўся, што яна пачула яго думкі, але яна сядзела з заплюшчанымі вачыма, як драмала ўсё роўна, і здалася Загацкаму худзенькаю, стомленаю, і ён пашкадаваў яе: сам ён стаміўся, мужчына, а што казаць пра яе, жанчыну, якая з цямна да цямна на рабоце.

Як прыедуць, ён прымусіць яе легчы спаць, і з гэтаю цёплаю спагадаю да Марыі ўехаў у гарадок.

У гарадку было зусім душна, і пакуль даехалі да хаты, рубашка на плячах у Загацкага стала мокраю, хоць выкручвай.

Покуль Загацкі заганяў на двор машыну, Марыя адамкнула хату, і калі ён увайшоў, гаварыла па тэлефоне. Загацкі не стаў слухаць, выйшаў на двор, спаласнуў твар вадою з рукамыйніка, цёплаю, як з лужыны, выцерся прыполам рубашкі.

— Міша, мне трэба ў калгас!

— Перавярнуўся ён такі ўверх нагамі без цябе!

Марыя не заўважыла здзеклівасці ў ягоным голасе.

— Старшыня захварэў.

— Ну-ну...

— І трэба мне было якраз з'ехаць! Паехалі, Мішачка!

Яна пайшла адчыняць вароты.

Загацкі замкнуў хату, цераз плячо бачыў, што не сядзелася ў машыне Марыі.

Да вёскі Загацкі гнаў машыну, Марыя расказвала пра старшыню, пра тое, колькі работы, што не хапае нейкіх там запасных частак да камбайнаў... Ён ківаў галавою, спыніўся ля пасёлка. Марыя нахілілася, пацалавала ў вусны скорым пацалункам.

— Я пазваню табе і прыеду, як разбяруся крыху...

Загацкі крута завярнуў машыну назад, у люстэрку бачыў, што Марыя не азірнулася на яго — спяшала да работы.

Да горада Загацкі ехаў спакойна, пакрыўджаны,

думаў, што ўсе жанкі роўныя,— абы выйсці замуж. Нават зялёненькае дзяўчо, падлетак, і тая какетнічае і, хоць падсвядома, але хоча, каб прысвоіць таго, хто спадабаўся, выйсці замуж...

Нага аж сама сабою адпусціла акселератар, і машына ледзь не заглохла: Марыя даволі ясна сказала і пра дзіця, і пра інжынера ў іхнім калгасе! Загацкі газануў, машына моцна затузалася, пакуль набрала хуткасць, толькі тады ён прысвіснуў — уявіў сябе бацькам, у якога сын гадуецца на раёне, і пра гэта даведаліся на рабоце... «Кось, кось, пакуль не ў аглоблі!» — зласнавата падумаў пра Марыю.— «Толькі не хватала пасвіць калгасных трактарыстаў».

Але пакуль даехаў да горада, крыху супакоіўся, адступіла злосць на Марыю. Ён адчуваў, што каб засталася яна ў яго, усё было б добра, ніякае крыўды. Ды і не выдавала яна на шантажыстку, не тая натура, гэта са злосці ён гатовы быў выдумляць альбы-што.

Загацкі не паехаў адразу дадому, завярнуў у бакавую вулачку да атэлье пракату, выгрузіў з машыны ўсё турысцкае начынне.

— Ужо і назад? — здзівіўся тоўсты, нізкага росту, з адышкаю мужчына, адзеты ў вайсковы кіцель і рубашку пад гальштукам, вузялок якога быў дачарна зашмальцаваны падбароддзем. На стале, за якім ён сядзеў, пад шклом ляжала парыжэлая ад пылу і сонца старонка раённае газеты з фотаздымкам мужчыны.

— Ці мо не выйшла паездка? — стараючыся спачуваць, запытаўся мужчына і прыглядаўся да надуўных матрасікаў, бы хацеў нешта ўгледзець на іх.

— Выйшла, выйшла! — Коратка кіўнуў Загацкі. Гаварыць яму з мужчынам не хацелася, а таму, мабыць, карцела выпытаць: хто ён, Загацкі, дзе працуе?

Машына нагрэлася на сонцы, усярэдзіне душна пахла нагрэтымі сядзеннямі.

Загацкаму хацелася ў душ, у хатні халадок, падумаў пра Марыю, якая цэлы дзень будзе пыліцца па калгасе ў гэтую гарачыню, калі і праўда захварэў старшыня, цягнуць усю работу...

Але чаму яна сказала пра дзіця і пра тое, што ім патрэбен інжынер? Проста так... Але чаму?..

## VIII

Загацкі спачатку не звярнуў увагі на шэрую «Пабеду», якая стаяла на вуліцы. І толькі калі пад'ехаў да самае свае хаты, убачыў, што машына стаіць якраз перад варотамі на яго двор. Цяпер ён і машыну пазнаў: гэтая «Пабеда» была ў яго саслужыўца Дворніка, чалавека пажылога, лысаватага. Каб замаскіраваць лысіну, валасы ён зачэсваў на яе ззаду, але іх засталося гэтак мала і гэтакія яны былі лёгенькія, што вечна пушыліся. Дворнік многа гадоў працаваў у аддзеле, чалавек не дурны, ведаў справу. Але яго недалюблівалі. Меў ён прывычку ўткнуцца ўсюды, каб усё ведаць. І гэта рабіла часта Дворніку шкоду, бо ён не мог, каб змоўчаць пра тое, што ведаў. Мабыць, з-за свайго доўгага языка ён не пайшоў угору па службе, засеў у радавых супрацоўніках, пакрысе абламаўся, абцёрся, змірыўся з роляю няўдачніка, стаў надакучлівым і не крыўдзіўся, калі яго ў адкрытую «адшывалі» ад кампаніі, быццам бы раўнадушна адыходзіў убок. Худы, як аполак, ён пастаянна жаваў з кулака, і гаварылі, што ў сумцы ў яго заўсёды ляжыць паўбатона. Акрамя ўсяго, Дворнік апошнім часам стаў чалавекам, які найбольш шанаваў сваё начальства. Уголас і дзе трэба і не трэба расхвальваў яго, да таго, што ўрэшце і само начальства старалася абыходзіць Дворніка, але калі трэба было даведацца, што робіцца ў аддзеле, то начальства выклікала да сябе Дворніка. І ён падрабязна даваў інфармацыю. Калі начальніка паніжалі або звальнялі, Дворнік гэтак жа, як некалі пра дабрачыннасць, пахіхікваў і расказваў і пра грахі, і пра грашкі былога начальніка, пахвальваў новага...

У Загацкага зрушылася з месца сэрца — проста так Дворнік сюды не мог прыехаць. А калі ўгледзеў жонку, якая важна і паволі патупвала па двары, зразумеў — дайшло ўсё ж да горада, нехта паспеў данесці, і Дворнік не прамінуў, каб не дапамагчы жонцы і заадно не паглядзець усю камедыю. Гэтак памагаць ён любіць і ўмее.

Загацкі адчуў, што на лбе выступіў халодны пот: каб раней за нейкую гадзіну Дворнік прыехаў, Загацкі быў бы тут з Марыяй!

Паволі, як не сваімі нагамі, Загацкі выйшаў з машыны, зачыніў дзверцы і невядома чаму пачаў замыкаць іх.

— О, Міхайлавіч! — радасна згледзеў яго Дворнік.

«Каб ты за ноч па пяць раз кукарэкаў!» — вылаяўся Загацкі і пайшоў на двор.

— А як гэта цябе, Дворнік, сюды прыперла нялёгкая?

— А мне што, Міхайлавіч? Ці каго пастаронняга везці, ці вашу жонку...

Дворнік у выхадныя дні падзарабляў грошы, ездзіў за таксі і не ўтойваў гэтага на рабоце. На старую яго «Пабеду» не надта звярталі ўвагу — па цяперашнім часе прамышляюць больш на «Жыгулях», «Волгах» ці на новых «Масквічах». Хто будзе садзіцца ў старую чарапаху. Цяпер, калі ехаць, то са свістам. Але ж на старой «Пабедзе» стаяў магутны «волгаўскі» матор.

— Ой, як ты, Міша загарэў! — жонка ступіла насустрач, усміхнулася, пацалавала Загацкага, склаўшы трубачкаю і выгнуўшы губы.

Кожнага разу Загацкі баяўся, што яго скалане ад гэтага прытворнага, халоднага пацалунка, і добра, што яны здараліся рэдка. Але, тым не менш, гэта абазначала, што сваркі не будзе, наадварот, жонка задаволена Загацкім, што здаралася, напрыклад, калі ён вяртаўся дадому ў дзень палучкі... І яшчэ былі не традыцыйныя прычыны, калі яна лічыла, што павінна ашчаслівіць свайго мужа пацалункам...

— Стараюся загараць.

— А дзе ж той катэр стаіць? Ты ж гаварыў,— запыталася жонка. Загацкі хацеў павесці жонку і Дворніка, паказаць, але ўспомніў, што жонка жартаў не разумее. Ну а Дворнік... няхай разнясе па знаёмых, што Загацкі сапраўды і катэр меў.

— Гэта далёка адсюль. Там гараж на вадзе.

— Вера Антонаўна, вы ж не цягнеце, вы самае галоўнае скажэце,— Дворнік жаваў шчаўе, жменьку якога трымаў у руцэ, шаноўна стаяў збоку.

— Праўда, Міша! Цябе назначаюць загадчыкам аддзела!

— Ды ну! А Каляду куды?

— Каляда наш вышэй пайшоў...

— Адкуль ты ведаеш гэта?

— Што вы, Міхаіл Міхайлавіч? У нас ужэ ўсе пра гэта ведаюць! Засталася толькі фармальнасць... Ну а хто ж у нас яшчэ? Гаварушка? Ён спецыяліст неблагі, але ж ад прыроды чалавек тупы...

Дворнік збіраўся даць зараз атэстацыю ўсяму аддзелу, каб даказаць, што ніводзін з іх не варты Загацкага.

— Ладна!..— Загацкі незадаволена махнуў рукою, і Дворнік адразу ж і пакорліва сціх.

Загацкі, па праўдзе кажучы, і сам ведаў, што яго кандыдатура як найлепш падыходзіць на пост начальніка, і нічога дзіўнага, што яго назначаць... Але цяпер, пасля перапалоху, які яшчэ, як халодная ільдзінка, раставаў у грудзях, хацелася сарваць на некім злосць, а не радавацца.

— А ты, Вера, як надумалася ехаць сюды? — запытаўся Загацкі ў жонкі.

— А ты што, не рады? То я і назад паеду.

Крыўдзіцца яна ўмела і адварочвацца задам.

— Я не кажу... Напісаць ці пазваніць магла. У мяне і хлеба няма...

— Я сама тут разбяруся. Дзе ў вас магазін? Дай мне якую сетку. Валера Якаўлевіч паможа мне.

Жонка сёння не збіралася гневацца ці абурацца.

— Вядома, Вера Антоўна. Можам і на машыне пад'ехаць да базара.

— О, праўда!

Загацкі адамкнуў дзверы, даў поліэтыленавую белую карзінку. Ён пастаяў на парозе, пакуль жонка ўлазіла ў Дворнікаву машыну. Калі меркаваць па тым, што Дворнік возіць ягоную жонку, Загацкі і сапраўды атрымаў павышэнне па службе.

Ён стомлена, з палёгкаю выдыхнуў, пакруціў галавою, хуткім крокам увайшоў у хату, зірнуў на кухню, потым у кабінет. Там, на канапе, ляжалі дзве падушкі. Загацкі падхапіў падушку, занёс у залу, прайшоў, уважліва прыглядаўся, ці не засталося яшчэ чаго Марынага ў хаце. І толькі пасля выйшаў, загнаў на двор машыну, схадзіў пад душ.

Праз паўгадзіны жонка вярнулася з Дворнікам з базару, знайшла на кухні гаспадынін фартух, падперазалася ім. Загацкаму і Дворніку загадала абарваць клубніку на градзе, а то ўсё роўна прападзе, асыплецца, пакуль вернуцца гаспадары.

На кухні варылася трохлітровая каструля шчаўя, на патэльні пякліся катлеты, адначасна на талеркі наразаліся і каўбаса і бекон, нібыта збіралася на цэлую бяседу ці карміць брыгаду касцоў.

Загацкі ведаў, што ўсяго яны не сумеюць, каб і хацелі з'есці, паставіў на стол каструльку, поўную клубнікі.

— Можа, пайсці каго з суседзяў пазваць?

— Нашто?

— Ну, каб памаглі нам з'есці ўсё гэтае дабро.

— З'ясі і сам. Баюся, каб ты тут не пахудзеў.

Жонка сёння была сама ласкавасць. Яна падалася насустрач Загацкаму. Той адступіўся назад, нібыта што пільнае патрэбна было рабіць на двары. Ён ведаў гэтыя яе прыцісканні, па-мужчынску грубаватыя і зразумелыя. Цяпер, пасля сустрэч з Марыяю, ён маліў бога, каб жонка не лезла да яго, не ціскалася.

Загацкі прыпыніўся на парозе, паглядзеў, як Дворнік абрываў клубніку. Рабіў ён хутка, абедзвюма рукамі, нібыта даіў карову. Адну ягаду кідаў у рот, другую ў кошык. І не памыляўся, як машына: адну ў кошык, другую ў рот, адну ў кошык, другую ў рот. І пакуль не абарве ўсю клубніку, не разагнецца. Гэта ж табе не купляць, а бяры і дзякуй няма каму гаварыць.

— Дворнік! — паклікаў Загацкі спакойным голасам.

Дворнік адразу ж выпрастаўся, пакінуў карзінку і ступіў крок да Загацкага.

— Ладна, пасля,— Загацкі так і не знайшоўся што сказаць, і невядома, навошта было клікаць Дворніка, але ён усміхнуўся сам сабе, прайшоў па двары.

Дворнік завіхаўся, абіраў клубніку.

Добра, што Марыя паехала. Каб на нейкае паўгадзіны. Яна як чула душою... Вось тады было б яму павышэнне! І цяпер думалася пра Марыю з пяшчотаю, забылася ўсякая крыўда і падазрэнні.

Загацкі з палёгкаю ўздыхнуў. Не, у ягоным узросце ўсё не так проста. Не так проста, як гэта здаецца. «Калі атрымоўваеш уладу, то траціш сваю незалежнасць»,— успомніў Загацкі нядаўна вычытанае, прымераў гэта на сябе: цяпер сапраўды яму трэба глядзець, не забываць, што чалавек ён навідавоку.

— Дворнік,— зноў паклікаў Загацкі.— А вы даўно прыехалі сюды?

— Не, Міхаіл Міхайлавіч. От толькі пасядзелі на двары.

Дворнік аблізаў чырвоныя ад клубнічнага соку губы.

— А як гэта ты надумаўся ехаць сюды?

— Я сюды часта прыязджаю. Тут жончын брат жыве. А базар намнога дзяшоўшы. Не палянуйся, паедзь па вёсках, як вішні спеюць ці яблыкі,— за бясцэнак набярэш. Людзям няма дзе дзяваць, як тут гаворыцца, свінні яблык не з'ядаюць. Дзе тая старая палезе на вішню, абіраць яе будзе? Лезь, абірай, а то шпакі атаўкуць, нічога не астанецца... Гэтаксама і бульбы тут можна лепшае купіць, і грыбоў сушаных... Я ў Мінску на Камароўку цяпер рэдка калі і заязджаю. Абдзіраюць там цябе, як ліпку. А на машыне праехаць да райцэнтра — культурны адпачынак. Жончын брат тут жыве. Ён на базе робіць... Дык і касцюм які ці што дастаць — люба-міла. Зойдзеш, выбераш. Я вас пазнаёмлю некалі. Во мужык! Ён так жыве, як міністр які.

— Ты пра гэта Веры гаварыў?

— Гаварыў. Ды і сам думаю заеду, парадую вас.

— Ясна.

Цяпер прычына жончынага прыезду пачынала праясняцца: калі Дворнік сказаў ёй, што ёсць у яго добрае знаёмства на базе, то гэтакага варыянта яна не магла прапусціць — трэба было, як гаварыла яна, нешта купіць. Дворнік рады быў служыць жонцы будучага начальніка...

— Давай, абрывай ягады, пакуль жонка за стол не заве. Ты калі думаеш на работу назад ехаць?

— Заўтра ж на работу...— адказаў Дворнік.

— Нічога, зранку можна падняцца і запраста даехаць.

— Яшчэ здаравей будзе, чым удзень па гарачыні пячыся,— ахвотна падхваціў Дворнік.— І Вера Антоўна гаварыла, што заўтра лепш будзе раніцаю. Ёй жа таксама на работу.

Дворнік не хаваў свае ліслівасці, ён усё роўна як незнарок паказваў яе — вось, маўляў, я падлізваюся да цябе і не саромеюся.

Загацкі завярнуўся і пайшоў у хату.

Там ужо на кухні, пры адкрытым акне, жонка ставіла на стол. Яна лічыла, што сваёй кампаніяй можна і на кухні гасцявацца, бо ў залу толькі лішняя работа насіць пасуду.

— Міша, ты вазьмі бакалы і чаркі спаласні пад вадою,— скамандавала яна, бо ўбачыла, што Загацкі ўзяўся за бакалы і збіраўся памыць іх.

Загацкі прамаўчаў. Яна ведала, што ён не любіць гэтага камандавання пад руку.

Сёння яму не хацелася сварыцца. Тое, што жонка прыехала не правяраць яго і што нічога не мянялася ў іхнім жыцці, супакоіла, не настройвала агрэсіўна ні супраць яе, ні супраць Дворніка.

Вячэралі шчодра. Не порцыя стаяла перад кожным, а гара катлет на талерцы. Вера цвёрда ведала, што калі ў цябе за сталом чатыры чалавекі, то трэба, каб пададзена было сама меней на шэсць, па прынцыпу, хай лепш застанецца, чым мала будзе.

Першы тост Дворнік падняў за Загацкага, пажадаў яму поспехаў. Ён, мабыць, не прывычны быў да спіртнога, бо пасля другое чаркі пачаў п'янець, старанна еў, а пасля памкнуўся расказваць анекдоты, пачынаў два, але толькі як даходзіў самага цікавага, да паваароту, забываўся, бяссільна стараўся ўспомніць. Вера смяялася не з анекдотаў, а з таго, як Дворнік расказвае іх. Загацкі таксама пасмейваўся, падліваў у чаркі. Вера падміргвала яму, каб сам лішне не піў. Загацкі адчуваў сябе весела, выпіўка не брала яго, не туманіла галаву.

Пасля чацвёртае чаркі Дворнік раптоўна ацяжэў увесь, жывыя яго вочы ўпарта спыніліся, нібыта цяжка стала варочаць бялкамі, твар пачырванеў, і, здалося, пакруглеў, распух.

— Ну, раскажы, Дворнік, нам анекдот,— папрасіў яго Загацкі і падміргнуў жонцы. Тая ўсміхнулася, уявіла, як будзе цяпер, калі ледзьве паварочваецца язык, расказваць Дворнік.

— Анекдо-о-от? — перапытаўся Дворнік, паварочваючыся да Загацкага ўсім тулавам, бытта перастала ў яго паварочвацца шыя.

Вочы ў яго пачырванелі. Ён глядзеў на Загацкага, але, мабыць, не бачыў яго.

— Барахло!.. Усё барахло! Я жызню пражыў, усяго пабачыў і ўсё ведаю! Думаеце вы, Дворнік дурань! Думайце... Сядзіце, цярпліва праседжваеце штаны, чакаеце, каб вам, харошанькім, яшчэ адну пасаду падарылі. У-у! Бездар! Я некалі чэснаю службаю ў начальнікі выслужыўся... А вам усё пахадзя даецца! Дворніка вы ненавідзіце? А без Дворніка вы ні адзін не абыдзецеся... Ні адзін, як ні грэбуеце ім!.. Дворнікі вечна будуць жыць, пакуль вы будзеце. Барахло!

Дворнік хіснуўся да Загацкага, паківаў пальцам, але не ўдзержаўся, хіснуўся і тварам ледзь не сунуўся ў сваю талерку.

Загацкі падхапіў яго. Вера весела зарагатала, прыгаворваючы:

— Ой, умора гэты Дворнік! Ой, хто б падумаў!..

— Пасмейся, пасмейся з Дворніка! Я ўсё некалі сабяру! — мармытаў Дворнік.

— Ладна, давай на бакавую!

Загацкі выцягнуў Дворніка ў веранду, паклаў на канапу. Той доўга і ўпарта мармытаў нешта, спрабаваў устаць.

— Ляжы ты!.. А то як пакладу!..— прыгразіў Загацкі і ціскануў Дворніка да кушэткі. Той больш не спрабаваў падымацца, нешта яшчэ мармытаў сам сабе пад нос, гразіў на некага.

Загацкі не пайшоў у хату. Яго здзівіла, што Дворнік можа напівацца, і яшчэ больш тое, што хавалася за ягонаю бяскрыўднасцю.

Загацкі жорстка падумаў, што ад Дворніка ён збавіцца.

Вера выйшла следам, спынілася на парозе:

— Давай сёння спаць раней ляжам. Заўтра нам рана ўставаць. Я буду прыбіраць са стала?

— Прыбірай. І на будучае пастарайся больш не звязвацца з Дворнікам. Што табе ад яго трэба?

— Я ж даўно прасіла цябе дастаць жакарду...

— Ясна.

— От табе і ясна! Я ж не за так у яго... Я купляю за свае грошы.

— Ладна. Каб больш ты з Дворнікам не раскатвалася ў машыне. І няма чаго яму...

— Папа, ты раўнуеш? — шчасліва засмяялася Вера.

Загацкі стрымаўся, змаўчаў, завярнуў і пайшоў за хату, быццам яму прыспічыла.

Вярнуўся, наліў яшчэ чарку каньяку, раздзеўся і лёг, адчуў, як лёгка і прыемна засынае. Ачнуўся ад таго, што побач варочалася з боку на бок і цяжка, пакрыўджана ўздыхала жонка...

## IX

Загацкі чуў, як прачнулася жонка, як ставіла на пліту чайнік. Дворнік таксама прачнуўся, мабыць, самы першы ў хаце. Чутно было, як ён заводзіў, правяраў матор. Загацкі ўсміхнуўся — якая сёння будзе ў Дворніка морда пасля ўчарашняга. Уставаць не хацелася, крыху цяжкавата было пасля выпіўкі.

— Ты не будзеш уставаць, Міша? — жонка ўжо адзелася і падфарбавалася. Яна ўсміхнулася мужу.

— Устану, а як жа.

— Як хочаш, мы і самі збяромся.

Загацкі ўстаў, адзеўся, спаласнуў твар пад кранам на кухні, выйшаў на ганак.

— І вы ўсталі, Міхайлавіч? Добрае раніцы.

Дворнік весела ўсміхнуўся. Ні збянтэжанасці, ні разгубленасці, ні нават падпухласці на твары і мутнаватасці ў вачах не было.

— А мы ўжо сабраліся з Вераю Антонаўнай. Я казаў, каб і не будзіла вас.

Ён прыязна ўсміхнуўся, як нічога і не здарылася. Загацкі нават падумаў, што ён не п'яны быў учора зусім, а прытварыўся, каб знарок выкрапіць усё, што набалела на душы. А можа, нічога не памятае, такі быў?

— Ну як пасля ўчарашняга? Не баішся інспекцыі?

— Учарашняе было ўчора, а сённяшняе сёння.— Дворнік адкрыта глядзеў у вочы Загацкаму.

— Цікавы ты, Дворнік, чалавек.

— Як сказаць, Міхайлавіч.

Дворнік тым часам адкрыў багажнік і ладкаваў там карзіну з клубнікаю, абкладаў яе з усіх бакоў анучамі, кавалкамі старых дываноў, якія невядома чаго вазіў у багажніку.

Загацкі вярнуўся ў хату.

— Табе чаю наліваць?

— Не, я пазней паснедаю. А ты з гэтым Дворнікам каб першы і апошні раз звязвалася.

— А што ён табе, мяшае? Ты ж мне нічога не дастанеш...

Сёння жонка не надта прыслухоўвалася да яго слоў, незалежна завярнулася і пайшла клікаць яго снедаць.

Загацкі аж здрыгануўся ад кароткага тэлефоннага званка. Ён нават не падумаў пра тэлефон, званіць магла толькі Марыя. Здавалася, што званок чуцён аж на двары. Загацкі схапіў трубку, каб спыніць званок, паказалася, што грукнулі дзверы веранды — жонка вярталася ў хату.

— Алё! Алё! Хто там? Алё! Якога чорта! — моцна гукнуў Загацкі, і гэтак жа моцна, каб чула, як увойдзе, Вера: — Вы не туды папалі! — І толькі пасля гэтага спахапіўся, што не чуў у трубцы нічыйго голасу.— Алё! Хто гэта? Алё!

Трубка маўчала, нібы голас не мог прарвацца на правадах, і даходзіла толькі ягонае ціхае шалясценне, а потым гэтак жа здалёку пачуліся кароткія гудкі. Загацкі паглядзеў на трубку — яму цяпер здалося, што ён чуў не маўчанне, а дыханне Марыі.

— Ты куды сабраўся званіць? — запыталася жонка, і Загацкі хуценька паклаў трубку, якая ўсё папісквала, коратка і прызыўна.

— Думаў пазваніць, колькі часу.

— Надумаўся ў райцэнтры! Дворнік сёння-заўтра ўсё яшчэ раз выведае, і мы прыедзем. Ці да цябе на аўтобусе мне ехаць? — з прыціскам на слове «аўтобус» запыталася Вера.

— Як хочаш,— Загацкі падумаў, што ад Дворніка яму не адкараскацца цяпер. Ён прыслухоўваўся да тэлефона, глядзеў на яго, як на ненавіснага чалавека, якога не заб'еш і не прымусіш маўчаць.— Вы не спозніцеся на работу?

— Не спознімся.

Марыя заўсёды звaніла яму гэтаю парою.

Загацкі з палёгкаю, нарэшце, выйшаў за жонкаю з хаты, зачыніў за ёй дзверцы «Пабеды». Сёння зранку жонка не збіралася цалавацца...

Загацкі пастаяў у варотах, правёў вачыма машыну: у галаве ў яго цяжка шумела, і ён не ведаў, ці гэта з учарашняе выпіўкі, ці ад усяго, што здарылася за

мінулы дзень і ноч. Пра павышэнне на службе ён ведаў, бо інакш і быць не магло: і па стажу, і па тым, што не меў ні вымоў, ні спагнанняў, ніколі не ішоў супраць начальства... Кальнулі Дворнікавы словы — выседзеў, даждаўся, задніцаю, а не галавою пасаду дастаў. Ну я табе прыпомню задніцу!

Загацкі не ведаў, як прыпомніць. Раптам уявіў, нібы ўбачыў, як падвязе Дворнік жонку, калі ў яго будзе Марыя!.. А яны ж прыедуць!

## X

Марыя адчувала, што Загацкі пакрыўдзіўся, хоць і не падаваў выгляду. Сталы чалавек, ён павінен ведаць, якая работа ў гэту пару ў агранома. Не могуць жа яны век сядзець у схованцы і мілавацца. Ды яна і не збіралася патакаць яго хаценню.

Марыя ішла на ўсю ногу, старалася хутчэй дадому. Няёмка было, што яе маглі сустрэць адзетую, як у госці.

Яна мала не дайшла, каб завярнуць да хаты, як пачула тарахканне шасі, якое ехала насустрач. Марыя прыпынілася, здзіўленая, што шасі нагружана збажынаю.

Трактарыст, белабрысы, кірпаносы малады мужчына ў ссунутай на лоб замасленай кепачцы, руляваў па дарозе, абмінаў выбоіны, але не збаўляў газу.

Марыю ён не пазнаў, кінуў толькі вокам і руляваў. Не да жанчын яму.

Марыя выйшла на дарогу.

Толькі тады трактарыст пазнаў яе. Марыя бачыла, як пабялеў ён спачатку, потым пачырванеў і нарэшце саўладаў з сабою, нахабна змераў яе з ног да галавы — непрывычна бачыць аграномшу ў кароткай спаднічцы, падмазанаю і прычапуранаю. Ён спыніў шасі і блазнавата, каб даць зразумець, што ён прызнае права Марыі не толькі камандаваць у калгасе, падміргнуў.

— Добры дзень, Пратасевіч! — Марыя не заўважала ягонага позірку.— Ты адкуль возіш пшаніцу?

— З-пад Камароўкі.

— Ну і што табе тут трэба? Чаму не разгрузіўся?

— Там збоішча машын. Думаю, паабедаю...

— Паабедаеш? А гэта не па-другому называецца?

— Што вы, Марыя Ігнатаўна! Хіба ж я... Пасярод белага дня... Што я дурны, ці што!

— Ну, а калі ты разумны, чаго дурнейшага за сябе шукаеш? Ты што, пасяўную на дарозе ўстроіў? Чаму перагрузіўся і сееш па ўсёй дарозе? Спяшаеш?

— Марыя Ігнатаўна...

— Заварачвайся назад! Пачакай, пачакай! — Марыя цяпер толькі заўважыла не зусім упэўненыя рухі трактарыста.— А ну, злазь з машыны! Зараз жа!

Пратасевіч пакорліва, мацюкаючыся сам сабе, злез з машыны.

— П'яны! Марш, каб вочы мае не бачылі!

— Марыя Ігнатаўна, што вы... Як жа! А што, самі за руль сядзеце? Хто вам будзе абараначак круціць усю ўборачную? — паспрабаваў агрызацца Пратасевіч.

— Марш, а то вызаву ўчастковага, і без правоў астанешся!

Апошняе даняло Пратасевіча. Было ўжо такое ў механізатараў з аграномкаю, што сядзелі па году на рабоце ў брыгадзе.

— Прасцеце, Марыя Ігнатаўна... Конь і той.

— Коні зранку не п'юць, гэта праўда. Заўтра прыйдзеш на нарад. Там разбяромся!

— Марыя Ігнатаўна...

— Усё!

Марыя рашуча стала на падножку.

— Кофтачку нейлонавую пагнюсіце,— ухмыльнуўся трактарыст.

Марыя нічога не адказала, уключыла хуткасць, акуратна завярнула шасі назад, паехала да цэнтральнае сядзібы. На зернетоку ніякае чаргі і збою машын не было. Марыя разгрузіла шасі, адагнала яго за сушылку, заглушыла, з зернетоку пайшла да гаража.

Яна ведала, што жанкі на таку абгаворвалі яе. Яны зайздросцілі яе маладосці і прыгажосці. Ды як не пагаварыць і не паабгаворваць маладую ўдаву, на якую мужчыны вылупліваюць вочы і могуць вільнуць за аграномшаю. Ды і хто не знойдзе сказаць што-небудзь калючае пра свайго начальніка?

Ля гаража, у кузні, Марыя знайшла механіка, які дапамагаў кавалю замяраць нейкую дэталь, прывіталася:

— Аляксандравіч, добры дзень. Ты што, сам у слесары падаўся?

— А чорт, не вытрымлівае нагрузкі... Які дурань разлічваў...

— Я зняла Пратасевіча з шасі. П'яны. Дадому пёрся са збажынаю. Знайдзі чалавека і пасадзі на шасі. За сушылкаю стаіць.

— Нараджу я чалавека!..

— Барані бог, каб камбайны стаялі з-за таго, што няма на чым адвозіць!

— Дык што, мне самому на тое шасі садзіцца? — ужо пакорлівым голасам запытаўся механік.

— Твая забота, каб камбайны не стаялі, а не баранку круціць?

— А як Пятровіч?

— Не была яшчэ ў яго.

Марыя завярнулася і пайшла. Чорт яе пагнаў на тое возера! І трэба, каб якраз захварэў старшыня. Марыя бачыла нейкую і сваю віну ў гэтай ягонай хваробе: каб яна была не месцы, яму б менш давялося круціцца па калгасе.

Яна завяла машыну, паехала да канторы. У свой кабінет не зайшла.

Дзверы ў пакой сакратара партарганізацыі былі зачынены.

— Дзе Сыцька? — запыталася Марыя ў бухгалтаркі пра парторга.

— На ферму збіраўся пайсці.

— Вернецца, скажаце, што я хацела бачыць яго. Хай пабудзе ў канторы, я пазваню.

«Яшчэ ж і ферма, і план па надоях»,— падумала Марыя. Толькі цяпер успомніла, што калгас, гэта не толькі ўборка і не толькі палявыя работы. Сёння, калі там парторг, можна туды не заварочваць.

Марыя выйшла з канторы, села ў машыну. Трэба было паехаць, пераадзецца, але цяпер ужо ўсё роўна, кофтачку вымазала.

Завяла машыну і паехала да вёскі. Да хаты дырэктара школы.

Дырэктарава хата стаяла ўздоўж вуліцы, амаль пры самым плоце. Марыя бачыла, што ўгледзелі яе, як толькі спыніла машыну — махнулася фіранка на акне.

Дырэктар абедаў. Сядзеў на кухні за сталом. Перад ім стаяла міска з халадніком, талерка з нарэзаным салам, збанок з малаком і міска з накроеным хлебам і батонам.

— О, хто к нам у госці заехаў! Волька, ты бачыш! Такое разоў тры на год бывае. У жніво ці сена як косім, і восенню! — дырэктар ні то жартаваў, ні то дакараў, выйшаў з-за стала, ступіў насустрач.

Ён яшчэ не стары чалавек быў, але ссутулены, хударлявы, хоць і быстры ў рухах. Нешта і недырэктарскае было ў ягонай высушанай, як у старога селяніна, постаці.

— Садзіся, палуднаваць будзем.

— Іван Іванавіч...

— Я і так ведаю, што ты да мяне не абедаць прыехала. Садзіся. Я палуднаваць хачу, і ты не палуднавала яшчэ сёння. Волька, падай там яшчэ нам на стол! — загадаў ён жонцы.

Скора на стале стаяла яшчэ міска з халадніком, адчынена і выкінута на талерку рыбная кансерва, нарэзана свойскае кілбасы. І бутэлька з чаркамі таксама.

— Сядай і ты, Волька, да нас.

Іван Іванавіч наліў у чаркі. Сабе поўную, жанчынам пакрысе. Марыя паспрабавала адмовіцца, але ён аперадзіў яе:

— Гэта капля на дэзінфекцыю. Пі, не бойся, не чутно ад цябе будзе. Я вот Вольцы даўно гавару, што добрая ты дзеўка, аграном талковы. Але лепш, каб ты хлопцам была. От хоць можна было сесці ды не спяшаючы чарку выпіць, ды пра жыццё пагаварыць. А то от жа з табою, з бабаю, не надта ўсё і скажаш... А то б хоць маладосць можна было ўспомніць.

— От у цябе язык, каб ты праваліўся!

Іван Іванавіч хітравата падморгнуў Марыі, выпіў.

— А што ты думаеш, Волька? Я цяпер не ведаю, кім больш ганарыцца: ці тым палкоўнікам, якога я некалі вучыў, ці гэтым во калгасным аграномам, які заязджае да мяне ў госці. Што мне гонару ад таго палкоўніка і ад тых атамных падлодак? Калі я скажу тут каму, што вучыў Марыю, то кожны ведае, пра каго я гавару і чым хвалюся. І той палкоўнік да мяне наўрад ці ў госці калі заедзе, а яна, хоць і па патрэбе, але ж заверне...

— Перастань ты, каб на цябе халера. То маўчыць цэлы дзень, то не суняць яго — малоціць і малоціць. Каб к жорнам твой язык прывязаць...

Жонка ўсміхалася, пазірала на мужа.

— Ну, давай, гавары, што табе трэба. Мо зноў настаўнікаў на работу? Цяпер жа мода такая, на сельгасработы ўсіх так званых дармаедаў. Каб прыблізіць інтэлігенцыю к рабочаму народу...

— Вам няма чаго на нас крыўдаваць...

— А медсёстры ж па тыдні адбывалі...

— У іх жа школьнікаў няма, як у вашых настаўнікаў,— адпарыравала Марыя.— За вас вучні адробяць.

— Во, во! Але настаўнікаў я вам не дам. У мяне ў самога капітальны рамонт ідзе. Работнічкі робяць! Каб я менш пажыў і гэтулькі не нагледзеўся за свой век, то разрыў бы сэрца зарабіў. Душа чуе, што, каб да першага ўспець, прыйдзецца маім настаўнікам і старшакласнікам малярамі станавіцца. Ну гавары, гавары, што ты ад мяне хочаш? Пратасевіча сабралася судзіць?

— Пратасевіча?!

— Не ведае нічога яна! От толькі да мяне прыходзіў, плакаў, прасіў, каб я заступіўся як дэпутат, каб пад суд яго не аддавалі. П'яны ж, як бот з левае нагі!

— Хто яго судзіць будзе... З шасі зняць прыйдзецца, каб другім навука была. Мне вашы школьнікі трэба.

— Школьнікі мае, ты ведаеш, у вас на рабоце і так.

— Не, мне не работу рабіць. Хачу паставіць піянерскія патрулі на дарогах, ля тока. Хай глядзяць, каб зерне не рассыпалася, як сёння ў Пратасевіча.

— Волька, ты бач, як за жабры бярэ? Во вучаніца. Я адмовіцца тут ніяк не магу. Права не маю. Вучу на сваю голаў... А хто за мяне рамонт у школе рабіць будзе?

— Не, я вас не хачу адрываць, Іван Іванавіч. У вас жа камсамольскі сакратар ёсць.

— Мілая ты мая, або ж без мяне абыдзецца? Сакратар мой у вас з бацькам на камбайне жне. Не здымеш яго, га? Добра, я піянерважатую падключу. Заўтра арганізуем. А як Пятровіч?

— Не ведаю. Не была ў яго...

— Заедзь. Ён, Марыйка, на два гады старшы за мяне. Разам мы раслі. Усё мае свой пачатак і канец.

Старасць не радасць, горб не карысць ды і смерць не ўцеха. Я заўтра табе выстаўлю гэтых патрулёў... А ты не гарачыся і не бяры спачатку крута. Ты жанчына, маладая яшчэ. У Пятровіча вунь якая і сіла была, і вопыт, а ўтупала работка. Гэта не жарт цяперашнім калгасам круціць. А з патрулямі я сам разбяруся. Заязджай да мяне часцей... Хоць ты і не хлопец, але і пры табе чарку-другую вып'ю — прычына ёсць.

— Або на тваю язву чарка патрэбна? Гэта ж трэба — на язву язва ўбілася,— незласліва пажартавала Волька.

— Мілая ты мая, куды гэтуй медыцынскуй язве да цябе! — аднёс пірагі Іван Іванавіч і падміргнуў Марыі.

Ён правёў яе да машыны.

Ад дырэктара да канторы яна ехала паволі. Сакратар партарганізацыі яшчэ не вярнуўся з фермы, і яна завярнула ў поле, дзе была галоўная старшынёўская работа. І сапраўды, спяшаць і гарачыцца не варта...

Прыцемкамі Марыя вярталася дадому. Заехала да заправачнае, заправіла поўныя бакі: машыну пакідала пры доме. Пратасевіча з шасі здымалі. На яго месца садзіўся за руль старшынёўскі шафёр. Назаўтра прыходзілі дзве машыны з аўтакалоны.

Жніво набірала сілу.

Марыя паволі пад'ехала да старшынёўскага дома, заглушыла матор.

Ля веранды яе сустрэла старшынёва жонка, бледная з твару, быццам састарэлася за адзін дзень на многа гадоў. А мажа, гэта здалося Марыі пры цьмянаватым святле ў сенцах ды таму, што старшыніха была не падмалявана і не падфарбавана, як заўсёды.

— Заснуў ён толькі. Не трэба будзіць яго. Тут і медсястра дзяжурыць... Іван Іванавіч прыходзіў, сказаў, што ты ўжо ў калгасе. Ён і супакоіўся, заснуў.

— Добра, я заўтра заеду да яго.

— Заязджай, Марыя. Чакаць ён будзе.

Марыя ведала, што старшыня будзе чакаць яе. Гэтак жа, як і пастаянна адчувала і яго добрую ўвагу да сябе і тое, што ён знарок трымаў яе бліжэй да сябе і рыхтаваў сабе ўзамен. Гэта заўважылі і іншыя, яна стала другім чалавекам у калгасе. Марыя прывыкла да гэтага, гэтак жа як прывыклі падначаленыя і падпарадкаваліся ёй, нават механік, заатэхнік.

Дадому Марыя ехаць не спяшала, кіравала адною рукою. Машыну загнала на двор, падышла да ганка, не адмыкала дзвярэй, прысела на цэментовых прыступках.

Цямнела. Высока свяцілася жаўтлявым выпаленым водсветам неба над заходнім небакраем. Прысмак пылу і нагрэтае травы стаяў у паветры. І яшчэ пахла саломаю, нават не саломаю, а тым пылам, які плыве ўслед за камбайнам — жніўным пылам. З першых дзён жніва наваколле напаўнялася гэтым пахам. Яго, мабыць, пакідалі машыны на палявых дарогах, развозілі да зернетакоў, нават у райцэнтр прывозілі, і пахла жнівам вакол элеватара і ва ўсім гарадку. Збожжам, саломаю, сонцам пахлі і яе запыленыя рукі. Яна сядзела ў цішыні на парозе свае прасторнае, дагледжанае хаты — адна і са сваёй стомленасцю, і са сваімі думкамі перад кароткаю, як дрымота, летняю ноччу. І ёй здалося, што яна адна на ўсім свеце, і нават адчула, які вялікі і высокі гэты свет і якая сама яна маленькая, бы пылінка на ягоным глыбокім дне, над якім сіне, блакітна, цёмна плыве глыбіня часу і прасторы. І наплываў жаль да самое сябе, захацелася быць маленькаю, у якое ёсць маці...

— Ой, перастань, ненармальны!..— зусім блізка пачуўся на вуліцы радасна-здзіўлены і шчаслівы дзявочы голас, смех і маладыя галасы.

Марыя здрыганулася, скоранька ўстала, зайшла ў хату, запаліла ў пакоі святло, пастаяла, прыслухоўваючыся да самое сябе — маладое, у якой горача ходзіць і звініць кроў, нібыта зварухнулася, ажыла тая яе дзявочая, наіўная і прагная шчасцю душа.

Марыя падышла да акна, адчыніла яго, каб пачуць тыя маладыя галасы, і не магла пачуць. Здрыганулася ад лёгкіх нечых крокаў на вуліцы, спалохана, быццам хтосьці мог неасцярожным словам ці рухам, ці нават позіркам спалохаць тое маленькае кволае, як птушаня, абуджанае пачуццё ў яе душы...

Спала яна лёгкім здаровым сном, прачнулася на досвітку, села за руль і праехала па калгасе, па полі, на ферму, і там не здзівіліся яе візіту, бо так кожнае раніцы рабіў старшыня.

І ніхто не заўважыў ніякіх перамен у Марыі.

Да нарады прыехала дадому паснедаць і не вытры-

мала, набрала нумар Загацкага, хоць і не ведала, чаго звоніць і што скажа. Усміхнулася, пачуўшы ўсхваляваны, нават злосны голас: «Алё! Алё! Хто там? Алё!..», паклала трубку.

І, едучы да канторы, усё яшчэ ласкава ўсміхалася.

## XI

Загацкі прайшоў па двары, вярнуўся на кухню, дзе жонка пакінула яму правізіі на добры тыдзень. Нават непачатая бутэлька каньяку засталася. Як пачула, што начальнікам стане, большымі грашыма запахла,— ласкавая стала... І Марыя таксама прымерылася на яго: пра дзіця загаварыла, пра інжынерскае месца. Кось-кось, адале і ў аглоблі! Загацкі нібы староннім вокам убачыў, як хочуць акруціць, улыгаць яго. Не, дудкі! Ён ужо навучаны, ён умее паберагчы сябе! Цяпер, калі яму даюць харошае, спакойнае месца на рабоце і добрыя грошы, яму толькі і пара пайсці інжынерам у калгас... Недарэчна і несур'ёзна ўсё гэта. Не такі ён маладзенькі і дурны, каб абвесці яго кругом пальца.

Загацкі аж устаў з табурэткі — уявіў, што Дворнік стаў начальнікам, а ён пайшоў паднімаць калгас. Незаменных людзей няма. Слава богу, ён некалі разабраўся, што да чаго, не стаў у баразну, каб век ісці па ёй...

А Марыя, бадай, і не ведае, як можна жыць без свайго калгаса.

Загацкі раптам успомніў, як яна паволі, стомлена, нібы зямля пагойдвалася пад нагамі, ішла да яго па двары і як свяціліся яму яе вочы... Нешта здрадліва варухнулася ў грудзях у Загацкага і ўміг рассыпаліся ўсе ягоныя лагічныя вывады пра тое, як Марыя хоча абмануць яго... На самай справе ўсё не так. Але ж і яму не кінуць-рынуць усё і пайсці за ёю! У яго гады не ўсё проста, не кінешся вось так без аглядкі ў новае жыццё...

Ён пасля прыедзе да Марыі... А цяпер трэба паехаць у горад, пакуль які Дворнік не паднацісну́ў на знаёмага, не апярэдзіў. Разбярэцца на рабоце, прыедзе... Не, лепш напіша, а потым прыедзе. Цяпер у Марыі са́ма работа, і лепш будзе, калі ён не замінацьме...

Загацкі не заўважаў, што ходзіць па хаце, прыбірае рэчы, наводзіць парадак, і спахапіўся толькі тады, калі зусім даказаў сам сабе, што не паехаць у горад яму ніяк нельга, што гэта патрэбна не толькі яму, а найбольш Марыі... І спахапіўся з-за гэтае недарэчнае думкі, здзіўлена агледзеў прыбраную хату. Канечне, Марыі не хацелася б, каб ён ехаў... Але ж нельга інакш, нейкі інстынкт гнаў яго. І яна павінна яго зразумець. Загацкі ўгаворваў самога сябе, хоць не ўяўляў, як скажа Марыі пра свой ад'езд. Лепш, калі Марыя прачытае пра ўсё ў пісьме...

З нейкаю палёгкаю Загацкі ўздыхнуў, калі выехаў за горад, на шашу, толькі тады прывычна кінуў вокам на прыборны шчыток: бензіну заставалася малавата, і завярнуў налева, на запраўчную.

Запраўляцца не спяшаў, супакоены, упэўнены ў самім сабе — і гарадок, і тое, што было там, быццам засталося недзе далёка. Анучкаю ён акуратна выціраў бензін, якім крыху абліў машыну, прыпыніўся пры адчыненых дзверцах, удыхнуў густы палявы водар, які наплываў з палетка і якога не мог перабіць востры бензінавы пах. Ён ужо нагнуўся, каб сесці, як у люстэрку задняга абзору ўбачыў Марыю. Яна выйшла са свайго «козліка» і знімала накрыўку з гарлавіны бака.

Чамусьці асцярожна, як крадучыся, Загацкі паволі сеў на сядзенне, узяўся за ключ запальвання, паволі крануўся з месца і баяўся нават зірнуць у люстэрка — здавалася, што яго вось-вось гукнуць, і толькі за запраўчнаю набраў хуткасць, паспрабаваў засвістаць бесклапотна-вясёлую мелодыю «Чобаты, чобаты вы мае...», але свісту не выйшла.

Калі павярнуў на шашу, кінуў вокам на дзяўчыну, якая падняла руку, нават і не падумаў спыніцца. Ехаў яшчэ кіламетраў з дваццаць з адчуваннем, што за ім нехта едзе следам, і толькі як пачаўся лес, спыніўся.

Выйшаў, пастаяў на абочыне, пайшоў па сасонніку ў глыб лесу, але нечакана выйшаў на прагал, да пясчанага кар'ера, глыбока выкапанага, з дарогаю там, унізе.

Пясок, сухі, здавалася, белы, нібыта незаўважна цёк з абрываў — мроілася паветра. І ціха было там,

унізе, толькі, бытта час, з роўным ціхім шорханнем цёк пясок. Непрыгожа бруднае, пакручастае вісела над абрывам карэнне дрэў з тонкімі і доўгімі махрамі...

Загацкі сарваў сцяблінку метлючку, узяў у рот, прыжмурана глядзеў на белы пясок, чуў, як туга, напорыста звінелі на асфальце машыны.

Пра Марыю стараўся думаць спакойна, як пра тое, што было, было, як і многае ў жыцці, і, урэшце, не вернецца і не нашкодзіць яму. Хацелася неяк прыглушыць і сорам, і тое гадзенькае адчуванне, якое было ў душы, неяк апраўдацца самому перад сабою, даказаць, што ён харошы, толькі варта захацець прыглядзецца, зразумець яго — і ўбачыць гэта. Ён не вінаваты, што ні ў кога не стае ні часу, ні жадання. І чым больш думалася пра сябе, мацнела старое, слабенькае, але ўпартае адчуванне, бы ўсё жыццё ён апраўдваецца перад самім сабою, доўга ўжо, як брыдзе па росным жыце з узгорка ў лагчыну, усё больш і больш аброшваецца і цяжэе... А ці не сам ён вінаваты, што не выйшла ў яго ні вялікага жыцця, ні вялікага шчасця? Ці ў той бок ён пакіраваў сваё жыццё? І расстанне з Марыяй як пашлавата кончылася — бы ўцёкі з выпадковае начоўкі...

Загацкі аж скалануўся ад кароткага раптоўнага шоргату побач, глядзеў на хваіну, якая лёгка ківнула вершалінаю, нахілілася, выламала крыгу зямлі. Лопнула, як сухажылле, карэнне, і дрэва разам з травою і верасам паплыло ўніз. Следам за ім доўга яшчэ цёк пясок, свежа бялелася абарванае непрыгожа разлапістае карэнне.

Загацкі міжволі адступіў, заспяшаў да машыны, і скора яго не стала відаць і не пазнаць у цеснай, мітуслівай плыні бліскучых пры яркім сонцы легкавічкоў.

*1976*

# ХАЛОДНАЯ ПТУШКА

## I

Нядобра калі на неакрытую снегам зямлю вялікі мароз. Тады на свеце робіцца непрыютна, як у лядоўні; вецер пранізліва-бязлітасны, і ад яго нікуды не дзецца, не схавацца, бытта не засталося на зямлі ніводнага цёплага кутка. І зямля тады робіцца пустою і халоднаю, і страшна думаць, што ў душы ў яе ўсё зледзянела, змярцвела — і больш не будзе на зямлі жыцця.

Анэта чакала, калі зменіцца квадра і пераломіцца надвор'е. Яна нутром прадчувала гэту перамену, ёй нават здавалася, што незаўважна памякчэў, зрабіўся вільгатнейшы вецер. Чамусьці верылася, што пойдзе сухі, марозны снег, а не стане хлюпаць мокры, з дажджом,— цяжка было трываць нізкую плывучую шэрань хмар, хацелася чыстага, белага, святочнага, каб зарадавалася вока і душа.

І яшчэ тым, галоўным, цешыла душу спадзяванне на снег — што не вымерзне рунь. Са снегам адляжа мароз, паменшае вецер...

Анэта ленавалася, не кожнага вечара паліла ў грубцы, а таму хату вышаствала ветрам. На ватнюю коўдру старая ўскідала яшчэ кажушок. Але пад такімі акрыванкамі ад цяжару балела цела і не было сугрэву. Старая ведала, што ніякія коўдры яе не нагрэюць, бо не засталося цяпла ў целе, выстудзілася яно за доўгае жыццё. А таму трэба прывыкаць да холаду, як прывыкла за многія гады да адзіноты, да пустое хаты, да доўгіх дзён, не занятых работаю; і дні не доўжыліся, бо сілы не ставала і каб парабіць работу пры хаце. Недзе ў душы Анэта і не верыла, што гэта папраўдзе так, бо лягчэй за яе і ўвішней на рабоце не было і не будзе. Ды не вечны чалавек на зямлі, як і нішто не вечна.

Колькі яна перажыла і равеснікаў і маладзейшых?

Нават не верылася, што гэтак доўга можа жыць чалавек, які век рабіў, ішоў усё жыццё, як конь у баразне.

Зжахнула Анэту і бытта спалохала тое, што спарахнелі вербы ў краі вёскі. Тыя вербы, якіх яна памя-

тала маладымі, з чыстымі святочнымі лісцікамі; з вербаў ламалі дубчыкі, каб ісці на вербную ў цэркаў. Чатыры вярбы раслі на аселіцы, вялікія, што толькі ўдваіх, узяўшыся за рукі, і абхваціш.

Летам стаяла яшчэ адна вярба. Ад дзвюх не засталося і следу, як і ад тае грэблі, пры якой раслі дрэвы. Ад трэцяе тырчаў толькі высакаваты чорны ашчэмак. Мабыць, восенню пастухі клалі агонь у пні. Пень выгараў з аднаго боку і ўсярэдзіне. Другая палавіна, пабялелая ад ветру і з сярэдзіны абвугленая, стаяла пад маладым травяным покрывам, як ашчэмак вялікага клыка.

Чацвёртая вярба ўжо не давала лісту, толькі дзенідзе ад самага карэння спрабавалі ўзяцца ў рост кволыя светлыя атожылкі. Стары, выдуплены з сярэдзіны, невысокі, пакручаны ствол моцна, разлапіста ўшчэплены ў зямлю карэннем і ўверсе растапыраны пяццю вузлаватымі галінамі, таксама кароткімі, пакручастымі, на якіх ужо не засталося вецця; галіны выдавалі як пальцы старое спрацаванае рукі, якія ўжо не могуць выпрастацца, разагнуцца. Ды і сама вярба з пабялелаю ад дажджу, глыбока парэпанаю карою выдавала якраз на вялікую спрацаваную жылістую чалавечую руку, якая бытта сілілася выцягнуцца, дастаць ад зямлі да гэтага па-дзіцячы чыстага і добрага, але высокага, як шчасце, вясновага неба, і застыла ў пакутліва-цяжкім імкненні.

Ніжэй галля, у ствале свяцілася наскрозь дзірка. І вярба здалёку здавалася прыбітай да неба тоўстым сінім цвіком.

Анэта не ведала, чаму запала ў душу тая вярба: ці ад здзіўлення, што на сваім вяку ўпершыню бачыла, як памірае дрэва, якое помнілася маладзенькім. Бо людское смерці многа нагледзелася і набачылася. Мінулае вясны памерла самая малодшая Анэціна сястра. Дзве сярэднія памерлі раней, даўно. Пра іх засталася толькі роўная і доўгая прывычная памяць, як пра людзей, якія жывуць недзе далёка-далёка...

Памерла Волька ў красавіку, калі ўжо добра прыгравала сонца і зусім мала засталося снегу ў полі, калі стары чалавек, выйшаўшы з хаты і прыгрэўшыся ў зацішку на сонейку, думае, што перажыў зіму і цяпер пажыве ўжо да новых халадоў.

Тады нечакана ўсхадзілася мяцеліца, дзень і ноч ляпіла мокрым разлапістым снегам, і ад ветру над Анэцінаю хатаю трывожна і пагрозліва гуў веццем стары вяз. Анэта тае ночы не магла звесці вачэй, усё прыслухоўвалася да лютага, несуцішнага разгулу мяцеліцы, як усё роўна хацелася пачуць што за ветрам...

А ўдзень стала нечакана спакойна і сонечна, як і не прападала сонца і яго вясновая цеплыня. Роўнае яго цяпло растапляла наляпаны ў пазы ў сценах снег, бярвенне мокра чарнела, і ад яго ішла пара. Вуліца была выраўнавана вышэй платоў снегам, снег паабломліваў галлё ў садах.

Вольку пахавалі таго сонечнага дня. Па Анэту ніхто не прыехаў, бо дарогі былі нячышчаныя, а на санях цяпер і моды няма ездзіць. А яшчэ — Анэта дагадвалася — пра яе быў невялікі клопат: дзяцей у Вольці многа, радні ў сваёй вёсцы таксама. Па яе, па Анэту, мо і не паехалі, каб не растрэсці старую бабу і не набрацца бяды.

Але ў тым, што памерла і Волька, а яна, Анэта, і самая старэйшая, і самая нешчаслівейшая ў жыцці, засталася жыць, Анэта бачыла нешта несправядлівае і ненармальнае. Чаму б Вольцы не дажыць да яе, Анэціных, гадоў і не пахаваць яе — каб на добры лад? Яна зжыла, дзяцей пагадавала і не рабіла па гаспадарцы так, як яна, Анэта, і жаночую і мужчынскую работу. А вось узяла і памерла тая песенніца і танцорка, тая малая і кволая Волечка, якую некалі і бацька любіў больш за ўсіх, бо Анэта мусіла сядзець за кроснамі, а Волечка ў дарэктара дзве зімы вучылася, чытаць умела. Як душа памерла.

Колькі жыцця прайшло, колькі ўсяго сплыло, колькі вялікага гора і крыўд зжылося і перажылося, а той далёкі ўспамін ні з таго ні з сяго раптам выплываў у памяці, як учора тое было. Бацька, шчаслівы і малады, сядзіць на лаве. У трапяткім чырвоным святле лучыны відно, як радасна паблісквалюць бацькавы вочы, як глядзіць ён на Волечку, якая прытулілася ў яго на каленях у кашульцы, з акуратна расчэсанымі валасамі, расказвае на памяць:

Каб ты ведаў, брат-кумішча,
Што ўчора відзеў я!
У паноў было ігрышча —
Дый якое ж — ай-я-я!

Варушацца на сцяне і на шэрым ад марозу акне чырвоныя водсветы, скубе Анэта злосна смыкі з кудзелі, круціць верацяно, прадзе — толькі голаў нахіляе ніжэй, як бытта акрамя свае работы нічога не заўважае. А самой хочацца кінуць усё, заплакаць ад горнасці, ад крыўды — яе не пусцілі вучыцца, сказалі, што вялікая, што дома дапамагаць трэба,— ад зайздрасці, што не яна сядзіць на каленях у бацькі і не на яе гэтак глядзіць ён...

А Волечка зайздросціла Анэце, яе даросласці, яе ўменню рабіць работу, і любіла, як любяць маладзейшыя старшых братоў ці сясцёр.

Анэта цяпер ведае, што ў кожнага свая доля, і яна распараджаецца чалавекам, яна ведае, каму і якое жыццё пражыць. Волька так і не навучылася быць першаю ў рабоце, бо і здароўя ў яе не было на гэта. А песні спяваць умела, танцаваць здатная была. І замуж выйшла шчаслівa, і за гаспадаром век пражыла, у сваёй вёсцы, сярод сваіх людзей і з сваёю раднёю.

Анэта ж пайшла жыць у чужую вёску, у трыццаць тры гады стала ўдавою, з дзецьмі на руках, пачала рабіць і за гаспадара і за сябе, як у баразну стала,— і пайшла.

У кожнага свая доля. А так чаму б ёй, Анэце, гэтулькі жыць? Жыве. А Волька памерла. Анэта цяпер спрабавала ўспамінаць тыя песні, да якіх здатная была Волька. І мала што магла ўспомніць — не да песень было ў яе жыцці. А вось, цяпер, як памерла Волька, забрала з сабою свае песні, бытта менш і цяпла стала ў душы ў Анэты...

Першыя дні па смерці сястры Анэта моцна занудзілася была. Начамі плакала ад успамінаў і ад думак сваіх. Не заўважала, як цяклі слёзы. Толькі калі холадна рабілася ў твар, выцірала вочы коўдраю, ляжала спустошаная і лёгкая душою і целам, быццам паволі апускалася некуды ўніз, апускалася...

І выплывала насустрач вуліца. Не, спачатку палявая дарога...

У сонечнай далечыні, на шырокіх і роўных, як стол, слуцкіх палетках палавела жыта. Ад спякоты пабялелі, выліналі пяшчотныя і халаднавата-мяккія

пялёсткі валошкі на ўзмежках і пры дарогах. Мроілася разагрэтае сонцам паветра і нібыта цякло да жытнёвага небакраю. А адтуль чорным крылом разгорвалася навальніца. І перад ёю ўсё заціхала, неяк паспешна, быццам захопленае знянацку, нават паменшалі хвалі на тугаватай роўнядзі калосся. І нідзе ні душы. Толькі светлы палетак і пацямнелая далечыня, як з пясчанага берага глядзіш на цёмнае мора. І перад навальніцаю ўсё на зямлі бытта паменшала, і нават вёска здалася маленькай, нібы глядзіш на яе з вышыні, з гэтага магутнага чорнага навальнічнага крыла.

У цішыні пачулася, як мякка і глуха, усё роўна бы па жывым целе, ударылі па глыбокім цёплым дарожным пыле першыя кроплі. А потым раптоўна, неспадзявана моцна рвануў вецер — і абрынулася на зямлю ўсё разам: і прыцемень, і суцэльная, як з лубу, сцяна вады, святло сінявых ад лютасці маланак, удары грому, ад якіх хацелася сцяцца ў маленькі-маленькі камячок, бо здавалася, што ты толькі адна засталася на ўсім белым свеце. І жудасна адчуваць, што прапала і ты, і твая прыцемная хаціна ў бясконцай лютасці і нястрыманасці стыхіі. І разам з тым была незразумелая, невытлумачальная, шчымлівая, трывожная радасць гэтай яраснай праяве, усё роўна як і ты частачка гэтае непадуладнай нікому сілы...

Не памятаецца, чаму яна тады была адна дома і чаму не пабегла да нікога з суседзяў. І наогул, цяпер, ва ўспаміне, здаецца, што тады на ўсю вёску не было ніводнага чалавека, ніводнае жывое душы, толькі яна, маленькая Анэтка, пад саламянаю страхою паветкі, бо страшна чамусьці сядзець у хаце, калі люта ўспыхваюць маланкі, пякучым бляскам асвятляючы праз невялікія вокны цёмную пад навальніцаю хату,— здаецца, што калі не сядзіш за сценамі, калі бачыш і навальніцу, і адчуваеш зусім побач дождж і вецер, нічога не можа здарыцца з табою...

Анэта і потым, ужо сталым чалавекам, і цяпер, састарэлая, ніколі ў часе самых лютых навальніц, у самыя страшныя рабінавыя ночы не магла і не сядзела ў хаце, выходзіла на двор і стаяла пры сцяне, абапяўшыся посцілкаю...

Яна тады не заплакала, і не закрычала, і не кінулася нікуды бегчы, калі нешта раскалолася, трахнула,

здаецца, ля самае яе, і здалося, што абдало яе хваляю паветра, якое незнаёма запахла. Яна адчувала і разумела, што нікуды ўсё роўна не ўцячы і нічога нельга перамяніць, толькі чакай і маліся, каб было ўсё добра.

У тую навальніцу раскалола стары клён, які рос пад вокнамі іхняе хаты. Быццам чорнаю сякераю нехта паласнуў у развілак і разваліў дрэва аж да самага камля, зложыў на зямлю палавіну яго пышнае зеляніны.

Клён, тая палавіна, якая засталася, стаяў яшчэ многа гадоў, абсмалены, аднабокі, але зялёны, і трымаў буйнае, раскошнае лісце. І ім, дзецям, не трэба было далёка хадзіць па ліст, які высцілалі под печы, калі пяклі хлеб.

Спачатку пачаў аддаляцца гром, чуўся неяк дабрадушней і раскацісцей, здалёку, хоць яшчэ люта, кустамі, успыхвалі і сляпілі маланкі, але непрыкметна пачынала шарэць, і ў тым баку, адкуль прыйшла навальніца, рабілася святлей, адыходзіў, адступаўся ўдалечыню цень навальнічнага прыцемку, пакідаў за сабою спакой, маладое паветра і каламутны ручай пасярод вуліцы, які намываў тугога вільготнага жвіру, што пругка, быццам снег, парыпваў пад босымі нагамі.

Пасля навальніцы прыйшло чыстае святло. Мокра, але ўладарна наплываў водар жыта, вечны на гэтых палях, прыглушаны пахам мокрае лістоты ў садах.

І сведкай усяму гэтаму была толькі яна, дзяўчынка, і нібыта ўсё гэта адбылося дзеля яе.

Цяпер здаецца, што гэта і не ўспамінаецца, а сніцца, бо цяпер не верыцца, што можа быць на зямлі і гэтулькі святла, і волі, і гэтакае моцы. Але ж не, то было і сапраўды, і бачылася маладымі шчаслівымі вачыма дзіцяці ўпершыню. І сярод слуцкага поля ёсць, стаіць і цяпер тая выгнутая ў адну вуліцу велікаватая вёска, хоць рэдка дзе ўжо ўбачыш у ёй тыя старыя, маленькія хаты. Абнавіліся сады, пабудавалі многа новых, прыгожых, з вялікімі светлымі вокнамі хат...

Пасля тае навальніцы не засталося на ўзгорку бярэзіны, дзе спрадвеку жылі буслы, «святая» ў народзе птушка. Па мокрай зямлі рассыпалася сухое ламачча ад былога, за многа год зладжанага жылля і пух з вераб'іных гнёздаў. Буслы таго году не жылі ўжо на бярэзіне, бо мужчыны, ведаючы, што можа ўпасці яна,

загадзя, вясною, усцягнулі барану на высокую маладую ліпу.

І ад таго паху мокрае зямлі, ад таго водару з жытнёвага палетка і цяпер, праз многа гадоў, праз цэлае жыццё адзываецца ў душы незабытая радасць жыццю...

І падхопленае плынню радасці, наплывае на змену гэтаму ўспаміну другі: чорнае голле саду на фоне густога цёмна-сіняга неба, фіялетавы стылы водсвет снегу ў полі, пах пацямнелага, шурпатага лядку на сцежцы, цёплы драўляны пах прагрэтай за дзень сцяны, і доўгія матавыя ледзяшы — суслякі,— што звісаюць з саламянае страхі. А пасля гэтых ледзяшоў чамусьці адразу выплывае ў памяці з густога зімовага мроіва заінелы снег бясконцага поля, адзінокі санны след, і заінелая грыва каня, і пах настылага кажуха, у якім так утульна і не хочацца варушыцца. Плыве насустрач снегавое поле, абступае прыцемкавая марозная сінеча. І яшчэ не відаць, але ведаеш, што пакажацца спачатку адзін, а потым і другі слабенькі агеньчык. А следам па дарозе плывуць бухматыя, не надта вялікія — дарога няблізкая — вазы з сенам, якое яшчэ і на марозе свежа пахне сухім вострым пахам стога...

Успаміны ўставалі прыгожыя, сонечныя, высокія і плывучыя, як воблакі на пачатку лета. І нават зімовыя, халодныя, яны наплывалі, бы цёплая вада нешырокае рэчкі, што цякла за вёскаю. Звілістая, глыбокая ў завоінах, парослых на берагах аерам, высокім, густым, як чарот, і заўсёды халаднаватым, нават у самае спякотнае лета. І меленькая, з чыстаю празрыстаю вадою і белым дном з пяску-мыльцу... А да рэчкі — аселіца з кароценькаю і густою, мяккаю, халаднаватаю і пяшчотнаю, як аксаміт, травою.

І тыя ўспаміны, і тыя пахі да смерці незабыўныя і самыя лепшыя, як успаміны пра дотык матчыных рук, пра яе голас той далёкі, які нікому не паўтарыць, як нікому не сказаць табе тых самых ласкавых, самых шчырых слоў любові, вялікае і адзінае, якою могуць адарыць сябе маці і дзіця. Такая любоў жыве ў дарослага, ужо, здавалася б, агрубелага душою чалавека да роднае зямлі: да лёгкага павеву ветру над полем, нават да сіняе валошкі на мяжы, не кажучы ўжо пра кусцістую, густую, як аўчына, рунь, пасрэбраную першым

інеем, які ружова адсвечваецца ў ранішніх сонечных промнях, не кажучы ўжо пра спелы, цяжка і даверліва схілены насустрач селяніну колас жнівеньскага палетка!

А тое свята прасторных, залатых сонцам і саломаю жнівеньскіх дзён, яшчэ не пацямнелага, пахучага ржышча, мяккіх «коцікаў» паміж яго! І потым дзенідзе ўжо першыя стомленыя палосы шэрае, спустошанае восеньскае раллі. І першы родны і журботны крык шэрых жураўлёў над аўсяным полем!..

І ніщто не можа і не зможа абудзіць у чалавеку самых высокіх і самых вечных пачуццяў, як бацькаўшчына! І не быў, і не будзе, і нельга быць чалавеку шчаслівым, калі ідзе ён па жыцці без бацькаўшчыны ў сэрцы. Няшчасны гэта чалавек і, мабыць, цяжка і страшна паміраць яму, бо калі памірае чалавек, улюбёны ў зямлю і ў людзей, якія побач з ім жылі, то ён ведае, што пакідае на зямлі і радасць жыццю гэтых людзей, і след сваіх рук на зямлі, і памяць пра сябе ў душах хоць на адно пакаленне.

Ад гэтых маладых, пранізаных сонцам і шчасцем успамінаў на душы ў старое рабілася лёгка, і не гэтакімі доўгімі выдавалі бяссонныя старэчыя ночы...

Анэта прачыналася радасна, прыслухоўвалася да самое сябе, ці і сапраўды яна такая дужая, маладая і лёгкая, як тое шчаслівае дзіця ў тую далёкую летнюю навальніцу. Потым успаміналa, хто яна цяпер, колькі гадоў ёй. Але ўсё роўна заставалася на душы бадзёрасць, упэўненасць у самой сябе, у сваёй сіле — усё жыццё пражыла яна, дзяцей пагадавала, ні на кога не азіраючыся, ні адкуль не чакаючы помачы. І цяпер ведала, як ёй жыць, што рабіць, і другому магла падказаць і параіць.

## II

Вецік у адной майцы выйшаў на двор і мыўся пад рукамыйнікам на ледзяным пранізлівым ветры, з асалодаю адчуваў, як ён астуджвае ўсяго яго і ад гэтага робіцца лягчэй.

Выціраўся ён у верандзе, не спяшаючыся, моцна расціраў твар і рукі ручніком, глядзеў праз невялікія

шыбінкі на шэрае прыцемнае неба і зноў адчуваў, як ахінае яго адчуванне адзіноты і непрыкаянасці свае. Гэта не давала спакою ад таго самага часу, калі кончылася ўборка, калі выкапалі бульбу, прыбралі з асушанага балота буракі, і засталося чакаць павестку ў войска, Не верылася, што нарэшце ён дачакаўся — збярэцца і пойдзе, і не трэба будзе потым прасіць у старшыні сельсавета даведку на пашпарт, спрачацца з бацькам і з маці. Адслужыць — і паедзе куды захоча, бацька тады не ўтрымае.

І ад гэтых думак было лягчэй і радасней, як заўсёды ў маладосці ад прадчування дарогі.

Нецярплівае чаканне павесткі, якую ўсё не прыносілі, быццам ваенкамат забыўся пра яго, ахінала нудотаю. І тады ён «лячыўся» гарэлкаю з тых прыпасаў, якія трымаў бацька на ягоныя выправіны, ішоў у клуб, дзе збіраліся школьніцы, абдымаў і ціскаў дзяўчат, якія пішчалі, і, як дзеці, падбрыквалі па клубе. Гэта надакучвала Вецiку. І тады ехаў да Анюткі. Да Анюткі шмат хто ездзіў і да яго, таму і гадавала яна дачку, невядома чыю, хоць была толькі на гадоў тры старэйшая за Веціка.

Вецік ведаў, што пойдзе ён у войска і пра яго паездкі да Анюты забудуць, і ніхто некалі блага не ўспомніць — гуляў хлопец перад войскам.

Вецік вярнуўся ў хату, зайшоў за занавеску, дастаў з-пад ложка сіні абшарпаны чамадан і ўкінуў у яго чысцейшыя рабочыя штаны, стары чырвоны тоненькае вязкі світэр, які браў з сабою апрануць, калі будзе холадна, паношаную старую куртку са скуразамяняльніка. Каб гатова было.

— Ужэ збіраешся. Што б горшае ўзяў. Гэта і дома яшчэ насіць можна.

Маці стаяла, абапёршыся рукою на прыпечак, у старым шэрым картовым пінжачку з падкасанымі, бо былі доўгія, рукавамі, у картовай, шырокай, як андарак, спадніцы, з хвартухом, які з'ехаў набок, у вялікаватай, напушчанай на лоб чорнай хустцы, ад якой яшчэ больш хваравітым і бляднейшым здаваўся твар.

Маці на сухіх дрывах пякла сала і мяса, каб панавіць закусь на двух сталах, за якія бацька на вечар меўся запрасіць конюха Федзьку, паплаўнічага Статкевіча, раманцёра з канаў Пятра, малакавоза Будкеві-

ча і яшчэ сяго-таго з тае брацці, пра якую людзі гавораць, махнуўшы рукою: прапашчы за гарэлкаю чалавек, і не завуць, калі толькі можна, за стол іх разам з усёю бяседаю. Клікаў іх на дапоіны стары Дзягель не толькі таму, што ў канаўшчыка можна было ўкасіць сена, Будкевіч мог прыпісаць малаку, якое здавалі, самую большую тлустасць, Федзька заўсёды каня дасць, будзе і збруя, і калёсы, бо цяпер не толькі мала коней засталося, але няма і падвод, і збруі. Яшчэ і таму клікаў іх стары Дзягель, што, хоць і сам цяпер пасмейваўся з іх, былі яны некалі адною кампаніяй. Калі хадзіў Дзягель у брыгадзірах і старшынёй нават быў, Будкевіча паставілі старшынёй сельсавета. Статкевіч фельчарам рабіў. А Федзька пасля франтавое кантузіі, не здымаючы нават лейтэнанцкіх пагонаў, ездзіў па вёсках страхагентам. Усе яны любілі насіць зашчытнага колеру гімнасцёркі з белымі падкаўнерыкамі, камсастаўскія папругі і зашчытныя фуражкі. Цяпер гэтая фуражка засталася толькі ў Федзькі ды ў Дзягеля. Праўда, у Федзькі старая, з паломаным брылём, а ў Дзягеля ўсё чэсць па чэсці: і фуражка, і боты, і папруга, і белы падкаўнерык чорнае шарсцяное гімнасцёркі.

Астатнія папрапівалі свае фуражкі.

Прыйшла ім пара саступіць месца маладым. Так ці інакш усе яны пасталі тым, чым цяпер ёсць. Будкевічава кар'ера скончылася пасля таго, як ён прыбіў качалкаю суседа за тое, што той адараў у яго на сотках лішнюю баразну. Статкевіч вымушан быў пайсці ў паплаўнічыя, бо ў райздраве разгледзеліся, што быў ён пры медсанбаце толькі санітарам.

А Федзьку звалілі як малапісьменнага работніка, калі скончылася пара пашаны да розных там агентаў. Федзька пасля гэтага запіў, бо не разумеў, чаму яго, самага актыўнага работніка, звольнілі, першыя гады баяўся адзін паказвацца ў далёкія вёскі.

Сам жа Аляксандр Дзягель трымаўся даўжэй. Не запіў, хату выбудаваў, сабраў багацця, але перабег яму дарогу калгасны бычок. Гэтак хітра перабег, што разаслаўся на хаце цынкавым дахам... Вялікае пагалоскі не пусцілі праўленцы, але з брыгадзіраў давялося пайсці за год да пенсіі... Цяпер, думаючы пра ўсю гэту кампанію, якая збярэцца на цэлы вечар у хату і завядзе п'яную гаворку пра мінулае, Веціку стала не па сабе.

Знаёмы ад самага дзяцінства пякучы жаль да маці варухнуўся ў грудзях. Ёсць жа і апрануць што, ёсць і грошы, бо нікуды іх не трацілі, а толькі збіралі... Цяпер бы пашкадаваць сябе, свайго здароўя, пажыць. Няўжо яна і нарадзілася толькі, каб рабіць работу? У маладосці біў муж, пакуль не адбіў здароўе і не перашалеў. А яна ўсё пыніць дома гаспадарку... Шкадаванне гэтае, можа, было ад таго, што невядома, калі ён болей і ўбачыць маці. І нейкая горыч ашынула з-за таго, што і на развітанне не хапіла ў маці нічога іншага, акрамя як пашкадаваць яму адзежыну.

Але маці ўжо не глядзела на Веціка, снавала ля сталоў няўпэўненаю сваёй хадою, якою яна ходзіць ужо даўно, за якую людзі празвалі маці Сноўніцаю. Так і звалі, быццам і не было ў яе імя. Вецік ведаў, што злосць у людзей і да маці была з-за бацькі, бо ў вёсцы недалюблівалі яго і памяталі тое, чаго не мог памятаць і ведаць Вецік. Вецік падумаў: як маці яшчэ і ходзіць, бо з пазаўчарашняга, калі прыйшла павестка, яна не прысела. І дапамагаць ёй не было каму.

Бацька знарок трымаў да выправін і не калоў парсюка. Як прыйшла павестка, яны ўдвух з Вецікам пасля абеду закалолі, асмалілі і разабралі яго. За ноч маці мусіла пачысціць кішкі, папарадкаваць усё, напхаць заўтра зранку кілбасы, а потым і варыць і ставіць на сталы, каб да вечара было што даць людзям закусіць. Бацька назапасіў гарэлкі, і Вецік не разумеў, нашто частолькі зваць людзей, калі моладзі кампанія была чалавек пяцёх хлопцаў, тых жа самых школьнікаў і дзяўчат. Калі пасля п'яных віншаванняў і наказаў яму ў дарогу пусцілі па сталах засланую хусцінкаю глыбокую міску, здагадаўся Вецік, што меў на ўвазе бацька, як запрашаў шмат людзей, і сам успомніў, што, бываючы на выправінах, клаў грошы «на дарогу». Але цяпер, самому, зрабілася не па сабе ад гэтых грошай, якія маці раніцою, калі ён ад'язджаў, пералічыла і выдзеліла дваццаць рублёў, а астатнія бацька збіраўся пакласці на кніжку.

На выправінах Вецік глядзеў на п'янае застолле, і здавалася, не п'янеў, хоць і піў нараўне з усімі. І не заўважыў і не памятаў, як яго вывелі і паклалі спаць у сенцах, накрыўшы кажухом, і пад якім было цяжка і нядобра. Вецік не мог падняцца, калі бацька, такса-

ма п'яны яшчэ, у гімнасцёрцы з расшпіленым каўняром, будзіў яго раніцою, дапамагаў збірацца, пасадзіў за стол, прымусіў і маці з імі падняць на дарогу чарку. Вецік наліў сабе піва, маці толькі памачыла гарэлкаю губы і паглядзела на стол, быццам выбірала, што з'есці, але так і не знайшла.

Калі ён выходзіў з хаты, маці апошні раз прыпала да яго, і ён адчуваў, як яе рукі сутаргава абдымаюць і прыціскаюць, нібыта ён маленькі, і яна баіцца, не дае, каб адабралі яго ў яе. Ён амаль сілком выслабаніўся з рук, заспяшаў на двор, бо і самому горнасць перацiснула горла. І калі азірнуўся, убачыў праз акно, як маці глядзіць яму ўслед, быццам прыкутая да прыпечка.

Бацька ў варотах прыпыніўся, нeяк сур'ёзна і ўрачыста паказаў на складзеную слупком на агародзе і накрытую зверху толлю цэглу:

— Служы, сынок, як трэба. Але галаў сваю беражы, уперад ніколі не суньcя. І каб нам брыдка не было. Ты чалавек вясковы, рабацяшчы, там табе цяжка не будзе. Каб мне брыдка не было, бач, Толя расліўся, у турме. Кожны гэтым у вочы мне пора. А як адслужыш, то ў мяне з гэтае гары цэглы гараж будзе, а ў гаражы машына табе стаяцьме!

Бацька горда падняў галаву і паглядзеў на сына. Віцек не ведаў, што сказаць, і толькі недарэчна ўсміхаўся, гледзячы на цэглу.

Ля машыны бацька абняў, нязграбна пацалаваў у шчаку, сунуў у руку яшчэ дзесятку грошай.

Машына выехала за вёску. Наперадзе холадна, як лёд на чыстай вадзе, зазелянелася ранішняе неба. Над зямлёю, умёрзлаю, чужою, пачаўся шэры прыцемак, і ў гэтым прыцемку слабым чырвоным святлом свяцілі аўтамабільныя фары, і веліч прыцемкавага поля быццам праглынула машыну ў сваёй пустэчы і неабдымнасці. Толькі тоненька, напята звінеў недзе ў шчылінцы кабіны тугі напорысты вецер. Вецік крышку прыадчыніў ветравічок, каб свежы вецер астудзіў твар, з палёгкаю ўздыхнуў, быццам нарэшце вызваліўся. Ён даўно ўжо вырашыў, што не вернецца з войска дадому, бо добрыя грошы можна зарабляць не толькі ў калгасе, і ён будзе зарабляць, і жыць у асалоду, і ніхто там не скажа, што ён Вецік, сын таго Дзягеля...

Дарэмна абяцае яму бацька і грошы і машыну,— баіцца, што без догляду застанеццца яго набытак. Толю ж некалі жывасілам выпраўляў у горад, у людзі...

Але з чыстага марознага досвітку не сталася светлага дня. І ў Веціка таксама не было далёкае дарогі: іхнюю каманду чамусьці затрымлівалі з адпраўкаю, і ў абед ён на рэйсавым аўтобусе прыехаў дадому, да панядзелка. Калі ён вярнуўся, у хаце ваўсю папівалі і даядалі патрусіны. І яго зноў пасадзілі на покуце...

Цяпер, складаючы ў чамадан адзенне і ўспамінаючы доўгі гэты дзень, Веція шкадаваў, што не пакінулі іх там дзе пры ваенкамаце перачакаць дзень ці два, дома ўжо не было чаго рабіць.

— Ты куды гэта збіраешся? — насцярожана запыталася маці, унёсшы з сянец і ставячы на стол, выцершы фартухом, запацелыя бутэлькі.

— У клуб схаджу, куды яшчэ.

Ён і сам не ведаў, куды пайсці.

Маці недаверліва паківала галавою:

— Не ўдумай да тое хоць перціся! Ад людзей аж брыдка! От прыйдзе бацька з мужчынамі, пасядзеў бы разам, пагаварылі, а то паследні дзень, і то не ўседзіш у хаце.

Веція не захацеў спрачацца. Падумаў, што і сапраўды скора прыйдзе бацька з гасцямі, і тады прыйдзецца заставацца і сядзець.

Ён апрануў новую, на футры, куртку, надзеў пыжыкавую шапку, апрануты прысеў да стала, на хаду зглынуў некалькі кавалкаў мяса, з рыльца выпіў бутэльку напітку і выйшаў на вуліцу, надзеў пальчаткі, прыхіліўся да плота, перачакаў, пакуль зайшоў на двор бацька разам з гасцямі. Добра, што паспеў выйсці з хаты.

Клуб пабудавалі пасярод вёскі, на ўзгорку, там, дзе некалі быў шырокі прагон да самае аселіцы. Пачыналі будаваць даўно, калі яшчэ Веціка старэйшыя хлопцы за каршэль выганялі з танцаў. Замахнуліся на вялікую пабудову, потым на хаду перадумалі, скараціліся, грошы патрацілі, за гадоў шэсць закончылі, а калі закончылі, то аказалася, што за гэты час не толькі пабагацелі, але і паразумнелі: клуб вялікі трэба было будаваць не на адну вёску, а на цэнтральнай сядзібе. Будаваць прыгожы, як цяпер будуюць, а тут

выйшла вялікая будыніна, накрытая шыферам і здалёку падобная на гумно — толькі што вокны ёсць. А калі пабудавалі, то раскідаць нельга. Зрабілі ў адной зале сцэну, павесілі чырвоную плюшавую заслону, другую вузкую залу пакінулі пустою — на танцы. Зацвердзілі на праўленні пасаду загадчыка, адначасова ён жа і прыбіральшчык і бібліятэкар. Бібліятэка мясцілася ў трох шафах, займала невялікі пакойчык, які, бадай, запланаваны быў як раздзявалка акторам і ў якім была свая печка, таму тут было заўсёды цёпла зімою.

На сцэне ў доўгія перапынкі паміж сходамі і нарадамі стаяў на стале більярд.

Вечарам будзённага дня тут нікога не было, акрамя школьнікаў-падлеткаў, якія, радуючыся, што няма старэйшых, ганялі саматробнымі кіямі з лыжных палак металічныя шарыкі, якія гулка стукалі ў пустым і настылым памяшканні, і калі падаў які са стала — быццам ударалі па падлозе малатком.

— Прывет, фраеры! Хто са мною на высадку? — запытаў Вецік, але пары яму не было, і большы з усіх чатырох, Лізы-магазіншчыцы, хітра стрэліў карычневымі вачыма:

— У цябе з Анюткаю лепш выходзіць... У два шарыкі...

Ён быў напагатове, і Вецік не дастаў яго нагою, хоць размахнуўся даць добрага ногца. Ён не любіў гэтага нахабнага і палахлівага, доўгага, як гліст, падлетка, але даганяць не стаў, каб, быццам бы жартам, добра пакамячыць.

Вецік адчыніў дзверы і са сцэны зайшоў у бібліятэку.

Бібліятэкарка Клава сядзела за сталом у празрыстай белай кофтачцы, як і ў яго на выправінах, з падсіненымі павекамі і ярка нафарбаванымі вуснамі.

Першы год пасля школы яна паступала ў медыцынскі інстытут, бо надта хацела быць доктарам і хадзіць у белым халаце і белай шапачцы. У інстытут яна не паступіла, «не прайшла па конкурсу», крыўдавала, што па блату дык узялі і з меншым балам, але і ў кулінарнае вучылішча, дзе таксама даюць белыя халаты і носяць белыя шапачкі, не падавалася. Таму, што рыхтавалася да белае медыцынскае кар'еры, на ферму ці ў брыгаду таксама не пайшла. Знайшлі ёй пасаду на тры

месцы адразу, хоць і плацілі за ўсе тры толькі шэсцьдзесят рублёў. Але грошай Клаве хапала, бо маці рабіла даглядчыцаю на свінарніку, а бацька на экскаватары ў меліярацыйным упраўленні.

На другі год у Клавы яшчэ засталася любоў да белых халатаў. Яна паступала на медсястру ў медвучылішча. Але і там ёй дарогу перайшоў той жа самы блат. Яна і загадзя ведала, што «блат» пяройдзе дарогу, бо работу ў бібліятэцы не пакідала. Праплакаўшы два дні з-за таго, што не насіць ёй белага халата і белае касынкі, яна зноў штовечара сядзела ў бібліятэцы, прыбраўшыся, як нявеста на выданні, і гартала часопісы мод, якія выпісвала на бібліятэку. Любоў да гэтых часопісаў у яе была, мажа, і большая, чым да белых халатаў.

Грошай на адзенне дачцэ маці не шкадавала, таму што, мабыць, даўно здагадалася: з белых халатаў толку не будзе, а спакайней, калі дачка ў клубе сядзець застанецца. Знайсці б ёй толькі талковага спакойнага чалавека, пакуль не позна, бо надта ж ахвотна і весела смяецца дачка і мружыць вочы на хлопцаў. З гэтае прычыны маці і прыходзіла сама «зачыняць клуб», пакуль студэнты ў калгасе выбіралі бульбу і хадзілі на танцы ў клуб.

— Ну, Клава — ты атрава! Я падаю!

Вецік пахіснуўся, узяўся рукою за сэрца. Клава весела пачырванела, падняла на яго блакітненькія вочы, глянула то на адно сваё плячо, то на другое. Вецік, не спыняючыся, зайшоў і абняў Клаву, прыціснуўшы яе да спінкі крэсла, крыху пахіліў да сябе, моцна пацалаваў у нафарбаваныя вусны, адчуў пад рукамі грудзі. Дзяўчына напружана заціхла, Вецік яшчэ мацней прыціскаў і цалаваў, і яна не варушылася, толькі калі ён моцна нахіліў крэсла, усмешліва і нахабнавата глядзеў на яе ногі ў светленькім капроне, якія былі відаць з-пад кароткай спаднічкі, яна заварушылася, і ад гэтага ногі яшчэ больш паказаліся на свет.

— Ну пусці, сумашэдшы! Як табе не брыдка! Ой, пусці! — перастала варушыцца і папрасілася Клава, не надта абурана і не надта злосна.

Вецік адпусціў дзяўчыну, усмешліва глядзеў, як яна адскочыла ўбок, абцягнула спаднічку, паправіла кофтачку, аскублася навокал, як качка, зазірнула,

чуць прыўстаўшы на пальчыкі, у люстра, якое вісела на шафе, усміхнулася і быццам бы ўсё яшчэ пакрыўджана абуралася:

— Хватаешся, як ненармальны. Кожны ўсё хватаецца і хватаецца, кофтачку кожны дзень толькі мый!

Вецік засмяяўся. Толькі цяпер успомніў, як яшчэ ўчора на вечары быў злавіў яе ў цёмных сенцах і што яна хутка перастала супраціўляцца і сама абнімала яго і цалавала, калі нанесла некага...

І ад гэтага ўспаміну быццам пацягнула свежым ветрыкам і астудзіла. Не хапала толькі звязвацца з Клаваю, мець яе, гладкую жонку, машыну, зарабляць, каб уволю есці і піць. Ён не прагны на грошы і на ежу. Яму хапала і таго і другога. Ён ведае, што можна жыць не толькі дзеля таго, каб зарабляць на хлеб. Ёсць другое жыццё. Ён з дзяцінства бачыў, як глядзелі на тых, хто прыязджаў з горада, і як пачціва пра іх гаварылі, а пра сваю работу, як пра нешта не вартае ўвагі, і таму выпіхалі дзяцей «у людзі». І Вецік не горшы за другіх...

Ён зноў успомніў, што вольны чалавек, што цяпер ніхто і нішто яму не ўказ. Ён ужо належыць да тых людзей, якія вяртаюцца сюды, каб пакрасавацца, якім павінны зайздросціць.

Вецік ступіў да Клавы, якая не вельмі спяшаючыся саступіла ўбок, толькі павяла вачыма, але ён не схапіў яе ў абдымкі, а далоняю мацнавата ляпнуў па туга абцягнутым спаднічкаю азадку. Клава рагатнула, незласліва ляпнула Веціка па спіне, але ён не азірнуўся, выйшаў з пакойчыка, там адвёў убок таго самага Лізінага, сунуў у руку пяцерку:

— Дуй, Васька, вазьмі ў маці бутэльку.

— Няма ў яе...

— Давай, гліст белы. Палавіна табе.

— Пачакай, партыю кончу...

— Давай, я за цябе дастукаю, більярдун!

Пасланец вярнуўся скора. Выпілі тут жа, у кутку, дзе на табурэтцы стаяў бачок з вадою і эмаліраваны кубак. Васька выкаўтаў гарэлку, быццам ваду, пачырванеў, напхаў поўны рот хлеба, Вецік падумаў, што грошы наўрад ці Васька аддасць маці, і што з гэтага Ваські вырасце добры абармот.

Веціку не было больш чаго рабіць у клубе. Ён выйшаў на двор, гучна ляпнуўшы дзвярыма, з вядомаю

толькі маладым прагаю, удыхнуў холад познявосеньскае ночы, у якой заблудзіўся і б'ецца тугімі хвалямі вецер, здаецца, разбіваючыся на халодныя нябачныя пырскі. У гэтым холадзе гэтак туга і горача білася ў Вецікавым целе кроў, што аж звінела ўвушшу. Ён вольна і шпарка ішоў па вуліцы, адзінокі, усясільны, упэўнены ў тым, што робіць. На двор зайшоў ціхенька, падышоў і памацаў затычку на хляве, але замест затычкі рука абмацала халоднае жалеза замка. Вецік здагадаўся, што бацька знарок замкнуў матацыкл, каб ён не ўзяў. Вецік спыніўся ля акна, праз шчыліну між фіранак бачыў, як сядзіць за сталом бацька, весела і злосна падумаў, што будзе на яго, на Вецікавым — пяшком пойдзе да Анюты і застанецца ў яе на ўвесь заўтрашні дзень.

Радуючыся сваёй непакорлівасці, помсліва і весела ішоў па вуліцы. Спыніўся, калі заўважыў самаходнае шасі ў святле, якое падала з акна ў Дубіцкага, уявіў, як заўтра раненька Дубіцкі выйдзе, каб ехаць на работу, а шасі быццам растала.

Вецік выключыў перадачу, выкіраваў на сярод вуліцы і асцярожна папхаў шасі, яшчэ не ведаючы, куды ж яго можна закаціць так, каб не адразу і знайшоў Дубіцкі. І толькі калі шасі само пачало каціцца з узгорка, і ён на хаду ўскочыў на сядзенне, здагадаўся, што можна ж паехаць і на шасі. Нічога яму не зробяць. Уключыў хуткасць і пусціў счапленне, матор спачатку зачмыхаў, потым затрашчаў нечакана аглушальна, быццам застрачылі на далёкім палігоне з буйнакаліберннага кулямёта.

Вецік паспрабаваў запаліць святло, але яно не гарэла, і толькі тады падумаў, што Дубіцкі зліў на ноч ваду, але пяць кіламетраў праедзецца, не рассыплецца гэтая разваліна, а калі развáліцца, то Дубіцкі дзякуй скажа — дадуць новую машыну.

Пакрысе вочы прывыкалі да цемры, і Вецік выразна бачыў шэрую паласу дарогі. Прыбавіў хуткасць і на поўныя грудзі весела ўдыхаў пах саляркі і цёплага жалеза. І ён быў вольны, нікому і нічым неабавязаны, шчаслівы ад свае вольнасці, ад гэтае ночы ў полі, дзе ён і жывая душа, і ўладар...

Ён не заўважыў, адчуў, як пахілілася шасі. І не спалохаўся, калі лёгка праваліўся пад нагою тармазны пе-

даль. Невядомая сіла падхапіла яго і прыціснула да такое гулкае пад нагамі і надзейнае зямлі. Сэрца на імгненне зайшлося ад вострага адчування палёту, а потым ад болю, з-за якога нельга зрабілася ўдыхнуць на поўныя грудзі, бо зямны холад раптам як астудзіў усю яго гарачую кроў...

## III

Анэта ўстала, як толькі засвятлела на двары. Акуратна заслала пасцель, пастаяла пасярод хаты, агледзелася. Шпалеры на сценах старыя, крыху закуралыя ад старасці, але акуратныя, нідзе не парваныя і не вымурзаныя. Столь хоць і нефарбаваная, з дошак, пацямнелых ад часу, але вымытая старою, нават і ў прыцемках адсвечвала роўнаю жаўцізною, на якой, як птушкі, цямнелі ўкамянелыя за многа год сукі. Вокны завешаны падсіненымі паркалёвымі фіраначкамі, падлога, пафарбаваная сынам гадоў пяць назад, не вышмаргалася нагамі, туманна паблісквала фарбаю, толькі што дошкі высахлі, разышліся, што аж па пальцу шчыліны між імі. Ля сценкі між вокнамі стаялі два крэслы, таксама не цяперашнія, з гнутага дрэва, а бліжэй к покуці — круглы стол, засланы абрусам з мохрыкамі. На покуці, пад іконаю, вісеў рэпрадуктарчык, таксама стары, з крыху паржавелым металічным абадком, за якім была напята мацёра. Анэта ўмылася, памалілася, гледзячы на ікону, падышла да рэпрадуктара, пакруціла за кацёлку, каб чутней было, але радыё не стала гаварыць мацней, мабыць, не хапала моцы ў тых, хто перадаваў.

Паўз сцяну — што ад двара — стаяла лава, даўнейшая, як і некалі ў бацькавай хаце. Федзя збіраўся выкінуць яе, але Анэта не дала, сказала, што адной ёй у хаце лава не замінае. Шкода было выкідаць лаву — яшчэ моцная. За лаваю, пры акне, стаяў стол, таксама старое сталярскае работы, а на сцяне, што ад сянец, вісела пафарбаваная ў зялёны колер паліца, з палічкамі, пазавешванымі фіранкамі, з шафкаю. На палічках у Анэты стаяў посуд і крупы, а ў шафцы ляжаў хлеб.

— Хай і не ўсё новае ў хаце, але яшчэ моцнае, што мае цану. Як і дамоўка ўся, хай і невялікая па-цяперашняму, але і не малая. Робленая з тоўстага дрэва ха-

та, яшчэ добры гонтавы дах, прасторныя сенцы, хлявы таксама накрытыя добра і дагледжаныя. Не, не ўсякі мужчына гэтак можа дагледзець дамоўку, як яна, Анэта.

Анэта апранула куфайку; падперазала фартух, узяла старую бляшаную дайнічку і пайшла да хлява, дзе некалі складала сена. У гэтым хляве выкапаны пограб, глыбокі і вялікі, сцены абкладзеныя каменнем і залітыя цэментам, а зверху на рэйкі накладзена тоўстых дубовых плашчакоў. І рэйкі і плашчакі яна прыпасла з канца вайны, зрабіла пограб навечна, у зручным месцы — зверху натоптваецца ў хляве сена, а таму ніякі мароз не страшны. Неяк і не думалася, што хлеў можа быць незакладзены сенам. Каторы год ужо пусты хлеў. Суха пахне пыльнаю саломаю з падстрэшкаў.

Дайнічка зусім заржавела — цяпер у ёй старая носіць з пограба бульбу, бо кошык цяжка вымаць па лесках з пограба.

Анэта пакінула дзверы адчыненымі, злезла ў пограб, пастаяла, пакуль прывыкнуць вочы да прыцемак. Некалі ў гэтым пограбе і бочка з капустаю стаяла, і бочачка з агуркамі, і морквы было, і буракоў, і бручкі. Цяпер насыпана бульбы і буракоў, бо агароду не садзіць, няма сілы капаць грады. А бульбу вясною ёсць выгада і прадаваць, і нават здаваць нарыхтоўшчыкам.

Анэта старалася не заўважаць і не думаць пра тое, што за апошнія гады раскідалася ўся яе гаспадарка. Ну, няхай ёй адной на карову цяжка было нарабіць. Але ж вось цяпер дажылася, што і куры няма на сядзібе, і апошняга парсючка закалола, а парасяці не купіла, няма каму нават недаедкі выкінуць. Кошка і тая прапала, сабакі разарвалі хіба.

Не стала гаспадаркі таму, што не стала сілы рабіць, як некалі, дамашнюю работу,— але пра гэта Анэта не хацела думаць і гаварыць.

Асцярожна ставячы вядро на аслізлыя лёсткі, старая выбралася з пограба, прыкрыла дзверцы анучамі, каб не лез холад. На двары паставіла вядро, агледзелася. Нідзе яшчэ не дымілі каміны. От жыць пачалі людзі. Каб гэта на старых некалі, каб устаў хто з іх з магілы!.. Спяць цяпер людзі да гэтае пары! Даўней канчалі б ужо ў печах паліць. І тое, што яна вось устала,

пачала ўходжвацца, яшчэ больш абадзёрыла і падвесяліла Анэту.

У хаце яна распранулася, увішна запаліла ў печы, паставіла да агню чыгунок з вадою, села абіраць бульбу, памыла яе ў вялікай алюмініевай місцы, большую разрэзала напалам, паклала ў чыгунок. Пайшла ў каморку, якая гэтаксама, як і хлеў, пуста пахла пылам, а не мукою, не збажынаю, што цяпер не стаяла тут у дзежках. Прывезеная Федзем мука была ў папяровых мяшэчках у шкафчыку.

Уходжвалася Анэта весела, здавалася ёй, спрытна.

Снедала, паставіўшы на стол чыгунчык з бульбаю. Кусала бульбы, адкалуплівала лыжкаю па кавалачку масла, запівала халаднаватым малаком.

От нейкі лёгкі настрой апанаваў пасля таго начнога ўспаміну, не думалася ні пра сваю адзіноту, не нудзілася, гатова была цэлы дзень рабіць, пыніцца.

Прыбраўшы ўсё, Анэта прысела на лаву, каб успомніць, што ёй трэба зрабіць сёння, і не магла ўспомніць, бо і не было тае абавязковасці, бо, папраўдзе, пыніць ёй заставалася толькі сябе самую. Анэта аж гмыкнула — гэтак нечакана ўгледзелася самой, што пыніць толькі сябе адну, як пані якая, а таму зразумела і тую нудоту, і непрыкаянасць, якая падступала часінаю: толькі дзеля сябе самой рабіць — не мела быццам бы і сэнсу, век яна не толькі пра сябе думала, і таму мела права верыць, што яе клопат неабходны, што нельга без яго, а таму і без яе самое! Цяпер, выходзіла, бытта і не абавязкова яна патрэбна...

Анэта апранулася, выйшла на двор, пастаяла і пайшла да Гэлькі.

Гэльчына хата стаяла па другі бок вуліцы, цераз дзве хаты ад Анэцінае. Гэлька ўжо год як палучала пенсію, але не пакідала работу на свінарніку, дзяржала і карову, і падсвінка. Яна давала малако Анэце, платы не брала — «за тое, што хату маю пільнуеце». Анэта і праўда пільнавала хату, калі Гэлькі не было, даглядала і гаспадарку, і давала парады, як і што рабіць, і не толькі давала, але і патрабавала, каб Гэлька рабіла так, як яна, Анэта, сказала. Праўда, раз ці два ў год Гэлька паўставала супроць свае камандзіркі. Старыя сварыліся. Анэта пасля гэтага сядзела які тыдзень без малака, памятаючы, што яе нага і на парог больш не

ступіць да «тае доўбні». А што доўбня, то доўбня. Таму і замуж ніхто не ўзяў, таму і дажывае век ялаўкаю. Каб разумная была, то як пабачыла, што застаецца адна, як палец, то прыстаралася б ад каго дзіцяці, выгадавала б. І ніхто не ўпікнуў бы. Доўбня яшчэ і таму, што век душыцца, робіць, свету не бачыць, а так нічога і не мае. І грошы параздае за тое, што пляц ёй засеюць, што дроў прывязуць, а пасля ніхто і носа не пакажа. Некалі перастане ўздужаць і грошай не мецьме. А яшчэ і ўбоіна, не глядзіць нічога. Платы ледзьве стаяць, страха ўжо цячы пачынае, на варотцах няма і зашчапкі, на ноч калом з двара падпіраць трэба.

Усё гэта Анэта выгаворвала Гэльцы, а тады тая і бажылася, што Анэціна нага больш не ступіць на яе двор, што памыямі абалье, калі паўз яе хату тая пройдзе, бо і Анэта гэтакая самая дурная, як і яна, яшчэ дурнейшая. Таму нават і дзеці не хочуць да сябе браць, гэтак і ўтрупее адна ў пустой хаце, не прыйдзе дагледзець яе Гэлька...

Сварыліся яны абедзве доўга, з лютасцю, спавядаючы адна адной усё жыццё, бо і расказвалі ж, сябруючы, пра сябе ўсё без утайкі...

Праз які тыдзень, калі папанудзілася ўжо кожная ў сваёй хаце, Анэта брала збаночак, які заставаўся ў яе, і несла Гэльцы.

Заходзіла, казала «добры вечар», ставіла збаночак на стол і, ужо бытта адыходзячы, гаварыла:

— От забылася была. А табе мо і патрэбна пасудзіна?

— Каб толькі тае бяды. Не вельмі і карова доіцца. Ды і парасяці выліваю. А гэтыя два дні нешта есці не ўзяло было. Так добра ела, адале як нажом урэзала.

— Перакарміла, мабыць. Я ж табе колькі гаварыла, што не лі салодкага малака. Кіслым ніколі не абкорміш. Свіння ж, як абхваціцца яды, доўга ў рот не возьме.

— За гэтаю ж бо калгаснаю работаю вечна спяшаеш...

Пра сварку не ўспаміналі ні адна, ні другая.

Гаворачы, Гэлька налівала старой у збанок малака, падавала, як нічога і не было. Анэта брала збаночак, яшчэ стаяла ў парозе, потым садзілася на заслончык.

І ўжо гаварылі мірна, пра ўсіх знаёмых-суседзяў, дружна, згодна хвалілі або ганілі.

Каб хто папытаў у Анэты, чаму яна так лёгка адпусцілася на Гэльку, то Анэта б сказала, што шкода ёй Гэльку. Ззамаладу ж была і рослая, і здаровая, і з твару харошая. От выйшла гэтак, што да вайны не пайшла замуж, а пасля вайны і мужчын не засталося. Любіла работу рабіць, за работаю свету не бачыла. Можа, каб больш дзе па гулях шастала, то і знайшла б якога мужчыну ці хоць дзіця прыдбала.

А цяпер выбіла сілу, грошы тыя, што зарабляе, бесталку распускае.

З Анэцінае б гаворкі выйшла, што каб не яе спагада з Гэлькі і не яе парады, то прапала б даўно Гэлька, нічога б не мела.

Анэта ведала гэта дакладна. І нават сама Гэлька на людзях, хвалячы Анэту, сама гаварыла, што каб не Анэта, то ёй, Гэльцы, немаведама як жыць было б...

Гэлька спяшала з рашкаю ў руцэ ад хлява, прыпынілася, выцерла руку аб хвартух.

— От добра, што вы, цётухна, прыйшлі! А ў мяне ж усё ўсярэдзіне аж трымціць. А тут у печы яшчэ не выгарала, а мне бегчы трэба. Ой цётухна!

— Куды ж гэта табе так трэба бегчы?

— Аляксандра ж нашага хлопец перавярнуўся ночы сёння на трактары. Ото ў войска ісці. Трэба ж мне бегчы туды.

— Гэта самы меншы Дзягелеў?

— Меншы. Большы ж яшчэ сядзіць у турме, паўгода асталося.

— Ну, пайсці табе трэба, вядома ж, радня некая. Толькі няма чаго надта трымцець. Рук жа пад яго цяпер не падложыш. Ты пра самую троха думай. Аляксандар за цябе гэтак калаціцца не будзе, як што якое. Работу памагчы рабіць не надта спяшаў ці спяшае, чужыя людзі робяць...

— Яно-то мо і праўда, але ж я нек падумала...

— Лішняга не трэба думаць і лішняга няма чаго да душы браць. Пайсці трэба. От бач, кажуць, няма бога. А бог жа ёсць. Як гэты Аляксандр светам круціў, што вытвараў? І краў, і ў людзей браў. А не спажыве дабра. Старшы хлопец, бач, скруціўся, у турме. Меншы так-

сама падсунуў голаў. От на чужых слязах шчасця свайго не зробіш!..

— Тут жа не пра гэта, цётухна. Хлопец жа невінаваты.

— Яно ж, ведама, гэтак. Але і ты не надта дапускайся да жалю. Век зжыла, а пра сябе думаць не ўмееш. І сябе трохі глядзі. Што тут табе рабіць асталося?

— От печы толькі паглядзець, каб дагарэла.

— Пагляджу я, дапалю.

Анэта зайшла следам за Гэлькаю ў хату, узялася за качаргу, падгарнула ў печы. І, стоячы пры печы, папыталася:

— Які ж дзень сёння? Пятніца? Радзіва мае толькі шэпча...

— Субота ўжэ сёння.

— А ты грошай лішне не бяры. Прывыкла разносіць! — прыкрыкнула Анэта на Гэльку, бачачы, што тая нешта шаполіцца ў шафе...

— Не, гэта я хустку шукаю...

— От, як я цябе не ведаю! Хлопца-то я не помню. А Анцю Дзягелеву шкода мне. Гэтакая харошая і дзеўка некалі была, і жанчына гэтакая ўдалая. А шчасця не бачыла. Круціў ён век светам, гнюсіў і з жанкамі, і з людзьмі...

— Ай, цётухна, што цяпер гаварыць... Пайшла я...

## IV

Федзя прывык уставаць у сем гадзін. Уставаў, ці будні дзень, ці нядзеля. Устаўшы ў сем, ён паспяваў сабрацца і прыйсці на завод. І за многа год уставаць у адзін час увайшло ў прывычку. Ці, можа, яму толькі здаецца, што ўсё жыццё ўставаў так рана, бо ў маладосці ж любіў паспаць? Старэе. Дажыў да такіх год, што не спіцца. Хаця ніколі не думае чалавек, што стары ён, ёсць заўсёды ў яго спадзяванне, што яшчэ маладзён.

Федзя ўстаў ціха, каб не пабудзіць жонку, адзеўся ў трэніровачнае трыко — не любіў і ніколі не насіў піжам. Нагадвалі яны нешта бальнічнае, паласатае, а бальніц ён баяўся, можа, таму, што ніколі не хварэў, і толькі, праходзячы паўз прасторныя карпусы гарад-

ской бальніцы, дзівіўся, якая яна вялікая і як многа там людзей, і не мог уявіць сябе там многа дзён. І калі нават высветлілася, што ў яго гастрыт, сам штодня піў адвар светаянніку не гэтулькі з-за веры ў папраўку, а з-за таго, што баяўся трапіць у бальніцу.

Ён зайшоў у залу, прачыніў дзверы на балкон і аж адступіўся ў бок ад халоднага, марознага густога струменю, які, нібыта вада, пацёк у пакой. І было нешта ў гэтым холадзе такое моцнае, здаровае, што Федзя колькі часу стаяў нерухома і адчуваў, нібыта гэтае здароўе перадаецца і яму.

Потым выйшаў на калідор, прычыніў дзверы ў дзіцячы пакой, а сам зайшоў на кухню, сеў на белую з тоненькімі ножкамі табурэтку, закурыў «беламорыну» — не мог ніяк адвыкнуць курыць нашча. Некалі, як толькі прыйшоў з вёскі ў горад, пачаў зарабляць сам, і апранацца хацелася лепш, і закурыць дзеля форсу перад дзяўчатамі — тады не хапала грошай ні на адзежу, ні на папяросы. Цяпер хапае і на адзенне, і на папяросы, хоць і не цягне заглядацца на дзяўчат. Трэба было б пакідаць курыць. На ўсё ў жыцці свая пара, і трэба ўмець зразумець гэта і не працівіцца, бо ўсё ў чалавечым жыцці ідзе па сваіх бясконцых кругах. Нібы даганяеш нешта новае, лепшае і шкадуеш і ўспамінаеш старое, пакуль раптоўна не спыніцца гэтая і доўгая і кароткая імклівая пагоня, а разам з ёю канчыцца і чалавечае жыццё.

Многа прайшло з таго часу, калі Федзя з палатнянаю торбачкаю пайшоў у горад. Цяпер ён ужо заслужаны і вопытны рабочы, майстра, як гавораць пра такіх. А вось некалі знікне, як пылінка, і застанецца ад яго памяці, можа, толькі на адно пакаленне, бо памяць пра бацькоў жыве яшчэ адзін век разам з іхнімі дзецьмі...

Часам недарэчныя думкі лезуць у галаву чалавеку, калі волас на сівае, а самога на дзяцінае вядзе...

— Ты ўжо не спіш, бацька?

Ён не чуў, калі падышла Лена, стала побач, пагладзіла рукою па галаве.

— Сівы ты стаў, Федзя.

Ён не адказаў, узяў яе маленькую і худую руку да свае жорсткае, непаголенае шчакі, другою рукою абняў і прытуліў жонку да сябе, адчуў яе цяпло:

15 Зак. 697

— Хай бы спала яшчэ, Лена.

Яна заўсёды ўставала, як падымаўся ён. Кожнага дня праводзіла да дзвярэй, і потым ён бачыў, як праз акно глядзела яму ўслед. А сёння не было чаго рабіць у кватэры зранку, можна адпачываць, пакуль спяць дзеці.

Жонка нічога не адказала, пагладзіла далонню па шчацэ і не адышла. Яму было добра ад гэтае мацярынскае ласкі, ад яе дабраты, якую ён пачаў заўважаць і зразумеў толькі ў апошнія гады і якая, памятаў ён, была ў яе ад першых дзён іхняга жыцця разам. Цяпер не раз хацелася сказаць добрае, удзячнае ёй, і ён не адважваўся. Нечаму было сорамна, як і сорамна прызнацца на словах, што яму прыемна яе ласкавасць, і што ён чакае яе, і ад гэтага шчаслівы чалавек... З гадамі скупее чалавек і на шчырасць, быццам усё пакідае толькі самаму сабе.

— Старая я стала, худая і брыдкая,— уздыхнула Лена, і ён нічога не сказаў, толькі пацалаваў яе руку і мацней прытуліў да сябе.

Лена і ў сорак шэсць засталася худзенькаю, дробненькаю і вяснушчатаю з твару, на якім абазначыліся маршчынкі. Валасы не густыя і не пышныя, а цёмныя і коратка астрыжаныя. Але ў шэрых, нечакана глыбокіх вачах было многа дабраты, якая і робіць чалавека прыгожым тою прыгажосцю, вышэй за якую не бывае на свеце. Трэба ўмець адчуць гэту прыгажосць. І шчаслівы той, каму ў жыцці выпала сустрэць яе. Федзю цяпер страшна было падумаць, што ён мог пражыць жыццё і не ведаў бы пра гэта.

— Божа, дзеці скора ўстануць, а я лашчуся да цябе, як маладзёна,— ціха засмяялася Лена, села на табурэтку, па-дзявочы ступіўшы калені. У лёгенькай летняй сукенцы, акуратна расчэсаная, яна і заўсёды, колькі ён памятаў яе, была гэтакая ж акуратная і падлетняму прыгожая.

— Чым цябе сёння карміць? Што з табою робіцца?

— У цябе другі раз улюбіўся!

— Божа, Федзя! Хоць бы ў якую маладую...— Яна ціха і шчасліва засмяялася, нахіліла на адзін бок галаву, сур'ёзна раптам паглядзела на яго, адмоўна паківала галавою.— Божа, Федзя, не, не!

І твар яе стаў на нейкае імгненне няшчасны і спа-

лоханы, нібыта спалохалася яна сваіх думак, ці толькі што сказанага. У вачах у яе была такая безабароннасць, што ён памкнуўся ўстаць, нешта сказаць, але яна сама вінавата ўсміхнулася.

— Я пастаўлю табе каву, Федзя.

— Да маці трэба ехаць. Холадна ў яе там, мабыць. Мы ж збіраліся выбраць табе паліто...

— Успеем. Едзь, пакуль снегу няма. Мне і так страшна, як ты куды едзеш.

— Пройдзем па магазінах, паглядзім табе паліто. А пасля паедзем разам.

— Не позна будзе?

— Успеем.

— А да Клавы маці так і не захацела ісці?

— І тая не надта яе хоча. А маці ж мяркуе, каб мне хата асталася, грошы каб мне былі.— Федзя ўсміхнуўся.— К Клаве яна не пойдзе і з-за гэтага.

— Я думала прыбраць сёння ў кватэры.

— Заўтра. Я памагу.

— Добра. Паснедай толькі.

Федзя ходка крочыў тратуарам, сухім і настылым. Сустрэчны ветрык прыпякаў у твар холадам. Федзя наставіў каўнер паліто, ссутуліўся. Любіў ён такія часіны ў горадзе, бязлюднасць ранішніх вуліц, белыя ватнія дымкі з выхлапных труб у легкавічкоў, гулкі пошчак абцасаў, дворнічых, чамусьці тоўстых, цёпла ўвадзетых цётак у чорных картовых халатах і гэтакіх жа чырвоных з твару, як і ранішнія агні светафораў. І тое, як яны па-мужчынску, быццам косячы, шахалі ў два бакі мяцёлкамі на вожагах...

Ён памятаў запалыя мацерыны вочы і непрывычную падпухласць ад голаду на твары. І адчуванне, быццам гэта ён вінаваты, што яна ўсё жыццё толькі рабіла работу, каб пракарміць іх, дзяцей, на старасць год мерзнуць адной у хаце, якую будавала не толькі сабе...

Той холад быццам цяпер астудзіў усяго і працяў аж да касцей. Колькі мінула гадоў, а адчуванне тое не праходзіць, не мінаецца, быццам было гэта не дзесяткі гадоў назад, а толькі ўчора.

*Ішлі дажджы, доўгія, шэрыя і халодныя. Холад дабіраў і ў хаце, можа, таму, што ў печы многа не палілі, і цёпла было толькі на чарэні. Пахла сухою цёплаю глінаю і нагрэтымі анучамі. І гэтакім малюсенькім астраўком сярод холаду і вільгаці здавалася хата з заплаканымі шыбамі вокан, і так добра сядзець у цяпле на печы, і не хацелася злазіць босымі нагамі на халодны, выбіты глінаю дол.*

*Думалася не пра тое, што нельга выйсці на двор, пайсці ў школу. Нават страшна ўявіць, як па такім дажджы прайсці пяць кіламетраў да школы і потым мокраму сядзець у старым халодным памяшканні, якое на скорую руку скідалі з ацалелых пасля ваеннага пажару гумнаў. Не пакідала трывога за маці, якая нерухома ляжала на печы і цяжка дыхала. Нават у прыцемку восеньскага дня твар яе быў смяротна-белы.*

*Федзю рабілася страшна ад таго, што маці не варушыцца, доўга ляжыць нерухома і пачынае ўсё слабей і слабей дыхаць. Тады ён станавіўся на прымурак і прыслухоўваўся. Маці адчувала яго позірк, расплюшчвала вочы, глядзела быццам скрозь туман, бездапаможна і адзінока.*

*Пасля маці заходзілася доўгім кашлем, ад якога аж падкідала ўсю яе. Здавалася, ад гэтага кашлю разарвуцца грудзі. Валя, якая не злазіла з печы, у даўгаватай, пашытай «на падрост» суконачцы перастаўляла грызці сухія і цвёрдыя, як каменьчыкі, сушаныя грушы-дзічкі. Сад іхні вымерз перад вайною, а тую, старую грушу, што засталася, маці ссекла на дровы, каб не плаціць падатак. Маці гаварыла, што без груш яны пражывуць, лепш грошы яна за Федзю ў школу заплоціць. Дзічкі збіралі і сушылі з грушы, якая расла ў суседа, пры мяжы. Каб назбіраць іх, маці ўставала раненька, пакуль Лаўрынчык не прачнуўся і не пазбіраў грушы.*

*Тады Федзю не было як хадзіць у школу, ён сам парыў свінні бульбу, карміў курэй. Чатыры куры і свіння-мацёра, ад якое меліся выгадаваць парасят і ўтаргаваць за іх грошай,— уся іхняя гаспадарка.*

*Федзя даглядаў маці, варыў на абед расольнік з агуркоў альбо бульбяны суп, затоўкаючы яго здорам, скрутачак якога яшчэ застаўся ў кубле. Гэтага здору*

*павінна было хапіць, пакуль вырастуць тыя парасяткі, якіх яшчэ не было. З дзічакварыў узвар. Узвар быў кіславаты, ад яго перасыхала ў роце.*

*Федзя хадзіў на мяжу, дзе засталіся кусты малінніку, якія яны кожны год карчавалі з маці і якія ўсё роўна браліся расці. Ён ламаў маліннік заварваць чай, які даваў піць маці, каб прайшла прастуда...*

*Таго дня маці не ўзяла ў рот ні лыжкі, толькі падрысе піла астылы чай і цяжка і рэдка дыхала, падымала на сына вочы, якія глядзелі аднекуль ужо здалёку...*

*Як пачало вечарэць, незаўважна і глуха прыпадаў, акружаў хату ранні восеньскі глухі прыцемак, у душы зарадзіўся жах, яшчэ маленькі, але неадольны. Федзя адчуваў сябе самым адзінокім на свеце і самым няшчасным. І гэтае адчуванне адзіноты, непатрэбнасці і нявартасці ён запомніў на ўсё жыццё.*

*Невядома, ці чаго спалохалася ў цемры на печы, ці таксама ад страху за маці, нечакана голасна заплакала Валя.*

*Федзя не ведаў, што рабіць, адчуваў, што сам таксама вось-вось загалосіць, і тады ўсё прападзе, усё скончыцца.*

*— Ціха, чаго ты разраўлася! — прыкрыкнуў ён на сястру, і тая прымоўкла. І ў Федзі раптам ажыла знясіленая ўпартасць — нешта зрабіць!..*

*Чаму ён вырашыў, што маці патрэбна малако, паранае малако, невядома. Проста трэба было нешта рабіць, ратаваць маці і ратавацца. Ён абуў свае вялікія салдацкія чаравікі, у якіх ужо пратапталася падэшва і праз маленькую дзірачку нацякала вады, ускінуў мацерыну світку, якая была яму за адзежыну, і пайшоў на двор.*

*Коса, роўна і бязлітасна хвастаў у твар дажджом вецер.*

*Пакуль дайшоў да хаты Кульбіцкіх, картовыя штаны спераду прамоклі, і яго пачало калаціць ад холаду.*

*Хата Кульбіцкага стаяла на ўзгорку, маленькая, з акенцамі, да якіх была засыпана кастрыцаю прызба. Усё здавалася такім маленькім і нетрывалым, што і жыць там можа толькі адзін чалавек. Але ў гэтай хатцы мясцілася трое дзяцей і сам Кульбіцкі з жонкаю Мартаю, высокаю, худою і пляскатаю, як дошка, жан-*

*чынаю з вялікімі мужчынскімі рукамі, густым глухаватым голасам. Вярнуўся з фронту яе Ванечка з пакалечанымі нагамі — не разгіналіся яны пасля ранення — хадзіў цяжка прысеўшы, пакрысе перасоўваючы ногі. А больш сядзеў на шырокай лаве, падкурчыўшы ногі па-турэцку, вялікагаловы, з густою чупрынаю, пабітаю сівізною, з цяжкімі сялянскімі рукамі.*

*У хаце было душна, моцна пахла самасадам, і пад столлю вісела сінь тытунёвага дыму. Цэлыя дні Кульбіцкі то шыў калгасныя хамуты, то правіў каму-небудзь абутак, а калі не было гэтае работы, плёў з лазовых дубцоў кашы ці ладзіў граблі — і гэтак кожны дзень, бо трэба было зарабляць на сям'ю, а сям'я была адзін пад аднаго, кулялася і пішчала на гліняным доле. І калі ўжо залішне было ў хаце віску, Кульбіцкі пагрозліва падымаў дубец:*

*— Ядры вашу, ціха! А то як сербану!*

*І дзеці на ўсякі выпадак падаваліся далей ад бацькі, прыціхалі, але ненадоўга. Сам Кульбіцкі, часінаю, глядзеў, як яны коўзаюцца па халодным доле, басаногія, раздзетыя, і вочы яго рабіліся нечакана цёмнымі і глыбокімі. Тады ён глуха стагнаў, неяк бяссільна і адчайна — стараўся і не мог штосьці пракаўтнуць, што дайка засела ў горле... Потым пільна азіраўся навокал, ці ніхто не глядзіць на яго. Калі былі староннія ў хаце, усміхаўся, чорныя глыбокія вочы ўспыхвалі жывым і вясёлым агеньчыкам.*

*— Заходзь, заходзь, Федзя! Што стаў на парозе! Ядры яго макатрону, прамок ты як! Ідзі сюды, садзіся.*

*Федзя стаяў у парозе, усё яшчэ холадна ўздрыгваючы, глядзеў на нахіленага над ботам Кульбіцкага, які гаварыў і не пераставаў шыць, спрытна хадзілі ў руках дратва і шыла.*

*— Мо падшыць трэба што?*

*Федзя не ведаў, што адказаць, глядзеў на малых, якія папісквалі, як мышаняты, не звярталі на яго ўвагі і дружна спрабавалі паваліць на зямлю большага браціка, а той стаў на чацвярэнькі, упёрся і задаволена пасмейваўся з таго, што яго не могуць падолець. Маленькія, дробныя, недагледжаныя дзеці. Пры слабым святле лямпы твары ў іх былі гэтакія ж бледныя, як і ў хворае Федзевае маці на печы. І ён раптам зразумеў, што дарэмна ішоў сюды і што ў гэтай беднай ха-*

це наўрад ці можна прасіць малака, ды ці засталося яно, калі павячэралі ўжо...

— Мама хворая... Есці нічога не бяруць...— Федзя не дагаварыў: адчуў, што заплача жаласліва, бездапаможна, як самае маленькае дзіця.

— Бо як жа, гэтака халепа на дварэ! А яна ж дзярэ картофлі за плугам. І ў дождж з радка не саступіць,— сказала Марта, быццам гэта мела цяпер хоць якое значэнне.

Кульбіцкі перастаў шыць. Чорныя вочы яго з-пад пасівелае чупрыны ўважліва паглядзелі на Федзю. Яны, мабыць, убачылі, які спалоханы ў яго твар, які ён увесь мокры: там, дзе стаіць, нацякло вады на гліну, яна пацямнела, аслізла.

— Улі яму, Марта, малака... Хай занясе Анэце. Мы і з расолам павячэраем, не паны.

— Але ж,— згодна ўздыхнула Марта, зірнула на дзяцей, якія быццам таксама нешта адчулі, прыціхлі і лупалі вочкамі то на Федзю, то на бацьку.

Марта падышла да прыбітае да сцяны паліцы, зняла стары, з вышчарбленым беражком збанок, паставіла на стол другі, напалавіну меншы, і акуратна, не спяшаючыся, наліла малака, зірнула на Федзю, які ўсё стаяў ля парога і нібы скрозь туман бачыў, як бела цякло са збанка ў збанок малако, бясшумна і мякка. Марта наліла малака ў кубак і падала яму:

— Вазьмі і сам чуць выпі. Дарма,— быццам перад самой сабою апраўдвалася яна і яшчэ раз паглядзела на дзяцей.

Федзя не мог сказаць ні слова, толькі адмоўна пакруціў галавою.

Гаспадар засяроджана ўвіхаўся з дратвою і шылам, нават нешта ціхенька сам сабе пасвістваў, быццам нічога асаблівага не здарылася, але з-пад ілба пазіраў, і бачыў, і разумеў усё. У яго, як і заўсёды, калі пачынаў хваляваціца, трымцелі рукі, і ён не мог ніяк укалоць шылам у патрэбнае месца.

Федзя адчуў, што солена зрабілася на губах, цярнуў рукою па шчоках і зразумеў, што плача, нізка, быццам пакланіўся, нагнуў голаў і асцярожна, каб не спатыкнуцца, хуценька выйшаў у сенцы. Паволі, мацаючы нагамі дарогу, як ішоў па залітым вадою льду, ступаў па гразі, не адчуваў, што прамок да ніткі, усё

*яшчэ са слязамі, ад якіх было солена ў роце і якіх не трэба было стрымліваць.*

*Дома, нават не пераапрануўшыся, паставіў на прыпечак газоўку і расклаў за чалеснікамі невялікі агонь. Адліў у алюмініевы салдацкі кубак прынесенага малака, гатаваў яго і потым, узлезшы на печ, памог маці прыўзняцца, сесці, прытуліўшыся плячамі да сцяны, са сваіх рук паіў маці малаком. Яна піла маленькімі глыткамі, толькі цяжка ўздыхала, і з воч у яе цяклі слёзы...*

*Маці дасюль перакананa, што ад смерці яе ўратавала тое малако.*

*Цераз тыдзень яна ўстала. І надвор'е тады зрабілася цёплым. Ні воблачка, ні ветрыка, за тры дні абсохла зямля. Дні гэтыя дастойвалі сваю кароткую пару сцішана і пяшчотна, у лёгкай зажуранай смузе, і ад гэтае сцішанасці і журботнасці не магло не зашчымець сэрца.*

*Маці, як пайшла на папраўку, трохі пачула сілы, сама пачала ўставаць паліць у печы, хоць яшчэ пабольвала і галава, і не пакідаў, мучыў кашаль, ад якога аж пякло ў грудзях.*

*Выпаліўшы ў печы, маці пачала збірацца ісці на пляц, і калі Федзя паспрабаваў сказаць, што няхай бы яна яшчэ пасцераглася, маці накрычала на яго, гэтак, як і крычала заўсёды, многа і бесталкова: у другіх людзей сем'і, яны гуртам мігам павыбіраюць пляцы, а потым і свіней выпусцяць самапасам, і каровы пярэйдуцца чарадою. Яна не вінавата, што за калгаснаю работаю свае не бачыць, хоць жыць і зімаваць зіму трэба з таго, што дома наробіш, бо на той працадзень не хопіць і курэй пракарміць... Яна не заўважала сама, як пачынала сварыцца, нібыта ўсе толькі і хацелі, што пакрыўдзіць ці абмануць яе. Федзя не пярэчыў і нават парадаваўся: калі яна зноў загаварыла гэтак, то паправіцца.*

*Маці сама паспрабавала капаць, выкапала некалькі карчоў бульбы, спынілася, выцерла спацелы лоб, аддыхалася і прыкрыкнула на Федзю, быццам ён быў вінаваты:*

*— Чаго стаіш, не на гулі выйшлі? Бяры рудлёўку!*

*Ён капаў акуратна, стараўся выстаўляць карчы наверх, каб найменш бульбы заставалася ў зямлі, каб*

лягчэй было збіраць яе. Блізка бачыў перад сабою, як нязграбна варушылася на каленцах Валя, яе маленькія, па-дзіцячы пухленькія рукі былі чырвоныя.

Ён стараўся не глядзець на гэтыя чырвоныя, як гусіныя лапкі, рукі.

Бульба парасла малая, з курынае яйка. Дзе ёй расці большай на няўробленай, каторы год неаранай зямлі, якая толькі і ведала рыдлёўку. Ён быў таксама яшчэ малы, худы і слабы на такую работу, і каб маці ўздужала, то яна б сама капала і, калі накопвала многа ў запас, станавілася і памагала збіраць бульбу. Але цяпер яна нязвыкла марудна і павольна збірала выкапанае, і Федзя нават паспяваў завозіць навыбіраную бульбу на старой калясцы, якую некалі рабілі вазіць яго малога.

Работа ішла роўна, і да вечара яны, можа, і скончылі б выбіраць.

Федзя толькі высыпаў прывезеную бульбу ў пограб і выходзіў з двара, як убачыў, што да маці на сівым маленькім коніку пад'язджае Дзягель.

Федзя пачуў, як Дзягель моцна і пагрозліва спытаўся:

— Дык гэта ты такая хворая? Калякцыйнае хай прападае, а свае грабеш?

Сівы старшынёўскі конік патаптаўся на накапанай бульбе і пацягнуўся мордаю да кошыка з бульбаю.

Маці нешта гаварыла, не ўстаючы з зямлі, але брыгадзір ссунуўся жыватом з коніка — таўставаты, у рыжай выгаралай бравэрцы, падпяразаны папругаю, у зашчытнай фуражцы і чорным галіфэ з жоўтымі некалі, а цяпер бруднымі скуранымі леямі.

— Не дапушчу сабаціравання, урадзіцельства! Марш на работу ў поле, сімулянтка!

Ён з размаху грабянуў ботам кош, і той пакаціўся да разоры.

— Аляксандарка, што ж ты робіш? — Маці паспрабавала ўстаць, але Дзягель папхнуў яе ў плячук, і яна зноў села на раллю. Моцна заплакала Валя, кінулася да Дзягеля, затармасіла яго за калашыну, але ён бы і не адчуў гэтага, з-за пляча ўдарыў рыдлёўкаю па зямлі — і тронак пераламаўся.

— Параспускаліся, сволата! Я вам пакажу ўрадзіцельства!..

*Федзя і да гэтага чуў, што Дзягель ломіць рыдлёўкі, але ад таго, што ўбачыў, затрымцела і ўпала сэрца. Ён бягом кінуўся на двор, ухапіў з-пад сцяны нейкую патырчаку і, колькі ставала сілы, пабег на пляц. Не бачыў ужо ні маці, ні Валю, толькі Дзягеля, які тупцеў на месцы, нібы шукаў, што б яшчэ яму зламаць. Яго сівы конік пад сядлом не паднімаў галаву, збіраў бульбу. Федзя бачыў, як Дзягель заўважыў яго, нейкі момант утрапёна стаяў, пакручваў у руках адламаны тронак рыдлёўкі, потым неяк хуценька кінуў тронак на зямлю, ускінуўся жыватом на коніка, які аж пахіснуўся пад ім, лупянуў кулаком па баку і яшчэ пагразіў:*

*— Пры іспалненні!.. Пад суд падвяду!..— і яшчэ раз на ўсякі выпадак лупянуў абцасамі коніка пад бокі.*

*Федзю пасля доўга калаціла.*

*Дзягель тады не толькі аштрафаваў маці на дзесяць працадзён, але і заявіў участковаму. Той дапытваў Федзю, але так нічога і не зрабіў.*

*А летам, пасля сямігодкі, маці паклала ў палатняную торбачку яму два скавароднікі, дала грошай, якіх утаргавала за прададзеных парасят, і Федзя басаножка, са старымі чаравікамі на плячах, якія падрамантаваў Кульбіцкі, пайшоў пяшком да Грэзка, а адтуль на Шышчыцы, да шашы, каб пяшком дабрацца ў горад, да новага жыцця...*

*Маці не праводзіла яго, толькі выйшла следам з двара на вуліцу, заплакала і заспяшалася на работу...*

## V

Анэта дапаліла ў печы, замяла хату, патупала туды-сюды. Не давала спакою ёй нейкая турбота, не сядзелася на месцы. Апранулася, выйшла на двор, на вуліцу.

Холад гуляў па вуліцы. Зямля змерзлася, аж пабялела, укамянела. І вецер хадзіў па вуліцы пругкі і халодны, як веснавая снегавая вада. Роўна, густа шумелі дрэвы. Голле іх не варушылася, не гайдалася, а выцягнулася ў адзін бок,— па ветры,— бытта трава ў рачной плыні. І шэра, тонка ішлі над зямлёю воблакі,

з-за якіх не магло прабіцца сонечнае святло, хай і халоднае, але ад якога весялей, а таму, здаецца, і цяплей. Не, надоўга не хопіць сілы ні холаду, ні ветру. Лопнуць павінна гэтая ветраная халадэча, знясіліцца і апасці на зямлю снегам ці дажджом.

Анэта загледзелася на дрэвы і аж сцепанулася, калі слабенька пікнула машына на яе. Шэранькі легкавічок, гэтакі ж самы, як у яе Федзі. Ад яго цеплавата запахла ў паветры бензінавым смуродам.

«Гэта ж, Гэлька казала, субота сёння!» — спахапілася Анэта.

Здагадка, чаму гэтак рупелася, снілася, асвяціла Анэту. І як гэта яна забылася: заўсёды ж ёй а не спіцца, а не ўспамінаецца, калі прадчувае, што прыедзе хто да яе. А ўжэ як Федзя хоча прыехаць, то Анэціна душа ніколі не памыліцца. Варта ёй сасніць ці якую прымету прыкмеціць на тое, што сын прыедзе, і амаль заўсёды спраўдзіцца чаканне.

Федзем яна ганарылася. Няхай і ў навуку не пайшоў, рабочы, але чалавекам стаў. От Дзягелевы хлопцы... Прапалі за сабак. Старшы паехаў у горад, разбасячаў на бацькавых грошах, хуліганам стаў, у турме сядзіць, а меншы, бач, на трактар узбіўся, каб скалечыцца. А ці ж раўня, як раслі дзеці, догляд які быў ім? Яна, удава, з голаду пухла, у хаце не было чым выпаліць. Але ж ведала, што трэба дзяцей выгадаваць і вывучыць, у людзі выправіць. Хай яна сама дурная і сварлівая баба, хай не жыла, свету не бачыла за работаю, але дзяцей выгадавала. Чорта яна самая дурная была! Удава, бедная — таму і за дурную папіхалі, а як сталі калгасы, як пасля вайны падняліся яны крыху, ва ўдарніцах хадзіла, у раён вазілі. Каб жа дурная была... І цяпер во, на старасці год, мае і пенсію, і дамоўку сваю, і сама сабе гаспадыня, ні ў кога ўжо не пойдзе прасіць на кавалак хлеба.

Яшчэ ў яе папросяць...

А Федзю яна любіла... Можа, што некалі ў іхняй сям'і не было хлопцаў, адны сёстры, і маці Анэціна кляла долю, што дае бог ёй адных дзяўчат, а можа, і таму, што Федзя быў першы ў Анэты і нарадзіўся ўжо сіратою — бацька нават не ўгледзеў яго.

Як не хацелася некалі ёй ісці ў другую вёску, у чужыя людзі. Бытта душа чула горкую долю... Але ж дзе

не пойдзеш, калі ў бацькі дзяўчат поўная хата. Добра, што яшчэ бралі, не цяперашнім жа гэта светам...

Што пра сваё жыццё думаць ці ўспамінаць. Прашумела яно, сплыло. Цяпер пра дзяцей трэба думаць.

Анэта сама вырашыла, што паедзе гэту зіму зімаваць да Федзі. Гаворка вялася не першы год. Спачатку Анэта слухала і толькі пасміхалася: здароўя ставала, дзяржала яшчэ і карову, кармлячкоў і, вядома, ні пра якія там пераезды-пераходы не думалася. Ды і не такая яна дурная, каб збыць сваю дамоўку, ехаць у чужыя куткі — хай і да дзяцей сваіх — а потым шукаць, дзе голаў на старасці год прыхіліць. Хоць кожная маці верыць сваім дзецям, але ж і дзеці ўжо не такія, што трапкача дасі, каб слухалі. Ці ж паверыла б яна, што Валя з Міцем адмовяцца пляц сеяць? Анэта ж і не падумала б пакідаць яго. Раней Федзя прыязджаў пасеяць, а тае вясны прыхварэў, лячыцца пасылалі. Анэта да дачкі, да зяця — а тыя і сабе сотак не сеюць. Куды ж на мацерын пляц ісці. Ды яшчэ і насварыліся на яе — пабераЖы здароўе, нашто табе тая зямля. Так і запуставаў пляц.

Анэта тады наплакалася, нагаварыла, што не гляне да дачкі, каб і паміраць давялося... Памірыцца-то памірылася, але цяпер, калі і сама адчула, што зіму перазімаваць адной страшна, сказала, што паедзе да Федзі, бо ніколі не была ў гасцях і хоча паглядзець перад смерцю на горад і як жыве сын.

Спяшаючыся па вуліцы да свае хаты, Анэта ўшчувала самую сябе, што не здагадалася пра Федзеў прыезд, бо і ён жа баіцца за яе ў гэты холад. Ды пакуль мароз і няма снегу, сама ж дарога сухая на яго машыну, сама ж прыехаць.

Анэта зайшла на двор, агледзелася, бытта шукаючы вокам сынаву машыну, і нечаму з палёгкаю ўздыхнула, агледзелася. Нічога не было на двары, нават і кастра дроў пад страхою ля хлява. Дровы Федзя склаў у хлеў яшчэ ўлетку. Анэта адчыніла хлеў, пастаяла, паглядзела, як усё роўна не ведала, што няма ж нічога жывога ў хляве, мо хіба толькі мышы, зачыніла хлеў, падышла да дзвярэй у клець, але не адчыніла дзвярэй.

У хаце Анэта прайшлася туды-сюды, не распраналася, прысела. Хіба адзежыну якую толькі ўзяць, але

ж і гэта можна зрабіць за часіну якую, няма ж як загадзя звязваць вандзэлкі ды сядзець на іх...

Анэта распранулася, толькі глянуўшы на стол, успомніла, што забылася, не забрала ў Гэлькі збаночак з малаком. «От спяшаю, як баба замуж за салдата!» — усміхнулася з самое сябе, але трывожна і неспакойна было на душы.

А можа, і дарэмна сабралася яна ехаць. От тут сядзела б ціха, слава богу, яшчэ ніякая хвароба да яе не чэпіцца... А то ехаць... Той ад'езд на зіму ў горад, пакуль гаварылася пра яго і пакуль няскорым ён быў, простым здаваўся. А цяпер нешта затрапяталася ў душы, як матылёк. Век пражыла тут, нікуды са свае зямлі не выязджала, а пад старасць, на смерць, збірацца трэба. Нешта крыху ненармальнае, непрывычнае, ненатуральнае адчувалася ў гэтым. Дачка тут жыве, паездзіла па свеце, але вярнулася. А яна, старая, едзе...

І ад людзей як?.. Усё роўна, як Валя не захацела прыняць яе, што мусіць ехаць да Федзі. Валя ж сама гаварыла не раз, каб пераходзіла да іх, назусім, не толькі на зіму. Кватэра ж у іх у два паверхі, месца хопіць. Дзіва што. Валя і дастатней жыве за Федзю, што і сказаць: сама фельчарыца, а Міця інжынерам у калгасе, зарабляюць добра... Але ж застанься жыць у іх, то не будзе як дамоўку на Федзю апісваць.

І сама б яна пра каго другога сказала, што нешта не тое, не зусім правільна, каб хто другі гэтак паехаў. Хіба толькі прычына, што ў Федзі дзеці ў школу ходзяць, адны дома, як бацькі на заводзе. Але ж чаму не ехала да сына, калі дзеці меншыя былі? На чужыя языкі яно гэтак і выходзіць, што едзе Анэта, бытта месца ёй тут не стала. Людзям жа раты не пазакрываеш.

От хіба пайсці, сказаць, каб, як прыедзе Федзя, падышлі да яе Валя з Міцем, ды хай бы і чарку выпілі і за сталом пасядзелі. А то ўсё нейк выходзіць, як прыедзе Федзя з Ленаю, да Валі ў госці ідуць, там кампанія збіраецца, а ў яе ў хаце сабрацца ўсё часу не ставала. Хай на ад'езд збяруцца дзеці ў сваёй хаце і пагавораць. Тут жа нарадзіліся, тут выраслі, тут яна, маці, мучылася з імі, гадавала, адсюль у людзі выпраўляла.

Ад таго, што цяпер зноў ведала што рабіць, Анэта пажвавела, весялей затупала па хаце, глянула на столь,

узяла з качаргешніка вілкі, накруціла на іх намочаную анучу і пачала выціраць столь, пасля перацерла падлогу. Намочаная падлога заблішчала, і ў хаце, здалося, пасвятлела.

Пакуль рабіла гэту звычайную жаночую работу, стамілася, адчула, што ўпацела, млява гудуць ногі, сэрца трапечацца, як злоўлены верабей у руках.

Анэта паглядзела на старэнькія ходзікі з мядзведзікамі, якія валяюць дрэвы. Ходзікі станавіліся ўжо не адзін раз, на гіры падвешана палавіна старых ножніц, якімі стрыглі некалі авечак.

Часу яшчэ было. Валя з Міцем на абед дадому толькі прыедуць.

Анэта ўзлезла на печ, падкінула пад галаў куфайку, легла на голым чаране. Старому чалавеку чарэнь — самая лепшая пярына. Ці гэта толькі прывычка ў людзей яе веку?

Анэта не заўважыла, як задрамала.

*...Прывялая канюшына пахла густа і чуць душнавата. Спаднізу яшчэ не адступіла вільгаць, і пад граблямі неспадзявана буйна і чыста блішчалі расінкі. Ад расы прыемна-халаднавата было ў ногі і не так калолася пакоша. У цяні, пры бярэзніку, яшчэ больш ляжала расы на траве. Яна роўна шарэлася, як прыпацелае на дождж акно. Усё мацней прыгравала сонца, і з гаю павявала на поле душнаватым водарам бярозавага лісця. Ад яго і ад п'янаватага паху волкае канюшыны аж кружылася галава.*

*Анэта адчувала, што Міхаіл глядзіць на яе і не даганяе, каб ісці ўпоравень, а знарок крыху прыадстаў. Гэты позірк і радаваў, і нечаму сорамна было, пачынала звінець у жылах кроў. Не чулася ў руках адпаліраванае да бляску арэхавае грабільна. Яна гатова была ляцець па пракосе, толькі зрэдку незаўважна азіраючыся цераз плячо на Міхаіла, прыжмурваючыся ад сонца. Ягоная высокая хударлявая постаць не набліжалася да яе. Толькі на нейкае імгненне ён прыпыняўся, махаў галавою — адкідаў з воч валасы.*

*Міхаіл дагнаў Анэту ля самага бярэзніку, калі яна прыпынілася на хвілінку, абапёршыся на грабільна, усміхалася з таго, як крыху нязграбна ходзяць граблі*

*ў вялікіх яго руках. Падумала, што можна было і не ісці яму на поле, сама б яна разбіла пакошанае. Міхаіл не дайшоў да канца, спыніўся, бытта спатыкнуўся аб яе позірк, уваткнуў грабільна ў зямлю, пайшоў да яе, заўсміхаўся. У яе зноў зазвінела кроў, нават зашумела ў галаве.*

*— Утамілася? Не спяшай, успеем яшчэ. Раса доб-ра не апала,— гаварыў ён, асцярожна і моцна абнімаючы яе. Яна сама падалася да яго, прашаптала толькі: «Божа, здурнелі саўсім... Людзі яшчэ ўбачаць!» — але не памкнулася аслабаніцца, захадзілася сэрца ад салодкага, невядомага ніколі дасюль болю...*

*Яна стомлена, здзіўлена і радасна глядзела на Міхаіла. На яго чуць з гарбінкаю нос, цёмныя і плаўныя, як дзявочыя, бровы, светлыя сінія вочы і густыя, русыя мяккія валасы. Дзіўна было, што, пражыўшы амаль два гады разам, яна не прыкмячала, што гэтакія ласкавыя ў яго бровы, а вочы крышку журботныя і добрыя. Яна саромелася яго і баялася — і старэйшы ён быў за яе гадоў на шэсць, і нейкі непрывычны, гэты чалавек, якога ёй наказвалі і слухаць і любіць. Яна і любіла, і даглядала яго, вяла спраўна работу ўсю, бо ўмела рабіць з дзяцінства. Але ўсё роўна заставаўся Міхаіл тым незнаёмым чужым чалавекам, які прыехаў да іх і пры якім яна не хацела зайсці ў хату, якога баялася і саромелася і які сасватаў яе...*

*Міхаіл бы адчуў, што яна глядзіць на яго, не павярнуў галавы, усміхнуўся, працягнуў руку, прытуліў яе галаву да свайго пляча, пагладзіў рукою па валасах. Рука была шурпатая, і валасы лёгенька чапляліся за ягоную далонь.*

*— Ты не думай, я не хворая ніякая... Я нараджу дзіця. Я і сама хачу,— вырвалася ў Анэты. Яна адчула, як замерла Міхаілава рука, і Анэта здагадалася, што Міхаіл думаў пра гэтае ж самае, і яго спалохала, што і яна сказала пра дзіця ўслых.*

*— Я не думаю. Мы ж маладыя яшчэ, здаровыя. Зямлі з нас хопіць, наробім і дабра, і дзяцей нагадуем, дзіва што! Каб адно з аднаго спагадваць навучыліся... А работа век будзе работа, і да смерці мы яе не пераробім...*

*— Дык я ж каб лепш усё стараюся, каб людзі не сказалі, што ўзяў ты гультая, а не жонку.*

*Анэта крышку адсунулася ад Міхаіла. Кожнага дня, з ранку да вечара, як і вучыла маці, старалася рабіць, як тая пчолка, чакала, каб пахвалілі яе, і было за што пахваліць. А выходзіць, што не пахвалу зарабіла...*

*— Бачу я, чаму ж, не сляпы. Але я не пра гэта гавару. Бацькі мае век адно аднаго за работу елі. Нагледзеўся я. Чалавек жа не конь у баразне. От я пра што... І ты ж у мяне такая маладзенькая, а от першы раз мы з табою гэтак,— Міхаіл не дагаварыў.*

*І яна адчула, што пра нешта здагадваецца, нешта і праўда бытта ў ягонай гаворцы, але так зразумець і не магла. Памкнулася была пагладзіць гаспадара па валасах, і ён, як і хацеў гэтага ці адчуў, усміхнуўся, заплюшчыў вочы, ледзь варухнуліся губы.*

*Але яна не пагладзіла, глянула ў неба, зжахнулася, што высока ўжо сонца, што добра сушыць з ветрыкам, а яны, як пустадомкі якія, у цянёк схаваліся.*

*Анэта падхвацілася на ногі і нечакана для самое сябе прыкрыкнула на гаспадара:*

*— Уставай! Сонца вунь дзе! — і спахапілася: нашто гэтак моцна сказана ў бярозавай цішыні?*

*Міхаіл сцепануўся, прыкрыў рукою вочы, бытта спалохаўся, што ўдараць яго па твары, потым моўчкі падняўся, паволі пайшоў да сваіх грабляў. Ёй трэба было нешта сказаць да яго. Дзіўна, але яна ўжо не саромелася і не баялася яго, яна бытта ведала ўжо наскрозь яго і мела нават нейкае права на яго. Анэта не ведала, што сказаць і як сказаць. Пра работу яна ўжо сказала. А тут трэба было нешта другое, чаго яна не ўмела гаварыць.*

*Яна бачыла, як паволі кончыў Міхаіл разбіваць свой пракос, пастаяў, паглядзеў на яе, а потым пайшоў на другі канец поля, распрог каня.*

*Анэта зразумела, што і праўда няма чаго ім тут рабіць удваіх, што невядома навошта прыехаў сюды Міхаіл.*

*Ён садзіўся ўжо на каня, махнуў ёй рукою, паехаў, толькі чамусьці не аддаляўся, а ўсё бліжэй пад'язджаў. І конь пад ім быў буланы, танканогі, з ружовымі далікатнымі ноздрамі, якія трывожна і вільготна ўздрыгвалі, уцягваючы паветра. Гэтакі буланы быў пад камандзірам партызанскіх разведчыкаў, якія першы раз заехалі да іхняе вёскі, надвячоркам. Яны не*

*сышлі з коней, якія стаялі пры плоце. Разведчыкі чакалі свайго таварыша. І самы маладзенькі з іх, у вайсковым, з нагаечкаю ў руцэ, абапёрся рукамі перад сабою на сядло, стомлена і задумёна нахіліў набок галаву, а потым і заспяваў пра тую ракіту ў чыстым полі, дзе «ляжыць у сыру зямлю зарыты малады чырвоны партызан». І на склоне сонца здавалася, што сам пра сябе спявае разведчык...*

*Цяпер Анэта стаяла ўжо на сваім двары, пры плоце. А на буланым ехаў вуліцаю партызан Барысаў. І аблічча яго, і штаны з карычневымі леямі, і вялікі наган у драўлянай кабуры, што паляпваў каню па рэбрах. На ім чорны палітончык, на галаве фуражка з зорачкаю. Анэта жахнулася: чаго ён уздумаў адзін сярод белага дня ехаць па вуліцы. Толькі ўчора паліцыя была! А ён яшчэ і буланага падкіроўвае на гэты бок, да яе двара. Рабі, што хочаш! Хоць не пускай яго на двор. Але не ідуць ногі — на кані ў адзежы Барысава сядзіць яе Міхаіл, той, маладзенькі, усміхаецца. Як угледзеў, што зжахнулася яна, пальцам перад губамі паківаў — маўчы. Каня прыцішыў, шапнуў не нагінаючыся: «Нічога, на пужайся. Я ж табе некалі маладзенькай гаварыў... Ніхто мяне не пазнае, акрамя цябе. Чалавек як пажыве, то многае перадумае і да многага дадумаецца. А позním шчасцем ні гэтак нацешышся, як намучышся...»*

*І паехаў. Толькі крануў павадамі каня, і той пайшоў, а пад ногі яму бытта туман па зямлі паслаўся. Усё глыбей у туман уваходзіў конь, а пасля і зусім сышоў туды, уніз, пад туман...*

Анэта спрасонку падхапілася на печы. Яе павяло набок, ледзьве ўспела ўхапіцца за брус, каб не ўпасці долу. Як адзержалася, сядзела, азіралася наўкруга. Трапятала ўсё ўсярэдзіне ад перажытага — напалавіну сну, напалавіну ўспаміну. Гэта ж трэба, каб на старасць, перад смерцю, снілася ці ўспаміналася тое ўсё маладое! «От баба, хоць і цяпер за салдаціка замуж ідзі...» — пакпіла з самое сябе, злезла долу, падышла да акна, потым паглядзела на гадзіннік — крыху толькі і задрамала. Але ж трэба, каб такое сасніць-успомніць цяпер. Паўвека амаль прайшло, як няма гаспада-

ра, многа чаго перабылося. Ён доўга яшчэ ваяваў, заспеў грамадзянскую, вярнуўся дадому зранены, хворы на туберкулёз. За ім даглядаць трэба было. Сын ад яго нарадзіўся. Гадаваць дзіця адной трэба было, у калгас хадзіць, дома глядзець — не будзеш жа цахлець, каб людзі после з дзіцяці смяяліся, каб за мацеру брыдка яму было. Гэта ўжо ў вайну пачалі заязджаць да яе партызаны, а часцей адзін, Барысаў.

Дарма, што папікалі ёй Барысавым. Папікаць усе ўмеюць. Яна ж і сама не дурная, бачыла: многа дурных жанок было, бытта не ведалі, што тых партызан недзе і сем'і чакаюць, што, як кончыцца вайна, кожнага дадому павядзе. Гэтак вайна людзей па свеце перамітусіла... Ведала, чаму не. Але ў яе з Барысавым не гэтак, як у другіх было. От мо і пабыло шчасця ў яе бабіным вяку тыя два гады, пакуль не падышоў фронт. Няхай і нячаста мог прыехаць ён. Але ж як яна чакала яго! Здэцца, каб сказаў, забрала б Федзю і следам за ім пайшла, як тыя жанкі ў партызанах, разам са сваімі мужчынамі, пабраўшы вінтоўкі... Вярнуўся б Барысаў, каб не прапаў на фронце. Яна ведае, што вярнуўся б, бо знаў, што дзіця павінна нарадзіцца, хацеў яго. Анэта ні разу не раскаялася, што нарадзіла дзіця ад Барысава: калі і прапаў чалавек, то хоць дзіця ад яго засталося. А людзі... Пагаварылі — і перагаварылі. Цяпер, можа, хто і пазайздросціць, што адважылася яна.

Людзей слухаць трэба, але і галаў сваю мець.

Анэта адчыніла куфар, дастала чыстую адзежу, вялікую карычневую хустку з махрамі, перакладзены, каб не ўбілася моль, зеллем з мяжы, кажушок.

Здзівілася, як цёпла і свежа жаўцеліся з сярэдзіны куфра сасновыя дошкі, бы і зрабілі гэты куфар нядаўна, а не тады, калі ёй, дзяўчыне, збірала маці пасаг. Анэта асцярожна дакранулася да сухога гладзенькага дрэва, нібы хацела адчуць яго даўнюю цеплыню, узяла з прыскрынка звязаныя суравою ніткаю два крыжычкі, Федзеў і Валін, і прывязаны да іх яе пярсцёнак, такі тоненькі, маленькі і далікатны ў тоўстых яе пальцах. Крыжыкі трэба было аддаць дзецям. Але ж як аддасі, не возьмуць...

Вечка куфра Анэта апусціла асцярожна, як баючыся патрывожыць нешта жывое, апранулася, узяла

грошы, выйшла на двор, і толькі калі ўставіла ў прасвідраваную ў вушаку дзірку ключ, каб замкнуць на замыкла хату, успомніла, што забылася ў качаргешніку кіёк, мусіла вярнуцца ў хату, незадаволеная тым, што вяртаецца — не на добрае прыкмета.

Па вуліцы спяшала ісці сцежкаю паўз плот. На вуліцы не было ні душы, як і звычайна ў зазімак, калі на халодную шэрань не хочацца нават глядзець і праз акно з цёплае хаты. Пра рукавіцы Анэта забылася. А востры ад марозу вецер не толькі прыпякаў холадам у шчокі і выбіваў з воч слязу, але апякаў і рукі, што аж не чулася іх. Некалі ж зімою, у самыя маразы, без рукавіц магла рабіць работу.

За вёскаю, нагінаючы галаў, каб не гэтак даймаў сіберны вецер, Анэта цвёрда і роўна, упэўнена пакіравала па высокай, добра ўезджанай сыпанцы да цэнтральнае сядзібы — новага калгаснага пасёлка з роўнымі шэрымі шыфернымі дахамі аднапавярховых домікаў і, быццам галоўным сярод іх, адным двухпавярховым побач з воданапорнаю вежаю, над якою лятуча трапятаў на ветры чырвоны сцяг.

## VI

За вокнамі стаяла цёмная шэрань. Холадна і моцна прыпадаў да сцен вецер, нібыта сценыміналі яму, і ён вяртаўся і вяртаўся, мацаваў за каменную перашкоду і зноў адступаўся.

Міця асцярожна ўстаў з ложка, надзеў сіні трыкатажны касцюм, сышоў з другога на першы паверх, у залу. Папрысядаў, памахаў рукамі, потым пайшоў у ванну, з задавальненнем фыркаў пад душам.

Міця ўставаў рана і цяпер, хоць на гэта і не было пільнае патрэбы — не ўборка ці пасяўная, тэхніка на рамонт становіцца. Але Міця ведаў, што людзі дзівіліся і з пашанаю гаварылі: у якую рань ні прыйдзі на цэнтральную — інжынераў матацыкл ужо там.

Абавязкова рабіць фіззарадку Міця пачаў пасля таго, як заўважыў, што пачаў таўсцець. Ён быў перакананы: само тое, што кіраўнік тлусты, крыху непрыязна настройвае падначаленых — падляноўваешся, сядзіш залішне, калі гоніць цябе ўшыркі. Праў-

да, гімнастыку рабіў так сабе — памахваў рукамі, патупваў, каб разварушыцца. Невядома, ці страйнейшая рабілася постаць, але пасля гімнастыкі і душа раніцою апетыт будзь здароў.

Міця вярнуўся ў спальню, узяў электрабрытву, уключыў. Брытва цёпла і мякенька завурчала ў руцэ.

Жонка спала, адвярнуўшыся тварам да сцяны, роўна, спакойна дыхала. Яна прывыкла ўжо, што ўстае Міця рана, і не прачыналася. Міця глядзеў на поўнае, круглае жончына плячо, на тое, як глуха спіць яна, і адчуваў, што крыху злуе яго, ці што, гэтая яе спакойнасць. Тую худзенькую, прабіўную і шуструю дзяўчыну, з якою ён пазнаёміўся ў Карэліі, куды паехаў з войска, цяжкавата было пазнаць у гэтай жанчыне з ленаватаю ўпэўненасцю ў кожным руху, як у чалавека, які дасягнуў усяго, чаго хацелася ў жыцці, і цяпер яму засталося толькі спажываць асалоду. І Валя любіла пахваліцца, што сваё жыццё яна зрабіла сама: не паслухала маці, пакінула вёску, не пабаяўшыся паехаць за свет, не паленавалася, вывучылася на фельчарыцу, прымусіла і Міцю завочна скончыць на механіка. Яна настояла пакінуць і Карэлію, і горад, каб паехаць у вёску — тут і кватэра адразу, грошы, і ўсё што хочаш. І яна за чалавека, і Міця інжынерам. Урэшце, і кватэра, і грошы, на якія куплена ўся мэбля і ўсе Валіны строі, Міцевы, і каб не ён, інжынер у калгасе, то на такую пані, як фельчарыца, не вельмі б хто зважаў... Ды, калі казаць шчыра, такі рай, як пасада калгаснага інжынера, не надта суцяшаў Міцю. Таму ён падаўся завочна ў інстытут, дабіўся, што прызналі яго адным з лепшых калгасных інжынераў у раёне, і быў упэўнены, што па плячу яму і большыя маштабы, асабліва цяпер, калі так шырока пайшла ў сельскае жыццё механізацыя, якая прывядзе да індустрыялізацыі вёскі... Валя скептычна пасмейвалася з Міцевых планаў, не пярэчыла, хутчэй таму, што была задаволена дасягнутым і верыла — ад дабра дабра не шукаюць.

За гэты год, асабліва за ўборку, за пасеў азімых Міця выслужыўся: тэхніка працавала без паломак, без прастояў. Сакратар райкома збіраў інжынераў з усяго раёна і на базе іхняга калгаса паказваў, як павінна быць арганізавана і падрыхтоўка тэхнікі, і яе абслугоўванне, і тэхналогія правядзення работ. І Міця меў

поўнае права спадзявацца на хуткія перамены ў жыцці і быў гатовы да іх.

Калі Міця сышоў, ужо адзеты, уніз, на кухню, на пліце стаяў чайнік з вадою, на скавярадзе смажылася мяса, на дошчачцы ляжала накрышаная цыбуля.

Міцева маці ў шырокай стракатай сукенцы, у кабаце, у хустцы, завязанай на лоб, пынілася на кухні. Калі б Міця ні ўставаў, маці гатавала яму снеданне, нібыта знарок пільнавала яго. Цяпер Міця прывык да гэтага, а першы час было не па сабе: увесь час, як яны жылі ўдваіх з Валяю, як і вучылася яна, як і з малым на руках была, як і на работу хадзіла, заўсёды ўставала, у халоднай верандзе на керагазе снедаць гатавала... А цяпер усе клопаты пра мужа перадала маці, быццам толькі і чакала гэтага.

— Добрае раніцы,— павітаўся Міця.

— Добрай раніцы. Пашто так рана падняўся? Чай, не ўборка-то...

— Зямля, мама, тых не любіць, хто позна спіць. А без машын цяпер зямля запустуе. Ні малака, ні мяса не будзе.

Маці кожнага разу пыталася, чаму ён так рана ўстае, і кожнага разу Міця адказваў нібыта і ўсур'ёз, нібыта і ў жарт, але так, каб адказ спадабаўся маці.

— Яно-то верна... Раз ты начальнік над машынамі...

Маці ўжо пяць год жыла ў Міці. Спала яна ў адным пакоі з Генкам — пільнавала, каб не раскрыўся ночы ўнук, не прастудзіўся. Міцю здавалася, што маці баіцца адна спаць, таму і адмовілася спаць у зале, дзе няма ночы ніводнае жывое душы. Зусім нядаўна Міця чагосьці прачнуўся ноччу. Яму здалося, што нехта не спіць у сынавым пакойчыку. Ён асцярожна прыадчыніў дзверы. Маці не спала. Сядзела на крэсле пры акне ў адной кашулі. Цішыня была, поўня на ўсё неба разлілася. А на зямлі пуста, бясконца, як абмерла палявая прастора. І такою белаю сумотаю глядзіць зямля ў акно, такою журбою, што хоць ты збірайся і ідзі, ідзі куды вочы глядзяць — і нічога не ўгледзіш новага, толькі гэтая белая журба над пустою зямлёю, якая не адпускае сэрца, будзе ісці ўслед, весці цябе...

Міцю спалохаў і амярцвелы ад месяцавае белі мацерын твар, і слёзы, і гэтакая скруха на твары, якая бы-

вае хіба толькі ў вязня, калі глядзіць ён за акно на волю.

Міця не адважыўся зачапіць маці...

Пісьмы з радзімы, ад брата Івана, Міця атрымліваў гады ў рады. Бо гэта ад яго, прыехаўшы пасля Карэліі ў госці на радзіму, на Шар'ю, Міця і забраў маці да сябе. Спачатку Міця не пазнаў маці: з яшчэ маладжавае моцнае жанчыны стала яна сутулаю бабуляю, якую брацец Іван, што навучыўся папіваць гарэлку, біў і выганяў з хаты. Выганяў не толькі маці, але і жонку з дзецьмі.

Міця прывёз маці да сябе быццам у госці, а потым сказаў, што нікуды не пусціць, напісаў Івану пісьмо.

Маці спачатку была заплакала, запрасілася, забедавала, што цяжка там будзе нявестцы з дзецьмі з «тым ірадам». Але пакрысе прывыкла да новага жыцця, да Генкі, які пакуль не хадзіў у школу, быў дома.

Пісьмы маці часцей пісала нявестка, перадавала ўсім прывітанні ад Іванушкі, які быццам і менш піць стаў, зусім паправіўся, але шыбка крыўдуе на Міцюху...

Маці моўчкі слухала пісьмы, дадому не прасілася, а ноччу, мабыць, плакала.

Цяпер маці сядзела на табурэтцы, глядзела, як еў сын. І твар яе быў добры, як і ў кожнае маці, калі глядзіць яна на сваё дзіця, здаровае і шчаслівае.

Міця падзякаваў за снеданне, выйшаў у прыхожую, надзеў скураны матацыклісцкі касцюм, на галаў зімовы танкісцкі шлемафон.

Тэлефонны званок заспеў Міцю ўжо на парозе, нечакана моцны і металічны ў ранішняй цішыні. Міця хуценька схапіў трубку, каб спыніць гэты звон:

— Слухае Гарбачоў.

— Добрае раніцы, Змітро Васільевіч. Ты хіба пад тэлефонам у прыхожай начаваў сёння? — пажартаваў старшыня.

— Добрае раніцы, Антон Антонавіч. Я паважаю начальства і духам чую, калі яно пазвоніць, а таму загадзя пры тэлефоне дзяжуру. Што здарылася?

— Страшнага нічога, але і вясёлага мала. Прыязджай, браце, у кантору.

Голас у старшыні глухаваты і спакойны, але Міця ведаў за гады работы з Антонам Антонавічам, што без дай прычыны зранку ці ноччу старшыня нікому зва-

ніць не будзе. Толькі тады, калі нельга абысціся без чалавека.

Міця адказаў коратка, па-вайсковаму:

— Выязджаю,— і паклаў трубку.

Вывеў з дашчанага гаража «кашку», адчыніў кран, прыкрыў паветраныя заслонкі. Матацыкл, нават і ўстылы, завёўся з першага качка. Трымаць матацыкл спраўным і дагледжаным таксама было ў Міці прынцыпам. Дрэнны той шавец, у якога чаравікі з дзіркамі, не тэхнар той, у каго свая машына не дагледжана. Некалькі хвілін Міця даў матору папрацаваць на малых абаротах, каб нагрэўся.

З месца крута завярнуўся, што аж адарвалася ад зямлі кола каляскі. Марозны густы вецер апёк твар, бытта паветра было з нябачных востранькіх ільдзінак. Але прыемна стала ад гэтага пякучага холаду, ад тугога, цёплага, мускулістага клёкату матора ў густым настылым паветры.

Не даязджаючы да канторы, Міця выключыў запальванне, па інерцыі падкаціў да варотцаў, затармазіў, саскочыў з матацыкла, на хаду расшпіліў куртку, зняў шлемафон, пяцярнёю расчасаў валасы, раз коранька стукнуў пальцам у старшынёўскія дзверы і без дазволу ўвайшоў у кабінет.

Старшыня сядзеў за сталом, адкінуўшыся плячыма да спінкі крэсла. Пінжак быў расшпілены. Шыракаваты, па апошняй модзе, гальштук ляжаў на жываце, які прыкметна выступаў пад блакітнаю нейлонаваю рубашкаю. Рэдкія сівыя валасы гладка прычэсаны, быццам прылізаны, вочы пад кашлатымі светлымі брывамі прыплюшчаны. Такім старшыня быў, калі хварэў альбо калі штосьці не ладзілася з работаю.

Гарбачоў заўважыў гэта. Ён увайшоў у кабінет цвёрда, па-вайсковаму ставячы ногі, падцягнуты і спрытны, як лётчык, у сваім скураным касцюме, падаў руку цераз стол. Старшыня кіўнуў галавою, але не ўстаў, як заўсёды, седзячы пацiснуў руку.

Участковы міліцыянер з несур'ёзным прозвішчам Вушкін скоранька ўстаў, казырнуў і падаў Міцю руку. Старшы лейтэнант не распрануўся, сядзеў у вынашаным чорным кажушку з новымі пагонамі. Хударлявы, востранькі яго твар быў зямліста-шэры, з пачырване-

лымі ад ветру павекамі. Тоненькая палявая сумка ляжала на стале, і ён перабіраў па ёй пальцамі.

Старшыня кіўнуў Міцю на крэсла — сядай. Ён знарок выклікаў Міцю, каб пайсці, не быць пры ўчастковым. Мабыць, пачаў старэць, нервы здаюць. Усё не мог спакойна думаць пра нядаўна бачанае: у святле аўтамабільных фар перавернутае ўгору калёсамі шасі, чорнае ў святле масла і матора, чорная кроў і нечакана белы хлапечы твар, тоненькая, як дзіцячая, скура на руцэ, што нежыццёва ляжала на зямлі. Адразу падумалася пра свайго сына. І цяпер вось адчуванне віны, якое бывае, мабыць, у кожнага старога чалавека, што бачыць няшчасце, якое здарылася з маладым. Паколвала сэрца, не хацелася, каб хто бачыў яго слабым ці хворым.

Старшыня злавіў сябе на думцы, што як і ўгледзеў хлопца там, на месцы аварыі, адразу ўспомніў, што спадзяваўся — пасля войска вернецца ён дадому, сядзе на трактар. Гэта лета прарабіў памочнікам камбайнера...

— Што скажаце, Антон Антонавіч? — запытаўся Міця.

Старшыня адчыніў шуфляду стала, нешта пашукаў сярод папер, так нічога і не знайшоў у шуфлядзе, зірнуў на інжынера:

— Дзягелева Веціка памятаеш? Сёння ноччу перавярнуўся на шасі Дубіцкага. У бальніцы. Не апрытомнеў яшчэ. Сюды зараз Дубіцкага прывязуць. Трэба будзе даць тлумачэнні ўчастковаму. А мне праводзіць нарад...

Старшыня зачыніў шуфляду. Ён заўважыў, як падцяў губы інжынер, кінуў вокам на ўчастковага і стрымаўся, нічога не сказаў:

— Усё як было далажыш. Я і сам бы далажыў...

— Так, Гарбачоў, вам у першую чаргу трэба даваць тлумачэнне. Вы адказваеце за тэхніку, а яна ў вас, як таксі, на ноч на вуліцы стаіць...

Міця нават і не зірнуў на ўчастковага. Ён злаваўся на сябе: так і трэба, калі не можаш настояць на сваім. Трэба было тады на праўленне не толькі дакладную падаць, але і дабіцца, каб забаранілі Дубіцкаму ганяць шасі дадому. Дубіцкі рабіў пры ферме. Дакладную Міця напісаў, але так і не давёў справу да канца. Хаця,

гэта ўжо клопат старшыні і праўлення. Старшыня памятаў пра тую дакладную... Хаця, якая тут віна і трактарыста, і калгаснага кіраўніцтва? Хто прасіў таго хлопца лезці ноччу на чужую машыну? Вось каб няшчасце здарылася летам, калі ён рабіў на камбайне, не маючы на гэта правоў. Вось тады і з Міці, і са старшыні трэба было спускаць шкуру... І спусцілі б.

— Так што вы падумайце, таварыш Гарбачоў, — напомніў участковы.

— Падумаю. Цераз паўгадзіны заеду, а цяпер мне ў гараж трэба.

Міця завярнуўся і выйшаў са старшынёўскага кабінета. Злаваў на старшыню. Ліберал стары: колькі разоў яму гаварыў, настойваў на тым, што трэба строга караць тых, хто парушае правілы абыходжання з тэхнікаю. Пара наладжваць гэтакую ж дысцыпліну, як і ў прамысловасці. А цяпер прывет Гарбачову ў шапку — вось табе і лепшы інжынер. Вось так — адзін дурань усё і замазаў, з белага чорнае зрабіў. І бач ты, які анёл — нá ты, Гарбачоў, дакладвай, што прыняў правільна ўсе меры, а старшыня, моў, вінаваты. Ён сябе не шкадуе. Але тое, што старшыня не спіхаў усё на Гарбачова, а браў віну на сябе, сунімала злосць, збівала з панталыку Гарбачова. Не ўлазіў старшыня ў тыя рамкі ўстарэлага кіраўніка, якія спрабаваў прымераць да яго Гарбачоў. Бытта і падыходзіла ўсё — але ж не, нешта да канца ніяк не магло супасці.

Міця злосна ціскануў на завадную ручку, ірвануў з месца так, што аж буксанула задняе кола, і паляцеў да гаража.

У гаражы ўзяўся сам правяраць, як запаўняюцца пуцявыя лісты, учыніў агляд машынам, якія выходзілі ў рэйс. Шафёры не пярэчылі, ціхенька і скора снавалі, як мурашкі, стараліся, каб хутчэй выехаць і не трапіцца інжынеру на зуб. Што здарылася ноччу — усе ведалі.

Работа крыху супакоіла Міцю. Урэшце, чалавек застаўся жыць, мабыць, і выпіўшы быў. Няшчасны выпадак. Гэта нічога не гаворыць пра арганізацыю работы механізатараў у калгасе.

— Дзмітры Васільевіч, звоняць вам,— высунуўся з пакойчыка, які служыў за дыспетчарскую, загадчык гаража.

— Слухаю.

— Міця, мне толькі што званіла Іра...

— Якая Іра?

Міця не чакаў, што званіць можа ў такую пару жонка.

— Ты ж ведаеш, са Слуцка... Ёсць пярсцёнкі. Памятаеш?

— Ну і што?

— Паедзь, Міцька, забяры. На матацыкле тудысюды.

— Я сёння не магу.

— Як гэта не можаш? Не жніво, не пасяўная. Не можа ён! А што ты тады можаш?

— Нічога не магу! Трэба — садзіся на аўтобус, пратрасі...— Міця не дагаварыў, зірнуў на загадчыка гаража і паклаў трубку.

Зноў пазваніў тэлефон, Міця зняў трубку. Ён ведаў Валіну настырнасць, а таму адразу ж запытаўся:

— Ну што яшчэ табе?

— Таварыш Гарбачоў? Гэта Вушкін...

— Прашу прабачэння...

— Чакаю вас, Дзмітрый Васільевіч.

— Еду.

Участковы ўжо распрануўся. Кароткія чорныя валасы акуратна тырчалі ўгору, як вожык, бялелася рэдкая сівізна. Без кажушка міліцыянер быў шчупленькі, з доўгаю шыяй, і кіцель вісеў на ім прасторна. Перад участковым ляжаў тоненькі стосік стандартных бланкаў, спісаных акуратным, як дзявочым усё роўна, почыркам.

— Сядайце, таварыш Гарбачоў.

Міця не спяшаў садзіцца. Павесіў на вешалку побач з кажушком шлемафон, збоку зірнуў на міліцыянера. Крыху велікаватыя, адтапыраныя вушы напаміналі пра нястрашнае, жартаўлівае прозвішча ўчастковага — Вушкін.

Першы год, як толькі прыйшоў на работу, Вушкін павёў кампанію супроць хлапчукоў, якія насіліся на матацыклах. Хлапчукі не надта спыняліся на патрабаванне ўчастковага, а нумароў на матацыклах не было. Раззлаваны ўчастковы пазваніў у аддзел, каб прыслалі на дапамогу групу з аўтамабільнай інспекцыі. Аўтаінспектары прыехалі, але налавілі больш, чым мата-

цыклістаў, калгасных трактарыстаў, якія то падвозілі людзей на прычэпах, то яшчэ якія парушэнні мелі, паадбіралі правы, сарвалі дзень пасяўное ў калгасе. Дакументы трактарыстам давялося вярнуць пры дапамозе раённага начальства. Мабыць, перапала начальніку райаддзела, бо і Вушкіну, ініцыятару, нагарэла. Пасля гэтага Вушкін разабраўся з матацыклістамі без брыгад і без чыёй-небудзь дапамогі — у дэпутатаў сабраў спісы, хто мае матацыкл, і выклікаў да сябе, у сельсавет...

За той сарваны дзень Міця і зрэзаўся з Вушкіным. Цяпер ён усміхнуўся, успомніўшы тое здарэнне. Вушкін таксама, мабыць, здагадаўся, што весяліла інжынера, і сам усміхнуўся.

— Пачытайце, таварыш Гарбачоў. Паказанне Дубіцкага, мае вывады...

Міця прачытаў. Усё правільна. Нейкая частка віны ёсць і іх, калгаснага кіраўніцтва, адмаўляць не будзеш.

— Ну што? — з парога запытаўся старшыня.

Міця ўстаў са старшынёўскага месца, моўчкі падаў паперы.

Старшыня чытаў стоячы.

Вушкін тым часам апранаўся.

— Ты ўважліва прачытаў? — запытаўся старшыня.

— Уважліва. Усё правільна,— цвёрда сказаў Міця.

— Але...

— Усё правільна.

— А што, ёсць яшчэ якія факты? — насцеражыўся Вушкін і перастаў зашпільваць кажушок.

— Не, што вы! — адказаў Міця.— Усё правільна, аб'ектыўна.

— Ну што ж, да пабачэння,— казырнуў і падаў руку на развітанне Вушкін.

Старшыня і Міця маўчалі, пакуль не заціх матор міліцыянеравага матацыкла.

— Чаму ты, Дзмітрый Васільевіч, не ўпамянуў пра сваю дакладную?

— А таму што мне трэба было да канца з вас не злазіць. Мне нечага спіхаць на вас усё. За сваё я адкажу сам. Самае галоўнае — гэта яшчэ адзін доказ таго, што я вам каторы год дзяўбу: кончылася пара ранейшага лібералізму. Цяпер тэхніка...

— Ну і што? Яшчэ больш машын наробім, дарогі

асфальтам засцелем... Дзе ж тады пастуха над кожным набяромся, як сам чалавек сябе пасвіць не будзе?

— Вось-вось! Трэба, каб у крыві ў чалавека было выхаванне...

— А поп сваё, а чорт сваё! Я не толькі пра тэхніку, я наогул... Усю гаспадарку рэарганізуем па-новаму, сілы, грошы трацім. А чалавека па-новаму арганізаваць? Як жа новая гаспадарка арганізуецца са старым чалавекам? Не толькі эканамічны фактар, як гаворыцца...

— Ну, яшчэ наша тэхніка не скора перарасце чалавека. А там і кібернетыка, глядзіш, прыйдзе.

— Да, відаць, пара мяне мяняць якім робатам! — Старшыня мучана ўсміхнуўся, махнуў рукою.— Як думаеш, два гады да пенсіі ўспею дабыць?

— Успееце.— Міця таксама ўсміхнуўся.

— І то дзякуй. А ты па блату робата цераз які год не дастанеш?

— Не, не буду, калі звозіце мяне сёння ў раён.

— А сам?

— Мне трэба там перагаварыць з тым-сім з аўтаінспекцыі, каб не надта трубілі пра гэту аварыю. Вам хочацца, каб на нарадах дзе трэба, а дзе і не трэба, толькі дзеля прыкладу ўспаміналі вас?

— Не.

— Мне тым больш.

Думка з'ездзіць у раён прыйшла пасля Валінага званка. Заадно забярэ і той яе пярсцёнак, каб не хадзіла надзьмутаю цэлы тыдзень.

— А Дубіцкага зняць з трактара, на год. Сям'я вялікая — пастухом пойдзе, не менш заробіць!

— Поп сваё, чорт сваё! — Старшыня махнуў рукою, і Міця не здагадаўся, ці сур'ёзна было гэта сказана, ці жартам.

— Калі вас чакаць?

— У абед недзе.

Старшыня падышоў да акна, глядзеў на інжынера, які ўпэўнена выйшаў да матацыкла. Успомніў, чаго збіраецца ў горад інжынер, і ўсміхнуўся: далёка пойдзе хлопец...

Старшыня дастаў з шуфляды папяросу, прыкурыў.

Міця, сеўшы на матацыкл, азірнуўся на акно старшынёўскага кабінета, убачыў, як прыкурваў старшыня, падумаў, што каб не выдумляў ён розных «душэў-

ных» праблем, каб на гэту гаспадарку кіраўніка іншае натуры, сучаснага, то калгас рос бы, як на драждждах.

Але яму, Міцю, няма чаго і на гэтага старшыню грашыць. Другі б не цярпеў гэтак. Ды каб і на самога Міцю, то ён не вельмі б пацярпеў падначаленага, які ўсё нечага лезе ў вочы са сваім правам.

## VII

За домам стала зацішней ад ветру, а таму крыху цяплей. Ці, можа, Анэта крыху сагрэлася ідучы. Яна прыпынілася, каб аддыхацца, агледзела двухпавярховую будыніну з двума пад'ездамі. Ля будыніны нідзе ніякай агароджы. На градках, дзе летам раслі кветкі, суха бялелі паламаныя сцяблінны, паміж якіх нечакана свежа праглядвала зеляніна лісціка, што невядома як ацалеў і, прамёрзлы і мёртвы, свяціўся жывою, маладою зелянінаю. Дзіўная сядзіба: ні кала ні двара. А будынак, можа, яшчэ і таму здаваўся гэтакім адзінокім, што стаяў на самым узгорку, дрэўцы, пасаджаныя вакол яго, хоць і ўзяліся расці, але яшчэ тоненькія, галля мала.

Двухпавярховы дом пабудавалі першым сярод поля. Валя з Міцем тады яшчэ жылі ў Анэты, чакалі, пакуль здадуць яго. Анэта пасварылася з Валяю — чаго перціся ў чыстае поле, калі тут, у сваёй хаце, жыць можна. І пляц не раўня таму, што на гурбане, на пяску. А яна ў чыстае поле, каб людзі смяяліся, як не з вёскі, як пустадомак які! Ды і не верылася, што будзе толк з тае калгаснае забудовы.

Цяпер Анэта здзіўлена глядзела на роўныя, акуратныя домікі, накрытыя шыферам, абапал прасторнае вуліцы з тратуарам. Раскошна стаялі домікі. І ўжо другую вуліцу, упоперак першай, пачалі забудоўваць. Сады маладыя стаяць пры хатах, год за год — і першыя яблыкі будуць, і прысады ад вуліцы густыя ўстануць.

Анэта паглядзела далей, дзе азначалася яе вёска, відная высокімі старымі дрэвамі, якія раслі на вуліцы, няроўнымі дахамі хат, няроўнымі будынінамі — здалёку можна пазнаваць, дзе чыя сядзіба. Вочы закрыеш — і не толькі хату ўспамінаеш, але і пляц, і

агароды. Які гаспадар — такая хата, які пляц і ўся сядзіба.

А гэты новы, белы пасёлак, дзе прасторна дамам, дзе шырокая вуліца здавалася незнаёмай, дамы не адрозніваліся адзін ад аднаго, як прыгожыя маладыя людзі, якіх ты не ведаеш — усе аднолькава прыгожыя, незвычайныя і чужыя, бо ў кожным з іх тое новае жыццё, якога ніколі ўжо не спазнаць старому чалавеку.

І нібы пераклікаючыся з пасёлкам, здалёку віднелася новая цэнтральная сядзіба калгаса. Таксама пад белымі шыфернымі дахамі, таксама на прасторным шырокім месцы. Ад цэнтральнае сядзібы сюды, да пасёлка, ляжала шырокая, роўная, высока падсыпаная дарога.

Госпадзі! На тым месцы, дзе цяпер цэнтральная сядзіба, дзе вялікія будыніны кароўнікаў, свінарнікаў, дзе гаражы, майстэрні — цэлы гарадок, у якім яна і заблудзіцца,— яшчэ ў першую нямецкую вайну гай бярозавы стаяў. І той бярозавы гай секлі і вазілі рабіць траншэі — гатавалі абарону. А пры тым бярозавым гаі і было іхняе з Міхаілам поле, і на тым полі разбівалі яны канюшыну...

Цьфу, каб ты спрахла! Убілася ж у голаў на старасць гадоў тая канюшына. Над ёю ўжо цэлае жыццё быллю парасло!

Анэта азірнулася па баках, як бытта хто мог убачыць тое, пра што ўспомнілася. Нідзе нікога. Халодны, шэры восеньскі дзень, і вёскі ўдалечыні з голымі садамі таксама шэрыя, як прыпаўшыя да поля, каб не так студзіў іх вецер. І мо таму і новы пасёлак, і новая цэнтральная сядзіба выдаюць гэтак уладарна над наваколлем.

Даўно Анэта нідзе ўжо і не была, і памятала тыя старыя палеткі, дзе яшчэ рабілі ўручную, на конях, дзе жалі сярпамі. Госпадзі! То ж яе жыццё! Чаму толькі, гледзячы на поле, на гэтыя далёкія зялёныя палеткі руні, здаецца, што не з ёю ўсё, што помніцца, было, а даўным-даўно з нейкім другім чалавекам, у другім свеце. І чаму гэтакаю блізасцю і лёгкім болем абвяваюць душу тыя ўспаміны?

Анэта сцепанула плячыма — брала халадком за плечы.

Яна адчыніла дзверы і зайшла ў пад'езд, па прыступках узышла на першую пляцоўку. Прыпынілася ў прыхожай, зазірнула на кухню — там нікога не было, толькі над каструляю на газавай пліце лёгенька вілася пара.

Сваццяя сядзела ў зале, на канапе, абапершыся локцямі на калені і падпёршы галаву рукамі. Засяроджана глядзела ў тэлевізар. Там худзенькая жанчына ў акулярах нешта гаварыла то сама сабе, то паварочваючыся да тых, хто глядзіць, і пісала на дошцы крэйдаю бясконцы ланцужок нейкіх кручочкаў, лічбаў. Сваццяя не адрывала воч ад дошкі, нібыта баялася прапусціць хоць слова.

Анэта пастаяла, паглядзела то ў тэлевізар, то на сваху. От не магла ніяк прывыкнуць, што тая насіла шырозную стракатую спадніцу і завязаную на лоб хустку. Анэта заварушылася, кашлянула. Сваццяя здзіўлена паглядзела на яе, як не пазнала, борздзенька падхапілася, усміхнулася на ўвесь рот, у якім спераду не засталося ніводнага зуба.

— Сва-ахна! Чаго ж стаіш у парозе? Заходзь!

Яна падышла, падала руку, і яны тройчы пацалаваліся.

Анэта падышла да канапы, нязграбнымі рукамі расслабіла вузел хусткі, скінула яе, засталася ў тоненькай белай хустачцы, расшпіліла кажушок, прысела.

— Раздзявайся, свахна. Цяпло ў хаце. Цяпло-то.

— Распрануся. Хай яго спрахне. Адсапуся троха з дарогі. На дварэ холад з ветрам, здэцца, а ўпацела...

— Даўно сваццяя-то ў гасцях не была, даўно.

— Далёка, Домна. Пакуль дойдзеш — душы ў целе не чутно.

Анэта таксама прыглядалася да тэлевізара, старалася зразумець і нічога не разумела з гаворкі жанчыны ў акулярах.

— Хіба ж гэта яна не па-нашаму гаворыць? — запыталася ў гаспадыні.

— А і я не знаю-то. Гляджу і слухаю, а не знаю,— адказала Домна.

Яна не ведала, пра што гаварыць з Анэтаю — не так часта сустракаліся яны. Пра тое, што Анэта павінна паехаць у горад да сына, Домна ведала. Ведала, што сын Федзя робіць рабочым, што ў яго двое дзяў-

чат, што купіў машыну, а таму, бясспрэчна, жыць яму цяжэй, чым Валі. І няхай ён, як згодзіцца маці, забірае яе хату, усю дамоўку — не такія малыя грошы будуць за яе...

Домна ведала пра ўсё гэта. Але вось папытаць у Анэты, калі паедзе да сына, не адважвалася. Нешта не давала папытаць, хаця і правільна ўсё было, здаецца, і без крыўды ўсім. Можа, з-за таго, што самую яе прывезлі з-за свету, ад радні і ад свае зямлі, і яна на сабе спазнала, што гэта значыць старому чалавеку паехаць за свет!.. Не дай бог нікому спазнаць у далёкай старане доўгія халодныя і дажджлівыя дні, хоць ты і ў цяпле, і ў даглядзе, і не чуваць тваіх крокаў у мяккіх пантофлях, а праз запацелае ад кухоннае пары акно глядзіць на цябе незнаёмая, чужая сэрцу палявая далечыня. Тады ні з таго ні з сяго абарвецца, упадзе сэрца ад гэтакае смяротнай тугі!..

— Штой-та мы, свахна, глядзець тут будзем. Пайшлі, паабедаем.

— А хіба маладыя дома не палуднуюць?

— Штой-та?

— Кажу, Валя з Міцем хіба не дома будуць сёння на абедзе?

— Дома. Міцяй Валю на матацыкле прывозіць.

— Пачакайма хіба іх. А ўнучак дзе?

— У школе.

— А як жа ён вучыцца?

— Сказваюць і Міцяй і Валя, што добра.

— Каб добра вучыўся, трэба. Некалі ж я і Федзю, і Валю вучыцца застаўляла. За работаю свету мне не відно было. І іх застаўляла рабіць. А як жа. Увосень колькі таго дня. А вечарамі і ў хаце холад, і газы тае не заўсёды было, каб на прыпечку хоць газоўку паставіць. Хоць ты лучыну палі. А яны ж сядзяць на халоднай печы, галодныя, халодныя. Федзя чытае, а Валя аж у рот яму глядзіць. Ад яго і чытаць навучылася. Дарма кажуць, што дурная я была. Хто бедны, той і дурны. А каб работу не рабіла, каб дзяцей не прынушала, не застаўляла выйсці іх у людзі, то і не выйшлі. Валя і цяпер на мяне кажа, бывае... А от дарма ж, вывела я дзяцей у людзі. Сама хай не жыла, дзеці пажывуць... Федзя некалі ў школу сабраўся. Дала я

яму вузялок, каб развязаў. Развязвай, кажу. Як развяжаш, то і ўсю навуку развязваць будзеш...

— Трудна-то вучыцца. Міцяй наш збіраецца вучыцца яшчэ. Работа здаравей. Нашто яму тая навука-то? Я-то нічога не гавару.

Анэта ўсунула руку ў кішэню, каб узяць хусцінку і выцерці твар. Намацала вузельчык з грашыма, успомніла, нашто брала іх. І быццам Домна магла ўбачыць гэтыя яе грошы, растлумачыла:

— Гэта ж, ведаеце, чаго я прыйшла? Сон мне прысніўся сёння, бытта маленькая... Сон гэты на тое, што прыедзе Федзя да мяне. Я і думаю...

Анэта не дагаварыла, прымоўкла, заўважыла, што Домна не слухае яе, глядзіць за акно, думае пра нешта сваё, потым нібыта спахапілася, запытала ў Анэты:

— Чай, пайшлі, на стол накрыем разам?

— А як жа.

Анэта ўстала, скінула кажушок, ступіла да дзвярэй у кухню, азірнулася. Вялікае акно ў пакоі завешана тоненькаю, як туман, празрыстаю сетачкаю, доўгаю, аж да самае падлогі. Амаль на ўсю падлогу засланы чырвоны дыван. Паўз адну сцяну, на ўсю яе даўжыню, стаяць бліскучыя чорныя зашклёныя паліцы з кнігамі, з вазачкамі. Два мяккія крэслы на дыване пры століку засланы, як і канапа, на якой сядзела Анэта, куплёнымі посцілкамі ў маленькія чырвоныя шашачкі, як некалі ткалі самі ў вёсках. У гэтых посцілках, у бліскучых паліцах, у белых, як вэлюм, занавесках на вокнах, у глыбе сіняга шкла, у якое быў уманціраван гадзіннік з залатымі стрэлкамі, што стаяў на тэлевізары, адчуваўся спакой і дастатак.

Анэта толькі цяпер заўважыла, што яе кажушок на канапе, які ляжаў, як скурчаны калматы сабака прыгрэўшыся, не на месцы тут. Ды і сама яна прышлёпалася на дыван у валёнках і ў галошах, так, як прывыкла ў сваёй хаце.

«От каб ты спрахла, старасць. Прывыкаеш не глядзець за сабою. Добра, што хоць больш нікога не было дома!» — сама сябе дакараючы, Анэта забрала кажушок і хустку, вынесла ў прыхожую, не дастала паве-

сіць на вешалку і акуратна паклала ў куточку кажушок, на яго хустку.

Падумала, што няма як зняць з ног валёнкі, бо яны надзеты на босую ногу.

— Свахна! Свахна-то? — паклікала Домна.

— Ага, іду, іду! — як запыненая знянацку абазвалася Анэта і заспяшала на кухню неяк скора і пакорліва. Не засталося і следу ад ранейшае свае ўпэўненасці і спакойнасці. Цяпер, як і ў чужых людзях, яна азіралася, перш чым ступіць ці сказаць слова...

## VIII

Анэта пастаяла на парозе кухні, кінула вокам на белыя шафкі, што віселі на сцяне, на пліту, якую запальвала Домна, і не ведала, што будзе тут рабіць і чым дапамагаць. І каб схаваць сваю збянтэжанасць, знарок спакойна сказала:

— А я ж баюся гэтага газу. Свет не гэтакі страшны — пстрыкні толькі ўключальнікам.

— Пашто баяцца-то? Скора ўсё варыцца.

— Ну, дык што ж мне памагчы вам?

— Пасядзеце, свахна.

— То давайце хоць хлеба нарэжу ці сала.

Домна адчыніла халадзільнік, паклала на стол кавалак сала, маладога, нятоўстага, з праслоечкаю. Цяпер людзі перасталі падоўгу кармлякоў карміць, лепш на год двое закалоць. А яшчэ ж нядаўна, здаецца, адзін перад адным мужчыны хваліліся, хто большага кармляка выкарміў, каб сала на спіне таўшчэй, чым на далоню, было.

— Хазяйствуй, сваццечка, а я пайду памідорчыкаў прынясу.

Анэта зняла з цвічка над плітою блакітную, не драўляную дошчачку, парэзала сала на тоўстыя, вялікія шкваркі, потым спахапілася, што цяпер гэтак не рэжуць, Федзя і той бярэ нож і яшчэ сам на меншыя рэжа.

Рэжучы, прыглядалася да кухні, да белага буфета, у якім за шклом стаяла гэтулькі і шкляное, і ўсякае пасуды, што хапіла б на цэлую бяседу.

І на кухні, гэтак, як і ў зале, адчуваўся дастатак.

Анэта скончыла рэзаць сала, агледзелася, каб узяць хлеб і нарэзаць, прыадчыніла буфет, але хлеба нідзе не відно было. У нерашучасці спынілася, потым нават прыадчыніла халадзільнік — можа, там.

— Мама? Як гэта вы к нам надумаліся? От добра!

Анэта хуценька зачыніла халадзільнік. Дачка ступіла ад парога да пліты, выключыла яе.

— А дзе б гэта хлеб у вас? Не найду.

— А на халадзільніку. У кантэйнеры.

Валя прыпадняла накрыўку на другой каструлі, пад якою слаба гарэў маленькі агонь, узяла з буфета папяровы мяшочак з цукрам, насыпала ў каструлю і толькі тады павярнулася да Анэты. Тая так і не пачынала рэзаць хлеб, стаяла з нажом у руках, глядзела на дачку, на чырвоную бліскучую куртку з капюшонам на ёй, на гэткія самыя бліскучыя боты, што былі аб назе, як панчохі, на заячую шапку. Твар ружовы з марозу, насіненыя павекі.

— Здравствуй, дачухна!

Анэта сама ступіла да дачкі, цярнула руку аб спадніцу, але Валя не падала свае, узяла за плечы, пацалавала.

— Я зараз прыйду,— кіўнула дачка. І было чуваць, як яна спяшалася на другі паверх.

— От ужэ і нашы прыехалі.— Домна паставіла на стол талерку з агуркамі і чырвонымі, тугімі, бытта толькі памытымі, памідорамі.

— Садзецеся, садзецеся, сваццяl Я ото сама пастаўлю ўсё на стол.

Анэта прысела на табурэтку, глядзела, як Домна спрытна паставіла на стол талерачкі, відэльцы, лыжкі, паналівала ў невялікія гліняныя місачкі чырвоных вараных буракоў з капустаю, у вялікую міску наклала смажонікаў.

— А, маці! Добры дзень!

Міця ўвайшоў на кухню без курткі, без ботаў, у скураных штанах з сінімі шлейкамі цераз плечы, падаў Анэце руку.

— Вы, можа, саўсім да нас? Каб маёй старой весялей было.

— Тут жа Генка ў яе.

Анэта не знайшлася, што іншае адказаць, раптам падумала — што б рабіла, каб гэта ёй трэба было пы-

ніцца тут, на кухні, ставіць талерачкі і відэльцы? Кожнага дня, больш нічога не ведаць. І не магла гэтага ўявіць.

— Міця! Ідзі перадзявайся! А то чалавек прыедзе і чакаць будзе! — паклікала Міцю зверху Валя.— Я касцюм табе выняла і рубашку паклала.

Валя зайшла ў кухню ў тоненькім чорным світэры, які шчыльна аблягаў яе моцнае, крыху таўставатае цела. Валасы коратка астрыжаны, саламянага колеру.

— Я не ўспею, ты ўспееш,— жартаўліва агрызнуўся жонцы Міця.

— Успею. Каб табе не трэба было ехаць, то і сама з'ездзіла б.

— Ладна. Знаем мы.

Міця пайшоў наверх.

— А вы, мама, перасядзьце сюды, у куток. Тут вам прастарней і спакайней будзе. Гэта вы гэтак сала напілавалі? — дабрадушна ўсміхнулася дачка, узяла нож, парэзала Анэціны скварачкі яшчэ напал, на тоненькія, невялічкія, што аж свіцяцца.

— Чорцяга, я думала, што сала цяпер уволю хапае.

— Сала не шкода. Ніхто яго есці не хоча. Цяпер паснейшага давай, мяса, гавядзінкі.

— Распанелі. А на добры лад, можна і вам соткі пасеяць, парасючка пагледзець. Ад стала ж аб'едкі куды дзеяце?

— Суседзі забіраюць.

— Я ж і кажу...

— Хопіць вам пра гэта! — Валя паставіла перад маці талерачку са смажонікамі.— Чаго вам яшчэ даць? Малака налью...

— Што малако! Маці ў госці прыйшла, трэба было ў зале на стол накрываць. А то і віна на стале няма.

— Мо ж і тут добра, мама? А то туды насіцца толькі,— запытала Валя, накладаючы смажонікі ў талеркі.

— Добра, добра, от дзіва што!

— А дзе віно? — запытаўся Міця.

— Нашто тое віно? Табе ўжо віно. З людзьмі ж гаварыць паедзеш! — прыкрыкнула Валя на Міцю.

— Я сам ведаю, куды паеду і што мне там рабіць трэба,— коратка адказаў Міця, і Валя пакорліва да-

стала з буфета бутэльку жоўценькага віна. Горлачка бутэлькі было закручана срабрыстаю белаю папераю.

— Нашто гэтакую харошую бутэльку пачынаць? Мо б на якую патрэбу было.

— На патрэбу хопіць,— засмяяўся Міця.

Анэта глядзела, як ён наліў поўны бакал ёй, свацці, сабе і Валі. Узяў свой бакал:

— За вас, маці. Каб часцей да нас прыходзілі,— падняў бакал, усміхнуўся, выпіў сам і адразу ж узяўся есці, як ядуць здаровыя мужчыны, што прагаладаліся. Выпіла і сваццця, і Валя. Анэта сядзела, паднёсшы бакал да губ, аглядала ўсіх, зноў паглядзела на Міцю. Піць ёй не хацелася, і яна паставіла бакал, толькі чуць узяла віна ў губы. Яно было кіславата-салодкае, нясмачнае.

Міця адарваўся ад талеркі, запытаўся ў Анэты:

— Мо падаць чаго? Чаму вы не ясце?

— Не, нічога не трэба.

— Пашто не п'еш-то, сваццця?

— Не, што вы, у мяне яшчэ сёння...— Анэта зноў не дагаварыла, здавалася, што не ў пару яшчэ гаварыць, не зручна, пакуль людзі палуднуюць.

— А ты чаму сам не едзеш у Слуцак? — запыталася Валя ў Міці.— На матацыкле скарэй бы і туды і сюды.

— Так яно і будзе туды-сюды. Чула ж пра сённяшнюю аварыю?

— А табе што? Параспускалі маладых. Малако на губах не абсохла, а ўжо чарніла жлукцяць. Ты ж яго не садзіў на трактар і ў дарогу не выпраўляў?

— А машына чыя? А гаспадары ў калгасе ёсць?

— Ну, ты яшчэ не гаспадар. І няма чаго плужыцца некуды. Маеш работу, усё маеш — і сядзі, пакуль цябе ніхто не чапае!

— Мне ўжо толькі і асталося, што вакол цябе хадзіць і твой азадак пагладжваць!

Маладыя смачна жавалі, хоць скоса пазіралі адно на аднаго.

Міця адарваўся ад стравы, зноў наліў у бакалы.

— Пі, сваццця, пі! Яно ж салодкае,— запрасіла Домна.

— Мне ж дадому трэба, у мяне ж...

— Міцяй-то падвязе. Міцяй?

— Ён жа не сам едзе, старшыня яго павязе. Унё ад канторы і яго «Волга», мабыць, курыць. А ты яшчэ не сабраўся,— зноў зачапіла Валя Міцю. Падхапілася, прынесла крэсла, паставіла на стол чысты сподак, паклала лыжку, відэлец.

Анэта паглядзела на віно, на сваццю, якая зачырванелася ад выпітага, на Міцю, які спяшаўся есці, на дачку, што стаяла пры акне і сачыла за старшынёўскаю машынаю.

Старшыня хутка зайшоў у кватэру.

— Добры дзень, цётка Анэта! Што ж вы сядзіце, як сірата казанская, і нічога не ясце? — павітаўся ён і запытаўся ў Анэты.

— Не хочацца, Анцік. Бачыш, колькі год тваe мацеры няма ўжэ. Равеснікі ж мы былі. Колькі можна і жыць, і есці, і работу рабіць? Паміраць, мабыць, даўно мне пара, Анцік.

— Што вы, цётка! Туды заўсёды возьмуць, а вось назад — не. Як мая маці некалі гаварыла, з ляску прыйдзеш, а з пяску — не.

— Сядайце, Антонавіч, сядайце,— запрасіла Валя.

— Я ж толькі з дому, з-за стала.

— Сядайце, Антонавіч, а то я спяшаць буду, яшчэ ўдаўлюся,— таксама запрасіў Міця.

Анэта глядзела на старшыню, на тое, як завіхаецца ля яго дачка, успаміналa ягоную маці, поле, каляску, у якой ляжала маленькае дзіця з суслаю з пажованага хлеба. Цяпер здаецца, што гэты начальніцкага выгляду чалавек не мог ніякага дачынення мець да таго маленькага і крыклівага дзіцяці ў калясцы на палетку. Анэта цяпер памятала нават і тую каляску з даўгаватым выгнутым дышлем і драўлянымі коламі. З аднаго кола скідалася шынка і была прывязана аборачкаю да абадка.

— Дык як ваша здароўе, цётка? — запытаўся старшыня, сядаючы да стала.

— Бачыш жа, яшчэ і віна вот выпіла.

— Ну, то і малайцом.

— Паеду да Федзі на зіму. У дачкі, бач, і печы няма, каб удзвюх са свахнаю ля яе сварыцца. Ды і хату як прадам, то капейка Федзю не лішняя будзе. У горадзе ж не так раскошна рабочаму жывецца. Вы тут хоць і робіце больш, і не гэтак чыста, але ж цяпер

як паны жывяце, усё маеце. Мае, бач, і пляцу рабіць не захацелі.

Ці то ад выпітага, ці то пры пастароннім чалавеку, Анэта раптам адчула нейкую горкую лёгкасць гаварыць, нібы пасміхоўвацца з сябе самое, але і хітрасць сваю маючы.

Старшыня слухаў Анэту, згодна ківаў галавою, усміхаўся.

— Дык я і гавару. Ты ж, Анцік, разам з Міцем робіце. Дай ты ім кватэру ў такім во малым доміку, каб і агарод быў, і садок. Хлеў у мяне не стары, хай забіраюць, сабе паставяць. Свінчо якое ці курыцу дзяржаць будуць...

— Перастаньце, мама! Аж брыдка слухаць. Чалавек у хату зайшоў, а вы пасядзець не дасце! — перапыніла Анэту Валя.

— Правільна, правільна цётка гаворыць! — абазваўся старшыня.— На добры лад і карову дзяржаць можна.

— Я ж ім даўно пра гэта, Анцік, гаварыла. Дык ці ж яна паслухае мяне? — паскардзілася Анэта на дачку, не заўважаючы, як пераглядаюцца і пасміхаюцца Міця са старшынёй.

— От некая скула, не маці! І вы ж, Антонавіч, памятаеце. Век нікому не змоўчыць, усё правуецца з людзьмі, дзярэ гэтую зямлю ад самае вясны, матычыць поле, жыта тое сярпом пілуе ад цямна да цямна і нас, дзяцей, за сабою валачэ! Колькі нас было, галодныя, зялёныя, ад ветру хісталіся... А яна аж сама падае і на нас сварыцца, б'е — рабі, каб табе кроўная доля. Але ж што цяпер гаварыць...

— Бач, як ты ўспамінаеш! А што я магла, удава? Як умела, але ж пагадавала і павыпраўляла вас у людзі! За гэта дзякуй скажэце.

— Усякае было, усякае... Вы, цётка, паспрабуйце памідора. Бачыце, як з грады,— старшыня паклаў Анэце на сподак памідор, запытаўся ў Валі: — Як, Валя, новы кацёл, не холадна зімою будзе? А то памерзнуць твае хворыя.

— Добра грэе, дзякуй вам, Антонавіч. Вы ж нічога не ясце. Можа, хоць кавы завару вам?

— Кавы давай.

Валя насыпала зярнят у млынок, уключыла яго. Анэта ўважліва прыглядалася да дачкі, але Валя не адчувала яе позірку, завіхалася ля пліты. Цяпер і праўда не верылася, што гэтая гладкая, спраўная жанчына была некалі худзенькаю і тоненькаю.

Валя нарадзілася ў вайну, ад Барысава, і па бацьку Анэта запісала пасля вайны дачку па першаму свайму, па Міхаілу.

І яшчэ Анэта ўспомніла пра тое, што гаварыла дачка...

*...Норма жыта была на самым вялікім і далёкім Вужанскім палетку. Ад вёскі першае поле, за соткамі, засеяна бульбаю, а на ўзгорку за ім за вузкаю палявою дарогаю, парослаю чырванаватым бліскучым быльнікам, цыкорыяй і рамонкам ды валошкаю паўз самае жыта, пачынаўся жытнёвы прастор. Анэта любіла гэты палетак, чакала таго году, калі будзе на ім пасеяна жыта. Колькі ні памятала яна, на Вужанскім заўсёды радзіла жыта, густое, тоўстае, як чарот, з поўным коласам. Жаць яго цяжка было, вельмі ж у лагу, дзе шмат расло травы і дзе на жыта густа вілася бярозка. Не выдраць з зелля і травы зжатую жменю. А таму мужчыны, як брадзілі, рабілі ёй норму шырэй у лагу, ды і саму норму вымяркоўвалі там, дзе гушчэйшае жыта. У гэтым Анэту не перапрэчыш: яна ўдава, заступіцца няма каму, а таму і робяць, што захочуць.*

*Першага дня Анэта ніколі не станавілася ў постаць. Яна ішла да брыгадзіра сварыцца. Брыгадзіры, хоць і мяняліся часта, ведалі пра гэта, а таму стараліся не папасціся на вочы. Тады над усім палеткам, аж за небакрай неслася «...а каб тваё вочы свету не бачылі! А каб з цябе вантробы павырывала!..» Праклёнам не было канца. Пачуўшы гэты голас, брыгадзір наравіў да свайго коніка, які пасвіўся пры мяжы,— ад граху далей. Анэта і не спадзявалася, што згледзіць брыгадзіра, але ж была ўпэўнена, што ўсё роўна той пачуе. Трываць жа да таго часу, пакуль трапіцца на вочы брыгадзір, Анэта не магла. А калі здаралася, што брыгадзір трапляўся пад гарачую руку, то паглядзець усім было цікава, як Анэта заступала дарогу коніку, пабліскваючы сярпом у руцэ, і як шморгала брыгадзіра за нагу,*

*каб той злез з каня. А брыгадзір злазіць з каня не хацеў, наравіў, каб вылузацца...*

*Назаўтра, ахрыплая, злосная, Анэта ўставала яшчэ цёмначы. І пакуль канчаўся дзень, у яе было ўжо больш зжатага, чым у каго.*

*Калі падрасла Валя і пайшла жаць, то спрабавала сунімаць маці, але тая не зважала. Мужчыны ў вёсцы перасмейваліся, слухаючы праклёны,— Анэта зажынкі спраўляе.*

*У жніво ўставала яна чуць свет, калі толькі аднекуль здалёку з вышыні ледзь прысвятляецца неба, і пакрысе, непрыкметна негустая летняя цемната робіцца прыцемкам, рэдзенькім, светлым. А потым і зусім відно, і толькі, як пашыты з тоненькага палатна анучкі, вісіць высока ў небе белы месяц ды на ўзыходзе асвечваецца светлаю чырванню неба.*

*У такі час толькі цішыня над зямлёю. На аселіцы роўным шэрым абрусам ляжыць раса, і ніводнае цёмнае плямінкі ад чалавечага або каровінага следу. І адзінока за вёскаю, нават крыху не па сабе ад гэтае велічнае палявое бясконцасці і маўклівасці. Здаецца, што ты толькі адна і ўвесь свет глядзіць на цябе, а ты маленькая такая пад гэтаю сіняватаю вышынёю з прышытым белым лапікам месяца. Таму скаланешся, калі неспадзявана пырхне з каляіны, з мяккага пульхнага пылу ў неба жаўранак, бо разам са жнівом канчаецца і ягоная песня, бытта высах за летнюю спякоту і не цурчыць больш на зямлю нябачны тоненькі струменьчык. А можа, кароткі век ягонай песні напрарочыла ў пару зялёнага лісту зязюля, і сама даўно зажурылася без песні, быццам паклялася пакінуць назаўсёды сваю варажбу і будзе маўчаць доўга, пакуль наўкруга не звернецца сонца і не вернуцца дні маладога лісця і неба.*

*Пасля роснае травы і халаднаватае начное зямлі пяшчотна цёпла ў ступакі ад дарожнага пылу, і толькі рэжа ўваччу, і не хоча варушыцца соннае цела, але дачка не адстае далёка ад маці, ідзе следам за белаю торбаю з ежаю, якую нясе маці. У торбе збанок, хлеб, цыбуля, некалькі малых яшчэ першых агуркоў і кавалак сала,— Анэта ўпэўнена, што, каб ставала сілы жаць, не трэба ніякага малака, а толькі сала, і таму*

*на грошы прадавала нават каўбасы, але сала пакідала на лета, каб хапіла да пакроваў...*

*Валя бярэ ў другую руку закручаныя ў анучку сярпы, подбегам даганяе маці. Анэта не азіраецца, глядзіць наперад, нібы хоча ўбачыць, ці няма ўжо каго там, на палетку. І яна будзе гэтак ісці подбегам, аж пакуль не ўзыдзе на ўзгорак, адкуль відно ўстаўленае мэндлікамі поле і зажатыя постаці.*

*Ніводнага чалавека на полі. Бо ні разу не было такога, каб хто раней за Анэту прыходзіў да постаці, хіба толькі калі маладыя дзяўчаты, каб падражніць яе, знарок згаворацца і прыйдуць гуртам яшчэ цёмначы. Тады Анэта, угледзеўшы іх аж бягом курыць...*

*На жніво Анэта ходзіць басанож, а каб не калолася ржышча, абкручвае лыткі анучкамі.*

*Ужо ля постаці, раскруціўшы сярпы, яна агледзелася, што тры мэндлікі павалены. Яна ведае загадзей, хто гэта зрабіў — Ельніцкага бэнсі, якія ўчора круціліся ля маці, і тая мо назнарок навучыла іх, каб павалілі, быццам Анэта не ўмее ставіць так, каб не валяліся.*

*Самой ісці ставіць мэндлікі не хочацца, добра і лёгка жаць, пакуль раніца, не пячэ сонца, і Анэта выпраўляе Валю. Бубніць яшчэ нешта сама сабе пад нос, бярэ першую жменю і болей нічога ўжо не чуе і не бачыць. Толькі росны цёплы пах збажыны, шорсткае шорханне сярпа. І на перавясло кладзецца першы сноп, які яна звязвае туга, прыціскаючы каленам. Дарма, што яны ў яе вялікія, як кулі, але яна вяжа іх моцна, каб не рассыпаліся, як возьмеш на сахор. Толькі калі прыпыняецца і выпростваецца, каб, прыціснуўшы пад пахаю адзін канец, скруціць перавясла, бачыць, як паволі, не надта спяшаючыся ставіць Валя мэндлікі — бы прыйшла рабіць на чужое, варушыцца, як у ваду апушчаная.*

*А ўжо выглянула сонца і ўпала промнямі на калоссе на далёкім узгорку, дзе канчаецца постаць...*

*Анэта нажала з пайкапы снапоў, калі агледзелася, што Валі няма і што адзін мэндлік так і не пастаўлены, паклала серп, з перавяслам у руцэ заспяшалася туды...*

*Валя сядзела, прытуліўшыся плячыма да снапа. Ад яго, здавалася, было цёпла ў плечы, і, можа, таму так*

*агортвала супакоенасць, а сонечныя промні, як пяшчотныя пальцы, дакраналіся да твару, мякка закрывалі павекі. І гэтая сонечная ласка нібыта чалавечая, мацярынская, і нічога няма на свеце саладзей за яе...*

*— А каб ты апухла, як ты не выспалася! Каб ты як калода легла! Людзі ідуць, глядзяць! — І Анэта азірнулася ў поле, дзе ўжо відны былі жанцы, як трымала, навотлю хвасянула дачку перавяслом па твары раз, другі. Тая спрасонку нават не падхапілася з месца, толькі адхіснулася, спалохана, шырока расплюшчыўшы вочы, і закрычала працяжна, дзіка:*

*— А мама-а-чка!.. А за што-о-о!..*

*І ў вачах у дачкі ўстаў такі жах, што Анэта спалохана адхіснулася, сумелася, крыху адступіла, але ўбачыла, што Валя апамяталася, ачнулася ад сну, зноў хвасянула па плячах і пагнала перад сабою да постаці, прыказваючы:*

*— Я душуся дзень і ноч, а яна мне бач як прыяе! Каб ты заснула і не прачнулася!*

*Дачка зацята маўчала, толькі сцялася ўся, утуліла голаў у плечы і не ўцякала, не бегла, бы і не чула, што яе білі.*

*Цераз год сказала, што паедзе паступаць пасля сямігодкі, з'ехала з дому і не вярнулася, пайшла на будаўніцтва, а потым завербавалася ў Карэлію...*

...— Мы з табою, Змітра Васільевіч, як п'яны поп з дзякам: адзін за здравія, а другі за ўпакой. Я табе пра людзей, а ты мне пра трактары.— Старшыня ўстаў з-за стала, даючы зразумець, што хопіць спрачацца. Падняўся і Міця, і Валя.

— Сваццця-то, сваццця, пашто не ясі? І віна не выпіла. Я табе за кампанію памагу.

Домна наліла сабе ў чарку віна і не чакала, пакуль вып'е Анэта, кульнула ў рот.

— Закусвай-то, сваццця, закусвай! — запрасіла Домна, і Анэта згодна кіўнула галавою, узяла на відэлец астылае бульбы. Есці не хацелася нічога, і нават памідора, які можна было ўжо ўзяць і рукою, бо ніхто не зважаў на яе.

— Сваццця, пашто маўчыш? Чай, зараз паедзе Міцяй,— напомніла Домна.

Анэта ўстала з-за стала, выцерла руку аб спадніцу, памкнулася да кажушка, дзе ляжалі грошы, але адумалася, што нічога не сказала пра Федзю, ды і не да гэтага сёння Міцю і Валі.

— Дык вы мо што хацелі, мама? — запыталася ў яе Валя і толькі цяпер агледзелася, што маці нічога не ела.— І не елі нічога.

— Не хочацца мне. Дзякуй.— Анэта спяшала выбрацца з-за стала і адчувала, што трэба нешта сказаць, бо не паверацъ, што ні з таго ні з сяго прыходзіла яна.— Пра хлеў, я думала, скажу. Ну, а як не... Ага, яшчэ папрасіць хацела: прывязі, Міця, дошак вокны забіць... А то дзеці шкло яшчэ снежкамі за зіму павыбіваюць.

— Ярунда гэта, мама, зраблю,— махнуў рукою Міця і зноў завярнуўся да старшыні.

Анэта з палёгкаю ўздыхнула. Але нечаму пякуча, горка сціснула сэрца, і Анэта цяпер хацела толькі, каб хутчэй пайсці, развітацца, быццам потым стане лягчэй.

— Свацця, то мо пагосціш у мяне. Чаго табе спяшаць? Чай, ніхто не чакае?

— Ды не, свахначка, пайду я. Выпіла, а яно мне лішняе.

Вострае адчуванне свае бездапаможнасці, непатрэбнасці апякло і крыўдаю і жалем да сябе. І разуменне, што нічога нельга перайначыць, толькі засталося скарыцца і не падаваць выгляду, стрымлівала Анэту.

— То чаму ж вы зразу не сказалі? Давайце я памагу вам адзецца. Падвязуць вас мужчыны,— заспяшала Валя.

Яна памагла маці апрануцца, завязала хустку, супакоіла:

— А Міця дошак прывязе заўтра.

Анэта толькі кіўнула галавою. Цяпер гэта ўжо не так і важна.

Домна выйшла следам з кухні:

— То давайце, свахна, пасашок на дарожку...

Свацця зачырванелася, парухавела. Віно ішло ёй на карысць.

— От перастаньце вы! А то галава балецъ будзе. Прыйдзе хлопец са школы, то не пакорміце! — прыкрыкнула на свякроў Валя.

— Чагой-та балець? Чай, не гарэлка,— няўпэўнена запярэчыла Домна і ўсё ж вярнулася на кухню.

Валя памагла маці апрануцца, завязала хустку, прыадчыніла дзверы на двор.

Дзверы машыны грукнулі, і яна хутка ўзяла з месца. Валя памкнулася была следам, гукнула, каб спыніліся, але, мабыць, яе не заўважылі. Ні Міця, ні старшыня не азірнуліся, а пачуць за зачыненым шклом у кабіне не маглі.

— Трэба было ж вам раней сказаць.

— Нічога, дачухна. Я прайдуся троха, то, можа, і здаравей мне будзе, а то яшчэ растрэсла б у гэтай машыне.

— А можа, пагуляйце яшчэ...

— Да не. Мо Федзя прыедзе сёння, а я з дому сышла...— нарэшце сказала Анэта пра тое, што найбольш хвалявала яе, з-за чаго прыйшла да дачкі.— Думала, каб, як ён прыедзе, сабраліся ў мяне за сталом, пасядзелі па-людску ў бацькавай хаце.

— Ой, у вас жа там не прыгатаваць нічога... Як прыедзе, то да нас прыязджайце, вечарам Міця вернецца, пераначуеце.

— Я гэта ведаю, але ж мне б хацелася...— Анэта не дагаварыла.— А хлеў і праўда забірайце. Калі не хочаце, то я ўсё роўна на вас яго адпішу...

— Перастаньце вы з гэтым адпісваннем! Аж слухаць брыдка. Каб не было ў нас за што жыць...

Валя сцепанула плячыма ад холаду, і Анэта спахапілася:

— Дык ты ж не стой на холадзе. Ідзі ў хату, а то яшчэ прастудзішся. Ідзі!

Падступала горнасць. Анэта памкнулася абняць і пацалаваць дачку. Тая сама здагадалася пахіліцца, пацалавала маці, астудзіўшы яе шчаку холадам сваёй.

Анэта пайшла. Грукнулі, зачыніліся дзверы пад'езда.

## IX

Удзень крыху пасвятлела, паднялася вышэй каламутная шэрань, але вецер пёк холадам усё гэтак жа калюча. І бязлюдна было. Нібы гэтае бязлюддзе надоўга,

да вясны, пакуль ажывуць, зачарнеюць свежаю раллёю палеткі, якія зараз аднолькава роўна, шэра, спустошана прасціраліся ўдалечыню і ад якіх павявала холадам і асуджанасцю. Але як прасвет, як радасць на смутную душу, перад самым небакраем шчодра, густа зелянелася рунь.

Анэта прыпынілася. Як ішла сюды, да дачкі, уваччу быў толькі новы светлы пасёлак ды разбудаваная цэнтральная калгасная сядзіба. Яны забіралі вока і прыгажосцю, і навізною сваёю. І нічога больш не заўважалася. Цяпер жа, калі перад Анэтаю ляжала тая ж самая белая сыпанка да свае хаты, здалося, што адплыла, стала далей яе вёска з голымі садамі і векавымі прысадамі на вуліцы, хай рэдкімі, але магутнымі, высокімі дрэвамі.

Ды і сама вёска бытта рассыпалася па полі: рэдка, прасторна стаялі хата ад хаты. Новыя, высокія, крытыя бляхаю і гонтаю, шыферам. З узгорка добра бачылася ўся вёска. Анэта прыглядалася на сваю хату. І пакуль не знайшла Вольчыну, а потым і сваю, не паверыла, што гэтакая малая яе хаціна, як шчарбіна між усіх сядзіб, дзе ля кожнае параслі вялікія, дужыя ўжо пасляваенныя сады. І яшчэ некалькі гэтакіх жа самых сядзіб-шчарбін угледзела Анэта. Тых, каго ўжо або не стала на свеце, або хто, гэтак жа, як і яна, паехалі дажываць апошнія гады да дзяцей, у гарады. Хаты так і стаялі. Не надта цяпер на іх знаходзіліся купцы.

У дальнім канцы вёскі, на ўзгорку відны могілкі. На іх узяўся расці малады густы бярэзнік, над якім тырчалі толькі дзве старыя бярозы-мацёры з доўгім ніцым веццем. Яны ацалелі ў вайну, калі на могілках ішоў бой.

Анэта прыпынілася, азірнулася назад, на той дом, дзе яна толькі што была, на іншыя дамы, на цэнтральную — ад новых, белых будынкаў усё роўна як святла больш, прастору. А дзе вёска, там бліжэй да небакраю, і святла там заставалася меней... І ад гэтага яшчэ радней і бліжэй здалася вёска, яшчэ мацней і пяшчотней зашчымела душа, як у мацеры па самаму любімаму дзіцяці. І гэтак пранізліва адчула сябе і тут, у полі, Анэта аднятаю ад усяго таго, што ўвайшло ў сэрца назаўсёды, аднятаю ад таго свету, без якога і жыцця ў яе не можа быць!..

Анэта спынілася, перавяла дыханне, паволі азірнулася навокал, супакойваючы самую сябе,— чаго гэтак захвалявалася, спалохалася, счахла духам? Там жа, у хаце, не падала выгляду, пайшла незалежнаю, сама сабе гаспадыняю. А чаго гэта тут так затрымцела? Яе-то ж не выганяюць ні з хаты, ні адну не пакідаюць у халоднай хаце, як, бывае, дажываюцца старыя.

А яна гаспадыня, і хата за ёю. І сама сабою валодаць можа. Яшчэ захоча — і нікуды не паедзе.

Анэта пачула, што нехта даганяе яе, спалохалася: можа, Валя ў акно ўгледзела, што маці пройдзе ды спыніцца, і здаганяе,— азірнулася.

Па дарозе ішоў стары. У хромавых ботах, у галіфэ, прасторных, суконных, у чорным прыталеным кажушку, у рыжай шапцы, з чорнаю сумкаю ў руках. Чалавек яшчэ не бачыў Анэту. Ён не глядзеў ні ў свет, ні наперад — толькі сабе пад ногі, якія быццам забываў падымаць ад зямлі, і яны шоргалі па дарозе.

Чалавек найшоў на Анэту, і толькі тады схамянуўся, утрапёна глядзеў, нібыта не ведаў, хто яна, ці не мог зразумець, дзе гэта ён сам.

Цяпер толькі Анэта пазнала яго і не паверыла — як знеўдалеў, сагнуўся ў крук Аляксандр Дзягель.

— Го, ты? — замест прывітання гокнуў ён.— Чаго ты тут?

— Чаго і ты. Абое на дарозе.

— Яно ж і праўда...

— А ты адкуль? — не ўтрывала Анэта і тут жа спахапілася, успомніла, што гаварыла ёй Волька.

— Са Слуцка еду. Ты ж мо чула? Нагу аднялі хлопцу...

— А госпадзі!.. Чула...

— З бальніцы еду...

Дзягель не дагаварыў, зняў рукавіцу і нязграбнымі пальцамі зняў кроплю, якая павісла пад носам,— старэчая кропля з холаду.

— Ты дадому? То пайшлі разам,— сказаў Дзягель і павальней зашоргаў ботамі, як цягнучы іх за сабою.

— Пойдзем, дзе дзенемся.

Анэта адчувала цяпер нейкую адолю над Дзягелем, які, колькі яна памятала, кіраваў ёю, усё жыццё амаль, пакуль не выправілі яго на пенсію.

— Я вот гляджу на хату сваю, а дадому ісці не хочацца. Паглядзі, якая хата! З усяго наваколля відна. Як цэркаў, га?

— Блішчыць, але па цяперашнім часе на каплічку больш выдае.

Анэта ўсміхнулася: хоць і блішчаў той дах, але не надта вылучаўся між новых хат, тых, што і не пад цынкавым жалезам,— забудаваўся Дзягель на старой сядзібе, усё жыццё паднаўляў, перарабляў бацькаву хату... Дзе ж ты зраўняеш тую старую будыніну з новымі, па-цяперашняму стаўленымі хатамі!

Дзягель быстра зірнуў на Анэту, мабыць, толькі цяпер адчуў і насмешлівасць у яе голасе, і незалежнасць, нават перавагу над ім. І пачаў гаварыць спаважна, як гэта рабіў некалі на сходах:

— Ведама, з тым, як цяперашнія будуюцца, не зраўняеш... Але ж хіба цяпер такое дзерава, як некалі, без падсочкі, смаловае, што і веку яму няма? Ды і як зарабляюць цяпер! Гэта ж не мы, што за капейку калгасы паднімалі, сабе хлеба не маючы... Як ты рабіла.

Дзягель ведаў, што не падтрымаць яго Анэта не можа, і ён прыцішыў хаду, завярнуў да яе галаў.

— Чаму гэта забылі? Пенсію от далі. Хіба мала? Ты ж здаровы яшчэ, на сваёй гаспадарцы во як вернеш! Не скажаш жа, што бедна табе жывецца... Заплакаў. Ты ж з голаду не пух, дзеці твае без хлеба не сядзелі, у вайну цябе ні па лясах, ні на фронце не ганялі! Ці ты за плугам папастаяў, ці за касою пуп нарваў? Як усё ні ішло, як ні мянялася, як ні мітусілася, а ты, як тое г...но, усё наверх выплываў ды і намі камандаваў... Як толькі дзе каму пакамандаваць трэба было, так ты тут як тут пад рукамі паўставаў. А цяпер зажаліўся... Хоць бы перад кім, а не перада мною. Я ж тваё нутро наскрозь ведаю! Ух як я цябе, труцень, наскрозь бачу! І дабра табе ніколі не думала і не думаю, ведай пра гэта, Александарка!

Анэта заўважыла, як прыпыніўся на нейкае імгненне Дзягель, выпрастаў плечы, аж пабольшаў, злаславатая чырвань ажывіла твар, востра глянулі вочы, падцяліся губы, і на нейкае імгненне Анэту працяў страх, справядлівей, не страх, а цень таго пастаяннага страху, які яна памятала і які зыходзіў ад Дзягеля. Але яна тут жа ўспомніла, чыя яна маці і хто цяпер Дзягель.

Мабыць, пра гэта самае ўспомніў і Дзягель, бо толькі нахіліў, як збычыўся, галаву і цвярдзей затупаў па дарозе.

— Думаеш, мая работа лёгкая была? Гэта хто не прабаваў начальніцкага хлеба, той гэтак думае. Што, і душа ў мяне не балела, на ўсё гледзячы? Час такі быў, некаму трэба было рабіць работу, хоць і не пó душы яна... Ну, не я, дык другі б нехта над табою стаяў. Мо і гэтакае, як я, палёгкі не даў бы. Мо б гэтак на добрае і не выйшла, як цяпер зрабілася...

— Да не, Аляксандарка, ты да мяне не раўняйся! Твая і мая жызня — дзве дарожачкі! Я век дабро нарабляла, а ты яго ўсюды распіхаў за тое, што ўварваць сабе можна было. Мая дарога ў жызні во гэтакая,— Анэта паказала рукою наперад, па дарозе, а потым убок, на сцяжынку на пераворaным полі, якая блудзіла па ўмерзлай раллі,— а твая такая. Яна бытта і выгадная, і нацянькі, але ж ненадоўга. Перааруць яе — і следу не стане. Ёсць бог на свеце, як ні круці ў жыцці. Ад арміі ты выкруціўся, ад парцізан...

— А ты мне парцізанка, га! Байстручку з Барысавым прыжыла. Я на звязі з парцізанамі стаяў! Мяне з сям'ёю немец у любы час мог у пыл і прах!.. Даведка ў мяне ёсць.

— Ёсць жа, мабыць. А то трасцу ты ўседзеў бы! Людзі б з цябе душу вытраслі! Як і ты трос з іх. А ні мне, ні Барысаву ты не суддзя. Выгадавала я дачку, во, на віду ў людзей, і ніхто мяне не асудзіў і не асудзіць!

Чым больш гаварыла Анэта з Дзягелем, тым больш адчувала сваю сілу, сваю правату і сваю ўпэўненасць, тую, якую страціла была ў дачкі. Упэўненасці дадавала і тое, што яна ведала ўсё жыццё цвёрда: Дзягелю нельга са сваёю няпраўдаю раўняцца да яе. Калі раней гэта вера была ў яе несвядомая, то цяпер, як пражылося жыццё і само паставіла ўсё на свае месцы, Анэта магла і даказваць яму, і не толькі даказваць, а павінна была не даць Дзягелю раўняцца з ёю, паказаць яму яго сапраўднае месца. І тут, у полі, на дарозе, пры якой трымцеў рэдзенькі ўсохлы быльнічок, было якраз і самае месца сказаць гэтаму чалавеку з дачасна старэчаю кропляю пад носам усё, чаго ён ад яе заслужыў.

І Дзягель ці не адчуў гэту яе агрэсіўнасць, на якую не меў спадзеўкі, калі пачаў гаворку. Чалавек толькі

памятае, як дабро яму хто зробіць, і забывае пра той боль, які сам чыніць людзям. Ён прамаўчаў у надзеі, што не дасць Анэце новае зачэпкі, і тая таксама змушана будзе маўчаць.

Але Анэце ў палёгку было гаварыць, адчуваць сваю моц і правату.

— Не, Аляксандарка! Ты мо думаеш, што цябе тым скрыўдзілі, што пасадзілі макам без славы і пашаны? Ты дзякуй, што цябе некалі ўпору не страсянулі за тваю работу... Дабралася і да цябе ўлада, раскусіла, сядзіш цяпер, хвост падціснуўшы, як сабака за плотам, чакаеш... Можа, і несправядлівы бог, што цябе праз дзяцей тваіх карае... Дзеці ж не вінаваты. Вось табе і дабро твае нажытае! Сам горш за мяне сагнуўся... Сабаку пад хвост тваё дабро! Вот!

— Ты што, ё...! Растапырылася, рот разявіла! — Шаркануўшы ботамі, Дзягель так круцянуўся да Анэты, што не адзержалася кропля пад носам.— Ты маіх дзяцей не чапай, курыца няшчасная! Век зямлю драла, нічога, акрамя зямлі, не ведаеш і не бачыла! Зямля ты сама хадзячая! Марцэля! Каб троха разумнейшая была і язык каротшы быў, то і менш рабіла б, і больш мела б, і з голаду не пухла б! А табе ўсё мала было, усё зямлю драла. А там, дзе ты гэту землю, праведніца, драла, і месца табе на старасць не асталося. Другую пасадзілі, а самую за свет звязуць здыхаць. А адтуль у Грэзкую багадзельню вернешся, яе знарок к твайму прыезду ў жоўценькае пабялілі... О, там твайму языку воля будзе, го!

Дзягель яшчэ больш расчырванеўся, выпрастаўся, і цяпер Анэта бачыла, што і праўда, здароўя ў ім яшчэ многа. Але крык не спалохаў і сказанае не дапякло.

— Да не, Аляксандарка, сама я еду. Як ты кажаш, як шахіня тая, у машыну сяду, каб везлі. Дзеці ў мяне ў людзі выйшлі...

— Го, го! Дзеці ў людзі, а ты ў свет.

— Дарма. Я, можа, і ў зямлю ўжэ. Але я чалавекам туды пайду, а ты крутасветам. І ты на маю жызню не раўняйся! Не табе яе судзіць. Я тваю судзіць магу! І жызня яе рассудзіла. Мне месца і тут ёсць, і ў горадзе будзе. А ты, як ні гроб пад сябе, нідзе свайму дабру месца не знойдзеш! Ні сам не спажывеш, ні дзеці! Разам з гэтаю капліцаю сваёю і даканаеш тут!

— От лэхтай, лэхтай языком! Гэта ты ўмела рабіць. Лэхтай, дадому далёка яшчэ! — Дзягель пасміхнуўся, знарок спакойна, упэўнена, і скіраваў на тую сцежку, на якую паказвала Анэта. Пайшоў шпарка, нават пагрукваючы ботамі па ўмерзлай зямлі.

Анэта ледзьве стрымалася, каб не нагаварыць яму ўслед па спрадвечнай бабскай прывычцы. Прыпынілася, перавяла дух. Злосна на Дзягеля было, шкода, што шмаргануў ад яе, не даў выгаварыцца.

Потым азірнулася на пройдзеную дарогу, кінула вокам на вёску і заспяшала да яе. І чым бліжэй падыходзіла, астывала пасля гаворкі з Дзягелем, тым больш адчувала, што зачапілі за жывое яе Дзягелевы словы. Нешта такое прыходзіла і самой у галаў, але гэтак смутна і неразборліва, гэтакімі слабымі намёкамі, што і абдумаць нельга было, не тое, што зразумець каму староннняму. Але вось сказалася нават Дзягелем! Дык не аднаму і яму гэта прыйшло ў галаў!

І яна зноў пачала клясці Дзягеля, якога нанесла, як крумкача, у самую непрыдатную пару, калі ўсё быццам і ясна стала, сама ва ўсім разабралася, сама сабою распарадзілася і вырашыла. Каркнуў, як крумкач, над душою і пайшоў. Каб табе на тым свеце каркалася!

Анэта пайшла павальней, як да чужое, уважліва прыглядаючыся да вёскі. Па-новаму стаялі многія хаты. Прасторна. Цяпер маладыя мо і не памятаюць, што там была Ясюткава сядзіба, а там Завадскага... Даўно перамяніліся межы тых сядзіб.

У самым канцы занава раскапалі старую сажалку. Яшчэ не зраўняўся колерам з зямлёю сівы глей і не ўзяліся расці з калоў вербы, толькі пасынкі-аднолеткі адскочылі.

Платы ля новых хат фарбаваныя, на цэментовых ці металёвых шулках, роўныя. Толькі раптам яны перапыняліся старым пазелянелым плотам з колатых калоў, над якімі дзіка забуяў бэз на ўвесь гародчык. За платамі ўтравянелыя двары, хаты з забітымі вокнамі, у якія ўжо не вернецца жыццё, не сатрэ рукою пыл ля клямкі на дзвярах, не пакіне следу на парозе.

І яе хата, са слабенькаю сцяжынкаю на мураўцы, нічым амаль не адрознівалася ад пакінутых хат. Анэта аж прыпынілася ад гэтага падабенства. Каб дзеці пры ёй былі, то і яна выбудавала б новую хату, гадавала б

унукаў... Анэта ўздыхнула. Падумалася, што і поле, мабыць, забылася пра тыя людскія рукі, якія варушылі яго, пакуль не заслабелі, бо ў поля няма жывое душы і памяці. Куды зраўняць тое ворыва з цяперашнім, машынным!

Анэта дакранулася ў одуме рукою да шурпатае кары вяза. З сярэдзіны ў ім даўно высыпалася гнілеча, але дрэва моцна трымалася на абалоні. На добры лад, яго трэба было ссекчы, каб не павалілася ў буру і не нарабіла бяды. Але як ссякаць яго, калі яно век звекавала, пры самай хаце...

Над галавою ў Анэты нізка пырхнула птушка, села пасярод вуліцы, невялічкая, з рожкамі на галаве. Яна бытта здзівілася Анэце, нахіліла галоўку, паглядзела на старую, потым асмялела, пабегла цераз вуліцу да Анэцінага двара. Бегла гэтаксама, як і наш жаваранак на палявой дарозе. «Румок прыляцеў!» — успомніла Анэта, як гаварыла некалі маці на гэтую рэдкую ў нашых краях птушку, таго палярнага жаваранка, што шукае часам у нас цяпла. «На вялікі холад гэта. У фінляндскую, як сады павымерзалі, рана румкі прыляцелі. Снег трэба на рунь!» — падумала Анэта, гледзячы на птушку, якая вяла яе позірк да варот...

## X

Анэта аж не паверыла вачам: вароты былі адчынены. На двары стаяў шэранькі легкавічок, нібыта ён нячутна апусціўся зверху, пакуль яна аглядала вяз, дамоўку. Але невядома чаму прыстылі да зямлі ногі, затрымцела душа — і нельга стала і кроку ступіць, быццам наперадзе пустэча. Усё рабілася, як і павінна было быць, проста. Зараз пасадзяць яе ў машыну і павязуць!..

— Дзе гэта вы былі, мама? Я не ведаў, у каго і шукаць. У Волькі хата замкнёна.

Федзя ходка ішоў цераз вуліцу ў расшпіленым паліто, без шапкі.

Анэта ўсё яшчэ як не вярнулася аднекуль, як здалёку глядзела на сына. Ці таму што на холадзе, у расшпіленым паліто, полы якога шырока матляліся на ветры, здаваўся ён невысокага росту, худым, бледным з

твару і немаладым, як здаюцца да часу старэйшыя людзі, што робяць цяжкую работу.

Федзя не падаў руку, абняў маці, прытуліў да сябе.

— Як жа гэта ты сёння надумаўся прыехаць? Я думала, што заўтра...

Анэта ўсё яшчэ не адважвалася ступіць з месца — ісці, збірацца.

— А як жа там твае хоць?

— Здаровыя. Лена са мною прыехала.

— От як! А дзе ж яна?

Анэта глыбока ўздыхнула.

— У хаце. Я баяўся, каб вы тут не змерзлі. Добра, што палілі, не шкадавалі.

— А чаго шкадаваць?

— Пайшлі ў хату, а то халадзіна,— Федзя чуць крануў маці за локаць і павёў да парога.— Дзе гэта вы хадзілі?

— К Валі хадзіла. От быў час, схадзіла,— каб папярэдзіць Федзю і не гаварыць, чаго хадзіла да дачкі, заспяшалася сказаць Анэта.— Яны ж як у горадзе жывуць, усяго маюць. Ты вот і ў горадзе, а лядашчы некі, як нездаровы. А каб тут мо дзе рабіў, то цяпер і грошы большыя былі б, і здаравейшы быў.

— Цяпер позна мяняць,— адказаў Федзя.

Анэта нечакана доўга намацвала клямку на дзвярах з сянец у хату, Федзя сам адчыніў маці дзверы.

Лена сядзела на лаве ля стала ў паліто, склаўшы рукі. Яна хуценька ўстала, падышла, пацалавала Анэту.

— Чаго ж вы не распранаецеся? Ото на стол чаго пагляджу.

Анэта ведала, што цяпер трэба нешта рабіць, варушыцца, каб забавіць сябе якою работаю. Яна заспяшалася расшпільваць кажушок. Нешта прыдумаць трэба было... Яшчэ ж і не такі холад і не такая слабая яна, яшчэ ўздужае за сабою дагледзець, гэтую зіму перакідаецца!

— Не распранайцеся, мама. Халаднавата ў хаце. Не трэба нічога. У нас жа там дзеці адны на цэлы дзень асталіся. Трэба, пакуль не сцямнела, назад вярнуцца. Паглядзеце, што хочаце з сабою ўзяць... А як што трэба яшчэ будзе, то я пад'еду, прывязу...

Анэта адступілася і села на лаву.

Федзя і Лена глядзелі на яе, не ведалі, і што сказаць і што рабіць. Анэта адчула, што плача, ад раптоўнае слабасці і бездапаможнасці, што не стае сілы падняцца і ступіць крок.

— Чаго вы, мама? Што зрабілася? — устрывожана спытаўся Федзя.

Анэта толькі пакруціла галавою — нічога, нічога не зрабілася... І ўспомніла, што яшчэ не зроблена, з-за чаго яна не можа ехаць.

— Як жа гэта... зараз? І вокны незабітыя, і замка няма ні на дзверы, нікуды... Гэта ж трэба ў парадку ўсё пакінуць, гэта ж хата, а не гумно якое!

— Замкі я прывёз. А вокны... Прыдумаем нешта, зробім. Вы тут з Ленаю паглядзіце, што з сабою забраць хочаце. Давайце, давайце, а то колькі таго дня.

Больш Анэта нічога не магла прыдумаць. Цяжка, стомлена ўстала, як у тумане, падышла да куфра, адчыніла вечка, дастала дзве свае чыстыя рубашкі, спадніцу, падараваную яшчэ маці саматканую посцілку і звязанае ў старой хустачцы шлюбнае адзенне, якое яна берагла ўсе гады.

Лена моўчкі глядзела на свякроў і не адважвалася нічога сказаць. Анэта стаяла перад куфрам, дакранулася рукою да свежае сасновае чысціні дошак, узяла на далоню крыжыкі і абручальны пярсцёнак і не ведала, куды пакласці.

— Давайце, я ў сваю сумку пакладу, у кашалёк, каб не згубілася.

Анэта паслухмяна падала нявестцы крыжыкі і пярсцёнак, зачыніла куфар.

— Вы ўжэ гатовыя? — здзіўлена запыталася Лена. Анэта толькі развяла рукамі.

Нешта незвычайнае рабілася з ёю: і чула яна быццам усё здалёку, слаба, як з-пад зямлі, а сама яна, маленькая, бездапаможная, усё адплывала, адплывала некуды ўдалечыню, і ўсё туманілася, туманілася ўваччу.

Лена дастала з сумкі поліэтыленавы мяшочак, спыталася:

— Федзя казаў, што там у вас засталося...

— Ага, ага, пайшлі. Вазьмі запалак пасвяціць.

Пакуль Лена свяціла запалкамі, Анэта дастала з кубла кавалак сала, потым успомніла, што ў шафе ля-

жыць яшчэ лычка свае кілбасы, якую яна пакідала ўнукам.

— Ты нясі ўсё гэта ў хату, нясі,— адправіла нявестку Анэта.— А я хлеб забяру. Чаго ж ён тут будзе цвілець.

І голас свой яна чула здалёку. Забрала дзве булкі хлеба і не ведала, куды дзець яго. Успомніла, што і з чыгунка ў печы трэба выкінуць бульбу, выліць ваду з вядра, каб не размарозілася за зіму вядро. І не верылася, што будзе тут у хаце гэтакі мароз.

Лена на стале аскрэбла ад солі сала, загарнула ў газету і запыталася:

— А куды хлеб, мама? Бульбу і абрэзкі можна выкінуць?

— Ага. І хлеб туды пакладзі. Прыйдзе які сабака, з'ядуць, не прападзе. Я сама давай вынесу, сама...

Лена ўзяла сумку, выкладзенае Анэтай з куфра адзенне, выйшла з хаты, не зачыняючы за сабою ніводных дзвярэй. Анэта спачатку наважылася зачыніць іх, але ўспомніла, што цяпла трымаць цяпер ужо ўсё роўна не трэба, і сама пайшла следам, чула, як Лена стукала дзверцамі машыны.

Вядро Анэта паставіла ля плота, зазірнула ў адчыненыя дзверцы клеці.

Федзя маленькаю бліскучаю сякеркаю сekануў па арэшнікавым абручы, і вялікая, у чалавечы рост, дзежка на пашню, у якую некалі малым быў улез Федзя і не мог выбрацца, лёгка распырхнулася, суха застукаўшы клёпкамі.

— Нашто ты?.. Моцная яшчэ дзежка была!

— Каму яна цяпер трэба? Хваціць вокны ад вуліцы забіць.

Федзя за два разы вынес клёпкі на двор, дастаў з кішэні новы, з бліскучаю дужкаю замочак і замкнуў клець. Толькі цяпер Анэта ўгледзела, што гэтакі ж самы новы замочак вісеў і на дзвярах у хлеў.

Лена стаяла ля машыны, холадна сцяўшыся, глядзела на Федзю, і ён запытаўся ў яе:

— З хаты ўсё забралі? Я хутка.

Анэта здалёку бачыла, што Федзя спяшае і стараецца не глядзець ёй у вочы.

Анэта аж скаланулася ад першых удараў па цвіку: глухіх, быццам забівалі века труны. Яна, як у гіп-

нозе, глядзела, як мільгала ў паветры белая сякерка, і не адчула, як зямля паплыла з-пад ног, закрычала, не памятаючы сябе: «Госпадзі!» — ірванулася па той пустэчы, дзе некалі была зямля пад нагамі, да парога, каб ухапіцца рукою за клямку, але адчула, што праваьваецца, падае...

Яна ўсё сілілася дастаць рукою да клямкі, але адчула, як вялікая сіла лёгка падняла і панесла яе.

Хоць і слаба, Анэта чула сынаў голас: «Вады, Лена. Дай скарэй вады! Трэба было раней прыязджаць... Так бы і зайшлася адна!»

Вада холадам апякла твар, пацякла па шыі, і пачалі блізіцца галасы: «Хай пасядзіць, не зачыняй дзверцы... У дарогу вазьмі з сабою вады...» — «Трэба ж так... У нас ёй добра будзе!»

Анэта расплюшчыла крыху вочы. Лена стаяла на пярэднім сядзенні, з кубкам вады ў руках. Федзя мачыў хусцінку і прыкладваў маці да лба. Анэта аж скаланулася ад гэтага мокрага холаду.

— Вам лепш, мама? Што з вамі?

Яна не адказала, толькі паківала галавою.

— Вы, можа, хворыя? Што ў вас баліць?

— Нічога... гэта так... вобмарак... Нічога. Можа, што віна ў Валі кроплю выпіла.

Яна адчувала, што ў роце ў яе солена, памацала рукою за шчаку. І здагадалася, што, мабыць, упала, разбіла губу.

— Ну то пасядзеце. Чуць аддыхнеце. Зараз і паедзем, зараз!

Федзя тым часам адчыніў багажнік, паклаў сякерку. З палёгкаю ўздыхнуў, зайшоў у хату паглядзець, ці ўсё там у парадку, выйшаў, дастаў з кішэні яшчэ адзін гэтакі ж бліскучы замок, як і на хляве і на клецi, замкнуў, памацаў яго.

Потым Федзя неяк подбегам адчыніў вароты, пастаяў ля машыны, недаверліва паглядзеў на маці, нібы хацеў уведаць, як яна маецца.

Анэта здагадалася, што ён перапалохаўся і баіцца, каб з ёю нічога не зрабілася ў дарозе.

— Вы мо, мама, перасядзеце наперад, разам са мною, каб не так абмарачыліся з непрывычкі.

Анэта паволі ўстала, перасела на пярэдняе сядзенне і старалася не глядзець на хату.

— От і добра, паедзем. А то там у нас дзеці адны... Трэба дадому паехаць, пакуль сцямнее, а то баяцца будуць яны адны... Яны ўжэ даўно чакаюць, калі баба прыедзе...— спяшаўся гаварыць, нібы апраўдваўся, Федзя. Калі машына выехала з двара, Анэта ўспела азірнуцца цераз плячо і ўбачыць зялёны гонтавы дах, забітыя клёпкамі вокны, якія глядзелі на вуліцу, як мёртвыя вочы.

Анэта прыглядалася па баках. Ёй быццам бы стала лягчэй, хацелася ўбачыць каго на вуліцы.

Машына выехала на дарогу. Федзя з палёгкай уздыхнуў, усміхнуўся, азірнуўшыся на Лену, якая ціха сядзела на заднім сядзенні, заклапочана паглядзеў на неба, якое ўсё цямнела і апускалася да зямлі.

У полі машына пабегла вольна, тоненька, як зазвінеў, засвістаў вецер.

Анэта сядзела, прытуліўшыся плячыма да спінкі сядзення, скрозь прыплюшчаныя павекі глядзела на дарогу. І не хацелася ёй нічога, нават глядзець, думаць.

Было пуста на душы і брыдка за тое, што зрабілася з ёю на двары...

Думкі ішлі млявыя, і быццам яна сама прападала, расплывалася, знікала...

Машына вырвалася на палявы прастор, цёмны, насуплены. І на лабавое шкло, на капот, як палёгка, як разгадка хмарнае панурасці, дробненька, быццам манная крупа, густа пасыпаўся снег, ад яго адразу ж бела і глуха затуманілася далечыня...

Ці то ад лёгкага пагойдвання і шэрай сцішанасці за акном закружылася ў Анэты ў галаве, ці яна стамілася за гэты дзень, задрамала, маленькая на мяккім сядзенні ў цяпле. І не пакідала яе адчуванне, што збыўся той даўні сон, які сніўся ёй некалькі разоў: і ў маладосці, і ў сталым веку, і на старасць...

*Цёпла і высока свяціла сонца. Але не было спякоты, бо павяваў лёгкі, густы і напорысты ветрык, ды і пара ўжо была такая, што хоць яркае і высокае свяціла сонца, хапала гэтага святла над зямлёю, але дні пайшлі на скон, і мо таму ў сонечным святле не стала яркае пяшчоты, а была нейкая сумная задумёнасць...*

*І быццам здалёку яны бачылі і гэтае высокае светленькае неба, і сонца на ім, і самую зямлю, бо ехалі аднекуль здалёку і зверху. Ехалі да зямлі, і адначасна быццам і па ёй самой. Ад гэтага было дзіўна і страшна. Такое неабсяжнае поле, уробленае чалавекам. Паўз самую дарогу, па якой яны ехалі, густа, зялёна, запылены прыдарожным пылам, стаяў самотны бульбоўнік з нібы абвялым лісцем, пахла сенам, і крыху дзёгцем, і конскаю збруяй, мулка было ў спіну ад аглабіны, прытуліўшыся да якой плячыма, сядзела яна. Дзіўна, што і не трэсла, і не відно каня. Але яны ехалі. Бацька спакойна і мудра, як рабіў нейкую ўрачыстую работу, трымаў у руках вяраўчаныя лейцы, спаважна глядзеў удалечыню.*

*Маці таксама сядзела на драбінах, прытуліўшыся плячыма да аглабіны, і твар у яе быў гэтаксама ўрачысты і засяроджаны, як і ў бацькі.*

*І было нешта такое жаданае і страшнае ў гэтай незвычайнай яздзе на незвычайнай падводзе. Страшна ад тае далечыні наперадзе — і хацелася, хацелася ехаць усё далей, далей, бытта там наперадзе чакае цябе рай...*

*Плыла насустрач дарога, усё гэтак жа высока стаяла сонца, высокае неба, чыстае і пустое, без адзінага воблачка, і не было канца і супынку ў яздзе...*

*Анэта нават не заўважыла, як сышоў з драбін бацька. Угледзела толькі, што ён ужо далекавата, ідзе не спяшаючыся,— прэч, у поле, якое ніяк нельга пераехаць, не тое што перайсці пешшу.*

*Ёй стала страшна. Яна закрычала, паклікала бацьку. Ён на хаду азірнуўся. Твар у яго быў спакойны, толькі вочы дакорліва глянулі на дачку, і яна сціхла, спалохаўшыся невядома чаму гэтага дакору, і дзіўнага спакою, і пакорлівасці на бацькавым твары...*

*А сонца ўсё свяціла, і поле ляжала навокал, і не канчалася дзіўная і таямнічая язда. Потым гэтак жа, як і бацька, незаўважна адышла ўдалечыню маці. Яна сама прыпынілася, азірнулася, са спагадаю і шкадаваннем, на дачку, што пакідае яе адну...*

*Пакуль адышла ў поле маці, у Анэты аж зледзянела пад сэрцам.*

*А потым і сама яна раптам угледзела, што адна сярод поля. А падвода, такая прывычная, пахучая сенам,*

*дзёгцем і цёплым, нагрэтым на сонцы дрэвам, ехала па дарозе. І на ёй нікога не было. Зрабілася роспачна страшна, што засталася адна ў сонечным ціхім бязмежжы. Анэта кінулася па дарозе наўздагон падводзе. Бегла, бегла, і пот, цяжкі, салёны, як ад работы ў полі, засцілаў вочы... І калі зняможана стала на дарозе, бо не было больш сілы бегчы, здзівілася, што стаіць на ўзлеску бярозавага гаю, нестарога, але і немаладога ўжо, дзе прасторна дрэвам, пад якімі расце доўгая, густая і бліскуча-тлустая трава. І цішыня, не цяжкая, а спакойная цішыня са спелым пошумам густога і агрубелага ўжо лісця. У духмянай прахалодзе гаю, настоенай на траве, на лісці, цякла халодная крынічная вада. Але Анэта не ведала лесу і баялася яго. Яе дарога была ў полі, і ёй трэба вяртацца ў поле. Яна ведала, што ў полі недзе яе бацькі, і потым доўга ўжо ішла полем. Цёплая, шэрая, як попел, зямля грэла ногі, сарваныя кветачкі бярозкі засядалі між пальцаў на нагах, балелі ступакі ад цвёрдых груд.*

*Анэта раптам агледзелася, што следам за ёю невядома чаго, узяўшыся за рукі, ішлі Федзя з Валяю. На Федзю сівенькія картовыя штанікі, картовенькая рубашачка, якая выехала са штаноў. Валя, яшчэ зусім маленькая, у сукеначцы, пашытай навырост, і да таго здаецца яшчэ меншаю... Яна глядзела на дарогу, па якой даганялі яе дзеці, адчувала страшную сваю стомленасць, ведала, што ісці яшчэ далёка, яшчэ ўперадзе цэлы дзень, цяжкі і спякотны.*

*Яна завярнула дзяцей назад, туды, дзе шумеў бярозавы гай, пагразіла дубцом. Дзеці завярнуліся, яна стаяла, глядзела ўслед, і толькі як убачыла, што дзеці не думаюць даганяць яе, пайшла далей, спакойная і радасная, не адчуваючы і стомы, і думала, як добра ім там, не гэтак, як ёй у полі...*

*Ужо змяркалася. Сонца апускалася, далёкае і чырвонае. І калі схавалася яно, светла яшчэ было над полем, доўгае стаяла змярканне, а там, дзе схавалася сонца, узялася аднекуль невялічкая, падсветленая знізу чырвоным святлом, аблачынка.*

*Анэта спалохана спынілася, бо наперадзе пачынаўся лес, той самы лес, які яна бачыла, але цёмны і пусты. Не пахла ад яго, не было чуваць лістоўнага пошуму. Анэта баялася заходзіць у яго, але не было як і*

*вяртацца назад, бо так доўга, цэлы дзень ішла, што вярнуцца назад не стае ўжо сілы, і поле к ночы таксама чужое і незнаёмае...*

*Яна разгублена спынілася, не ведаючы, што рабіць далей.*

*І пакуль стаяла, з жахам заўважыла, што лес сам ідзе да яе, роўна, нетаропка, але ідзе, і ад гэтае яго няўмольнасці яна хацела бегчы, завярнула назад — і нічога не ўбачыла перад сабою, толькі чужую цёмную далечыню... Зусім блізка, за самымі плячыма, варушыўся, падыходзіў лес, і яна чула, як ён варушыцца, ідучы. Яна загукала дзяцей!.. І не магла дагукацца...*

Анэта спалохана зірнула на Федзю, потым на Лену: вельмі ж жахліва і страшна закрычала была яна. Але спакойна і пільна глядзеў на дарогу Федзя, сцішылася на заднім сядзенні Лена, быццам мужу было лягчэй ад таго, што яна гэтак глядзіць наперад.

Анэта прыглядалася да сына і да нявесткі — няўжо ж прытвараюцца яны, што не пачулі яе крыку? І так нічога і не разгадала.

За шклом машыны ўсё шарэўся прыцемак і ўсё гэтак жа спорна і густа сыпаўся снег. Белыя плямкі яго ляжалі на дарозе і на раллі, а зарунелае поле пабялела, як аўчына на мяцеліцы.

І дарогу, і машыну, і людзей ахінала палявое бязмежжа, толькі далёка, як недасяжны бераг, ледзь сінеўся нізенькі, няроўны паясок лесу. І нідзе ні чалавека, ні чалавечага прызнаку, ні руху, ні агеньчыка — толькі далечыня, непадуладная ні часу, ні чалавеку.

Анэце не хацелася варушыцца. Яна глядзела, быцта не нагледзелася за век на поле, якое на зіму нібы засцілалі самымі тоненькімі, самымі чыстымі і дарагімі абрусамі.

Калі машына імкліва наблізілася да лесу, што нядаўна яшчэ далёка цямнеўся, бы паясок, Анэта аж прыўстала з сядзення, усё роўна як хацела пазнаць, ці не гэты гай з паніклым бярозавым веццем, ці не гэтая палявая ў тры сцяжынкі дарога пры ім снілася ёй?

Машына з ходу праскочыла па невялічкім мастку, глуха стукнула па няроўнаму асфальту коламі і ўвайшла ў лес.

Анэта адкінулася да спінкі сядзення, заплюшчыла вочы: нібы цякла вада, шумелі напорыста па асфальце колы. Яна стомлена і спустошана глядзела на лес, на густы маладыы бярэзнік і асіннік, пад якім было чорна і непрыветна, і таму так нечакана і ярка-бела ляжаў снег на абочынах і на галінах.

І не адчувала ўжо зямлі, бытта ляцела над ёю, плыла, і плысці было лёгка, як некалі малою ляцець на саначках з гары, і проста, і ясна ўгледзела, што кончыўся, як і павінна было быць, яе круг. Усё. І толькі крыху здзівілася, што ісціна гэтакая простая і ясная. Усё... Белы снег ідзе. Непрыемна варухнулася ў душы прыкрасць: што гэтак трапяталася ў сённяшні дзень, прававалася, нават у вобмарак упала. Як жа гэта, стары чалавек, не адчула ўпору, што — усё... І хоць тут яшчэ яна, але над усім ужо, над усім са светлаю душою, як поўня над чыстым полем.

Анэта глыбока ўздыхнула, нібыта з палёгкаю.

Федзя непрыкметна касіў вокам на мацеру. І ўпершыню ўбачыў, якая яна маленькая і сухенькая. І каб не пабудзіць яе, ехаў асцярожней.

Анэта скрозь прыплюшчаныя павекі глядзела на дарогу, якая цякла насустрач чорнаю бясконцаю ракою ў снегавых берагах, з якіх, здавалася, нікуды не магла вырвацца машына.

Чым далей, тым усё больш ляжала снегу. І не снегавая крупа сыпалася з неба, а плавалі ў паветры густыя пыхкія сняжынкі. Ад іх больш сутонела, хоць лес кончыўся, пачалося зноў поле, за якім далёка ўгадвалася высокае зарыва — горад.

З палёгкаю Анэта падумала, што дачакалася — лёг снег, не вымерзне рунь. І гэтая шчодрая, вечная радасць жывою цёплаю хваляю мо ў апошні раз ускалыхнула яе душу...

*1977*

# БІЯГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА

Алесь Аляксандравіч Жук нарадзіўся 1 красавіка 1947 года ў вёсцы Клешаў на Случчыне ў сям'і служачага.

Закончыў філалагічны факультэт БДУ імя У. І. Леніна.

У 1970—1972 гадах служыў у Савецкай Арміі камандзірам мотастралковага ўзвода. З 1972 года — рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура», з 1977 — намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць». Працаваў у апараце ЦК КПБ, цяпер галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва».

Першыя апавяданні з'явіліся ў рэспубліканскім друку ў 1965 годзе. Выйшлі кнігі прозы «Асеннія халады» (1972), «Паляванне на старых азёрах» (1975), «Зоркі над палігонам» (1977), «Не забывай мяне» (1978), «Па саннай дарозе» (1979), у перакладзе на рускую мову — «Снег под солнцем» (1976). Пераклаў на беларускую мову аповесці «Fata morgana» М. Кацюбінскага, «Белы Бім чорнае вуха» Г. Траяпольскага, апавяданні Ю. Казакова.

Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі.

ЗМЕСТ

АПАВЯДАННІ



АПОВЕСЦІ

Жук А.
Ж 85 Паўстанак вяртання: Апавяданні, аповесці.— Мн.: Маст. літ., 1981.— 495 с., 1 л. партр.— (Б-ка беларус. прозы).
У пер.: 2 р.

У кнігу ўвайшлі лепшыя творы лаўрэата прэміі Ленінскага камсамола Алеся Жука пра гераічную барацьбу беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны, а таксама аповесці і апавяданні, прысвечаныя тэме сучаснасці, кахання, маральнага і грамадзянскага выхавання і станаўлення характару савецкага чалавека.

Ж $\frac{70303-041}{М 302(05)-81}$

ББК 84 Бел 7
Бел 2

Библиотека белорусской прозы

Алесь Александрович Жук
ПОЛУСТАНОК ВОЗВРАЩЕНИЯ
Рассказы, повести
Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар С. Р. Прыгодзіч. Мастак Л. В. Чурко. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічныя рэдактары С. А. Абрамчук, Т. М. Сокал. Карэктар К. У. Дзмітрыенка.

ІБ № 968
Здадзена ў набор 23.05.80. Падп. да друку 11.02.81. АТ 06544. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 26,04+0,11 укл. Ул.-выд. арк. 26,19. Тыраж 20 000 экз. Зак. 697. Цана 2 р.
Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.
Паліграфкамбінат імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.